Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
“Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт”

# ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Заснаваны ў 2006 годзе

Выпуск 2

# НАРОДНАЯ ПРОЗА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У дзвюх частках

Частка 1

Наваполацк
ПДУ
2011

УДК 39(075.8)
ББК 65.521(=411)-71я43
П49

Рэкамендавана да выдання метадычнай камісіяй
гісторыка-філалагічнага факультэта (пратакол № 5 ад 17.12.2010)

РЭЦЭНЗЕНТЫ:
д-р філал. навук, праф., заг. кафедры сусветнай літаратуры і культуралогіі
УА “Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт” А. А. ГУГНІН;
канд. філал. навук, заг. сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута мовы
і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Т. В. ВАЛОДЗІНА

П49 **Полацкі этнаграфічны зборнік** / уклад., прадм. і паказ. У. А. Лобача. – Вып. 2: Народная проза беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 1. – Навапалацк : ПДУ, 2011. – 292 с.

ISBN 978-985-531-192-9 (Ч. 1).

Змяшчае каля 1500 палявых запісаў розных жанраў народнай прозы беларусаў Падзвіння. Каштоўны вучэбна-хрэстаматыйны матэрыял дазваляе аптымізаваць навучальны працэс па дысцыплінах “Этналогія і этнаграфія Беларусі”, “Гістарычнае краязнаўства Беларусі”, “Беларускі фальклор” і спецкурсах, тэматычна з імі звязаных.

Прадстаўленыя ўзоры народнай прозы ва ўсёй сваёй разнастайнасці і варыятыўнасці выступаюць як адлюстраванне традыцыйнай карціны свету беларусаў Падзвіння ва ўсёй сукупнасці яе сегментаў і сімвалічных значэнняў. Панарамны, максімальна шырокі ў сюжэтным плане характар зборніка ўяўляецца своеасаблівым адбіткам фальклорнай памяці ў яе калектыўным і індывідуальным вымярэнні ад казачнай прозы да ўспамінаў пра калектывізацыю і вайну.

Прызначаны для студэнтаў гістарычных і філалагічных спецыяльнасцяў дзённай і завочнай формы навучання, а таксама даследчыкаў у галіне народазнаўства.

**УДК 39(075.8)**
**ББК 65.521(=411)-71я43**

**ISBN 978-985-531-192-9 (Ч. 1)**
**ISBN 978-985-531-191-2**

*Светлай памяці маіх дзядоў:*
*Мацвея і Ксеніі Лобач,*
*Івана і Марыі Архіцкіх*

# ПРАДМОВА

Другі выпуск “Полацкага этнаграфічнага зборніка” прысвечаны народнай прозе беларусаў Падзвіння, прадстаўленай у выданні разнастайнымі фальклорнымі жанрамі і тэматычнымі блокамі. Разам з тым, хацелася б адразу падкрэсліць, што зборнік не з’яўляецца фальклорным выданнем у класічным яго разуменні, калі акцэнт, перадусім, робіцца на “чысціні жанру”, а палявы матэрыял структуруецца ў строгай адпаведнасці з прынятай у навуцы класіфікацыяй народнага наратыву. Бо, калі сыходзіць з ментальных установак і светапоглядных арыентацый носьбітаў традыцыі, аказваецца, што шэраг навуковых дэфініцый з’яўляюцца знешнімі і штучнымі ў дачыненні да рэалій традыцыйнай карціны свету. Так, напрыклад, *былічка*, як адзін з найбольш распаўсюджаных празаічных жанраў фальклора, вызначаецца як “вуснае апавяданне-мемарат (успамін) пра быццам бы меўшыя месца звышнатуральныя з’явы: сустрэчы, драматычныя сутыкненні самога апавядальніка ці знаёмага яму чалавека з увасобленым духам прыроды (лесавіком, вадзянікам…), хатнім духам (дамавым, гуменнікам…), іншай дэманічнай істотай (чортам, ваўкалакам…), а таксама ведзьмай, чараўніком і іншай нячыстай сілай”[1]. Але палявыя даследаванні паказваюць, што прыведзенае вызначэнне ёсць суб’ектыўна-скептычным і скажоным у дачыненні да рэчаіснасці, адлюстраванай фальклорным чынам. Недавер даследчыка (“быццам бы мела месца”) да актуалій традыцыйнай культуры ўступае ў светапоглядны канфлікт са шчырым перакананнем прадстаўніка традыцыйнай супольнасці ў праўдзівасці таго, пра што ён распавядае. У прыватнасці, гэта датычыцца шматлікіх гісторый пра чараўнікоў і ведзьмаў – абсалютна рэальных людзей канкрэтнай вясковай грамады, учынкі якіх апісваюцца рэспандэнтамі фактурна і, з гледзішча вяскоўца, абсалютна доказна.

Відавочная суб’ектыўная ацэнаначнасьць кабінетных катэгорый у дачыненні да жывога палатна традыцыйнай культуры вымусіла выкарыстоўваць класіфікацыйныя схемы пры ўкладанні зборніка толькі часткова (раздзелы “Казкі”, “Легенды і паданні”, “Тапанімічныя паданні”). Асноўным жа прынцыпам структуравання палявых запісаў стаў тэматычны падыход,

[1] Восточнославянский фольклор: слов. науч. и нар. терминологии. Минск, 1993. – С. 26.

калі асобныя раздзелы (падраздзелы) кампанаваліся вербалізаванымі актуаліямі аднаго парадку. Іншымі словамі, матэрыял групаваўся суадносна з адказамі рэспандэнтаў на пытаньне, аднолькава значнае як з гледзішча палявога даследчыка, так і ўласна носьбіта традыцыі. Такім чынам скампанаваныя раздзелы “Чорт”, “Зданкі”, “Сны”, “Чараўнікі і ведзьмы”, “Знахары і знахаркі”, “Народная медыцына”, “Жывыя і памерлыя”, “Вусная гісторыя”, “Чужынцы” і шэраг іншых.

Прынцыповым момантам пры ўкладанні зборніка стала ўсведамленне таго, што народная проза ва ўсёй сваёй разнастайнасці і варыятыўнасці з’яўляецца вербальна аформленым адлюстраваннем традыцыйнай карціны свету беларусаў Падзвіння ва ўсёй сукупнасці яе сегментаў і сімвалічных значэнняў. Адсюль, галоўная задача палягала не ў інтэрпрэтацыі, але ў максімальна дакладнай рэтрансляцыі “голасу традыцыі” у яго лакальнай форме рэпрэзентацыі. Гэта тлумачыць і панарамны, максімальна шырокі ў сюжэтным плане характар зборніка, які змяшчае ў сабе своеасаблівы адбітак фальклорнай памяці ў яе калектыўным і індывідуальным вымярэнні, пачынаючы ад казачнай прозы і скончваючы ўспамінамі пра калектывізацыю і вайну. Пры гэтым, укладальнік свядома адмовіўся ад знешняй іерархізацыі палявога матэрыялу, паколькі традыцыйная карціна свету сама па сабе выступае “фільтрам” фальклорнай памяці, у выніку чаго яна захоўвае інфармацыю толькі знакавую і значную для чалавека і калектыва ў цэлым. Іншая справа, што кожны інфармацыйны блок (ці то легенды пра “падарожнага Бога”, ці то аповяд пра выхаванне дзяцей) рэактуалізуецца ў традыцыйнай свядомасці выключна сітуатыўна і “абслугоўвае” канкрэтную запатрабаванасць утылітарнага альбо сімвалічнага плана.

Зборнік змяшчае ў сабе каля 1500 аўтэнтычных запісаў, зробленых падчас палявых экспедыцый 1992 – 2010 гг. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Аднак, трэба адзначыць, што найбольшая колькасць тэкстаў зафіксавана ў цэнтральнай частцы рэгіёна (Лепельскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Полацкі, Ушацкі і сумежныя з імі раёны), у той час як перэферыйныя раёны (Браслаўскі, Гарадоцкі, Лёзненскі, Расонскі) прадстаўлены ў меншай ступені. Гэтая акалічнасць не азначае горшага ўзроўню захаванасці народнай традыцыі ў азначаных зонах, але толькі ўказвае на перспектывы іх больш грунтоўнага палявога даследавання. Пры парадкаванні зборніка было палічана мэтазгодным уключыць у яго матэрыялы, запісаныя ад перасяленцаў з раёнаў Магілёўшчыны і Гомельшчыны, пацярпелых у выніку Чарнобыльскай трагедыі, паколькі яны даюць магчымасць нагляднага параўнання лакальных форм бытавання народнай традыцыі. Таксама быў уключаны шэраг палявых запісаў з Паўночнай Барысаўшчыны, якая хоць і адносіцца да

гісторыка-этнаграфічнага рэгіёну Цэнтральнай Беларусі, але ў сферы традыцыйнай культуры выяўляе тыпалагічнае падабенства з Беларускім Падзвіннем.

Практычная значнасць выдання палягае далёка не толькі ў яго вучэбна-метадычнай функцыянальнасці ў рамках выкладання такіх дысцыплін, як "Беларуская мова", "Беларускі фальклор", "Этнаграфія і этналогія Беларусі", "Гістарычнае краязнаўства Беларусі" і шэрагу іншых. Несумненнай стае навуковая значнасць зборніка, што, па сутнасці, уяўляе сабой абшырны корпус першакрыніц, упершыню ўведзеных у зварот, якія могуць быць плённа выкарыстаныя ў народазнаўчых даследаваннях рознай тэматычнай скіраванасці (традыцыйныя вераванні, народная медыцына, міфапаэтычная карціна свету, сімволіка культурнага ландшафту, этнастэрэатыпы, рытуальныя паводзіны, народная этыка, этнапедагогіка і г.д.), а таксама ва ўласна гістарычных штудыях (раздзел "Вусная гісторыя") і ў працэсе археалагічнага вывучэння рэгіёну (раздзел "Тапанімічныя паданні"[2]).

Асобна трэба адзначыць, што праца над зборнікам акумулявала не толькі намаганні выкладчыкаў (Аўсечык У., Філіпенка У.), магістрантаў, супрацоўнікаў (Азевіч І., Бабіч А., Кавалёва І., Лупенько Т.) і студэнтаў (Захарэвіч А., Клопава С., Красько Г., Лях В., Пузікава К., Шаўчэнка Я. і шмат інш.) Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Каштоўныя палявыя матэрыялы былі перададзены "Студэнцкім этнаграфічным таварыствам" (СЭТ), старшыня якога (Глушко А.) шмат зрабіў для вывучэння традыцыйнай культуры беларусаў Падзвіння і арганізацыі сумесных з ПДУ экспедыцый у рэгіёне. Далёка не поўным быў бы зборнік і без запісаў навуковых супрацоўнікаў НАН Беларусі – Боганевай А. і Васільевай І., а таксама без дапамогі з боку краязнаўцаў – Скварчэўскага Дз. і Тухто В. Вялікую падзяку хацелася б выказаць і загадчыцы сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі Валодзінай Т., якая не толькі прадаставіла свае ўласныя палявыя запісы, але аказала значную дапамогу пры правядзенні палявых даследаванняў і сістэматызацыі фальклорных матэрыялаў.

Аднак самая вялікая і сардэчная ўдзячнасць адрасуецца ўсім тым людзям, якія шчыра дзяліліся з экспедыцыянерамі сваімі непаўторнымі словамі пра сябе саміх і свой свет, у якіх увасобілася мудрасць шматлікіх пакаленняў і ўнікальны каларыт нашай этнічнай традыцыі.

---

[2] Раздзел "Тапанімічныя паданні" падрыхтаваны пры фінансавай падтрымцы БРФФД. Конкурс "Полацк – 2009". Тэма ГБ 0729 "Аб'екты сакральнай тапаграфіі ў сістэме духоўнай культуры беларусаў Полацкага Падзвіння XX – пачатку XXI ст."

# КАЗКІ

## 1. Жалейка

Было ў бацькі дзве дачкі. Ну і пайшлі, як цяпер, яны ўжо ці ў ягады, ці куды. І вот сірата адна набрала скора ягад, а другая ніяк ня можыць набраць. Ну і што, гэта, каторая ні набрала, задумала забіць сястру. І забіла гэту сястру, і пахавала пад чарэшчынай, схавала. І ішчуць гэту дзяўчыну, нідзе німа і ўсё. А вясной пагнаў пастух на пасту. Но даўней выразалі як во гэта дудачкі, снімалі з дрэва кару і выразалі, гэта, дудачкі. І тады, эта самае, ну і пагналі гэта на пасту і сталі рабіць жалеечкі. І тады стаў гэты пастух іграць, а жалеечка гэта так ужо іграла: "*Ай іграй-іграй, мой дзядулечка, А мяне сястрыца загубіла і пад чарэшанькай палажыла*".

Ну і найшлі гэту. Ну і тады далёка ехалі за жывой вадой. Вот жывую ваду як прывязлі і тады ўжо піць далі, памачылі і ажыла гэта дзевачка.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

## 2. Данілка

Ён, Данілка гэтат, тожа сільна бедна жыў. Вот. Астаўся як сірата, толькі хата ў яго была і кабылка. Вот. А тады ён накасіў сена, ды мала. А вясной, гэта, снег стала зганяць, а кабылцы есць даць нечага. Ну. А ён тады думаець: "Ужо снег сагнала, нада пасеяць пшаніцу і запахаць". Пасеяў пшаніцу. Тады, а сам пойдзець во ў гэта во, у цэркаў Богу памоліцца. А прыходзіць з цэрквы тады назаўтра ізноў: "Нада ж выпусціць кабылку, спутаць ці што. Нечага ж даць". Дак ён як адхадзіў у цэркву, як пшаніцу пасеяў, дужа бальшый мароз заціскаў. А ён Богу маліўся, каб Бог даў, не напусціў мароз на ягоную пшаніцку, каб мароз пшаніцку ня з'еў гэту. А мароз узяў і з'еў гэту пшаніцку. Яна ўзыйшла, а ён – бальшый мароз – і эта, ну, і нет яму [Данілку] чаго есці будзець і етат год. Ну.

Тады на другі дзень выпусціў гэту кабылку, спутаў, і Богу памаліўся і пойдзець у цэркаў і гаворыць, што: "Божанька, дай, гэта, Святое Юр'я, – маліўся, – не напусці сваіх сабак на маю кабылку, а то ж тады я саўсім бедны стану, мне ж нечым будзець ні поле пахаць, нічога. Ён пашоў у цэркаў, пакуль зайшоў у тую цэркаў ды з цэрквы прышоў, а ваўкі ўзялі і кабылку з'елі, вот. Усё адно напусціў, эта, Святое Юр'я. А тады ж после Юр'я Мікола. Вот. Тады прыходзіць з цэрквы – так і так, і што ж? Што дзелаць? Ну.

Пашоў у цэркву і будзець, гэта, бацюшку ці пану там ён снапы насіць, во это вот, з поля. Даўней жа ж самі пахалі, і гэта, і зямлю, – не

калхоз жа быў, – ну ўбіралі. Дак бабкі гэты стаяць. Ну дак вот, ён, гэта, дагаварыўся муся з бацюшкам, ці што. Сказаў ён, што: “Я табе заплачу сто рублей (на даўнейшыя дзеньгі) і абед дам панскій. Толькі панасі да захада сонца, каб сонца не зайшло”.

Ну вот ён і насіў на сабе этыя снапы ў ток, у сарай, дзе будуць малаціць. Насіў, насіў, астал*а*ся адна бабка (а ў бабаку ставілі пітнаццаць снапоў, вот). А сонца саўсі-і-ім нізенька-нізенька, ужо за лес зак*а*чаваецца. Ён шапку здзеў, пераксціўся, Богу памаліўся: “Царства Нябеснае, гэта самае, не закаціся, не дапусці солнейка за лес зайці. Дай мне сто рублей заробіць, абед панскі, гэта самае, каб я гэта прынёс”. А за раз жа пітнаццаць снапоў не прынясеш, нада два разы хадзіць. Дак ён наклаў, адну звязку прынёс, за другой пайшоў – а, бах, за лес і зайшло. І ўсё. І не даў абед панскі і сто рублей тых раз да заката сонца ня знёс. А сколькі там ня знёс – можа дзесяць снапоў.

Тады сталі ўжо ягады. Пану ён работаў. Гэта, сталі ягады, пашоў у ягады. Вот сабіраець і есць гэтыя ягады і дамоў прынясець. Ягадамі ўжо ён пітаецца. Толькі сабіраець ягады, але глядзіць – нейкая дзеўка. Як барышня ўсё адно, харашо адзетая. Вылезла з-за з нейкіх кустоў і тады сказала: “Здароў, Данілка”. А ён кажаць: “Здраствуці”. – “Што ж ты тут дзелаеш?” – А ён кажаць: “Ягаткі сабіраю У міне, – гаворыць, – есць нечага. Я ягаткамі пітаюсь”. А яна тады кажаць: “Ну пайдзём дамоў, я цібе накармлю”. А ён думае: “Чым яна міне будзець карміць, – у міне нічога нет. Клець пустая стаіць”. Даўней жа клеці гэтыя, дзе ў засекі сыпалі зерно там, усё гэта вот.

Ну і пашлі дамоў. Прышлі дамоў, тады яна гаворыць: “Вот схадзі ў клець, прынясі…” – яна такая вот, можа, была якая-небудзь чараўніца ці хто, Бог яе ведаець, якая яна была ці чыя яна – яна Сонцава сістра была. Тады яна, гэта, сказала: “Схадзі, там ёсць скварка ў клеці, – я знаю, – і мука. Прынясі мукі і скваркі, я табе напяку бліноў, і ты пад’ясі”. – А ён кажа: “Чаго я пайду ў клець? Клець жа пустая!” – А яна кажаць: “Я табе загадаваю іці!” Ён прышоў, глядзіць: у адным засеку гарох ляжыць троху, у другім – мука, у трэцім – там якое зярно, а ў чацвёртам там і скварка ляжыць. І прыносіць у хату этай мукі і скваркі. Яна яму зладзіла ежу, ён пад’еў. І зноў Богу памаліўся. Ну вот. І тады яна сказала, што я з табой буду жыць. Ну ён і сагласіўся.

А ў пана быў сын. Глядзіць пан, што эта такое: Данілка стаў есць, стаў красівый, адзетый такі і ўсё. І ўзнаў гэтат пан. Тады думаець, пашлець яго – гэтага Данілку – чорт ведаець куды, на тот свет. А гэта ўжо дзеўка астанецца, тады ён ажэніць яе з сынам, пан. Ну сына сваго з гэтай

Данілкавай дзеўкай. Тады вызваў ён яго і сказаў, што: “Вот заўтра, Данілка, я пісьмо напісаў бацьку свайму. – (А бацька на тым свеце, ужо быў памёршый, пан. А эта ўжо малады сын – пан.) – напісаў бальшое пісьмо бацьку, і вот я табе даю заданне занясьці. На тот свет схадзіць устрэціць майго бацьку. І вот гэта пісьмо перадай майму бацьку”. Што ён там ужо пісаў, хто яго знаець.

Прышоў гэтат Данілка спужаўшыся, усё, і гаворыць ей так і так, так і так. А яна гавораць: “Ня бойся, Данілка, ідзі”. – Ён кажаць: “Як я пайду, чорт ведаець, куды я пападу?!” – А яна кажаць (Ніткі ў клубках, гэта, былі. Такія клубкі во), яна гавораць: “Вот бяры гэты ніткі, бяры гэтат клубочак. І тады, куды гэтат клубочак пакоціцца, і ты туды ідзі. Дзяржы за нітку, і куды будзіць клубочак каціцца – на гару, з гары, у лог, – куды ні попала, па лясу пойдзець”.

Ну, каціўся этат клубочак, і ён за ім ішоў, ішоў, ішоў, ішоў, але дайшоў: справа гара, а злева – тут так проста. І чуець: “Ай-яй-яй-яй, далёка зайшоў. Трускані-і-іна, ламані-і-іна, шум!” Тады думаець: “Господзі, куды я зайшоў?! Гэта ўжо на тот, наверна, свет”. Аж этат пан – там, ну, іх і многа ўжо – цягнуць дзерава. (Дак над йімі на Тым Свеце здзіваліся вот за тое, што яны над людзьмі здзіваліся, паны. Вот. Так, як цяпер здзяюцца.) Эта, лесін*у* эту ўзяўшы – каб яны ўжо хоць за камель разрашылі яе брацъ, а то сказалі за вяршыну, а суччa ж! А па лясу нада цягнуць, – упіраецца сучча, трашчыць, ламаецца, а яны ўпіраюцца і цягнуць так, як коні, ну як то рылююць.

Ой-ё-ёй, сядзіць гэтат Данілка і глядзіць. А гэта, а пан гэтат глядзь, што Данілка сядзіць на пні: “А-яй-яй, як ты, Даніла, сюды папаў?! Здароў”. – “Здароў, – гаворaць. – Твой сын міне паслаў к табе”. – “А што ён здурнеў? Чаго ён паслаў?” – А ён сказаў: “Во, ён табе пісьмо напісаў. Ён сказаў, што, каб ты яму атпісаў, што як гэта на тым свеце, каб ён знаў”. Тады ён прачытаў гэта пісьмо і яму – сыну – напісаў. Напісаў так у пісьме, што – вот тады з таго і паноў ні стала – што ні здзівайся над людзьмі, ня будзь панам, работай сам, а то на этам свеце над табой будут так здзівацца. І сказаў, як на іх цігаюць гэты дрэвы, як яны там трашчаць, упіраюцца, усё, сільна плоха ім, – як у пекле.

Ну вот. Тады яна расказала яму, як ужо яны пройдуць, тады ты ўстанеш, і клубочак гэтат апяць пакоціцца на гару і з гары, і ты дайдзеш да майго брата – да Сонца да гэтага. Ужо ў тэй гарэ там жывець матка і брат гэтат. Ну і ён ішоў, ішоў за гэтым клубочкам, і з гары скаціўся, і так пад гарой тутака яны жывуць. Зайшоў туды, так і так: “А хто ты будзеш?” – “Данілка”. А гэта Сонца яшчэ нет, а эта матка. І расказаў пра дачку. Яна

знает, што раз расказаў – як раз парадкам, што эта дачка аб’явілася Данілкавай жонкай. “Вот яна міня паслала, я вот вас нашол”, – і ўсё. А яна тады пакарміла яго, а тады гаворацъ: “Хавайся скоранька”, – а Сонца як заходзіць за лес – гэта яно дамоў ужо ідзець. Гаворацъ: “Хавайся, а то Сонца січас прыйдзет, тады ты згарыш ат яго, як не схаваессі, пака ён не раздзеніцца”, – кажаць, – як здзенець ён сваю адзежу, тады ўжо будзеш з ім разгавараваць”.

Ну, куды там яна яго [Данілку] схавала, можа, у якій шкап чы куды там запёрла. Гэта самае, і ўсё. І гета Сонца закацілася за лес, прышло, і ўсё. Ну, так і так, яна гаворыць... Ага. Ён сказаў [Сонца]: “Што эта такое? Я прышоў дамоў, а ў нас руссю пахнець? – запах пачуў, – Руссю пахнець”. А яна тады сказала: “Зяць – Даніла – ў нас начуіць. Твой швагра”. Вот. – “А дзе ён?” – “Ну вот там і там, пака ты раздзеўся. Я баялася, – кажаць, – каб ён ні спаліўся”. Ну тут усё зноў за стол, разгаворы пашлі, усё.

Тады назаўтрая ўжо будзець Сонца ў паход сабірацца, апяць будзет надзівацца, усё. А Данілка ўжо можа дамоў пойдзець. А Данілка гэтат і кажаць, што гаворацъ: “Ты аддахні. Ты дай мне сваю адзежу, я пахаджу па тваіх слідах. Я цібе замяню, я буду сонца”. Ну, сагласіўся. Адзеў яго ў сваю адзежду: ясна, і ўсё. І пашоў, пакаціўся. Пакаціўся, тады ўстрэціў уперад Юр’я: “А-а, такі-сякі і ўсякі!” – набрахал там на яго, пабіў яго, што вот, гэта, з’еў ягоную гэту пшаніцку, – Мароз напусціў: “Я Богу маліўся, я цібе прасіў, а ты мне з’еў, – мне нечага было есці, я такій бедны быў, а ты што здзелаў?” Гэта. Сперва ён – гэтат Юр’я гэта гаворацъ, што “Я не знаю: учора такій ты добры быў, а сягоняка відзіш, як ты, – гаворацъ, – на міня напаў!” Аж эта ён – Данілка гэтат.

Ну, тады Міколу таксама. Біў, біў, і ўсё там пабіў, паламаў. А тады пашоў, дзе заходзіць – у Царства Нябеснае. Там усё паразварачаваў, пабіў, паламаў, усё са злосці, што эта над ім здзівалісь.

Прыходзіць дамоў. І ўсё, назаўтрае Сонца пойдзець. Пашло, і там гэты абіжаюцца, маўчаць: “Учора ты такі быў, сяння ты ўжо добрый, а ўчора нас там і біў, і ўсё”. І сюды прыходзіць – і тут тое самае. Зайшоў, ужо будзет заходзіць дамоў – у Царства Нябеснае – а там пабіта, паламана. Прышоў, кажаць: “Што ты, Даніла, надзелаў?” А ён і расказваець: “А што мне было? – кажаць. – Я ж Богу маліўся і прасіў, каб мне так ня дзелалі, а яны так дзелалі, ну”. Вот.

Дак тады як прышоў дамоў, усё, тады і не стала паноў. Пан прачытаў гэта пісьмо, – ён прынёс пісьмо. Дак вот, і ён і жыў – Данілка – з тэй дзеўкай, а, гэта, а паноў не стала. Не стаў і сына жаніць з той. Вярнуўся

Данілка: за этым клубочкам тожа ішоў, і клубочак каціўся, і ён прышоў дамоў. Во.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Быкавай Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка Полацкага р-на.**

### 3. Казка пра двух сясцёр

Кароткую, длінную… Ого! (смяецца) Я ж тады саўсім замаруся…

Ну якую, можа пра дачку, пра эта, як сваты прыехалі. Яны хацелі меншую гэту ўзяць, панаравілі. А раньшэ ж эта, бацькі камандавалі ўсё ўрэмя. А бацьку нада, каб старшую аддаць, а то тады меншую аддасць, а старшую можа ніхто ня возьміць. Дак вот ён тады кажаць... А сваты ее панаравілі, сваты хочуць гэту ўзяць, а тады і кажуць: “Ну ладна, ідзіце ў лес!” А тая можа старшая і троху і гультуюватая была. “Ідзіце ў лес”, − гаворяць. − “Хто ўпярод карзінку ягад назбірает, таго і будзем браць”.

А яны прыехалі, ну вот дагаварыліся тады так: бацька ня хочаць маладзейшую уперад аддаваць, што маладзейшая ж ана не такая старая, а гэта будзет старая, − ніхто замуж ня возьмець, а бацьку ж нада іх замуж аддаць. Бацька ж тожа пераժываець, каб замуж дочкі зайшлі. Ну вот. Тады яны гавораць: “Ідзіце ў лес. Каторая ўперад карзіну ягад назбірает, тую і будзем браць”. А гэта маладзейшая, меншая, яна была сільна ўдалая і красівая.

Дак эта самае, ну і пайшлі яны сёстры ўдвух у лес. І сабіраюць ягады. Гэта маладзейшая ўжо поўну карзінку. Карзінкі роўныя – поўну назьбірала. А ў гэнай толькі яшчэ палавіна. А ей хочацца ж замуж зайці самой: што ж – сястру возьмуць, ну? Гэта поўну назьбірала, тады кажаць: “Я пайду дамоў, а ты, сястрыцка, ці пойдзеш?” А яна кажаць: “Дак, а што я буду тут адна робіць? Раз ужо ты ўперад назьбірала, дак і пайдзём дамоў”. Ну і пашлі дамоў. Ідут дамоў, ну, а тады ракітавый кусток стаіць, і такі пагорачак. І вот яна – эта старэйшая – ужо кажаць: “Раз цібе канечна ж будуць браць, раз ты назьбірала ўпярод, давай, сястрыцка, удвух пасядзім і пагаворым у паследній раз, – хто ведаець, калі мы ўжо ўвідзімся”.

Ну, даўней жа ж у галовах гэтыя іскалі. Там, можа, гэта вшы ёсць ілі там што-небудзь, гніды гэтыя. Гаворыць: “Я ў цібе паішчу, пагаворым”. Ну, гэта і сагласілася. Селі і талкуюць. Та гаворыць: “Ну, давай я ў галоўцы папаруся”. Тут яна ў галоўцы разбіраець радкі гэтыя, разбіраець, а тады бліжэ, бліжэ, а тады – раз ножыкам, і усё. Гэта і смяротная – маладая. А яна тады сабе гэтыя ягады высыпала. Дак што яна: яна пад ракітавым кустом ямку выкапала, і гэту палажыла, камяшочак пад галоўку і каранкой

вочы закрыла, атадраўшы, каб пясок ужо не насыпаўся. І яе зарыла там. Вот. А яе ягады сабе забрала і пашла адна дамоў.

Прышла, а бацька пытаецца (як там яе звалі? Ну, можа, скажам там, Ніна ці Марына), гаворыць: “А дзе ж гэта Марына?” – “Я ж не знаю. Я гойкала, гойкала і пацерала, а яна не адзывалася, дак я і пайшла дамоў”. Эта старэйшая ўжо так кажаць.

Ну, глядзяць гэтыя сваты, што раз яна ўпярод прышла дамоў, карзінку [набрала], – такі дагавор быў, дагаварыліся, дак нада ж браць. Ну, сасваталіся. Тут ужо і к свадзьбе згаварыліся, і ўсё. А тэй як нет, дак і нет. Як нет, дак і нет. Ну прапала. І па лясу хадзілі, і гойкалі, – нідзе не адзываецца: можа ваўкі заелі, можа медзвядзі задралі. Бог яго ведае, што случылася. Ну што. Раз ужо скολькі – цэлая нядзеля, а то і болей – нет, ну нада ж ужо свадзьбу эту спраўляць гэта. Ну, справілі свадзьбу, выдалі гэту дачку замуж.

Асталіся з жонкаю ўдваіх, болей дзяцей нет. Тады змовілі пастуха. У поле ганяць кароў. Ну вот. Нанялі, там за скολькі дагаварыліся, ну мальца якога-небудзь тамака. Ну ён і ганяіць у поле гэтых кароў. А даўней жа ж это вот із лазы дзелалі і там, а ён паглядзеў – такі ракітавы кусток слаўны – роўненькі і ўсё там. Свісткі снімалі дзелалі, засвішчуць так, як вот гэта во куплёныя, і, гэта, свірэлі дзелалі, пальцамі тады перабіраюць, а гэтыя свірэлі іграюць. Ну, тады, гэта самае, глядзіць, глядзіць – ракітавы кусток такі роўненькі. Дай я сніму. Так як з лазы, вот так скруціць так: тут перарэжаць і тут перарэжаць тады вот так пакруціць, пакруціць і снімет такую трубачку. Палучаецца трубачка такая. Ну, тады дзірачкі павыразаець. А гэта пазатыкаіць вот гэта: тут як свісток заткнець, а там гладка заткнець, дзе ў задніцы тут во. Ну, і тады іграець, пальцамі перабіраець. Вот і зайграець, думаець: “Вот я свірэль здзелаў, пайду дамоў і хазяіну пакажу, які я майсцер”. Ну, сняў свірэль. І тады падзьмець жа, паіграець ён у яе – падзьмець. Падуў і пальцамі стаў перабіраць, а свірэль і кажа так – раз гэта з ракітавага кустка – а свірэля кажаць:

*Іграй, іграй, пастушанька,*
*Мяне сястрыца са свету збавіла,*
*Пад ракітавым кустком ямку выкапала,*
*Камяшочак пад галаваньку… –*

іграець, і гэта, свірэль гэта, када ён пальцамі перабіраець:

*І каранкой вочкі закрыла,*
*І зямелькай сырой зарыла.*

Тады ён так аж спужаўся. Думаець: "А што-та свірэль гэта такая вот выігрываець, такую як песню, ня песню?" Тады, гэта самае, прыгнаў кароў на абед. І тады хазяіну расказаў гэта. І тады гавораць: "Ну пайграй". Як зайграў этат пастух, яна так свірэль вот, як я вам расказвала, іграець. Тады сам хазяін узяў, стаў перабіраць, і стаў сюды дуць, як у свісток, а тутака. А яна тады – гэта свірэль:

*Іграй, іграй, татуленька, іграй,*
*Мяне сястрыца са свету збавіла,*
*Пад ракітавым кустком ямку выкапала,*
*Камяшочак – пад галаваньку,*
*Каранкой вочкі закрыла,*
*Сырой зямелькай зарыла.*

Усё. Бацьку ўжо, вот відзіш, па-другому ўжо расказала свірэль гэта. Тады ён кажаць: "Ну, вядзі мяне туды". Пастух і павёў. Ён узяў лапату, усё аткапаў – дачка зарыта. Тады што бацька? Не пажалеў гэну дачку, што замужам. Даўней жа ж свой суд бацька даваў. А на канюшні стаялі коні яго. Сколькі ён там пару дзяржаў ці сколькі. А, гэта самае, тады паехаў туды і сказаў дачцэ, што паедзем – матка бальная. Гэта, быстра сабірайся. Яна не знала – можа б уцякла. Гэта, ну, і паехалі. Паехаў за тэй дачкой. Паехалі. Узяў на конскія хвасты прывязаў – аднаму каню і другому, вот на конскіх хвостах. Так яе і парвалі. Эту дачку. Тую схаранілі, а гэту парвалі на кускі і тожа так, абы як. Вот бацька не жалеў яе за тое, што яна так здзелала, як ту ўбіла. Во якая сказка.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Быкавай Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка Полацкага р-на.**

### 4. Іван ня дужа разумный

Эта тожа, ці яна панская [дачка] была, ці якая, ну, в обшам яна з мора [выходзіла], марская нейкая там яна была, дак тожа...

Тры браты было. А Іван быў ня дужа разумный. І, гэта самае, а бацька відзеў, што ўсё врэмя яна [дзяўчына] выходзіць з мора з гэтага і ішчэць места такое, каб дзе-небудзь аддыхнуць. Тады браты гэтыя там, ну, што яны – сена на лугах касілі ці што, і вот замецілі. І вот хацелі яе. Старшы брат хацеў ажаніцца, хацеў яе ў жоны ўзяць. Ну, а як жа ён – яе не паймаець. Яна як увідзіць, так шас марш і ў мора. Тады яна гэта вот расказалі бацьку. А бацька гаворыць: "Запрагай каня, кладзі бочку, а сам хавайся пад калёсы, – яна выйдзець і захочаць спаць, яна ў бочке пасцелецца, – закрывай і гэта, і прывязеш дамоў". Ён так не сумеў, не

злавіў яе. Яна уцекла. Тады і сярэдні таксама не сумеў злавіць яе. Паехаўшы быў тожа. Ці ён заснуў, ці што. Ну, яна выспалася наверна, але ўцякла яна, гэта не злавіў ён яе.

Прыехаў дамоў пусты. А гэтат, ня дужа вумны – Іван яго звалі – гэты сказаў: “Ай, паеду я. Я злаўлю”. А бацька кажа: “Умныя не злавілі, а дурак там зловіць”. А ён кажаць: “Паглядзіш, што прывязу”. Ну і паехаў. Каня распрог. Эта самае, калёсы паставіў. Бочка бальшая такая ляжыць на калёсах, дак вот ляжыць дном туды к пераду каню, а тутака, дзе яна палезіць, тут закрышка ў яго ёсць гатовая ўжо, тады – мах! – і закрыець ён. Гэта ззаду, за тое, што спрыгнуць на аглоблі не мяшаюць, нічога. Тады ён схаваўся пад калёсы, ці як тамака, ну, у обшам яна яго ня відзела. Яна вылезла з мора і пашла. Глядзіць, што гэта бочка стаіць – такое ўдобнае ей месца, што сонца не паліць тут, нічога. І вот яна там паслала, што там паслала і заснула ў гэтай бочке. А ён вылез з-пад калёс і раз, і закрыў яе там. Закрыў і скоранька каня гэтага, кабылу запрог і айда дамоў. І прывёз.

Браты тут устрачаюць: адзін к сабе, другі к сабе, ну старшы ж ужо хочаць, каб ягоная жонка была, усё. Ну, яна ўжо як прыехала сюды, прывязлі ўжо, угаварылі яе, яна сагласілася. Але гаворыць: “Я яшчэ жыць ня буду, я пасматру”. Ну ладна. А яна ж відзець, хто яе прывёз.

Тады яна пашла з мора прынесла вады – бутылку мёртвай, бутылку жывой вады. І тады сказала гэтаму Івану: “Лажыся вот, прымерна, во на скамейку на гэту, і роўненька так ляжы: вот так рукі, вот так ногі і глазы закрый”. Ён так і здзелаў, а яна тады ўзяла тапор – раз, засекла яго, а тады на кускі пасекла. Тады ўзіла мёртвай вадой гэтай змыла, змыла, – як мёртвай вадой змыла, ён аказаўся цэлы, як і быў. Сцалеў. Гэта самае, гэты кускі ўсе як сшыліся. Як, толькі што не жывы. Яшчэ тады пастаяла, пастаяла, тады ўзяла жывой вадой вымыла. Жывой вадой вымыла, а ён – раз – і ўстаў. А браценькі ўдзівіліся, што такое яна здзелала. Устаў, дажа яшчэ пакрасівеў, як быў.

Ён быў красівы – красівейшы за гэтых, толькі што ума ў яго дужа не было. І тады ён як устаў, а яна так к яму кінулася, за шэю яго абняла і пацалавала. І гавораць: “Вот я з гэтым буду жыць. А вы мне не нада,” – на гэтых. А яны думаюць: “О, Госпадзі, з дураком будзеш жыць”. Гэта, гэты старшы брат гавораць: “Я буду з табой жыць”. А яна кажаць: “Я ня буду з табой жыць. І з эным ня буду жыць”. А яны тады ўжо пазавідавалі, што яна так здзелала, – яны відзелі, што яна дзелала. Тады гавораць: “А ты і нам так здзелай”. Сагласіліся легчы, каб яна іх пасекла. Ну, ана іх пасекла, пасекла, а тады ўзяла мёртвай вадой змыла, а жывой не змывала. І аны асталіся пакойнікамі. Вот іх пахаранілі, а яна асталася… Вот бацька –

свёкар гэтат – і вот не знаю, свякроўка ці *жы*ва была. Ну, еслі свякроўка, дык іх толькі тады чатыры душы ўжо было. Ну вот эта. А гэтат красівый такі стаў усё і умны сільна. І вот, і яна ж вумная. Ну, вот яны і жылі, а гэтых пахаранілі. Гэты пакойнікі былі. Вся сказка.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Быкавай Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка Полацкага р-на.**

## 5. Іван ня поўнага ума і дзікі парсюк

Таксама жыў бацька, матка і тры сыны ў іх было. Тожа Іван, гэтат такі самы быў – ня поўнага ўма. А два харошыя былі сыны. А хадзіў дзікі парсюк, сад рыў у іх. Сад бальшы быў. Вот прыйдзець, парыець у ноччы. Тады бацька сказаў старэйшаму сыну: “Пільнуй. Упільнуеш, тады табе ўсё сваё састаяніе адкажу, на цібе запішу. А гэтым тады ўжо нічога ня будзець”.

Ну, пашоў пільнаваць. Пільнаваў, пільнаваў, нет і нет парсюка. Сон зламіў, ён заснуў узяў, а парсюк прыйшоў і парыў. Пакуль ён там зашавяліўся, ну ня дужа ён парыў, але ж быў і ён яго не спаймаў. Ну, тады бацька кажа на сярэдняга: “Сягодня ты пойдзеш – на другі дзень – пільнаваць парсюка”. Ну, даждалі дзень, ужо вечар канчаецца, пойдзець у сад у гэтат і будзець пільнаваць. Сядзеў-сядзеў, сядзеў-сядзеў, парсюка таго нет. Узяў тожа заснуў. Сон зламіў – і заснуў. Ну і прыйшоў парсюк. Парыў зноў сад. Тады бацька плюнуў, і гавораць: “Ні да чога вы ў мяне сыны. Як гэта так: на дзела пайшоўшы, спаць хацець? Ды нада ж неяк было цярпець”.

А Іван гэтат прыйшоў да маткі і кажаць: “Мама, спячы мне піражок небальшы. Гэта самае, сягоння я пайду пільнаваць парсюка”. А матка кажаць: “Ту! Ужо гэны не ўпільнавалі, а ты там упільнуеш”. – “Я ўпільную, мама”. Гэта, узяў гэтат піражок з сабой – яна спякла – усё, пашоў і сядзіць. Сядзеў-сядзеў, парсюка нет. Яго тожа сон зламіў. Як толькі ён хочаць засыпаць, тады возьмець гэтат піражок у рот і грызець, грызець, грызець, – сон пройдзець, і сядзіць. Тады зноў грызець. І прышоў гэтат парсюк, і ён яго спаймаў, – там чым-то гэта, сеці ставілі ці што. А гэта самае. Ну вот, і прыбег утрам, бацьку сказаў. Ну вот, спаймалі гэтага парсюка, сад гэтат цэлы астаўся. Тады бацька ўзяў на яго ўсё састаяніе перапісаў. А гэтым нічога не асталося сынам. А ён усё гэта перапісаў: і зямлю там, і дамы – што было.

За тое што вот, відзіш, як ён сабразіў. Кажуць, што ён не разумны. Як жа ён не разумны? Разумны. Разумней за іх! Вот.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Быкавай Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка Полацкага р-на.**

## 6. Як Іванька есці братам насіў

Ай, многа іх сказак, але чорт іх знаеш. Парадкам тады не скажаш. Вот ёсць тожа бальшая, што тожа з гэтага Івана, як насіў братам есць на поле. Даўней жа ж сваю зямлю пахалі, коней сваіх дзержалі. Пара каней там, ці тройка каней. Гэта, тры кані, ці чатыры кані запрагалі і на поле ўежджалі. А тады на поле ўехалі і пашуць тамака. А ўжо ж вот скора авадні гэтыя паявяцца, – яны ж сякуць гэтыя коней і кароў. Нада тады ўжо запіраць.

Ну. А матка варыла клёцкі, – ну, па-нашаму "камы" называюцца, а тут называюць "клёцкі". Матка варыла клёцкі, што нада ж мальцаў пакарміць, на поле занясці за тое, што яны мала снедалі. Ну, нада абед занясьці. Тады налажыла такую парадашную місу гэтых клёцак, і там што яна яшчэ там уклала ўсё. Ну, і сказала: "Нясі, Іванька, гэта братам есці. І там і коні, а ты коней паглядзіш, папасеш, а яны паядуць". Ну ён і пойдзець, панясець. Узяў гэту місу перад сабой і нясець.

А сонца свеціць, а гэта вот ты бяжыш, і цень за табой бяжыць. Чалавека, а во цень. Вы знаеце цень? Ну вот. Агледзеўся, што як ён шыбчэй – і цень шыбчэй, як ён бягом – і цень бягом. Яму выдалася, што гэта нехта бяжыць, камы хочаць атабраць. А яшчэ далёка бегчы. Што дзелаць? Тады думаець: "Ну, кіну я яму ком, ён астанецца, а я ўцяку". Тады раз з міскі кідз*е*ль ком – і сам бягом. А ком тот там як ляжаў, так і ляжыць, а цень – за ім. Тады матам заругаўся і гавораць: "Пражора ты: бяжыш ззаду – усе камы з'ясі! Ну і (смяецца) пабег. Пабег, – ну што? – бяжыць ззаду. Ён зноў гэтой ком кінуў. І прынёс – нічога. Можа чатыры камы асталася ў гэтай місаццы. Тады браценькі гавораць: "Дак што ты нам прынёс? Што мы пад'ядзём?" Мы ж галодныя, – гавораць, – дак пасі коней. Але толькі ад аваднёў барані, а то яны паўцякаюць там у лес ці куды-небудзь, (сякут жа авадні), ат аваднёў барані!"

Дак эта, бараніць нада было – ветку атламіць бярозавую. Ну, і тады во веткай гэтай махаць. Дак ідзе ты! Гэта б аднаго каня і то не ўбароніш. Вядома ж – авадні сякуць. А то – тры кані. (Ці можа саўсім чатыры? – Тры.) Ды, гэта самае, яны [браты] сказалі: "Атламі ветку". Ён, гэта, далі яму ветку. Ён махаў, махаў веткай – нічога: гэтыя авадні як былі, так і былі. Тады [смяецца] ўзяў, тамака, найшоў такую калодку таўст*у*ю. І сільны такі быў, усё. Тады, як толькі конь туды-сюды, вот так: храп, храп, – а ён гэтай калодкай як урэжаць у галаву: конь жа во махаецца ўсё. Конь этат – мах аб з*е*млю. Тады ён яшчэ дабавіць. Тады другога так. Конь ужо ня хочаць уставаць. І адзін, і другі, і трэці. А ён усё – авадні сякуць, а ён тады

калодкай гэтай. Ну і пабіў гэтых коней. Усятрох. Пабіў гэтых коней, тады што ж дзелаць?

Прыходзяць браты на поле, а коні нежывыя ўсе. Та гавораць: “Ну што ты, Іван, здзелаў? Ты ж пабіў коней! Табе ж гаварылі ат аваднёў бараніць: брацъ ветку і бараніць ат аваднёў”. А ён гаворaць. “Аднаго і то б, можа, не ўбараніў, а столькі – трое коняў – я ўбараню ад аваднёў!” – “А што ты ім здзелаў?” – “Ды во гэтай калодкай пабіў!” [смяецца] Ну. Тады сабраліся пашлі дамоў. Прыходзюць дамоў з такой бядой і гавораць: “Мама. (Даўней жа ж эта, машыны не было, і дарогі такія абы-якія былі. Такіх добрых не было: то пяшком дужа далёка хадзілі, то на конях ездзілі, і усё). Тады гэта: “Мама, пячы хлеб і сушы сухары”. – “А што случылася?” – “Ды вот, Іван жа коней пабіў. Нада коней іцці купляць”.

Дужа далёка, – куды там, – чорт іх знаець. Вот тутака скажуць. Там вот, прымерна, за Віцебск, ці куды-небудзь, ці за Полацак, ці за Новаполацак. Там ужо, дзе прадаваліся тыя коні. Пойдуць яны купляць. Ну, мама гэты і сушыць сухары. У вадзін мяшок раз ссушыць – высыпець, у другі мяшок высыпець, – апяць па очарадзі. І адзін мяшок ня повен ужо яна насушыла, і другі так ня дужа повен – нада ж каб і завязаць. Эта, пойдуць пяшком, а чорт знаець, дзе там гэтых коней знойдуць, калі. А як сухары будуць, дак яны размочуць і паядуць. А сухары ж няцяжка нясці, не так, як там якое што цяжкое. Тады, гэта самае, сушыла, а ён тады, Іван гэтат, што: прасіўся, каб яны яго ўзялі. А яны яго не бяруць з сабой і кажуць: “Ты нам не нада. Мы самі пайдзём”. А пад лаўкай стаялі этыя сухары. Тады ён ат аднаго мяшка да аднага дасыпаў гэты, каб толькі завязаць, а тады яшчэ куды-та адклаў, а трохі там кінуў у гэтым мяшку, а гэты – паўнейшы. І сам скорчыўся-згорбіўся і сеў у гэтат мяшок, на гэтыя сухары. Сеў у гэтат мяшок і сядзіць пад лаўкай. Ну, браты ўжо, – ноч праходзіць, рана, можа часы не ў чатыры, а ў тры часы, – часоў жа не было, па петуху ўставалі: як пятух запяець, тады ўжо чатыры часы шчыталася. Ну, гэта матка ўжо ўстала, і яны ўсталі. Ужо будуць есць і етыя сухары будуць брацъ і пойдуць. Гэны, дзе сухары толькі былі ў мяшку, такі, як – вядома ж сухары – легкавата закінуў за плечы і ўсё. Ну, а гэтат кажаць: “Мой троху няповен, але нейкі цяжалаваты”. Ну, гэны памог яму, закінуў за плечы. Ну і пашлі.

Ішлі-ішлі, ішлі-ішлі, тады ўжо гэтат кажаць, брат, што: “Брацетка, мне так цяжка. Твае сухары, мусі, лягчэйшыя, што ты не замарыўся. Вазьмі ты мой мяшок, – гаворaць, – а я твой панясу. Я, – кажа, – так прыстаў”. А [Іван] адзываецца. Кажаць: “Ну, брацеткі, калі так цяжка, я вылезу”. – “Ах, ты Іван, ты такі-сякі і ўсякій. Што ты, мы так далёка ўжо уйшлі,

замарыліся". – "А я ж у вас прасіўся, а вы мяне не бралі, дак вот я так здзелаў – сеў у мяшок ды сяджу. Я вылезу". – "Ну вылезай".

Вылез з мяшка з гэтага. Тады ад таго мяшка ў гэтат мяшок дасыпалі сухарэй, каб ужо было по-роўну нясці. Пашлі ўся трое ўжо разам. Ішлі-ішлі, дайшлі дакуль-то яны там, заспела іх дзе-то ноч на чыстым полі, і стаяла сасна толькі. Лахматая такая сасна стаяла, старая яна ўжо сасна, сукуватая. І так яны ў ваблапкі палезуць на эту сасну. І так баяцца, што чыстае поле, нідзе нічога, а на сасне, на гэтай яны тамака сядуць на гэтым суччы, троху перадыхнуць, перакусюць, а тады ўжо на дзянёк устануць адтулека, злезуць і пойдуць коней ужо купляць.

А гэта, а едзець з кучарам пан. Едзець і тады гавораць пан кучару, што: "Во, гавораць, якая харошая сасна, тут можна, гавораць, коней распрагчы, аддыхнуць і касцёр развясці, гавораць, і зварыць рыбу. Ну, так і здзелалі. А ўжо цёмна. Сасна гэта густая. Тады гэта, коні гэты ходзюць, а яны касцёр развялі, наклалі туды рыбы, будуць варыць, і будуць тады есці. Ну, гарыць, гарыць гэтат касцёр, а ён тады, а ён тады кажаць (паўшэптам): "Брацеткі мае, я ж пісаць хачу". – "Цярпі, Іван, што ты дзелаеш? Нас жа спаймаюць!" – "Цярпі, цярпі", – як жа буду я цярпець? Я ж усё роўна ў штаны напісаю! Нада ж мне пісаць". Ну і пачаў. А пан глядзь уверх, а тамака ж цёмна, нічога ні [відаць], гэта гавораць: "Вот касцёр гэтат наш, які, значаць, разгэрэўся, што аж смала капаець. Смала капаець". Ну, і кучар гэтат глянуў уверх, а нічога не сказаў: ну капаець смала – нехай капаець. Сядзелі, сядзелі, а тады ён кажаць: "Брацеткі, я ж хачу па-бальшому". – "Што ты, здурнеў, Іван, што з табой р*о*біць?! Гэта ж нас забяруць адсюль, чорт ведаець, куды! І пасадзюць неізвестна [на колькі]… І матка нас дамоў не дажджэцца". – "Ай, ну што я буду р*о*біць?! Усё раўно ў штаны іздзелаю такое".

Сцянуў штаны: бразь, бразь, бразь. А пан гаворыць, што: "А-а, смала капала, капала, а цяпер і шышкі валюцца, – во які наш касцёр разгарэўся". (А ў пацёмку ж не відаць: шышкі валюцца). Кучар гаворыць: "Ну, будзем меншыць агонь, – ужо скора рыба гатова, будзем есці".

Ну, а як ты ў пацёмку будзеш есці, нада ж падкладаць гэтых во ветачак... троху, троху. Гаворыць: "Толькі троху ветачак, каб троху відней было есці". А ён [Іван] тады кажаць: "Вот, яны нічога не дагадаліся. Я палезу далоў і тады скажу: "Я галодны, я есці хачу, мне троху дайце, і я вас пакармлю ўжо". Ну, кучар сам ня есць – пана корміць, а тады п*о*сле, што яму астан*е*цца ці не астан*е*цца, а ён ужо іх абаіх пакорміць. Як яны [браты] яго прасілі, як яны яго малілі, каб ён ня лез, а ён усё раўно палез. Палез з тэй стораны, дзе кастра нет. А з гэтай стораны – а сасна таўст*а*я такая –

стораны тут касцёр гарыць, слезаець, пашавяліўся троху, так далее атышоўся, каб ні каля самай сасны зайсці, – бытта ўжо адкуль-та ён ідзець. Ідзець і падходзіць к этаму і кажаць: “Здраствуй.” – А яны атвячаюць: “Здраствуй. Во. Дак аткуль ты?” – “Дак вот, міне заспела цёмная ноч, а я ўвідзел, што касцёр гарыць, вот я і папаў сюды”. – “Ну, садзіся калі нас тутака ўсё. Ну, ты галодны?”

Ён кажаць: “Дак я галодны, дык у вас тут мала, – самі ж ужо ешчэ. А нет – давайце, – гавораць, – я вас пакармлю”, – і дастаў ножачак. І тады раз рыбіну гэту ножачкам пану ў рот. Раз – кучару ў рот. Другі раз пану ў рот. Другі раз ужо кучару ў рот, а трэці раз будзет даваць пану, а тады ўзяў ножачкам ён там – чык па языку. А гэта ж больна і кроў паляцела. Пан ускочыў і сказаць нічога ня можа, толькі: “Язы, язы”, а – “язык” не скажаць. “Язы, язы!” – і пабег неізвесна куды. А кучару выдумалася такое слова, што “дзяржы, дзяржы”, – значыць пан пабег – некага ж нада лавіць. Ужо кінулі этага чалавека. А там, чорт яе знаець, этат чалавек прышоў, можа якая банда ці што, – нада лавіць. Коні тут ходзюць, а гэта, а пан пабег у тую сторану: “язы, язы!”. А кучару выдалася, што “дзяржы, дзяржы!” – кучар пабег памагаць. А ён [Іван] тады кажаць: “Скарэй злізайце далоў: мы туды не даёдзем, дзе тыя коні. У гэтых – аброці надзетыя – паседлаем ды і дамоў”. (Ужо ш яны многа-многа вышлі, сколькі сутак ішлі!).

Яны тады з сасны далоў, коней этых абжыргалі і ў другую сторану: не туды, куды пан ехаў, а ў другую сторану. І палататáлі.

Ну, сколькі тамака балеў гэтат язык, сколькі яны [пан з кучарам] там бегалі, чорт іх знаець, але эта ўжо пан троху стаў гаварыць. Тады гавораць: “Будзем мы варочацца, мне нада к врачу – мне язык парэзалі”. Тады гэтат [кучар] дагадаўся, што ён “язы, язы” казаў, а не “дзяржы”. Ну, пакуль яны адтуль, куды яны (яны ж беглі бягом, чорт ведаець, куды забеглі) – пакуль яны адтуль прышлі: прышлі – упрэжкі стаяць, а коняў нет. У іх жа што? Куды, куды іці іскаць? Ну?

І прыгналі [браты] этых коней дамоў, і грошы цэлы асталісь. Вот табе Іван-дурак!

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Быкавай Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка Полацкага р-на.**

## 7. Як баба апраўдала мужыка

Даўно сушылі зярно ў асеці і там снапы малацілі, і там печка была. І вот старык пайшоў, гэта самае, у асець зярно сушыць. Печку затапіў, узяў мяса на пруточак і паджарваіць. Прыбег чарцянёнак і гаворыць:

– А што ты робіш?

– А, – гаворыць,– во, адрэзаў сваю, – ну дагадаліся пэўна што, – атрэзаў і во на пруток, і жару.

– А дай папробаваць.

Ён яму даў.

– Ой, смачна, – гаворыць, – на, ты мне атрэж, пажарыць.

Ён чык ножыкам і атрэзаў. Чарцянёнак як закрычаў, ну, і пайшоў. Старык гэта прыходзіць дамоў і гаворыць старусе:

– Як, – гаворыць, – цяпер ісці асець тапіць? Яны мяне заб’юць, чэрці.

А старуха:

– Ні расстраівайся, я, – гаворыць, – пайду за цябе тапіць.

Адзела штаны і пашла тапіць. Наляцелі чэрці, гавораць:

– Што ты нашаму чарцянёначку атрэзаў?

А яна, гаворыць, штаны спусціла:

– Паглядзіця, у мяне яшчэ большая рана, як у вашага чарцянёнка.

Яны паглядзелі ды і пайшлі. Вот баба апраўдала свайго старыка.

**Зап. Аўсейчык У., Батура Я., Філічкін А. у 2005 г. ад Гарбачэўскай А. Я., 1933 г.н. у в. Заскаркі Полацкага р-на.**

## 8. Мароз Красны нос

Жыў дзед і баба, і была ў іх дачка. Жыў, жыў дзед, а баба памёрла. Дзед ажаніўся, узяў сабе другую. І ў мачахі нарадзілася дачка. А яна гэту падчарку не любіла, усё работаць застаўляла, а сваю ўсё пялегала. Свая нічога ня дзелала. А тады будзець гаварыць дзеду: “Ай, дзед, завязі ты яе ў лес і кінь там, хай яе ваўкі з’ядуць”.

Ну, дзед узяў гэту дзевачку і паехалі ў лес. Прыехалі ў лес, дзяд яе на пянёк пасадзіў і гавораць: “Сядзі, дачушка, а я пайду дроўцы сеч. І тады цябе вазьму”. Яна і сядзіць. А ён едзець, ляпнець абухам па дрэву, а яна і гаворыць: “Во, мой татка дроўцы сячэць. Во, мой татка...”

І прышла ноч, мароз, траскун. А яна трасецца ўся, сядзіць. І гаворыць: “Ну, Мароз Красны нос, ці ня Бог цябе прынёс, па маю душку грэшную”. А ён атвячаець: “Я не па душаньку прышоў, цябе шубаньку прынёс”. Яна надзелася, сядзіць цёпла. Ён яшчэ раз трэсь-трэсь. Ён тады яшчэ ей даў багацця і тройку коней ей даў. Яна сядзіць у карэце.

Ну а баба пячэць бліны: “Едзь, дзед, ужо будзем адпраўляць дзевяціны, хараніць ужо гэтага дзяцёнка”. Яна бліны пячэць, а сучачка сядзіць кала печы і во так во: “Бабіну дачку сабакі косці грызуць, а дзедаву дачку ў злоты-серабры вязуць”. – “На бліна, скажы, што дзедаву дачку сабакі косці грызуць, а бабіну ў золаце вязуць”.

А сучачка з’есь бліна і зноў так. А тут баба глядзіць: самі вароты адчыніліся, на тройке прыехалі і столькі багацця ў хату. Тады яна: “Дзед, вязі маю дачку. Вязі туды, каб яна багацця прывезла”.

Дзед яе павёз, на той пянёк пасадзіў, яна сядзела, сядзела, тожа так Мароз прышоў, а яна: "Мароз Красны нос, ці ня чорт цябе прынёс!" А ён нічога ей не атвячаець, а што болі марозіць то сільней. І змарозіў яе.

Ну, баба ўжо тожа бліны пячэць, а сучка брэшыць, што бабіну дачку косці грызуць. Глядзіць баба, дзед едзець на сваей кабылцы, бяжыць, дзверы адчыняець. А дачка ляжыць нежывая.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

## 9. Пастух, чорт і папараць-кветка

Гаварылі некалі казку. Пастух пасціў кароў і згубіў карову. А даўней былі пастухі ў лапцях. Хадзіў і пайшоў тады карову гэту іскаць. Ну як ішоў па лесе, ішоў і гэтым лапцем сарваў папараць-кветку. Як сарваў гэту кветку-папараць, дык адразу ўзнаў дзе карова. Ну і пайшоў за гэтай каровай. Пашоў за гэтай каровай, а яму чорт наўстрэчу. І гаворыць: "Дай свае лапці, а я табе сапагі". А яму кветка гэта нада, чорту, каб выманіць яе. Не саглашаўся пастух, каб карову не згубіць, а глядзіць – сапагі дужа красівыя. А ён гэта не знае, што ў яго кветка на лапце і не знае, што рабіць. Ну і ўсё, аддаў яму свае лапці і забраў сапагі. А тады, як узяў сапагі, дык згубіў карову, ні сапагоў, ні лапцей.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 10. Казка пра дзеда і ўнукаў

Былі ў дзеда ўнукі і прыехалі яны да яго налета, к яму. "Дзед, – гаворaць, – звядзі ты нас у лес". Дзед узяў і павёў. Яны відзют – вывара-цень ляжыць: "Дзед, а што эта?" Той гаворыць: "Вываpацень". – "Пакажы нам". – "Ну, пайшлі, паглядзім". Прыйшлі туды, а там нара. – "А тама хто?" Дзед гаворыць: "Не знаю". Палез дзед глядзець, а тама была мядзьведзіца. Яна ўзяла і галаву адкусіла дзеду. А тыя ўнукі гукаюць: "Дзед, пайшлі дамоў. – А дзед ня йдзець. – Дзед пайшлі дамоў". Узялі за ногі дзеда і выцягнулі. Выцягнулі і глядзяць. Адзін гаворыць: "Ваня, ці помніш, ці была ў дзеда галава?" – "Не знаю, барада то была".

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Волкавай Таццяны Сідараўны, 1919 г.н. (нар. у в. Паршына Горацкага р-на Магілёўскай вобл.) у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 11. Жанчыны і мядзведзь

Адзін раз жанчына жала жыта у полі, а свайго дзіцёнка падвесіла у калыске. Ну, такія вешалі на трох колышках. Жала ўжо там далёка, адышлася, а тут з лесу выйшаў мядзьведзь. Яна глядзіць, а ён калыхае

калыску з дзіцем. Жанчына спужалася, падыйшла да яго, а ён працягвае ёй лапу, у якой быў гвозьдзь. Жанчына яго выташчыла і мядзведзь ушоў у лес. А тады тое ж самае з другой жанчынай, але яна прагнала мядзведзя. Стала крычаць ці што там. Ён пашоў, но ён з сабой знёс калыску з малым дзіцем.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Алейнік Соф'і Паўлаўны, 1917 г.н. у в. Клешчына Бешанковіцкага р-на.**

## 12. Чароўная бабінка

Быў-жыў дзед і баба, была ў іх курачка Раба, болей нічога не было. І знясла яічка. Рада баба, рад дзед. Палажылі гэта яічка на паду, а мышка як бегла, хвосцікам вільнула, яічка кранула. Звалілася яічка, разбілася. Плача дзед, плача баба: "Што будзем рабіць цяпер? Няма яічка". Тады петушок і курка кажуць: "Ну не плач, дзед, не плач, баба, яшчэ мы дабудзем".

Тады курка з петушком пайшлі на шуметню. Капаліся-капаліся, курка выкапала грашынку, петушок – бабінку. Курка грашынку з'ела, а петушок бабінку прынес, аддаў дзеду. Пасадзіў дзед гэту бабінку, каб расла гэта бабінка. Ен паліваў, тады вырасла яна пад палок. Даўней не было коек, а былі такія з дошак палкі. Дык рассунуў дзед гэты палок, тады расла гэта бабінка, і вырасла пад столь. Дзед і столь рассунуў. Ды расла і вырасла пад страху. І страху дзед рассунуў. Але паліваў бабінку, даглядаў. Тады ужо вырасла бальшая, не відаць і вяршка у гэтай бабінцы. Ну што, дзед на бабу кажыць: "Ну давай, баба, строй торбачкі, паспробую я лезці па гэтай бабінцы. У гэтай бабінкі такія сцеблі павырасталі таўстыя, крэпкія". Ну, бабка на шэю яму торбачак, дзед начапаў на плечы і палез па гэтай бабінцы.

Лез, лез, гэты дзед тры гады і тры дні. Узлез туды, аж там две дарогі ідуць: "На каторую мне пайсці?" Ну і пайшоў тут па адной. Заходзіць у хату, а там сядзяць за сталом, выпіваюць, малаком параным запіваюць, і дзеда угашчаюць. І у торбы наклалі яды. Ну дзед вярнуўся дамоў тады радасны, ён усяго нанёс, але многае асталося тамака. Тады яшчэ туда злазіў. А гэту бабінку павыбівала баба, калі яго ужо не было.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

## 13. Дзевачка і мядзведзь

А казкі ёсць такія, ну я дужа не ўмею. Во і цяпер быў праўнучак, скажу: "Ой, а ў лесе мядзведзь сядзіць. Пайшлі дзевачкі цвяты сабіраць. Сабіралі цвяты, і адна асталася дзевачка, і пайшла па лясу, заблудзілася, –

кажу, – заблудзілася, і стаў дождж. Яна села пад ёлачку і сядзіць, а мядзведзь ходзіць па лесе і равець: "Хто ў маім бару, хто ў маім лясу ў адзіночку начаваць, вячэрку гатаваць, пасцельку слаць?" Дзевачка глядзіць, што гэта мядзведзь, стала плакаць. Ну ён прывёў да сябе дамоў: "Дзеўка-дзявіца – руса касіца, сцялі мне пасцельку: рад паленьня, рад каменьня і ступу пад галаву". Дзевачка гэта паслала: рад паленьня, рад каменьня, а ступы не падходзіць – няма сілы. Мядзведзь глядзеў-глядзеў, тады зноў кажыць: "Ну, дзявіца, ты не зможаш, дай я сам". І падкаціў ступу. І дзевачцы сказаў, дзе легчы. І сам лёг у бярлогу. А паставіў жбанок мёду дзевачцы есці гэтай. Ну, а сам назаўтрае зноў устаў і пайшоў на дабычу. Сядзіць дзевачка ў вакне і плачыць. Глянець у ваконца, а там ваконца – маленькая толькі дзірачка толькі, аж ідуць два дзядзі – ляснічы і паляўнічы. Ага, дзевачка стала плакаць і крычаць. І пачулі, яе выпусцілі. І ана, дзевачка, сказала, што там у жбанку, меду есці-ка. Яны пайшлі, забралі. Вот і ўсе.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

## 14. Дзяўчынка і воўк

Мама мне баяла, як пайшла дзяўчынка ў ягадкі і заблудзілася. Шла-шла-шла ў адну сторану – не туды, і ў другую – не туды. Нашла нейкую дарожку, ну і пайшла. Глядзіць, а на дарожцы стаіць хатка на курынай ножцы. Дзяўчынка глядзіць: ганочак гарыць (раней жа палілі такую капатушачку – ў бутылачку керасіну, з бульбінкі брылёчак, і такая трубачка сагнута, туды мацерыялу байкавага скручана і фіцялёк. Тады памочаць і запаляць). Дзяўчынка пайшла ў гэту хатку, нікога нет. Яна паставіла свае ягадкі і палезла на печ. Аж ідзе воўк, што ў тэй хаце жыў: нюх-нюх, свісь-свісь, русь кось ёсць.

– Дзявіца-руса касіца, злязай з печы! – кажа воўк. Лезе дзяўчынка з печы і плача. – Перакладай мне лапу! – пераклала. "Перакладай другую", – пераклала. "Перакладай трэццюю і чацвёртую", – пераклала. "Дзявіца-руса касіца, сцялі мне пасцелю".

– А дзе ж я табе буду слаць?

– Сцялі на печы!

– Чым жа я табе слаць буду?

– Сцялі рад камення, рад палення, ступу пад галаву, бараной накрыцца.

Дзяўчынка гэта зрабіла. Лёг воўк на печ, а тут стала залачаць. Загадаў дзяўчынцы тапіць печ, але тая кажа:

– А што ж я буду варыць?

– Вары кашу, вары каўбасы.

Дзяўчынка затапіла печ, паставіла кашу, каўбас атварыла, сабе ў кашалёк наклала, у ягадкі. І бліноў напякла – воўк загадаў. А мышка з норкі выскачыць і выскачыць. А воўк:

– Дзявіца-руса касіца, з кім ты там гаворыш? А яна кажа : “З мышкай”.

Як толькі пусціць воўк камень з печы, а мышка ў норку. Ёй не пападзе. Ну дзявіца-руса касіца гэта, ужо стаў залачок, аддала гэтай мышке ключыкі. А воўк ёй даў ключы ад сеці, штоб каўбасы даставаць. Гэта мышка бегаець і звоніць, а воўк думае, што гэта дзяўчынка. А дзяўчынка забрала свае ягадкі і каўбасы і пайшла дамоў. І нашла дарожку і пайшла к свайму дзеду і к бабе.

Вот і басня ўся.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шыпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

## 15. Пра пана і бабку-знахарку

Жыў адзін багаты мужчына і была бедная. Эта ж цяпер пенсію плацюць, а тады бедныя былі. Ён і падарыў яе. А тады кажаць: “Ну што ты так ходзіш, ты ж ба чым занялася”. – “Ну дык што я нічога не знаю”. – “Ну, я цябе навучу. Пазавуць цябе шаптаць, а ты: “Жыў будзеш – тут будзеш, ня жыў будзеш – там будзеш”.

Ну прайшло многа гадоў і ён забалеў ангінай, багаты ці пан, ці чорт яго ведаець. Вот яму і падказалі: там ёсь такая бабка, што шэпчаць. Ён і забыўся на яе. Прывязлі яе к яму, а яна нагнулася і давай шаптаць: “Жыў будзеш – тут будзеш, памрэш – там будзеш”. А ён успомніў, як стала яму смешна, як захахатаў і ангіна прарвала. І палепшаў.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф’і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 16. Пан і знахар

Забалела у пана горла, баліць у пана горла. Прыйшоу да яго дзядок і параіў яму знахара. Потым прыйшоу гэты знахар у хату, а раней хату аббівалі мохам, замест паперы. Пахадзіў знахар па хаце, нарваў моху ў драўляны коўш, запаліў яго і пачаў весці над галавой пана гэты коўш з мохам, прыгаварываушы: “Не award Бог, дык award мох”.

Потым насіў, насіў, дыму поўную хату даў, а тады яшчэ торкнуў пад нос гэты мох, а гэты пан як закашляецца, і прарвалася ў яго ўсе ў горле. У пана ідзе кроў з горла, а знахар гаворыць, што трэба паласкаць содай. Зрабілі яму вады з содай, ён выпаласкаў горла.

Потым паправіўся гэты пан, а тады гаворыць свайму слугу, што трэба паехаць да знахара і спытаць яго, што ён хоча за гэта. Прыехаў да знахара слуга і сказаў, што пан хоча запытаць цябе, чаго ты хочаш. Той сказаў, што яму трэба гектар зямлі.Тады пан адмерыў яму кавалак зямлі. З таго дня давакен і пан, і гэты мужык: адзін да аднаго ходзяць у госці.

**Зап. Каваленка С. і Кусмарцаў А. у 2009 г. ад Савіцкай Веры Сцяпанаўны, 1932 г.н. у г. Полацк.**

### 17. Клёпак не хапае

Масцера такія, што бочкі рэманціравалі, абручы наганялі, усё. А дзед на бабу ўсё гаварыў, калі яна што не так скажаць ці зробіць: “У цябе клёпкі не хватаець”.

Ну. Ён паехаў на базар, а яна асталася дома. А тут прыходзюць і кажуць: “Каму клёпкі? Каму заклёпкі? Каму нада ладзіць?” А яна: “Ай, людцы мае. Як ж так этага ждала, а то дзед на мяне кажаць: У цябе клёпкі не хватаець”.

Яны ей абруч на галаву надзелі, пастукалі, надзелалі клёпак: “Ну, цяпер, бабка, усё ў парадку”. Ну, яна ім заплаціла сколькі нада. Прыязджаець дзед. А яна яму: “Во, дурак, ты казаў, што ў мяне клёпкі не хватаець, а ў мяне вун сколькі не хватаець”. Як даў дзед у косьці, можа і паразумнела.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галай Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

### 18. Лянівая жонка

У маткі адной дачка саўсем няўмека, лянівая была. Ні ткаць, ні прасці. Ну ўжо матка ей пасаг нарабіла, наткала, нашыла там усе, як трэба; і як замуж аддавала гаворыць дачке: “Прыкладай, дачка, рукі да скрыні”. Гэта значыць, каб сама ўжо рабіла, прала, ткала, ды ў скрыню складала. Ну а тая маладуха за мужам пазнасіла ўсе матчына ды і прыкладвае рукі да скрыні – чакае, што там нешта паявіцца.

Ну мужык яе адзін раз і закруціў яе ў рагожу, у куль. Сам пайшоў у госьці да цешчы. Выпілі там, закусілі, ну і сталі танцаваць. Танцуе той мужык, ды прыпявае: “А мы з цешчай гулі-гулі, а дачка ляжыць у кулі”. Во як ён правучыў тую жонку.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

# ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

## 19. Як зачынаўся свет

Усё стварыў Бог. Але ёсць такая легенда, што калі Бог ствараў зямлю, то яна была роўная і прыгожая, а чорт ішоў за ім і набраў зямлі у рот, і зямля пачала расці, якая была у роце чорта. Чорт пачаў выплеўваць зямлю і куды ён пляваў адразу ж з'яўляліся горы. І зямля стала няроўнай. І Бог не стаў перарабляць зямлю, бо былі ўжо першыя людзі, і не было куды перасяліць. Так і засталася зямля такая, як мы бачым яе сёння.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Гарбінскай Леакадзіі Іванаўны, 1933 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

## 20. Патоп

Дождж ішоў 40 дней і 40 начэй. А Ной ж гэты, яго ж не шчыталі гэтыя святыя. А Ной жа ж з сям'ёй астаўся толька жывы. А гэта ўсё ішчэзла была планета поўнасцю. Гэта тукалі. Патаму што я помню, як ужо ўступілі ў калхоз, і там у нас у Старыне капалі торф. Ну метры два глыбіной нада, а торф такі жоўты, красівы – проста кідаеш, а ён не развальваецца. І тут дакапаліся да дрэва – так глыбака, на метры два, там ліжала таўстое, гаварылі, што ўродзі дуб. Ну і нізмінае, так яно можа струпехшае, але сіла ў ём шчэ была. Столька лет, як гэты быў патоп, дык вот адтаго гэтыя дрэвы так і зайшлі далёка.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіча Уладзіміра Прохаравіча, 1929 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

**21.** Баба мая расказавала, быў патоп нейкі некалі. Адзін карабаль толькі выжыў. Я ў школу хадзіла, была кніжка і дажа такая карцінка: усюдах вада, а адзін страрычок залез, толькі шапка відаць. Баба мая расказавала, дзе дзелалі той карабаль. Яго дзелалі з бярвеньня і бралі і карову, і быка, і бабу, і мужчыну, і птушку, каб і самец і самка, і ўсё гэта каб засталося.

Во як баба казала: узялі галубка, і самку, і самка́, і галубка і галубку, той карабаль тонуў, ужо дажа палавіны вада захлынула, усё б патанула. А выпусцілі кукушку, і галубка, і галубушку, і прывязалі к ім бумажку. Баба мне і казала, сколькі дней іх не было, я табе не скажу, забылася, можа, большы месяца. Усе думалі, што яны патонулі. А ён нашоў поля, дзе німа патопа, сеў тамака і людзі тую бумажку ўзялі і пачыталі. І яму прывязалі другую, і ён паляцеў на карабаль. А там ужо плакалі, крычалі ратунку. Ці галуб адзін прыляцеў, ці галубка, адзін нехта замарыўся і ні даляцеў, а

кукушка прыляцела. Галуба з галубкай паслалі і кукушку. Яны больш месяца літалі. То літаюць-літаюць і явюцца. А то як паляцелі і німа. Ну ўсё, – думаюць, што пагіблі. Аж яны нашлі чыстая. Тады ўсе сталі рады, зналі ў які бок грабсці і стала вада меншаць. Усё было возерам. А патоп быў, праўда. У нас лес быў абваліўся, вада накрыла. І цяпер смалякі цігаюць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Маляўкі Ганны Сцяпанаўны, 1930 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

## 22. Патоп, бусел і змеі

Эта мама расказавала пра змей, што быў патоп, і тады іх жа ўсякага зверу ўзялі ў каўчэг, і бусла, і ўсё. Чаго ён [бусел] усіх есь? Ён жа і жаб, усіх возьмець, і змей. І вот, як яны там вываліліся з каўчэга цэлы мяшок, і ён ухапіў змяю. І яе не праглынуў, а ўхапіў жывую, панёс, і сталі змеі размнажацца. І бусел іх во есь, больш жа ніхто ня есь. Я і сама відзіла, як ён яе б’ець аб зямлю, а яна круціцца, а тады во тут у яго шавеліцца.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф’і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 23. Адам і Ева

Ну, як Сьвет ствараўся, здзелаў Бог Адама і з Евай, вот і Сьвет начаўся. Бог узяў зямлі кусок і зьдзелаў Адама, тада аднаму стала яму скучна, гэтаму Адаму, стаў ён тады Богу абіжацца, што аднаму. Тады ён яго ўсыпіў, выняў рабро ў яго і здзелаў яму Еву. Ева – жэншчына з мужуковага рабра.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугай Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 24. Адамава рабрына

Ну, Бог рабіў. Бог зрабіў свет за шэсць дней. Узяў з зямлі зляпіў чалавека, Адама першага. А Еву здзелаў з рабра, узяў у Адама рабро, і жану яму здзелаў. Вот і няма ў мужчын рабра, а ў каторага ўсе робры – будзе нежанаты.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 25. Неба і зямля

Ну вот гэта старэйшыя расказывалі. Я дак ня знаю, як Бог па зямлі хадзіў. А тады ўсё было разам. Ну кажуць жа, што Ён па зямлі хадзіў, а тады разлучыў неба і з зямлей, дык ужо сам на небе Бог, а людзі на зямлі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

## 26. Душа

Душа – гэта маленькі чалавек. Калі чалавек памірае, то яна застаецца на зямлі і ходзіць, але людзям не паказваецца.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Іванова Паўла Іванавіча, 1916 г.н. у в. Забор'е Расонскага р-на.**

## 27. Чаму Дзяды спраўляюць у розныя дні

Вот Дзяды Стаўры, бываюць Дзмітраеўскія Дзяды, Камінскія. Былі людзі раней Стаўры, Камінскія. Быў даўно прыгон. Людзі там старыліся. А вот як распусцілі прыгон, дык у нас у адну суботу Дзяды ў адным сяле, у другую – у другім. Няроўна былі. Памінальны вечар – Дзяды. Людзі як прыйшлі з прыгону, дык рашылі адмеціць вечар. Яны паміналі, хто на прыгоне памёр, многія ўміралі. Каго не засталі з прыгону, і таго паміналі. І такія людзі зробілі памінальны вечар. У наступную суботу другая парція прышла людзей – і зноў памінальны вечар.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 28. Зязюля

А што кукушка была чалавекам, тожа нам расказвалі па вечарам. Кукушка была чалавекам, і была мацер'ю. Было двое дзяцей у яе. Калі яна захварэла, то папрасіла папіць вады. А дзеткі былі на вуліцы, і ніхто ёй вады не падаў. Дык яна абідзілася і паляцела кукушкай праз вакно. А яны ляцелі за ёй, як увідзелі, што маці паляцела і крычалі, каб маці вярнулася. А яна не вярнулася. І ад таго часу кукушка не гадуе сваіх дзяцей, і ў тундры красны мох, бо яны так ляцелі па тундры і ногі ўсе парэзалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**29.** Матка забіла дачку. Дачка тая пацярала ключы, а гэта матка забіла дачку. А тады, калі яна забіла, пачала плакаць: “Аксюш, праснісь, Аксюш, праснісь, ключы нашлісь”. І вот яна всё кукуець і кукуець, а ключы нашлісь. І Бог яе так аброк – гэтай кукушкай быць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**30.** Зязюля, яна была чалавекам, і ты ж, дачка, як кукуець кукулка, паслухай, і яна будзець казаць: “Якуб! Дай круп! Якуб! Дай круп!” Гэта мама расказывала, што зязюля была бабай, і што-та яны там з мужыком пасварыліся, а даўней паветкі былі і зярно там, і семя насыпана, цэлы засек

быў, і вот яна яго паслала там. Кажыць, там за ільносемям – крупы, схадзі круп дастань. А гэта ж ільносемя, як вада, ты ж на яго стань – яно ж і тонець. Ну вот, яна яго ждала-ждала, а ён не прыйшоў. Яна яго звала: "Якуб! Дай круп! Якуб! Дай круп!" І вот яна гэдак зробіла, і яе Бог перавярнуў у зязюлю.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н., у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 31. Патоп і буцяны

Некалі быў патоп. Можа быў, можа ня быў. Дзелалі нейкі каўчаг. А Бог паслаў туды два чалавекі. Сказаў: "Збярыця ўсякіх насякомых па пары, штоб ён і яна". Сабралі два мяшкі і паставілі. І паставілі гэтыя мяшкі. А там і змеі, і лягушкі, і камары, і мошкі, і ўсякія мандавошкі. І сказалі этаму: "Нясіця на каўчаг". А прышлі другія і кажуць: "А што тут у этых мішках? Усё шавеліцца. А што несці?" Яны тады ўзялі і тыя мяшкі развязалі, а этыя вужакі як павыпаўзлі ўсе. Спужаліся яны і ўцікаць. А Бог сказаў: "Вот цяпер вы і будзіця буцінамі". Эта таго чалавека, яго і яе, здзелаў буцінамі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Скубановіч Веры Міхайлаўны, 1941 г.н. у в. Іванск Чашніцкага р-на.**

## 32. Бусел

Ну, гэта я чула, што нібыта ў нас не было ні насекомых, ні зверыкаў ніякіх. Усё пасабіраў ужо Бог, даў указаньні ў мяшкі сабраць. А гэтат чалавек адзін узяў, паглядзеў, што там. Развязаў гэтат мяшок і ўсе павыляталі. І Бог сказаў: "Ну вот, цяпер ты будзеш буслом, і будзеш хадзіць і сабіраць гэтых жаб усё". А ці праўда, ці не – гэтак я чула.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**33.** Бог сабраў такіх насякомых, і мух, і клапоў, там усякіх казюрак і ў мяшок завязаў. Нясі, – гаворыць, – на тоя места, дзе яму сказалі. А ён што – нёс, нёс. А тады захацеў, каб паглядзець, каго ж ён нясець. Мяшок атвязаў, а му́шына – пырх. Вот ён кінуў мяшок, ні завязаў, за мушынай пабег. Каб улавіць. А к гэтаму ўрэмю ўсе распаўзліся. Вот ні было б у нас ні вужак, ні жаб, нічога. А так сталі і клапы, і ўсякія мухі, і казюркі. Бог яго заставіў... Буцяном здзелаў і сказаў: сабірай.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г.у ад Барадулькі Ф. П., 1904 г.н. у в. Дзедунова Ушацкага р-на.**

**34.** Як свет пачынаўся, даў Бог мяшок Сціпану і кажаць: "Нясі мяшок, утапі ў ваду, каб не распаўзаўся ніхто". Сцяпан панёс, а ня

церпіцца яму, атышоўся. А Бог астаўся, знаў, што будзець. А Сцяпан як развязаў – і змеі ўсякія, і казяўкі, і казуркі ўцяклі. А Бог: "Я ж казаў не развязывай. А пусціў, дык сабірай увесь век". Сцяпан і прывраціўся ў буціна.

**Зап. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у 2001 г. ад Скорба Ксеніі Ільінічны, 1928 г.н. у в. Сітнікі Лепельскага р-на.**

**35.** Эта Бог даў мяшок мух [чалавеку]. Дзяржы крэпка, не развязавай. Бог зрабіў гэдак. А яму хацелася паглядзець. Вот і даў яму Бог штаны чорныя-крылля, а гэта белая – рубашка. Ходзіць і збіраіць іх па балоту. Жаб этых.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шынкевіч Надзеі Лукінічны, 1926 г.н. у в. Вілейка Докшыцкага р-на.**

**36.** Што ён [Бог] сабраў у мяшок усякіх казявак там, і вужак… Сабіраець во цяпер, ходзіць. А буцян – эта чалавек. У яго ж ногі – пяць пальцаў. Гаворуць, Бог пасабіраў у мяшок і вужак, усіх там дрэнных і завязаў. "І не глядзі, – гаворыць, – нясі іх і ўтапі". А чалавеку ж не цярпелася. А яму ж захацелася развязаць мех. Развязаў. А яны ўсе і распаўзліся. Вот цяпер яго Бог ператварыў у буцяна і сказаў: "Сабірай!"

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Маціеўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

**37.** Бог саздаў як свет і сабраў і мошак, і кошак, і аддаў чалавеку ды кажа: "Ідзі зянясі ў мора і ўтапі. А як жа наш чалавек утопіць і не палядзіць, што там? Вот ён і глянуў, а ўсё распаўзлося. Тады Бог зрабіў яго буцяном, каб сабіраў.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Якубоўскага А. С., 1936 г. н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

### 38. Адкуль бусел і чаго ў яго хвост чорны

Ну бусел, бусел жа, кажуць, з чалавека. Гэта ж даўней гаварылі, як Бог дзяліў, усё, і яму сабраў ўсіх гэтых жаб, казявак, усіх і, даў гэтаму чалавеку занесьці. Габрусь, яго звалі Габрусь. А цяпер яго завуць Бацяном. І ён панёс у возера ўтапіць ці што, а ён панёс і вытрас, і пусціў гэта ўсё. І ён [Бог] яму, кажуць, галавешкай па задніцы, у яго чорны хвост, за гэта. І вот будзіш збіраць усю жызнь, хадзіць, гэтых казявак усякіх, жаб, вот ён і ходзіць. А чаму ж ён ня плодзіцца нідзе, ён толькі ж каля дамоў плодзіцца. Гэта точная праўда.

**Зап. Аўсейчык У. і студ. ПДУ Круткін А. у 2010 г. ад Вахілкі Ефрасінні Васільеўны, 1930 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

## 39. Адкуль буцян

А буцян – гэта ж чалавека, гаворуць, здзелалі. Казалі, што Бог сабраў усіх насякомых, якія дзе ёсць. Ён сабраў іх і цэлы мех назбіраў. І завізаў гэты мех і даў гэтаму дзядзьку, што каб занёс… так во. Дзядзьку пазбіраў цэлы мех гэтых насекомых, завязаў крэпка мех  і кажыць: "Ты мех занясі". Ну ён сказаў куды, але: "Нясі – не развязвай". Той дзядзька не вытрымаў, узяў развязаў гэты мех, а гэтыя насякомыя ўсе з гэтага меху і пайшлі ўсе. Паразляталіся. А Бог дзядзьку сказаў, што цяпер будзеш збіраць, будзеш буцяном і век збіраць. Вот, кажыць, з чалавека – бусел.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Забор'е Чашніцкага р-на.**

## 40. Як знахар у бусла абярнуўся

Ну, гаварылі, што гэта самае, раньшэ дужа многа змей вялося і вот адзін знахар знаў, што ж гэта нада ўсіх ужо сабраць, ён сабраў у мяшок і нёс, я вот яны сталі тачыцца, сталі яго кусаць, сталі яго грысці, гэтыя ўсе змеі і лягушкі і ўсе, і ён не ўцярпеў… А Бог сказаў: "Раз ты знахар, сабяры, ты умеіш іх сабіраць". Ён мяшок паставіў, яны ўсе спаўзаліся, усе к яму ішлі, ішлі. І вот ён нёс-нёс гэты мяшок, не мог ён выцерпіць, і ён упусціў гэты мяшок, і пайшлі яны поўзаць, гэтыя змеі і лягушкі, і ўсе. І Бог так зробіў, што сабірай жа ты сам цяпер, і зробіў знахара buслам, і штоб ён іх сабіраў.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 41. Бацян

Не, не знаю, толькі чула, што сабраў Бог і яшчарак, і мух, і змей, і даў нясці чалавеку: "Аднясі ты іх, утапі. Толькі не глядзі, што там у мяху ў гэтым". А ён нёс і з любапытсва захацеў паглядзець, што там. Развязаў і яны распаўзліся. І кажуць, што Бог сказаў: "Раз ты іх выпусціў, так і сабірай." Дак бацян і змей есць, і ўсіх есць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

## 42. Чаму бусел і павук святыя

Да, бусла забіваць няможна. Ён як святы. Дажа неяк, гаварылі, праваджаў Матку Боскую. Матка Боская ехала па моры і бусел разам з ей, вот няможна. А няможна ж во гэтых павукоў. Вот вы злаві павука баль-

шога і палядзі, у яго хрэсцік. Ён тожа абярагаў Ісуса Хрыста, павуціннем, у яме, ад жыдоў. У яго хрэсцік, і бальшы хрэсцік.

**Зап. Аўсейчык У. і студ. ПДУ Круткін А. у 2010 г. ад Вахілкі Ефрасінні Васільеўны, 1930 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

### 43. Адкуль зязюля

Брат ажаніўся і сястра выйшла замуж. Ну брат жыў дужа бедна, а сістра багата, ну і пойдзець брат да сястры, каб яна яму дала чаго-небудзь ужо, як сястра, паесьці там ці што. А яна кажыць: “Ай, няма ў мяне нічога, клець замкнённая, ключоў ня знаю дзе”. Заплакаў брат і пашоў. Ішоў, ішоў, ішоў, лёг на дарозе, і памёр ад жалі, што сястра яму нічога не дала. А яна тады, як яна прыслухалася ці што, і гэтак плакала тады ўжо па брату і кажыць: “Габрусь вярніся, ключы нашліся.” Дык гэта во кажуць, сястра – гэта кукушка – па брату плачыць. Гэткую я чула басню.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Глебкі Любові Віктараўны, 1928 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

**44.** Гаворуць, што і зязюля была чалавекам. Эта была сястра багатая-багатая, а брат бедны. І ў яго дзетак многа, пяць штук было. Эта так казалі. Нечага яму гладка есьці. Пайду к сястрэ. Яна ж багатая. А ў яе там маёнтак нейкі, я ж ні знаю. Вот прышоў к ей. А яна: “Кузьма, я ключы ссорыла. Нечым цябе пакарміць, усё замкнута. Нечым цябе пакарміць”. Ну, ён тады, бедненькі, пашоў сеў на ганачку, сядзеў-сядзеў і памёр. А тады ўжо гаворыць: “Кузьма, вярніся, ключы нашліся”. А ён ужо памёр. Начорта твае ключы і ўсё. Во. Во яна кукукалка: ку-ку-ку. Эта яна плачаць, што брат памёр праз яе. А каб яна дала яму есткі, жыў бы быў.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Галай Ганны Пятроўны, 1916 г.н. у в. Заручаўе Бешанковіцкага р-на.**

**45.** Кукушка раней была бабай, у яе было многа дзяцей. Мужа яе звалі Якуб. Раз тая баба захварэла. А дзеці гулялі на дварэ. Яна іх завець, каб прыйшлі вады падалі, а яны не ідуць. Толькі мужык прыйшоў. Яна яго і завець, лётаіць

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Занько Ф. Я., 1916 г.н. у в. Лядна Лепельскага р-на.**

**46.** Аднекуль жа бралася кукушка. Кажуць, эта жонка мужыка свайго забіла, вот Бог і даў ей такую кару, што яна цяпер і крычыць: Якуб, Якуб! Завець яго: Якуб, Якуб!

Яна гультайка, сваіх дзяцей падкідаець. Кажуць, яна пад петуха падлітаіць. На дварэ ў мяне была. А яйцо падкідаіць. А кукуіць, пакуль

каласы ў ячменя ня выпрэць. Да Пятра. Кукуіць кукушка да Пятра, а после Пятра ні дня. Тады падавіцца каласом ячмянём, і ўсё.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шынкевіч Надзеі Лукінічны, 1926 г.н. у в. Вілейка Докшыцкага р-на.**

**47.** Жылі брат і сястра. Сястра была багатая, а брат быў бедны. Ужо дом у яе харошы. І яна сядзіць у гэтым доме. А брат прышоў бедны і з торбачкай. Каб сястра ўсыпала яму дабра якога. А яна гаворачь: "Ссорала ключы ад засека". А гэты чалавечак і памёр у яе на ганку. Тады яна крычыць: "Якуб, вярніся, ключы нашліся". А Якуб ужо мёртвы. Дык ей Бог даў і гнязда ня віць, а толькі ў воронния гняздо несці яйцы і кукаваць. Да Пятра [кукуе], а тады савой хапаець ціплят.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

**48.** Жыла сястра з братам. Сястра была дужа багатая, а брат бедны. І такі бедны, што не было чым дзяцей карміць. Ён тады пашоў к сястрэ, каб яна яму памагла. Прышоў к ей і просіць: "Памагі хоць нямнога дзяцей карміць". А яна сказала: "Муж уехаў, ключы ад закрамоў пазабіраў. Мне нечага табе даць". Так яму абідна стала, ён пашоў, недалёка атышоўся, паваліўся і памёр. Яна ўвідзіла, стала галасіць, а ей Божанька сказаў: "Ты не пажалела свайго брата". І прэўраціў яе ў кукушку. І гаворыць: "І будзеш ты жыць без дзяцей". Патаму ў яе няма сваіх дзяцей. Так Божанька ей даў. А кукуіць ян ад Вялікання і да Пятра. А тады здзелаіцца як соўка і дажа пісклят малых можаць драць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Кузьмін Ефрасінні Ягораўны, 1931 г.н. у в. Зарэчча Ушацкага р-на.**

**49.** Яна [зязюля] такая беззаботная. Што яна не выводзіць дзяцей, яна ж у чужоя гняздо падкінець. Мама расказавала, што яна знясла і к нейкай там пціцы аднясла. А яны такія пражорлівыя. Што яна ня можаць ніяк накарміць. А як выраслі і кажуць: "Дурная ты, пеначка, ты ж не сваё дзіця выкарміла".

Яна ж не крычыць, так і кажуць: плачаць кукушка. Мама кажаць: "Дзетачкі, эта ж яна плачаць з-за таго, што дзяцей у яе німа. Вывеў хто і ўсё". Мама казала, эта ж яна па дзіцях плачаць. А мы: "А чаго яна не выводзіць? – "А ей часу німа. У яе кароткі час". У канцы, шчытай, мая, сёліта халодна было – начала і во ўжо Купалка – і німа. Два месяцы. Рэдка бываець, што до Купалкі, а так можа якога дзесятага. Вот кажуць рання восень – як зязюля зарання кінець кукаваць.

[Пасля Пятра] дзейсцьвіцельна так, цыплят тады хватаець. Да Пятра не хапае, ей жа некалі, яна кукуець, а пасля Пятра пашла шалець. У нас сядзела раз на стопцы, кажацца, такая самая. Небальшэнькая. А вобшчам то зязюлю ня очань-то і ўвідзіш. А як на якую бяду, то можаць і ў вёску прыляцець, і куваць. На бяду.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф'і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

**50.** А кукушка кукуіць па дзяцёнку па свайму, пацірала яго, паложаць яйцо і не знаець дзе. Яна кукуіць да Пятра, а тады становіцца каршуном. У цёплыя места адна ляціць, у стада яны не сабіраюцца.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Асташка Ганны Логвінаўны, 1933 г.н. у в. Навасёлкі Ушацкага р-на.**

**51.** Кукушка, яна ж гэта, шаснаццаць нядзель, кажаць, кукуець. А тады таксама пераўтвараецца ў тую птушку, у каршуна.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Забор'е Чашніцкага р-на.**

## 52. Пятны на месяцы

Што на луне пятны, угледзься: быць чалавек стаіць і дзяржыць у руках як вядро — гэта брат брата ўбіў і кроў у руках дзяржыць.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Буржынскай Н. К., 1918 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

**53.** Гэта Кавель і Авель трымаюць рукі цераз бочку. Хочуць адзін аднаго заліць, бо не падзялілі дзяўчыны.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

**54.** Пра пятны на месяцы старыя людзі гаварылі, што гэта наўродзе чалавечыя целы відаць. Вот адна ўніз, другая – ўверх. Гэта сядзіць Праўда і Крыўда. У вярху Праўда, а ўнізу Крыўда. Ну, як будзеце на луну глядзець, ну там азёры ці горы якія, а відаць, што адна фігура на нізу, а другая на верху.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

## 55. Верабей

Во вераб’я толькі гэтага ня любяць. Гаворац, когда Ісуса Хрыста мучылі, дык вераб’і гвоздзі падавалі.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Волкавай Таццяны Сідараўны, 1919 г.н. (нар. у в. Паршына Горацкага р-на Магілёўскай вобл.) у п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 56. Сьлямень

Вужакі – яны ж розныя ёсць, іх дзвенаццаць сартоў. А ёсьць і сьлямень, ён сляпы, ён мала кусаецца. Ну, ён ня відзіць. Але, кажуць, калі ўкусіць, то гэта ўжо нічым неізлечыма. Я во раз ледзь не забіла яго. А яго калі забіць, так ён на нескалькі кускоў рассыпаецца. Ён такі, як серабро.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

## 57. Чаму крот цераз дарогу перайсці ня можа

Гэта, кажуць, Бог прыказаў усім звярам строіць дарогу, а крот адказаўся. Ну і Бог яму сказаў, штоб па дароге не хадзіць. Есьлі выйдзець на дарогу, значыць на дарозе памрэць.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 58. Адкуль камбала ўзялася

Сядзяць людзі, ядуць рыбу, вот ужо палавіну з’елі. А Бог ідзець і кажаць: “Я Бог”. А тыя: “Калі ты Бог, дак ніхай гэта рыбіна аджывець”. Ён пусціў у ваду, і праўда, паплыла – палавіна рыбіны з адным вокам. Гэта камбала.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Якубоўскага А. С., 1936 г.н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

## 59. Чаму на Каляды елку ставяць

А 25 грудня – гэта ўжо Каляды. Ставілі ёлку, убіралі яе цацкамі. Ад таго, як Пан Езус нарадзіўся, усе падарункі неслі, а мядзведзь, што ж ён прынясець, ёлку выламаў. Як ішоў недзе праз ваду, ўваліўся, а тады лёд гэты пазамірзаў і ўсякія бліскучыя цацкі палучыліся. А Пан Езус маленькі з захапленнем ўжо глядзеў і радаваўся. Выйшаў самы лучшы падарунак! Вот ад чаго ёлка паходзіць.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Сварцэвіч Сабіны Фёдараўны, 1927 г.н. у в. Гаранаўшчына Пастаўскага р-на.**

## 60. Чаго асіна трасецца

На асіне павесіўся апостал, які прыдаў Ісуса Хрыста, Іюда той. І гаворуць, што калі з асіны што-небудзь строіш, скаціна не будзе весціся.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**61.** Як маць Хрыста хавалась – яго ж маленькага хацелі ўбіць – ну і хавалася, то туды, то сюды, каб там ужо схавацца. І пад асініну. А асініна: "Баюсь, баюсь цябе ўжо схаваць". І не стала хаваць. Тады яна пад арэшыну. Арэшына закрыла яе, да самай зямлі прэкланілась і яе закрыла. І вот асіна посьлі таво ўсю жызь сваю дрыжыць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

**62.** А асіна трасееца, эта як Іісуса Хрыста распялі… І вот Іісус Хрыстос як васкрэс, а ён прышоў, як распялі, эты яўрэй прышоў, дашоў дадому і гаворыць: "Усе гаворуць, Іісус Хрыстос васкрэс". А жонка як раз петуха забіла… Вот у цэркаві пятух, дзе Іісус Хрыстос васкрэсшы, петушок стаіць. Дык яна гаворыць: "Як ён васкрэс, хай пятух васкрэснець, мы ж яго павесілі, мы ж яго распялі". А эты пятух ускочыў з рук у яе і "ку-ка-рэ-ку", і запіяў. Дык эты яўрэй спужаўся, і гэдак пабег у лес, каб павесіцца. І колькі ён бег да якіх дрэў, ніводнае дрэва, усе падымаліся ўверх, не давалі яму павесіцца. А асінка драмала, спала, і ён на ёй павесіўся. А яна с прасоння ўскочыла, спужалася і стала трасціся, і па сей дзень трасецца, трасецца і трасецца. Ніводнае дрэва не далося яму павесіцца, а на асіне павесіўся, на што і гаворуць, "каб ты на сухой асіне павесіўся".

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 63. Чаго ад грому трэба хавацца ў арэшніку

Вот Маці Божая уцякала з маленькім сынам ды хавалася. І жыды хацелі яго забіць маленькага і ўсіх маленькіх рабятак перарэзалі. Замест Іісуса. А яны не пад ёлачкай, а пад арэшнікам хавалася. Ён так нізенька і пад яго, есьлі гром, нада хавацца, а болей нідзе няможна.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в.Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 64. Чаму дождж ідзець, када людзі косяць

Бог уязджаў куда-та, прыгаварыў памочніку, каб слядзіў за парадкам, "Давай дождж калі людзі просяць". А той дзед, які Богу памагаў, а ён глухі

быў, недачуў быў. Яму падалося, што Бог сказаў “давай дождж, калі людзі косюць”. Во цяпер, як касіць людзям, так і дождж ідзець.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

## 65. Святая Пчала

Пчала сьвятая – гэта праўда. А ці вы знаіці, што пчала чатыры тысячы гадоў назад паявілася, ішчэ людзей не было? Патом пчала лечыла, врачэй не было, толькі пчала лечыла. А цяпер, каб не чалавек, пчала не жыла б. Лясы ўжо сталі ня тыя – ні дуплаў там нет, нічога, хімія, балезьні ўсякія. Вось мы і празнуем Мядовы Спас, чатырнаццатага чысла. Гарэлачку п’ём. А мёдам жа ўсё на сьвеце лечуць. Яго харашо есьці і настой ставіць, але і сьвежы добра.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Кубах Яўгеніі Уладзіміраўны, 1925 г.н. у в. Пышна Лепельскага р-на.**

## 66. Чаму павука біць няможна

Мяне ўсё ўрэмя ўбіждалі, што павука нільзя трогаць, патаму што павук даходзіць да Бога па сваім павуціньнійку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

**67.** Павука біць нельзя. Ён жа бажэсьцьвенны, ён жа Богу даносіць усё па павуціне.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Скубановіч Веры Міхайлаўны, 1941 г.н. у в. Іванск Чашніцкага р-на.**

**68.** Павука біць няможна. Затоя, што Мацер Божая ішла з Ісусам Хрыстом і яго хацелі ўністожыць. Яна ўлезла ў яму, а павукі скоранька заплялі. Дык ляцелі гэтыя, што хацелі ўбіваць Ісуса Хрыста, дык кажуць: “Тут нічога німа, тут павуцінай усё зацянута”. За гэта.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

**69.** Мне бабушка расказывала. Божая Маці бегла, а за ей беглі жыды і хацелі яе забіць. І нідзе не было ні кустоў, нічога. Толькі бегла, глядзіць, мост, яна тады скоранька пад мост. А павукі яе павуцінай абняслі. Абняслі, абняслі, а тыя паглядзелі пад мост, яе ня ўвідзілі – і яна асталася жывая. Затоя і павукоў нельзя біць.

Яшчэ во. Зайшоў адзін друг к свайму і па сцяне поўзаў павук. Ён узяў і яго забіў. А той прышоў у хату і глядзіць: няма павука. – А дзе

павук? – Я яго забіў. І ён абідзіўся. Ён яму прэдсказываў пагоду: калі на рыбу іці.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

### 70. Як перасталі старых бацькоў забіваць

Жылі сыны, быў у іх стары бацька. Цяпер тарэлкі, міскі, а раньшы такія гліняныя чыгункі, адломіцца кусок, чарапок называўся. Вот з гэтага чарапка дзеда і кармілі. Паесь ён і на печ. Надаеў усім, нявестка і кажаць: “Бяры ты на саначкі яго і спусці з гары”.

Сын [бацьку] павёз і свайго сына ўзяў. З гары гэтага дзеда спусціў і на сына кажаць: “Пашлі дамоў”. А сын бягом уніз, па саначкі, дзед жа зваліўся, цягнець. – “А нашто табе, сынок, саначкі?” – “А з чаго я вас буду спускаць, як вы будзеце такія як дзед?” Вот і пацягнуў бацьку назад. Жонцы расказаў: “Хай жывець да смерці”.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Валянціны Іванаўны, 1949 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 71. Камяні

Ну, гаварылі, вот камень вродзе вырываеш там, ну капаеш зямлю: камянечкі былі небальшыя, патом яшчэ перакапываеш – ужо камяні большыя. Ну, наверна, выкапвалі, а можа і растуць. Я сама дык не заўважала гэта, а тое, што многа камянёў, дык я заўважала. Капаеш, капаеш, выкапаеш – вродзе нет, а патом апяць паяўляюцца. Адкуль яны? А можа яны размнажаюцца як. Хто іх ведае… нараджаюцца.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Ліліі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

**72.** Я чула і знаю, што ў мяне ў агародзе ляжаў камень, і за нескальку лет падрос. Ну яны медленна растуць, але растуць камяні. Я знаю.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Іваноўскай Ніны Ўладзіміраўны, 1934 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

**73.** Ёсць камні бальшых размераў, каторыя, как бы, ёсць повер’е, што, когда ані былі не очэнь большые, ані ўпалі с неба, так расказываюць такія історыі. А потом, на працяжэніі многіх дзесяцілецій, ані обрасталі-обрасталі і выраслі очань бальшыя  камні. Вот тут вот у Наташы (дачкі) под окном, дак там жа ш ваабшчэ, как этот стол, камень ёсць.

**Зап. Ляненка В. у 2010 г. ад Шавель Алены Паўлаўны, 1939 г.н. у п. Баравуха-1 Полацкага р-на.**

## 74. Чаму ў магілу грошы кідаюць

Капейкі кідалі. Гэта, гавораць, Іуда прадаў Хрыста за трыццаць срэбраннікаў, а потым глядзеў, як той мучыўся, ён гэтых трыццаць срэбраннікаў насіў аддаць, каб ў яго ўзялі. Але ніхто не ўзяў гэтых трыццаць срэбраннікаў, і сказалі толькі прахожаму магілку купіць за гэтыя грошы, бо яны кроўю залітыя. Дык гэта кідаць іх, каб магілу купіць за гэтыя грошы. Кідалі серабро толькі, такія белыя капейкі кідалі, каб купіць гэтую магілу.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 75. Адкуль гарэлка

Гарэлку выдумаў чорт. Гоніць чорт гарэлку, а Бог ідзець. А ён гаворыць: “Што ты дзелаеш?” – “Ганю гой, а хто яе вып’ець, той будзець мой”. А Бог гаворыць: “Ты гоніш гарэлку, а я дам мерку”. Даў чарачку. Чарачку вып’ець [чалавек], тады і нічога.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Мацієўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

## 76. Чаму ў папа жонка ёсць, а ў ксяндза няма

Гэта казалі такая сказка. Казалі, што Бог усіх пажаніў, ну, пары, а толькі асталіся два мужчыны і адна жэншчына. Ну штоб скарэй, гэта, самая, ужо возьміць, захваціць – таму значыць. Поп, гэтай самай, як спаў барадатый і грязный, так і паляцеў. І ажанілі, раз первый прыйшоў, а пакуль ксёнз мыўся, брыўся – яму ня выйшла жонкі, вось ён за гэта… Ксёнз жа нежанатый. Вось за гэта ён як выбраўся, дык і скульля жонка ёсць.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Глебкі Любові Віктараўны, 1928 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

## 77. Адкуль у мужчын костка (кадык) у горле

Адам і Ева сядзелі дзе-та ў саду. І яблына там была. А Ісус Хрыстос сказаў ім: “Ня ешце яблыка”. А яны ж ня вытрымалі. Ева вытрымала, а Адам не, і ўкусіў. А гэты ім: “Ну што, ня вытрымаў?” А яно сперачылася яму ў горле. Цяпер і костачка ў яго тут. Раз ён з’еў. А Ева ня ела, вот у яе і няма.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

## 78. Чаму цыганам красці можна

Цыганы памаглі Хрысту. Жыды прыбівалі Ісуса на хрэст, а цыган цвік адзін украў. Дык адным гваздзём толькі прыбілі. Дык цяпер цыгане езьдзюць, усё крадуць і ім можна, і ім не грэх.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в.Сукліна Глыбоцкага р-на.**

**79.** Яўрэі, каторыі Ісуса Хрыста распялі, яны ж распіналі, і гвоздзі яму заганялі, а цаган ішоў, і гэтак відзіць, што кроў з яго ліецца, і хоць адзін гвоздзік ўкраў, у гэтых ужо яўрэеў, як яны распіналі. Вот паэтаму і цагане варуюць, і ім грэху нет, патаму шта ён хоць адзін гвоздзік украў, каб меншэ яму было болі, Ісусу Хрысту.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 80. Таемны дар

Вот жыў чалавек бедна. Бедна жыве чалавек. Бура наламала лесу, а ён за вадой у раку. Пайшоў за вадой, прыносіць вады, а хазяйка кажа: “Вот бура лесу наламала – ідзі за драўмі. Усё ж гатовыя – не нада з пня валіць”. Ну прышоў ён, стаў лес валіць, а чорт пад гэтым бураломам. Кажа чорт: “Выручы мяне – я цябе адблагадару”. А яму-та ўсё роўна лес валіць, і чалавек тапаром рассек, рассек – і выручыў гэтага чарта. А чорт кажа, што табе заплаціць. А той: “Ай, нашто мне якая плата, мне ўсё роўна лес валіць”. Ну, добра, загатаўляй дровы, але я дам табе такое знаніе, што ты будзеш разумець, што птушкі гавораць, што звяры гавораць. А чалавек і не падумаў, што гэта праўда.

Ідзець дамоў, а крумкач кажа: “Вот мужык дурны. Не ведае, што ў пні золата ляжыць”. Праўда, чалавек к таму дуплу пашоў, і золата – праўда! – нашчупаў і дамоў адправіўся. І што трава гаворыць – ён знаіць. І стаў ён багацець. Вот сёлета сухое лета, бо пціцы казалі, што будуць гнёзды рабіць ля вады. А як мокрае лета – будзем падальшэ. Ну, ён стаў сеяць, якая збажына падходзіць. І трава гаворыць: якая ад сэрца, і далей. Яна гаворыць, а ён усё панімае.

І стаў ён людзей лячыць травой гэтай. Забалела ў пана дачка, і той яе па дактарах вазіў – і нічога. Паслаў тады свайго слугу, каб з’ездзіў да гэтага чалавека, каб рады даў дачцэ. І вот прыязжае слуга, а той чалавек даў яму травы і адправіў дамоў. Прыязжае слуга, травы, вады прывёз, якую той пашаптаў. Ён кажа, а чаму ты яго не прывёз? Слуга кажа, што той сам не паехаў. Тады пан узлаваўся. І паслаў узноў слугу, і сам паехаў за гэтым чалавекам.

Вязе таго чалавека, едуць дарогай, а на дарозе сядзіць трава. І вецер яе ганяіць. Вот такая бывае балезнь – кілаватыя людзі бываюць. А травіна гэта ад ветру ківаецца і кажа: “Я ад кілы, я ад кілы”. Чалавек узяў і усміхнуўся, што трава гаворыць, а пан нічога ж не разумеў. Пан як прыстаў да яго: “Ты з мяне смяесься, чаго?”. Як прыстаў, як прыстаў, і чалавек пры-

знаўся, што трава яму сказала. Як прызнаўся – усе знанія паціраў. І ўся трава пазакрывалася, а раней адкрытая была.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 81. Муж-вуж

Я такую легенду знаю. Вот такой цёплай парою, як цяпер, дзяўчаты пабеглі ў раку купацца. А даўна існавала такое закляцьце. Вот быў хлопец такі, і з дзеўкай засорыліся, і яна яго пракляла. І ён стаў вужам. Яна яго пракляла і на 5 гадоў ён стаў вужам. І як толькі дзень – ён вуж, а ноччу – хлопец. І яму няма як к людзям ісьці, яна ж пракляла яго.

І жыў ён каля ракі. І дзеўкі прыбеглі туды пасля працы купацца. І ён прыгледзеў дзеўку, і яна яму панравілася. А дзеўкі ўжо сабралі шмоткі і пабеглі дамоў, а адна шукае адзеньне і не можа знайсці. Як жа голай ісці дамоў? Яна села і плачыць. А той падаждаў, пака сонца села, і выйшаў. Кажа, што дасць ёй красівае адзеньне, толькі будзь маёй жаной. А то як не будзеш, не адпушчу цябе дамоў. Ну і ён яе забраў. І жылі яны доўга.

Маці ў дзевак спрашывала, шукалі адзёжу ў рацэ і не знайшлі нічога – прапала дзеўка. А яны жывуць, і ўжо нажылі двое дзетак: мальчыка і дзевачку. І яна так ужо саскучылася па мацеры, што невазможна. І стала прасіцца ў яго схадзіць дадому. А яму мала часу асталося да канца закляцьця. А яна вот плачыць перад ім. Ён поўз да сяла, як вуж, а яна дзетак вяла. Ну і дайшлі да вёскі, а сонца не зайшло – і ён яшчэ вуж. Ён застаўся ля вёскі, а яна пайшла дамоў. Як прыйшла дамоў, маці як прыстала, сашчапіла яе. Спрасіла, дзе тая была, што робіла. А тая і прызналася, і так выдала сікрэт. А нельзя было гаварыць мацеры, што зайшла за такога заклятога хлопца. А маці спрасіла, дзе ён зараз. Тая кажа, што ляжыць вужам за вёскай. Маці са злосці пайшла і парубала яго. Як зарубала маці вужа гэтай лапаткай, то салаўі сталі жаласна спяваць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 82. На тым свеце

Вось 7 январа – Каляды. Две нядзелі ўвечары нічога не робілі – кажуць: “Крывыя вечара, вечарушкі”. Саберуцца людзі, расказваюць адзін аднаму што пра што. Вот памёр чалавек, ідзёт па тым сьвеце, пасуцца авечкі. Такая трава добрая, а яны ўсё роўна бляюць, тыя авечкі. Гэтага чалавека ўстрэціў Бог на тым свеце, а авечкі ўсё бляюць. Дык ён пытаюцца ў Бога, чаму яны па такой добрай траве ходзяць і блеяць? Дык гэта,

кажыць, багатыя людзі. Як памруць, становяцца авечкамі. Яны ўсё роўна па добрым ходзяць, а ім мала.

Ідзець далей, а на другім месце ходзяць авечкі па такой пясчанай зямліцы, але ціханька. А чаму яны маўчаць? Дык Бог кажыць, што гэта бедныя людзі, яны прывыклі жыць бедна. Дык ім добра гэтак, і яны маўчаць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 83. Нябесны сторaж

Ногці, як стрыжэш, іх трэба за пазушку класьці, за пазушку. Як умрэш, там будзе высокая лесьніца, а ў цябе ёсьць ногці, і па лесьніце будзе лёгка ідці, на том свеце. Пасьля сьмерці некуды чалавеку па лесьніцы трэба лезьці. Некуды высока падымацца. Там ёсць сторaж. Прама на небе. Ён сніміць хрaсты. Тот чалавек, які хрэсьцік не насіў, калі ён памёр, яму купілі хрэсьцік, а ён гэтага не дастоін. Гэтыя хрэсьцікі вешалі на стоўб, ён на стаўбу як. Ты не насіў яго, ён табе не пара быў. А калі памёр – панадабіўся. Тады той сторaж знімае.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 84. Нябесная воля

Ну, гэта бываець, і случаі такія бываюць, што вот чалавек жыў бедна на зямлі, пасеяў пшаніцу. Пшаніца ўрадзіла харошая, дык ён выйшаў і гаворыць: “На лета я засею ўсю плошчадзь пшаніцай, зьдзесь пастаўлю амбар і зажыву на бальшое.” А яму хто-та з неба гаворыць: “Безумны ты, я гэтай ноччу душу тваю вазьму.” І ўсё, і ён за ноч памёр. Вось нехта ж сказаў. Ну, дак нельзя гаварыць так “заўтра то, заўтра сё”.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 85. Залатая люлечка

Ідуць дзеўкі, хахочуць, а стаіць старычок, маленькі, сапліваенькі… Ну ўсе тут хахочуць, а адна падышла, хвартухом нос абцёрла. Як абцёрла, і абразаваўся ў яе ў руках гаршок і з золатам. Ну і ўсе ж тады казалі, што паны закапывалі золата і заклінaлі. Адна дзеўка, ці яна падслухала заклязію, што нада 12 рук чалавечаскіх, бо як стануць капаць, найдуць, а яно ў глыб ідзець, гэта золата. Тады нехта там кажыць, што можна хоць якіх [рук], тады пасеклі курэй і 12 лапак узялі, і сталі капаць гэтымі лапкамі, і гаршчок і з золатам нашлі бальшы.

Як даўней жа жалі сярпамі, ну і вот жала, а рабёнак малы, даўней каганы такія, як люлька. Ну і мужык прыйшоў і яны пашлі, і гэтага рабёнка забыліся. Ужо вечарам прышлі дамоў, ну скаціна ж ёсць, спарадкавалі, а тады – ай-яй-яй! Агледзіліся, што гэтага малога кінулі, ну і пабеглі туды. Бягуць і гэдак крычэлі, што якраз люлечка як гарыць. Прыбеглі, а там насыпана столька золата – увесь абсыпаны ён золатам, гэты рабёнак. Ну і гэтага рабёнка схвацілі, усё гэта золата прыпёрлі дамоў, а як там, яны дужа бедна жылі, рэбят многа, а зямлі ня дужа.

Тады, як там разузнаў багач, што ўжо гэтаму рабёнку нехта золата насыпаў, тады спеціяльна кінулі гэтага рабёнка каля лесу ці дзе, і пашлі дамоў. Ну, падаждалі яны, пашлі, ажно прыходзяць, а ў гэнай калясцы воўк ляжыць, а рабёнка нет. Калі гэта праўда, гэта ўжо Бог так даў, калі тыя забыліся па беднаце, а гэты хацеў яшчэ болей багацьця.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 86. Адплата за грэх

Жылі мужык с жонкай. Ну, і жонка зьлюбілася з другім мужчынай. І вырашалі палюбоўнікі звесці са сьвету мужа. Калі ішлі яго тапіць, ён звярнуўся да Бога: "Аддай жа, аддай ім за маю смерць". Бог адказаў: "Не у год, не у два, не у 10, не у 100, але калі-небудзь аддам".

Тады колькі там прайшло. Гэтыя ужо, палюбоўнікі, сталі жыць разам і аднойчы да іх заехаў поп і застаўся на начлег. Калі гаспадыня гатавала ежу, у яе з рук усё вывалілася, і яйкі, і каўбаса. А поп гаварыў, што гэта не бяда, і што гора яшчэ прыйдзе.

Вот ужо клаліся спаць, поп паклаў свой крыж і кадзілу на стол. Потым усе заснулі. Толькі аднаму папову кучару не спалося. І раптам ён пачуў такія словы: "Хутчэй уязжайце адсюль". І гэта паўтарылася некалькі разоў. Кучар разбудзіў папа, і яны паехалі, а кадзілу і крэст заставілі. Як толькі ад'ехалі троху, пачуўся грохат. І тут поп успомніў, што забыў кадзілу і крэст. Калі яны вярнуліся, то хата правалілася і была вада, і толькі стол з кадзіламі плаваў. Калі яе забіралі, то і стол пайшоў пад ваду.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Качан Марыі Васільеўны, 1926 г.н. у в. Каз'яны Ушацкага р-на.**

## 87. Выгнанне з раю

Чорная магія сушчэствуець і белая. Белая – ад Бога выходзіць, а эта чорная – ад чорта. І яны былі ўсе ў Бога ангеламі, значыць, а патом кагда саздаў Бог Адама і Еву, пасадзіў іх у рай. Гэтым чарцям не панравілася,

што мы работаім, а яны не работаюць. Вот яны саблазнілі гэту самую Еву з’есць запрашчонае з дзерава яблака, а Ева і Адама саблазніла. Вот тагда Бог выгнаў іх із рая, а чорта таго наказаў. Ну, прывязаў на цэп, і яны палюць гэнан цэп. Вот гаварацЬ, што нельзя паліць лучыну. Патаму што, гэты агаркі яны сабіраюць, і гэтымі агаркамі палюць цэп. Ну, каб перапаліць яго. А як яго завуць, таго глаўнага, чорт яго знаець. Дзьявал какой-та.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 88. Маці, памерлая дачка і хросныя бацькі

Ну, гаворка была, што вот памёрла дачка, гадоў трынаццаць. А яна ўжо, маці, ссохлась, ня есьць, ня п’ець, вот каб увідзець яе. Ну, пашла ў цэркву, папрасілася ў папа што робіць, а ён кажыць: “Ну, бяры хросную, калі ёсць, ідзі ў дзвенаццаць часоў на крыжавыя дарогі, ты там увідзеш яе.”

Ну, яна ўзіла хросную і хроснага, гэдак і пашлі ў дзьвенаццаць часоў. Тыя хросныя ня відзяць, а яна, матка, відзіць. Глядзіць – ідуць старыя, з кійкамі ідуць, і такія, і сякія, прыгаюць гэткія, і дачка прыгаець. А тады будзець казаць: “Вон мой хросны татуся і мамуся, і трыбух кароў’і, што мяне насіў”.  А гэты хросныя ня відзяць, тады гэта матка ўжо кажыць: “Пашлі дамоў”. Ну, хросныя кажуць: “Ну, што відзіла?” – “Відзіла, і болей жалець яе ня буду, вас назвала так, а мяне кароў’ім трыбухом”. І не стала, жаласць атвалілася ўся. Гэдак кажуць. Усё кажуць, што хросныя луччэ, чым родныя, славяцца.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

### 89. Юр’я і цмок

Жыў раней цмок і кожны дзень з’ядаў па чалавеку. Прыйшла чарга дачкі пана, павялі яе на бераг ракі і прыехаў вызваляць паненку Юр’я. Ён забіў гэтага цмока. І цяпер ікона ёсць такая.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Качан Еўдкіі Філіпаўны, 1927 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

### 90. Палуночнае вяселле

Было такое, што аднойчы захварэў адзін малы хлопец. Была ў яго пілепсія, прыпадак. І знахар сказаў бацькам схадзіць у 12 ночы на могілкі. Каб на тры магільнікі схадзіць, і зняць 3 ленты, і прынесці іх, і ў кіпятку зварыць, і абмыць хлопца, і ён будзе жыць. Але калі яго не дапусцяць на могільнік, калі віхр будзе яго адкідваць ад магіл, то хлопец памрэ.

Бацька пайшоў на могільнік, на двух могільніках сарваў стужачкі, а як прыйшоў да трэццяга, едзе вяселле. Ён хацеў прайсці каля іх, а яго гэтае вяселле вярнула назад. Ён абратна, а яго як схваціла і аб зямлю кінула. І прыйшоў дамоў з двума лентамі, бо трэццяй не змог дастаць, і хлапец памёр.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Гарбінскай Леакадзіі Іванаўны, 1933 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

## 91. Хлеб, дудар і рыбак

Былі два браты: адзін – дудар, а другі – рыбак. Ну дык яны ўсе бавіліся, а каля жыта сільна не рабілі. Ну і аднаго разу пайшлі яны аглядаць свае палеткі. Ходзюць, скардзюццца, што мала што павырастала, што збажына нішчая. Скардзяцца ды прыгаворваюць: “Ня любіць нас Бог!” То тады хлеб, ну жыта, і гаворыць аднаму: “Кінь дуду – расьці буду”, а другому: “Кінь вуду – расьці буду”.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

## 92. Нябожчык дапамагае сіраце

Адна дзяўчына была і бацька ў яе памёр і матка. Усе яна гаравала, ня ведала, куды падацца. Ну і пайшла ў сьвет. А ніхто яе браць у работніцы ня хоча. Што ж рабіць? Зайшла яна ў царкву, памалілася Богу і пайшла далей. Глядзіць – па дарозе нейкі малец ідзець і гаворыць: “Што ж ты па начы ходзіш, зайдзі вунь у тую хату. Там работніца трэба”. Сказаў, а сам як ісчэз куды, як і не было.

Зайшла яна ў хату, што той малец паказаў, і праўда – там узялі яе. Гаспадары добрыя былі. А іхны старшы сын запанаравіў дзеўку гэтую сільна, ну і гаворыць бацькам: “Хачу браць яе ў жонкі”. Ну а бацькі: “Дзеўка яна добрая, рабацяшчая, як хочаш, то бяры”. Пажаніліся яны ўжо, то дзеўка і расказала, што нараіў ёй у хату гэтую прыйсьці нейкі малец. Які ён там быў, прымерна так расказала. Ну тады ўсе і спазналі, што гэта быў малодшы сын тых бацькоў, што быўшы памёр. Во так той сіраце на дарозе здаўся і нараіў. І жылі яны потым усяк добра.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

## 93. Грэх на Прачыстую

На Прачыстую адна баба надрала драні, нажарыла бліноў. Пад’ела і пашла ў лес. Хадзіла сабірала грыбы. Нашла бальшую паляну з грыбамі. Сагнулася іх сабіраць. Чуе, што нехта на яе глядзіць. Галаву падняла – ста-

іць жанчына ў белым адзетая. Гаворыць: “Як табе ня стыдна, на маё свята наелася бліноў і яшчэ ка мне ў лес прышла”. Пасля тога баба гэтая не адну работу на святы ня дзелала.

**Зап. Васілеўская Т. і Тухта В. у 2008 г. ад Гацура Таццяны Восіпаўны, 1931 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 94. Папараць-кветка

На Купалле, у шалёную ноч, папараць шукалі. Язэп казаў, што адзін з Пацвілля сарваў папараць кветку, усё знаў і ведаў, як птушкі гавораць. Як куды прыдзець у магазін, можыць ўзяць, яны і ня ўвідзяць. Але ж казаў, што чэрці дужа крутаюць у 12 часоў. Нада акружыцца і стаяць, і не выхадзіць за гэтага круга. Таму што ляціць поезд чарцей на цябе і пужаюць цябе, каб выйшаў (з круга – рэд.), каб выцягнуць і разарваць, што ты дужа разумны знаць усё. То поезд, то гадзюка на цябе. Ай, спужаецца і выскачыць, чэрці шчас падхвацяць. Хто-та ня выдзержыць, спужаецца…

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 95. Два браты

Была два брата – бедны і багаты. Была ў беднага адна карова і тую прадаў – грошы трэба. А ў багатага былі грошы. Па дароге ў Кіеў увідзелі старыкоў. І бедны астаўся іх карміць. Спас іх ад смерці. І пашоў у царкву. Багаты прышоў у царкву і відзіць брата на высаце, там дзе святыя за царскімі варотамі – Бог прыняў яго к сабе.

**Зап. вучні Велеўшчынскай школы у 2000 г. ад Аношка Ганны Іванаўны, 1914 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 96. Му́ка не му́ка

Парэнь забіў дзесяць чалавек. А патом адумаўся, што награшыў. Пашоў к папу. А поп сказаў: “Налажы каменьне ў мех і насі, пакуль не станіць му́ка”. Тады хадзілі яшчэ на прыгон – служылі пану пяць дней, а адзін сабе. Ішоў парэнь на прыгон. Увідзеў соннага пана і ўдарыў па галаве і стала му́ка. Ён высыпаў муку́ і набраў каменьня. Насіў-насіў, а каменне ў муку́ ня дзелаюцца. Пашоў да папа – чаму ня дзелаецца мука́. А поп сказаў, што Бог ужо ўсё прасціў.

**Зап. вучні Велеўшчынскай школы у 2000 г. ад Аношка Ганны Іванаўны, 1914 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

## ПАДАРОЖНЫ БОГ

### 97. Бог

Ну вот я думаю, што Бог не стары, малады, ну можа, гадоў так пад 50, яшчэ пры сіле. Гдзе-та ж ёсць нейкая сіла, на небесах, што ўсім распараджаецца, але ж цяпер гэта усё, як чэрці спутнікаў гэтак напускалі туды ў неба, і дождж і снег абыяк ідзецъ усё. Раньшэ зімы былі снежныя, а цяпер во зімой снегу нет, дык зато лета во, марозы стаяць і дождж ліе пастаянна.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Чэклін Алены Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Макараўшчына Лепельскага р-на.**

**98.** Бог – эта ўжо во, прымерна, мы гукаем, а ён тут ёсь. Эта невідзімая сушчаство, эта ня тоя, што ён там з барадой. Ня то, што ён як чалавек, як Ісус той. Ісус – быў сын яго, быццам. А Бог – эта, як кажуць, уся атмасьфера. Кажуць, ты думаеш, а ён знаіць. Ты хочаш так, а ён зробіць гэдак. Эта ж Бог знаіць, што ты думаіш.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 99. Чаму Бог больш па зямлі не ходзіць

Раней хадзіў Бог па зямлі, ну ніхто не ведаў, што ён Бог. Яму нада было, каб яму сказалі тры разы, што ён Бог. Аднойчы ён ідзе па вуліцы і бачыць, што мужык гародзіць забор з саломы. Бог гаворыць, што навошта гэты мужык з саломы забор гародзіць, ён жа паламаецца. А мужык сказаў, што ён заўтра памрэ. Бог тады кажа, што гэты мужык не памрэ і будзе доўга жыць. А мужык запытаў: “А ты што, Бог?”

Потым ідзе Бог па дарозе, а сабакі на яго так і брэшуць, уся стая наляцела. Но Бог пагаварыў з сабакамі, прачытаў малітву... Потым праходзіць міма мужык, гаворыць: “Усіх гэтыя сабакі кусаюць, а цябе не, ты, мусіць, Бог”. Ну вось, ужо два разы сказалі што ён Бог, а яму трэба яшчэ раз, каб сказалі.

Далей Бог ідзе міма касцоў і гаворыць: “Хай вам будзе Бог у дапамогу”. А яны гавораць, што каб ён падышоў да іх і закурыў. Сеў Бог з імі, пакурыў, пагаварыў да і пайшоў, а адзін з касцоў сказаў, што можа гэта Бог, а то ўсе гаварылі, што Бог ходзіць па зямлі.

Пайшоу Бог далей і бачыць, як баба жыта жне. Бог і кажа ёй тады, што хай ёй будзе Бог у дапамогу. Бог спытаў у бабы, ці ёсць тут дарога куды прайсці можна, а яна толькі нагу падняла і нагой паказала, каб ён вон

туды шоу. Бог і кажа, што яна ўсё жыцце ракам хадзіць будзе, бо яна не паказала яму дарогу, не паднялася нават.

Ідзе ён далей, ніхто яму не сустракаецца. Вось даходзіць ён да рэчкі, а там рыбакі ловяць рыбу. Бог падыйшоў і кажа, каб яму далі вуду закінуць. Закінуў ён гэтую вуду і вялікая рыба злавілася ў яго. Тады мужыкі кажуць, што ён, як Бог, таму, што колькі яны не кідаюць вуду, злавіць ня могуць. І вось, калі ўжо трэці раз Бог услыхаў сваё імя, ён адразу падняўся ў неба і знік. І вось з таго часу ён болей не ходзіць па зямлі.

**Зап. Каваленка С. і Кусмарцаў А. у 2009 г. ад Савіцкай Веры Сцяпанаўны, 1932 г.н. у г. Полацк.**

## 100. Спасіцель хадзіў з апосталамі

Эта не пры нашай памяці. Спасіцель хадзіў з апосталамі. Вот ён прыдзіць старычком у хату. Сматра як хто яго прыміць. Адна ўдава так ужо ў хаці чысціла, а спасіцель ішоў, а яна яго не пусціла ў хату. А ён ішоў жабраком. А яна: “Вот і цябе чорт нясець, да мяне сёння добры госць прыдзіць”. І ні пусціла яго, не дала нічога. А гэта быў Спасіцель. Затоя цяпер міласціню даюць жабракам. Ён хадзіў па зямлі, людзей сцаляў. І дажа сына ўдавы ўваскрасіў. І свінней зганяў у мора. Выгнаў бясоў. Бесі былі ў чалавеках. Ён іх выгнаў, дык яны ў стаду ў свінную. А тады ўсе паляцелі ў мора. Затоя жыды не ядуць мяса свіноя.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 101. Калі людзі жылі на небе

Раней Бог і людзі жылі разам. Бог пасеяў шмат каласоў. А адна гаспадыня з гэтага жыта спякла блін і абцерла ім сваё дзіця. За гэта Бог апусьціў людзей на зямлю і даў ім толькі адзін каласок, бо хлеб – гэта сьвятое.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Высоцкай Елізаветы Парфенаўны, 1913 г.н. у в. Бачэйкава Бешанковіцкага р-на.**

## 102. Шоснік

І цяпер кажуць, што ад Вяліканьня Бог на неба сойдзець і да Шосьніка ходзіць. Шосьнік – гэта за нядзелю да Троіцы. Семь нядзель ад Вялікання да Троіцы, а Шосьнік – на шостай нядзеле ад Вяліканьня, ў чэцвер. Кожны год Шосьнік бываець. Вось да Шосьніка Бог ходзіць па зямлі, а пасля, ёсць і іконы гэткія, і ідзець на неба. Ну, гукаюць людзі, як дожджу не было, ну, гаворaць, пойдзець на неба – з неба пашлець нам цеплату і дождж.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г., Радзюк А. у 2008 г. ад Катушонак Таццяны Іванаўны, 1931 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 103. Чаму робіць трэба

А яшчэ казала мама: “Дзеці, работаць нада”. Ну, жыла баба, была ў яе ўнучка і сучка. Баба гаворыць: “Ай, унучачка, я памру, ты пойдзеш замуж, а сучка здохнець, не нада нам нічога дзелаць”. Ну, і не сталі ні гарод сеяць, не сталі работаць. Ждуць смерці. А Бог здзелаў так, што баба не памёрла, унучка замуж не пашла і сучка ня здохла. Прышла зіма, сідзяць у хаце, мароз трашчыць, а вецер як завыець, а баба тады: “Унучачка, можа, нас на работку завуць?”

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

## 104. Бог судзьбы зводзіць

Вот мне свякроўка расказвала легенду такую, ці гэта праўда была, ці не… Ну, яна ж гаворыць, што гэта ў іхняй дзярэўні было. “Вот сядзіць старычок, вяжыць узялочкі, пускаіць на рэчку, а ідзець малады малец і к гэтаму дзеду. Гаворыць: “Дзядуля, што ты дзелаеш?”. А ён гаворыць: “Ды судзьбу, вот, вяжу і пускаю, вот, на ваду”. А малец той пытае: “Ну, дзед, скажы, а дзе мая судзьба?”. А ён звязаў узялок, пусьціў і гаворыць: “А вон твая судзьба – дзяўчына авечак пасець”.

Ну, гэтаму маладому мальцу так захацелася паглядзець на сваю судзьбу. Сабраўся, пайшоў туды. Глядзіць, а дзяўчына – маленькая, ніякая, уся ў вяснушках, рыжая. Яму так не захацелася гэтай судзьбы імець і падумаў: “Вазьму і зарэжу гэту судзьбу”.

Узяў ён ножыкам, ці чым там, і парнуў у жывот. Ну і жывець гэты малады малец. А гэта дзяўчына, доўга не думая, жывот перавязала хусткай і дамой бягом. Ёй там прывезьлі доктара нейкага з дзярэўні, зашылі ёй там усё. Слава Богу, што той малец ёй у жываце ўсё не разрэзаў. А мальца гэтага так і не нашлі.

Ну, надумаў гэты малец жаніцца. Раньшы езьдзілі ў сваты і высваталі яму гэту дзяўчыну. Свадзьбу згулялі, ляглі спаць. Ён яе па жывату пагладзіў і гаворыць: “Во! Адкуль у цябе рубец?”. Ну, яна яму і расказала, што было. Што ішоў нейкі малец, а яна авец пасьціла, а той малец пырнуў яе ножыкам. А малец той ляжыць і думае: “Во, што значыць судзьба! Ёсьць Бог на сьвеце, судзьбы ён зводзіць”.

**Зап. Хруцкая В. у 2005 г. ад Кавальчук А. Ф., 1922 г.н. у в. Палата Полацк. р-на.**

## 105. Як Бог пары састаўляе

Ідзець Бог, дарогу спрашываець ужо. Прышоў у хату. На печы ляжыць малец, нічога не панімаець. Ну вот ён спрасіў, куды яму тая дарога

нада. Спрасіў яго, а ён нагой туды, туды дарога, другой нагой – туды дарога, рукой – туды дарога. Ну, відзіць, што з яго толку не даб'есься ніякага. Ідзець дальшы, устрачаіць дзяўчыну. Спрасіў дарогу. А яна січас тут і паказаваіць дарогу, і вядзець, куды яму ўжо нада і паказаваіць. А ён кажа: "Ну, дзетка, табе во на печы гультай ляжыць".

Бог так пары робіць. А як жа ж ён пражывець? Ён жа не пражывець адзін. Таксама і жэншчыне. Чалавек, каторы трудалюбівы, хто знаець які харошы, як возьмець бабу – ні Богу сьвечка, ні чорту качарга.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў в. Гаравыя Лепельскага р-на).**

## 106. Бог пары састаўляіць

Мама мне яшчэ расказавала. Была дзеўка надта добрая. А дзяцюк ейны надта развратнік. Аж ангелы сталі плакаць і прасіць Бога: "Нашто саедзіняеш, такую добрую дзяўчыну аддаеш гэткаму?" А ён сказаў: "Саедзіні благога з добрым – будуць жыць, а багога з благім – і ўсё".

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 107. Як Бог гады дзяліў

Вот Бог сказаў каню сорак гадоў жыць. – "Ой, многа!" – "Каму хочаш, таму аддай. Аддай чалавеку". Карове трыццаць. – "Многа! Хваціць дваццаць". Дзесяць аддаець чалавеку. Сабаку дваццаць – многа. Дзесяць гадоў аддаець чалавеку. Кату тожа дзесяць і дзесяць чалавеку. Курыцы тожа дзесяць, курыца пяць аддаець чалавеку. Вот чалавеку назбіраецца сколькі, восемдзесят гадоў. Первых дваццаць гадоў жывець як чалавек. Патом пачынаець робіць як конь, патом сям'я, дзеці, доюць як карову. Пасля даеньня каровы, брэшаць як сабака, а тады стары ляжыць, як кот, а ў канцы выганюць на вуліцу, як курыцу ці петуха…

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Валянціны Іванаўны, 1949 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

**108.** Вот я вам небыліцу раскажу. Мы жывём, вот унучка. Бог сабраў карову, каня, ката і сабаку. Сабраў іх і дзеліць гады. Вот даў ён Юлі, унучцы, дваццаць гадоў, ну харашо, эта яна… А тады даець дваццаць гадоў карове. А яна кажаць: "О-ё-ё, эта столькі гадоў мяне за цыцкі дзёргаць!" А чалавек кажыць: "Аддай мне". – "Бяры". Каню даець дваццаць. А конь: "Што ты думаеш, нада воз столькі гадоў цягаць?!" Чалавек кажаць: "Аддай мне". Аддаў. Сабаку, той кажаць: "Столькі старажаваць!" І гэты аддаў. Кот, што мышэй столькі лавіць. І таго аддаў.

Вот жывець чалавек, і вы дапусцім, свае гады, расцвет, ні заботы нічаго. А тады жаніўся ці замуж – конскі век жывець, упрогся і цягнець воз. Калі ж дзеці падраслі, нада ім хаты будаваць, жывець кароўі век, начынаюць яго даіць... Сабаччы век, эта ўжо на семдзесят гадоў ён стаў жыць, ужо дзеці забіраюць дабро іхняя старажыць к сабе. А калі 90 ды 100 – эта ўжо каціны век. Вот мы і жалеем, і носім. А хто пажалеіць, а хто і каршня дась. Так і старому. Вы ж відзіця, як цяпер…

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф'і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 109. Божыя слядкі

Казалі, Бог хадзіў па зямлі. І вот, кажуць, ідзець Бог, а чалавек жыта сее. А адзін старычок старанькі, барадаценькі ідзе і тада кажа: "Памагай Бог!" А той чалавек яму: "А тут і без Бога вырасцець, зямля добрая". Пайшоў гэты старычок, і ў яго нічога не вырасла, у гэтага чалавека. Толькі дзе ішоў гэты Бог, там па слядках вырасла, а дзе ён пасеяў, там не вырасла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 110. Як Бог дасьць, так і вырасцець

Старуха адна расказвала, што адзін чалавек агарод так абработаў, што зямля мяккая-мяккая. Ідзець Бог, ну, і пытаецца ў яго: "Ну, што ў цябе тут вырасцець? На гэткай зямлі нічога не вырасціць." – "Вырасціць, вырасціць". Ідзець да другога, а там такое курганьне, вандольле, ну, страшна – зямля не вырабатаная. "А ну што ў цябе тут вырасцець?" – "Ай, як Бог дасць, так і вырасцець." І праўда, у гэнага не вырасла, а ў гэтага ў курганах і вырасла.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

## 111. Час сеяць

Быў такі случай. Сеець мужык, а ідзе нейкі старык і кажа: "Ай, ты рана сееш!" – "Не, не рана", – той яму адказвае. Тады старык гаворыць мужыку: "Хадзі, пакурым!" Мужык закурыў са старым, пастаялі яны. Старык і гаворыць: "А вось зараз сей!" Што цікава – на полі ў мужыка як адрэзана: што да спаткання – амаль прапала, пасля – добры ўраджай.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Максёнак Марыі Пятроўны, 1927 г.н. у в. Сенькава Верхнядзвінскага р-на.**

## 112. Саламяны плот

Вот ідзець Бог, а чалавек гародзіць з саломы плот. Ён тады кажа: "А чаму ты, чалавечак, з гэткай саломкі плот гародзіш". "Ай, – кажа, – Божа, мне нядоўга жыць, я скора памру". Тады Бог сказаў: "Тады ты, чалавечак, не будзеш знаць, калі ты памрэш". І вот цяпер людзі не знаюць, калі памруць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 113. Па дарозе Бог хадзіў

Расказвала мая мама. Раней дзяцёнак ідзе, запросіцца папісаць, дык маці яго звадзіла на бок – "Не пісай на дарожку, мой сынок, тут Бог ходзіць". На жыта, дзе жыта, ніколі гэта не дзелалі.

Па дарозе Бог хадзіў, ну і адзін старычок (раньшы ж знали, калі памруць) нагнаў кольлека, саломкі – плот гародзіць. Ідзець Бог і кажа: "Дзед, а што ты плот з саломы гародзіш, ён жа някрэпкі будзе?" – "На мой век хопіць, я тады і тады памру". Тады Бог здзелаў так, што мы не знаем, калі мы памром. Во гэдак мне мама расказвала.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шыпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

## 114. Саламяны плот

Ну, такое расказвалі, што шоў Бог. А мужык гародзіць саломай плот. І Бог спрашвае: "Што вы так вот, саломай гародзіце?" А ён гаворыць: "Я заўтра памру, так для чаго мне гарадзіць яго?" Вот Бог і здзелаў, штоб вот іменна, каб не знали людзі, памруць када. А то знали людзі, кагда чалавек памрэць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 115. Як людзі перасталі ведаць калі памруць

У нас кажуць, што ідзе Бог, а баба і дзед удваіх старэнечкія сядзяць і такая хатка абыякая, тутака ўгалочак толькі закрыты, штоб дождж не намачыў. А Бог кажа: "А чаго гэта так сядзіце, што тут дождж ідзе, а вы толькі так?" – "А нам скора ўміраць, нам нічога не нада астаўляць". – "А, дак вот я так і сдзелаю, што знаць ня будзеце, калі ўміраць".

Цяпер і не знаем, калі ўміраць. Збіраем дабро, збіраем і астаўляем нашым дзецям.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Марыі Іванаўны, 1923 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 116. Як людзі перасталі ведаць, калі памруць

Саламяны плот гарадзіў чалавек. Зналі людзі, калі памруць. І вот ужо чалавек пажылога возрасту, нямнога яму аставалася да сьмерці, ён знаў. Вот і плот гарадзіў саламянны. Бог ідзець і гаворыць: "Ну чаго эта ты такі плот гародзіш?" А ён гаворыць: "А мне ж мала асталося пажыць, на мой век хваціць". – "Ах, раз так, дык вы толькі на свой век рашчытываеця?!" Дык вот атняў знанія, каб ніхто ні знаў. Вот чалавек цяпер жывець і ні знаець, можа, ён чэраз тры мінуты памрэць. А ён усё: і тоя нада, і тоя.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

## 117. Бог і спешня

Вот, Бог па зямлі хадзіў – гэта мама расказвала. Ейная мацера, ужо мая бабця, яна пражу прала, ткаць ткала. І садзіцца, і пяець, ну а ўжо сонца на захад, і прыходзіць старычок у хату: "Спешня!". Дык яна маўчыць. Тады са злосці: "Дзякуй!", а ён: "Што ты злуеш, не нада злаваць, не нада з песнямі за кросны садзіцца, а нада перахрысціцца і памаліцца". Ну і тада яна ужо стала з ім гаварыць, што гэта жабрак : "Што даць?" – "Нічога мне не нада". Ну а тады рукамі павеў гэтыя кросны, ну вы можа не знаеце іх, можа відзелі, і на гэтыя панажы. І ўжо кажыць ей: "Станавіся смела! Смела станавіся! Спешня!" І абратна рукамі павадзіў па гэтых кроснах, і перасталі у яе рвацца гэтыя кросны. А "спешня" – гэта раней так гаварылі, калі ткуць, дык каб хутчэй. Ня ведаю, Бог ці не, але калі яна вылезла патом да аднаго саседа, да другога: "Быў у каго?" – "Не, не было". Так вось якое дзіва.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

## 118. Бог і чалавек

Гэта ішоў Бог па зямлі, глядзіць – робіць чалавек забор з саломы. – "Чаго з саломы гародзіш?" – "А я заўтра памру, ну мне нашто – саломы хваціць". Прыйшоў Бог дамоў і гаворыць, што я так зраблю, што будзеш рваць на ўсе рукі, і не будзеш знаць, калі памрэш. З таго врэмені так і ёсць: значыць, да паследняга дня чалавек жывець а не знаіць, нада будзець ці не.

**Зап. Аўсейчык У. у 2009 г. ад Патэза Івана Фёдаравіча, 1934 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

## 119. Бабка і Бог

Расказывалі, што даўней Бог па зямлі хадзіў. Была рака, над якой стаяла хатка.Жыла там старуха і прыйшоў Бог туды.А яна ня знала што гэта Бог. Ну а ён просіцца начаваць і яна яго пусьціла. На заўтра яна яму

есьці строіць, а ён кажыць: “Я не хачу есьці.” І ён кажыць: “Пачынай якую работу рабіць, каб яна была табе палезная”. Яна пачала палатно рэзаць. Рэжа, рэжа... І столькі ў яе стала палатна, што яна яго прадавала і прадавала. І ёй рабіць болі ня нада было. А старычок той і пайшоў.

А цяпер ужо Бог ня ходзіць па зямлі, бо многа мацернымі словамі ругаюцца. А гэта, калі так ругаесься, ты тры мацеры зьневажаеш: Божую мацер, Зямлю мацер і Родную мацер.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Кандрацёнак Ады Пятроўны, 1930 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на .**

### 120. Бог, чалавек і саламяны плот

Ну можа во гэдак сама, ідзець Бог па зямлі, а мужчына гародзіць забор саламяны. А Бог спрашаваіць: “Зачэм саламяны забор гародзіш?” А ён гаворыць: “А я заўтра памру”.

Так вот Бог так зробіў, штоб не зналі людзі і не астаўлялі работу, патаму шта нада астаўляць і патомкам што-нібудзь. А раз я заўтра памру, значыць мне і нічога не нада. Паэтаму Бог зробіў так, штоб не зналі. А раньша зналі: вот я сягоння памру – памыецца, прычэшыцца, ляжыць і ўміраіць.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

### 121. Падарожны Бог

Нашы дзяды, не бацькі, а дзяды казалі, што Бог па зямлі хадзіў. І што дажа было і песня зложаная: “Хадзіў сам Бог, жабруючы, грэшных людзей прабуючы, прышоў Бог да Дуная, а ў Дунаі-рацэ дзеўка ваду брала. Бог папрасіў: “Дай мне, дзева, вады папіці”. А яна гаворыць: “Гэта вада не чыстая, лісцем дрэва западае”. А Бог атвечаець: “Сама ты, дзева, не чыстая, ты сем сыноў парадзіла і ў Дунаі патапіла”. Дык гэта дзеўка там у обмарак пала: адкуль гэты старык знаець? Яна ж не знала, што гэта Бог”.

**Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 122. Божы хлеб

Хадзіў Бог па зямлі, а ў бабы абробіўся рабёнак і яна ўзяла блін і падціраць яго стала. І Бог тады загневаўся і зачаў сморгаць знізу ўверх каласок. А тады сабакі і каты сталі прасіцца, што мы з голаду здохнем. Нас жа хазяін ня будзець карміць.Ну, тады, дакуль яны засьпелі папрасіць, датуль Бог і сасморгнуў. А тады яшчэ. Ішоў Бог, а чалавек сеяў жыта. Тады

Бог кажыць: “Радзі Божа”, а ён яму: “Я і без Бога знаю, што ўродзіць”. Дык жыта вырасла толькі там, дзе слядочкі Бога засталіся. а дзе не – усё прапала.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Латышонак Соф’і Восіпаўны, 1923 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

## 123. Бог вызначае долю

Ішоў старычок, зашоўся, папрасіўся начаваць, ну яго бабка пусціла. А за гэтай бабкай прышлі, там баба адна ражала, прышлі бабы. А яна: “Не, не пайду”. А ён кажыць: “Нельзя атказываць, ідзі. І як пайдзеш, паглядзі ў акно, што ім будзець даваць там Бог”. А тая баба радзіла аж трайню. Ну і прышла туды, пад акно і глядзіць: адзін рабёначак калышыцца, другі – плаваець па вадзе, а трэці сядзіць – вугалькі перасыпаець.

Прышла яна тады, старычку расказала. Дык ён кажыць: “Вот, бабулька, што, той, які калышыцца, – павешаецца, той, што плаваець па вадзе, – утопіцца, а гэтат, каторы вугалькі перабіраець, – той будзець дзеньгамі рукавадзіць”.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 124. Бог долю дае

Прыйшоў у дзярэўню нейкі стары і папрасіў у людзей пераначаваць. Але ў хату яго не пусьцілі, падумалі, што жабрак нейкі. Адвялі яго ў хлеў. А раніцай, як пайшла гаспадыня карову даіць, то глядзіць, а з хлява – сьвятло ідзець! Глядзіць тая баба, – а ў хляве ангелы стаяць, пытаюцца ў дзеда якую долю дзіцям даваць, што ў тую ноч па сьвеце панараджаліся. Вось тут і баба тая, і ўсе людзі зразумелі, што ў іх у хляве сам Бог начаваў.

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Валасянюк Ніны Андрэеўны, 1937 г.н. у в. Малыя Дольцы Ушацкага р-на.**

## 125. Бог прадказвае долю

Мая мама расказывала, што ішоў старычок і зайшоўся к адной бабі. А баба, што яна там робіла? Ён просіцца начаваць. Яна: “Ай, не пушчу”. – “Пусці”. Пусціла яна яго, так ужо стаў прасіцца. Прышла за ей радзіха. Не, за ёй прыбег, каб пашла к радзіхе, раджаіць. Баба тая: “Ай, не пайду, не пайду”. А гэны старычок будзець гаварыць: “Нельзя атказываць, ідзі. Нельзя. Глядзі, родзіцца ў яго трайня дажа. А як пакупаеш, будзеш назад ісці. І зайдзіся ў сарай і паглядзі, што яны там робюць”.

Яна зайшлася ў сарай і глядзіць: адзін гутатаецца, другі вугалькі перакапываець, а трэцьці ў вадзе пялёшчыцца. Яна прышла і расказала,

што яны робюць. Ну вот, старычок тады: "Эты, што гутатаецца, павесіцца, што вугалькі шчытаець, будзець жыць і грошы лічыць, а што палошчыцца, той утопіцца". Эта мама мая расказавала.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Бугай Анастасіі Якаўлеўны, 1935 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 126. Бог вызначае долю

Ну, вот я вам раскажу. Гэта яшчэ мама мне расказвала. Вот была, даўней жа ў паноў былі служанкі. Ну і вот гэты ўжо пан выстраіў дарожку, высціліў, каўрамі паслаў там усё, а ідзець у лапціках жабрачок. Ён кажыць: "Што ты, жабрак, ідзеш? Я, – кажыць, – Бога жду". Вот і прыйшоў жабрачок, і папрасіўся начаваць. Ну, служанка сваю кравацъ аддала, а сама на печ палезла: "Ляжы, – кажыць, – дзядок". Ну, гэта прымерна, як нішчы хадзіў. Яна яму есьці дала, гэта служанка, і палажыла спаць на сваю кравацъ, а сама на печ палезла. І чуець яна – у вакно стучыцца нехта:

– Божа, Божа, – кажуць, – там двайню радзіла, якая, – кажыць, – доля яму?

– Ну, адзін, – кажыць, – будзець жыць і дзе ён во начуець, во гэта іменіе яму застанецца. – Гэта старычок кажыць. "А гэты сын, другі, утопіцца".

Ну, добра. А гэта ўсё слухаець служанка. Тады яшчэ стучацца у вакно:

– Божа, Божа, там, – гаворыць, – авечка каціласся. Двух баранькаў прывяла. Якая яму доля?

– Ну, – кажыць, – адзін к рукам прыйдзець, а другога воўк з'есць.

Служанка устала і пану свайму кажыць:

– Пан, – кажыць, – у нас Бог паставаў.

– Ну што ты кажыш, лапытнік нейкі. Божа прыйшоў бы адзеты.

І яна стала расказваць і гэты пан паехаў туды, адкуль, ён жа сказаў з якой дзярэўні, ўсё. Праўда, авечка каціласся. Паехаў туды, дзе гэта радзіла. Праўда, радзіла. Пані, як паслухала гэта ўсё, пані памёрла, а ён на гэтай служанцы пан жаніўся. І яна радзіла сына, гэту дачку і ён прыйшоў у прымакі сюды. Во, гэта яшчэ мама мая расказвала. Даўней Бог хадзіў.

**Зап. Красько Г. і Радзюк А. у 2008 г. ад Крыўко Анастасіі Сідараўны, 1931 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 127. Бог кануе лёс

Вот прыйшоў Бог к беднаму чалавеку. К багатаму чалавеку ён папрасіўся, той не пусціў яго. "Ідзі ты, – гаворыць, – старык, дзе быў!" А бедны гаворыць: "Ну, я б цябе пусціў у хату, ну жонка раджаць будзець

сягоння, плоха ей. Схваткі”. А раньшэ ж раджалі дома. І хата ж небальшая. Бог гаворыць: “Дык я ж у куточку пасяджу, толька пусці на ноч”. Ну ён і разрашыў яму.

Ну вот радзіўся ў іх сын. І ён яму прадсказаў судзьбу. Этат старык. А гэта не старык быў, а Бог. І гаворыць: “Ваш сын будзе расці. Не балець, нічога. Да свадзьбы”. А ў свадзьбу ён утопіцца ў калодзесі”. А ў іх ў дварэ калодзесь. Да і ў нас быў калодзесь. Ну вырас этат, дваццаць лет яму, этаму мальцу. Ну а бацька з маткай ўжо знаюць, што расказваў. Узялі, калодзезь забілі гваздамі. Увесь, штоб не ўтапіўся. Дык ўсё раўно, прыйшоў яго час, ён лёг на калодзезь і памёр. У свадзьбу. Праўда эта ілі лож, вот такая вот.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

## 128. Бог дае долю

Ну чула, адна бабка расказвала, ішоў Ісус Хрыстос па зямлі, ну і зайшоўся ў багатую хату. Прасіўся пераначаваць, надзеў армякі, як даўней, як шанель абарваны такі, с торбачкай, у лапціках, ну і зайшоўся ў хату, прасіўся пераначаваць. Гэтыя багатыя не пусцілі яго: “А дзе тут, у нас месца няма!” І каго хто абарванца дужа пусціць. Ну і пайшоў ён, ідзе ідзе па вуліцы і тады стаіць хатка зусім невялічкая, маленькая. Заходзіць да гэтай бабкі: “А вот іду, замарыўся, ці можна ў вас аддыхнуць?” – “Ой, дзетка, цеснавата, няма дужа дзе, але памесцімся”. І пусціла, палажыла яго на куце, на гэтай на лаве паслала што-небудзь. Даўней – не цяпер людзі жывуць.

Ну ён спіць, аж прыходзяць стукацца ў вакно. А гэта бабка хадзіла па родах, як ражалі, а ён запытаўся, хто прыхадзіў. – “А вот жэншчына ражаіць нада ў помашч ёй”. – “Ну, – кажа, – як будзеш ісці, глянь праз акно, ну што там будзець у хаце”.

Ну вот ідзець бабка, глядзіць у вакно – аж сядзіць дзеўка за калыскай, калышыць рабёнка. Прыходзіць да дому гэта бабка. Пытаецца: “Ну што ты там, бабка, відзела?” – “Я ішла, – гэта ж ён напэўна папытаўся хто радзіўся, – паглядзела праз акно, но аж сядзіць дзеўка за калыскай і гэта дзеўка радзіла”. – “Вось, – кажа, – вырасце яна і народзіць бугра”, – як раней звалі багур. Багур ну гэта нагуляіць, без бацькі.

Ну а другі раз пайшла яна, ну не забудзься паглядзець у вакно. Яна паглядзела ў вакно, аж стаіць салдат з руж’ём ля калыскі і там і так стаяў.

– Ну што ты бабка відзела?

– Гляжу праз вакно, аж стаіць салдат ля калыскі.

– Гэта значыць, што пайдзець у вармію і не вярнецца – яго уб’юць ілі сам застрэліцца”.

**Зап. Аўсейчык У. у 2009 г. ад Драмковіч Галіны Сяргееўны, 1934 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

## 129. Салдат і Богава доля

Салдат ішоў дамоў, ну і не дайшоў, папрасіўся на начлег у адных людзей. А ў эта врэмя как раз рожаніца ражала, а даўней, еслі рожаніца ражаіць, Бог долю надзеляіць, стаіць пад акном і гаворыць, надзеляіць доляй: табе такую, табе такую…

А не было карваці, дзе спаць этаму салдату, паслалі на скамейкі, возле акна. І вот рожаніца ражаіць дзевачку, а пад акном нехта гаворыць: “Ну, салдат, эта тваё сужанае ражаецца”. Эдак ён думаіць: “Як жа я буду яе, эту самую дзевачку, браць замуж? Я ж ужо с арміі іду, а яна ж маленькая саўсём”. Ну і гэдак яму Бог наказаў ужо. І ён тады думаіць: “Вазьму яе зарэжу, гэту дзевачку, як эта я яе буду замуж браць”. Ён узяў яе па жывоціку шарануў, но не зарэзаў, там ранку прапароў і сам выскачыў. Дзевачка тут эта стала крычаць, і к врачам, і спаслі яе, зашылі эту ранку.

І вот салдат жывець, а доля яго расцець, эта дзевачка. І каснулася, вайна стала, і ён прыехаў у этыя края, і ўлюбіўся ў эту дзевачку, і ажаніўся, ажаніўся з ёй. А патом жа, як каснулася, кажаць: “А што гэта ў цябе на жывоціку такая рана?” А яна яму расказаваіць, гаворыць: “Вот мама мяне ражала, а салдат ішоў, і эта судзьбу прыдсказавалі яму, ён мне, – яна ж ні знала, што ён гэта, – учуў эта, ён хацеў мяне са свету збавіць. Мяне зашылі, і эта ранка асталася”.

Ён тады і ўспомніў. Як эта можаць быць, ня можаць быць, каб эта судзьба такая была! Ну ён ажаніўся і забраў яе к сабе. Ну вот пайшлі, жылі яны там, а тады ідуць яны на госці, ён думаіць: “Ну ўсё роўна я не буду з этай судзьбой жыць, каб эта судзьба такая наказаная, не буду жыць”. Дайшлі яны да бярозкі, бяроза стаяла такая, а патом ён яе задушыў, эту сваю жанчыну і пад бярозкай этай закапаў. А яна гаворыць: “Ну, бярозка, буць мая свідзецельніца, штоб ужо зналі, дзе я пахаронена”.

І вот ён ужо ажаніўся тады, гэта ж самае, з другой, і дзеці з другой, і ўсё глядзіць на эту бярозку, глядзіць – аглядаваецца на эту бярозку. А бярозка: “Ну скажы, чаго, када кажды раз ідзеш, на эту бярозу аглядаваешся?” А ён гаворыць: “Я закапаў тут сваю жонку даўнюю”. Ну вот і высветлілася, яна стала, эта бяроза, свідзецельніцай, яго забралі, яго судзілі.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 130. Богаў аганёк

Былі багаты брат і бедны. Бедны пайшоў да багатага аганьку папрасіць у яго. А хацеў хуць калатухі зварыць рабятам. Выйшаў багаты, дажа ў хату беднага не пусціў, кажа: “Няма ў мяне нічога!” Ну, што дзелаць, пайшоў бедны ад яго. Хадзіў, хадзіў ён, бачыць аганёк у лесе. Пайшоў туды. Глядзіць ля вугалькоў сядзіць стары. Стары яму гаворыць: “Гэта не вугалькі – гэта золата, бяры, колькі табе нада. Толькі не хваліся нікаму”.

Бедны набраў золата і пайшоў дамоў. Ну, а як ішоў ля багатага, ня выцярпеў, брат усё-такі. Узяў і пахваліўся яму. Багаты аж затросься: яму золата таксама захацелася. Распытаў беднага, дзе той золата ўзяў, і пабег у лес. Прыбягаець, а там той стары сядзіць. Багаты яму і гаворыць, каб і яму такіх аганькоў даў, як беднаму. А стары усьміхнуўся і гаворыць: “Паглядзі, вунь колькі у цябе аганькоў”. Аглянуўся багаты, а ягоная хата, як сьвечка гарыць.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Марозавай Хрысьціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухова Расонскага р-на.**

## 131. Падарожны Бог

Мужык плот гарадзіў саломай. Ідзе Бог і гаворыць: “Ну што ты саломай гародзіш?” Ён: “Усё роўна скора памру, нашто мне жэрдзі?” Ну Бог і зрабіў, штоб не зналі, калі памрэм. Ідзець далей – баба жыта жнець. Бог спрашывае: “Пакажы дарогу”. А яна, не разгінаючыся: “Туды ідзі” – нагой яму паказала. А Бог адыходзіцца і гаворыць: “Каб цябе век некалі было”. Ну, бабам і ўсегда некалі.

Ідзець далей – там стары касіў. Бог падышоў і тожа дарогу спрасіў. А мужык гаворыць: “А давай закурым?” Селі, пакурылі. Мужык усё расказаў, паказаў. А Бог гаворыць: “А каб у цябе ўсегда урэмя было”. Вот мужыкі сядзяць, кураць і ім ўсегда врэмя хватаець.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

## 132. Саламяны плот

А эта раньшэ гаварылі, што хадзіў старычок. Вот гавораць, адзін мужык забор дзелаець і слабенькі забор, ну вот Бог ідзець ды гаворыць: “Пачаму ты такі забор строіш слабы?” А ён гаворыць: “А я ўжо скора памру”. Людзі раньшэ зналі, калі памруць. А Бог тады ўзяў ды здзелаў так, штоб людзі не зналі, калі паміраць будуць. Гавораць, паміраць сабірайся, а жыта сей.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Волкавай Таццяны Сідараўны, 1919 г.н. (нар. у в. Паршына Горацкага р-на Магілёўскай вобл.) у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 133. Як людзі перасталі ведаць пра сваю смерць

Два старычка майстравалі плот. Адзін пераплаўляў саломай, а другі – лазой. У гэты час міма праходзіў старычок і спытаў, чаму яны так робяць. Адзін адказаў, што заўтра памрэ, і таму робіць плот нетрывалы. А другі ведаў, што яшчэ будзе жыць. Таму з той пары Бог зрабіў, што ні хто не ведае калі ён памрэ.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Мамякі Анастасіі Мікалаеўны, 1911 г.н. у в. Мамякі Ушацкага р-на.**

**134.** Даўней [чалавек] саламянны забор строіў. Даўней Бог здзелаў так чалавека, што ён знаў, калі памрэць. Знаў, сколькі жыць. Пераплятаіць саломай. Ідзець Божанька і пытаіць:

– А чаго ты саломай пераплятаеш?

– А хваціць на мой век. Мне асталося мала жыць.

– Ах, – Бог падумаў, – нада, каб не знаў, а то ня будзець работаць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Кузьмін Ефрасінні Ягораўны, 1931 г.н. у в. Зарэчча Ушацкага р-на.**

**135.** Адзін чалавек гарадзіў плот з саломы, а Бог ідзець і пытаецца: Што ты, чалавек, дзелаеш? Ці многа твая салома пастаіць? – А я ўжо заўтра памру. Раньшы знали калі памруць. А Бог здзелаў, што не знаюць. Цяпер з саломы ніхто не гародзіць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Любові Філіпаўны Хахловай, 1926 г.н. у в. Вяркуды Ушацкага р-на.**

## 136. Каціная і сабачая доля

Расказваў бацька, як Бог па зямлі хадзіў. Гэта бацькавы славочкі. Жыта было, зараз сукавеначкі, а раней на кожным быў каласок. А калі баба падцерла малому блінам попу, так Ён сасмаргнуў, господняя сіла сасмаргнула і аставіла толькі адзін каласок. А каласок адзін Бог аставіў толькі на катоў і на сабак. Божачка не залюбіў гэтага, што так людзі з хлебам.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Гаспадарак Тацяны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Гурэц Чашніцкага р-на.**

**137.** Мы жывём на кашачай долі. На кашачай, на сабачай. Даўна тожа нам расказвалі так. Раней колас рос ад зямлі. Ну, людзі так ужо разбаловаліся. І Бог вырашыў зрабіць так, каб яны жылі паскрамней, эканамней жылі. І пачаў цягнуць аднізу: хто першы закрычыць, каму хлеб нада. Усе маўчаць, а як ужо да канца падходзіць, сабакі сталі брахаць, каты мяўкаць. Вот і астаўся колас такі кароткі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**138.** Жэншчына адна ў нас катоў сільна любіць. Вот яна, аўталаўка прыйдзець, купіць калбасы, ну там не прадаюць каб 200 – 300, 400 грам, і адразаець – каты брадзячыя, дачнікі. Так яна гаворыць, што мы жывём на кашынай долі. Я гавару: як гэта, на кашынай? Вот аб'ясні мне, я чула, а паняць не магу. Ну яна гаворыць, што ўжэ даўно якія там благія людзі хацелі унічтожыць хлеб. С'ядобнае вот такое – усё хацелі ўнічтожыць, штоб такога не было. А каты і сабакі адваявалі. Бог на гэты час ужо там прышоў, калі яны змагаліся з гэтымі людзьмі. Бог гэтае ўвідзеў, і Бог здзелаў, што ў нас хлеб астаўся, і ўсякая жыўнасць, значыць вот і названьне, што на катовай долі. Яны для нас долю такую, што мы вот тожэ вот жывём.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

### 139. Сабачая доля

Колас рос такі бальшы і на кажным сукаленцы было па коласу. А, дык гэта людзям стала плоха, што многа ўраджаю. І ўжо недавольны былі гэтым. Ну і Бог тады ўжо рашыў сасмаргнуць каласкі. Адзін сасмаргнець, ніхто нічога не гаворыць, другі сасмаргнець, ніхто нічога. Эта ўжо харашо будзець. Ну ўжо і разагнаўся, што ўсе сасмаргнець, і нічога не аставіць. І тока да пасьледняга каласка, а сабака гаўкнуў. Дык вот мы жывём на сабач'яй долі. Сабака забрахаў. Эта ён кінуў сабаку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

**140.** Сільна даўно колас, так старыя расказывалі, быў да кораня. Ну, і жаць было цяжка такі колас. І жэншчыны сталі тады прасіцца: "Госпадзі, хоць бы ўнізіўся, хоць бы маленькі стаў колас". Толька сталі выць, сразу колас стаў прападаць. А сабакі, гаворać, вылі крэпка, вылі. І наце вам лягчэй – стаў колас такі, як сейчас. Гэта так Бог зрабіў.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

**141.** Адна баба жыта жала. А гэты колас быў ад карня да верху. Вяжыцца гэта саломка, вяжыцца, а тады не вязалась. Тады жанчына ўзяла гэты колас, а ён крышацца. Тады яна: "Штоб ты праваліўся!" А тут Бог недалёка. "Ну раз так! – узяў ён гэты колас ад карня, як шмаргануў доверху. Аж сабакі завылі. – Няхай тады ня будзе колас ад зямлі да макушкі". Сабакі завылі, тады ён астанавіўся. "І будзеце, – гаворыць, – каля гэтага

коласа жыць”. Гавораць, мы за сабачай доляй жывём. А каб быў колас ад зямлі да верху, некуды было б хлеб дзеваць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

### 142. Чаму людзі жывуць на сабачай і кацінай долі

Неяк бабуля расказывала, што Бог чаго зробіў каласкі гэткія маленькія. Ішоў Бог, зайшоўся к бабцы, а баба пякла бліны, а малы абробіўся. А яна ўсё раўно пякла бліны, і яму жопу падцёрла. А ён сказаў: “Вот цяперака хлеба ў вас ня будзець”. І тады гэты хлеб ён ужэ ўбіраў з коласа, а сабакі і каты як сталі драць, і затое малыя каласкі асталіся. А казалі даўней былі бальшыя такія, а ці то праўда было. Дык усё кажуць, на кацінай долі жывём ці на сабаччай.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**143.** Прыйшоў Бог у хату да адной жанчыны, а яна бліны пячэць. Відзіць, а жанчына падцёрла блінамі жопу дзіцёнку. Даўной на сцябніцы было многа каласкоў, і вырашыў бог знішчыць жыта. Тады прыйшлі да яго каты і сабакі і папрасілі, каб ён аставіў хоць бы адзін каласок на сцяблінцы. Бог пажалеў іх і вырашыў пакінуць адзін каласок на сцяблінцы. З таго часу гаворуць, што людзі жывуць на сабачай і кацінай долі, і цяпер сабак і катоў трэба карміць пярвей.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Качан Еўдкіі Філіпаўны, 1927 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

**144.** Жыта такоя расло. Каласы ад зямлі. А людзі былі такія ў Бога няверуюшчыя. Што гэта хлеб мы ядзім чый. Катоў білі, сабак. Усіх. Як стаў Бог хлеб уністожаваць, каб людзі ўжо гэдак не рабілі, дык сабакі і каты сталі гвалт крычаць, прасіць у Бога. Дык Бог аставіў ім колас. Бог стаў хлеб уністожаваць затоя, што людзі сталі скаціну не жалець. Што хлеба многа з’ядаюць. Дык каты і сабакі сталі прасіць. Мы жывём на кацінай і на сабачай долі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

**145.** Баба жнець жыта, і рабёнак там з ей ці сядзеў, ці што. А яна схваціла блін і падцёрла яму бліном жопу. А Бог пастаяў і кажаць: “Будзіш ты помніць!” Атыйшоўся троху і ўзяў за колас. А раньша колас быў ад

самай зямлі. Як пацягнуў. Дык мы жывём на сабаччай долі. На сабаччай долі жывём, сабак нада жалець. Бог узяў так колас і цягнець уверх, а сабакі завылі: што мы есці будзем? Тады Бог паслухаўся, што сабакі галодныя будуць, сабак паслухаў і кінуў тыя каласкі. Во, каб не тая баба, было б жыта касматая. Баба мая ўвераіць, што эта Бог здзелаў усё.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Маляўкі Ганны Сцяпанаўны, 1930 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

**146.** Ішоў Бог, а баба жыта жала і рабёнак у яе быў. Стаў плакаць, абдзелаўся. А яна ўзяла яму жопу блінам абцёрла. Вот цяпер і гаворуць – жывём мы на катовай і на сабаччай долі. Ага, а то стаў Ён колас ссоўваць. Хацеў ссунуць усё, каб нічога не было. Як сталі сабакі брахаць і каты курняўкаць. Во такоя сукалена, аж дасюль было. Ён дасунець, а сабака забрэшаць. Тады ён абратна кініць, пасунець, а кот закурняўкаіць. Так вот колас астаўся, а так быў бальшы.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Надзеі Канстанцінаўны Саўковіч, 1926 г.н. у в. Кугоні Ушацкага р-на.**

**147.** Ну, кажуць, баба бліны пякла, а рабёнак абкакаўся. Яна яго, раз, і гэтым блінам падцёрла. Ну, тады Бог, а раней расло, ці жыта ці ячмень, ад нізу зернеткі, тады Бог зробіў, як смаргануў – і не стала. Дык стаў кот ужо прасіцца, сабака выць. Гэдык ужо прасілі, малілі, каб ужо Бог прасціў, і ён аставіў каласочак.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

### 148. Бог, конь і бык

Аднойчы, казалі, што Бог сустрэў па дарозе каня і спытаў у яго дарогу, каб паказаў куды ісці, але конь адказаў, што не мае часу. Потым Бог сустрэў быка і спытаў у яго. Бык адказаў і дапамог яму. З того часу сталася, што Бог у знак падзякі зрабіў так, што бык заўжды сыты, а конь, які не дапамог Богу, заўжды многа есь, але ніколі не наесца.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Дзісько Ірыны Нікадзімаўны, 1946 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

### 149. Чаго бабе вечна некалі

Чаго некалі. Божачка ішоў і сказаў бабе “здраствуй”. Паклікаў яе аддыхнуць. А яна махнула рукой і сказала: “Мне некалі”. Бог і сказаў: “Ну, хай табе будзе ўсё ўрэмя некалі”. А да мужыка прышоў, той прысеў, пакурыў, пасядзеў. Ну, гэта і праўда: мужыку ёсць врэмя, а бабе ўсё некалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Гаспадарак Тацяны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Гурэц Чашніцкага р-на.**

**150.** Ішоў Бог, стаў ён у жанчыны пытацца дарогу, а яна жнець: "Ай там! Ідзі, найдзеш дарогу!" Ну гэты Бог і пашоў, а ёй некалі было дажа падняцца, як жала так і жала. Даходзіць да мужчыны, стаў спрашываць, куды якая дарога. Гэты касіў мужык, ён падняўся, касу палажыў: "Хадзі, дзядуля, я цябе атвяду, пакажу дарогу". Ну і ён гэтаму мужчыне і сказаў: "Ну вот, чалавечак, мужчыне пастаянна і ўрэмя хватаіць, а бабе – ёй век некалі, яна дажа не паднілася мне дарогу не паказала". Ну дык і праўда, бабе ж ей век некалі.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 151. Чаму жэншчынам часу няма

Вот ідзець Бог па зямлі, а дзеўка адна жнець. Бог пытаецца, дзе дарога. А яна нагой паказала вон туды. І ўсё. Бог і зробіў ёй, што век ёй часу няма. А далей падходзіць к хлопцам. Тыя касілі, і ляжаць, пакурваюць. Пытаецца, а дзе дарога на Бягомль. Дык яны ўсталі, расказалі старому, куды ісьці. Так вот пастаянна хлопцам часу многа, а жэншчынам няма.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 152. А ў бабы ўсё работа і работа

Чула я ад мамы, што і Бог хадзіў па зямлі і навучаў, і ўсё. За тое ж во і стала гэдак, што бабі ніколі німа врэмя і на яе ўсё… Ай, ну ідзець Бог, па зямлі ішоў, старанькі с торбачкай. Ідзець, ідзець, прышоў да баб. Бабы жнуць. Ён, ну, сказаў: "Добры дзень!" І ўсё, ну, каб пасядзець, пагаварыць. Яны, кажуць, як жалі, так і жнуць, яны вніманія на яго ні абрашчаюць, што ён там кажа, што ён робіць. Ён стаіць, а яны ўсё жнуць і жнуць. Тады кажаць: "А дзе дарога туды і туды?" Яму нада было. А бабы, вядома ж бабы: "Вун!" Кажаць узад: "Вун дарога". Ну і пашоў этат Божанька. Пашоў, пашоў, дайшоў да мушчын. Мушчыны косюць, прышоў: "Добры дзень. Памагай Бог", – сказаў. І селі разам, сядзелі, талкавалі, талкавалі. Вот с таго часу стала, што у мушчын всегда ёсь врэмя. Праўда? А ў бабы ніколі німа яго, врэмя, ей ўсё некалі і некалі, ўсё работа і работа, і работа.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Авецька Людзвігі Лявонаўны, 1935 г. н. у в. Васількова Шаркаўшчынскага р-на.**

## 153. Чаму мужчына робіць стоячы…

Вот і мама расказвала, што Бог ішоў па зямлі і сустрэўся з мужчынам, мужчына касіў. Ну гаворыць: "Давай пасядзім, дзед". Ну мужчына гэтыт касу кінуў, сеў, і пасядзеў. Вот пасядзеў з гэтым Богам. Значыць,

мужчына робіць усю толькі стаечую работу. А ішоў, а жэнчына жала. "Хадзі, – кажыць, – пасядзі са Мной". – "Ай, не мне некалі сядзець". – "Ну, а дарогу хоць пакажы". А яна нагой яму дарогу паказала, куды ісці. Затое жэнчына і робіць усе врэмя цяпер сагнутая.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Чэклін Алены Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Макараўшчына Лепельскага р-на.**

## 154. Чаму бабе вечна некалі

Бог ішоў і пытаўся дарогі. Мужчына паказаў яму дарогу. Дык мужчыне ўсігда хватаець врэмя на ўсё. Ішоў конь. Пытаўся і ў каня. Дык конь тожа сказаў, што яму некалі, яго толькі атпраглі, ён есьці хочаць. І не паказаў дарогі. Карова хадзіла на полі. Бог папытаўся ў каровы. Дык яна кінула есьці ды вывела Бога на дарогу. Дык ей і цяпер часу хватаець. Яна ляжыць і ляжыць і жваку жвець. А каню некалі, ніколі німа часу. І мужчыну хватаець часу. А баба жала. А Бог пытаець дарогу. Дык яна жала, сказала, мне няма калі, і нагой паказала. За гэта бабам няма калі жыць свабодна. Гэта ж даўней было.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 155. Чаму жанчыны ўсягда спяшаюць

Чуў я такое, як Бог па зямле хадзіў. У Бібліі пісалі ці хто. Біблію даўно напісалі. Такія расказы былі, што Бог па зямлі хадзіў. Тады хадзіў па полю, а жанчыны жыта жнуць. "Нада аддахнуць трохі," – гаворыць адна жанчына. "А, некагда аддыхаць", – гаворыць другая. Тады ідзе Бог. Мужыкі касілі. Мужыкі селі пакурыць. Ўрэмя найшлі. Бог: "Ну, работайце". Пайшоў дальшэ, ўстрэціў жанчын. Тыя жыта жнуць…

– Аддахніце жанчыны!

– Ай, нам некалі аддыхаць – трэба жыта жаць.

Тады Бог сказаў ім: "Ну, раз вам некагда, так пусць вам некагда не будзе ўрэмя". Вот так і гавораць, што мужыкі найдуць ўрэмя, а жанчыны ўсягда спяшаюць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**156.** Гэта ж прыказка едкая. Ішоў Бог, ішлі бабы, дык ён кажа пакажыце дарожку, дык ім жа некалі. Як мужчынка, ён сядзіць, закурыць, у яго час ёсць. А гэтай нячыстай сіле, бабам, ім некалі, дык і памруць – усё будзе некалі. Вот ім Бог і даў такую скорасць.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Марыі Іванаўны, 1923 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 157. Чаму бабе век некалі

Ну гэтак так во казалі, чаму бабе век некалі.Таму, што яна Богу не паказала дарогу, а мужчына… Мужык касіў і Ён папрасіў, Бог, што: “Пакажы мне дарогу”, а баба сказала: “Мне некалі”, – нада жаць ей. А мужчына касіў і мужык кінуў гэты касіць і паказаў Яму дарогу. Вот за гэта, кажуць, што мужыку час ёсьць, ён сядзіць і пакурыць. А бабе век некалі, яна ўсе бягом і ўсе ў яе непарадкі, таму што яна не паказала дарогу і Бог зробіў так, што мужыку ёсць час, а бабе век некалі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

### 158. Чаму мужыкі робяць стоячы, а бабы сагнуўшыся

Бог ідзець, а мужык плот гародзіць. Бог кажыць: “Давай пасядзім, аддыхнём, пакурым. Мужык сагласіўся. Ідзець Бог далей, а насустрэчу яму баба. Прыдлажыў ён бабе аддыхнуць, а яна кажа: “Ай, мне некалі”. За гэта мужыкі работаюць стоячы, а бабы сагнуўшыся, ад цямна да цямна.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Грыневіча Івана Антонавіча, 1934 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

### 159. Жанчыны жаляцца Богу

Вот сабраліся бабы, ну жанчыны, сталі жалувацца, што, як родзіцца дзіцёнак, то яго насіць на руках нада цэлы год. А тады ўжо ён нагамі пойдзець. А цялёнак родзіцца ці жарабя – адразу пойдзець. Тады пашлі да Бога прасіць, каб рабёнак радзіўся і пашоў, як цялёнак, зразу. Ну, адна пашла да Бога, а другая пад вакном стаіць. Ну, а Бог кажа: “Зроблю. А калі так, тады і спаць з мужуком толькі раз у год”. А другая, пад акном што, як закрычыць: “Арына, не саглашайся!” Так і асталося, як было.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

### 160. Чаму дзіця да году не ходзіць

Патаму, што бабы хочуць спаць [з мужчынам] каждую ноч. Пашлі ж к Богу бабы. І адправілі Ганну к яму, а самі стаяць пад дзвярамі слухаюць, як яна будзець ім казаць. І што ён ей адкажаць… Мама расказавала, што раджаюць кажны год, дужа ж цяжка гэта, усё робіць нада, і раджаць, каб ужо радзей раджалася.

Паслалі Ганну к Богу. І наказалі: ты ўрэгуліруй. А Бог кажаць: “Еслі вы будзеце каждую ноч спаць, то і будуць дзеці. А тады яго первы год – качай, як яечка, другі год – пасі, як авечку, а трэці год – тукай, як на ваўка – лезець усюль. А карова ж раз у гадок паспіць із бычком, цялёначак і пабег”. Яна вярнулася і стала бабам казаць. А тыя як закрычалі – го, го, го,

мы будзем раз у год?! Што ты! Такога не должно быць, нада многа раз. Праўда? Во, мае дзеткі…

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф'і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 161. Чаго дзіцёнак, як родзіцца, ня ходзіць

Ну, гэта жанчына спрасіла ў Бога: "Чаго рабёнак, як родзіцца, ня ходзіць?" А Бог сказаў: "А ты кінь на зямлю!" А яна ня кінула, вот і ня ходзіць. Пабаялася, што заб'ецца, ну але ж раз Бог робіў, ён бы жывы рабёначак астаўся.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

**162.** Гэта брахлівая [гісторыя]. Эта мне мама расказывала. Анекдот. Жэншчыны прасіліся к Богу пайці. Жаліліся яму: "Чаго нам такоя гора, і работаць нада, і дзяцей расціць нада. Як цялёначак родзіцца, дык зразу на ножках, а рабёначка нада [калыхаць]". Адна пашла к Богу, а другая стаіць за дзвярмі. Бог тады: "Цялёначак родзіцца і пашоў, і скубець, і карова там, і конь работаець. Цялёначак пашоў затоя, што карова раз на год пакрываецца, а вы ж, каб каждую ноч. – Гаворaць, – ну я ўжо здзелаю так, што і дзеці будуць зразу іці, усё". А жанчына пад дзвярмі крычыць: "Не саглашайся!"

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Казакевіч Антаніны Дзмітрыеўны, 1936 г.н. у в. Гарнавешчанне Талочынскага р-на.**

**163.** Пашлі бабы к Богу: почэму такая несправядлівасць? Што, вот, каровы, коні, жывотныя рабёнка там сваего, жарабёнка ілі цялёнка (родзяць) і тут жа цераз паў дня ён пашоў на ногі і ходзіць. А мы родзім і гэтага рабёнка нада гадаваць два-тры гады, пакуль ён пойдзець. Бог падумаў, падумаў і гаварыць: "Хм, ладна, магу здзелаць, толькі условіе: што вам мужык нужан будзець толькі раз у год". Вот одна эта жэншчына вышла ат Бога і прышла да другіх жэншчын і гаворыць, што Бог дал вот такое условіе. Падумалі, жэншчыны, падумалі: не, пусць будзець па стараму.

**Зап. Лубчонак А. у 2010 г. ад Фурса Яна, 1931 г.н. (ур. в. Гаравыя-2 Мёрскага р-на) у г. Полацк.**

## 164. Падарожны Бог

А вот гэта, дык скажу табе, мая мама мне расказывала. Яны жылі, ну беднавата жылі, не было ў іх, мала зямлі было ў іх і яны хадзілі ў наёмы. Там дзярэўня Броўцы называлася, і яны там пахалі зямлю. Едзем, ужо на поле, на сваё чэраз дзярэўню. Ну, сабакі, кажыць, ніхто не забрахалі. Едзем, глядзім – ідзець сівенькі дзядок.

Сівенькі дзядок ішоў, надзеты па-простаму, сваё было надзета. Усе саматканае надзета, сваё. Яны дажы відзілі гэтага дзядка, як ён ішоў гэты дзядок на ўстрэчу ім, ішоў такі і прайшоў каля іх. Вот яны апрадзялілі, што Бог ідзець. Тады кажыць, можа ўжо Бог ідзець. Апрадзялілі, што гэта Бог ідзець. Прайшоў, а тады, як яго не стала, тады сталі і сабакі брахаць, людзі сталі паяўляцца. Вот так і апрадзялілі, што гэта Бог ішоў.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 165. Чуды

Ёсьць празьнік "Чуда". Увосень. Нельга сеяць на яго. А чалавек адзін сеяў, не знаў, што тое Чуда. "На чуда будзе цягаць за чуба", – гавораць. Нельга сеяць на Чуда, а то будзе нядобрае ўжэ. Ну, а ён, дзядзька той, не знаў. На Чуда пасеяў, а ў яго такое парасло. О-ей, о-ей, такое харошае! Тады казалі "на чуда, якое добрае". "Цяпер я буду толькі на Чуда сеяць", – гаворыць тады. А тут Бог ідзець, гаворыць: "Паглядзім". І давай той дзядзька на Чуда сеяць, а ў яго ўсё прапала і няма нічога.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Марыі Іванаўны, 1923 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 166. Бог судзіць беднаму і багатаму

Ішоў старычок, а гэта быў Бог. І просіцца пераначаваць. Прыходзіць ён у хату, а на стале паўно снедзі, а яму нічога не далі. А хазяйка блінам жопу дзіцёнку падцірае. Не пусцілі яго начаваць. Пайшоў ён далей. Прыходзіць ён у другую хату, а там дзяцей поўна, жывуць бедна. А хазяйка кажа: "Праходзь бліжэй, убогі чалавечык". Корміць яна дзяцей, а яны падбягаюць к старычку і кажуць: "Угашчайся, убогі чалавечык, і ты".

І пайшоў старычок далей і зрабіў так, што ўраджай ад багатага перайшоў к беднаму. Дык багаты ў суд падаў на беднага і сказаў, што той у яго ўраджай украў, а бедны кажыць: "Як я магу ўкрасці зярно разам з зямлёю?"

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Маскаленка Алены Васільеўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

## 167. Богаў колас

Даўней колас быў ад кораня, гэта яшчэ баба казала. Суседка, калі яшчэ ў Асецішчах я жыла, мне кажа: "Я нашла гэдкі колас, ну каб я была трошкі на ум вастрэйшая, я ж-бы гэта ўзяла, выцерабіла і развялося б, а я ж яго разам зжала". А тады ўжо каты і сабакі сталі яўкаць, то Бог аставіў гэткі колас – маленькі, як хвосцік. За тое, што людзі не верылі, заблуждаліся.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

# МІФАЛОГІЯ

## 168. Ваўкалака

Гэта маёй ужо мамы, можа, бабушка ужо помніла, як хадзілі гэтыя заклятыя – ваўкалакі зваліся. Ваўкалакі – гэта людзі перачараваныя на ваўкоў. Ну, яшчэ мне дзедушка стары расказваў, што едзе каля мельніцы… А ехалі ж на конях малоць, ноччы. Пераняў воўк. І гаворыць: "Стаў воўк, а конь хрыпіць, ну ні за што ня можа іці. І воўк на дарогу, на серадзіну стаў. І усё. Нада, – гаворыць, – усе імёны, колькі ёсьць імёнаў на сьвеце, сказаць. Як на яго імя пападзеш, угадаеш, то скура тая і злезець з чалавека". Гэта ж ня так даўно і было. Яшчэ бабушкі мае помнілі. Во як.

**Зап. Дубаневіч А. і Лобач У. у 1993 г. ад Пажарскай Бернарды Міхайлаўны, 1933 г.н. у в. Данькі Браслаўскага р-на.**

## 169. Ваўкалака Бабадзёр

Было гэта ў даўнія-даўнія часы, папа мой расказваў. Жыў тады ў Бікульнічах чараўнік, Бабадзёр. Вот эта дзейсьцьвіцельна быў чараўнік! Адзін раз ехаў ён з таварышчам і ягонай жонкай па дарозе, а тады кажа: "Я січас прыду", – а сам у кусты. Кажа: "Нужду спраўлю. А сійчас да вас выбяжыць воўк. Толькі вы яго не чапайце, а ён вас трогаць не будзець". Ну і пайшоў у лес. І сійчас з лесу адкуль-та выбягае воўк. Стаў і стаіць, глядзіць. А тады жонка напужалася і кінула па ім нечым. І січас у ваўка кроў з морды пашла, а ён пастаяў і пабег у лес. А тады выходзіць гэты мужык і кажаць: "Я ж табе казаў, каб вы ваўка не чапалі!" А ў яго толькі з боку лоб разьбіты, і кроў цячэць. Ну гэта ён, бабадзёр прэвврашчаўся ў ваўка.

**Зап. Штукар В. у 2010 г. ад Аваднёвай Наталлі Фадзееўны, 1930 г.н. у в. Адворня Вушацкага р-на.**

**170.** Мая маці, калі была незамужняй, паехала на сена са сваім сваяком. Едуць яны назад і сваяк кажа: "Пайду, – гаворыць, – я схажу у кусты". Пайшоў, а тады адтуль выбягае воўк. Падбягае гэты воўк да ваза і пачынае скакаць на маю маці. А тая доўга ня думала – з усяго размаху граблямі. Воўк ці то ад болі, ці то ад страху зьбёг у кусты. А тады апяць выходзіць сваяк, а ў яго з-пад левай скроні кроў гурцамі цячэ. Во і звалі гэтага ваўкалата Бабдзёрам.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Аваднёвай Наталлі Фадзееўны, 1930 г.н. у в. Акуліна Ушацкага р-на.**

## 171. Ваўкалакі

Казалі такое, што чалавек можа ў воўка пераварачвацца. Ваўкалакі завуць іх. Няхітра праўраціцца ў ваўка, але тады бегаць будзешь. Ахотнікі,

бывала, пападуць на гэткага. Сабакі нападаюць на яго, а ён тады адгрызаецца, адбіваецца. І назад вярнуцца трудна.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 172. Пра чарцей, ваўкалакаў і лесавікоў

Як мама даўней расказвала пра чарцей, ну гаварылі што і чэрці будта ёсць у балотах. А яна гаварыла (маці), яна была родам са Студзёнкі, не далёка на Беразіно дарога, а за мужам была ў другой дзярэйні. Там тры кілометры і цераз лес назад было хадзіць у дзярэўню Поплаўкі. Ейныя дзеці і к бабушке сваей хадзілі, дык баба не дзержала, каб цямнелася, а то па лесу будзіць ісці, а там ваўкалакі. Такое месца было, дзе жылі ваўкалакі, пад пнямі страшэннымі, пад пнямі жылі ваўкалакі і лесавікі. Людзі расказвалі, што дужа страшныя, тое што няслі ад бабы, адбіралі, – страшылі так. Гаварылі дзяцям, калі не слухаюцца, што адправім вас к ваўкалакам.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

## 173. Дамавік

Дамавік жыве ў кожнай хаце на чэрдаку, а можа паявіцца і ў хляве ці сараі. А ён ноччу можа навальвацца на людзей у сне ноччу так, што чалавек ня можа пашавяліць ні рукой, ні нагой. А як ужо прыцісьнець сільнасільна, то гэта ужо бяда нейкая будзець. Калі дамавік прыціскае, у яго трэба спытацца: “Ці на ліха, ці на дабро?” І ён тады ўжо неяк скажа, дасьць знаць. А сам ён, гаварылі, такі касматы і цяжкі. Ён жа як прыцісьне, то чалавек і не варухнецца.

**Зап. Балай С. і Бартунскі А. у 1996 г. ад Яцко Наталлі Сяргееўны, 1920 г.н. у в. Папкі Бешанковіцкага р-на.**

## 174. Дамавік прыходзіць на Каляды

Нічога ён не робіць, той дамавік. Я яшчэ не замужам была, а тады мы пераехалі сюды. Прыехалі, а хата зімой халодная, мы на печку зберымся ўсе і спалі на печы. А тады матка гаворыць: “Чуешь ты, (а тады Каляды былі), гаворыць, – нехта выйшаў з шчэлку. Там, – кажа, – нехта ёсць”. Я ўстала, пабегла – нікога не відацца. “Схадзіла б ты прыбрала з печкі,” – мне мама. А тады каля сценкі зашумела і нідзе нету. Прыхадзілі нейкія зданькі, я тады бальшая ужо была хадзіла з печкі на верх глядзець. Нікога там няма. Тады ж завуць есці на Каляды. Ну нечага ж з’еў і пайшоў. Тады пайшла ж аж матка паглядзела – нічога там німа, з’едзена…

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Протас Марыны Канстанцінаўны, 1928 г.н. у в. Матырына Лепельскага р-на.**

## 175. Юрлівы дамавік

Адна баба ў нас была. Мужык яе старажыў анбар. Легла яна спаць. Прышоў нехта і за бок шчыпіць. Думала, што мужык. “Што ты, адурнеў? – назаўтра яму кажаць. А той кажаць: “Я дзяжурыў, мяне тут і блізка ні было”.

А ў яе сінякі на кумпяках. Во які дамавік, што робіць!

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Халімоненка Г. М., 1925 г.н. у в. Лядна Лепельскага р-на.**

## 176. Дамавік

Эта ўжо як пераходзіш у новую хату, бацюшку завеш, свеціць усё ў хаце, і дамавіка гэтага завуць. Бацюшка пасвеціў і пашоў, а людзі тады завуць. Еслі харошы, то прыдзець і будзець спрыяць этай хаце. А хазяін, як пераходзіць, яду ставіць дамавіку: “Будзь харошы, спрыяй мне”. А як дрэнны, тады ў той хаці няшчасці ўсякія. А хто іх ведаець. Мог быць харошым, а мог... Яго рэдка хто відзіць. Ну гаворуць, касматы такі, можа, як на яку скаціну ці што (падобны). А хто іх ведаець?

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

## 177. Дамавік

Дамавік, як па расказам, дык ёсць. Вот у мяне, як я прыехала ў гэту хату, стучыць, стучыць, стучыць у вакно. Ну, гэта ж ён. Адсюль стучыць. Я ўжо ўстану, пагляджу, нет нікога. Дзьверы адкрыю – нет нікога. Стук. стук, стук, у вакно. Тады я стала дзеравенцам гаварыць. А гэта, гаворац, чорт стучыць. Гэта, гаворац, нада свянцоная вада. І вот было такое. Я ўжо к гэтаму злажылася, знаю што гэта. Мой сын прыйшоў ён, лёг на койку, чытаець кніжку. А свет здзелаў кола краваці сваей. Ну я трошкі і дрэмаць стала. Але чую – стук, стук, стук, у вакно. Ну я ўжо ляжу ціхонька. Апяць – стук, стук, стук, у вакно. “Мама, ну а кто-та стучыць”, – сын мой. Я прамаўчала. Тады думаю, можа і праўда, хто стучыць, пашла у вакно глянула. Відна-відна на дварэ і німа нікога. Дзверы адкрыла – німа нікога. Тады вярнулася ў хату і давай яму так расказваць, што гэта.

Тады стала я дзеравенцам расказваць пра гэта, а яны сказалі свянцонай вады дастаць і ў хаце спырснуць. Всё-ткі я дабілася свянцонай вады – тут я дружу з аднэй, а ў яе радня ў Полацку. вот мы дасталі вады тады і яна мне дала бутылачку. Як спырснула ў хаце – усё.

**Зап. Аўсейчык В., Ключнікаў Б., Панцялей Д. у 2006 г. ад Крайновай Ядзвігі Арцёмаўны, 1927 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

### 178. Дамавік трашчыць

Дзеткі мае, у мяне дамавік цяпер ёсьць. Во, трашчыць во гэта другая балька вечарам. І людзі ёсьць – трэсніць. Бываіць, спуджаюся, а як спаць лягу, як трэсніць, – у сэрца коліць. Нікога няма – не беспакоіць. Дачка кажа: “Ты сплюнь, мама, перакрысціся”. І перакрышчуся. Ну, а ўсё раўно. Суседка прыдзіць: “А ё пэ-рэ-сэ-тэ. Што гэта?!”. “Спрасі”. Во такія зданькі ў мяне цяпер. Не знаю.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

### 179. Дамавік

Ай, гаварылі, што дамавік быў. Я не знаю гэта праўда ці не, но ў мяне ў хаце быў. Памёр мой дзед… Я ж засталася адна ў хаце, я ж і нучавала адна і пайшла к даццэ, пасядзела троху і прыхажу дамоў. І толькі лягла спаць, а ў мяне ў хаце нехта, птушка ці я не знаю хто. Я свет запалю, а тады не віжу дзе. А нехта па хаце лётаіць і “фррр, фррр” – во так во. Я на галаву накрыю, думаю толькі, каб у галаву не ўдарыўся. Так во два дні пабыло і ўсё. Недзе дзелася. Пасля пахарон прайшло гэта можа два ці тры дні. Во так во…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Забор’е Чашніцкага р-на.**

### 180. Дамавік і ўлазіны

Дамавік, дык гаварылі, што ў коміне жывець. Ну, крый Божа, яго не нада абіжаць. Крый Божа, не нада гаварыць дрэннага, а нада гаварыць харошае. Вот абычна на Каляды, вобшчам на гадавыя празнікі, іх 12 бальшых празнікаў. Дык на гэтыя празнікі нада чым-та ўгашчаць. Ну, можа, там якую аладку спеч. Ну, што гатовіш луччае сабе, нада што-та палажыць. На акно. Ложуць на акно. А на Вяліканне нада яйко краснае палажыць. А на Каляды якую цукерачку палажу. На Каляды абычна нешта ложуць.

Калі ён прыяў усяму добраму ў гэтай хаце, то яго забіралі з сабой, забіралі з сабой (у новую хату). На ноч клалі мяшок, раскрывалі той мяшок. А наўтра ўжо, як перахадзілі, і мяшок гэты забіралі. Но ўсё раўно, у первую очарадзь у хату перва пускалі ката. Таго, хто ходзіць на чатырох нагах. Хто на двух – гэта потым.

А той мяшок клалі кала печы. Ну канешна, кала печы. Раз ён там жывець, і клалі кала печы. Тады яго завязавалі. Ну можа, што і ўкладалі. Знаю, што мяшок разварачавалі і клалі. Можа, ён там дзень ляжаў. Можа, два, ці ноч. А калі той дамавік не спрыяў, то канешна – яго не бралі. Клалі палку крыж накрыж перад печчу. Ён не нада быў тады. Можа, не ладзілася што са скацінай, ці балеў хазяін. Вот і не спрыяіць.

Прасіць прасілі, но слаба верылі, што ён памагаў. Вот я помню, каб яго толькі не абідзіць. Вот я помню, як мы перахадзілі. Ужо после вайны, пастроілі хату ў дзярэўні, немудрую, абы якую, а чэраз некаторая ўрэмя тады ўжо луччую. Ды к я помню, што мама лажыла мяшок. А я ўжо ішла, і мне гэты мяшок нечага не панаравіўся, і я яго нагой абпіхнула. Чаго яго тут разлажылі! Я ішла ды зачапілася! Я была малая. Дык мама мяне натрасла за карак, што не чапай.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 181. Вужака-дамавы

Людзі пажжывалі па стольку гадоў і ніхто гэтага дамавіка ня відзіў. Вужака, гаворуць, ёсь у вугле ў каждага. У тым, дзе Бог, дзе абраз. Мусіць жа харошая (тая вужака), раз ні вылазіць, ні кусаіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 182. Дамавой

Дамавой жывець у кожнай хаце. Дамавой – гэта, як кот такі, ён выходзіць, бывае, з запечка. Калі дамавой не палюбіць гаспадара дома, то будзе рабіць яму шкоду ўсякую.

**Зап. Балай С. і Бартунскі А. у 1996 г. ад Азаронок Тамары Карпаўны, 1922 г.н. у в. Баброва Лепельскага р-на.**

### 183. Дамавы выганяе з хаты

У доме радам з маім ніхто не жыў. Так там казалі, што іх дамавік выгнаў. Ноччу стучаў, шум рабіў. Я сама пошла, яшчэ ж малая была, і ўдруг з печы кірпічына паляцела. Мы спужаліся і ўцяклі адтуль. Гэта нас так дамавы выгнаў.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Лучковай Матруны Фёдараўны, 1911 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

### 184. Дамавік

Дамавік ёсць, у каждай хаце ёсць. Ён добры, калі яго не абідзіш. Нада ўсягда па харошаму яго звацъ: “Дамавушка”. Ён камандуець усімі ў доме. Як у новую хату пераязджалі, звалі яго з сабой. Ёсць дамавік. Дамавічок. Я, как уезжаю, ўсягда яго з собой забіраю із горада – сюда. Атсюда уязжаю, гавару: “Дамавічок, паехалі дамой”.

Хату нада асвяшчаць святой вадой, акрапіць вадой усё. А дамавушка святой вады не баіцца. Клалі дзенежку на вугол – эта быў уход і пераходы.

У адзін угол дзенежак кінеш, асобенна серабро кідаюць. У ва ўсі угалочкі палож, капейкі нада браць, манеты – не бумажкі нада, а манеты, серабро – тады ў хаце будзець усягда дабро. Будуць і дзеньгі, будзець і ўсё на свеце. Ну, і словамі звалі дамавушку: "Гасподняй воляй, Гасподняй воляй, жыві ў маей хаце, каб у мяне ўсё было ўсё харашо і шчасьліва, добра і ўсё. І маіх чадаў, маіх дзяцей храні". Гэта когда пераходзім у новы дом. Да. І ты нясеш яічка, нада яічка несьць, цэленькае яічка палажыць, каб было ў хаце кругленькае, у хаце харашо, каб у хаце ўсе было багата. На стол клалі. І яічка несьлі, і дзеньгі, і ікону абязацельна. Да, хлеба несць буханку целую, не палавінку, а буханку. І соль, салоначку солі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфёнаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

**185.** Гэта не зусім прыемные, дамавыя. Іх зганяюць на імхі, на балоты. Ён можа сядзець на дварэ, пад камнем. Ну, ён, еслі не панравіць у хаце, будзе робіць усякае. Інагда бывае, што кот дома, як мошку – мах-мах. Гэта ён ганяе дамавога. Ловіць, а не відаць, каго ловіць. Гэта кот відзіць дамавога. Як уселіцца дурны дух. Гэта нядобрыя духі, служакі анціхрыста. І душа, якая грэшная, якую ня прынялі, не пашла.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

**186.** Казалі, вот у хаце жывець дамавік. Калі ты добра слухаеш бацькоў, добра дзелаеш, ён табе будзець дзелаць дабро і ты ня бойся яго. А калі ты будзеш непаслухмяны, работку ня будзеш рабіць, то і дамавічок дрэнны будзець. Баілі так. А як пашлі ў школу, і чорта не баяліся. Дамавік – гэта не нячыстая сіла. Гэта добры чалавечак жывець такі. Ён і дабро прыносіць, калі ты ўсё добрае, і ў доме ўсё добра. Мама казала, калі вы будзеце слухаць бацькоў і дамавічок будзець добры. Мама казала, нічога плахога ня дзелаець, калі ты сам добры. Казала, за печкай [жыве].

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф'і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

**187.** Вот знаю, што ў бані жывець дамавы. І ў хаце ёсь. А к таму ідзеш і кажаш: "Дамавы, дамавы, дай мне памыцца". А тады сказаш: "Спасіба, я памылася". Я табе дажа, дзяўчына, скажу – у мяне і ў хаце жывуць дамавыя. Калі дружыш з імі, то харошыя. А еслі зло – то не дай Бог. Бывала, унучка мая ляжаць: "Баба, – гаворaць, – нехта ёсь. Баба, лажыся ля нас. А нехта топаіць". Дажа знаеш што я табе скажу. Хай у мяне жывуць, і ў Колі жывуць...

Я не знала што. У вуглу як малатком лупіць. Пашла ноччу к саседцы, а яна глухая, а ў яе тожа, лупіць нешта ў вугле. Я скарэй уцікла ў сваю хату. Цяпер я не баюся. У аднэй жэншчыны, гавораць, мужык на рабоце, Тамара расказавала, прыходзіць нейкі другі мужык. А як спіць – ляжыць мужык ля йе і ўсё. Хто эта ляжыць на мне, гаворыць, нехта ляжыць? А бародка, бародка (смяецца), нехта з барадой. Точна, Коля, ня спорувай, жывець дамавы. Ён тады ей гавораць: “Табе здаецца!” Мужык ляжыць, ей здаецца. Тады яны кварціру памянялі: “Дамавы, дамавы, хадзі з намі ў кварціру”. А ён не пашоў. А вот наравілася яму гэта кварціра. І тады не стала ў іх ні дамавога, нікога. Гэта ў Заслонаве было.

Дык у мяне то пішчыць, а не – у вугле стукаць, а не – скрабаць. Руслан, мой унук. У мяне быў. Сядзеў, а пакет зляцеў са стула. Русік, чаго ты? А яму не наравілася, калі ка мне дзеці едуць. Тады яны не наравюць. Яны гэтага ня любюць. А ён кажаць: Баба, а чаго той пакет паляцеў. А эта ён скінуў той пакет са стула. Вот, Коля, ты ня вераш...

Можна бацюшку прывесьці... Нічога не паможаць. Тры месяцы і апяць. Я лежала ў бальніцы і аднэй жэншчыне расказала. А тая: “Ты выдамала нейкая”. А я ня выдамала. Эта точна праўда – дамавы. Па хаце ходзіць. І пішчыць, і скрабець. Эта нячыстая сіла ходзіць. З пакойніка выходзіць і ходзіць. У мяне і дзед памёр, і матка і бацька… Канешне, ёсь. І ты, Коля, ні кажы. У цябе памёрлі і бацька і матка. А ты мне ня верыш. Я табе скажу, я ў бальніцы ліжала. Толькі вот што я расказаваю эта ўсё, мне будзець дрэнна. Цяпер мяне загрызуць (усхліпвае).

Да, у бальніцы ліжала і сталі мне... А на паталку два дамавых, я агледзела. Агледзела сама. А баба гаворыць: “Ай, ёп тваю маць, – прасьці за выражэнне, – ты нейкая інцерэсная: мы ня відзім, а яна відзіць”. І валасы, і каса, тут усё заплецена. І зубы, усё відаць... Як чалавек, пахожы. Ёсь і маладыя, ёсь і красівыя. А тая баба: “Ах іціт тваю маць! Січас пайдзём, врачу скажам, што ты чараўніца, што ты дамавыя відзіш”. А я тады: “Ай, нашто мне, нашто я звязалася з этымі дамавымі”. А я тады: “Знаіця што, есьлі будзеця гаварыць, тады я вас усіх пачарую! (Смяецца) І ўсіх пакалдую! Тыя пашапталі-пашапталі: Ай, і праўда, якая нячыстая сіла, ай, ай... А бабу ўзіла ачкі, глядзіць у ачках: “Ай-ай-ай! Я ня віджу!”

Мая дачка гадамі ня хочаць ездзіць ка мне. Мама, у цябе сядзіць нячыстая сіла. Пробавалі дажа бацюшку. А я сама была ў цэркаві і забылася прасіць. Гаворуць, нада выганяць яго такім дымам. Хто ўміраіць у хаці, там дамавыя жывуць.

Вот ляжу і віджу, як над вакном ходзіць. Такі цень. Дажа пяць ці шэсь было дамавых. Дажа пагляджу – во так ідзець, з касой. А тады

абшчэпліваюцца во так во. А тады разойдуцца, а тады сойдуцца. І валасы, і зубы, а тады такая як дзеўка – і ў яе каса. Во. А нічога яны не баяцца. Дажа мне адзін чалавек прынасіў нейкія камянькі гарашчыя, я і пад койкамі лазіла, а нічаво.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галай Розы Аляксандраўны, 1936 г.н. у в. Заружанне Лепельскага р-на.**

**188.** Гэта кажуць, што дамавік у каждым доме ёсць. Ну, я ж яго не відзела, не знаю, і кажуць, што і ангел-храніцель ёсьць. А дамавік, гаворадь, што некаторыя ўжо забіраюць яго, еслі уязджаюць і гаворуць, штоб ужо дамавік не кідаў іх, ішоў там, дзе яны. Можа, што гаворуць, якія загаворы. Эта я не знаю.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**189.** Чула я пра Дамавіка. Вот на гэтым месцы, дзе стаіць наш дом, раней стаяў стары. Яго ў вайну спалілі. Ён быў з прысценкам, вось у ім жылі зданькі. Раз ад разу чулі нібы звукі пілы, аднойчы бульба лётала па хаце. А аднойчы сама бачыла дамавіка. Гэта быў маленькі, гарбаты старычок. Ён як бы сядзеў каля вакна.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Татарынавай Любві Іванаўны ў в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

**190.** Ага. Дамавік. Вот тожа раскажу. Я прыехала. Я чужая, ну і прыйшла я прасіцца ў кут, значыць, на квартыру. Я гавару, каб пусцілі вы мяне пажыць. Я хачу сюды прыехаць, перыехаць. Ну і жыла я тры гады. Тады ў мяне сястрычка была ў Карэліі. А тады я начавала, сястра прыехала. Ляжу во гэтак на пячы, гляджу – выходзіць з-за печы маленькі касмацік. Валасы во гэткія вялікія, касматыя. Тады я назаўтра гавару во гэтай хазяйке: “Я відзела касмаценькага”. А яна гаворыць: “Гэта дамавік”. А ён выйшаў, я сама не знаю, з-за печкі аднекуль. З-за печкі. Маленькі такі, як сабачка, як кот і касматы, і касматы. Чорненькі. Як я глянула, так ён і уйшоў. А куды ён выйшаў, я ж не знаю. Маленькі такі, як сабачка.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Галыновай Еўфрасінні Васільеўны, 1923 г.н. у в. Вялікая Любшчына Віцебскага р-на.**

**191.** Дамавік у кожнай хаце жыве. Казалі, што не нада нож класць на стол, каб стол чысты быў. І соль ён дажа ня любіць.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Самсоненка Соф’і Пятроўны, 1933 г.н. у в. Стайкі Ушацкага р-на.**

**192.** Расказавалі пра дамавіка. Гаворуць: у мяне ў хаце дамавічок. Тады купляюць канфеты, пячэнне і кладуць. Кажуць – у мяне ў хаце дамавік, як стукаець, грукаець. А я шчытаю, што эта мышы, а не дамавік.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

**193.** Той дамавік, ён, можа, у мяне ёсць сам. Нейкі ходзіць і са мной разам. У краснам насаве, зялёная шапка. І здаецца, што ён тут кругом каля мяне. Ён нічога не гукае, я вот, калі іду, кажу: “Халера цябе ведаець, цягаесься ўсё врэмя са мной”. Дык я яму кійком дам і кажу: “Халера цябе ведаець, цягаесся…” Ну, вродзе прападаець, але січас ізноў. А як ўжо лажуся спаць, перакшчу, і ўжо і нетуці. Ён болей увечары. Гадоў, ну так пад сорак. Ні стары і не малады.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Аўтух Дар’і Цімафееўны, 1912 г.н. у в. Вашкова Ушацкага р-на.**

**194.** Ну, кажуць, што жыве, а што ён гэты Дамавік робіць? Гаварылі, што аднім памагае, другім там, напрымер, уражай добры, скаціна вядзецца – гэта, гавораць, дамавыя ім памагаюць. Другіх, наадварот, што-та не ладзіцца – гэта, гавораць, што яны ўгнявілі дамавіка і ён не хоча ім дапамагаць, робіць на шкоду. Але відзіць яго не хто ж ня відзеў, гэтага дамавіка, які ён там.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Лiлii Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

### 195. Панскі дамавічок

А вот пра гэтага дамавічка, гэта мой папа расказываў, ён там дзе-та ў нейкага багатага пана служыў, быў парабкам, даглядаў скаціну там кароў, коней… І ў гэтага пана ў хлеве быў дамавічок, ну і хазяін яго прыдупрадзіў: “Сынок, як пойдзеш коням сена класці, аб’едачкі выберы, а свежага пакладзі, і ня бойся, калі ты схваціш такога большага за ката, касматага. Ты ня бойся яго тады”, – гэта ён так прыдупрадзіў майго папу. Ну, папа кажыць, хадзіў-хадзіў, а нікога такога ня відзеў. Але баяўся і не рукамі, а віламі кавыраў.

А раз прышоў і буду, кажыць, выкідаць гэта сена, а цёмна – свету не было ж. Нагнуўся, як узяў, і чую, кажыць, нехта там ёсць! Дык я так зжаў яго з сенам і выцягваю, а ён, толькі выцягнуў яго з гэтай скрыні, а ён – фырк – прыг, і пашоў і толькі: “Ха-ха-ха-ха!” Вот так во захахатаў і пашоў. Тады прыходзіць ён і кажыць свайму хазяіну: “Хазяін, скажыце вы, а хто гэта у вас гэткі ходзіць? Кот не хахочыць, сабака не хахочыць”. А ён [хазяін]: “Гэта ў мяне жывець дамавы”. А бацька кажыць: “А хто гэты дама-

вы?” А ён: “А гэта, сынок, ужо маё дзела!” А ён, гэты хазяін, быў чарнакніжнік і ў яго была чорная кніга. Ён, еслі яму што-нібудзь нада, ён садзіўся за стол, але каб яго ніхто ня відзеў, у пацёмачак дзе-нібудзь залазіць і вычытываець, і чэрцікі гэты прыходзяць, і што яму нада, тое прыносяць.

**Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г.н. у в. Шо Глубоцкага р-на.**

### 196. Дамавы

У мяне самой дамавой быў. Дык слушайце. Ага, ляжым са сваім. Цяпер ужо дык аддзельна, а тады 70 лет было, а счас 85 скора. Ага. “Коля, слышыш? – у нас тут спальня, дзверы, – скрып?” Закрылі дзверы ў адной спальне і ў другой. Я гавару: “Слышыш?” Ён гаворыць: “Слышу”. Дзверы адкрылі. Тут “тах” у дзверы – мы ўсталі. Утрам дзверы адкрытыя, хоць закрывалі. А как адна асталась, без дзеда. Слышу – хто-та ходзіць у спальні, хто-та ходзіць. Што мне было, там у нас 2 краваці стаяла. Мне нада перадам іцці к кравацям гэтым, а я пайшла задам. Слышу: “дук, дук, дук” с той спальні, а ўжо быў першы час ночы. Я спужалася так, устала і давай святой вадой абліваць усе углы, усё паааблівала. Тады думала кошка: “Аліса, Аліса, гэта ты тут бегаеш, Аліса?” Ўстаю утрам, адкрываю – Аліса прыходзіць у хату. Значыць, не Аліса. І з цех пор большэ нічаго не было. Вот дамавой абідзеўся, што я ўзяла другога старыка сабе. <*Дык дамавы ў хаце гэта добра?*> Гэта харашо.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае тут з 1947 г.).**

**197.** Ну, дамавыя ў кажнай хаце ёсць. Нічога яны ня дзелаюць. Ўрэда ня дзелаюць. Прыйдзець у хату, паглядзіць, паходзіць, паходзіць, паглядзіць – і пашоў. Дамавыя ёсць у кажнай хаце. Прыходзіць вот, аднекуль прыходзіць жа. І ёсць дамавыя, ёсць. Гэта точна, ёсць. А відзелі вы ў целевізары дамавога, відзелі? А ён там у рэкламе гаворыць. Там ядуць, а ён: “О, гэта і мне па ўкусу”. Ці відзелі вы ета кіно, не? І вот такі дамавы. Вусы такія кароценькія, а сам – касмаценькая тут галава, ногі і рукі як нада.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф’і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на**

### 198. Дамавік і хляўнік

Дык, а ён і жывець у нас – дамавы ш у каждай хаце ёсць. Да, толькі ён у каго які дамавы, у каго. Яго кляніць нільзя. Дамавы должын быць у каждай хаце. Дамавы, значыць, ён сцяражэць дом, і яго нільзя кляніць.

Біваіць і ў хлявы. У хлявах дык ёсць такі дамавы, Хляўнік яго называюць, Хляўнік. Ён тады, ёсць такія Хляўнікі, што яны мучаюць скаціну, і гэта скаціна, будзіць карова мокрая з начы, конь мокры. Вот. Можа ласка, алі як у нас называюць – Хляўнік. Ну, ён ні каждую карову шчакочыць. Біваіць, біваіць такія. Ну тады то свечкай грамнічнай абносюць карову, падпаліўшы, дажа каб аш поўсць трошкі загарэлася. Дамавому нада, каб на стале яму на ноч была добрая ежа пастаўлена, яешня.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

### 199. Пра дамавіка, чарта і русалак

Пра дамавіка чула. У мяне не было, ні знаю. Кажуць, біваецць, каму і дабро прынясецць, а каго і накажацць. А такі, што носіць хазяіну там усё, дык гэта чорт. Чула троху. Хто падружацца з чартом, а як ён падружацца, дык я не знаю, дык вот ён таму носіць і дабро, і малако носіць. За ноч, гаворуць, хазяйка падстаўляіць і выварк і, усё. За ноч наносіць усяго. У хаці ён не жывець. Недзе жывець у балоці. І чалавек біваецць на чарта пахож. Носіць і дабро, усё. І пра русалак чула, алі на самым дзеле і не знаю. Жывуць у балоце. У такіх местах, каб іх не злавілі. Яны ж ня дрэнныя, гэты русалачкі. Алі гаворуць: як русалка ходзіць, такая валасамі апушчаная. Валасы так, такая нерахлівая.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Лукашэвіч Марыі Анісімаўны, 1926 г.н. у в. Грабяні Докшыцкага р-на.**

### 200. Змей-летавец

Ну, гэта не такі быў змей, як тая вужака. А гэта ж было даўней, як людзі зналі нейкія чары, і адзін меў змея. Ён яму насіў багатства. Ён яму насіў усё багатства, быў такі бальшы і таўсты. Бальшы быў і таўсты, як на мяшкі такія пасечаны, і набіраў у гэтыя мяшкі груз, і нясець. Вот, напрымер, адзін хазяін малоціць зярно, а радам хазяін знае, і ён тады яго адпраўляе, а той за ноч перанясе усё зярно яму.

А тады хазяін думае: “Абажджы! Той пасадзіў і будзе малаціць, а я пасаджу ельніку, іголак, лапак”. І паліць еўню сушыць. Той пашоў малаціць, і гэты пашоў іголкі малаціць. І тады ён гэтыя ўсе іголкі памалаціў, ельнік гэты выкінуў, іголкі сагроб, сагроб у груд і пайшоў. На утра прасnуўся, відзіць, а ў яго ні аднэй іголкі няма. Усё гэты змей перанёс. Перанёс гэта ўсё яму змей. А як гэны пшаніцу малаціў, у яго ўся пшаніца з іголкамі. Ён тады яму падладзіў.

А змей той лятаў, ну канешне лятаў! Ну яму гэта сама, гатовіў ужо вячэру хазяін, пячэ калбасу, яешню і нясе ў гумно, і ставе, і рэшатам накрывае. Тады, гэта самае, адзін пагледзіў мужык, узяў гэта ўсё забраў і туды налажыў гаўна, і рэшатам закрыў. Ну раз так ён зробіў, рэшатам закрыў, дык ён яму і гумно спаліў. Змей думаў, што гэта хазяін яму паставіў, дык ён яму і гумно спаліў, і ўсё згарэла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

**201.** А ў нас там... У кажнай жа дзярэўні ёсь і багатыя і бедныя. І ў нас багатая сям’я жыла. І там па дзярэўні ішоў такі разгавор: змей багатства носіць. Змей носіць багатства. Я яшчэ малая была, алі помню. Саседка прыходзіць к нам: “Ай, Ганначка, мілая, і праўда, праўда гаворуць! Я ішла, а змей з такім во хвастом, ад Максімкі, з даўгім хвастом і паляцеў во туды, у гэты бок. А гэта ж і зоркі падаюць, такія з хвастом”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шамашовай Марыі Дзмітраўны, 1920 г.н. у в. Трасцянка Талочынскага р-на.**

**202.** Да, гаварылі, што змей лётаў і багацця насіў. Што яму паложаш у гняздо, тоя прынясець. Жывець у доме ў каго-небудзь. І яго не нада ўсердзіць. Карміць яго нада толькі яешняй. А як усердзіш яго, тады ён спаліць. А так што табе нада, палажы яму ў гняздо, ён і прынясець. Гэдак гаварылі. А жывець, наверна ж, на чардаку, не ў хаце. Ён вывадзіўся з яйца. Тоя яйцо ці пад пахай, ці за пазухай насілі. Гэдак расказавалі эту басню.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ступак Соф’і Міхайлаўны, 1926 г.н. у в. Лаўрэнаўка Талочынскага р-на.**

**203.** А мой брат як ішоў раз, відзіць, а ад кладбішча як пламя агня ляціць. Як даляцеў да Юлічыхі і німа. Дзе дзеўся, можа, ей у комін уляцеў? Зьмей жа, наверна, ляцеў. Чорт яго знаіць, хто.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Якубоўскага А. С., 1936 г.н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

### 204. Змей у труне

Як казала Наста з Адворыцы, як служыла яна ў пана ў Западнай, і там расказывалі, кажыць, праўда было. Памёрла жанчына, ну вобшчэм не радзіла яна, тады ж не дактароў нікога не было, і прышлі на заўтрае на кладбішча, а там – нейкі гул з магілы. Ну, там ўжо сабралі людзей скоранька, сталі раскапываць. Раскапалі, скрылі крышку, кажуць у палавіну ўбраліся, а такі ўжо стукат там у магіле. Адкрылі, снялі крышку – ажно там

змей нейкі, абкручаны быў каля яе ног. Там, кажыць, метры тры гэны змей. І вот ён, кажыць, стучаў, хвастом мясіў па грабу, дык не маглі ж нияк яны гэтага змея унічтожыць, каб яго дастаць.

Ну а тады, цераз сколька там ўрэмя, мужык і з жонкай маладыя з угару памёрлі, ну і абратна гул нейкі. Ну і бацюшка не разрышыў адкрываць, што абратна можа гэткі змей, ну але ўсё-ткі нехто сказаў, што нада адкапаць, што такое… Ну і выкапалі яшчэ глубжы, а тады ўжо, кажыць, ціха і адкрылі гроб. А іх у адным грабу палажылі, ён нічога, мужык, а жонка, кажыць, рукі пакусала, валасы ўсё парваныя на галаве, яны атышлі ў яме, каб (адкапалі), як толькі стаў гэты гул, можа б жывых заспелі.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 205. Красавіца змяя

Усякія зьмеі ёсь. А я ў прошлым гаду ўстрэціла, нікада ў жызьні такую зьмяю ня відзела. Вот і ў каго спрасіць не знаю. Длінная, чорная, красівая такая… Ну, ізвіваецца, дарогу мне перапаўзла… І карона на галаве, белая карона на галаве! Вот чэснае слова. Ні знаю. Белая карона. Первы раз у жызні. Первы. Вот сколька я тут хажу. Карона на галаве. Белая карона на галаве. Маленькая белая карона на галаве, прадстаўляеш? Вот эта я ў прошлым гаду відзела і места тое знаю. Эта вот як ад нас, ну там, на перакростке. Вот яна перапаўзала справа, як па ходу, як я ехала, а яна перада мной управа і налева. Вот. А красівая, чорная, длінная, і такая, як вот точна перада мной яна, ну, ізвіваецца вот… Ну такая красавіца зьмяя. Перапаўзаець дарогу, і дажа на веласіпедзе ехала, і я астанавілась. Ну яна ка мне яна ж ня кінулась, нічога, як ішла так і пашла. І на галаве белая карона. Галоўка маленькая і гэта белая карона. То абычна вот як у этай… у ужа, дык ушкі жоўценькія, так. А то ў яе белая карона, іменна ня ушкі, а вот так вот карона белая. А вот што эта было, я не знаю.

**Зап. Бабіч А. у 2009 г. ад Крыцкай Тамары Пракоф'еўны, 1940 г.н. (нар. у в. Уласава Лепельскага р-на) у в. Цянюгі Вяркудскага с/с Ушацкага р-на.**

## 206. Змяя з вяночкам

Мая мама ўсё расказывала… У нас была такая пустка, мы ўсё хадзілі касіць туды. Дык яна кажаць: “Я відзела такую змяю, а не саабразіла, ніхто мяне не навучыў... Іду, а там канава, сколькі кілометраў, а змяя, – кажаць, – ідзець па вадзе, і галовачкай трасець во. А на галовачцы вяночак. Вяночак. А гэты вяночак нада было, кажуць, каб зайці наперад, паслаць што-небудзь такоя, ці хустачку ці што, яна б яго і скінула. Эта дужа, кажуць, бальшэй

падарак. Ён дужа, кажуць, ці ён там пазалочаны ці сярэбраны. Змяя такая. А я, – кажаць, – гэтага не знала. А яна, – кажаць, – ідзець, а я на яе гляджу, а яна ідзець і галовачкай трасець, – кажаць. А я, – кажаць, – каб знала, хоць бы хустку з галавы зняла і наперад паслала, можа б яна і скінула гэты вяночак”.

Гэты вяночак можаць папасці толькі тому чалавеку, каторы веруюшчы, каторы, ён ужо, верыць у Бога, усё. Добраму чалавеку. І тады багаты, наверна, будзеш.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. (нар. у в. Краснае Сяло) у в. Будзішчы Сененскага р-на.**

## 207. Шчасьце на дарозе

Вот мая мама расказывала. Яна яшчэ маладая была і бегла па дароге. Бегла па дароге, а па дароге чарвячкі, вот такія беленькія, адзін за адзін – пляцёнкай перад ей. Як рака, чарвячок адзін за адзін. Ну как Дзьвіна, шнурком яны паўзлі, шнурком, адзін за адзін зачэплены. Госпадзі! Стала яна, любавалась, любавалась, што гэта такое. Прыйшла і сваёй маме гаворыць: “Мама, так і так, што гэта такое?” – “Эх ты, дачушка, табе шчасце было, нада было разаслаць фартучок ілі платок, і сказаць: “Дзьвіна мая, дзьвініца, родная сястрыца, калі на дабро – палзі ка мне на фартучок, а на плахое – палзі вон. Ты б з іх пасушыла і ўсё врэмя шчаслівая была”. Засушыць іх нада было, чарвячкоў, і насіць всегда з сабой. Гэта такой талісман, талісман для дабра. Мне такога не ўстрэчала ні разу.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 208. Хут

Хут жыў у Анілкі (эта фамілія такая) у хаце. Насіў ёй усякая дабро такоя. Дзе ён браў? Но насіў. Праз вакно вылезець і пойдзець. Пэўна ж, шанавалі яго.

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. ад Пішулька Яўгеніі Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

**209.** Быў во нейкі Хут. Расказвалі, вот гэты Хут – тожа нейкі дамавы ці чорт. Вот яго, гаварылі, нада яйцо пад мышкай тры гады насіць, і тады палучаецца гэты фут. І фут гэты памагае ў хазяйстве. Вот калі чалавеку там усё ўрадзіць і скаціна вядзецца і добра, гэта, гавораць, яму памагае Хут. Вот пра аднаго так гаварылі ў нас. Але кажуць, гэта яму Хут памагае. Патом я гавару: а што такое хут? Вот мне расказалі, хто такі фут. Ну гэта,

відна, такі дамавы ціпа, чарцёнак такі. Вот нада тры гады пад мышкай насіць курынае яйцо і тады з гэтага яйца выходзіць нейкі Хут. І гэты Хут памагаіць людзям гэтага дома, хто яго вынасіў.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Лілії Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 210. Русалкі

Я дажа русалку відзела. Была я бярэменная 4-ым рабёнкам. Пайшла ў гэтыя, што завецца ў Бяседах, Крыжы, там шчавель рос, а ў нас тут не было шчаўлю. І ўзяла з сабой дзевачку. Ідзём. А гэта было на Троіцу, гаворуць, Русальная нядзеля. Ідзём, а ў жыце стаіць дзеўка ў белым плацці. Я такая вісокая-вісокая была, а яна мне давугэтуль (паказвае вышэй галавы) відаць. Гэткая яна бальшая. Ці каблукі бальшыя былі, я ж не знаю. Ну вот гэта стаіць і ўсё во так выкручваецца. А я была бярэменная, хадзіла паследні месяц.

Тройца бываець у іюне, а ў іюле, 8-га, я ўжо радзіла дзевачку, і валасы давогэтуль, у вочы аж лезуць, такая кудлатая. Думаю, мусіць, за гэта, што я гэтую русалку відзела. Валасы ў яе длінныя, мне відаць з жыта, ну вось дагэтуль, і яна выкручваецца, валасы распушчаныя па плячах. А я не баялася яе, бо я Богу маліцца ўмею, і крэсціцца ўмею, і я яе нісколькі не баялася. Думаю, пакажу дзяўчынцы. А дзяўчынцы маёй быў шосты годзік. Яна і сягодня ёсць, жэншчына ўжо. Кажу: “Паглядзі ж-тка, Каця, якая дзеўка ў жыце!” – “Мамачка, мо гэта русалка?!” – “Брэну яе бяры, ня бойся! Я яе не баюся!” І мы памаленьку пайшлі, шчаўлю нашчыпалі і пайшлі. І я ўсё аглядалася, а яна на адным месце выкручвалася, танцавала.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Лабацёнак Валянціны Сямёнаўны, 1928 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

**211.** Русалкай страшылі, алі ўжо ня дужа страшная яна была ў наш век. Гэта самае, раньшэ казалі русалка калышыцца на ветках. Вот гэта і я помню, страшылі, мама часта. А то русалка, кажыць, схваціць. “Хадзі калыхацца”, – гэта ўжо ўродзі русалка завець і, кажуць, тады схваціць русалка.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

**212.** Як малая была, пужалі: “Ня йдзіця далёка, там русалка ёсць, у жыце”. Гэта страшылі дзяцей, каб ня йшлі далёка, не ўцікалі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Шыдлоўскай Л. І., 1924 г.н. у в. Гліншчына Пастаўскага р-на.**

**213.** Прывязавалі к сасонцы русалкі валасамі дзевачак, за іхнія валасы, каго зловюць. Абкруцюць, прывяжуць. Хлопцаў не. Дзевачак, калі длінныя валасы. А ці гэта страшалі так?

**Зап. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у 2001 г. ад Крыцкай Варвары Сямёнаўны, 1921 г.н. у в. Окана Лепельскага р-на.**

**214.** Русалку сама відзіла. Пашлі ў шчавель. А яна ляжыць у рожы. Рабая, як цялёнак, красна – белая, валасы доўгія, распушчаныя. Начала: гы-гы-гы! Мы спугаліся і пабеглі дамоў. Баба сказала, што гэта русалка.Добра што не пашлі, ато зашчыкатала б.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Мядведзевай Ганны Васільеўны, 1925 г.н. у в. Мамолі Расонскага р-на.**

**215.** Русалкі жылі ў возеры, іх можна было ўбачыць вечарам. Мяне маці пужала русалкай, калі я хадзіла на возера ці на рэчку. Гаварылі, што русалкамі становяцца ад закляцьця.

**Зап. Балай С. і Бартунскі А. у 1996 г. ад Азаронок Тамары Карпаўны, 1922 г.н. у в. Баброва Лепельскага р-на.**

**216.** Дзяцей пужалі. Гаварылі, што там бегаюць па жыту валасатыя во такія нейкія, кажаць, валасатыя бегалі і яны гэтымі валасамі, ну гэта, пужалі. Валасамі абкруцяць цябе, кажаць, і задавяць. Русыя валасы і даўгія. Вот іменна, што даўгія валасы і, кажаць, закручваюць гэтымі валасамі. Ну вот, як ужо жыта спееець…

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Алейчанка Аліны Мікалаеўны, 1940 г.н. у в. Задоры Лепельскага р-на.**

**217.** Ну, гэта сказкі ўжо былі. Малых пужалі. Ну, бальшынство русалкамі пужалі, каб не бегалі, жыта не таскалі: “Ня ідзі, тамака русалкі ёсць!” Малых жа пужалі, каб у калодзеж не залезлі. Русалка за валосы выцянець, сядзіць там у калодцы. Вот так можаць. Толькі іх ня відзяць.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Пецько Антаніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 218. Русалка і купалка

Помню цётка мне казала: “Не хадзіце ў лес, там русалка, яна гушкаецца на дзеравах”. Но мы не баяліся. Русалка красівая далжна быць, валасы даўгія. Можаць зашчакатаць. Но далжна быць красівая, улюбляліся ж у яе. Вот на Івана хадзілі збіралі цвяты *купалінка*. Эта ж русалка іх ужо садзіла, вянкі вілі з іх. Яна тады тога чалавека абіжаць ня будзець, хто вянкі [віець], хто пачытаець яе. Прынасілі такія цвяткі, яны распускаюцца,

у сцяну торкалі – чый первы распусціўся, той первы замуж зойдзець. Мама гаварыла.

Яна [купалінка] такая во дужа не цвіціць, такой во пупышачкай, і праўда расцвітаець, як прынясеш у хату, распусціцца. Эта русалка этыя цвяты сеяла ці садзіла. Значыць, я паторкнула з сяброўкай: чый первы распусціўся, тая первая замуж. Сцены ж няклееныя. А старога калі распусцілася, то яшчэ пажывець, а як не распусцілася, то скора памрэць. Як адуванчык, што касмаценькі – ня цветам, а так касмаценька. А цяпер нідзе німа.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кузьміч Соф'і Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 219. Русалкі і чэрці

Ну мы іх відзець ня відзелі, мы, як былі дзецьмі, сабяромся і пайдзём купацца ў возера. А бацькі на рабоце і не хацелі, каб мы далёка хадзілі, і пужалі нас русалкамі. Казалі, што яны – такія высокія дзевачкі, ручкі тоненькія, валоскі длінныя, глазкі галубенькія, зубкі востранькія, і когцікі востранькія. І вот, яны як схвацяць, дык будуць шчыкатаць і будуць так шчыкатаць, што памрэш. А тады выскачыш з вады і ў жыце хавацца, дык вот каб цяпер дык гэтых бы русалак паймалі і замэнчалі (смяецца). Нас тожа запугівалі, што не хадзіце ў балота – там чэрці сядзяць. Яны такія, кажуць, – даўгія насы ў іх і зубы вострыя, і рогі. І як ты только правініўся, і ён увідзіць, ён цябе схваціць і зразу з'есьць.

**Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г.н. у в. Шо Глубоцкага р-на.**

## 220. Пра русалак і дамавога

Дзяцей пугалі, каб у жыта не бегалі, што русалкі ўкрадуць. Гавораць, што яны нападобіі жанчын. Длінныя валасы, косы. Маладыя. Казалі, што яны задушаць, ці павядуць з сабой. А пра дамавога… Кажуць, у каждай хаце ёсць дамавы. Вот як памёр хазяін, праз тры гады прыходзіць ка мне сасед, і кажыць: “Дамавы ёсць. Бальшы, як кот, з-пад печы падышоў. І хвост у яго, і абратна пайшоў пад печ”. Казаў, што чорны. Як звярок, як кот, такая шэрсць. Вочы гарацъ, як аганькі. Але, ён можыць задушыць, еслі яму што не панравіцца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянкі Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. в. Слабодка Чашніцкага раёна.**

## 221. “Русалка”

Ну, страшылі бывала русалкай. Гаворацъ, хадзілі ў ягады, да адзін мужык дужа жалеў, што выберуць ягады. Узяў бабы сваёй валасы чорныя

распусціў. Яна як залезла на дзерава і сядзіць, і калышацца. Дык людзі ўсі пабеглі, што эта русалка. А эта не русалка, а мужык з жонкай выганялі з ягад. Ну дык яна ж, русалка, страшная, канечне. Валасы чорныя ў русалкі. А людзі думалі, што праўда русалка, а яна не русалка.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

### 222. Русалкі

Русалкамі пугалі. У нас там рэчка ёсць, Альхоўка завецца. Выцікае із леса. Рэчка, патом бальшы роў.У рэчку, гаварылі, нельзя хадзіць купацца, аднаму нельзя хадзіць купацца – русалкі могуць злавіць. Хаця русалкі, у асноўным, жылі ў жыце. Русалка паймае і зашчакоча. Будзеш хахатаць, хахатаць і памрэш. Русалкі – дзевушкі незамужнія. Дзевушкі, якія патанулі, называліся русалкамі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Пятровай Кацярыны Тарасаўны, 1925 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

**223.** Русалкай пужалі: “Во, не хадзіце, там у жыце сядзіць русалка”. Гаварылі, што яна касматая, валасы ўпярод расчэсаны, што ліца не відаць. Яна, гаворацъ, схваціць, то ў мяшок усадзіць, то панясець куды. Дык мы баяліся ад хаты адыйці. І яны, тыя русалкі, эта як Іван Купала – этай парой.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Волкавай Таццяны Сідараўны, 1919 г.н. (нар. у в. Паршына Горацкага р-на Магілёўскай вобл.) у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

**224.** Ну, гаварылі, што ў жыце нейкія русалкі. Пугаліся мы гэтых русалак, баяліся каля жыта хадзіць перад Купаллем, у Пятроўку. Жыта, як назрэўшы, дык мы баяліся хадзіць каля жыта. А мы іх не знаем, скажуць “русалкі”, а што там за русалкі? Гаварылі, што нападаюць на чалавека тыя русалкі. Ну, так вот мы баімся і бяжым, бяжым, каб русалка тая не схваціла. Нам гаварылі, як зверы, як звярок які, русалка тая. Ні чалавечына, а як звярок. Вот мы баяліся звяркоў тых, што яны нас схопюць, звяркі тыя, а што яны чалавекам, нам не гаварылі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

**225.** Мама мая гаварыла. Ну раньшы ж яшчэ былі свае кускі, этыя. Як празьнік які, тады хадзілі па жытным. А патом, гаворыць, ішлі мы, утраём, наверна. І гаворыць: вышлі з жыта, удваём, дзевачкі. І, гаворыць, ну, як адна, і надзеты, гаворыць, і роўненькія. І мы, гаворыць, так угледзе-

ліся ў гэтых дзевачак. Пака падышлі бліжы, дзевачкі ішчэзьлі і не стала іх. Вот гэта мама мне расказавала. Эта яны апрадзялілі, што гэта русалкі. Яна гаварыла, такія, як во дзяцёнку лет пяць ілі шэсь. Такіх небальшых яны і відзілі. А пака падышлі, яны і ішчэзьлі. Летам было, жыта яшчэ ж стаяла. Тады па жыту хадзілі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

**226.** Тая русалка – абыкнавенная красівая дзяўчына, у вянку, у белым плацці. Ідзець з вады прыбраная, і як яна там плацця ня змочаць. Эта ж такога ня можаць быць. Яна зашчакатаць можаць. Уцякаюць сколькі сілы. Датуль дзяцёнак хахочаць, пакуль не зваліцца. А як сам увідзіш русалку, тады нада ксціцца Богу. А хто яе ведаець, ці эта русалка. Ці хто эта.

Эта ня ўтопленіцы, а гаворуць во як. Як дзяўчына родзіць у дзеўках, тады кажуць – русалка ўжо. Як русалка, дык русалка і пойдзець. Да, той рабёнак абразоўваецца ў русалку і можаць па жыту хадзіць ці па вадзе. Як гэтыя лунацікі. Усюдах могуць хадзіць. Толькі пужаюць дзяцей.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

### 227. Лізун

Пра лізуна гаварылі. Ну, гэта пугалі так. Гаварылі, што Лізун у калодцы сядзіць і язык, як цёрка. Дзяцей пугалі, што зацяніць у ваду.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Пятровай Кацярыны Тарасаўны, 1925 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

**228.** Раньшэ было гавораць. Пугаюць. Малых пугаюць. Лізуном гэтым, там, што у калодцы, каб не падхадзіў к калодцу. Тады гаворылі: “Лізун цябе схваціць!”

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**229.** Ай, я забыла... лізун, лізун. (Смяецца) Лізун, кажуць, вун сядзіць. (Клубніца падказвае: А наша мама казала – у бобе лізун сядзіць. А нам жа хочацца бобу.) Лізун як лізнець па голай жопе да крыві, дык мы і баяліся. Зато яго і звалі так – лізун. Як лізнець, дык ніякі доктар ня вылечыць. Як лізнець па жопі да крыві. Мы баяліся і ня ішлі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ступак Соф’і Міхайлаўны, 1926 г.н. у в. Лаўрэнаўка Талочынскага р-на.**

### 230. Вадзяны бык

Вадзяны, вадзяных мы цяпер відзім. Яны на рост во такія. А цяпер іх завуць – бык вадзяны. Ён: у-у-у-у-у. Гэта ня птушка, а так, звярок, у вадзе жывець і плаваець. А хвост, як лапатачка. Я вудзіла рыбу і хацела яго раз на кручок зачапіць. Алі пабаялася, што ён мяне сцягнець. Бальшы і каля мяне ходзіць. Вось казалі, што ён вадзяны.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Нядбальскай Марыі Міхайлаўны, 1931 г.н. у в. Кугоні Ушацкага р-на.**

**231.** Возера у нас спачатку мелкае, а потым рэзка абрыў і глыбокае-глыбокае. Рыбы раней шмат было. Тонамі вылавлівалі, не тое што зараз. Пра возера я ведаю мала што. Ведаю толькі тое, што у нас у возеры вадзяны бык жыве. Не памятаю хто мне гэта расказваў. Гэты вадзяны бык раніцай, як толькі прачынаецца, і вечарам, як спаць ідзець, іздае такіе звукі: “у-у-ух”. Ён лічыцца, як бы хазяінам гэтага возера. Але я ў гэта не веру. Можа хто прыдумаў, не ведаю.

Напэўна яго хтосьці і бачыў, раз расказвалі гэта, а можа і прыдумалі. Я сама не бачыла, і маці мая не бачыла, таму сказаць точна не магу. Яшчэ у нас у возеры шмат вялікіх камянёў і трэба быць асцярожным, каб не параніцца.

**Зап. Волкава Я. у 2009 г. ад Волкавай Лідзіі Іванаўны, 1937 г.н. (нар. у в. Двор Павулле Ушацкага р-на) у г. Наваполацку.**

### 232. Вадзянік

Еслі ў абед купаесься, можаць вадзянік забраць цябе. А я думаю, што ў абед жарка, нагрэесься, кульнешся ў ваду – вот табе і можаць адключыцца галава. Дзед расказаваў. Бяжыць чалавек да ракі ў ваду. А той [вадзянік]: “Ня ідзі, а то пакурнесься, ня ідзі, а то пакурнесься...”. Тры разы так з вады прагаварыў. А ён, як бег, і зразу ў ваду. Усё. Чалавек захлынуўся. Тут вадалаз такі быў, паплылі глядзець і кажуць, што яго абыкнавенны казёл дзяржыць зубамі за нагу. А як гэта, што абыкнавенны казёл ды ў вадзе дзяржыць зубамі? І гэты чалавек утапіўся, здаровы мужчына. Упаўдзён нельзя купацца, эта самая жаркая пара.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

### 233. Дзвінскі вадзянік

Раньшэ была нячыстая сіла. Вот я пра вадзяных чула. Раскажу. У нас на Дзьвіне ехалі мужчыны з рыбалкі. А адтуда дзярэўня, а дзе там дзярэўня, – Наваполацк і дзярэўня Касцельцы. Ехалі яны ўдвух, а там кусты.

Гавораць: “Глядзім – утопленік, утопленік плывець”. Яны за яго, паднялі на лодку, палажылі, – ну нада ж на бераг яго. А тады,гавораць, той утопленік адзін глаз адкрываіць. Яны за яго ды ў Дзьвіну. А ён і ім пальцам маша з вады і крычыць: “Шчасце ваша, што вы так паступілі, а то патапіў бы”. Гэта і быў вадзяной. Гэта точна, гэта точна рыбакі расказвалі. Гэта было гадоў 30 назад.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 234. Дзвінская русалка

У Дзьвіне нехта ёсь. Можа, заклятыя хто. Ці дзеўка, ці жэншчына заклятыя. Дык эта можаць быць. Да, у Дзьвіне жывець, выходзіць. Можаць тады тая русалка зьдзелаць дзялоў. Можаць і напасці на чалавека, і задушыць. Кажуць, што яна красівая, не лахматая, не касматая, нічога, і адзета красіва. Выходзіць на бераг, а можаць дажа, як купаюцца, улавіць каго. Можаць і задавіць, каго не прылюбіць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Брадзінскай Ганны Кузьмінічны, 1925 г.н. у в. Вяжышча Бешанковіцкага р-на.**

## 235. Лес Сасной

А вот у лесе бываець, што пайшоў чалавек і вот ходзіць ён, ходзіць, не можа выйсці, вот блукае. Эта Лес Сасной водзіць – эта очань плахі. Еслі б вадзіў ён, то б пропала дзела. Жэншчына адна пайшла ў лес, і не вярнулася, і Лес яе забраў. Забраў яе саўсем. І нашлі яе, сядзела яна, бідончык прывязаны у ей. І нашлі яе пад елачкай нежывую. В лесу яе там парасцерзалі, паелі яе.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 236. Лясны Казюльчык

Казюльчык ходзіць па лясу, усюды. Унучка гавора: “Я казюльчыка баюся”. Я гавару: “Канешне, нельзя хадзіць адной нідзе, паймае”. А што там за казюльчык, я толкам не знаю. Ён такі шэраваты, шэранькі. Капыткі ёсьць. Капыткі ладныя такія. Яго не тронеш і ён не троне нікаго ні разу. Ён сам не троне нікаго. Есьлі яго патрогаеш – толькі тады. Можа накінуцца, глазы выдраць. Што хочаш. Эта звярок, чатырохгранны нейкі такі, кругленькі. Нападобіі як Чабурашка, толькі не ён. А мордачка востранькая такая, як у мышанькі. Хвосцік небальшэнькі тожа. Я сама відзела, толькі не магла разгледзець харашэнька. Яго в любом лесе можна встрэціць тут, у нас.

У лясу ўсяго можа быць. Як заблудзіш, памоліцца Богу нада: “Памагі, Божанька, каб мне як-небудзь выбрацца адсюда, памагі, Божанька”. А, як ягады саберыш, назад ідзеш, нада спасіба даваць Лесу. Абязацельна! Усім нада благадарнасць, усе любяць харошае, плахое ніхто не любіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Асташэнка Кацярыны Сямёнаўны, 1930 г.н. у в. Стайкі Віцебскага р-на.**

## 237. Пра нячыстую сілу

Лясун? Эта нячыстая сіла. Дажа ў каждам доме ёсь нячыстая сіла. Есьлі чалавек грэшны, ён і ў чалавека ўсяляецца. Чалавека тады прыпадак б’ець. Эта чорт яго калоціць. Эта чорт усяліўся. У нас тут аднаго забіў прыпадак. У яго быў алкагольны прыпадак. Ён піў, піў і чорт у яго ўсяліўся, біў яго, біў і забіў. І ён памёр. І дамавік – нячыстая сіла. Яго ж ня ўвідзіш. Ён нявідзімы. Ён можа разам з намі, а мы яго ня відзім. Ён вездзе жывець. І ў бані, і ў лесе, і ў хаце, і ў чалавека ўселіцца. Куды хочаш. І русалкі – тожа самая, нячыстая сіла, у балоце, у вадзе.

Кагда-та яны жылі на небе, этыя людзі. А патом яны саграшылі Богу. І Бог з неба іх сагнаў. А яны на зямле і вот яны прэўраціліся ў чарцей. А яны быўшыя людзі, но яны грэшныя, пагэтаму яны ўжо ня могуць так, як людзі. Бог іх сагнаў з неба і яны рассяліліся. Ну што. Вот людзі началі сільна піць. Ім такую ахоту даюць, штоб яны пілі. А яны ў цэркву ня ходзюць, імі владзеюць чэрці. Чэрці даюць ім ахоту піць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 238. Дзяўчаты і д’яблы

Як у дарогу, я дык перакшчу дзіцёнка всегда і скажу: “З Госпадам Богам!” Дарожку перакшчу: “Мікола, спасі”. Благаславенне всегда. Я вот чула такое, што ішло тры дзеўкі. Устрэціўся ім дзьявал. Два дзьявалы паміж сабой. Адзін: “Ідзі яе задушы”. А другі: “Нет, яна ішла дарогай, пераксціўшыся. Выхадзіла з хаты, пераксцілася дарогай. Я не імею права”. Тады той кажа: “Ідзі гэту задушы”. А другі: “Не, яна толькі ўчора была ў цэркві”. А на трэцюю сказаў: “Як яна выхадзіла з хаты, яе пераксціла матка. Мы да яе недаступны”. Гэтак старшы дзьявал прыказваў младшаму.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

## 239. Пачвара

А вот яшчэ вам раскажу. Я не знаю, як гэта было ў маёй сястрыцы, і баялася яна ісці ў той сарай за сенам, бо мужык павешаўся, а карова блізка.

І сабярэць у карзіну, а утрам запаліць свет і гэта сена карове паложыць, а ўжо ў пуню яна не шла. І гаворыць: “Вышла на волю, стаю, а чую нехта ідзець. Адчыняюцца дзверы з той паветачкі, а там дужа наклон бальшы. Вот трошачкі паадчыніліся гэтыя дзверы, а ў нас сабачка быў чорненькі, звалі Філька… І я падумала, што ён не адчыніць гэтых дзвярэй, а тады, – гаворыць, – адчыніліся дзверы ва ўсю”.

Гэта ніякія не басні, не сказкі, мусіць, ёй плоха са страху стала. І гаворыць: “Расчыніліся дзьверы ва ўсю і ажно хлопнулі па сцяне, выскаквае з гэтай паветкі нейкі, ну, не Філька ж”. Яна гаворыць, што быў не пахож на сабаку – бальшы, як цялёнак. А яна гаворыць, што добра відзела на снягу – галава таўстая, а шыя кароценькая. Тут шыя такая таўстая, а на нагах чобаты, а хвост, гаворыць, доўгі, ну на канцы задзёрнуты. А рог не было. Гаворыць: “І каля хаты, і каля сцежкі прайшоў, а я разглядзелася, што ён у бульбу не палез і паляцеў – відзела доўгі хвост, які па снягу пацягнуўся”. Я ў такое не веру.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 240. Смерць

Гэта я слыхала, як смерць прыходзіла. Тут у нас такога не было. Але я слыхала, калі мы жылі за возерам. Паміраў дзед, ка мне прышла яго ўнучка і гаворыць: “Якая яна смерць, увідзець бы.” Дзе яна там жыла. І пайшоў яе брат на танцы, “вечарынка” – па-беларуску. Ідзець дамоў, а ўперадзі дзевушка ідзець у шляпе, красівая такая. У шляпе і ў чорным, кажаць, была ва ўсім. І ён рашыў пазнакоміцца, дагнаць гэту дзевачку. А яна бягом і ў саседні дом ускочыла. І ён гаворыць: “Хто-та прыехаў к гэтай суседцы. Дзеўка красівая, нада ісці пазнаёміцца”. Толькі ён лёг спаць, дык загаласілі ўсе – умер у іх дзіцёнак, тая дзевачка. Дык гавораць: гэта смерць да іх прыхадзіла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Шчэрбік Ніны Барысаўны, 1925 г.н. у в. Стаўбцы Чашніцкага р-на.**

# ЧОРТ

## 241. Сіла чартоўская

Нячыстая сіла – гэта чорт, ён усё што хочаш зробіць. Чорт, як апануе чалавека, дык ад яго спасьціся ня можна, ён завядзець куды хочаш толькі таго чалавека, які не верыць Богу. Я яго не баюся, ён да мяне не падойдзе, бо я веру ў Бога.

Вось у сьвяты нельга ні паляваць, ні ў ягады ісьці, бо чорт апануе. Так як нашага суседа Габку апанаваў, так страляў па чарту. Не пайшоў у касцёл у сьвята, а пайшоў на паляваньне. Яго і бацькі памершы, гэта нада Богу маліцца ў свята. І на паляваньні яго апанавалі чэрці, дык і я кажу: “Ты можа быў п’яны?” Ён сам расказываў, кажыць: “Ляціць чорт на мяне, я ў яго страляю. Гэтай паваліўся, ляціць другі – усе патроны выстраляў на чартоў, а не застрэліў не аднаго!” Кажа, што відзеў чарцей і толькі, калі ў канюшню схаваўся, толькі тады чартоў не стала. Вось што робіць сіла чартоўская!

**Зап. Балтрукевіч А. у 2005 г. ад Запруднік Гелены Мечыславаўны, 1926 г.н. у в. Рафалова Браслаўскага р-на.**

## 242. Чалавек і чорт

Да аднаго чалавека прыходзіў чорт, і казаў: “Пойдзеш са мной. Можа каго уморым, абманём”. А чалавек пытае: “Ты хто?” А ён кажа: “Чорт”. А чалавек кажыць, што нада совесць мець і не абманываць, і не пайшоў зь ім.

А тады пасьціў чалавек коней і, як пад’есць, ён дык адразу Богу памоліцца, а чорту дрэннае скажа. Рассярдзіўся на яго чорт. Узяў звязаў за хвасты коней і перакінуў у восеці цераз балку. А сам скача і пяе: “І Гомля маё, і Усомля маё, і Матчызна маё, і Загаліна маё, і Банькі маё, і Прыбанькі мае, і Пунькі мае, і усё вакол маё”.

А чалавек шукае сваіх коней і кажа чорту: “А коні дзе мае?” І абрыцёй ён як дасць добра чорту. Той і паказаў, дзе коні.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Рэват Агаф’і Карпаўны, 1913 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

## 243. Лён і чэрці

Яшчо расказывалі: пасідзелкі былі вот вечарам. Пралі, ткалі, вязалі – дзяўчонкі сабіраліся. Мальчышкі к ім прыхадзілі. Усе прадуць – дзелам занімалісь – цепер так цягаюцца, а раньшэ дзела – вечарам. Ну вот такія скамейкі длінныя – лаўкі называліся – прадуць сядзяць. У аднэй верацяно звалілася. А парні сядзяць – красівыя, гаварaць, харошыя, прыйшоўшы к нам з гармошкам там, ну што к дзяўчонкам прыйшлі.

Ну і ў аднэй верацяно звалілася – яна так стала яго падымаць: "А што й та ў парня за хвост? Здаровы хвост!?" Сразу яна і дагадалася, што гэта не парні прыйшлі, а чэрці.

Тут дзеўкі раз, раз, раз – па аднаму сталі ўбігаць. І ўсё гаварылі так раньшэ: "У лён спрачся, і лён, гавораць, нікада чарцям не аддасць вас". І вот, гавораць, мы убегалі ў тот лён, і такім слыхам пользаваліся. У лён, туда, гавораць, убяжалі, спраталіся, льном закрыліся. Ускачылі, сушылка там такая льняная была – лён сушылі. А гэтыя парні, падышлі і гавораць: "Лён, лён, падай дзевак! Лён, лён, падай дзевак!"

А тут пятух: "Кураку!" запеў. Як пятух запеў, так ўсё – нашыя парні і прапалі. Яны, гавораць, пятухоў баяліся! Як першы пятух запае, так ўжо і ісчэзнуць. Так вось пра чарцей гаварылі.

**Зап. Пракоф'ева Ю. у 2007 г. ад Еўдакімавай Варвары Маркаўны, 1935 г.н. у в. Запольле Віцебскага р-на.**

## 244. Чэрці, дзеўка і лён

Ішла дзеўка адна і пагнаўся за ей нехта, мабыць, чэрці. Тая ратунку крычаць, дай уцякаць. А дзе ж ты ад чорта схаваесься? Ну дык во, яна забегла ў сарай, дзе ўжо лён з поля звезшы былі. За тым лёнам яна схавалася і чэрці за ей ужо тут прыбягаюць. А ісьці чэрці туды ня могуць, дзе лён, то й і гавораць яму: "Аддай нам дзеўку!" А лён ім: "Я тады вам дзеўку аддам, як вы мае пакуты прыймяце".

– Якія твае пакуты?

– Ірвуць мяне са ўсёй сілы...

– І ўсё?

– Мочаць мяне і сонцам пякуць...

– І ўсё?

– Не. Потым б'юць мяне, што ёсь сілы…

– І ўсё?

– Мнуць ды трэплюць, цераз зубы жалезныя цягнуць, а потым прадуць…

Ну во, так той лён аж да самых пеўняў тым чартам пра свае пакуты расказваў. А як ужо пеўні запіялі, то паўцякалі тыя чэрці, ды пазабыліся на дзеўку.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

## 245. Чэрці на попрадках

Ну, а было, што во дзеўкі раней збіраліся і пралі ў адной хаце. Сядзелі яны пралі, а як дванаццаць часоў, прыйшлі да іх мальцы. Маладыя такія,

красівыя, але незнаёмыя. І тут у адной верацяно пад лаву закацілася. Тая нагнулася, глядзіць – хвасты! Яна перахсьцілася – чэрці й паляцелі.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Марозавай Хрысьціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухова Расонскага р-на.**

## 246. Чэрці

Пра чарцей казалі даўней, што п'яных круцяць – дарогі ня найдуць. Пакруціць, пакруціць і на камені спаць пакладзе. Дык можа проста, што п'яныя? Во, хто мыецца ў бані, як 12 часоў ужо. Тады да яго чорт прыйдзе і голага пасадзіць на печку, на жар. І не мыліся таму пасьля 12.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Марозавай Хрысьціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухова Расонскага р-на.**

## 247. Чортавы камяні

Што водзюць, ідзець мужчына, прычыпіўся к яму нейкі другі вродзе бы мужчына, і водзіць, водзіць яго, дамой ня можаць ніяк зайці. Тады прывёў яго, на камень пасадзіў і гаворыць: "Разувайся і спі, і спі". Ён і спаў, пака не стала відна. Раньшы такія камні былі, што Бог ведаець. Яны ж растуць, камні. Такія бальшыя ляжаць, чорт якія. А тады як шасе строілі, парвалі іх.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Брадзінскай Ганны Кузьмінічны, 1925 г.н. у в. Вяжышча Бешанковіцкага р-на.**

## 248. Чорт і мужык на вяселлі

Была неяк свадзьба. Ідзець мужык, а на ўстрэчу яму чорт: "Куды ты, мужык, ідзеш?" А ён кажыць: "На свадзьбу, можа хамут украду. А ты?" – "А я тожа на свадзьбу. Як малады чхнець за столам, яму ніхто не скажыць "Будзь здароў!", тады я яго забяру к сабе". Ну вот і прышлі, чорта ж ніхто ня відзець. Ну вот маладыя сідзяць за столам, пяюць, а тады гэты малады раз чхнуў, другі, а гэты мужчына стаіць у парозе: "Будзь здароў!" – гэты мужчына на маладога. А чорт тады на яго: "Хамутнік! Хамутнік! Хамутнік!" Брэшыць, а ніхто нічога ня відзіць. Тады ён стаў казаць, гэты мужчына, што гэта чорт, ну і стаў казаць. Тады гэтага мужчыну за стол яго пасадзілі і напаілі, і накармілі, і хамут, мусіць, далі.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 249. Сынок-чарцянёнак

Так было, што ўся дзярэўня напілася, ўсё п'яныя спяць і толькі адзін чорт сядзіць. Тады чэрці ідуць: "А чаго ты адзін сядзіш, усе п'яныя, а ты адзін сядзіш?" – " А што мне робіць? Тут усе мае, ужо ўсе мае, нашы".

А тады раскажу, як на мельніцы работаў мужык а баба адна спала ноччы. Але чуець нехта халодны кладзецца і кладзецца ноччы ля яе. Яна думаець, можа мужык з мельніцы прыходзіць халодны. І баба забярэмініла, гэта ну, і стала ражаць. Як радзіла, так і панёсся гэты чорт. Гэта чорт прыхадзіў, мужык на мельніцы, а ён прыхадзіў.

Тады яна сабіраець ягады ў лесе, а ён падбяжыць: "Мама, гу!" А яна паглядзіць – нідзе яго не відаць, а ён бегаець ззадзі ў лесе: "Мама, гу! Мама, гу!" Яна падымецца, глядзіць: "Дзе гэты мой сынок чарцянёнак?"

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Клопава Міхаіла Барысавіча, 1942 г.н. і Клопавай Леаніды, 1942 г.н. у в. Пліна Ушацкага р-на.**

## 250. Гапка і чорт

"Нячыстая сіла" – гэта чорт, ён усё што хочаш зробіць. Чорт, як апануе чалавека, дык ад яго спасьціся ня можна, ён завядзець куды хочаш толькі таго чалавека, які не верыць Богу. Я яго не баюся, ён да мяне не падойдзе, бо я веру ў Бога. Вось у сьвяты нельга ні палявать, ні ў ягады ісьці, бо чорт апануе. Так, як нашага суседа Гапку апанаваў, што страляў па чарту. Не пайшоў у касьцёл у свята, а пайшоў на паляваньне. Яго і бацькі памершы, гэта нада Богу маліцца ў сьвята. І на паляваньні яго апанавалі чэрці, дык і я кажу, ты можа быў п'яны. Ен сам расказываў, кажыць: "Ляціць чорт на мяне, я ў яго страляю. Гэтай паваліўся – ляціць другі! Усе патроны выстраляў на чартоў, а не застрэліў ні аднаго!" Кажа, што відзеў чарцей і толькі, калі ў канюшню схаваўся, толькі тады чартоў не стала. Вось што робіць сіла чартоўская!

**Зап. Балтрукевіч А. у 2005 г. ад Запруднік Гелены Мечыславаўны, 1926 г.н. у в. Рафалова Браслаўскага р-на.**

## 251. Чорт і жанчына

Нас страшылі балотам. Бальшое, там чэрці жывуць. Чарцей бачылі, кажуць, абыкнавенны чалавек касматы, галава лахматая, бровы ёсьць.

Вот я бы вам адну гісторыю расказала. Як адна жэншчына была у цюрме, тады прыйшла і расказвала. Так вот тут я ужо не знаю, целая гісторыя, казала, гэта лічна яна расказвала і ўсё гэта яна сама відзела.

Іх, як гэта завецца, заключоных пагналі у ягады. Ягады сабіраць. І хто сколькі насабіраў, у каго сколькі, трошкі, а ў яе тут цэлае вядро. А яна кажа, усе ўрэмя, усю дарогу, калі я сабірала, з кім та ўсё гаварыла.

Што яна гаварыла нікога не відзелі. Ну і прыйшлі другі раз. І другі раз ізноў таксамае. А тады ён начаў к ей на свіданьне хадзіць. Гэта яна расказвала, што на самам дзеле было. А тады, кажаць, ужо мусіць дні тры

ці чатыры яны встрачалісь, а тады селі атдахнуць на пянек. Ён хацеў яе пацалаваць, абшчапіць, а шапка зваліласся. А у яго рогі! А гэта чорт!

Дык што ж, яе тады выселілі з гэтай цюрмы, дальшэ куда-та паслалі, а ён сказаў: "Я чэраз некаторае врэмя прыду к табе". І чэраз месяц прыйшоў. І туды прыйшоў, куды яе адсылалі. Ну, і яна тады настолькі перапужалася, як ужо дзейсцвіцельна чорт, ну і забалела, і ад туберкулеза памерла. Вот такі случай быў. Гэта жэншчына расказвала, якая у цюрме была. Яна заработала 10 гадоў, [за тое, што] работала ў немцаў на пошце. А ці гэта праўда ці не, хто яго ведае.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## 252. Антось і чэрці

А хата ў таго Антося, гаварылі людзі, была нейкая асобенная. Гаварылі, што ў будынках у яго вадзіліся чэрці. Сам ён быў плотнік і зрабіў малацілку і прывад без аднаго цьвіка – з дрэва. Ішоў неяк яго пляменьнік ноччу з вечарынкі. Глядзіць – прывад сам круціцца. Пляменьнік спужаўся, пабег да Антося. Той схапіў стрэльбу, сабаку ўзяў і пайшоў туды. Заходзяць у тое гумно, а на бэльках сядзяць чэрці. Адзін чорт звесіў нагу з капытом з бэлькі і пачаў дражніць сабаку: "Бака, бака, на нагу" – чэрці ж нармальна, як людзі, не гаворац. Цэрці шапялявяць ці што недагаворваюць. Антось стрэліў па тым чарту і ўсе чэрці ўцяклі.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Высоцкага Віктара Іванавіча, 1924 г.н. у в. Цвеціна Мёрскага р-на.**

## 253. Чэрці і музыка

Здаваўся з дарогі. Адзін ішоў у Шалашах музыкант. Іграў у Дзедзіне кілометры тры адсюль. Бабы ўжо выгналі кароў на пасту. А ён сядзіць іграіць на пні. Чаму дамоў няйдзешь? Іду, іду, іду. Гармонік на плечы і пайшоў. Казалася яму, сядзеў іграў. Бывала, гаўна ўсадзяць у карман. Прыдзець да дому: "Што такое?!" Шутку такую сдзелают.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 254. Музыка Юстын і чорт

Ай, даўней ж к нам сабіраліся, мой дзед быў дзяком ў цэркаві, і папа з мамай хадзілі ўсягда. Ну вот яны прыходзяць дамоў вечарам, сабіраюцца, раньша ж гэтай гарэлкі не пілі ніхто. Сем'і былі бальшыя, дак прыдуць, і сабіраюцца, і расказаваюць усякія небыліцы, каму што здавалася, раньша так здаваліся здані.

І вот адзін мужык у нас, Юстын, музакант, ішоў з Рачных, іграў да рання, а патом ён ішоў-ішоў, і дайшоў сюды, і яму спаць захацелася, так во вілы, як у нас, раздзяляюцца на Рачныя: і во гэна дарога сюды, другая сюды. І вот ён дайшоў, а там была імшарна бальшая, і вот ён проста сеў і задрамаў. І яму чудзіцца, што ён сядзіць на печы і цігаець за рогі чарта. Ці яму сніцца, ці што, но гаворыць: "Я не сплю, ну я віджу, што я цігаю за рогі чарта, чорт упіраецца чорны, а я яго цігаю". А сам проста дрэміць, і гэдак яму здаецца. А тады ўжо стала сонца ўсхадзіць, ён абчыхаецца, глядзіць – корч бальшы стаіць і ён цігаець за сукі гэтага карча. І гаворыць: "Я столька націгаўся, гэдак мне цяжка было цігаць, і гэты самы, чорт говорыць: "Цігай мяне, я табе болей золата дам, я табе болей золата дам". І кладзець мне, і кладзець золата, а я абчыхаюся, аж гэта, – гаворыць, – корч, а на карчы конскі кал".

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 255. Дудар і чэрці

Ну, гэта як дзед Мазур ішоў. Ішоў ён з Весніцка з работы, з касой. А чорт яго, не, ня чорт – мужчына пераняў, кажыць: "Паіграй, Мазур!". А той кажыць: "А адкуль ты мяне знаешь?" – "А ў цябе на шапцы напісана!" Ну і далі яму піпку ў зубы курыць, і дуду – іграць, ён дудар быў. Ну, і стаў ён іграць, сталі танцываць. А ва ўсіх, кажыць, курыныя лапачкі. І ён кажыць: "А што гэта?" А той кажыць: "А гэта і вашы, і нашы танцуюць!" Ну, а тады там мужчына вышаў, стрэліў, і нічога не стала. Ні свадзьбы, нічога, а ён стогнець ужо, на кусце сядзіць. Тады гэты ўжо Юзюк прышоў, сняў яго. А ў яго, кажыць, кусок дзерава – сук у зубах і корч у руках – гэта дуда яго была.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 256. Чорт на Дзяды

Ну гэта на Дзяды было. Жанчыны пазвалі, пашлі на кладбішча ўжо звàць дзедаваць, прышлі, ну і прыстроілі ўсё. У адной дзяцей не было, дык яны павячэрылі і спаць ляглі. Ну, а другая яшчэ печ топіць, у каторай дзеці былі. Ну і чаго яна пашла, пад лавай тапор быў, лядзіць – ажно пад лавай хвост вісіць. А ён сядзіць у адзежы той, што пахаранілі, тады яна ўжо ўсё кінула: і клёцкі не зварыліся, і рыбяты плачуць, а ён на яе: "Што ты цюпхаешся, сечас бы клёцак паелі, атдыхнулі". Ну і пятух запіяў, толька, кажыць, дзверы ляпнулі, гул пашоў і нікога не стала нідзе. Рыбяты некаторыя заснулі, а ёй ужо не да клёцак. Павіднелася, пабяжыць жа яна да саседкі, а тая

саседка ляжыць мёртвая – кроў усю выссаў. Чорт! Думала мужык яе, а ён жа чорт быў.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 257. Нячысты ў хаце разыйшоўся

Да, у адных жыў, дык там усё вярнуў, прыглашалі бацюшку. Ай-ай-ай, што там рабілася! Ціпер троху абцішалася. А так палавіна Біларусі прыязджала глядзець, і з Мінска, адусюль. Тут з усяго свету ехалі.

Начаналася – стукаў і стукаў нехта ў вугол. Во на куці, тут дзе іконы, у гэты вугол. А тады, Лорка казала, роў хазяін п'яны. Равець, а тады кажаць: "Ну ўжо, блядзь, усё табе будзець. Я цябе ўжо палажу". А тады дзверы адкрыў, як зароў дзікім голасам, аж там клубок укаціўся, клубок касматы ў хату. І пашоў , і пашло ўсё гуляць – і свечы, і каструлі, і ложкі, усё пашло. І матка старая была. Ай-ай, і яе бутылачкі з лікарствам пашлі гуляць. Яна ж ліжала, у яе бедравы пералом быў. Не магла падняцца. Адзеяла з яе ватняя прыляпіў на сцяну. Усё. А што ў хаце ні было, часы якія, усё, на куць пад абразы ляцела. І нажы, усё. Ён сюды кідаў усё. Толькі крэсцік не, стаяў. А свечка свянцоная не гасла, а несвянцоная січас. А Любачка ж сядзела, а ей хустку цёплую на галаву і як дась нажам. Нож як ляціць, як дась у галаву. Прарэзаў ба. А яна ж сядзела са свечкай. Яна ж ня верала, што ў іх так зрабілася.

Там з'язджалася скока міліцыі, з усяго свету. Наш аграном: "О, эта ніпраўда". Пашоў у тую хату. А яму галошам как даў! У лоб! Дык той уцёк з хаты без аглядкі. Тады троху абцішылася, бацюшка прыязджаў, свяціў гэта ўсё. Яны вышлі з той хаты. Ім далі кварціру. Гэта было гадоў 15 назад. Мацеру да саседзяў перавялі. А ён яшчэ стаканам даў у вакно. Там рабяты сталі верадаваць. Вясковыя дзеці, прыязджалі ўсё паглядзець, што там. Я хадзіла, шчупаю, ці ёсь крэсьцік на шыі, а то нячысцік задушаць. Дык мы тую бабу цягнулі. Там лезуць усе, лётаюць, трасуць, такая усёношная, стаіць гвалт.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 258. Чарты на попрадках

Дзеўкі даўней хадзілі на попраткі. І вечарам дзяўчаты прадуць, а хлопцы прыходзяць пагаварыць з імі. Ну і большая сястра ідзець на попраткі, і малая прычапілася да яе. І пашлі разам. А хлопцы прышлі красівыя, незнакомыя, гукаюць, смяюцца з дзеўкамі. А ў большай сястры звалі-

лася верацяно. Малая палезла даставаць і шэпча сястры: "У вашых хлопцаў хвасты". А яны пабеглі з сястрой, а астатніх дзевак чарты падушылі за ноч.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

### 259. Варажба ў лазні і чорт

У поўнач можна толькі ў бані гадаць. На Каляды. Ідуць у баню. Ставюць там зеркала проціў зеркала, там атражэнняў тады многа. І вот нада раздзецца. Абкрыцца белай простынню і глядзець у зеркала, якая там выява пакажацца.

Дык вот… Другія дзяўчаты сядзелі ў прыбанніку, а адна дзяўчына пашла гадаць. Ці праўда ці не… І так уўлеклася, ці ей там хлопец паказаўся такі красівы. І падарыў ей бусы. На шыю накінуў бусы. І яна рукой узялася, аказалася, што эта – вяроўка, што чорт накінуў вяроўку. (Смяецца) Вот гаворуць, што як толькі паявіцца выява ў зеркалі, нада быстра закрываць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 260. Чэрці ў бані

Ды я чарцей ўзапраўду бачыла. Я ж малая тады была. Гадоў можа дзесяць-адзінацаць. Жылі мы тады на хутары. Там, за мастом, па гэтым беразе. І вось зімой неяк мыліся ў бані. Памыліся. Пайшлі у хату. Холадна яшчэ так было. Маці мне кажа: "Збегай, паглядзі, нехта ў нашай бані парыцца". А там і ўпраўду дым з трубы ішоў, як нехта парыцца. І вось забяжала я ў прадбаньнік і дзьверы адкрыла. Ай! А там мужыкі голыя стаяць, хлешчуць, паруцца! А галовы чорныя, чорныя і хвасты. Хвасты – длінныя, а на канцы – мяцёлка такая. Самое цела бела, а вось галава чорная, чорная. Касматыя такія ў іх галовы. Во, як вас цяпер бачу, так і іх бачыла. Рагоў і капытоў не замеціла, гаварыць ня буду. Только галовы чорныя і хвасты. Ай, як пабегла я назад, прыбегла, сказала: "Якійсці мужчыны мыюцца з хвастамі", а маці паслухала і туды ўжо не пашла. А я патом гэтай бані баялася і ў яе не хадзіла. У другую хадзіла. І чарцей больш не відзіла.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Сасноўскай Ганны Іванаўны, 1922 г.н. у в. Юхавічы Расонскага р-на.**

**261.** Была баня раз топленая. Вот мы, маладзёж, падышлі раз паглядзець. Аж там хахочуць, плёскаюць. Я адкрыла баню, аж там чэрці. І ў катле, і ў баку. Касматыя такія, валасы длінныя, ніжы жопы, чорныя, закапцелыя, ногі ў катлах ня відна. У меньшых рожкі меньшыя, у большых большыя. Яны на нас дажа і не глянулі. А назаўтра прышлі, аж вада ўся павыліта.

**Зап. Валодзіна Т. у 1993 г. ад Еўдакімавай Клаўдзі Уладзіміраўны, 1921 г.н. у в. Грудзінава Шумілінскага р-на.**

### 262. Варажба і чорт

А варожаць дзеўкі ў комен. У 12 часоў ноччы нада на куццю глядзець, у юшку, а не на гару лезьці. На гары чорт пакажацца заместа кавалера. Каго ўвідзіць той, і будзе тваім кавалерам. Нада ісці туда, дзе іконаў нет, у істопку, дзьве свечкі паставіць, паставіць зеркала перад сабой і сядзець. Там жа тожа пакажуць кавалера. Але гэта не кавалер, а чорт пад відам кавалера. Нада зеркала палажыць, а еслі не справішся, як дасць табе ў морду чорт, і морду разаб'е.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 263. Чэрці падманваюць

Было ў мяне самога. Пасля вайны было. Я паехаў коні забіраць, якія стаялі у гарохе. Прыязджаю, а іх там няма. І тут нехта з будкі, там стаяла такая на полі, гавораць: "Язжай на поле, яны там стаяць". Я паехаў, а іх там не было. А потым зноў голас: "Едзь у гарох, яны там стаяць". Вярнуўся ў гарох. А коней там тожэ не было. Тады я ўзяў ружжо і стрэліў у тую будку, гэта мяне чэрці загаварылі.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Грышука Уладзіміра Герасімавіча, 1928 г.н. у в. Заручаўе Бешанковіцкага р-на.**

### 264. Чортавы танцы

Ехаў нас адзін. А такая вечарынка была – Божа, Божа! – на дарозе. І яго завалалі. Кажуць: "Танцавай!" І ён танцаваў. Божа, Божа, яго і частавалі, і ён танцаваў. І за пазуху яму наклалі ў дарогу. Прыехаў дамоў, а там поўна конскага калу было.

**Зап. Валодзіна Т. і Гурская Ю. у 2005 г. ад Каляга Юліі Нікіфараўны, 1920 г.н. у в. Вітахмо Докшыцкага р-на.**

**265.** Ну расказываюць, што ў нас там такі старык быў. У яго, як нап'ецца і падходзіць да свайго дома, там у яго такая была сажалка, і ён там раздзяецца і чэрці гавораць: "Танцуй!". Ну ён танцуець і танцуець, гаворат, саўсём ён там змёрз, а ўсё: "Танцуй!" І станець ужо світаць, а нідзе нічога няма, ён тады і прыходзіць дамой.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар у в. Васюкі), 1932 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

### 266. Жанчына і чорт

Вот хто хочыць давіцца, думаецце, самі яны давяцца? Ім жа чэрці памагаюць. Толькі вось падумай вешацца, як яны прыдуць к табе. Тут адна

мая падруга, у яе сястра Аня. У яе адзін сын інвалідам з арміі прышоў, второва мужык застрэліў, брата жонка атравіла, мужык памёр. Яна пайшла на магілкі, плакала, плакала. Патом думаець: "Пайду я задаўлюся. Гэткае гора кругом, усе паўміралі". Прышла дамой і думаець вешацца.

І прыходзіць чорт у хату. Туп-туп – прышоў як сабака такі вот ладны: вушкі, рожкі, хвост і сядзіць ужо. І сядзіць, і смяецца. А чорт у любым відзе можаць быць. Вот мы сядзім, а ён тут можа лётаць. Нада дзверы крэсціць, усё крэсціць. Яны толькі крэста баяцца. Яны ж у нявідзімым відзе. І тады яна, як увідзела гэтага з хвастом, што сядзіць і смяецца, ждзець, каб толькі пятлю і ён ёй сейчас зацягнець, тады яна, Госпадзі, як захрысцілася! Тады ён: туп-туп, гі-гі, туп-туп – і пашоў.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 267. Чорт у абліччы памерлага мужа

Адна дзевушка вышла замуж, жыла добра, дзяцей у іх не было. Дужа яго любіла. А ён памёр. Яна стала плакаць па ім, гэтак таскавала. Плачыць і плачыць па яму, а гэты чорт пад відам мужыка стаў к ёй прыхадзіць. Падзелаўся, як мужык, і прыходзіць. А яна думаець, што гэта ён. А ён разві з зямлі вылезіць? Прыходзіць, спіць з ёй і гэтак, як мужык, гаворыць і яна верыць. Ссохла, схудала. Ён бы задавіў бы яе ў паследні раз.

Тады праходзіць маці яе. Маці хітрая, а дзеўкі ж маладыя – няхітрыя. Маці кажыць: "А чаго ты гэткая худая, чаго ты схудала?" А яна кажыць: "Мой жа мужык прыходзіць". Маці: "Ці мужык, як? Кагда прыходзіць?" – "Ноччу ў 12 часоў". А чэрці мусяць і ў 12 часоў дня здавацца. Як пятух запяе, іх не стане. Тады маці кажыць: "Ой, мужык прыходзіць! Я табе дам мужыка гэтага!" Паляцела, во дзед калючы, калючы такі, гэта чэртапалох. Наламала гэтага дзеда. Тады натыркала каля вакон, каля дзвярэй. Каб чорт не вашоў. Маці адышлася. Тады 12 часоў дня і ён ідзець. І стаў пад акном. Яна пад акном ў хаце і кажа: "Чаго ты ў хату не ідзешь?" А ён: "Больна твая маці хітрая, не зайду ў хату". Тады стаяла яна, з ім гаварыла, гаварыла. Тады як загудзела, як драганула, аж акно паляцела. "Шчасце тваё, што дагадалася. А то задавіў бы ў паследні раз," – і болі не стаў хадзіць.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 268. Чэрці ў восеці

У нас быў сасед у Іллюшыне. Дык мы да ўтра ні спалі ніколі – у яго былі ўсякія разгаворы. Вот мы сядзім, слухаем усю ноч, як ён раскажыць, як чэрці... Цяпер жа нет чарцей. А даўней, казалі, яны тапілі, малаціць ха-

дзілі ў гэту восець, былі такія восеці. Ну і вот, пойдуць часы ў тры-чатыры тапіць восець, а тады малаціць ідуць, як падсохніць зярно тое. Прыдзешь, сядзешь, а чорт, кажыць, стучыць у вакно хвастом. І баяліся людзі, што чорт прыходзіць. Ён ходзіць і лапочыць усё. Ну, усё кінем і ўцячом тады дамоў.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 269. Чэрці ў гумне

Пра чартоў гісторыі расказвалі, што там п'яных можа водзяць. Вот была з маім дзедам, ён пражыў 115 лет. Да, мамін ацец – Ілья. 115 лет і жыў ён адзін у хаце, а тады выпіў, раньшэ шынок называўся. У шынку выпіў, прыйшоў і пайшоў на гумно лёг. Дык, гаварыў, завлакалі, завалачылі яго. Чуць выжыў – так яго нячыстая сіла валачыла. Каб я, гаворыць, заснуў, можа б было ўсё харашо, а так. Ну, цягалі яго за ногі і за ўсё. Цягалі кругом там, там жа печка ўсё. Дык чуць утра даждаўся. Гэта расказвала мая мама, но ён пражыў 115 лет. Хоць і чарку выпіваў, но ён так, чарачку выпіць, калі старыкі сябяруцца, расказваюць друг другу ўсячыну.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 270. Чорт у кузьні

Ну вот, помню, папа расказваў. Вот ён у кузьні там быў, рабіў там нешта. Ну вот, гаворыць: "Я кую, а тут, – гаворыць, – гэтых абцугоў нет, то яшчо чаго нет. Вот лажыў – і нету. А тады гляджу – хвост! Я схваціў і ўродзе за хвост дзержаў. За хвост накруціў, а ён тады вырваўся і пабег, той чорт". А там куст лазовы быў ля кузьні, там мы яшчэ баяліся, як дзеці былі, там хадзіць. Папа гаворыць: "Віжу цень, а тады і хвост! Я за хвост наматаў яго. Ну, гэты, – гаворыць, – вырваўся, і пабежаў. А ў кусту чарцяняты ў ладошкі як началі хлопаць!" А мы ж дзеці былі, думалі, што праўда. Баяліся там хадзіць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 271. Чорт

Адна жанчына ругалася на свайго сына, пракляла яго чортам. "Чорт цябе бяры", – гаворыць. А тады мылася ў бані з дзіцём. Прыйшоў нехта, пастучаў. Яна падумала, што муж, падала рабёнка і кажа: "На рабёнка". А

потым прыйшоў муж. А рабёнка, аказалася, забраў чорт. Адмальвалі тады таго дзіцёнка ў царкве.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Ур'янавай Варвары, 1918 г.н. у в. Бухава Расонскага р-на.**

### 272. Здарэнне ля бані

Даўней блудзілі. Мой хазяін. Капцілі там ветчыну, а ён гаворыць вечарам: "Пайду туды, к Прошы – ветчыну там копцяць". А ў мяне была мама, прыехала яна к нам. Папа памёр і яна была ў мяне. І вот час, ўрэмя, а яго нет. Яна: "Аня, Аня, ідзі, – гаворыць, – ідзі куды ён дзеўся?" Я падумала, што можа дзе напіўся. Вясной было, грязна было. Ну я батарэйку ўзяла, адзелася. Нехацела ісці, але пашла. Батарэйку ўзяла, чую што хто-та гаворыць. Падхажу к баці, яго звалі Пятро, баця гаворыць: "Ці ты?" – "Ай я, я!" – "Я ж тут хажу ўжо 2 часы, немагу, – гаворыць, – выйсці. Ай, хадзі, – гаворыць, – вывядзі мяне". Я прыхажу, гавару: "Хадзі за мной". І ўсё, выйшлі. А хто яго вадзіў, я ня знаю, можа чэрці. Гэта ўсе, хто к бане падыйдзець, не знаіць куды ісці. Тая баня калхозная была, эта ж цяпер у каждага баня, а тады была калгасная.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Таранавай Ганны Ерамееўны, 1926 г.н. у в. Вялікая Любшчына Віцебскага р-на.**

### 273. Нячыстая сіла водзіць ля бані

Вот мой дзядуля казаў, што кажыць: "Я ні знаю, Бог ці ёсьць, а нячыстая сіла ёсьць". Вот выперліць яна там, так ён так мучыцца поўкіламетра… Хадзіў баню тапіць, ідзець адтуль, нібыта прыйдзіць да хаты, але ўсё роўна ні дайдзіць да хаты – узноў варочаецца. Нехта вадзіў і усё. Вось такое!

Ну ён так, памоліцца Богу, папросіць Бога і кажыць: "Божанька, астаў мяне ужо на маім месці! Чаму мяне гэтак водзіць?" Ну і пройдзіць гэта усё. А болей такога нічога. Болей ж усё к Богу мы абрашчаліcь. Мы ж толькі Бога верылі і ўсё, вот.

**Зап. Круткін А. у 2010 г. ад Карбоўскай (Шумуковіч) Любові Еўстаф'еўны, 1922 г.н. (нар. у в. Баркоўшчына Мёрскага р-на) у в. Янкава Полацкага р-на.**

**274.** Чарты вадзілі, дык вадзілі. Вот чорт водзіць – усё врэмя ходзіш у адным месцы. Вот я быў у сорак васьмом гаду, у Вушачы ездзілі тады ссуду палучалі, і на семяно вясной. Я тры дні адседзіў там, ну і тады сонца на захад, думаю "пайду дамоў". Я разуўся і з падскокам да заходу да Масцішча дайшоў. Пацямнела, значыць, і там такая баня была. І ад тый бані там чэраз ручэй такая сцежачка, там дарога на Малыя Весніцы. А Малая

Весніца і Ахвераўшчына, яны там радам. Ну вот я перашоў гэты ручэй, хаджу-хаджу, прыду апяць к гэтай бані, я тры разы пака не пераксціўся. Як пераксціўся, перашоў ручэй, там сцежачка, дарога, прышоў дамой можа к часу.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 275. Чорт на мосце

Чорт жыве ў балоце, у лазе. У яго заднія ногі, як у каровы, а пярэднія – лапы. Ён можа і ў ягнёнка, і ў сабаку прэўраціцца. Во гаварылі, тут ёсьць такі мост, ну, там прыдаецца бывае ці што. І ехаў там прэдседацель сельсавету. Едзе, на мост заязджае, а коні ледзь цягнуць сані – так цяжка ім. Ага, а прэдседацель тады ругнуўся: "Сеў тут нейкі чорт!" І хто-та раптам зарагатаў, а коні быстра-быстра рванулі.

**Зап. Балай С. і Бартунскі А. у 1996 г. ад Азаронок Тамары Карпаўны, 1922 г.н. у в. Баброва Лепельскага р-на.**

## 276. Чарты на мосьце

Была цётка расказвала, што раз ішлі яны з вечарынкі, правадзілі ў Ноўкі сястру. А там стаялі чэрці на масту, у ладошкі хлопалі. Цётка гаворыць, што мы хахочым: "Не спужаешь!" А так, гаворыць, рагатые, бальшыя, чорныя чарты. Гаворыць, на масту. Як чалавек, як абязьяна – з хвастом, з рогамі бальшымі. Але не чапалі іх, не. Тады, як яны прайшлі, чарты і захлопалі у ладошкі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Чарнышовай Ганны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Заполле Віцебскага р-на.**

## 277. Чорт водзіць

Расказвалі, што ішоў з танцаў хлопец. Ішоў басы, эта ж да вайны было, закурыў, як заўседы. Ішоў усё глыбей і глыбей у лес, а просьвету якбыццам і не было. Падумаў: "Што за чорт?" Закурыў зноў, а ногі ўжо за карчы і карані чапляюцца. Ужо і віднець пачало, а яго ўсе нехта нібы падталківае абы куды. Усе ж выйшаў з лесу. А раней так часта было.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 1995 г. ад Татарынавай Любові Іванаўны ў в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

## 278. Дух нядобры водзіць

Калі чалавек заблукае – гэта дух нядобры водзіць. Я сама во пайшла да целефону к Каце. Ну, выйшла дамоў ісці, і нешта іду дамоў, а мяне павярнула ў бок, у бок. Толькі іду, шчупаю дарогу, а іду і далей, і далей, і

зайшла, і ўжо ў гурбу ўлезла, не магу выйці. Ну і тут у гэту старонку іду, іду, і не знаю куды. Дайшла да крыста: “Госпадзі, спасі мяне!” Мне светла стала і я пайшла дамоў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ліцвін Анастасіі Маркаўны, 1932 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

## 279. Чорт водзіць у лесе

Даўней здавалася, дык гэта і цяпер здаецца, ня толькі, што даўней было. Сама хадзіла ў лес, было і нас вадзілі чэрці. Вот мы былі, адно васкрасеньне было, усе пашлі, пашлі ў лес, схадзілі да абеда, набралі ягад. Ну і яны пайдуць з намі, ну вот мы і пашлі, адышлі далёка ад сваіх. Нам ужо надаела сабіраць, яны прышлі – толькі ім ахота сабіраць, а нам не, нас, мусіць, чалавек шэсьць-сем сабралася гэткіх. Ну, і пойдзем дамоў. Ну, ідзём, ідзём, відзім, што дарога не тая, што нам дамоў ідці нада, а ўсе раўно ідзём па лесу. А там бярозы, асіны, а ў нас толькі сосны, у нашым лесе. А гэта было дзела ў вайну, страшна нам было. Выходзім на поле, стаяць капы жыта пажатага, ну і мы кажам, можа тут дзе немцы сядзяць. Тады падходзім да дзярэўні, бабушка сядзіць у вакне ... Ой, а гэта аж за Ушачы зайшлі!

Во, як чэрці вадзілі! І мы прыйшлі дамоў цераз Ушачы, хто па лясу, хто як ішоў. Прышлі дамоў, а нашы ўжо бацькі кажуць, што вас чэрці вадзілі. Ну, вот табе і чэрці. Вось, яшчэ ў мяне было. Пайшла паўднем, часоў у адзінаццаць у маліну. Хадзіла, хадзіла – нет маліны – пайду дамоў. Дарога баявая – харошая дарога, і я іду гэтай дарогай. І не знаю куды я выхажу. Выхажу на поле, вот радам тут жа кажацца дзярэўня наша, а я заблудзіла на гэтай дароге. Села, пасядзела, мне ўжо паказалася, што я аж пад Лепелем – поле чыстае, бабкі гэты стаяць – жыта пажатае, і я ж сяджу. Сядзела, сядзела, ну, што рабіць? Ідзець нейкі чалавек, гляжу – дарогай пашоў. І я прыпаднялася, пайду, і стала поле чыстае. Гляджу – тут мая карова, тут і хаты нашы, і клуб, і ўсе асвяцілася. Прыхажу дамоў, мама кажа: “Чаго? Дзе ты так была?” А я кажу: “Мама, чэрці мяне вадзілі.” Яна кажа: “Во, праўда, ня будзешь у дванаццаць часоў хадзіць па лясу”.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 280. Чэрці гаворуць у хаце

Бывала, чэрці і гаворуць у хаце. Вот сядзіць чорт, як кот. Ён паказаўся. Як чорт у хаце. Ён сядзіць на сцяне. Чорт, вродзе кот. Ну а дочка сабіраецца на танцы: “Мама, я пайду на танцы”. І ён паўтараець: “Мама, я

пайду на танцы”. Што яна гаворыць, тое і ён паўтараець за ей. А патом і ішчэз, і ты яго ня ўвідзіш.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 281. Чэрці збіваюць з дарогі

Чэрці могуць здавацца як воўк ілі як вутка. Я хачу сказаць пра свайго бацю. Ён ноччу ў пяць утра ішоў на работу за 5 кілометраў коні карміць. І да ўтра нада было накарміць. “Іду, – гаворыць, – а тут як загудзіць кала мяне. Воўк! А я, – гаворыць, – палкай па ім. Гляджу: куст. Ніякага ваўка няма. Зданькі эта. А тады апяць, як загудзіць кала мяне – вутка. Валюх, валюх, вутка. Ноччы, адкуль тут вутка. Я па ей [палкай], гляджу – купіна. Тады, гляджу – заяц. Ох, заяц сеў перада мной. Я па ім як даў, гляджу – кусцік небальшэнькі. Так мяне і завёў у лес”.

А эта ж было зімняе ўрэмя. Раней жа снягі былі. Во так у снег завёў яго, збіў яго з дарогі. Паказаваўся, паказаваўся яму, і завёў у лес. Ён да дзевяці хадзіў, ня мог выбрацца, замарыўся. Еле вышаў. Як стала відна, тады выйшаў. А ні разу ж не блудзіў. Эта нячыстая сіла так. А мама гаворыць: “А што ж ты малітву не згаварыў ад чарцей?”

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 282. Чэрці у карчме

Сабіраліся ў карчму, п’яніцы пілі там. А чорт хадзіў па карчме, вот плюнець у чарку, і мужыкі завядуцца біцца. І што яны, эты чэрці. Чэрці прыглашалі іграць музыкантаў.

Аднажды музыкант іграець у карчме. А яны ж, чэрці, не паказываюцца чарцямі, а паказываюцца людзямі. Вот усё нейкія танцуюць, і ўсё ў бочку, і мажуць па ліцу сабе, і танцуюць. І ён узяў і мазнуў сабе па ліцу. І стаў адным глазам відзіць чарцей. Чэрці з хвастамі. Танцуюць, забіваюцца. А тады прыехалі за ім іграць, прыглашаюць яго іграць, такія маладыя мальцы красівыя. А ён закрыіць той глаз, каторы памазаў, што з бачкі яны памазаліся, і відзіць – чэрці. Ну і паехаў ён. Прыехаў. А ўжо дом там такі красівы. А яны там танцуюць. А тым глазам як паглядзіць – сядзіць на пні ў лясу. А чэрці там пляшуць у лясу, з хвастамі. А тады ўжо павязлі яго дадому. Як ужо вязуць яго дадому, такія коні красівыя, сытыя, вязуць яго дадому. Эты глаз закрыіць, этым паглядзіць – мужыкі п’яныя цягнуць воз, аж хрыпяць. І ўсё.

Ён прышоў у карчму іграць, а людзі там танцуюць, і чэрці танцуюць ля людзей. Відзіць, тыя чэрці два, каторыя яго вазілі ў лес, і ён іх узнаў. І

гавораць: “Ой, я вас узнаў”. А ён: “А вы мяне відзіця?” – “Да, віджу”. – “А каторым глазам?” – “Ну, гэтым”. Тады ён сваімі кіпцюрамі і выдраў яму глаз. І большы не стаў іх відзіць. А так відзіць, як яны танцуюць сярод людзей.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 283. Чорт і падарожная прыгода

А яшчэ мой бацька помню, расказваў, як яго гэта, як ён блудзіў. Гаворыў, што чорт блудзіў па балоту. Казаў ён, ішоў дзядзька гэты, вадзіў карову прадаваць на базар, а тады ідзець гэты дзядзька і кажыць: “Іду, іду і ніяк ня выйду на сваю дарогу, а, – гаворыць, – гэта ён, мусіць, чорт у усякіх відах ёсць. Мусіць, можа як птушкі лётаюць. Іду, – кажыць, – а перад мной птушка – верабей – свісь, свісь, свісь, а я, – гаворыць, – іду і іду. І я падышоў не знаю куды і дамоў ніяк не вярнуўся. І прыйшоў, стаў начаваць у дзярэўне, прасіцца дзядзьку, што пусціце мяне пераначаваць, я гэта, не магу дамоў папасць, мяне птушка блудзіла. Так я гэта, хадзіў, хадзіў і гэта”.

Ну і заначаваў гэты дзед, а тады ён расказваў той жа дзед як расказваў. Ён карову прадаваў і ў яго грошы былі, а тады, гэты дзядзька яго ўзяў на нач, а тады агледзілі, што ў яго грошы былі і тады ўзялі, у яго сын быў. “І ўмесце з сынам пайшлі, мяне спаць паклалі, а самі, – говорыць, – усё гамоняць. Мяне аж страх нейкі ўзяў. Я ляжу на койкі, а не магу ўлежыць”. Ну тады дзядзька гэты устаў, ўзяў гэтый кажух ці што,а ён лёг каля іхняга сына ці дачкі, лёг з імі. А яны ўжо хацелі завесці гэтага дзядзьку ў лес. А яны ўзялі, накінулі на галаву яму куртку, ці паўшубак, а не на гэтага дзядзьку, а на свайго ўскінулі. І на сані. Зімой гэта. На сані паклалі, конь быў запрэжаны, а яны забралі яго і павязлі ў лес. І там зарэзалі. Паглядзелі,што свайго зарэзалі, а той устаў і ўцёк. Той устаў, паглядзеў, што гэта… Гаварылі што так.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Забор’е Чашніцкага р-на.**

## 284. Чорт скідаецца авечкай

Чорт, ён і ў балоце. Дзе балота такое во, дзе гусцяк самая такая. Ён, казалі, на гэнага, на абязьянку пахожы. Такі касматы. Ну, ён чалавека мусіць гэта, ці ён абманваець, ці гэта… Гаварылі ж гэта даўней, як дзядзька паехаў на базар, а тады ехаў з базара. І вёз на вазу рыбу. А чорт к яму прасіўся, каб ён яго падвёз. Ну і кажуць, дзядзька тожа казаў, што чорт пахож, як авечка. І чорненькі ж такі, сукрысценькі. Дзед не хацеў яго браць. А ён сказаў: “Дзед, падвязі мяне”. Дакуль яму там ехаць. Ён гаворыць: “Дзядзь-

ка, ты мяне падвязі”. Ну, ён ззадзі, кажыць, сеў на калёса, даехаў дакуль яму нада, з калёс саскочыў і давай дзеда дразьніць. Гэта, што дзед яго падвез, дык ён яшэ дразніў яго.

**Зап. Валодзіна Т і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Забор’е Чашніцкага р-на.**

## 285. Чэрці клічуць на свадзьбу

Бацька мой любіў піць гарэлку. Ішоў ён раз са свацьбы. А тут падбягаюць к яму такія як мальчышачкі, толькі з хвосцікамі, абступілі і кажуць: “Іван, Іван, пойдзем на свацьбу”. А самі к рацэ цягнуць, валакуць. Як стаў ён раўці, зваць усіх, крычыць ратунку. Дзе хто і падзеўся.

**Зап. Валодзіна Т. у 1993 г. ад Буравай Марыі Іванаўны, 1920 г.н. у в. Тупічына Шумілінскага р-на.**

## 286. Чэрці калышуць дзяцей

Да, слышала історыю, што чэрці калыхалі дзяцей маленькіх, кагда дзеці былі, когда былі калыханкі – такія карыццы, падвешаныя на веровках, туда ложылі дзетак і калыхалі, калясок не было. То вот говорат, нерадзівых такіх, непаслушных, калыхалі чэрці. Чэрці ноч’ю прыходзілі і калыхалі. Некоторые людзі такое расказывалі повер’е, што ноч’ю калыхалі дзяцей чэрці. Но кагда маць прасыпалася к рабёнку, рабёнок пераставаў плакаць. Маці думала, што он уснул, она вставала, падхадзіла, чорт не ўбегал, нічаго, а просто ізчэзал. І счытаюць, што это просто как прыведзеніе. На самом дзеле ж не сушчэствует ніякіх чэрцей, это прыведзеніе такое вот казалось, ілі можэт от внушэнія. Людзі внушалі такое. Вот такое было повер’е.

**Зап. Ляненка В. у 2010 г. ад Шавель Алены Паўлаўны, 1939 г.н. у п. Баравуха-1 Полацкага р-на.**

## 287. Чортава піпка

Чэрці водзюць. Адна расказавала, што адзін паехаў на млын, малоць зярно, даўней жа ездзілі. Едзець з мельніцы, а выпіўшы быў. А ён курыў піпку, люлькі такія былі. Кажаць, толькі закурыў тую піпку, а позна ўжо было, вечар. Сонца зайшло. А наўстрэчу яму ідзець і гавораць: “Давай памяняемся”. А ў яго ў руках красівая, красівая піпачка. Ён і сагласіўся. Гаворáць: “Давай памяняемся”. Яму сваю, а ў яго ўзяў красівую. Прыехаў дамоў і гаворáць назаўтра: “Мне такую піпку красівую падарылі”. Дастаець, а там як з дзерава зламаны, такі сучочак, падобны на піпку. Эта ўжо чорт яму памяняў.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Кузьмін Ефрасінні Ягораўны, 1931 г.н. у в. Зарэчча Ушацкага р-на.**

## 288. Чорт здаваўся

Мамуля расказавала: вот у хаці і ні станець клубочка, вот быў, і ні станець. І тады ён будзець бегаць і прыказываць: ці ня чорт ухапіў. А тады былі такія пуні. Восеці бальшыя, снапы складывалі, жалі ж у рукі, рана ўставалі, цапамі малацілі. І вот адкуль мужчына прыедзець позна, з мельніцы ці што, і тая восець на самым перакростку стаяла. І кажуць – вядзеш каня туды і абізацельна век увідзіш таго чорта. Кажаць, голы, во па гэтаму углу, і так і падзярэцца, як русалка, валасы длінныя. Усё ўрэмя там здаваліся як зданькі. Чорт здаваўся.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Каваленка Таццяны Ягораўны, 1935 г.н. у в. Слабада Ушацкага р-на.**

## 289. Віхор

Віхор, ну я не знаю. Гэта чорт ляціць, кажуць. Станавіся, хрысціся і хрысці яго, каб на цябе ня йшоў, і кажы: "Гаўно Перунова, гаўно Перунова". Гэта нас учылі гэдак, і ён тады цябе абойдзець.

Я тока што было да вайны, пайду ж я, а мы ж там жылі на хутары, а тут жа дзярэўня, танцы. Ну якія танцы, у школу яшчэ хадзіў, выйшаў а ў нас значыць балота і там такія канавы. А ён, гэты віхор, па гэтай канаве і чую гудзіць, як самалёт, і тады глядзь і, знаеце, такі як цяпер электрычыскі столб, во гэдак вада паднята, як с фантана, ліецца і гудзіць гэдак. Ішоў-ішоў па гэтай канаве, дзе вада, а тады і не стала. Ну нас так учылі: на віхор не нада ісці і стаі на месце, і хрысціся, і хрэсцік каб ён у цябе ў руках.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 290. Зямцоўскія чэрці

Гаворуць, і ў Зямцах у аднае былі чэрці. Але, гаворуць, яна з імі дружыла. Яны як выйдуць, ні даюць ей спаць, а яна: "Ай, лажыцеся са мной і спіця". І, гаворуць, і не чапалі яе. А тады пад канец, гаворуць, абстрыглі яе. Валасы абрэзалі на галаве. Во як гэта страшна. Даўней нас пужалі: "Куды вы пойдзеця?! Там жа чэрці. Ля Зямцоў".

Яны пахожы на людзей, толькі маленькія. І рукі, і ногі, пахожы на людзей, толькі малюсенькія, малюсенькія. Чорныя, страшныя, раз пужалі. Яны шчакаталі яе. Як ляжаць спаць. А яны яе шчакатаць. Адна баба жыла. Давай шчакатаць. І вадой аблівалі. Вадой аблівалі. Кажаць, дажа ваду не астаўляла на ноч у хаці. Ваду ўсю вынасіла на двор. Аблююць яе і шчакаталі. А тады валасы ўсе павыстрыгалі на галаве. І дажа што яны адзін раз здзелалі, гаварылі. Галавешкі з печы ўсе павыкідалі на хату. І галавешкі, і

вугалля, і дровы, усё выгрузілі на хату. А ці гэта праўда? Толькі чараўнікі маглі іх выгнаць. Эта нада к чараўніку к нейкаму.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Ліцвін Варвары Лаўрэнцьеўны, 1927 г.н. у в. Кугоні Ушацкага р-на.**

## 291. Белякоўскі чорт

У Беляках была Матруна, я ні знаю, ці яна сястра гэтага хазяіна, і Варка, нявестка, была. І вот нехта з іх нарушыў гэтага чорта. Усяго там было ў іх – і пішчалі, і зьвінелі, і ігралі, і адзёжу, і обуў дыркамі дзелалі, усё. Ну, эта Варка, у яе ў Гаравых кала нас была сістра родная замужам. Яна сваё забрала ўсё, і скрыню, і прывезла ў Гаравыя, ужо зьберагаць сваю адзёжу. А тут, як прывезла скрыню, ноччу. Яшчэ як быў хазяін яены, тады ж было курава ў такіх во кісеціках, там камянёк, гікала, ваты кусочак, табак і ўсё гэта ўмесьці. Лёг спаць вечарам і ўсё гэта палажыў на стол. Толькі началі драмаць, эта ўсё праз акно як паляцела. Акно вон, і эта апынулася аж за дарогай. У вагародзе. Назаўтра вышаў, у гародзе нашоў.

А тады Прасіньня, сістра, быстранька ў Білякі. “Забяры сваё ўсё, штобы нас не трывожылі”. Забрала яна. Забрала, тут ужо, у Гаравых нічога, а там а што яны дзелалі, не знаю, якую яны там раду далі. А як яго там звалі, хазяіна гэтага, утапілі, зімой. Цягнулі да лункі задам, сьляды задам былі, і ўтапілі. А гэтыя ўжо якую яны яму раду далі, не магу сказаць, як яны ўспакоілі яго.

Яны ўчылісь чаво-та. Ілі ўжо ні давучыліся, каб якую раду даць, штобы зьдзелаць і аддзелаць. Ілі яны каму-та хацелі. Ілі адна адной, непанятна. Вот учыліся і не змаглі давучыцца. І нарушылі Чорта, разазьлілі. Вот ён як пасяліўся к ім у хату. Вот яны і не маглі яго…Ага, яшчэ гаварылі: “У Сібір паедзем”. А ён: “А я з вамі”.

Вызывалі сьвяшчэньніка. Ён начаў маліцца, а ён на ім эту, рызу, начал кускамі выідаць, і ён уцёк.

**Зап. Валодзіна Т і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

**292.** Чорт, у нас гаворуць, быў у Беляках. Дзядзька гаварыў, што яна шыла, Кацярына тая, дык гаворыць, прынясецъ хто шыць, казалі, праўда было. А ці яно праўда было ці не, дык гэту адзёжу ён [чорт] пастрыжэць. Ну там пакусаіць, ці што там здзелаіць. Гэта іхнаю. А чужую не чапаў. І дзядзька гаварыў, ці праўда ці не, сядзець на варотах і нагамі баўтаіць. А тады кажаць, прывязлі папа, а поп стаў маліцца. Ну, спяклі яешню ўжо папу, а ён гаворыць, з качарэжніка, з печы, галавешку ў скавароду. Дзядзька расказаваў, ці праўда ці не, алі казаў, сам відзіў, як ён сядзіць на варотах.

Дзядзька казаў, абы-што робіў, галавешкай з агнём па страсе качаецца. Здаецца ім так, што галавешка па страсе качаецца. Базыль гэты, гаворуць, знаў, кулдуваць там ці што. Дык гаварылі, што яго ў лунку ўтапіў чорт. Прышлі, а яго ў дзяжэ ў хлебніцы прынёс эты чорт, у дзяжу ў хлебніцу. Ён утапіў яго ў лунцы, у азярэ, зімой. Ну, яго схаранілі, усё, а тады паглядзяць, а ён у дзяжэ. А галавешку, дзядзька кажаць, сам відзіў. Качаецца па страсе. Галавешка із агнём. Мы ў Завадзіна хадзілі праз Белякі.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Мацieўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

**293.** За Навасёлкамі, каля Завадзіна стаяў хутар Белякі. Жыў там чалавек з жонкай, яна была партніхай. Прывязуць людзі палатно шыць, а чорту што-небудзь не панравіцца, то ён адзежу паесьць. Свяшчэнніка вызывалі, але чорт і свяшчэнніку рызу паеў, а зімой у прорубі хазяіна ўтапіў.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Крывец Таццяны Ягораўны, 1930 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

**294.** Гэта, гавораць, у адной дзярэўні жыў муж с жонкай, якая была швея. І у гэтай хаце былі чэрці. Калі людзі прывозілі нешта шыць, то чорт з’ядаў пашытую адзежу, нават з’еў адзежу папа. А потым утапіў і гаспадара.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Ягадкі Алены Якаўлеўны, 1932 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

### 295. Белякоўскі чорт і чараўнік-недавучка

У нас у Біляках, дзярэўня там Завадзіна, а тады Білякі. Дык, мая цётка ў Гуськах жыла тут, сюда бліжэ ўжо к нам. А тады ў вайну з Білякоў адступаў той, Базыліха тая, у яе быў мужык Васіль, але яго ўсё Базыль звалі. І вот ён, гавораць, учыўся вродзе чараваць, ды не даўчыўся. Ага. А тады недаўчыўся і вот яго чорт вадзіў. Недаўчыўся, а чорт за ім хадзіў. Гавораць, чорт к ім прыйдзець у хату, на печ залезець, кірпіч дзержыць і кідаець на іх, а яны ня відзюць. Яны бацюшку прывазілі – нікога нет. Бацюшка маліўся – усё раўно. А тады міліцыю прывёз Базыль гэты, усё раўно чорт к яму хадзіў А ён: “Ха-ха-ха! – седзя на печы. – Міліцыю прывёў”. А нідзе не відаць, толька гаворыць. Ага. Тады, гэта расказывала мая цётка, што расказывала гэта Базыліха, а тады гаворыць: “Усё раўно датуль буду хадзіць, пака Базыля не ўтаплю”.

Купілі бальшый платок, даўней такія вот рабят абкрывалісі і насілі перад сабой бабы, калі малыя дзеці куды ійці. Ага. Купіла яна бальшы платок і палажыла, як даўней сындукі для адзёжы былі. Сындук, а па-польску

дык “купар” называлі. Мама бывала гаварыла: “Па-польску не сындук, а купар”. Ага. І ў сындук палажыла. А тады затапіла, назаўтра печ тапіць, увесь дым на хату йдзець. Тады, што такое? Базыль ейны палез аж на гэту крышу, у трубу, аж платок гэты апынуўся ў трубе, труба заторкнута. Во, во тут ужо чары. Чары. Ага. Чорт яго вадзіў. І тады як ён ураднiка, даўней гаварылі урадніка прывёў, не міліцыю – урадніка. А чорт: “Ха-ха-ха! Урадніка прывёў. Усё раўно буду датуль хадзіць, пака Базыля не ўтаплю”.

Ну а тады ён, гэтый Базыль, пайшоў на рыбу. Зімой лумачку такую праб’ець, абы рыбінку выцягнуць із вудачкай. Ага. Ну, пашоў рыбу лавіць, нашлі Базыля ля лумкі, утопленага! А ён яго, мусіць, туды ўжо мордай у гэту лумку, ён захлебнуўся. І ўсё. Кала лумкі, кала лумкі кала гэтай, гаво-раць, нашлі яго нежывога, Базыля гэтага. Дык вот. А тады цётка ды гаво-рыць, гаворыць, Базыліха расказывала, што праўда было, жонка ягоная, праўда так было. Ён жа сказаў: “Датуль буду хадзіць, пака Базыля не ўтап-лю”. Тады яна ўжо жыла, яе ня трогаў. Во як. Во як было. Ну дык вот, былі і чэрці даўней, мусіць. Умелі чаруваць, чорта насылалі, дык і ўсё.

**Зап. Бабіч А. у 2008 г. ад Смай Аляксандры Міхайлаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Навасёлкі) у в.Залужэнне Ушацкага р-на.**

### 296. Чорт ганкі ганяе

Эта баба расказывала сказку, як чорт ганкі гнаў. Гналі ганкі і пашлі яны, куды яны там, не знаю. І пашлі. Чорт справіў гулянку. А чорт гэтым камандаваў усім. А чалавек танцуіць, а ён возьмець нагу падставіць каму-небудзь. А кала парогу стаіць вада. А чалавек, гаворыць, узяў памачыў палец і па воку. І стаў відзіць гэтага чорта. А ён усё дрэнная дзелаў. А ён прыгласіў гэтых, што ганкі гналі, к сабе і гаворыць: “Мы апаздаем. Не да-гонім ганкі куды там нада”, – я ўжо толкам забылася. Вот ён стаў відзець і гаворыць чорту: “Нашто ты так дзелаеш, нашто абы-што робіш, каб біліся?” А ён: “А ты відзіш?” – “Віджу”. А ён яму гулып і вока выдраў.

Даўней жа лес гналі, платы па рацэ. Па Дзвіне. Ганкі ганялі ў Рыгу. Даўней плыты робілі і ганялі лес. Дзед мой ганяў. Даўней было, што сям’я бальшая, а грошы нет, вот і хадзіў.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Маціеўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

### 297. Чэрці пад’южваюць, Бог ратуе

Жыла баба з дзіцямі. Была яна бедная, многа гарувала. І рашыла яна павешацца. Палажыла дзяцей спаць. У 12 часоў узяла яна вяроўку, але ту-

така яна ўстрашэла, перакрысьцілася. Бог ня даў ёй павесіцца. Тады прыйшлі да яе чэрці і гаворуць: “Баба, баба, чаго ты не робіш, што ўдумала?” А яна кажа, што як гарувала, так і буду далей гаруваць.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Пліскевіч Марыі Міронаўны, 1918 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 298. Чорт у дупле

Стаяў дуб, унутры ён выгніў і там стала бальшое дупло. Там сядзеў чорт. Ішоў чалавек і нешта нёс у торбе. А чорт вылез і ўзлез яму на плечы. Чалавек дужа спужаўся.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Хахловай Любові Філіпаўны, 1924 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 299. Не дагаджай Сатане

Сатана ці чорт – гэта ж адно. Толькі вот, як даўней усё, і цяпер вот у нас гавораць “ідзі ты к чорту!” Гэта ж нельзя гаварыць,тады ўжо сатана так радаваецца, што ты яго велічаеш, а Бога уніжаеш. Як скажаш “а во нада грошы палажыць на чорны дзень” – сатана гэта тожа радаваецца, а нада казаць “на галодны дзень нада лажыць”.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Мацкевічаў Міхаіла Пятровіча, 1930 г.н. і Ганны Еўдакімаўны, 1936 г.н. у в. Мядзведзеўка Лепельскага р-на.**

## ЗДАНКІ

### 300. Баранька ля заклятага возера

Ну, бабушка неяк расказвала, што дзе там ў Пліса, там ісці, там лес быў і направа было озера. Даўней яго неяк заклінали людзі і вот эта возера заклялі і яно зарасло мхом і там клад нейкі быў, усё. Ну і кажуць, мой дзедушка ўжо ішоў па гэтых кладках і пераняў яго баранька. І дзед падумаў, што, можа, баранька жывы і гэтак давай гладзіць яго, усё, а той баранька давай яго дражніць: "Баранька мая, баранька". Ён тады глядзіць: "Што такое?" Значыць, што баранька гаворыць яму ў атвет.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

### 301. Баран на дарозе

Ну, дык гэта ж баялі, гэта ж у нас там дзядзька адзін, што казаў. Ехаў жа адзін, даўней жа, раней, коні свае былі. Ён быў такі багаты, вез нешта прадаваць на рынке, у Докшыцы ехаў позна ужо ж. Купіў можа што, купіў-не купіў. Ехаў і ў Вілах у нашых, тутака, там, дзе Кокала павесіўся, сустрэў зданку. Ляжыць баран вялікі і на ўсю гэтую бляець і бляець. Ну дык ён на воз яго ўспер і дамоў павез. Ну прыехаў ўжо дамоў, думае, буду ж гэта бабу зваць, барана ж прывез. А там не баран, а корч вялікі. Во якія зданкі.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаўкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

### 302. Белы баранька

Прадзед твой ішоў па дароге і там на крыжах, дзе бралі пясок, баранька выскачыў, беленькій. Но ён жа яго не ўдарыў. Прадзед яму: "Шурачка, Шурачка..." А той: "Шурачка, Шурачка!" Тры разы паўтарыў і ушоў. Ну, вот, еслі б палка якая была, стукнуў, можа золата б і выхадзіла. Людзі не знаюць, што гэта такое было. А многа зданак здавалася!

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

### 303. Белыя авечкі

Зданкі, я пра зданкі чула. Вот расказвала мая цётка яшчо. Там кладбішча было ў іх, у Варанах. Яна аднажды, гаворыць, ішла к гэтаму кладбішчу: прыбліжаюся, і вот, гаворыць, віжу выходзяць з гэтага кладбішча, выбягаіць цэлая стада белых авечак, белых. Я, – гаворыць, – Госпадзі, адкуль тут гэтыя авечкі з'явіліся? Я, – гаворыць, – стала, перахрысцілася,

авечкі гэтыя – шусь! – назад павярнулі і іх не стала. Гэта проста зданка такая была.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Ліліі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 303а. Здалося ў лесе

Ну гэта тожа была, у дзетцве, канешне. Саўсім мне было лет двенаццаць, мы жылі не ў гэтай, а дзярэўня радам, Званіцы. І пайшла, і праўда здалося. Вот іду з лесу, дарога знакомая, паказалася мне, што я іду і перада мной озера. Нікак не абайду. Дзірэўню сваю віжу, Залешнікі называлася, а ў дзярэўню нікак не магу папасць. Вот. Хадзіла, хадзіла, хадзіла і Богу пасвайму малілася. Наканец, но всё-такі, очэнь долга, наканец выбілася. Думаю, Госпадзі, дзе тое азяро дзелася?

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Кальнінай Любові Данілаўны, 1925 г.н. у в. Перавоз Расонскага раёна.**

## 304. Здань у лесе

Карова пашла, ганялі ж на пашу тады. Ну, я тады ж малады быў і пабег у кустах. Ну пабёг і пабёг, людзей нет, толькі ельнічак такі. Ну і з ельнічка выходзіць такая дзеўка, а спадніца чорненькая, кофта беленькая. Во што. А ў мяне якраз лазіна сухая была. Ну, думаю, сагнусь я тут пад лазіну, спрашу ў яе, можа відзела яна. Толькі падняў лазіну – гляджу, дзе яна дзелась? У ельнік схавалася можа? Туды-сюды. Не відна, нічога няма. А тады вецер как начаў, аткуда ён браўся? Аж лес – проста вярхі гнуцца. Тады развярнуўся і дамоў.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Сініцы Анатоля Васільевіча, 1936 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 305. Зданькі на могілках

У нас гэта былі двары, тутака паны жылі, дык у іх сады і яблыкі, ну і адны сабраліся ў яблыкі. А адзін думаў, што яны пайшлі ўжо, і прыйшоў сюды да саду. Ціха, нікога нет, чую яны на кладбішчы гаворааць, ну тутака прама дарожкай і пайшоў, што падходзіць да кладбішча. Гаворыць, хахочуць тамака, там пахаваны быў пан, там пліта каменная наложаная была. І ён адыйшоў пад сасну стаў і атразанка была, і мяшок, і яблыкі пад паху, і стаю, кажыць. Гамоняць, падходзяць. Кажыць, хацеў сказаць: “Што мальцы, вы?” Гляджу, ідуць па пары. Маліц і з дзеўкай, дзеўка – беленькая юбачка, а блузачка чорная, а малец у чорным ідзець. І ідуць гэта яны па дарожцы, а я, кажыць, стаю. Тады гляджу я, а яны толькі падышлі проці міне і як

сталі каля міне, і так хахочуць, аж галовы да зямлі. Во гэтакіх тры пары ішло. Як спужаўся, дык і шапка звалілася, выпусціў і атразанку гэту, і з мяшкоў. І кажыць, яны колькі разоў сагнуцца аж да зямлі, як быццам яны без касцей. І тады после і зніклі. А тутака коні пасцілі, ну і кажыць, дык і гэтыя чулі. І як ірвануў напрамік да гэтых, прыйшоў, а яны смяюцца і кажуць: "Во папаўся!" А кажуць гэдак, што не мог гаварыць, пакуль не атыйшоў.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Бузо Анэлі Ігнацьеўны, 1923 г.н. у в. Вострава Глыбоцкага р-на.**

## 306. Здань на валатоўках

Дык вось як было. Ніхто не паняў і ніхто гэтага не зразумеў. Гэтак перад Тройцай прыехалі мае, а ім ужо перад Тройцай у нядзелю нада ехаць. Ну і яны рашылі з'ездзіць атдахнуць каля возера, шашлыкі жарылі. Тады ехалі назад і, як кар'ер, ну ты знаеш, во у валатоўках. Ну, там зданкі пастаянна ўсе гэтак здаваліся, дзе гэтыя магілы бальшыя былі. І едуць назад, і пайшлі за гэтым, за чыстацелам. Дзімка на дарозе стаіць каля машыны, і яны ідуць, а ён іх фатаграфуець. І вот сфатаграфаваў і на чуда: яны йдуць, а пасярод чалавек, ну не чалавек, толькі трошку каленкі прыгнеўныя і такі скорчыўшыся, галава крыху такая ссутуленая. Алі белы, толькі з фігуры чалавек. І у фатаапараце гэта было, на плёнцы. Гэта было на валатоўках, дзе курганы, што пахароненыя ляжаць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 307. Здарэнне ля могілак

Ехаў я п'яны каля кладбішча ноччу. Адзін я ехаў. Ехаў, ехаў, а ноч відная, снег, мароз. Вот ужэ праязджаю, толькі канчаецца кладбішча, конь – пых – і распрогся. Стаіць, як укопаны, конь. Я кажу: усяроўна запрагаць буду і паеду. Ездзіў колькі, ні адзін конь не распрагаўся. Запрог, думаю: бягом не паеду. Хужэ будзе, як баішся. Но на каня і паехаў, паехаў дамоў. А быстра ўцякаць нельга. Пабег – гэта значыць здаешься – яшчэ сільней будзе пугаць. І каня спугаць можыць, воўк выбягчы можыць на дарогу.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 307а. У бані

Казаў адзін. Хадзілі суседзі ў баню. І гаворыць, што гэта ўжо было плахое. Там вады налілі. Гэты сусед ідзе з бані, а той у баню. А сусед: "Сейчас я прыду". Гэты заходзіць у баню, туды-сюды, а гэты сусед ужо ёсць, ужо ў бані. Ёсць і мыецца. Гэты, гаворыць, сядзеў метры за два, а ён

яму мыла падаець. Руку працягнуў гэткую даўгую. Гэта так расказваў хазяін, па суседству. Гэты паняў, што не тое, і ходу з бані.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 308. "Кот" у бані

Гэта ў Рачных было. Даўней гэта ж во лен мялі. У мяліцы. Ведаеце, што гэта? Вы ж маладыя. Мяліца – гэта во ў дзядзькі ў бані была – вялікая такая баня. І лен сеялі. Вытапіў баню і лен там ставілі. І на жордачкі, і на палок, і пад гэтам, усе чыста. Ён баню запаліў. Нада ж рана ўставаць, можа ў часа два, ці тры, пакуль жа выпаліцца. Ну вот, ён устаў раненька, прыйдуць жа скора гэтыя мячкі мяць. Яшчо ж жарок вялікі, так ён узяў, што засланку трошкі прыкрыў, но алі ж кажа, што яшчэ бывае выбрыкнець гэты вугаль, вялікія вугалі. А тады на ніз гэтыя камяні кладзеш.

І ён гэтую баню выпаліў, і прылег во гэтак, і дрэміць. Гэта ж жар вялікі. Прылег, кажа, і ляжу, і дрэмаю, а кот прыйшоў і па наге хвастом. Так ён кажа: "Каток, каток". А ў таго вочы блішчаць, ён адвярнуўся, зубы выскаліў і гаворыць: "Які я табе каток!", – і пайшоў пад лён. Дык дзядзька ўхапіў сваю шапку і папёрся, і гэтак баяўся.

А каток, можа зданне какое гэта, хто яго ведае. Здаецца ў бані. Яна ж баня не асвенціцца. Таму можа ўсякія людзі ёсць. Голыя вось людзі і хрышчаныя, і не хрышчаныя. Там ка ўсякія. Усе ж абмываешся там. Не асвенцаеш. Во там можа і зданні быць.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаўкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

## 309. Здані

А Юзюк яблыкі быў пільнаваў, у яго дужа сад бальшы, а ў дзярэўні мала ў каго былі сады. Ну і знаў, што прыходзяць во гэткай парой яблыкі рваць. Ну і кажыць, ідзець з кладбішча, а ён каля кладбішча недалёка жыў, ідзець дзеўка, белае плацце, фата надзета. Ён: "Стой! Страляць буду!" Ідзець, тады кажыць, метры два асталося, выстраліў у гару – усё раўно ідзець. Тады, кажыць, выстраліў у яе. Усё, не стала той дзеўкі, толька абратна шум нейкі пайшоў на кладбішча. Усё-ткі хадзілі нейкія зданні.

А раз мы ехалі з Адворыцы. Ніхто ня відзеў: ні Геня, ні гэны Прахор, а жонка яго, Манька, відзела, кажыць: "Ну палядзіце вы, нехта вунь стаіць у белай адзежы". Яны глядзяць, не, ніхто, дык яна аж ногі во так во падкорчыла , зачапілася за яго, за гэтага, а ён, кажыць, так і астаўся стаяць, як столб, у белым ва ўсім.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 310. Здань жонкі

Ну радзіла Анушка, і з роду памёрла, а дзевачка засталася маленькая. І мужык кажыць, прыдзець ноччы рабёнка пасосіць, з печы ўвесь попел выбера, дроў накідаець. Ён крычыць: "Аннушка! Ідзі, а то я табе галаву адсяку!" Тады бацькоў ейных пазваў. Прыехалі бацькі і, як толькі пад поўначы, так і маршыруець, як толькі пятух запяець – так усё ціха станець. Ну, а тады, узяў галаву адсек, гроб зробіў, пахараніў. А дні цераз два абратна прышла… І бацюшку прывадзіў, і ў хаце маліліся. Як бацюшка ў хаце моліцца, тады няма яе. Ну, яшчэ раз галаву адсек, і тады ўжо болей не хадзіла.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 311. Здань памерлай і дзіця

Канешна, здаюцца [памерлыя]. Як чалавек крэпка перажываець, то і здаюцца. У мяне первая дачка радзілася, ей яшчэ двух годзікаў не было, а мама сваю маць пахараніла. Казала: "Устаю ноччы схадзіць папісаць, а мамуля мая ляжыць у грабу". Яна і Богу верыла, і крэсцілася, і што ня робіла. А як устанець, так яна ляжыць, мама ейная, і ўсё.

Тады прышла яна ка мне, а маей дзяўчонкі два толькі годзікі, і просіць: "Дай мне сваю дзевачку". А эта было ў наябрэ – у дзекабрэ. Халодна. Я кажу: "Мама, у цябе і хата малая, і ты так ня вытапіш, ну як ты там будзеш?" Прышлося адвезці. Дажа на саначках яе павязла. Мама спала на грубцы, на кравäць баялася класціся. І тады ноччы захочаць пайці папісаць і будзіць маю дзевачку і кажаць: "Светачка, пайдзём папісаць. А то ты ноччы пісаць хочаш". Казала, перш яе спушчу, а тады сама злезу. Гаворуць, што да пяці гадоў рабёнак ангел, тады нікога німа. Толькі гэтым спаслася.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Катульскай Ніны Сцефанаўны, 1938 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

## 312. Здань сябра

Ішчэ мая бабушка расказывала. Мой дзедушка памёр, а ён дружыў там з адным чалавекам. Із Сянно. І ён ехаў з базара, той чалавек. І гаворыць: "Зайду к Цімафею". Ці ён п'яны быў ці што. І вот ён прыехаў, вароты такі бальшыя. Цімафей вышаў... А ён ужо быў памёршы, дзед. І вот, гаворыць, вышаў, дзверы адкрыў, каня распрог паставіў, мяне, гаворыць, пакарміў і спаць палажыў. Точна, мама расказывала. А назаўтра праснуліся

і: “Ай, ай, а чаго ты, а хто цябе ўпусціў, у нас жа хата была закрытая?!” А ён так і расказаў. Здаўся яму, і няпроста здаўся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

## 313. Зданькі на могілках

Вот такое я помню, бабушка расказвала. У яе дужа дзеткі ўміралі, ціф тады ішоў у Сукліне, уся проста дзярэўня маладзёжы вымерла. Толькі трое, двенадцаць у бабушкі было на раду, і толькі трое жывых. Вот мая мамка, дзядзька Пётр і дзядзька Сямён. Ну дык яна хадзіла на кладбішча і век адплаквала усё. Дык казала, што ей здалося гэтак. Што па захадзе сонца ўжо няможна на кладбішча хадзіць, што выходзіць дзеўка такая бальшая, красівая, маладая і зачэсваіць грэбянём воласы і чэша. Кажаць: “Я тады перажагналася і пашла з кладбішча”. Дык вот даўней зданькі былі.

Гавораць, што да абеда нада болей хадзіць на кладбішча, а па абедзе ўжо не. Я помню, пайшла аплаківаць свайго атца і ўжо сонца на захад. Яшчэ дочка мая была маленькай, і я так лягла на магілку, і так усердна плачу. Можа, я і самлела б там, не знаю. Абіда была, з мужам паскандаліла і гэтак пайшла бацьку жаліцца, аж на кладбішча ў Сукліна гдзе-та, а мы яшчэ жылі ў Мнюце.

І вот пачула, как будта бы з прыцэпа хто-та камяні скідваіць, як на трактары. І я тады ўстала, паглядзела – нідзе нікога няма. Ізноў стала плакаць. Лягла , а тут яшчэ грамчэй, як гулькнула! Вот, кажацца, як будта гэта з магілы нешта вылеціць да мяне. Я, дай Божа ногі, тады і не жагналася я мусіць нічога і, не аглядаючыся, пабегла напрамякі дамой.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

## 314. Здань Самазвоніхі

Зданькі такія былі выдаўшыся. Ну ў нас памёрла старуха. Ну і папрасілі, каб я ўжо памагла там. Ну, я адзежу ім сцірала, два халасцякі жылі... Ну а мне ўсё хазяйка гаварыла: “Ты, – кажаць, – Вікця, глядзі, позна не хадзі, бо можаць выдасца”. А сыну ейнаму выдавалася. Ну я пашла на чардак вешаць адзежу ейную, ну старухі гэтай. Так фармальна, як яна вот хадзіла, як жывая! Ну, вечарам, ужо сцямнеўшыся было. І нада так, каля акна, фармальна так. Ну, каля аконак гэтых, гляджу – стаіць. Дык я как рванула з гэтай… і адзежу параскідавала. Прыхаджу да хазяйкі. Я кажу: “Я не павешала, – кажу, – Станіславаўна, адзежу.” Яна кажаць: “А чаго?” Кажу: “Самазвоніху, відзела.” А яе фамілія Самазвон. Вот гэта было выдаўшыся.Так я чуць з гары зляцела. Так адзежу і не павешала.

А хазяйка, гаворыць: “Ну як? – кажаць. – Мы ж, – кажаць, – табе ўсё казалі, а ты ж ўсё гэта: “Ай ну хто там выдаецца”. Фармальна было выдаўшыся. А тады раніцай пайшла і павешала адзежу.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Навасельцы), 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 315. Здань любімай дзяўчыны

Была такое ў нашай дзярэўні. Очэнь ён, конюхам быў, дзеўку любіў так. Кілометра за 2 другая дзярэўня, дзе яна была. Так любіў ее, а ана забалела. Забалела і ўмерла, ціф наверна быў ці што, умерла. І ён вядзець коней каля кладбішча, сам пастухом быў, каней пасціў. А тут вечарынка была, і ён сеў на каня, паехаў. І выходзіць яна ва ўсём, у чым была пахаронена – конь на дыбы, ён каня набок і быстрэй адтуда. А ана аж равець, так ззаду ляціць, як сумашэдшая, і ён бег. На кані лягчэй і дагадаўся ў лес, у лес сразу свярнуць, і тока ў лес звярнуў – яна: “У-гггггг” прагудзела іісчэзла. Вот гэтыт случай быў, я сама знаю.

А ў полі б дагнала. А так ён па дароге і ў лес, у дзерэва ана стукнулася, ана сама і ўсё. Гэта точна, гэты случай пры мне быў.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (нар. у в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 316. Здань памерлага жаніха

Дык у мяне што было. Вот рассказ такі як. Дружыла я з адным мальцам. І мы сабіраліся да роспісі. А ён пайшоў у парцізаны сначала. С парцізан ужо даканчыў вайну ў Берліне. І прыйшоў дужа ізраненый, і с асколкамі дажэ. А я ж не знала гэтага, ён жа мне не прызнаўся. І вот толькі мы не дажылі адну нядзелю да роспісі. Адзін асколак у яго выйшаў у рот. Тады ён да саседкі, а саседка – гэта мая дзядзькіна жонка, папінага брата роднага. Эта называецца “дзядзіна”. І яны па саседству жылі.

Ён прыбягаець да яе: “Васільеўна, вы знаеце, якая у мяне сягодня радасць? Я астаўся жывой, а я с каждым днём ажадаў смерці”. Разнімаець руку, а там у яго асколак на ладане. “Толькі, Васільеўна, я вас папрашу, не гаварыце Ядзе, яна мяне тады бросіць”. Ну дзе ж мне дзядзіна не скажаць, я прыхажу, яна мне як родная матка была, а дзядзіна давай мне расказваць. “Ну цяпер ён астанецца жывы, раз ён яго беспакоіў, а ён астаўся жывы”.

Паслалі яго на курсы у Вулу на тры месяцы, на бухгалцера калхоза. Яму там дзелаць нечага было – ён да вайны дзевяць классаў кончыў. Ну а нада ж было закон здаць. Ён толькі тры нядзелькі пахадзіў туды, у сястры дваюраднай быў на кварціры, вот пайшоў ён у панядзельнік, эта ў суботу

ён прыйдзець. У пятніцу целеграмма – Сенька пры смерці. У нядзелю, у чатыры часы целеграма – Сенька памёр. Прыйшоў з заняція, паеў, лёг на койку – чытаець кніжку. Яго разам як скінула з койкі, а ў яго асколак на мозг. Ну тут жа бальніца на месце – свазілі ў бальніцу, ну і ўсё.

Ён ка мне прыхадзіў, як памёршы ўжо. Я дужа многа каму расказвала. Вот раз прыйшоў, а я, гэта дзярэўня наша была спалена датла, немцы спалілі. Я жыла ў бані. У сорак втарым спалілі, і аж да пяцьдзесят чацвёртага года я ў бані жыла. І вот ваконца такое небальшэнькае, папа яшчэ здзелаў такую печку, абыкнавенную, як у хаце – толькі што нізенька, нада седзя тапіць яе. Ну і вот аднажды ляжу я на палочку на гэтым – стаіць у вакне. Ваконца маленькая, і я гляжу – ён стаіць у вакне. А эта было прывядзеньне. І мне так гаворыць. "Душа радная, ты хочаш, штоб любоў красная была?" Я падымаюся з гэтай краваткі і на двор. А кладбішча было вот так вот – там стаяла сасна столетняя, адна толькі сасна стаяла. І я іду за ім. Нямнога падыйшла, але вярнулася. Ну, гэта ладна.

Ішчо прыходзіць, прыходзіць са граблямі. Стаіць апяць жа ш к вакне, і граблі вот так дзяржыць – я апяць за ім. Пакуль не ўзяла вады. І большэ ён не прыхадзіў, як ваду выпіла, большэ ён не прыхадзіў.

**Зап. Аўсейчык У., Ключнікаў Б., Панцялей Д. у 2006 г. ад Крайновай Ядзвігі Арцёмаўны, 1927 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

### 317. Здані памерлых

Памерла суседка ў мяне, Наста. Ішоў яе брат і бачыць – у вугла стаіць баба у белым. А яна як тры дні памёрла. Ён хацеу стрэліць ужо, але прапала. Калі чалавек памер і ходзіць, трэба хрэсцік намаляваць пад дзвярамі і вокнамі, хрэсцік намаляваць мелам.

А было яшчэ, што свякроў мая прыходзіла у хату. Я з мужыком сваім разыйшлася. Раз ён прыходзіць: "Пусьці дзяцей – баба памерла". Дык яе харанілі, не было чаго абуць. Купілі у магазіне тапачкі малыя, надрэзалі Дык яна ідзець у хату к яму: "Чаго ты мне тапачкі цесныя адзеў?" Душа ходзіць, калі нечым незадаволена. Яе там не прымаюць.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Шыпулі Ніны Паўлаўны, 1934 г.н. у в. Навасёлкі Бешанковіцкага р-на.**

**318.** Гэта, мне кажацца, што-то нядобра, як ходзіць ужо, хто памёр. Гэта ў Кадбішчах за Бедзенным сяло ёсць. Там ужо тожа людзей, якіх тры чалавекі жывець… Вот, прымерна, жывуць мужык і з жонкай, і памрэць, і прыходзіць тады дамоў.

І мая залоўка, яна у Кадбішчах жыла, дак казала, што яе мужык, а ён перш памёр, казала, прыходзіў. І яна яго відзела, як у трысьцен увайшоў,

чула, як дзверы ляпнулі. А тады, кажыць, во так туды ў хату і пайшоў. А яна за грубкай ляжала і сярод начы скрыпнулі дзьверы, і, кажыць, прыйшоў, і на дзвярах шырма віселa, а ён, кажыць, за шырмай проста хаваецца. А я, кажыць, як выскачыла з-за грубкі ды на хату, і , кажыць, ні свету, ні агню не паліла, нічога, а толькі: “Чаго ты прыйшоў?” І ругалася, кажыць: “Чаго ты прыйшоў? Я цябе глядзела, і з ложачкі карміла, і з кружачкі паіла, і грубачку табе тапіла, і ўсе выдала новае, і надзела, і абула, што табе нада, чаго ты прыйшоў? Знаеш, што я адна, баюся”.

Як стала крычэць ратунку на яго, ругацца, і тады, кажыць, і не стала яго. Прыйшла, лягла за грубку, казала, не заснула да дня да белага. А тады, назаўтра і пайшла на магілкі. Там дваюрадная сястра яе ля магілак блізка жыла. Яна ўжо тая сястра памерла. Дык пайшла к ей туды і расказала, і пайшлі з ёй туды к яму, на магілкі. Абыйшла тры разы кругом яго, і накрычала, і наругалася. А так не к адный к ей. І яшчэ, як памрэць, кажуць, там такая Марына памерла, жывая яшчэ была, і хазяін перш памер. Дык прыходзіў ён пад вакно, стукаў.

А ў нас гэтага нет. А ў мяне мужык мой мне ня сніўся ані. Каб вы ведалі, мой мужык на мяне ні за работу, ні за яду, ні за вошта, нічога я сама на сябе не жалею. Я яго нічым не абідзела нідзе. Дык і не сніўся, і цяпер рэдка-рэдка калі-небудзь сасніцца, дак я рада, што памятнецца. А так ня сніцца, і ня сніўся. І сын мой так ня сніўся, ані. Раз сасніўся неяк, на скорую пахаранілі. І ўсе, болей ня сніцца ніяк. А вот некаторыя кажуць, каторы памрэць, ці што зробіца, і вот што не даволен, тады ен ім сніцца. Так гаворацъ у нас, а хто яго ведаіць.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

### 319. Здань памерлага сына

Ці знаеце, што ў майго брата сын пагіб, словам, утапіўся ў Пензе. Адтуда яго прывезлі і сільна яны ўжо ўбіваліся, Бог ведаіць. Малады малец, толькі з арміі прыйшоў. І вот ён, мой брат, сядзеў на крыльце і гаворыць: “Ідзецъ Алік, ідзець, я точна віжу, што ідзець”. Ён у хату і гаворыць: “Вера, Алік прыйшоў!” Тая ўскачыла з койкі: “А дзе?” – “Пайшоў, – гаворыць, – сюда, к пчальне”.

Усе выскачылі, паабегалі ўсіх пчол, аббегалі ўсё на свеце. У іх пчол дужа многа, каля трыццаці домікаў. Нідзе няма нікога. Вот паказалася такое, ці можа яны дужа перажывалі, убіваліся, Бог ведаіць як.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

## 320. Здань салдата

Дажа нашу школу ў Губіні сьвеньцілі… Ходзіць вот як будта бы па палу хто. Як сьцішуцца, вот нехта ходзіць, скрыпіць. Усё казалі, многа хто. Былі выбары ў школі. Вот адзін міліцанер казаў: "Інцерэсна, я ж закрыўся, нікаго нет, адзін я, ну ходзіць нехта. Я, – кажаць, – устану, абгледжу – нікога нет. Кала білюценяў сядзеў. А нехта вот ходзіць". Ну гэта ж не выдумкі.

І год прапусьцілі, і другі, і трэцці. Тады на чацьвёрты год міліцыя кажаць, што дзейсьцьвіцельна праўда, што нешта нейкая. Сьцямнелася, там хто астаўся, нехта ходзіць і ўсё. Прышлося, папа вызывалі і сьвеньцілі.

Цяпер, кажуць, нічога. Кажуць, за што. Салдацік быў пахаваны недалёчка ад таго места, дзе гэта школа, дзе паставілі. У вайну. Мы кала магілачкі гэтай ішлі. А тады ж закон быў – камсамольцы сабралі гэтыя магілкі, дзе хто знаіць, убраць адтуль. Вот яны ўбралі, а можа толькі пакапаліся і не чапалі, Бог іх знаець.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Барацэвіч Лідзіі Ларывонаўны, 1912 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

## 321. Здань папа

Гэта як бацька ж наш казаў, расказываў бацька яго, Мазур. Ехаў конна, ці ён з Кубліч, каля кладбішча, кажыць, конь не пашоў і ржэць, нагамі во так во топаець, а ў яго і пісталет быў. А ён тады глядзіць – стаіць у кустах поп, рыса, гэта ўсё надзета, а конь ня йдзець. Тады ён як трахнуў туды з пісталету. Усё, як хваціў гэты конь, дык ён толькі дзяржаўся.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 322. Здань самагубцы

І вот мая бабушка гаварыла, яна ехала з мельніцы ноч'ю, і там такі у нас лясок ёсь, і казала, як уехала ў лясок, казала, мужык у белым бялы сеў на воз і едзіць. Ну яна не разгаварывала, але ён зь ёй. Тады яна лес гэты праехала і нідзе яго не стала. Ну там, яна гаварыла, што ў тым ляску быў мужык павешаўшыся, дык вот ён выдаваўся, каждаму, хто ноч'ю едзець, каждаму ён выдаваўся.

Такіх не харанілі, як… Не, не, не. Я была, мне можа шэснацаць лет было, і ў нас павесілась там старуха. Яна ў хаце на ланцугу павесілась, яе сьнялі, заняслі ў сарай, ўскрылі і сразу так, як яна павешалася, у гэтым адзеньні, так яе пахаранілі і не ў могілках, а вабшчэ за прывалам, так далёка туды, не на могілках.

Ну гэта нячыстая сіла. Вот еслі надзеты хрэсьцік і вешайся. І с хрэсьцікам нікада не павешаесься. Вот у нас, я ў Шаркаўшчыне вобшчэм жыла недаўна, крэпка мужык вешаўся, ён пашоў у прыбанік, зьдзеў хрэсьцік, павешаў і павешаўся, а каб і хрэсьцік быў ён не павешаўся б, вяроўка перэрвалася б.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар. у в. Васюкі), 1932 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 323. Здані

А зданькі здаваліся мне самой. Я яшчэ не такая бальшая была, ну, гадоў дзесяць-дванаццаць. Во гэткая. І там старуха ў нас памёрла. І я пашла, і я ня відзела, хаpанілі там (яе). А мы ж на хутары, мы ж не хадзілі.

Дак я, гэта, карову даю, пашла і думаю, а ўжо стала змяркацца. Аж глядзь на гэта, стаіць старуха. Рукі сашчапіўшы, усё. Я й малако выліла, як ляцела і даёнку. Кінула ўсё чыста. І сама збегла. Зданькі мне былі.

І мой мужык-нябожчык, ён пагіб на фронце. Дак гаварыў, што: “Калі ў мяне памёрла бабушка, я, – кажаць, – іду дамоў з вечарынкі, гляджу – бабуля стаіць. Бабуля Анэля, ты?” Яна ад яго. “Ты чаго, бабуля ўцякаеш?” А тады яна, кажаць на другі бок. І тады, кажаць, я ўздумаў: “Яна ж памёршая!” Тады, кажаць, я ходу адтуль. Кінуў яе. Ці гэта, можа зданькі ці гэта, можа, ёсць?! Ну ўродзе кажуць, што на трэці дзень выходзіць… як ён называецца… Ай, забылася як называецца ў пакойніка выходзіць прах гэты.

**Зап. Глушко А., Філіпенка У. у 2004 г. ад Кульба (Балотнік) Яўгеніі Васілеўны, 1912 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

## 324. Здарэнне на могілках

Тут кладбішча на рагу леса, у Капусціне, кладбішча. Ну і вот, абычна ж на кладбішча ходзят жа ж днём. А там памёрла жэньшчына была адна і ў яе асталась двое дзяцей малых. І сестра хадзіла… Ейная сестра асталась, яна гадавала гэтых дзяцей, і хадзіла на кладбішча, і хадзіла ноч’ю. І вот пашла, плакала і плакала, плакала… Вот. І хадзіла эта жэньшчына, хадзіла на магілу туды на кладбішча, у лес гэты. І пойдзець, і там качаецца па этай магіле і ўсё: “Што я тваіх дзетак гадую, а ты ляжыш?” Вот. І тада сядзела, сядзела, і ей так, ну, падалося, паказалася, што ну як вада, вада і вада, і ўсё. І яна сядзіць у вадзе. А як перайці? А прыйшоў нейкі старычок і гаворыць: “Пасьледні раз штоб ты ноччу прыхадзіла! Большэ штоб ты не прыхадзіла сюда”. Вот. І гаворыць, палажыў как бы кладку такую, вот як кладка перад ёй, на этай вадзе кладка. І ён яе перавёў чэраз гэту кладку, усё. І пасьля

тога яна не стала хадзіць. Эта з Гапуляй было. Вот. Гэта пры мне ўжо было. Эта ўжо точна было! І пасьле тога яна не стала хадзіць на кладбішча.

**Зап. Бабіч А. у 2009 г. ад Крыцкай Тамары Пракоф'еўны, 1940 г.н. (нар. у в. Уласава Каменскага с/с Лепельскага р-на) у в. Цянюгі Вяркудскага с/с Ушацкага р-на.**

## 325. Зданкі ля могілак

Мне мама казала, была яшчэ маладой. І вот гэта вечарам, што яны там робілі, павядуць сюды вот за кладбішча коней. Раньша ж пасцілі, гэта загоны такія былі выгараджаны – зыгарадзь. І на нач туды хадзілі і конюх быў старажыў. І вот яны там с аднэй вялі во так, селі вярхом. Ну задумалі сесць і ўжо тут каля кладбішча, а там дальша было гэта, зыгарадзь іхная. "І толькі, – кажаць, – пад'язджаюць сюды вот пад кладбішча, а нешта белае як фу̀рнула с кладбішча і мы, – кажаць, – аб землю і нашы коні як фыркнулі і паляцелі".

Да. Раньша здаваліся. Да, каля кладбішча. І так, наверна, зданкі здаваліся. Ну вот больша я прама ня чула. Вот я дажа сама была малая... но каля кладбішча тожа, хадзілі. Раньша ж мы малыя хадзілі, ягады сабіралі, бедна жылі после вайны. Нясём гэты ягады, тады ўжо прадаём. Раненька ўстаём, у два часы і раньшэ. І там яшчо такое тожа каля пашы кладбішча такое. І вот бывала мы раньша бывае прыдзем, вот ні каля якага кладбішча не было. А туды як прыдзем к гэтаму кладбішчу, дак мы ўжо туды як сколька хадзілі – бягом бяжым. І так, панімаеце, прыдзем, як усё роўна вот кіпяток у які. У такі, што дыхаць так прама аж неяк. Мы тады бягом, бягом, каб скоранька прабегчы.

**Зап. Волкаў А. і Навічонак Я. у 2003 г. ад Чарневіч Зінаіды Мацвееўны, 1939 г.н. у в. Заазер'е Гомельскага с/с Полацкага р-на.**

## 326. Здарэнне ля могілак

А вот бываець такое. У нас маладзёжы было многа пасля вайны. Страшна многа – дзяўчат і мальцаў. І мы абычна, такі закон быў, у жытное хадзіць, з песнямі, з гармонем. Можна ў любое свята, а мы у Васкрасеньне хадзілі, у нас у Мальчонка гармонь была свая, ну і пайшлі ў жытное. Ну хадзілі там і с песнямі, хадзілі, пасядзім і паходзім. Ну тады мы, дзяўчаты гэтыя, атабраліся, і пайшлі дамоў. А тут нада была окала кладбішча ісці. А жыта гэта бальшое, у рост чалавека. Толькі мы даходзім да гэтае дарогі, як на кладбішча уезжацца, на яго, падымаецца, падымаецца, такі клуб дымчаты, сівы. І вышэ, і вышэ, і вышэ! Мы тады бягом. І мальцы за намі ззаду.

Прыбягаем мы ў дзярэўню, і мальцы расказваюць старыкам сваім. “Добра, што вы уцяклі, а так бы вас падушылі” – старыя ужо сказалі.

**Зап. Аўсейчык В., Ключнікаў Б., Панцялей Д. у 2006 г. ад Крайновай Ядзвігі Арцёмаўны, 1927 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

### 327. Жанчына ў белым

Мы, як хадзілі ў лес на работу, садзілі лес, ішлі з работы ўжо шэра было так, вечарам цямнелася. Каля кладбішча ішлі і здалася жанчына. Сядзела чорная сама, белым абакрыўшыся. І мы ўчатырох ішлі і ўсе відзелі, і не загаварылі адна да аднэй, і беглі аж да вёскі бягом – гэтак нам страшна было. Яна гэткая страшная, чорная. Мы не знаем, ці яна ішла за намі ззаду, ці… Не, мы не знаем, мы не аглядаліся. Відзелі, дык точна відзелі, і ўсе. І адна адной не сказалі – беглі гэтак. А тады ўжо, як прыбеглі да вёскі, тады сталі пытацца: ты, ці відзела, ты, ці відзела? Усе відзелі, вот. Гэта-то точна было.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Іваноўскай Ніны Ўладзіміраўны, 1934 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

### 328. Жорны

Мама расказавала, яны пастроіліся наверна на кладбішчы. Кажаць: Божачка! Мелець жорны, круціць і ўсё. Круціць жорны. Эта так здаецца. Ага. Прышоў бацька п’яны. І на яе: “А ты, такую тваю гэткую, выдамала абы што!” А яна: “А ты паслухай!” А ё! І бацька спугаўся. І тожа на яго – круціць жорны, і круціць, і круціць жорны. А хто іх круціць? Дык после гаварылі, што пастроілі, дзе кладбішча было.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бярговінай Таццяны Карнееўны, 1926 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

### 329. Зданькі на ростанях

У адной жанчыны муж працаваў на будоўлі дарог. Гэта яшчэ да вайны было. І жонка хадзіла наведваць яго. І ёй прыходзілася хадзіць праз заклятае месца – тыя ростанькі. Яна заўсёды раней праходзіла ростані або да захаду сонца, або пасля яго. Але аднойчы, як яна не спяшалася, але трапіла якраз у тое месца падчас захаду сонца. Тут зашумелі кусты, а з лесу выйшаў красівы жарабец. Жанчына ж ведала, што такога каня-прыгажуна ні ў кога ў бліжэйшых вёсках няма. Конь гэты некаторы час ішоў з ёй побач. Потым праз дарогу пракацілася галава барана з рагамі. Жанчына спужалася, перахрысцілася і з усяе сілы пабегла дадому.

**Зап. Балай С., Бартунскі А. у 1996 г. ад Гапко Марыі Фёдараўны, 1936 г.н. у в. Папкі Бешанковіцкага р-на.**

## 330. “Здань”-дзядоўнік

Ну у нас, як у Катоўшчыну ідзеш, дык там такая балацявіна направа. Дык можа аднаму мужчыну здалося. Ішоў там з Катоўшчыны і стаяў “дзед” такі, трава такая, а яму здалося, што стаіць казёл рагаты. Вот ён падышоў, рукамі схваціў і давай яго. А тады ўжо послей агледзіўся, што гэта дзядоўнік стаіць. Всякія случаі былі. Ну болей такіх не знаю.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Чэклін Алены Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Макараўшчына Лепельскага р-на.**

## 331. Белая дзеўка з Высокай гары

Ну, што гаварылі, што ў нас такая гара высокая і там лес…Бярэзьнік быў, усякі хмызьняк гэты рос. Ага. Ну і вот, з гэтай гары, гаварылі што, белая дзеўка выходзіць. Выйдзець уся ў белым. Дык тады гаварылі, што даўней праклінали і быццам матка дачку пракліла: “Каб ты правалілася!” І яна правалілася, а ціпер выходзіць дзеўкай белай. Во так…

Ну, а тады, быў у нас Несцер, ён ужо памёр, мушчына. Ага. Дык гэты Несцер… так... гэта… кусты гэтыі, гара вісокая і называлася Вісокая Гара. А тут поле гарыстае, гара тады ўніз, пахата і там ігрушынка такая красівая, такая, як вяночак, кубасценькая, на аднэй ножке стаіць рагаценькая. А эты Несцер кароў там пасьціў, гаворыць: ідзець к яму с узгона дзеўка белая. Ён быў такі ўжо пудуростак, но але ўжо бальшый быў, у поле ганяў, пад кавалера падбіраўся. Гаворыць: “Ідзець, прама ка мне ідзець эта дзеўка. А тады, – гаворыць, – падыйшла да мяне і гаворыць: “Ці хочаш ты, я табе сейчас красны шалік на шэю надзену?” А ён: “Ідзі, ё… тваю маць, я табе як надзену шалік красны!” А тады гаворыць: “Шух! І нідзе не стала.” Вот такім воздухам яна выхадзіла. І не стала. Дык вот гэты Несцер, ужо ж ён памёр, і расказываў, як яму дзеўка выхадзіла і як ён яе абругаў.

А тады што было. Па дзярэўні збіралася маладзёж, гэта ўсё ў Навасёлках было. І ў канцы хаты па аднэй сторане вуліцы і па другой, а тады во так дарога, а тады чэраз дарогу – хата, вот так, у вуліцу ўпіралася, але далёка ад дарогі. І ў яе было два сыны і дачка, і к ім збіралісі маладзёж вечарам пасядзець, на пасядзелкі, казаў тый, мой пляменнік, на пасядзелкі…Ага, тады гэта. Яны сабраліся ўжо дамоў маладзёж ідуць. А Ладун – хата налева, а тут Ягор – направа хата. І яны адтуль ідзуць па вуліцы, а ў Ладуна так сарай, і кала сарая куча дроў альховых, ага, насечана, гэта была восень ужо. А тады ідуць яны ўсе маладзёж па дзярэўні, хто ў якую хату расхадзіцца. А тады, гавораць, ад гэных хлявоў, ад сямёнавых, ад эных, гавораць, перабегла ўперадзі іх белая дзеўка і шмыг пад дровы. А яны ніхто нічога не сказаў. Прайшлі гэта месца, а тады спрашываюць: “Ці відзеў

ты? Ці відзеў?” Усе відзелі, што перабегла туды. Дык, гавораць: “Усе мы молча анямелі”. Уперадзі іх – шмыг во так, як воздух, і ў дровы туды, і пашла. Дык вот гэта я помню, гэта ўсё расказывалі. Ужо мы… я ўжо дзеўкай была ўсё гаварылі, што ёсьць там белая дзеўка. А там гэта гара унізу, тады дарога туды к озеру, у другія дзярэўні, а тут на нізу такое балацявінка і там малін было многа. Пайду я ў маліны туды. Ай, малін многа, тады чую нехта ўродзе шапортаецца. І я пабаялася, большэ і не хадзіла, думаю: “Можа тут белая дзеўка выходзіць”. Вот як. Ну вот гэта було. Дык вот эта гаварылі, заклятая была, матка яе пракліла, гавораць даўней праклінали, і вот матка пракліла і яна скрозь зямлі праваліласяя. Хто ж яго ведае. Усяк жа буваець. А ці эта праўда ці не.

**Зап. Бабіч А. у 2008 г. ад Смай Аляксандры Міхайлаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Навасёлкі) у в. Залужэнне Ушацкага р-на.**

### 332. Здань проклятай дзяўчыны

Дзеўка ў нас, бывала, здавалася. Эта кала Навасёлак, там такі гаёк. Вродзе матка яе пракляла. Матке нельзя клясці сваіх дзяцей. А яна скляла і яна знікла, не стала яе. А патом яна здавалася людзям. Я помню, мы кароў пасцілі, а ішла жэншчына з нашай дзярэўні. Ідуць і ўвідзілі яе: ай, мусіць эта тая дзеўка. Вродзе бы матка яе пракляла?

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Валянціны Іванаўны Крыцкай, 1949 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 333. Здані на смерць

Могуць быць зданні. У нас у дзярэўні былі зданні. Калі Люда мая была. На перакросткі, як дарога на Дзедзіна вядзець. Кажыць: “Іду к кусту, а наш Саша з сасоніка едзіць”. Пад’езджаець, а гэтага Сашы нет. Тады яна мне расказала, я думала, што можа маніт. Тады я Язэпу расказала, нашаму музыканту – ён многа чаго знаў, што здаўся Саша ў 12 часоў дня. Ён кажыць: “Недаўгавечны”. І праўда, памёр маладым.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 334. Здані памерлых

Мне мама здавалася два разы. Я адна ў хаце спала. Я легла спаць адвярнулася і чую, як яна хату адкрыла, і ўжо ідзець да мяне... А тут у адных закапалі чалавека і надзелі яму пінджак цесны, ну і тады пахавалі. Не знаю на каторы дзень, заходзіць ён дамоў, а яна чуець, ідзець-ідзець, шкаф адкрыў. І будзець яна казаць: “Чаго ты прышоў?” А ён: “Мне піджак цесны, я шэры надзену!” Ляпнуў шкафам, нібы піджак надзеў, узяў і пайшоў!”

**Зап. Аўсейчык У. і студ. ПДУ Путронак К., Шыпіла Н. у 2009 г. ад Падбярозкі Леаніды Міхайлаўна, 1934 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

### 335. Зданькі ля балотца “Карнічок”

Гавораць, ну я сама… не здавалася мне, а вот і мамке маёй здавалася, як на эту самую мельніцу хадзілі. І вот, тут з леса выйдзеш, і там палянка на левую сторану, а на правую балотца Карнячок. Ну, там окала Карнячка – гарушка. Там і косці бываюць выторкваюцца. Гавораць, там каго-та харанілі. Там вот зданькі задаваліся. Гэта адсюль, можа з кіламетр. Гэта по правы бок дарогі, а на левы будзе палянка. Прайсці за ферму, з левай стараны лясок кончыцца, а з правай – будзе лясок. Мамаша ішла, гаворыць: “Іду, ай, загаварылі, загаварылі дзеўкі нейкія, вродзе как в лесу і песні запелі. Я, – гаворыць, – стала, прыслушалась, яшчэ пашла туды пагледзець… Ціха, нідзе нікога нет. Я, гаворыць, спугалася, бегам пабегла ўцякаць. Ацец мой гаварыў, што гэта з ног зьбівала. Многа там людзей расказвала, што здавалася. Бацьку майму ў 12 часоў ночы было здалося, а вот мамка мая шла днём, гаворыць, у абед. Вот я ў абед бегла сюды ў Лісна. Я хадзіла па грыбы, але мне самой нічога не здавалася.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Дзянісёнак Анастасіі Іванаўны, 1911 г.н. у в. Лісна Верхнядзвінскага р-на.**

### 336. Зданкі на Сухім балоце

А зданкі дык здаваліся! І нам самім здаваліся зданкі. Мы былі малыя, пасцілі кароў і з братам. Пасём кароў і перад намі лес, а быў абед, часоў 12. Стаім мы, каровы ходзяць, тады глядзім – пры гэтым лесе стаіць жэншчына ў беленькім, у ва ўсім у беленькім, і такая бальшая даволі. І стаіць, і толькі вецер, ці сукенка ў яе была ці што там, толькі во так во матляіць. Брат увідзіў: “Ідзі палядзі, хто гэта там стаіць?” – на мяне. Дзіва, што нідзе нікога не было, а гэта стаіць. Тады я палядзела кажу: “Я віжу, што там стаіць, але там ніколі ніхто не хадзіў”. І гэткая пара была, што ні ягад не было, нічога. Глядзелі мы, глядзелі, а яна стаяла-стаяла, а после раптам толькі “блык!”, во так на месце, і нідзе нічога не стала. Мы тады, як не стала нікога нідзе, давай ісці туды, у тое месца глядзець, хто ж там быў. Аж там толькі ляжыць такі камень, плоскі камень, не ўверх, а на зямлі ляжыць во так во (паказвае).

Тады мы прыгналі кароў ужо с паствы, тады расказываем, што відзелі мы нейкія зданкі ў Сухім балоце, а там гэта “Сухое балота” звалася. А папа кажа: “А хто там быў? Каго вы відзелі?” – “Стаяла нейкая белая цётка!” Тады папа кажыць: “ Там можа ў вайну нехта грошы схаваў, а вы, – кажыць, – палядзелі гэта месца добра?” Кажу, што добра, там, кажу, камень ляжыць. Тады папа кажыць: “Пакажыце вы, дзе вам гэткая зданка была”. Вот мы павялі папу, папа ўзяў лапату з сабой, ну і давай там гэтыт камень капаць. Капалі-капалі – нідзе ні шыша не знайшлі, ні грошы, нічога.

А яшчэ былі зданкі, ну гэта ўжо многа каму здавалася. Во дзека тут турбаза і маленькае азёрачка, а тут тады балота пашло, а былі даўней базары, хадзілі ў Кублічы. І як ідуць, дык у гэтым балоце дзіця маленькае плачыць. Дык гэта многім-многім здавалася. І старык абуваўся, камень ляжаў бальшы і там на гэтам камяні відзелі старыка. Кажуць, вот ідзеш, здалі відзіш, што ён сядзіць і парцянку абверчываець калі нагі, як даходзіш – няма нікога. Ну, гэта чартоўскае было. Гэта былі тыя шыцікі (смяецца). Ну чарцей жа звалі гэтых "шыцікі". Вот і мама калі-небудзь на нас: "Ах, лётаеце, як шыцікі!" Гэта чарткі такія.

**Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 337. Прыгода ў дарозе

А здавалася, дык дзісвіцельна задавалася, мама расказавала. Паехалі мама мая з Таргуноў, і паехалі ў Докшыцы ж ужо, ездзілі ж ужо на базар, жыды там былі, куплялі ўсё ў жыдоў, у іх магазіны, базару не было, у жыдоў усё куплялі. І вот заехаліся ў Таргуны на госці і запаздалі, і, гаворыць, едзем дамоў ужо позна, і вот толька даехалі вот, як з Докшыц едзеш, эта Забар'е называецца, сосны гэтыя бальшыя. Тады гэтых соснаў не было, былі канавы. "І вот мы едзем, – гаворыць, – а па канаве белае што-та, накрытае, як вот дзевачка небальшая ці там мальчык, ці там хто накрыўшыся і прыкорчаны, і бяжыць, і бяжыць па гэтай канаве. Мы едзем і ён бяжыць. Я, – кажаць, – маўчу, нічога не кажу, конь тока стрыжэць вушамі, ён яго дзяржыць крэпка за лейцы, а я, – гаворыць, – сяджу, гляжу, ні жывая ні мёртвая. Гляну – бяжыць, а на яго нічога не кажу, не адзываюся, эта ж, кажуць, няможна гаворыць, еслі ўвідзіш гэтых зданяк. І вот бегла і бегла аж да тамілаўскай дарогі, а тут, як тамілаўская дарога пайшла, бальшак, была цамбравіна чэраз дарогу, дарогі гэтыя змывалі, была ўложана труба. Даехалі да гэтага самага, дзе падложана труба, яно сагнулася і – шмык – і пабегла пад гэту трубу, і нідзе нічога не стала. Мы звярнулі на сваю дарогу, на Сценку, і паехалі. Тады я ў яго спрашаваю: "Ці відзіў ты што?" Кажаць: "Відзіў". – А ты відзіла? – Відзіла. А што бегла і невядома.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 338. Магіла лейтэнанта

С прывідзеньнямі я не ўстрэчалась, ўстрэчаўся мой ацец. Ён работаў усю жызьнь у лесе лясніком, і у вадзін дзень, ілі ён на рабоце, ілі так ён езьдзіў у горад, ета было после вайны ўскорасьці. А у нас нада было іці па лесу 13 кіламетраў з вакзала. І вот ён ішоў ноччу з вокзала па лясу.

Па дароге, як іці з вакзала, у нас быў пахаронен салдат, лейцінант Бурнейка. Стаяў на самай дароге, чуць-чуць у старану, што можна праехаць не на машыне, а на павозке. Лейцінант Бурнейка. І ён, як ішоў ноччу, прайшоу адзін раз, ну і пайшоў дальшы. Адыйшоў усё, колькі ён ішоў ён не знаець, і апяць ён прыйшоў к этаму Бурнейку. Так ён хадзіў два разы к этаму Бурнейку падходзіў. На трэцці раз апяць прыйшоў к Бурнейку, тады ужо нікуды не пайшоў, астаўся начаваць на этай магіле і праспаў да самага расвету. Тады падняўся і пайшоў дамой. Хто яго там вадзіў, ці лешы, ці яму што прывідалася.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 339. Здані

І прывідзелася маёй падруге, ноччы, ва врэмя прагулкі з парнем. Прывідзелася маей падруге дзевачка маленькая, ішла ей на устрэчу. Дзевачку эту парань ня відзіў, толькі відзела падруга мая. Як яна сказала: "Пасматры якая харошая дззевачка", – і дзевачкі этай ня стала. Дзевачку не відзелі. І большы ніхто ету дзевачку ня відзеў, рабёнка у нас у дзярэўне такога не было, такога возраста у нас не было.

І яшчэ прывядзеньне відзела мая дваюрадная сястра. Умер сасед у яе, радам з ейным домам. І адзін раз яна выйшла на вуліцу на свой двор, паглядзела на саседні агарод, і увідзіла, што хазяін, каторы пахаронен месяц назад, стаіць на сваім агародзе і смотрыць на саседку. Ёй стала страшна, яна завярнулася і пабегла дамой. Прыйшоў муж, расказала, што відзела саседа, а той на яе наругаўся, паверыць – ён ей не паверыў.

Прайшло яшчэ сколькі врэмя, выйшла яна на двор свой, а эты сасед стаіць у іх на дварэ, там, куды прыйшла саседка, а двор закрыты усюдах, і стаіць сасед пасрадзі двара. Тут яна з крыкам пабегла дамой, а муж быў дома. Ён спрашываець: "Што такое?", – а яна яму. – "Апяць ён стаіць, і цяпер стаіць у нас на дварэ". Той пайшоў – нідзе нікаго нет. І яна ужо прывяла мужыка, і яна яго не ўвідзела. Ніхто большы ня відзеў. І яна большы ня відзела, можа б яна і відзела, но факт, той, што пасля ягонай смерці яна пражыла толькі тры месяцы.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 340. Палудзённыя зданкі

Было такое дажэ мне у лесе. Пашла з дзяцьмі, два сына ўзяла, дочку, і племянніка. Ну яны ўсе былі дашколнага возрасту і пашлі ў двенаццаць

часоў дня. Вот сюда пайшлі, на свой лес. Госпадзі, хадзілі-хадзіла – не знаю, куды выйсці. А можа метраў чатырыста ілі пяцьсот ад поля. Не, думаю, там нехта разгаварваець – пайду, чаго я з дзяцьмі тут буду шляцца. Вышла – дом нейкі бальшы стайць, а там свнаферма, во – за дзярэўняй. Ходзяць свінаркі – свінарак дажэ не ўзнаю. Прышла ў дзярэўню, прышла к сваей залоўцы, ейный жа сынок быў са мной. І смяюся, кажу: "Вот панімаеш, я прыйшла ў хату – і не узнаю цябе". Ну а патом жэншчыны, старушкі, сталі казаць, што ў двенаццаць часоў так бываець. Гаварылі, што ў двенаццаць такія зданкі бываюць.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 2006 г. ад Жаваранак Ядзвігі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

**341.** Расказвала бабка адна, тожа у Камені, яе цяпер няма. Казала, пасьцілі, ну а тады гналі з пасты і адна карова адлучылася ад іх. Тады гэта дзяўчынка за ёй бегла за ей. А яна у кусты, у кусты і пабегла а гэта самае паўдневае врэмя было. Ага, ну і тады яна за гэтай каровай падбягае, а тут – паляна ягад. Красна-красна! Яна тады скоранька ветачку атламіла, намеціла, як яна загоніць карову ў хлеў, а сама падбяжыць пасабірае. Ну, і тады загнала гэту карову ў хлеў, і сама пабегла туды. Прыходзіць, а там нідзе нічаго нама. Ясна-чыста, дзе тое месца было, дзе яе сучкі толькі ляжаць, а ей зданька здаўся, што ягады, кажа, а крупныя, а красныя. Яна, нікому не гавара, лукошычку ў рукі і пабегла, каб набраць гэтых ягад. А тады ж прыйшла на тое месца, як раз жа тое месца, там ветачкі, кажа, ляжаць – усё – нікаво нідзе.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## СКАРБЫ

### 342. Свёкраў скарб

Ляжала ў хаце за занавескай нявестка, а свёкар думаў, што ў хаце нікога няма, і закапаў пад падлогай грошы, і закляў іх, і сказаў, што без маёй рукі ніхто грошы не возьмець, і памёр. А нявестка тады ўзяла ды і раскапала яго рукой грошы.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Маскаленка Алены Васільеўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

### 343. Свёкрава золата

Раней людзі былі жадныя, зданькі здаваліся. Раней старыя дзіцям грошы не давалі, а складалі ў гаршчок. Аднойчы стаў паміраць стары. Ён ужо аглух і аслеп. І ён пачаў хаваць грошы пад печчу. У хаце была нявестка, але ён яе не бачыў. Ён хаваў грошы і прыгаворваў: “Сто чалавек галовы паложаць, а сто першаму дастанецца”. А нявестка кажа: “Сто курыных.” А дзед кажа: “Не, чалавечых”. Так яны доўга спорылі, але ж нявестцы ўдалося яго перагаварыць. Стары памёр, нявестка засякла сто курэй, і ёй дастаўся гаршчок з золатам.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Лісёнак Яўгеніі Іванаўны, 1914 г.н. у в. Белае Ушацкага р-на.**

### 344. Зачараванае золата

Ну ніхто ж раней золата ў хаце не храніў, а закапвалі, у гаршчок клалі. І давалі закляцце, клялі яго, праклінаалі. Хто яго возьме, той галаву паложа за гэта золота. А тыя, хто падглядалі, зналі дзе. Гэта ж дзелалася, каб ніхто не знаў. Дык адзін чалавек закапвае золата і гавора: “Хто гэта золата возьме, той сто галоў паложа”. Не адну галаву, а сто. А чалавек там нейкі быў схаваўшыся і кажа, што верацён сто галоў, сто галоў з верацён. Ну а ён адно, тады і той сагласіўся. Ну хай сто галоў з верацён. Закапаў і пайшоў. А той наструга ў сто галоў з верацён і паклаў сто галоў, і забраў золата.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

### 345. Закляты скарб

Раньшы дужа кляліся. Майму дзеду было так. Што гаршчок з дзеньгамі, што бацька не хацеў сыну астаўляць. І пракляў гэта. Гаршчок бальшы той ужо і дзеньгі. Золата адно. Тады дзеду майму сасьнілася так. Даўней былі такія гумны. А кала гумна такі маленькі кусочак яны пахалі. І на гэ-

тым кусочку... Эты дзед не хацеў астаўляць, каб ён усім раздзяліў, а то не ўладзіш. І гэты дзеньгі закапаў там. І тады ўжо майму дзеду сасніласе...

Дзед Рыгор быў бажэсцьвенны. А паехалі ж усе ў цэркаў. А агонь гарыць, дзе хто не клаліся, на Усеношную паехалі. А ён сеў так дзед на куце, аблакаціўся і дрэмлець. А яму прыходзюць і гаворуць: "Рыгор, вазьмі каня запрагі ў саху і праедзь, і табе дужа бальшыя выйдуць дзеньгі. А калі баісься, то хоць каня ўвядзі ў саху і хай стаіць. І выйдуць табе гэтыя [грошы]. А ён устаў і пераксціўся: "Божа мой, Божа!" І пабаяўся.

Расказаваў тады бацюшку, прызнаваўся. А ён гаворыць: "Зра, раз яны не заклятыя былі, і не на ўсіх сыноў, а як ты адзін астаўся. Дык хваціла б табе і тваім унукам, і праўнукам". Гаршчок наверна бальшы быў. Золата. А золата было ў модзе.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Буржынскай Надзеі Кузьмінішны, 1918 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

## 346. Скарб і старац

Даўней хадзілі такія старцы. Вот прышоў адзін к аднаму чалавеку начаваць. А той ужо быў стары і закапываў свае грошы, каб сыну не даваліся. Старац залез на печ і ляжыць ціханька, алі ўсё відзіць. Вот чалавек выкапаў яму ў пуні, гаршчок у яе ўставіў, алі няпоўны. Тады гэты старык пашоў яшчэ дамоў за грашамі. А старац скоранька злез і ціханька ўкінуў хрэсьцік [на грошы] і назад лажыцца. Прышоў той чалавек, даклаў грошы і гойкнуў. А тады кажа: "Як мой голас ідзець далёка, так ідзіце, грошы, глыбока".

Скора той старык і памёр. Прышоў старац к яго сыну. Расказаў пра грошы. Сын і просіць памагчы адкапаць. Пашлі яны ў ноч на Купалу на Івана. Адкапалі. Сталі грошы браць. Глядзяць – хрэсьцік ляжыць. Як толькі той хрэсьцік узяў – усё загручэла, загрымела і гаршчок праваліўся.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Пухавай П. К., 1923 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

## 347. Як кумы скарб шукалі

Раньшы кумы дужа радніліся. Вот адзін раз на гэту ноч на Купалу пашлі грошы іскаць. Бывала, яны здаюцца, дык і найдзіш. Нашлі. Адкапалі сундучок. Той, хто бліжэй капаў, падняў галаву, аж кум з паднятай лапатай стаіць – хацеў забіць. Тады ён скарэй кажаць: "Ай, чорт іх бяры, тыя грошы". Усё загручэла, загрымела і нічога не стала.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Барадулькі Ф. П., 1904 г.н. у в. Дзедунова Ушацкага р-на.**

## 348. Золата на прасушцы

Было эта ў нашым Замошшы. Адной з начэй Таццяна Босая ўстала ноччу паглядзець дзяцёнка і праз акно ўвідзела аганёк, які свяціўся на агародзе

Вогура Васіля. Яна пайшла і расказала свекрыві – Босай Кацярыне. Свякроў сказала, што гэта золата выхадзіла на прасушку. Нада было па ім палачкай даць і яно б рассыпалася, і тады начаць яго сабіраць.

**Зап. вуч. Велеўшчынскай школы Логавін М. у 2005 г. ад Александровай Марыі Мікалаеўны, 1936 г.н. у в. Замошша Чашніцкага раёна.**

## 349. Зачараваны скарб

Там за возерам ёсь такое урочышча – Чырвоная зямля, эта праўда. Вот там ёсь крынічка, бяжыць ручаёк, а тут стаіць ляшчынніку куст. І вот ён, ручаёк абегаіць гэтат куст і зноў саедзіняецца, і пацячэць. Вот кажуць, пад тым кустом золата нейчае закапана. А раз не тваё – не бяры. І адзін раз ішлі бабы, што яны, мох дралі, здаецца. І захацелі тое золата найці. Як сталі падхадзіць к таму кусту, бура як узнілася, як стаў той куст круціць! Так яны чуць уцяклі. Значыць, не тваё, і няйдзі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

## 350. Пра зданькі і заклятыя скарбы

Падвадзіла я бабку такую з бані, яна мылася, а тады сцірала. Я яе вадзіла з бані ноччы, позняе врэмя. Іду і так конь ржэць. За кладбішчам. А нідзе тут коней не было. А гэта бабка баязлівая. А я не. Яна тады прышлі, ай, ай, а я – эта конь. Гэты конь ірзаў так за кладбішчам.

А другі раз прышоў, як свінней карміла ў Сароках. І мне той чалавек гаворацъ: “Арця, не хадзі там, там дзеўка з залатымі зубамі здаецца, косы даўгія, выходзіць”. Эта ў кустах кала лесу. Я кажу: “Я не баюся”. Аж эта была не здань. Эта на карчы чарвякі такія. Іду і віджу – дзеўка выходзіць. Баюся, валасы дуба. Палку атламала, перайшла эту дзеўку, не вярнуся, пагляджу. Павярнулася, а яна стаіць. Эта ён мяне так настрашыў.

А наша сістра пошту насіла, дык за ей ехаў воз, конь ляцеў і хвост у повен рост. Дык яна ляцела бягом. А ён з-пад кладбішча. Гэдак ляцеў эты конь із вазом. Так яна даляцела да хаты і прапаў той конь. Да, даўней здані здаваліся, за тоя, што даўней людзі заклінаді грошы. Закапавалі там і заклінадці. Дык гэтыя грошы як прыдзіць врэмя, на скока іх там заклінаюць, яны тады здаюцца.

Эта мама, душы яе неба, расказавала. Адзін памёр і не хацеў аддаць зяцям грошы і закляў іх: “Чыя ручка закапала, каб тая і адкапала”. А сын чуў, і відзіў, як ён пад печ закапаваў гэты грошы. Вот памёр эты чалавек. Ён яго сцягнуў і адкапаў гэты грошы і забраў. А другі – ягнёнак усё вылітаў, ягнёнак вылітаіць і вылітаіць з-пад печы. Дык ён пашоў прымерна да

чараўніка пытацца: “Што рабіць? А той яму сказаў: “Як выбяжыць гэты ягнёнак, ты добра дай па ім палкай”. А ён золата закляў – эты старык. І рассыпаўся эты ягнёнак і забраў этыя грошы.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 351. Скарбы ля Святога азяра

А яшчэ і здавалася людзям. “Перакоп” быў у нас, называўся. З святога возера цякла канава, быў мост. Вот тут зданькі людзям здаваліся. Хадзіў. Выдзець нейкі чалавек, дык людзі баяліся хадзіць. Перахрэсцюцца, памолюцца, а гэта, гаворать, выхадзіла золата. Заклятыя былі грошы, там золата. Вот тады ён, той чалавек, выхадзіў. Вот еслі б па ім даў, яно б рассыпалася, стала кучай золата, ці серабра.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 352. Знахар, чорт і свёкрава золата

Вот мой мужык з-за Маладзечына, расказваў. Даўней жа золата было, манеты былі пры Польшы. Тады дзед насіў, свёкар. Была тая нявестка і малец быў у яе. І стары насіў, насіў золата і ўзяў згубіў золата. Пайшоў каровам даваць ці трасянку трасці, і выкінуў тое золата. Карова з гэтай трасянкай і спёрла тое золата, і праглынула.

Напалі тады на нявестку. Нявестка плачыць, што не брала. І гэтак прычапіліся. І яна падумала, што пайду, можа, задаўлюся на пасце. Стары тагда запрог каня ехаць да знахара, а яе малы пацан зімой узяў там, што было надзета, і ўскочыў ціхенька ў вазок. Вазкі тады былі свае, коні, і паехаў к гэтаму знахару. Хто знаець, можа к чараўніку. Але не казалі дзе тут “калдун” і “чараўнік”, а казалі “знахар”. Хто так скажыць, так гэта слова вежлівае.

Прыехалі, паставілі каня. Малы гэты зразу паляцеў на печ. А дзед пайшоў у хату к таму знахару. “Так і так, – кажыць, – у мяне прапала золата. Я прыехаў, каб расказалі дзе яно. То скажыцце, дзе яно ёсць, хто ўкраў, хто ўзяў, дзе яно”. Тады знахар кажа: “Ну ладна, сядзі тут, а я пайду узнаю. Выйшаў, падышоў к падпечыку, а малы сядзеў на печы, но ён не палядзеў нічога і вызваў чарта. А чорт вылез з-пад печча, як баранька, такі малы. І знахар пытаецца, дзе золата. А чорт кажыць: “Золата карова з’ела, у рабой трасцянцы з’ела золата. Але не кажы, што ў каровы, а кажы, што нявестка, бо гэта наша душа. Нявестка хочыць павесіцца, ужо, – кажыць, – вяроўкі прыстроіла, палажыла там недзе на скрыні. Але не кажы, што ка-

рова, кажы, што нявестка”. А малы чуіць. Едзіць гэты дзед дамоў, а малец кажыць, яе сын: “Дзедушка”. – “Што?” – “Ты знаеш дзе золато?” – “Маці ўзяла.” – “Ні мама ўзяла. Я відзіў, як баран казаў, што ў каровы рабой золата, а мама хочыць павесіцца, ужо вяроўкі ёсць”. Дык дзед па каню, ляцеў быстра дамоў. І вяроўкі перасек, і сказаў, і тое золата нашлі.

Калі абышто будзешь думаць, дык чорт будзець цябе маніць.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 353. Гаўрылаў скарб

Быў у Маляўкі Гаўрылы бальшы сад. Многа сартоў яблыкаў было, яблыкі Гаўрыла прадаваў. Быў ён дужа хазяйскі мужык. Казалі, што ў яго далжно быць многа дзеняг. Гэтыя дзеньгі ён закапаў у сваім саду ў гаршку.

**Зап. Тухта В. у 2004 г. ад Маляўкі Паўла Піліпавіча, 1928 г.н. у в. Лазовікі Лепельскага р-на.**

## 354. Закляты скарб

У нас у дзярэўні было. У нас так гэтак “Чулпан” – ручаёк выкапаны, і там загрукатала зямля. Раз прыехала ў отпуск, бягуць людзі, бягуць, кудата, гаворуць: “Сундук вылез, сундук вылез, загрукатала зямля і вылез сундук!” Но я не дабегла. І чэраз нескалька секунд растала зямля. І палезлі, капалі, капалі, нічога не нашлі. Сундук вылез, но гэта нада было знаць, што сказаць. Схавана было, што-то схавана заклінанае. Вот можа як раз какое-та заклінаньне давалі. Хто найдзець. І ніхто не найшоў. Капалі мужыкі, капалі, как праваліўся сундук, сундук бальшой быў, і нічога не нашлі.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 355. Карчомішча

Ешчо было, што ў нас там уздоўж ракі пачынаецца ўрочышча Карчомішча. А яно што даўней, кажуць, што там была карчма, панімаеце? Ну і тожа, карчма бываець, дык гэта ўжо хазяін хто там быў, Бог яго ведаець, можа тысячы гадоў таму назад. Уродзе закапаў, дык мой бацька там шукаў, кажа, плугам конь пахаіць і там нешта заскрабець, як жалеза якое. А на тым баку няма ні камня, ні гліны – нічога, гэткая зямля.

Ну я хадзіў у школу, а перад Янам, ну во Яна ж, Купала нядаўна было. Гэты там сусед, які быў п’яніца, і вот ужо нейкая здань, во тут, у гэтым Карчомішчы, вродзе захаваны дзенежкі. Ну і на Яна, перад Янам гэта ж усё, а мне ў школу хадзіць было. Пазваў нейкага з Дзедзіна, хто там ўжо ўмеў маліцца, каб гэта ўсё ўжо і не капалі. Я ж заўтра пайшоў, гэткая даро-

га ўся раскапаная. Але ж свежая зямля дый пясок… Дык я баяўся хадзіць, можа што закапана тут такое, панімаеце? Дык вот казалі, яму ўжо там прэдсказывалі дзеньгі, а дзе ён нашоў іх, ці не – эта ўжо невядома. Дык толька што накапана было ноччы…

Прыязджаў яшчэ нейкі з Докшыц, хадзіў жа са скацелем (металашукальнікам), пытаўся, дзе Карчомішча. Гэта летась прыезжаў во, ўжо і паказваюць. Ну, і паказваюць, ужо як занімаешся гэтым, дык можа і найдзеш, можа золата якое.

Там поле і ўсё, толькі мой бацька, як араў, дык там у зямлі, ну што-та там, як якое… Можа падмурак. Можа, як гэта карчма была, дык там нейкі кацёл можа закапаны, чорт яго ведаець. Дык я яму казаў: “Ты, – кажу, – няхай бы паглядзеў”. “А некалі, – кажаць, – я араў, – гаворыць, – і ўсё”. Ну а гэта як тут дарога была, дык туі гэта на Яна было, і я ў школу баяўся хадзіць.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіча Міхаіла Іванавіча, 1925 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 356. Партызанскае золата

Гаварылі людзі, што ў вайну ў лесе за Востравам закапалі парцізаны ці банкі, ці збанок золата. Робілі яны гэта, калі немцы дзелалі на іх блакаду. Закапывалі парцізаны не толькі золата, але і другое дабро – адзежду, пасуду. После вайны гуляла я вясельле ў Ушацкім раёне. Адзін мужчына, калі ўзнаў, што я с Вострава, то сказаў, што закапваў золата за Востравам у вайну. А каб цяпер яго найці, то яму і яго сынам золата тога на доўга хваціла. После вайны прыязджаў нейкі чалавек у Вострава. Наверна іскаў места, дзе золата закапаў. Але ён не найшоў тога места, бо после вайны лес павыразалі і меснасць ужэ памінялась.

**Зап. удзельнікі гуртка “Нашчадкі” Велеўшчынскай школы у 2003 г. ад Садоўскай Наталлі Агееўны, 1929 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

## 357. Золата немцаў

Када вайна кончылася, во гэтыя дрэўцы ёсць, такія дзічкі ў лясу бываюць, недалёка за Агурцом тут. Гэта туды, дзе цэрква, на той вуліцы. І мы капалі, я гавару: “Ой, што-та блішчыць!” Дужа ярка і мы падходзім, а там галовы нямецкія, ну ў іх жа зубы былі ўсякія. Ну ў бацькі лапатачка была, ён яму разрыў, гэтыя галовы закапаў, а тады думаў: “Ай, дачушка, там жа золата!” Блішчэла так, што нам ісці неяк было, у глаза даваліся. Сколькі мы хадзілі і больша не знайшлі гэтага. Дзе гэта палучылася, дзе

мы зарылі іх? І мы не найшлі іх. Даў Бог, што не нада, не нада браць у чалавека нічога, і гэта мы не найшлі. Гэта было.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Гаспадарак Тацяны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Гурэц Чашніцкага р-на.**

## 358. Свёкрава золата

Ну, па-настаяшчэму, гэта яшчэ як мы жылі во там у гэнай, тады пераехалі сюды, во тут пасёлак, перагналі нас. А тут во была ферма. Тут во, дзе маяк. Ну і сабраўшыся людзі, ну і ўсё казалі, што ў майго свёкра, у Кавалёнка ў старога, кажуць, золата ёсць, і яно свеціцца. Ну і во тут во бабка, саседка, Броня такая, яна ўжо відзела, што аганёк гарыць, туды дзе мы жылі, на старай усадзьбе. Пашла расказала мужыкам. Пашлі глядзець. “Зданкі, – кажуць, – выдаюцца. Пэўна, кавалёнкава золата сьвеціцца. От!”

А гэта дзялоў нет, што мох быў нізкі, а тады стаў падымацца, лес тут небальшы быў туды, на тое напраўленіе. Ну і сабраліся мужыкі, ну гэтак смеяліся, пойдуць глядзець. Пашлі. А нам ніхто нічога не казаў. Тады падышлі яны, а там кот сядзіць на ганечке, і тады вочы сьвецюць, а зданкі выдацца ім гэткія. А тады после яшчо агледзілі, што гэта: “А-а-а! На ў гарод свет быў праведжаны і свет, – кажуць, – можа эта свет блішчэў праз кусты”. Яны самі добра не зналі. Но вот хахаталі после, а тады ўжо нам сказалі, што ага, кажуць: “Хадзілі глядзець золата”. Кажу: “Чаго ж вы нам не сказалі?” Но яго там не было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

# СНЫ

## 359. Тры сны пра сына

Бывалі сны, што і очань праўдзілі. У мяне і сны такія. Кожны сон свой знаю, для чаго ён сніцца. І адзін сон можа сніцца некалькі раз. Вот, быў сон на сына, што пагіб. Сьнілася, што мы зь ім ішлі лесам і такая дарожка узенькая. Шлі, шлі, а тады глядзіш, ён павярнуўся направа і такой сцежачкай пайшоў. А я стаяла – глядзела. Яго было відна-відна, а потым, усё – у лесе прапаў.

Другі сон сьніўся, што мы зь ім ехалі ў аутобусе. Гэты аўтобус спорціўся. Мне прышлося вылезьці зь ім. Чуць вылезлі. Ушлі мы зь ім. І тут такой карыдорчык, такая комнатка маленькая, у канцы столічак, тут кравать стаіць, перасцеленая горшым адзеялам з краснымі цветамі. І на адной старане сядзіць старушка, пакрыўшая такім жа самым адзеялам, а на другую кравать ён сеў. А я пасрадзі стала і нічога не магу сказаць. А яна гаварыць: “Я – Насьця”. А Насця – гэта ягоная бабушка. А я кажу: “Я знаю”. І я вышла паціхоньку, мінула яго з гэтай бабай Насцяй. А яна ж ужо памершы была.

А трэці раз сніцца сон, што была ў Полацку, дзе бальніца, яна называлася “красная”. І я ў гэтай бальніцы была, ішла і столькі блудзіла, не знала, куды мне ісці. Пераходзіла па рэчке, а на рэчцы была кладачка, і я прайшла праз гэту ваду. І прыйшла ў нейкую дзярэўню. А дзеравенька – такія маленькія домікі. І так заблудзіла, і не знала, што мне дзелаць. І ад страху я праснулася. І кагда ён памёр, я прыйшла на кладбішча, іскаць яму месца, дзе капаць яму магілу. І ўспомніла пра той сон, дзе домікі маленькія былі і аградачкі.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

## 360. Сны і ява

Сабака сніцца к якому-небудзь другу. Вялікі чорны сабака, гэта які-небудзь мужык, калі ён не укусіў, будзеш жыць харашо. Калі ўкусіць, то апасайся. Калі пытаецца укусіць – гэта к дрэннаму чалавеку.

Свадзьбы сняцца так. Вот я помню адзін раз мне прыснілася. Была кампанія такая, не очэнь, не важна, відзела маладуху, адзеўшысь плоха, скучная, дрэнная. Но вот есьлі такая маладая пара харошая і свадзьба ідзець харашо. То проста дзе-та кампанія, вясёлая будзець. А есьлі сама адзяесься ў адзежу свадзёбную, то болезнь. Хай ніколі не сніцца і не прыснілася. Адзін раз, і толькі добра я не звалілася я такой адзежы ха-

рошай, свадзебнай, іду пад горку, а там арэхавыя кусты, такія разнявыя, як бярэзіны, і я іду непрама, як вот кручуся і яма, точна каля яе астанавілася, як толькі ў гэту яму не ўляцела. Што-небудзь і случылася, я астанавілася і ў гэтую ветку ўцапілася і тут жа праснулася. І плоха не была, а так вельмі плоха была бы. Свадзебную адзежу надзяваць – гэта к чаму-небудзь дрэннаму. Цыгане калі сняцца – гэта дрэнна, к абману, што хочаш.

Калі дзеці малыя, ну, калі яны гуляюць, то гэта будзе радасць якая-небудзь. А калі ў руках чужога трымаеш, калі мальчык, то плоха. Калі дзевачка – дзіва. Калі мальчык маленькі, то к балезні. Дзевачка – гэта к новасці.

А ваенныя людзі, то гэта будзець якая-небудзь неўвязіца. Відзела восеньню Васю, які яшчэ жыў і работаў, відзела восеньню, калі ён прыехаў адзін, два міліцыянеры. Вася выехаў туды, дзе цяпер запраўка, тут жа было ГАІ. Стаяла машына. З Полацка была. Калі ён ехаў, тармазіў, нешта стукнула. Яны прыехалі і 60 рублей нада было яму аддаваць. А вот тожа за два дні снілась.

Рыба мне снілася многа. Бываець, хто памрэ або на пагоду. Рыба – несур’ёзнае, бывае і спраўдзіцца. Вот прыснілася, налавіла я бальшую рыбу, ідзець сусед. Карову вядзець, а я авец. На утра тэлефоны не работаюць, яго жонка пад вакном, ая-яй. Я думала ей дрэнна, у яе даўленьне часта. Адкрываю дзверы: “Цёця Маня, тэлефон не работаець, скораю не вызаву”. – “Верачка, які тут тэлефон, Апанас жа памёр, ён плюх жа ўвечары, яшчэ ў супа наліла. Гэтую міску супу з’еў...” Яна на Апанаса: “Пара кароў на поле выганяць”. Яна цап за галаву, а ён мёртвы. Я перад гэтым відзела бальшую рыбу.

А калі сабака выець і ўверх глядзіць – то гэта к пажару. А калі ў зямлю глядзіць – памрэць нехта. А калі глядзіць на каго, то з ім нешта зробіцца: ці заб’юць, ці сам сябе заб’е. Калі ліс сніцца – тожа к пажару. Ваўкі сняцца – гэта к сватам, і калі ваўчаняты – гэта сваты. Ваўкі к дрэннаму ніколі не сняцца.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Протас М. у 2007 г. ад Чачэтка Веры Грыгор’еўны, 1932 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

### 361. Мамін сон

Як эта мама расказвала тожа. Яна служыла... І вот этат самы, ейны папка памёр, ей была дзевяць гадоў. І сколькі ў іх дзяцей ні ражалась, усе ўміралі. У мамы. Асталась ана адна. Тады мама ейная вышла замуж (у яго было чатвёра дзяцей). І было два сыны і дзве дачкі. Ну і маме разам з гэтым сынам есьці даваў у карыце: сабакам наліець – і мама ідзі еш туды

(ужо бабушка мая). Мама гаворыць: "Я глядзела, глядзела, думаю, на што эта мне такое? – вот і пашла служыць". А тады гектар зямлі аны імелі, – мама імела, шчытай. Ну, са сваімі радзіцелямі. Пашла служыць.

Вот, і тады гаворыць: "У Альбрэхтаве там выганяем у поле, а мне сасніўся сон такі, што вот эта луна, ілі там маладзік вот. Радзілася сем.., чатыры.., не, тры маладзікі і чатыры поўнаты, во! І, во – гаворáць, – і пакаціліся ўсе. Тады, а я, – гаворыць, – стаю гляджу: первы маладзік каціўся, каціўся і закаціўся. Другая поўната за ім кацілася, кацілася і закацілася. Трэццяя поўната кацілася, кацілася, пакруцілася, пакруцілася і назад к гэтым вярнулася".

"Тады я, – гаворáць, – шчэ маладая была – дзяўчонка семнаццаць гадоў, прыхаджу, там старушка адна жыла, і ў ёй соннік быў. Эт ана, ну, разгадвала сны. Ну, ана разгадывала сны. Тады, – гаворáць, – я прыходжу к ей. А я ўсегда вазьму кароўку ейную падганю ў поле, як ганю ўжо гэтых, сваіх кароў, ейную падганю. Прыхаджу: "Вот вы мне разгадайце мой сон. Вот такі сон я відзела". – "Дзетка ты мая, гаворыць, – табе эта яшчэ рана знаць. Табе яшчэ рана гэта знаць. І не нада табе эта знаць". О, і не разгадала… "Куды ноч, – гавора, – туды і сон". І не разгадала маме сон. А вот калі, як памёрлі – первы мальчык, а тады другая дзевачка памёрла, і трэцяя во ляжала накануне. Дык тады мама ўспомніла гэны сон, што во да чаго гэты сон быў.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Вярыгі Ефрасінні Аляксандраўны, 1927 г.н. у в. Лукаўцы Полацкага р-на.**

## 362. Благое прадвесце

Вот как раз мне была шэсцьдзесят пяць лет, дзень раждзенія. І назаўтра ўжо утрам, нада была ўставаць, госьці былі, і ўсё. І таксама віжу какой-та сон: не пайму ні то куда-та зашла, то лі паліклініка, не то не паліклініка, і как-та зуб, не то ў мяне зуб вырвалі, но не крові, нічога не была. І в этат дзень у меня сын помер, здзесь на возеры. Вот гаварат, еслі зуб вырываеш і кроў, значыт кроўны хто-та, ну тут крыві вродзе не была, нічога, помню как бы мгнавенна, гэта пад самае утра. А случылась гэта дзе-та ў часы тры дня. Тут госці толькі мае пашлі, я малога вот гэтага стала лажыць спаць і тут Аксана бяжыць і крычыць: "Цёця Рая, нешта там на пясках крычаць, ці там людзі б'юцца, ці топяцца". Ну пабеглі, сын дваццаць адзін год утапіўся, вот сон. Вот не знаю как можна судзіць, не знаю.

**Зап. эксп. ПДУ у 2006 г. ад Сапегі Еўдакіі Васільеўны, 1927 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

## 363. Залатая аброць

Сьніла. Іду я дамоў, ляжыць залатая аброць. Я яе ўзяла і паклала на плячо. Прынесла я дамоў, прылятаюць бандзіты із-за гэту аброць забіць мяне. Я з ёй уцікаю. І куды ўцікаю? На дрэва! А яны ўручную валюць дрэва. Я ўскакаваю на другое дрэва. І вывалілі яны ўвесь гэты лес. Гэта мне снілась. А я ўсяроўна з гэтай абрыцёй уцякаю. І ўжо апошняя сасна стаіць на краі, і я ім кідаю гэту аброць. Кінула на іх гэтую аброць. Асталася адна на гэтай сасне.

Расказывала, былі старыя людзі, усяк мне казалі. А цяпер я яго разгадала, гэты сон. Усе папаміралі, усе. Асталася я адна, як палка. За 20 – 30 гадоў да гэтага прыснілася мне. Сон можыць спраўдзіць. Ён можа спраўдзіць сразу і пазней.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Шуневіч Соф'і Мікалаеўны, 1923 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 364. Мама вядзе на той свет

Я відзела сон. Мая мама ўжо памёрша была. А віджу сон, што я прышла на кладбішча. А віджу сон, што я прышла на кладбішча, і вышла мая мама, так як сцежка к нашым магілкам. І бярозка там стаіць. Выходзіць мая мама, дзе бярозка, і гаворaць: "Анюта, хадзі са мной, – гаворыць, – Анюта, хадзі са мной". А я: "Не, мама, я тады ня выйду". – "Я цябе выведу".

Я даўно эты сон відзела і не забудуся яго. І вядзець мяне за руку, так, узялася за руку, і вядзець. Папераду ідзець, і мяне [вядзець]. Прыводзіць: "Хадзі, паглядзі, якая ў мяне комнатка". Гляджу я, там свечка гарыць, столічак маленькі, комнатка маленькая, гарыць свечачка на стале, і стаіць торт. І яна гаворaць: "Папі во чайку з тартом". – "Мама, я не хачу, выведзі ты мяне". – "Ня бойся, ня бойся, я цябе выведу. Папі чайку". – "А я не хачу, не хачу".

Яна мяне апяць за руку і к той бярозке і вывела. Гляджу, відна, сонца, а яна мяне вяла ўпацёмку туды. Во.

**Зап. Валодзінай Т. у 2008 г. ад Брадзінскай Ганны Кузьмінічны, 1925 г.н. у в. Вяжышча Бешанковіцкага р-на.**

## 365. Пра памёрлых

Я вот сваё крышку раскажу. Калі памёр бацька, прыехалі туды дадому і маму на другі дзень завязлі ў бальніцу. А я засталася, як старэйшая, нада ж было па хазяйству паглядзець. Вот як прыходзіць толькі ноч, бацька заўсёды снімаў з сябе адзежу і вешаў, а мы на печы заўсёды напроціў

ляжалі. І вось бацькі ўжо не стала гадоў з 15, як я не была дома. І вот пасля пахарон, як сьвет выключаецца, мне кажацца, што бацька ідзе раздзявацца. І вот слышу гэта праз дзверы і кажацца, што зданкі.

Што гэта такое? Залежыць ад чалавека, што ў яго такое васпрыяцьце, а мне кажыцца і, калі я не схаджу на яго магілку, і мяне кожны дзень што-та мучыла. Я кажды дзень, цэлы месяц туды хадзіла і напэўна, я цяпер пра сябе думаю. Далёка мой бацька памёр, маму мы забралі і там нікога не засталося. І мы доўга там не былі, пэўна я адхадзіла месяц увесь і як быццам бы я знала, што да яго не даеду, далёка. І вот, калі іду на кладбішча, сабака бяжыць наперадзе і сядзець на магілку каля бацькавага крэста. Я пабыла з ім буквальна мінут 10 – 15 і такое ўспакаеньне адчуваю. І вот, верыце, калі сасню бацьку ў добрай адзежы, мне благавата і тады не здароўе. Яго сню вельмі рэдка, а калі ў абадранай адзежы, я знаю – мне будзе добра.

А вот я калі маму сасніла, і я сразу начанаю плакаць таму, што будзець што-та плахое, то знаю што яна што-та прадсказваець. Яна прадсказваець мне всегда очэнь рэдка сніцца. Ну вот на што-то такое бальшое, на непрыятнасьць. Паследні раз мне прыснілася, каб толькі нічога страшнага не случылася. Сніцца, што яна прыйшла ка мне і ў вакно пастукала і я гляджу і віжу, што мама. І я ўвідзела і крычу: "Мая мамачка". І я сразу праснулася і большэ не заснула да утра.

Звоніць Мая і я так плачу. Чаго ты плачаш? Але я не хацела ёй гаварыць, але расплакалася. Я рада была яе пачуць, але не хацела гаварыць. І гавару: "Мне мама прыснілася – будзець што-та плоха", а яна мне гаворыць: "Што ты зараньне плачаш?" А яна відзела, ўжо калі яна прыйшла, яна прынясла чарніц, цэлы кошык. І Віка сядзіць і я ўзяла гэты кошык і гавару: "Мая, ты глядзі Віку тую, не адпраўляй яе адну ў школу". У Пеці ў Расіі правы забралі і аўтобус, а ў іх такая паломка на многа дзенег, а я ўжо рада, што гэта ўсё ерунда. Толькі б не страшнейшая.

А калі мама прыснілася, то папа памёр. Тры дні я ўжо чуствовала, што папа памрэць. Хоць у яго быў інсульт, калі ён забалеў, я яго яшчэ вадзіла. Вот праз тры дні папа памёр. А ў гэта ўрэмя як у мяне стары піў і гаворыць, калі я раней памру, то да цябе прыду. І баялася так не знала што рабіць. І свет гарэў у хаце і цэлую ноч не заснула. І рана печку затапіла і ляжу, чую палка з трэсцена ўскочыла і мне паказалася, што спічкі і дровы выкаціліся з трысцена. І вот выхаджу я, а печка закрытая, у трысцене чысценька і дровы ляжаць. Палка чыстая і настаяшчая. Сабрала дровы з печы і сюды паклала, а нічому ня веру. Слухайце дальшэ. І я так спужалася, узяла

гэту палку і ляту ў хату. Прыляцела на кухню, а там як загрымела. Я падумала ці воздух паляцеў, ці самалёт.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 366. Пахаванне мужавага сябра

Як памёр мой Лёнька, ну мужык первы, і віжу я сон такі. Ну, пахаранілі, эта прайшло, наверна, ну можа месяц, і памёр друг ягоны. Яны дружылі, у Полацку яны жылі. Вот. Ну, я ж не знала, што яго і тожа тут харанілі, у Капусціне, на этым кладбішчэ. Я ж не знала, што гэта друг, друга харонюць ягонага, я б схадзіла б тожа б на кладбішча. Ну не схадзіла. Ну і тады віжу сон: ён во так во ўзяў маю галаву, во так сагнуў, во так во, і нож, і ў спіну будзець мне нажом. Гавару: “А за што?” Гавару: “Што я так перад табой правінілася?” Ён гаворыць: “А чаго ты не прышла ўчора? Шурку харанілі, другана”. Ну, эта друга ягонага. “Чаго ты не прышла?” Я гавару: “Я ж не знала. Есьлі б я знала, я ж бы б абезацельна прышла”. А ён тады так адпусьціў мяне, гаворыць: “А я думаў, што ты так не прышла”. Так. І тады ўзяў гэтыя ўсе… Карман адзін адкрыў – нож выкідываець, другі карман - нож выкідываець, адсюда (ззапазушша) нож выкідываець. “А я, – гаворыць, глянь, што для цябе прыгатовіў”. Панімаеш? Вот. І после тога я хадзіла, тады вот як пачую, што там похараны, так хадзіла на кладбішча. Вот. Эта точна вот са мной была.

**Зап. Бабіч А. у 2009 г. ад Крыцкай Тамары Пракоф’еўны, 1940 г.н. (нар. у в. Уласава Каменскага с/с Лепельскага р-на) у в. Цянюгі Вяркудскага с/с Ушацкага р-на.**

## 367. На тым свеце

Я сама відзела той свет. Я была на Украіне. Сплю і віджу такую гару. Высокую-высокую. І дым такі высокі з яе. І загароджана ўся кругом. А мне ж хочацца ўзнаць, што там. Эта чыстая праўда – было. А мне хочацца ўзгнаць. Эта ўва сне. Думаю – палезу. Дралася я, дралася на эту гару, дралася, дралася, а тут вароты. І за вараціну так узілася і гляджу. А падходзіць мужчына і кажаць: “А што табе, баба, тут нада?” А я: “А што тут?” А ён: “Эта той свет”. А я кажу: “Як эта, той свет?! Той свет!” А там стаіць бальшы кацёл. Ну такі кацёл бальшушчы, што я такога ў жызні ня відзіла. І булькаіць. А падняў [накрыўку] – смала тамака. А смала чорная-чорная! А ён яе пабоўтаваіць так. І кажаць: “Ухадзі быстрэй! Ухадзі быстрэй!” І я як села на жопі з гэтай гарушкі – так шух! Раз і праснулася і думаю: “О, якоя кіно! Із кіна кіно!”

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Скубановіч Веры Міхайлаўны, 1941 г.н. у в. Іванск Чашніцкага р-на.**

## 368. Пра той свет

У нас была цёця хворая. Яна сасьніла, што пашла на той свет, яе выправілі да врачоў на той свет. Яна знала, што ідзець на той свет. Ручаёк бяжыць вады, яна ішла, ішла гэтым ручайком і зайшла на той свет. А там быў такі дзядзька Сымон памёршы. Ён кажаць: "Марылька, а чаго ты сюды прышла?" А яна кажаць: "Дзядзечка, я ж прышла да дактароў, мяне выправілі". Ну дык ён яе павёў. Вот у адной каморцы, яна адчыніла, а там рабяткі, у беленькім і гэдак молюцца, малыя дзеткі. Другую каморку адчынілі – старыя молюцца. Трэццюю адчыніла каморку – казала – жывоя мяса хадуром хадурыць. Эта гаворуць усё, што аборты робюць. Пака матка жывець, дык яны там гэдак хадурацць, а як памрэць, тады яно абрашчаецца ў дзяцёнка. А тады адчынілі, а там на ланцугах папрывязаныя, вісельнікі. Вот зайшла яна да гэтага доктара і даў ён ей лікарства і сказаў, якоя і ўсё. А як прачнулася і ня помніла. Дык яна відзіла сама.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 369. Тлумачэнні сноў

Сны, ну яны праўдзяцца. – *Калі папа прысніць ці царкву?* – А гэта блага. Я вот сасніла, што ўсё згубіла. Вот як сніш, што находзіш добрае і новае, тады і добра. Ідзеш ці па дарозе ці па вадзе па чыстай – добра. Я снам веру. Усё што мне ў дзецтве снілася, яно мне споўнілася. – *А што, калі воўк сніцца?* – Ну воўк гэта проста ілі чалавек прыбудзець, які госць. Сабаку добра сніць, ён друг. Мяса – к хваробе, а рыба, казалі, як дзяўчына сасніць, дык забярэменееець. А грошы, капейкі – плоха. Карову сніць – добра, прыбыль, а цялёнка – ужо хужы. – *А калі абразы прысніць?* – Ай, кажуць, блага. – *А будаваць хату – гэта к чаму?* – Ай, гэта к смерці. Саседка перад смерцю сасніла і памерла. – *А калі кветкі сніць?* – А цвяты, сматра якія. Жоўтыя цвяты – да смерці. – *А кроў сніць?* – Гэта хто-та кроўны прыб'ецца. – *А малако?* – Малако добра, прыбыль, ці карову даіць.

– *А змеі калі сняцца?* – Ну гэта блага, благая жанчына. А еслі ўкусіць у сне за руку, можыць і рука забалець. – *А калі дождж, снег, сонца?* – Сонца сніць добра, але як яно заходзіць, то гэта мама памрэць. А месяц добра. А куры – плоха, еслі многа курэй разграбаюцца і ядуць што-та – к непрыятнасцям бальшым, і вароны, і ўся гэта машкара ўсякая – врэдна.

– *А калі нябожчыка бачыш, ну ўжо памершага?* – Нябожчыка – гэта к плахой пагодзе. А еслі нябожчык даець што-небудзь… Саснілася мне, што я памалілася Богу на кладбішчы, і ён [муж] мне другую ноч прысніўся, і даў жменю мне грошай, і болей ён мне не сасніўся, і нічога плахога не

было. А еслі пакойнік цалуець цябе, абнімаець – так гэта к хваробе. Мне прыснілася, што мой мужык, ўжо памёршы, падышоў да міне і пальцам у міне – порк. І утрам устала, і карова мне рэбры паламала.

– *А як жыда сасніш ці цыганоў?* – Цыгана – гэта абмануць, ня дужа важна. Калі ката сасніш – гэта злодзіі. – *А што яшчэ можна сасніць на замужыства?* – Мая дачка на замужыства сасніла. Казала, што саснілася ёй, як адзін малец адрэзаў кусок хлеба і даў. І ка мне прыехалі сваты.

І пра гразу… Я гразы на стока баюся, а як на пасце бура – дужа страшна. Вот, калі бура, нада ў канаву дзе легчы, у нізінку якую. Пад бальшымі дрэвамі не садзіцца. А мне расказвалі, што прыехала дзяўчына да бацькоў, ей прыснілася, што бронзавы чалавечак дастаў ейнае серца. Ну і пашла яна ў ягады. І тады стала граза і яна, і сабачка, і гэта яшчэ жанчына была, і яе забіла, а валасы дык аж на сасну ўспёрла.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Бурэц Люцыі Адольфаўны, 1937 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

## 370. Вялікі брыль

Як памрэць чалавек, да сарака дней душа яго ходзіць. У хаце і па вуліцы. І гаварылі, адзін памёр і надзелі яму брыль, шапку ён не насіў, а брыль. І дзе ён заваліўся, што як памёр, надзелі яму ня той брыль. А бальшы. Ён сьніўся, ходзіць, прышоў дамоў і ходзіць, глядзіць па хаце. “А што ты ішчаш?” “Дык брыль, а то надзелі мне нейкі, што ён едзець на вочы, бальшы дужа надзелі. А дзе мой брыль быў?”

А яшчэ гарэлку гэту, што на Дзяды астаўлялі, а яна назаўтра ўстала і выпіла. Дык сасніўся сон: “Чаго ты маю водку выпіла?”

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Надзеі Рыгораўны, 1924 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

## 371. Мокрая рубашка

Раз віджу я ў восні, што прыходзіць мой мужык-нябожчык. Так яўна віджу. Прышоў і гаворыць: “Дай перадзецца, у мяне мокрая рубашка”. Я к шкафу скарэй, устала, ішчу рубашку. А мама ка мне: “Чаго ты ўстала? Што ты робіш?” Я ей расказала. А яна: “Нікога німа”. Усё абгледзілі. Нідзе нічога. Людзі патом сказалі: “Не нада так плакаць. Ты ўсё плачаш і плачаш, вот у яго на тым свеці і рубашка мокрая”.

**Зап. Валодзіна Т. у 1998 г. ад Дзятлоўскай Г. М. у в. Бачэйкава Бешанковіцкага р-на.**

## 372. Памерлыя клічуць на той свет

Майму сыну сасніўся сон. Кажа: “Віджу ў ва сне, іду, кала масцярской, і сідзяць Парткевіч, памёр, Літвінаў, памёр, і Шыбека, памёр. І яны

гаворуць: “Шурка, хадзі ты к нам. У нас тут харашо. Толькі ня любім, што намі бабы камандуюць”. А Шурка махнуў рукой: “Не пайду я к вам, мне і тут харашо. І пашоў. І вот ён расказываець Васілеўне, што відзеў вашага сына і зваў мяне туды, а я не пашоў. “Ай, Шурачка, ай, Сашачка, маладзец, што не пашоў”, – і пацалавала яго.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

## 373. Рай і пекла

У нас быў шурын, очань харошы чалавек, добрай душы. Аднажды ўстаў і кажаць: “Што я сёння за сон сніў інцерэсны. Што я быў на тым свеце. Там так красіва, так красіва! Сады цвітуць, а зямля такая, як цэмент, алі розавая чуць-чуць. І людзі, гавораць, ходзюць, ходзюць, у руках нічога ў іх нет. А ходзюць у том, у чом пахароненыя. Красіва адзетыя. Во так прыснілася яму. Можа, што ён быў богуўгодны чалавек, што дужа харошы быў. Нікаво не абіжаў, усім памагаў.

І пра пекла вам раскажу. Хто накладаваець на сябе рукі. Ці вешаецца ці што, но толька сам сабе. І гэта я ад мамы знаю, што эта бальшы грэх і чалавек пападаець у пекла, к дзьявалу. Мне прышлося разгаваравацьз жэншчынай, тут, блізка, у Бярозках, яе сын павесіўся. І ўжо наверна пасля таго як яго не стала, гады два прашло. Яна прыехала, я стала ёй памагаць. Разгаварыліся. “Я, – гаворать, – па ім так плакала, ён такі добры быў, а чаго ён так зробіў я не знаю. Дык я плачу і прашу-малю Бога: Сыночак, родненькі, сасніся мне, як ты там?” Што вот гаварацаь: усе, хто так дзелаюць, пападаюць у пекла. Гаворыць: “Сьню я – падходжу я да рэчкі, рэчка такая, падходжу да рэчкі. А там дзе я іду – суха, харашо, так як лагчынка, па этай старане. А па той старане – балота, і там прыгаюць, прыгаюць людзі, гаворыць, голыя, з хвастамі. Та жа, гаворыць, гэты мой і сынок. Вот не спрасіла я: ці тожа з хвастом ці які, толькі гаворыць, падышоў к рэчкі і кажаць... А я: “Сынок, мой сынок...” Ой, гавару, а ў мяне аж мароз па кожы. – Хадзі, сынок, ка мне. – Нікагда, – кажаць, – мама, я к табе не прыду. Я нікагда к табе не прыду. Я не змагу прысці. Я, гаворать, тут очань страдаю. Мяне і б’юць тут і ўсё. І к табе я нікагда не прыду”. Так і кончыўся сон.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Лях Вольгі Макараўны, 1927 г.н. у в. Вілейка Докшыцкага р-на.**

## 374. На тым свеце

Я вам раскажу, мама мая расказвала. Вот радзіла яна мальца. У нас было чэцвера, вось радзіла трэцяга мальчыка і ей начала плоха. Гэта точна

было, я не выдумала. Родавая гарачка ці што, ну яна была ў коме. Чуць не памёрла, у коме якой-та ляжала. Бабы прышлі, а той рабёнак плача, а тая два дні ў комі ляжала. І многа хто лячыў, нічога не памагала. А тут Аляксееўна, Макараўна, яны падругі: "Варачка, Варачка", – так маю маму Вара звалі, – Я цябе адлячу". "Я ўсё чую, – мама кажа, – але не магу прачнуцца. А тады, – кажа, – вродзе бы я на тым свеце, і так во іду, і кажу: "Я богава, я богава, я богава". Вот так вот столікі засланыя, беленькія, і я іду праз гэтыя столікі і кажу – "я богава, я богава". Гэта мама мая ў коме ляжала.

А гэта баба: "Варачка, я цябе адлячу". І вот казала, што, цяпер жа няма, дванаццаць проразак, выразалі з сарочкі дванаццаць пецеляк. Узяла яна, Марфа, накіпяціла, папіць дала і тая праснулася. З рубашкі. Раньшэ ж зробіш дзірачку, прарэжыш, ніткай абкідаеш. Самі рабілі. І яна гэтых 12 пецелек павыразала дзе-та, закіпяціла і дала папіць.

Вот па дарозе шла, і казала: "Я богава". На адзін бок столікі, і на другі столікі. Гэта яна ў коме ўсё відзіла. І кажа патом, што чула ўсё, і многа тут пасабіралася, усе бядуюць. "Я чую, алі не магу праснуцца". І што гэта было?

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

### 375. Пра той свет

Адна відзела ў сне, як была на тым свеце. На адной старане харошыя людзі, а на другой – як змеі. Тут у харошым, чыстым, у беленькім надзеты, вяжуць ці што. А што заслужылі плахоя, – гразныя, чорныя. Сказалі ей, нікаму не гаварыць, а то раскажаш і ўмрош. А яна ня выцерпела і расказала. І памёрла. Эта дзейсцвіцельна праўда.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

### 376. Сон пра той свет

Мне адна баба расказвала, пра сон. Дык яна казала, яе сястра спала, доўга спала, і была там, на тым свеце, усё абхадзіла, агледзела. Дзеўка была. Дзеўка вадзіла, такая красівая дзеўка была, усё паказала. Вот яна запраціла ёй хадзіць, еслі поле засеяна, то нельзя праз яго хадзіць. Гэта грэх.

Павяла яе, вадзіла бальшое, як дом які, на абедзьве стараны дзверы. Каля аднэй дзверы стаяць жэншчыны, усе стаяць, стаяць, стаяць у радочак. І яна гавора: "Гэта жэншчыны стаяць, што дзеці нехрышчоныя памёрлі, нехрышчоныя дзеці памёрлі, дык гэта іх мацеры ўжо ахраняюць". А там яшчэ дзверы былі. І там нешта у вадзе плёхаецца, у вадзе боўтаецца там. А

гэта гавора, тут каторыя аборт дзелаюць. Гэта комната цёмная, такое гэта. А тады дзверы адкрыла, а там дзеці красівыя гуляюць, убраныя. Гэта дзеці, якія паўміралі. Усё гэта дзеўка тая ёй паказала. А тады павяла яе к маці, якая памёрла, і гавора: "Калі не заплачаш, – яна папрасіла ў ва сне, – пакажу. А калі заплачаш – не". Дык яна кажа, што не заплачу, але заплакала. І плача цяпер, слёзы льюцца. Тады яна на дзесяты, ці адзінаццаты дзень праснулася тая баба. І кажа, што як села на каня, на каня села, і тады ехала, ехала, і конь у рацэ тоне, тоне, і я з ім. І тады рукамі ўзмахнула, як змахнула рукамі – тады і праснулася". А цяпер пасля таго вочы слязяцца.

Яна расплакалася, што маці ўвідзела, бо яна там у смале кіпела, у чэм-та кіпела, і ёй дужа жалка стала – яна і заплакала. А яна ей сказала, каб тая не плакала. Там дом, дом вялікі, і на адну сторану дзверы, і на другую...

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 377. Госця з таго свету

Ведаеце, я сон сніла, я вам раскажу. Я такія сны, ўсё роўна як інфармацыю з космаса мой мозг спісваіць. Працавала настаўніцай я ў Таргунох. І там была настаўніца Галіна Францаўна. І я гэтак завуся, і яна. І мы з ей падружыліся, я вела клас і полгрупы. А яна біялогію, і поўгрупы тожа етай брала. Мы с ёй так падружыліся, і яна памёрла. Маладая памёрла, кінула сваіх невялікіх дзяцей-школьнікаў, муж астаўся і дзеці.

І вдруг я сню сон, што мы на агародах. Настаўнікі, полем там. І гляджу – Галіна Францаўна. Серанькі платочак, і тожа поліць. І я ведаю, што яна памёршы. Падхаджу, кажу: "Галіна Францаўна?", ана паднімаець галаву – русавенькая стала, платочак лёг на плечыка, і я: "Ну як там табе? – пытаюся. – А, ведаеш, добра. Прыехала, сказалі, занімай любую кватэру". "А як вы жывеце, сем'ямі?" – пытаюся. Глядзіць яна на мяне, сям'я ж яе тут. Не адказала нічога, а гаворыць мне: "Ведаеш што, як чалавек родзіцца, на раду напісана, калі памёрці, у колькі гадзін і мінут, і ад якой хваробы". Дык во, можа і мае браты гэтак. А тады пытаюся: "А дзяцей ты сваіх відзіш?" – я ў яе. "Віджу, мы спускаемся, толькі спускацца нам сюды няможна, таму што мы тут плеснеем. А там над намі шэпчуць".

А тады я завучу гавару: "Анна Людвігаўна! Во Галіна Францаўна!" А завуч уцікаць сюды. А я стала з ей радам – яна з гэтай стараны, а я з той. Ідзем, а перад намі два тунэлі. Адзін тунэль цёмны, без прасвета, а другі з прасветам. І яна – платочак у яе паявіўся на галаве – пашла ў той без прасвета, а я – з прасветам. Гэта такі сон. Ну такі сон. Ну я ж нічога. Ана мне кое-што сказала, як родзіцца, на раду напісана, калі памёрці, у колькі

гадзін і мінут і ад якой хваробы. Нават мінут. Вот такой. І я многа гэткіх сноў сню.

І сістра родная, Франя звалася, памёрла, муж у яе астаўся. І я сню, што я там, у Вярэньках, стаю ў хаце і гляджу – ідзець Франя во так вот, плаціца ў яе беленькае, цвяточкамі, рукі так у яе, кудравы волас быў, волас кудравы, уходзіць у хату, і палажыла галаву мужу на грудзі. І ён знік. А я асталася адзін на адзін, і яна будзець казаць мне: “Галіна, не бойся! Ты проста другі раз упадзеш в обмарак”. Я ўжо была, смерць была ў мяне клінічэская, во тут во ліжала на гэтым дзіване. “І тады будуць гарэлку піць”. Я кажу: “А што, на тым свеце гарэлку п’юць?” Яна кажаць: “Не. На тым свеці песні і вершы складаюць, і пасылаюць на зямлю”.

Панімаеце, што сказала? У мяне тада мыслі такія паявіліся, што ўсе гэтыя дары чалавечыя – вот этат мецемацік, этат певец, там такі – ўсё дар зверху. Песні і вершы складаюць і пасылаюць на зямлю. А як пасылаюць? Чэраз чалавека. Проста сверху такая прыходзіць, я так панімаю, прыходзіць гэтаму чалавеку ілі мелодыя прышла, ілі вот як табліца Мендзелеева, ён жа ва сне сасніў элемент гэты, які адкрыў. Адтуль яму гэты элемент сказалі. Тады я кажу: “А Бога ты відзела?” Яна кажаць: “Відзела трохі”. І зноў кажаць: “Галіна, не бойся. Не ўсе чарнеюць і парахнеюць. У аснаўном ідуць… – і падняла руку кверху. –А табе прыгатоўлена чыстая пасцель”. Во такі сон. І я шчытаю, што я ўжо не пападу ў пекла.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 378. Бог

Ва сне і я відзіў Бога. Ва врэмя вайны, 1944 год. Гавораць: “Я ім памагаў, а цяпер буду вам памагаць”. І назад пашоў. Абыкнавенны чалавек, толькі па воздуху ішоў.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Даніленкі Пятра Васільевіча, 1928 г.н. у в. Турасполле Ушацкага р-на.**

### 379. Мікола Чудатворац

Ну яшчэ ў мяне ў меньшай дочкі забалеў мальчык, вот прыехала яна, муж памёр, яна не змагла прыехаць хараніць бацьку, таму што радзіўся мальчык толькі што. І зяць прыехаў, а яна – не. А патом прыехала летам ужо, восем месяцаў яму і мы аставілі яго з большай дачкой, а я з ей пашла на кладбішча. Прыходзім, а гэты мальчык хворы. Зусім, галаву не паднімаіць – вірусны менінгіт у яго.

І вот, ну скора тут на “скорай”, завязлі аж у Мінск, у паліклініку, і там яго лячылі. І я сню сон, што мая дачка з мальчыкам паднімаецца па

лесніцы кверху, і згубіла яго, няма ўжо яго на руках у яе. А яна падышла да самага верху, а там – Мікола Чудатворац. Сядзіць з барадой Мікола Чудатворац. І даець ей две стралы – на адной напісана “любоў і радасць”, а на другой – “войны і слёзы”. Дочка каець: “А нашто гэта – войны і слёзы?” Ён сказаў: “На зямлі ўсё далжно быць”. І патом яна з гэтымі стрэламі спускаецца, і Дзімачка. Яна падымаець Дзімку і нясець Дзімку. Яна нашла свайго Дзімку, ну цуд зрабіў.

І вот як прывазілі мошчы Міколы Чудатворца ў Маладзечна, гэта ў гэтым гаду, яна з гэтым Дзімачкам хадзіла, кланялася там, што ўсе рабілі, і яна хадзіла. А патом я расказваю, а ана кажаць: “Мама, я пашла ў прыёную, у прыёмнай ікона Мікоды Чудатворца. Вот у той віруснай паліклінікі”. Ну, разве эта не сон, ну а цуд быў! Ужо ліжаў, галоўку не паднімаў, вірусны менінгіт, эта ж такая хвароба, што… А так мальчык у пяты клас пайшоў ужо. До школы навучыўся да тысячы лічыць, у прэдзелах, каб складаў, атнімаў, праўда, такая ігравая азбука, але – у мамент! Засвоіў азбуку і сам навучыўся чытаць. Буквы я як з ім вывучыла, дык ён сам. Цяпер добра вучыцца, ніякіх аслажненій нет. Дык я каждый вечар цяпер, можа я настаўніца была і не надта талковая, каждый вечар памалюся і падзякую Міколу чудатворцу, што аставіў нам Дзімачку.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 380. Сон на будучага мужа

А яшчэ ў мяне быў хлопец. Ён мяне любіў. А я была очэнь закамплексованая, не такая, як цяпер дзяўчаты. Вот у мяне прыязджаіць унук, і прыбягаюць дзевачкі, дык яны тут… Гэта добра, я цяпер лічу, што гэта надта добра, а я закамплексованая, каб ніхто не дакрануўся, і як спадабаецца хлопец – адвярнуся, каб ніхто не пазнаў, што гэта ён мне падабаецца. Во такая была.

І за мной бегаў тры гады хлопец. Ён любіў мяне. Любіў мяне крэпка, з Таргуноў хлопец. І я сасніла сон, што я іду дамоў, і вяду жарабка такога, ой выкручваецца! А ён быў такі быстры, такі непаседлівы хлопец. Давяла, а ў нас такі перад вёскай такі мосцік і рэчка. Да мосціка і ён – круць! І пабег назад. І пад’язджаіць конь, і гэты мой муж сядзіць з калёсамі, і я села з ім, і паехала. І паехала, аж дахаты прыехала сваей. І я за яго замуж вышла.

Я яго трошкі баялася, мне падабаўся гэты хлопец, а ён быў шустры, не такі ўжо скромны, а я была, ну выхаваная такая была дзяўчына. Казалі, за рамку пасадзі вместа іконы мяне. Гэткай тожа нядобра быць. За гэта я з

ім разлучылася, з гэтым хлопцам, ну дык і сасніла, што гэты жарабок пабег ад мяне, а на кані пад’ехаў гэты мой муж, і я з ім села і паехала. І прыехала дахаты.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 381. Парада ў сні

Віжу ў восні: сяджу я, ай нейкі старычок ідзець. Дык ён кажа: “Бабка, чаго ты сядзішь?” Кажу: “Хто яго знае, уся хвароба ідзець”. А ён кажыць: “А хрысціцца ўмееш?” – “Умею”. – “Дык ты, – кажыць, – перахрысціся і “Отчы наш” памаліся. Усё ад цябе атойдзіць”. Я зараз заўжды крышчуся, як кладуся, хрышчуся, “Отча наш” прагавару…

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Хілько Ніны Аляксандраўны, 1922 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 382. Благія сны

Так вот я перад мамай, мама была, скораспасціжна памёрла, і я перад гэтым віджу ў ва сне, што ў мяне зуб на перадзе, зуб у мяне первы вываліўся, і так ён вываліўся, што кроў свістала. І так свістала, проста як фантанам, і думаю: “Ужо ш я гэтага зуба ніколі не ўстаўлю”. І цераз нядзелю мая мама памёрла. Зуб вываліўся – гэта значыць ужо гэта на смерць. А патом сястра мая пагібла. Я віджу перад гэтым, што хату мы строілі, новую, чосанаю, белую, ну і думаю, хто памрэць. На табе, сястра пагібла.

Ну, як прысніцца які благі сон, трэба прагаварыць, устаўшы: “Куды ноч, туды і сон”. Асобенна, калі відзіш ва сне як што пяеш, дык нада абізацельна праснуцца і эту песню прапіяць, што б не збываўся гэты сон. Хоць прагаварыць, хоць прапіяць, ну еслі помніш этыя словы, нада абізацельна. А так жа ш пяеш у сне – эта на благое . Мая кума во тут памёрла. А я сніла помню, ай ходзім мы з ёй каля сажалкі і гэдак пяём, гэдак пяём з ёй, а тады я атыйшлася і я пяю. І яна памёрла скора, усё роўна я і ні расказавала, і прапіяла песню, а ўсё роўна кума мая памёрла . А як малога ў ва сне відзіш, эта значыць будзіць таму чалавеку очань плоха.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 383. Сон пра хваробу брата

Ну хто іх знаіць, можа што і праўдзяць сны, бываюць во прадсказываюць што-небудзь сон... Ну ён бывае не то што прама там, як прысніцца так і будзе, но што-та падсказываіць. Мне такое было аднажды. Помню,

мой брат у Рыге, каторы быў ён шафёрам, і аднажды яму дзе-та ехаў і машына спорцілася. І ён гэту машыну рэманціраваў зімой, праляжаў там часы тры пад гэтай машынай, пака ён яе дзелаў. І ён забалеў патом. Забалеў, яму плоха з пазваночнікам, там аперацыю рабілі, но ён дамоў не пісаў, не хацеў растраіваць, гэта самае. А напісаў толькі дваюраднаму брату, во Паўліку, каторы Лісіца Паўлік такі быў. А мне ў той раз прысніўся гэты самы сон.

Прыснілась мне, што гэты брат, мой Міша, дзе-та вот абрыў такі над ракой і ён гэтак каціцца з гэтага абрыва, каціцца, і ніхто не можа яму памагчы. Прама вот кажыцца, вот ўпадзець ў гэту ваду. І адкуль толькі гэты Паўлік браўся? Ён неяк яго там задзержаў троху і прэастанавіў. Ну дык я потым кажу маме: нейкі сон плахі. Дык яна кажа, што можа забалеў ці што. А патом, после ўжо, ці гэта можа Паўлік гэты прыслаў, ці ён ужо там з бальніцы быў напісаў, што там ўжо нахажусь у бальніцы, і вот расказаў гэту гісторыю.

Дык вот відзеце, які сон. Такое, як вам сказаць, вот прэдчувствіе плахога чэвота. Ну, а як аб'ясняюць, там гэта што-та вот, можа быць чалавек в тот момент конешно і думаў там пра сваіх. Вот, як мне плоха што там, як там мае ніхто і не знае, што там, ну можа целепацыя ці што там. Дык во такое.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Лілії Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 384. Дзіўная такая смерць

Ой, я бачыла такі сон. Маладая яшчэ, былі мы маладыя. І так сніцца мне, што стада кароў, з хаты гоняць стада кароў дзяўчаты. У дзяўчат вяночкі на галовах і ў руках кветкі. І тады ў скорасці ў гэтай хаце памёр хлопец. Двацаццаць чатыры гады яму тады было. Акончыў вецерэнарны інсцітут і не паработаў, месяцы чатыры паработаў і памёр.

Захварэў грыпам не пайшоў на бальнічны, гэта ж хацеў зарабіць болей грошы – бальнічны не аплачваўся сто працэнтаў. І ён, такія яны бедныя людзі былі. У тое ж врэмя ўсе бедныя былі. Ну і яны бедныя. Ён вучыўся начамі, работаў сторажам, а днём учыўся і быў слабы арганізм. Ну вот, грыпам захварэў, не пайшоў… Прыйшоў з работы, узяў гітару, сеў і стаў іграць гэту "Зямлянку": а да смерці чатыры шага. Толька запіяў і – бразь – гітара зазвінела, і сам аб сцяну. Маці тут з печы: сынок, сынок! Усё, памёр.

І вот тады гэты сон мы расудзілі, што правільна: каровы – гэта смерць, дзяўчаты – гэта дзіва, а цвяточкі, кветкі – гэта слёзы. Вот і была дзіўная такая смерць.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Кaросцік Леаніды Уладзіміраўны, 1950 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

## 385. Чарніцы

Яшчо я сніла сон, што насабірала цэлае вядро чарніц. Ягады крупныя такія, аж з коптарам. І вот гэты сон спраўдзіўся. Гэта – слёзы – чарніцы. Памёр мой сын. Ускорасці памёр. І яшчо сніла, што сын мой паляцеў на самалёце. Я думала, гэта паляцеў вучыцца, ён паехаў, а ён, аказваецца, памёр. Вот гэта плахі сон. Мне сястра і гаворыла: гэта сон ня важны, гаворыць. Ну алі ж, я гавару, можа вучыцца паехаў, пагэтаму мне так прыснілася, а гэта, аказваецца, на смерць.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Каросцік Леаніды Уладзіміраўны, 1950 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

## 386. Чорнае палатно

Мне дужа і не сніліся такія сны… Ну былі, жылі мы тут, у свекрыві, і мужык, і дзеці, і мне прысніўся такі сон: я два кускі такога чорнага палатна развесіла на плату. І я думаю, што ж гэта мне такое будзець? А цяпер ужо разгадала – памер сын у мяне ў 30 гадоў, ну гэта ж тожа, і мужык. Ну дык два чорных палатна – вот яно і спраўдзілася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

## 387. Прарочыя сны

Бываець к непрыятнасцям пакойнікі сняцца. Сматра як сняцца. Бываець к перамене пагоды, на дождж. І есьлі яны прыходзяць, я знаю: мужык есьлі прыходзіць, то з Мішам, сынам нешта будзець, ці будзець п’яны, ці яшчэ нешта. Калі прыдзе мамка – са мной што-небудзь. Калі буду ў Полацку блудзіць – будзе балець старшы сын, есьлі ў Баркавічах, у тым раёне, – значыць, будзе срэдняя дачка.

І вось, калі яна была бярэменная, то ўсё ўгадвалі, хто народзіцца. А мне прысніўся сон, што хаджу я ў Баркавічах, і вось ляціць бальшая птушка, і ўсе так глядзяць на яе. А я так выставіла руку і злавіла. А гэта аказалася не птушка, а Дзюймовачка. І нарадзілася дзевачка.

А калі відзела, што маліну збіраю, – на свадзьбу. Вот сабірала маліну, яшчэ нічога не знала, і маліны такія сочныя, а аказалася – нявестка такая поўная.

А вада… Тожа сон такі быў. Іду з сынам. Ходзім па такім, як тунэль і мы чэраз яго прайшлі, выходзім на дарогу, а жонка яго, астаўшыся дзе-та была. І во такі бальшак, а я паглядзела на левую старану, а яна ляжыць у лужыне, уся прасвяшчаецца. Я на сына гавару: што ж будзем дзелаць. А ён падышоў, а я тады падумала, хай яны разбіраюцца самі, як хочуць. І пашла такой дарогай шырокай, і дарогу мне паказвалі. Я калі ва сне блукаю, гэта ўжо плоха. І гэта нявестачка такое сдзелала. Чэраз нескалька год гэты сон супомніўся. Яна кварціру залажыла 3-х комнатную, звязалася з мафіяй гэтай, далгоўу набрала. І гэтую кварціру яны забралі, нада было выплаціць 6 тысяч долараў. І ён, няшчасны, плоха жывець з гэтай нявесткай. Вот вам і сон. А мужык, калі памёр, мне сніўся. І сніцца мне, што пайшоў у хлеў, а я карову дажыдала, ці што, і ён там нешта ляпаець. Я устала скоранька і пайшла у хлеў. Думаю: “Калі ён туды пайшоў, то там што-та не ў парадку”. Прыхаджу, а там карова кармушку атарвала.

Вот вы знаеце, ёсць ў мяне і гэты соннік. Но там многае не супадае. Кажды сон сніўся сам сабе. І я, напрыклад, сягоння ўстаю і знаю, што мне сягоння снілася. Рознае можа сніцца. Грошы – непрыятнасьці, яйкі, грошы – непрыятнасьці. І раз устаю я і ўжо панімаю, далжно што-та случыцца. А вось, што звёзды саветаюць у газетах – гэта супадаець.

Мяса сьніцца – тожа непрыятнасьці. А свіньні – абязацельна п’янства. Бальшые свіньні – бальшыя п’яніцы. Кароў пасціць – гэта народ, кампанія, рабыя – дык яшчэ нічога такая. Жыта жаць – на пахараны. А, гавораць, царкву ці папа ўбачыць, то лепш ужо чорта, чым… Прымус нейкі будзе.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

### 388. Зданькі і сны

Вось гэта зданькі. Вот я хадзіла бярэменная. І тапіла печку, затапляла. Во так вот і сонца ўжо на захадзе было, чую ў вакно нехта стукае. А я гавару: “Сечас прыду”. Уся сям’я дома была, і пабегла ў спальню, пад акно, дзе пачула. А яшчэ голас такі быў: “Галька, Галька, хадзі сюды” – пабегла глядзець – нідзе нікога нет.

А вось, калі памёр сын. Быў Міша, гэты інвалід, сядзеў ён у крэсле, нікога не было ў хаце, прышоў бацька, стаў перад ім – так яму здалося – і кажыць: “Колі нет” – і зьнік. І вось сын сярэдні тожа зьбіраўся на работу і тожа голас кажыць: “Колі нет”.

Гэтыя зданькі очэнь здаюцца. Калі памірала мама мая, я была зь ёй, а ён сядзеў адзін дома і стаяў букет, гэтых, хрызантэм. Ён так на іх глядзеў і

тут гэтыя цвяточкі апусьціліся і сталі во так во корчыцца, і апусьціліся. І ён адразу поняў, што памёрла мая мама.

І кагда памёр бацька, мой мужык, яму яшчэ не было года, а яны былі ў горадзе ў зяця – атмецілі дзень ражджэньня. Ён памёр васьмога акцябра, а ў зяця дзень ражджэньня 15 мая. І яны, там сабраўшыся, троху шумелі, і сасніўся сон этаму Мішу, што бацька прышоў і гаворыць: "Кагда я памёр, дачка млела, а цяпер так танцавала, што нага забалела, і піялі. Я яшчэ жыву, я яшчэ мучаюся, я яны піялі (пелі) і танцавалі. У мяне дзяцей нет. Эта ужо не маі дзеці. А тыя маі…" – і назваў тых, якіх не было там. І якія песні піялі ён яму расказваў. Этат быў бальны і ён часта з ім абшчаўся ў ва сне.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

## 389. Сон на гадавіну

Пакойнікам да года даўней не ставілі памятнік, і да года шчытаецца, што яны яшчэ жывыя. После года ставіцца памятнік, бо яны ужо паміраюць. І кагда год па мужыку, мне сасніўся сон, што абяшчалі мне пусьціць мяне, штоб с'ездзіла ў цэркву – год ужо, свечкі там і усё – адмеціць ужо ў цэркві.

Але так у мяне і не палучылася, ніхто мяне не пусціў. Бальнога мне гэтага неяк было кінуць аднаго. Нада было ці ў Полацк, ці ў Верхнедвінск ехаць у цэркву. Я ж яго аднаго не астаўлю. І яны там, забавіліся, што ня з'езьдзілі, не памянулі. А тут стол мы справілі. А заўтра яны ужо паедуць у цэркву. А мне сніцца сон, што іду я па такім карыдору, карыдор очэнь цёмны. Уперадзі стаіць стол, за сталом стаіць якісьці мужчына, у чорным адзеты. Я падхаджу і віджу: адны мужыкі налева ідуць, другія – направа. А ён ім паказвае, каму куды ісці. А я пагляджу, што Іван пайшоў налева. А я гавару: "А чаго?" А ён кажа: "А вы апаздалі". Гэта значыць, не памянулі да года, а после. Калі толькі памёр, нада было правадзіць у церкві. А мы апаздалі. Ён жа ж ішоў дамоў – спасеньня не было. Два Іваны дома і усё.

І думаю, Божа мой, куды мне Яго палажыць? Знаю, што пахаранілі, я ён дома. І тады праснулася і думаю, што гэта такое? Ажно нада правадзіць. Як правялі ў цэркві – усё.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

## 390. Пра той сьвет

Відзела ў сне, як была на тым свеце. На адной старане харошыя людзі, а на другой як змеі. Тут у харошым, чыстым, у беленькім надзеты,

вяжуць ці што. А што заслужылі плахоя, гразныя, чорныя. Сказалі ей, нікаму не гаварыць, а то раскажаш і ўмрош. А яна ня выцерпела і расказала. І памёрла. Эта дзейсцівецьна праўда.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 391. Сны пра сястру

Гэта бываюць памінальныя дні – у цэркві памінаюць. От, як памёрла мая сястра, я не папала на пахароны, бо ляжала ў бальніцы. Якраз на дзевяты дзень сню яе ў ва сьне. Кажацца, я ў цэркву прыходжу, а вот, дзе Хрыстос распяты, там памінальны стол, чорным накрыты. І ставяць туды кашу, ну хто што прыносіць, і памінаюць тады. І я, кажацца, у цэркву прыхаджу, а яна сядзіць за гэтым сталом і кажыць:“Люба, падай мне”. І яна сядзіць каля гэтага Ісуса Хрыста, кажыць: “Падай мне”. Я кажу: “Што падаць?” Яна кажа: “Люба, падай мне”. І тут я прачнулася. А гэта значыць, што нада пайсьці і памянуць.

А сястру я яшчэ відзела ў ва сне. Кажыцца, што выхаджу я на вуліцу, у веранду ўвайшла. А неба такое чыстае-чыстае, галубое. А яна ў нейкай рамцы сядзіць, у гэтым небе. А я кажу: “Шура, а як ты туды залезла?” І вродзе як неба апушчана. Я кажу: “Злазь, а то звалісься!” А яна мне кажыць: “Як здзелалі мне аперацыю, мне так харашо стала”. І з такой улыбкай. А я крычу: “Лезь, звалісься, як ты туды забралася?” А яна: “Мне тут дужа харашо!” А яна ж памершы была ўжо. Кажуць, што можа яна ў рай папала. Думаю, што папала ў рай. Сільна ў Бога верыла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцк. р-на.**

## 392. Сны

Пакойнік сніцца – гэта сматра як. Калі цябе пакойнік завець, то ты скора памрэш. Есьлі табе даець пакойнік – добра, а есьлі берыць што-та – плоха. Ну, вот сасніўся мне сон. У нас жэншчына памёрла. І яна мяне тады завець: “Аля, Аля, хадзі сюды!” А я: “Нашто я табе?” Добра, што не пашла, а то памёрла б. А вот гаворацъ, як завець пакойнік, нада тры разы сказаць, напрымер: “Вікенцій, Вікенцій, я цябе не чапаю, і ты мяне не чапай, і сям’ю маю не чапай, ляжы спакойна і адпачывай!”

Вот, калі віжу курэй ці цыплят, то будзіць непрыятнасць. А вот у нас кабан быў забалеў, і я, кажацца, цягну гэта мяса туды, выкідваю. І точна – памёр. Гаворацъ, калі відзіш дзевачку – разгавор, мальчыка – шум будзіць. А вот як відзіш як гоняць кароў, то вот як мой памёр. Віжу, што ганю ка-

роў. І я ганю, многа іх, цялушкі, у бок кладбішча ганю. І мая нявестка тут. І я толькі ў яму, а яна мяне выцягнула за руку. І вот тады хазяін памёр. І ў нас на дварэ яшчэ градачкі, і астры растуць. Вот есьлі відзіш зямлю – то плоха.

Як хату новую – будзе добра. Есьлі сеў на белага каня – то смерць, еслі ты будзеш адзета ў белае – то смерць, як нявеста, напрымер. А есьлі відзіш сябе голым – гэта непрыятнасьць, абмываюць цябе.

Як сасьніш сон дрэнны, то нада сказаць: "Сон, сон, куды ноч – туды і ты". Ну, гаворацъ, на трэці дзень нада расказаць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянкі Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. в. Слабодка Чашніцкага раёна.**

### 393. Прарочы сон

Не хачу гаварыць, але было. Эта было перад смерцю майго мужа. Вот. Гавораць, што ёсць прадвешчацельныя сны, вот і я і гавару. Праснулася рана, ну я не праснулася, я крычала ўва сне, і мяне хазяін разбудзіў. Ну я гавару: "Падажджы, у мяне не спрашвай, што і што". Прадумала я ўсё па парадку, што мне прыснілася.

Вот после этага Чарнобыля, якраз после гэтага. Ўродзе бы мы ідзём куда-та па дароге. Лес з абоіх старон, кусты. Ідзём, куда-та мы таропімся, ідзём. Ўдруг едуць нам наўстрэчу на конях людзі. Ага, а так у старане там быў МТС, у нас там саўхоз Валосвічы. Ён там работаў у масцерской. Вот. Ўродзе бы адтуда крыкі каторыя ідут. Слышна вот мне, я слышу, што крыкі, крыкі, крыкі. Астанавілі, гавару: "А што там такое?" Гавораць: "Нешта случылася". І ўдруг едуць на конях этыя людзі наўстрэчу нам, ну вот із нашай дзярэўні, з яго работы, я знала іх. І гавораць: "Паехалі з намі!" А ён гаворыць: "А што случылася?" Гавораць: "Пажар у Валосвічах, у масцерской". Ну, яны на конях і паехалі, а ён завярнуўся і за імі пашоў. А я гавару: "Міша! Ты куды? Нашто ты нас астаўляеш?" А ён гаворыць: "Я скора, я скора. Ідзіце, я вас даганю". І пашоў сам. Звярнуў з нашай дарогі, як мы вот, прама дарога йшла, ён звярнуў з дарогі і паехаў за імі ўслед.

Ну вот, ну я ўстала і гавару: "Міша, ты мяне кінеш". А я не падумала, што ён пампрэць, панімаеце. Я гавару: "Ты нас аставіш". Дзеці ўжо парадашныя, пяцера дзяцей. "Ну што ты гаворыш, з ума сышла", – гаворыць.

Прашло нескалька вот ужо, Чарнобыль гэты прашоў. Адзін чалавек, што ехаў на кані вярхом, паміраець, втары чалавек паміраець, што ехаў вярхом. Ну вот, мне відаць жа стала, што наверна што-та будзіць з ім, з намі. І ён пасля Чарнобыля тожа сразу памёр, не балеўшы, нічога во так вот, за паўгода. Тры месяцы паляжаў у бальніцы – і памёр. Вот так вот.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В.Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 394. Брат Яначка

Як увіджу пакойнікаў, ну вот сваіх дамашніх, то абязацельна ждзі дожджу. Ну вот памёр у мяне брат, а такі ён быў добры, так добра іграў. Але ж так мне яго было жалка. І вот сніцца мне, што я ў Лужках на базары там хаджу, і спатыкаю свайго брата. І я: “Ай, браток, Яначка, як я рада, што цябе ўвідзела”, – я і прытулялася да яго, і ён да мяне. І я кажу: “Ты хоць мне раскажы, як ужо там табе?” А ён мне: “Знаць ня будзеш усё”. І расталіся мы.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 395. Сон перад аперацыяй

Ёсць сны такія... Я ж цяжола бальная была, цяжола бальная, на втарую аперацыю мне нада ў Мінск ехаць. І віжу сон. Іду – роў, глыбокі, глыбокі роў. Чэраз роў, чэраз гэтыт, перайсці не магу – гразь, топка. Но ўсё ж перайшла, перайшла. А там дом стаіць з окнамі, я пабыла там і вярнулася. Вярнулася і іду назад – тры кругунка з травой. Я перэйшла. Трава бальшая і кірпічная сцяна, кірпічная. Я хватаюсь за кірпіч, а ён абнашваецца. Я і так, я і так. Всё ўжо вылезла на той кірпіч. Гляжу і дарога, і зелень і ўсё, слава Богу, выбралася на дарогу. Вот і аперацыя была цяжолая, а я выбралася і ўсё харашо. І сейчас праверялася ў Полацку ў анкалогіі, сказалі: “У цябе ўсё харашо, лячыцесь у тэрапеўта солі і калені”.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае тут з 1947 г.).**

## 396. Дзяды напомняць

Сняцца дзяды, канешне сняцца, усяк сняцца. У мяне многа было такіх пахаронаў. Я ўжо многа каго пахараніла. І каждаму што-та ў нас тут робяць, каждаму іспалняла. І вот у нас такое ёсць свята – Пакроў Божай Мацеры, 14 акцябра гэты Пакроў. Ну і да гэтага Пакрова нада ўжо прылажыць дзерначком свежую магілку. Прыкладзіны ўжо называюць іх. І прылажыць гэтым дзерначком. І я всегда эта воврэмя рабіла, всегда воврэмя знала. Ну, ўсё раўно мне сасняцца перад гэтым святам. Напомняць. Вот сасняцца: адзін дзед сніцца, што шукаіць валенкаў сабе, другі шукаіць рукавіцы, адзецца; трэці на печы ляжыць грэіцца, вот такія, во хто што. І кажды напомніў, кажды напомніў, мне што нада. А хаця я і сама знала, і ўсё гэта выпалняла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Яўгеніі Іванаўны, 1944 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

## 397. Сон пра дачку

Ай, сноў усякіх снілася, усякіх снілася. Мне снілася, сніліся сны, у мяне гэта ш, у мяне памёрла дачка ў 85-м гаду, ей было 21 год. Тожа сасніўся мне сон. І перад смерцю снілася там што-небудзь. А тады я, як яе ўжо харанілі, я плакала і прасіла: “Прыхадзі ты ка мне хоць у сне”. Вот, паўгода замужам пажыла і памёрла. Кажу: “Хоць ты мне ў сне прыхадзі”.

Дык яна мне снілася год, год снілася. А тады ўжо, ужо настаець год, яна мне і кажыць, што: “Мама, я к табе ўжо не прыду, – кажыць, – мяне гэта цёця не пускаіць ужо”. Дык я кажу, а я віджу перад ей ікона Божай Мацеры, Багародзіцы. “Мяне гэта цёця не пускаіць”. Дык я кажу: “Ленка, гэта ш ня цёця, гэта Святая Багародзіца, ты ей, – кажу, – у рукі, у ногі пакланіся, каб яна цябе пускала”. А тады ўжо пасля таго яна мне не так ужо стала сніцца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Яўгеніі Іванаўны, 1944 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

## 398. Палёты ўвосні

Мне сніліся сны і пра той свет, і прыхадзілі адтуль такія жанчыны, мне гаварылі ўсё, і я с імі гаварыла, усё такое. Ну, цяпер, можа расказываць не нада было, і цяпер яны мне ўжо не сняцца. І я сніла, і ва сне я ўсё літаю, вот мне цяжка, цяжка, і я літаю. Падымуся, а мне ўжо лёгка, і я хоць куды даляту. І гэтак я літала, і літала, і гэтак мне добра, ужо ў жызні што лягчэй жывецца. А тады памёрла тут жанчына старая, яна памёрла. І яна мне саснілася. Саснілася, а я ляту во так, ляту, ляту, а яна на мяне: “Злазь, злазь, злазь, досыць”, – і я спусцілася. І после таго я не літаю. Ну, во што. После таго не літаю, яна мяне атхадзіла вот.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Яўгеніі Іванаўны, 1944 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

## 399. Дзеткі

А тады ў мяне другая дачка радзіла дзевачку. Ну радзіла яна воврымя, ну, вродзі бы, пупавіна была закручана, памёрла. Ну, іна тады пахаранila яе, яна ш няхрышчаная была. Ня хрышчаная, за яе ш там ня молюцца ўжо. Ну я і не малюся за яе, усё. А яна мне саснілася: ляжыць яна такая ў калясачцы, ну такая яна мокрая, такая яна абгнізлая, такая ўсё. І я кажу: “Ну ціха, ціха, я цябе не глядзела, цяпер буду даглідаць”. Ад таго сна я стала за яе маліцца, і яна мне ня сніцца.

А вот яшчо раскажу, адно чуда. Быў у мяне выкідыш, і такі быў выкідыш, самапраізвольны выкідыш быў. І гэты, я ш была ў бальніцы, усё

ж, тады прыехала дамоў. Ну і пасля таго пражылі мы ўсе гэтыя гады, ну ўсё ш, і посля таго ў мяне радзіўся сын. А тады, памёр мой мужык і праз год сасніўся такі сон, што ён, у яго трое дзяцей там. Ну, значыць, дачка памёрла бярэменная, гэта на тым свеце ўжо, гэта ш унучка ўжо ад другой дачкі памёрла, ну і трэці рабёнак. Выходзіць, гэта наш ужо рабёнак, мальчык, такі вот, гады два, і каля яго гэты мальчык. І ў яго трое дзяцей там ужо з ім. І я тады, я тады ж гэта кажу, а ён кажыць: "Гэта мальчык не наш". А я кажу: "Гэтат мальчык будзіць наш. Гэта, – кажу, – заберым, і гэта будзіць мальчык наш". І гэта я ўжо прачнулася і думаю, што гэта пэўна тот мальчык, што ў мяне быў выкідыш. Перад годам, перад Пецевым годам, яму ўжо год падхадзіў, і сон сасніўся. Ён вот там сустрэўся. І цяпер пачыла памінаць тожа маленькага.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Яўгеніі Іванаўны, 1944 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

### 400. Сасніўся дзедушка

Вот майму ўнуку. Тады яму было 7 лет, як папа умер мой трагічэскі, я ж сказала, паваліўся гараж і ляжыць так ён у вуглу, а ён дужа дружыў, жалеў яго і вот сасніўся. Сасніўся так: "Сашэнька, ты не плач па мне, мне тут харашо. Я друзей сваіх устрэціў, атца свайго устрэціў, маць устрэціў. Не плач па мне, ты пражывёш 75 лет. Унуку сказаў 75 лет. Усё будзет харашо і бабушке скажы, каб не плакала, ана найдзет сабе старычка і будзет дажываць старасць". Сон такой. Ён устаў, плачыць, падышла дочка мая: "Сашынька, што ты плачыш?" А ён кажа, што сасніўся так і так, дзедушку жалеіць. Вот такі сон, а я цэлы год плакала – харошый чалавек быў.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

### 401. Сон пра той свет

Стала я чытаць Біблію. Дала мне саседка, тут во была старэнькая, дала мне пачытаць. Начыла чытаць, доўга да 12 часоў чытала. Заснула і віжу сон. Я на тым свеце. Жэншчына ў белым усім на курган завяла і паказваіць свет, увесь свет. Гляжу, а там старычкі, дзеткі там, а там у другім канцы – саўсім другія. Гавару: "А ета?" – "А ета грэшныя. А гэта, – гаворыць, – грэшныя, аддзельна саўсём". Ага, а дальшэ я праснулася. Стала расказваць гэты сон сваёй маме. А яна мне гаворыць: "Не нада было расказваць, табе б саснілася уся жызнь". Но яна гэта, каторая ў белым, так сказала: "Скажы

сваім. Ты ўснёш, крэпкім сном уснёш, штоб цебя не пахаранілі, іначэ к нам прыдзеш". І я ўсім сваім сказала.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 402. Лябёдачак

Ну вот так значыць, такі мне сон быў. Ну, кагда я выйшла замуж, нарадзіўся ў мяне сын, да, мальчык нарадзіўся – Саша. А ў мяне яблыня, сад быў, яблыкі былі, яблыкі – эта пад яблыняй, да. І сніцца, што лебедзь прыляцеў у той сад. Сядзеў, сядзеў, падняў крыльля і паляцеў. Значыць, мой мужык узяў і памёр, муж мой. Во так і астаўся ў мяне эты лябедачак, рабёнак у мяне астаўся, вот эта мой сон быў. Відзіш, як збыўся ён. А тады, будта бы я ляжу на чардаку, і явіўся ка мне мой муж. На хляву, там я спала, дык і ляціць мой мужык, лёг каля мяне, а я яго спрашываю: "Чым назваць сына?" – спрашываю. Сама радзіла, а спрашываю ў яго. Чым мяне сына назваць. Ён гаварыць: "Назаві, – гаворыць, – Сашай". Вот я і назвала Сашай. А да таго яшчэ мне сказаў, што я сына ражу – прыснілася мне этак. Во такі сон мне быў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 403. На смерць дачкі

Вот, як мая дачка жывая была яшчэ, і прыснілася маей дваюраднай сястрэ ў Старыне сон. Што яна куды-то з маей сястрой, сястра мая ўперад памерла за 5 гадоў. А яна жыла, куды-та сястра вяла маю дачку. І каля маей хаты ішлі і да мяне не зышліся. І так зробілася, што яна памерла, мая дачка. Не хварэла, усе ў яе была сахарніца і павышанае даўленне. Так яна шла, у дзвярах заваліласяя, тут жа і памёрла. Дык гэта, яны шлі ўдваіх і ка мне ў хату не зашліся. Каля маей хаты шлі. Пашлі куды-то. І гэта, так і зробілася. Яна памёрла, і ка мне не прывазілі ў хату. Яна жыла ў Чашніках, і тамака зяць ейны прыехаў, я толькі за мной прыехалі – паказалі мне яе што дзействіцельна памерла – схавалі. І ка мне ў хату дажэ з Чашнікаў не прывязлі. Дык бываюць гэткія сны.

**Зап. Халадкова А., Пракоф'ева Ю., Оськін З. у 2006 г. ад Клопавай Алены Федараўны, 1919 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 404. Сон на смерць

Я вот, напрымер, відзела ўвосні. Мама мая адна жыла, і я жыла. І ну там бацька, свёкар быў саўсім ўжо, ў пасцелі ляжаў, тожа перад смерцю. А

мама мая хадзіла, як і я нармальна, тожа ей семсят пяць гадоў. І вот віджу ўвосьні ў гэтай хаце печ стаяла руская ў мяне. А я вот іду ў хату як ўвосьні, а печка на мяне так і паляцела. Я спужалася – ускочыла – нармальна ўсё.

Прыходзіць мама, я расказваю ёй сон. Яна гаворыць: "Ну што ты хочаш, вон ляжыць свёкар, майго чалавека бацька, канечне ж ён і памрэць, эта к пакойніку". Матка мая ўмела разгадваць. Цераз два дні матка мая памёрла. А яна і не хварэла, нічога. І што я ў абед прыбегла з работы, а там сена ў мяне, яно й цяпер там стаіць. Там дачнікі купілі. І прыбягаю ў абед, а абязяцельна гэта сена, эта й сын у абед прыехаў, гаворыць: "Абязацельна ўнясіце гэта сена, а то дождж будзець". Ну, мы ў вязку, сын прынёс, пуня тут стаяла. І паехалі мы на работу, эта было два часы. І прыязджаем мы з работы, а яна ляжыць каля кучкі нежывая. Мама. І грабелькі на ёй так ляжаць. А разгадала ж сон – памрэць бацька ягоны. А судзьба не бацькіна, а ейная. А вот сон прысніўся правільны. Чэраз два дні памёрла. А я ей яшчэ сон гавару, яна мне разгадала. Ёсць сны справядлівыя, але мы ня ўмеем іх разгадваць.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

**405.** Мае сны праўдзюць. Мой хазяін старажаваў на ферме, цялятак атымаў, ад кароў, каторая целіцца. А я выгнала сваю кароўку ў поля, сюды пад Забор'я. Выгнала і думаю... Гляджу, пастухі ходзяць. А кароў дужа многа. Так ў сне віджу. А тут прыезджаець майго Колі племяннік і кажаць: "Баба Зіна, ваш Коля памёр". Я кажу: "Што ты гавораш? Я ня веру". А ён: "Калі вы ня верыця, садзіцеся ў казёл, я вас павязу". Прыехалі. А там мой Колечка ляжыць памёрлы. Вот я кароўку выгнала ў поля і Колю свайго пацерала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. у в. Будзішчы Сенненскага р-на.**

## 406. Начовачкі

У мяне ўмерла дзевачка, толькі 3 нядзелі пажыла. Яна яшчэ жывая была, а мне прыснілася, што па возеры плывуць начоўкі, даўней былі яны з дзерэва зробленныя, як ванна. І вось я віжу: плывуць начовачкі, у нас тут возера, а на тым баку кладбішча. Вось мне прыснілася, і я так наракаю... І вдруг мая ўмерла дзевачка… І вось, мы па возеру няслі яе туды. Ну вот так і збылося. У мяне цяпер стаіць гэта ў галаве, што яно збылося. Помню, плыве, копія як гробік. Ну і мая дзевачка ўмерла. Ну я так сама сабе рашаю.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Аўтух Галіны Цімафееўны, 1931 г.н. у в. Заазер'е Ушацкага р-на.**

## 407. Сон пра маму

Я не помню сваёй мамы. Да я і не ведала, што у мяне мамы нет. Я была маленькая, дажэ не ведаю сколькі мне было гадоў. Можа гадкі чатыры, а можа тры, а папа ўжо жаніўся на другой. Тая мама, ненастаяшчая, сядзіць прадзець, песні пяець. Мне здавалася, што яна такая красівая, я каля яе хажу, яе жалею, думаю: “Во, якая у мяне красівая мама! Як яе Люблю!”

Ноччу віжу сон: стаіць салдат пасярод хаты на таўчынах, і мяне ўзяў за руку. Водзіць мяне каля гэтай труны і гаворыць мне: “Гэта не твая мама, а ты яе так любішь. Во твая мама!” І тры разы абвялі каля труны, але ліца не паказалі. Яе ліцо было абвязана красівым шалікам, каторага цяпер ужо нет, а былі ў тое врэмя, як памерла маці. Газавыя такія. Звалі іх газавыя, з такімі прыгожымі рысункамі. І сказалі, што гэта твая мама. Я прачнулася, думала, а потым спрашываю у бабулі: “Бабушка, а што гэта такое?”

Бабушка стала плакаць, ну і яна мне такога і не сказала. А тады я ўзнала после, што ў мяне нет мамы. Я не помню, хто мне гэта сказаў, ну гэты сон я буду помніць заўсёды. Ён стаіць у маёй галаве. Ёсць вялікая сіла, якая засталася ў маёй памяці.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Касьмін Валянціны Іванаўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

## 408. Прарочы сон

Цэркві тады разьбівалі, гэты хрэст, што мы ўстаўлялі, трактарам павалілі. Чалавека папрасілі і ён за бутылку гаротную зваліў яго. А мне быў прысьніўся сон, што як будта бы мы ідзем з Бярэзіна на Бягомаль. І цёмнай ноччу і цёмным ельнікам, ня відзім ніякай дарогі, а толькі цёмна-сіняя палоска неба. Спатыкаецца старычок: “Куды вы, дзеці, ідзеце?” – “Ідзем маме рады іскаць”. – “А як вашу мамку завуць?” – “Ганна”. – “Ідзіце, хрэст паваліўся на старых магілках, а вы падыміце і будзець вашай мацеры рада”.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

## 409. Сон на хваробу

Мая дзяўчына, во яна сёння была ў белай куртачцы, паехала яна ў Мінск. Замуж вышла, пераехала ў Мінск. І вот відзіць сон, ёй сасніўся. “Іду, – кажыць, – а ля канавы далей плачыць дзіцёнак. Іду, а ён плачыць. Пастаяла, пастаяла і пашла паглядзець гэтага дзяцёнка. А гэты дзяцёнак

чорны, і ўверчаны ў чорным. І я гэтага дзіцёнка ўзяла і панясла". Каб яна яго хоць не ўзяла і не панясла. Дык пятнаццаць гадоў язва. Балее.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 410. Страшны сон

Я вам раскажу вот такі сон. Ніхто мне яго не разгадаў. Сніцца, што такая Матруна была, прыходзіць і гаварыць... ай не, папа сначала выходзіць, і з мяне ўсю кожу здзіраець да пояса. І я сіжу, нейкай простыньню прыкрыўшыся, і яна так нідзе не даторкнулася да мяне. А тут прыйшла гэтая Матруна і говорыць: "Енчы перад Богам і цалуй зямлю! Тады не будзець болей скуру рваць, а так усю парвець!" Ну, усім я расказвала і ніхто майго сна не разгадаў. А тады цераз нескалькі врэмя паднялася бура, і ў нас звярнула палавіну хаты. Усё снясло: і крышу, і мурлаты, а адна часць – прысценак – во з гэтай хаты сюды закінула, а другую – аж за дарогу занясло. Аж вон туды, за гэну дарогу.Во такі сон.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

# ТАПАНІМІЧНЫЯ ПАДАННІ

## АЗЁРЫ

### 411. Святое возера

На этым месце стояла цэрква, і яна правалілась. На возеры была раньшэ капліца. А возера образавалася на месце цэркві, на дне возера яшчэ ёсьць броўны ад яё. Там, бывала, на паверхнасьць усплываюць бутылкі, іконы. Бутылку такую вылівілі, калі лён мачылі, граблямі выграблі. Калі яе даставалі, яна разбілася, асталіся толькі якіе-та буквы. Што за буквы, я не чытала, не знаю.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Зубр Ірыны Іосіфаўны, 1910 г.н. у в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на.**

**412.** Ад людзей чула, што раней возера не было, а на яго месцы была царква. А людзі то лі ругаліся, то лі дрэнна хадзілі ў царкву, патаму яна з людзьмі і правалілася  пад зямлю. А на гэтым месцы абразавалася возера.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 1995 г. ад Татарынавай Любові Іванаўны, 1946 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

**413.** Там раней стаяла царква, потым яна правалілася. Усплывалі іконы, залатыя ложкі. У гэтым возеры харошая вада. Добра сціраць, адсціраецца без мыла. Раньшэ гэтага не дазвалялася рабіць.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Шанковіч Еўдакіі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Селішча Верхнядзвінскага р-на.**

**414.** Гавораць, што на ім некалі стаяла царква, потым правалілася. Яно само круглае, берагі пяшчаныя. Гавораць, што ў яго ўпадае падземная рака ці ручай, таму што так бы яно ператварылася ў балота. Рыбу ў ім толькі нядаўна пачалі лавіць. Само возера – круглае. Ля яго лес Піжаўка. Там жа Чорны Ручэй і Ліхая Гразь – вялікая топкая лужына.

**Зап. экспедыцця ПДУ у 1995 г. ад Ісакавай Анастасіі Раманаўны, 1929 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

**415.** Раней на Святым возеры была царква. Яна правалілася пад зямлю. Возера глыбокае, пасярэдзіне амут. Гавораць, з яго выплываюць іконы. Рэчка Вужыца нагадвае след вужа. Вёска Стрэлкі – раней былі стрэлкі, якія паказвалі дарогу. Была яшчэ Святая гара. На ёй святкавалі Купалу. На ёй быў ключ і каплічка . Там бралі ваду для царквы, прыносілі і клалі кветкі, воўну, грошы.

**Зап. экспедыцця ПДУ у 1995 г. ад Мацулевіч Лідзіі Міхайлаўны, 1913 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

**416.** Недалёка ад Селішча ёсць возера Святое. Гавараць, што даўным даўно на ямцы гэтага возера была царква, але яна правалілась пад зямлю. І на гэтым месцы стала возера. Яшчэ я чуў ад дзеда тое, што возера Святое называецца так, бо ў ім хрэсьцілі язычнікаў.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Самусёнка Мікалая Васільевіча, 1920 г.н. у в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на.**

### 417. Святыя азёры

Кажуць, царква там правалілася. Але Сьвятых азёр два. Ёсьць яшчэ Стралкоўскае – тожа Сьвятое. З яго цячот рака Вужыца. А называецца так таму, што калі-та на месцы, дзе зараз возера, рос лес – яго звалі Сьвятым. Ён праваліўся пад землю. А вужы сталі ўцякаць з яго. Іх было так многа, што абразавалась рака – Вужыца. А ў Сьвятым возеры, якое за Стралкамі, вада лячэбная. Хто п’ець – выздаравіць.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Лучковай Матруны Фёдараўны, 1911 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

### 418. Святое азяро

Гаворацъ старынныя людзі, мы тожа так спрашывалі, малыя былі, кажам: “А чаго гэта яго называюць Святое азяро?” Яны гавораць: “Божанька яго пераксціў і, – гавораць, – туды зваліў ад Божанькі нешта. Туды, у гэнае азяро”. Гэта яны самі старухі падсказывалі, што Божанька, гавораць, туды нешта скідаваў. Да, скінуў і вот гэта вада стала свянцона. І вот гавораць, што і абразавалася Святое азяро! І яно топкае. Ў яго цяпер няльзя туды лезці, нельзя нічога... ну там ёсць рыба, но але там, калі і будзе рыбіна, то не паймаеш. Там дужа-дужа топкае, яно абразавалася, гавораць, там ужо на топкасці. Вот ано за тое абразавалася эта Святое азяро!

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Карнілавай Алены Андрэеўны, 1934 г.н. у в. Шчаперня Полацкагар-на.**

**419.** Эта кагда-та мой бацька яшчэ гаварыў, што у тым азярэ не водзіцца рыба. Ну ніхто там яе не лавіў. Гавораць, там – два дна. Раньша запускалі рыбу... туды людзі. Ну рыбы... рыба... усплывала наверх. Яна не жыве. Падыхае. Значыць, какія-та газы выходзяць. Ну какое Святое! Ну проста как называюць азёры: “Скрадань”, “Лебядзінае”, “Святое”. Святая гара там разам там. Во яна і да сіх пор Святая гара і Святое возера.

**Зап. Лобач У., Волкаў А. і Навічонак Я. у 2003 г. ад Кастраценка Васіля Канстанцінавіча, 1938 г.н. у в. Шчаперня Полацкагар-на.**

### 420. Святое возера ля Баравых

Святое возера, як гавораць старыя людзі, што цэрква была ды правалілася дзеравянная. Гэта наверна лож. Але гаварылі, што цэрква была, і

людзі ішлі маліцца. А ў Міхалове пан быў, прыгон быў. А людзі памаліліся Богу, і пану пайшлі работаць. Назад ішлі, а царквы ўжо няма. Палучылася возера.

Была рэчка з Жэрынскага ў Сьвятое, а там… Ну калдавалі, прыхадзілі. У абыкнавенны час калдавалі і расчэсваліся пад вязам пад тым. Гэта ў Баравых было. Баба старая майму суседу расказвала, стараму рыбаку, што ведзьмы калдавалі ноччу, часаліся, воласы расчэсвалі. І рэчку забілі войлакам. І не стала цеч у Святое возера.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Корбуна Івана Дзмітрыевіча, 1938 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага р-на.**

**421.** Тут цэркаў была, людзі хадзілі маліцца з Баравых. Яны на работу ішлі, хадзілі. Ну, ён быў не пан у Міхалове, а эканом. Хадзілі туды сены грэбсці, а было васкрасенне. Яны кажды раз хадзілі ў васкрасенне на работу. І вот яны туды ішлі, зашлі ў цэркаў, памаліліся і пашлі ў Міхалова. А тады ішлі назад, а цэрквы ўжо нет. Гаварылі, што царква стаяла пасярод возера, а тады стала кругом яе вада. Хлопцы, што купаліся, гаварылі, што пасярод возера, на дне гара. Вот. Мяльчэй. Можа метры 3 – 4.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Корбун Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага р-на.**

**422.** Пра Святое азяро казалі, легенда такая была, што цэрква стаяла ды ўтанула. Але гэта няпраўда. Гісторыя такая: на тым месцы стаяла царква і ўтанула, таму і святое. Глубіна прымерна 19 – 20 м. А там дзе лясок – гара “Гарадзішча”, можа раней гарадок які стаяў. А “Балган” – цераз возера. Места такое, роўна з возерам. “Балган”– ад слова “балаганіць”. Сабіраліся там купцы, гулялі, балаганілі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Пятрашкі Міхаіла Емельянавіча, 1935 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага раёна.**

### 423. Святое возера ля Слабодкі

Гаварылі старыя людзі, што там стаяла цэрква і яна там утанула. Таму і называецца Святое возера. Тут, калі купаўся хтосьці і прыхадзілася тануць, але ніхто не тануў. Нікада і гэта ж бальшое возера як ізвесна. Інагда гаварылі, што нехта слышаў, як званы звонюць там. Возера гэта вельмі глыбокае.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Шамархан Людмілы Філіпаўны, 1928 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

**424.** Тут, навярху было возера, а тут, у нізінке была цэрква. Тут жыў пан на гарэ. А патом гэты пан рашыў, каб людзі пракапалі роў. Гэта возера спусціў, а там была цэрква і яе заліло. І таму гэта возера ад цэрквы называецца Святое.

А там, каля возера у валатоўках французскія магілы. "Дубы" тое месца завецца, дзе французы пахаваны. Гаварылі, што як адхадзіў француз і іх была многа пабіта. І іх там закапвалі. І тут былі археолагі, можа ў 1967. А можа і ў 1965, і яны тут раскопкі дзелалі. Нахадзілі там рэчы ваенныя.

Само азяро сільна глубокае. Вон, як яшчэ Сцяпан жыў, так змяраў возера. Дванаццаць сажэняў, дык яшчэ не хапіла. Двое вожаў коньскіх апускалі, і дна не дасталі. Вельмі глыбокае. Неяк ямамі дно ідзець.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Грыгаровіча Мікалая Мікалаевіча, 1939 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

**425.** Раньшэ быў такі расказ, што на гэтым месцы стаяла цэрква. А тады як ішоў ляднік, ён жа ішоў павярху і раставаў. А там было ўглубленьне і як растала, то ўтварылася возера. А царква пайшла пад ніз. У мяне папа на гэтым возеры лавіў ракаў. Ён мерыў – да трыццаці метраў дахадзіла.

Каля гэтага азяра ёсць валатоўкі, французскія магілы. Гэта праўда. Вот канчаецца наша возера. І там расказваў хто-та, як я хадзіла ў школу, я сем класаў кончыла. А там была гарушка, высокая, метры чатыры, як мая хата. Дзедушка мой расказваў, як прыціснулі французаў к возеру, там лес быў. І тут іх многа пабілі. І тут іх многа было пахаронена. Гэта там называлася Прудок. Гэта французскія магілы, валатоўкі – там пачыналіся дубы.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Тамары Грыгораўны, 1921 г.н. у в. Кісялі (нар. у в. Тарапы) Чашніцкага раёна.**

## 426. Сьвятое азяро каля Лепеля

У Лепілі во, гаварылі, што святое возера называецца. Сьвятое, што вот правалілася царква там, у тое азяро. Гэта есьлі купацца – нельзя там, што ўсераўно туды утопішся. Там ад берага глыбока зразу, кажуць. І ўродзе гаварылі, што ў Паску там чуваць, што званы звоняць, у тым азяры.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Мацкевічаў Міхаіла Пятровіча, 1930 г.н. і Ганны Еўдакімаўны, 1936 г.н. у в. Мядзведзеўка Лепельскага р-на.**

**427.** Цэрква правалілася – эта ў возеры пад Лепелем. І так называецца – Святоя возера. А гэта возера нешчаслівае, там многа топіцца. Эта Святоя, кала яго нада акуратна… А мая баба казала, што на Івана там званы чуваць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2010 г. в. ад Крыцкай Еўдакіі Яфімаўны, 1927 г.н. (жыхаркі в. Окана) у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

**428.** А ў Лепельскім раёне, возле самога Лепеля, ёсць Святое возера, гаворуць, там царква правалілася, дужа глыбокае. Сразу як выязджаеш, едзіш на Бярэзіно і на левай старане Святое возера, там і напісана, што яно святое. Даўней там ваду свяцілі на Хрэшчэнне, цяпер ужо ў цэркве, а даўней усё ў прорубе хрысцілі. Людзі купаліся ў прорубах, можа і цяпер хто так дзелае, я я ўжо даўно там не бываю.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на).**

### 429. Возера Сьвяцец

Пра гэта возера нічога такога не расказвалі. Гаварылі вот, што цэрква правалілась. Дык вот старыя расказвалі, што ішла бабка бярэменная, зачапілася, павалілася перад цэрквай і гаворыць: “Што б ты правалілась”. Насколька гэта праўда, можа сказка? Ну і гавораць, цэрква і правалілась. Там і рыбы няма, і дна няма. Вада там карычневая, можа, што торф.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Качанок Марыі Міронаўны, 1933 г.н. у в. Галякова Полацкага р-на.**

### 430. Возера Свяцец

Ну, гукалі так, з дзецтва ўсё гаварылі, што там цэрква была, дзе азяро цяпер. Ну вот, ішла бабка вродзе какая-то, і сказала, пракляла, каб правалілася.. Ну, усе так гаварац, што і правалілася цэрква. Ну і што глыбокая такая. Там, помню мерылі ўродзе. Ну, веровку прывязвалі, і там, гавораць, дна там нет. І рыба не вядзецца, нічэво нет. Какіе-то там газы вродзе.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

**431.** Озера святое – Свяцец. Ну вот, гэта бабка расказвала пра цэркву, ей 105 год было, када мне пятнаццаць. Гэта яна ўжо чула прэданьне эта. Стаяла цэркаў тут. Бабка ішла якая-та ў цэркаў і, гавораць, што зачапілася там і павалілася. Гаворыць: “Каб ты правалілася”. І вродзі бы цэркаў гэта правалілася. Ну і раньшэ вось гэта ўсё старушка расказвала. Раньшэ дажа доскі плавалі якія-та па возеру. І вось ужо, як падойдуць, так у вабед – гул такі, як званы.

Гэта возера, як бяздоннае. У ім рыбы аніякай ня водзіцца. Вот дажа мой сын, карасёў налавілі ў сажалкі і запускалі туды. Во запусцілі, з гэтай стораны яно топкае, а аттуда – яно нятопкае. Падашлі, і вот, гаворуць, назаўтра прышлі, вот ён вядро карасёў туды вылеў. Назаўтра прышлі, а там гэтыя карасі, вот усе ўверх брушкамі плаваюць. Рыбы нет, толькі жукі такія бальшыя плаваюць. Ні лягушак, ні рыбы – нічога нет.

Ну і там, када мае мальцы былі яшчэ маладыя, тут былі, дык плаваць там браліся. Там буза, гаворакь. Сколька яны шастоў ня дзелалі, не звязвалі такія жэрдзі, апускалі – дна там не найшоўшы былі. І зімой там каток, і тады звязвалі жэрдзёй, і піхалі, і канца нет.Там ніхто не жывець. Людзі там не тапіліся, слава Богу, але, кажуць, і сабакі туды ніколі не бегаюць.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 432. Святое возера

А Святое возера таму, што там цэркава затанула. Цэркава затанула на Кажаршчыне, і там затанула! Што малая возера назвалі. Вот і назвалі Святоя.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Шандрык Лідзіі Фёдараўны, 1928 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

## 433. Святое возера і скамянелая жанчына

Ну ў нас там када-та была легенда такая. І, эта самае, прышоў старычок к бабкам. У дзерэўні нескалька хатак было. І прышоў прасіцца, каб пусцілі яго пераначаваць. Ну яго ніхто не пускаў. Ён зайшоў там к самай старэнькай бабке, і ў яе дочка была. Маленькая была дочка, маленькая была, эта самае, дзіцёнак у её. І, эта самае, ну як, у дочкі быў маленькі рэбёначак. Ён прышоў і папрасіўся пераначэваць. Сказалі: “Пажалуста, пераначуйце!” Ён паначаваў і на ўтра гавора: “Бабушка, сабірайцеся са мной”. Яна гавора: “Не, дзетачка, я ўжэ старэнькая, я астануся, а пускай мая дочэнька ідзёт, з гэтым, з дзевачкай”. Яна, маленькая дзевачка, дык яна ўзяла калыбель з сабой. “Я калыбельку, – гавора, – вазьму з сабой”. Ну і ён гавора: “Ну пайдзём, толька кагда будзеш іці, нічэво не аглядывайся, хто там будзе дзелацца, што будзе дзелацца”. Яна гавора: “Ну харашо, не буду аглядывацца”. – “Даёш слова?” – “Даю!”

Ну яна ўзяла калыбельку такую, калысачка такая, на плечы, дзяцёначка на рукі і панесла. Ідзецца. Ідзе-ідзе, смотра – там крычаць, пішчаць каровы, і равуць свінні, і ўсе этыя самыя, і людзі там плачуць. Яна думае: “Усё раўно я ж далжна пасматрэць”. Яна ўзяла і вот так сагнулася, этага дзяцёначка прыжала і цераз ногі вот так азірнулася, што там дзелаецца. І на гэтым месце прэвраціўся высокі камень. Камень этат во здзесь вот находзіцца он, камень этат, во здзесь. І камень эты быў высокі, і такі образ быў, як калыбель, усё раўно, як калыбелька была. Эта самае, і мы лазілі малыя былі, дык лазілі на этат камень. А камень этат цяпер такой вот стаў, ура-

стае ўжэ, саўсім маленькі гэты камень, саўсем. Ну вот і, эта самае, і ўсё гэта ўсё патапілася і прэврацілася ў возера. Усё патапілася і ён здзелаў возера, гэты Бог. Эта Бог. І здзелаў Святое возера. Тут на карце у этых, у ваенных, наша Святое возера. Вот здзесь вот была лес быў. Дажэ сечас лес дастаюць, пні тутака, калоды, лес быў бальшы.

А камень этат, ну так "камень" і называлі. Пойдзем у ягады "к камню", пойдзем у грыбы "к камню". Вот і здзесь вот недалёка эты камень высокі. Ходзюць к камню, молюцца. Хто веры ў Бога, той ходзе маліцца. Вот такія дзялы. Хто па празнікам, хто как. У нас ужэ няма каму, дзеці, маліцца! У нас ужэ людзей нету, адны дачнікі асталісь. Хто ў лес ідзе, там заходзіць, хто ў ягады ідзе, у грыбы. Тада тожа ідзём, памолімся. Ну молімся "Отчэ наш": "Отчэ наш, а есі на небесі...". Памолімся так.

Вот мама мая тутака жыла. Тут было толька нескалька хат, нескалька. Ён ўсё патапіў, Бог. Дзерэўня ладная была. Ён усё тут на гэтым месце, усё патапіў, так как людзі не слушалісь.

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2009 г. ад Каралёнак Ніны Фёдараўны, 1945 г.н. у в. Дубяні Барысаўскага р-на.**

## 434. Дзявіч'е возера

Ніхто русалак не відзеў. Але існуюць такія забабоны. Ёсць возера такое пад Лепелем, Дзевіч'е называецца. Там, гаварылі, часта выходзюць дзяўчаты з возера. Проста людзям там здаецца, калі яны купаюцца. А там калісьці патанула дзевяць дзевак, у тым возеры. Так гэта на сама дзеле. Я яшчэ да арміі там рыбу лавіў, так нам і расказваў мужык пра гэта.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Пятрашкі Міхаіла Емельянавіча, 1935 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага раёна.**

**435.** Вот чула ў Парэч'і возера называецца Дзевіч'я. А вы каля гэтага озера праходзілі, ну падходзіць блізка к асфальту, к дарогі. І там кагда-та даўным-даўно ішлі дзевяць дзевачак, у Камені была цэркаў. Вот там дажа стаіць такі знак, напісана што памятнік старыны ілі што там напісана. І гэта, ішлі там дзевяць дзевачак ў цэркву і праваліліся. Ну і патанулі там. І вот после таго тое озера назвалі Дзевіч'ім. Вот яно называецца Дзевіч'ім.

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Анастасіі Прохараўны, 1924 г.н. у в. Чаросава Лепельскага р-на.**

## 436. Возера Звонь

Ну, значыць так. Вось тут Быстрая гара, а на гарэ стаяла цэрква. Гавораць, цэрква стаяла. На гарэ стаяла і абвалілася, і звон быў, і упаў у возера. Вродзе і цяпер там знаходзіцца.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Дразда Паўла Францавіча, 1935 г.н. у в. Звонь Ушацкага р-на.**

## 437. Возера Княж

Раней звалася Князь, потым – Княж. Казалі, што княжаскі сын, як быццам утапіўся ў гэтым возеры, вот. На калясьніцы ляцеў праз лес і утапіўся. Ну, што быў лес, то гэта факт. Што было балота, гэта тожа факт, бо як спусцілі у 58-м годзе, дык сколькі карчоў, цэлыя стагі такія, пераміды. І тарфяныя разработкі. Ну, і спачатку не было дамоў гэтых, лес і лес. І туды далей, казалі гэта ўсе лясы. Ну, а потым распахалі і пачалі будавацца. Сама Сталіца была над ракой. Ну вот як ад могілак ісці, гэта Сталіца была, кіламетры 2 ці 3, можа так во.

**Зап. Васільева І. у 2008 г. ад Лагун Глафіры Вячаславаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

**438.** Ну, пра гэта возера таксама па-рознаму гавораць. Гавораць, што як быццам, сын князя ўтапіўся там. Кажуць, што, дзе наш магільнік вот тут, а быў нейкі замак, жыў там князь, а ў гэтым возеры ўтапіўся яго сын. Вось за гэта Князь называлі, а цяпер перайначылі – Княж. Ну, што было возера гэта, то было, точна, і такое не вельмі вялікае, і вельмі забалочанае. А потым паступова яно апускалася, апускалася, і гэтыя ўсе адтопліваліся. У 58-м годзе прарылі такі вялікі канал, з гэтага возера ў раку нашу, у Дзісну, вот ён цяпер ёсць – вось гэты канал, гэты бугор такі высокі. Ну, і многа спусцілі яго – такой яно нейкі Боскі выгляд прыняло, гэтае возера. А цяпер зноў – чаму закрылі там гэту пратоку, я не знаю. А цяпер яно зрабілася – вялікае, гразнае, мелкае, балоцістае. Вот, там дзе спусцілі возера, столькі было гэтых карчоў, каторыя не дагнілі. Пірамідамі такімі паскладаны былі. Значыць, быў лес. Хто не помніць лес, то па гэтых вот пірамідаў з карчоў ясна, што тут быў лес, і ён апускаўся, апускаўся, апускаўся. Цяпер зноў кустамі зарасло, і некалі і яны апусцяцца.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Лагун Глафіры Вячаславаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

**439.** Дык вот я ж казаў пра возера Княж. Этат месца было раўніннае, вакол быў лес. Прыехаў князь, ехаў ён на кані, у вёсцы палюбіў ён адну дзяўчыну, прычапіўся, хацеў на ёй жаніцца, а ў яе быў свой жаніх, яна атказалася, ён яе паймаў і... казніў. У выніку гэта... на следуюшчую ноч, такая легенда ішла, ён праваліўся ў адным месцы пад зямлю, а потым начала правальвацца ўсё большы і большы, і ўтварылася возера, якое названа возера Княж, і цяпер яно называецца возера Княж...

**Зап. Штукар В. у 2009 г. ад Фёдарава Феакціста Ніканавіча, 1934 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 440. Азярко Жабінак і культавая крыніца

Крыніцы ёсць на горачкі. Ага, і вада цікла, цікла і ксцілісі на яе, а цяпер кароў пусцілі, зарудувалі. Гарушка стаіць, шчавель там расцець, во тут во. Там крынічка, а там, кала крынічкі, ёсь такоя азярко, во тут у нас азярко ёсь, а тады во ферма стаіць, а за фермай там такоя азярко. Ну, як вот у драгбе, там ніхто не купаецца, нічаво.Там вот такія, гэта яшчэ даўно гаварылі, што там ёсь вокны, што ты туды ўсунесся і ня вылезеш.

Гэта гавораць, вот там, дзе крынічка, кагда-то стаяла каплічка. Каплічка там была і распяція там. Гэта можа мая баба гаварыла, што там када-то была цэркаўка, а быў вецер і цэркаўку згарнула, во гэта месца, дзе стаў Жабінак гэты. Дзе вада цяпер,дзе вокны. І цэркаўкі не стала,а крынічка асталася, і тут, гавораць во, няйдзіці, там вокны. А мы, во там журавіны растуць, а мы трошку шах-шах туды, а там во так усё дрыжыць, калоіцца. Мы тады назад адступаем, дык вот гэта было даўно, а цяпер ужо гэны Жабінак, завецца “Жабінак”, а цяпер ён ужо звужаецца, мусіць там гэтыя ўжэ дзёрны ператвараюцца ў зямлю, можа, камянеюць. Жабінак, ён ад прэдкаў, ад прэдкаў – Жабінак. Там царква правалілася, гэта я чула. А мы цяпер тут і відзім Жабінак, і відзім, што гэта там трава і там ніхто не пасецца, і туды ня ўсходзюць. Карова раз усунулася, за ногі чуць выцягнулі.

Крынічку, як хадзілі мы, старыя, на работу, мы яе вычысцім, і там ены ручаёк бяжыць цэла лета і зіму ён там. Жывая яна, а цяпер ужо каровы стада там ходзюць во так во. “Жабінская” мы яе звалі, крыніцу тую. Ну, яе не зраўнялі, стаіць там гара во тут во. Ваду бралі, памагала. Што святая, гэтак не гаварылі. А гэта нада сам сябе ўнушыць. Тады ты вазьмі во вады з майго калодца, памаліся, пастаў і сам сябе ўнушы к Божачку. А рушнічкі прынасілі. Там быў хрэсцік, пакрывалі гэта ўсё. А цяпер там няма нічога, там толькі крынічка, і тую ўжо затаптываюць болей. Гэта самая аснаўная тут крыніца, яны ж болей ёсь вот па горках дзе-ліба крынічнае места, вот туды, пад Двор [Бабча] ёсь. Там ужо пазарастала.

**Зап. студ. ПДУ Жолудзева П., Шэпіла У. у 2007 г. ад Рублеўскай Ірыны Усьцінаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Кісялёва Ушацкага р-на) у в. Бабча Лепельскага р-на.**

**441.** Раньшы там, дзе во тут крынічка была, дык цэрква стаяла, дык я ж не знаю, гэта старыя мае бацькі гаварылі. Дык яе знясло бурай на ніз, гэту цэркву, цяпер там балота. Правалілася і ўсё. Балоцца, яно бальшоя, гэта як яго, вакно было.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Камзюк Васіліны Аляксееўны, 1927 г.н. у в. Бабча Лепельскага р-на.**

## 442. Бяздэннае азяро

У Бяздэннае возера правалілася царква. Правалілася царква і стала возера. Так сразу як глянеш – чорна, ціна. Бяздэннае называецца. Усе баяліся туды хадзіць, там ціна, зачэпісся і не выплывеш. Казалі, звон з-пад вады быў чуваць.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

## 443. Возера Велье

Ай, ну гэта так казалі, што раней там, за азяром ля кладбішча царква або капліца стаяла. Там і дзярэўня недалёка была, немцы яе спалілі, як азяро называлася – Велье. Ну во, дык гэтую царкву або капліцу, хто яе ведае, што там было, разрылі. А іконы несьлі праз азяро, зімой, у Горсплю. Ну і расказвалі, дзе няслі, у ціхую ды і любую пагоду, а няслі тады тры іконы, – тры паласы. Мы і самі хадзілі глядзелі – ёсьць тыя палосы. Можа і праўду што такое было.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Гігелевай Ніны Сцяпанаўны, 1920 г.н. у в. Шалашнікі Расонскага р-на.**

**444.** Была ля Велье царква. Ну, і адным разам правалілася пад зямлю. А Багародзіца пашла прама па возеру. І дзе шла яна, там і засталася дарога.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Крывашэевай Ганны Сьцяпанаўны, 1909 г.н. у в. Лапешчына Расонскага р-на.**

## 445. Азярко, дзе правалілася царква

А царква, царква правалілася. Гаварылі во тут, як едзіш бальшаком, такое азярцо небальшое, луг такі, азярцо. Гаварылі там царква правалілася. А ці гэта праўда, ці не?

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Бароўка Е. М., 1929 г.н. у в. Крывое Сяло Шумілінскага р-на.**

## 446. Царкавішча

Эта ў Гарбачэве, там возера такоя, ці балота такоя, там цэрква правалілася. Канешна, награшылі. Такім ніколі не вязёць. У нас на цэркві хата былы пастроена. І ім жа не вязло. І ўсё ў іх абы што. Усё казалі, што не нада строіцца на цэраві, на гэтым месці.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ступак Соф'і Міхайлаўны, 1926 г.н. у в. Лаўрэнаўка Талочынскага р-на.**

## 447. Лешава возера

Лешава, яно называецца атвеку... Гэта я яшчо малая была – усё гаварылі. Баба мяне век у царкву вадзіла, цэрква стаяла ў Чарсьцьвядах, во там

на гарэ. І вадзіла яна мяне малаю. І тады вядзець мяне па дарозе, во так сойдзеш на ніз, во сюды... І тады вядзець, і каля Лешава па гары, там дарогай, і тады гаварыць: “Ну во, ўнучачка, тут жа цэрквачка во правалілася ў зямлю. Вада во тут, – гаворыць, – сьвятая вада. Во тут цэрква стаяла...” Дак ці яна помніць сама, ці ей тожа расказаваў хто, баба там ці дзед...

Там, гавораць некатарыя старыя рыбакі, што там такія ключы паяўляюцца напасярод. Там нешта, як круціць што, як хватаіць. Да, й можыць схваціць, закруціць – і ўсё.

Я тожа гэта чула. Гэта усё баба мне гаварыла, што тут і іконкі даставалі рыбакі. А я ні знаю, ці даставаў хто што.

**Зап. экспедыцыяй СЭТ у 1994 г. у в. Горы Ушацкага р-на.**

**448.** Да, легенда йдзець такая праз гэта возера, што там утанула царква... Раньшы туда, вон у каго глазы забаляць, хадзілі ваду чарэпалі, з гэнага... [возера]. Мылі глаза, і гаварылі, што харашо [памагаець]... Ідзець легенда, а хто яго знаець, што там было. Ну, гавораць, што там царква стаяла. Ну, царкоўнае што-та такое там. Эта ідзець такая легенда. А чорт яе знаець, ці гэта праўда ці не. Друг другу гаварацць, можаць быць, і няпраўда... Ну, вада адтуль харошая.

**Зап. экспедыцыяй СЭТ у 1994 г. у в. Загор’е Ушацкага р-на.**

### 449. Азярко (Царкавішча)

Ёсць у нас невялікае, як цэркаў, возера. Там такое месца, дзе берагі абрастаюць, а вада стаіць ціхая. Яно размерам, як дом. Заўсёды гавораць, што там правалілася царква. Каля возера ёсць лес, і мы заўсёды хадзілі праз гэтат лес ў школу.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Касьмін Валянціны Іванаўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

### 450. Царкавішча

За Трудамі тое Царкавішча. Хадзіла я на тую гару. Старыя людзі гаварылі, што цэркаў правалілася. Да, пад гарой – азяро. Правалілася цэрква. Адзін чалавек лавіў рыбу. Гаварылі так. Паймаў звон. Ну і гаворыць: “Я цяпер табакі накупляю за гэты звон”. А звон вылецеў з рук. Абразавалася зоркае азярко, там шуміну ўкінь – яна відаць. І дна нет.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Трафімавай А. Ф., 1912 г.н. у в. Вялікае Сітна Полацкага р-на.**

### 451. Бяздэннае азерка

Бяздэннае азерка. “А дзе ты быў, дзе каровы хадзілі? – Ля Бяздэннага азерка”, – во такая гаворка. Ага, там цэрква стаяла. Матка ці баба гаварылі.

А тады тамака мужык адзін Евангельлю чытаў. Дзядзька зайшоўся начаваць і чытаў Евангеллю. А тады, што ета нешта случылася. Рабенак плакаў, ну, нешта такое было. І гэта зразу праваліласся гэта цэрква. Плаваў толькі стол, на тым возеры, дзе Евангельле ляжаў. Хто яго ведае, ну, можа, басню баба расказвала. Там нет дна. Там ці яно саедзіняецца з гэтым Асвейскім, можа, як з возерам.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Дашкевіч Антаніны Сяменаўны, 1930 г. н. у в. Гарадзілавічы Верхнядзвінскага р-на.**

**452.** Сабраліся людзі на службу ў царкву на ўсю ноч (Вялікдзень). І дачка адной маткі тожа пайшла. А ноччу той матке нехта ў акно пастукаў і сказаў, каб ішла і забрала сваю дачку з царквы. Ну яна так і зрабіла, а астальныя разам з цэрквай праваліліся. Возера стала. А матка з дачкой спаслісь, што бязгрэшныя былі

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1923 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

**453.** Вот, як па дарозе ісьці ад Чапаеўскай, там недалёка, тамака на гэнай старане такое азярко. Там нет дна. Там ці яно саедзіняецца з гэтым Асвейскім, можа як возерам. Можа, і пад зямлей. Ну ніхто там не правяраў. Ну вот, там калісь… Яшчэ мая свякроўка адседава, яна казала, какія-та там ужо прэдкі расказвалі. Кажуць, стаяла тамака цэрква і там праваліласся яна.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Суворавай Валянціны Міхайлаўны, 1942 г.н. у в. Гарадзілавічы Верхнядзвінскага р-на.**

### 454. Азёрка

Вот там дзе ёсць Азёрка называецца, у сваі врэмена, гаварат, шо там была цэрква і праваліласся, за то ні ў коім случае берагоў нету, ніхто не нахадзіў… Гэта ў нас ёсць у Зябках во тут во, у дзярэўні – Азёрка завецца.

Там стаіць бальшая гара. Там стаяла цэрква. І ў сваё врэмя гэта царква праваліласся і на места цэрквы паявілася Азёрца, но ў яго нідзе беражкоў нету.

**Зап. Сулімаў С. у 2009 г. ад Буёнак Мальвіны Уладзіслаўаўны, 1930 г.н. і Абрамовіч Веранікі Уладзіміраўны, 1944 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на.**

### 455. Возера Мнюта

Гэта я чула, што касцёл нібы быў, як вот у Задарожжы і там, у нас. І там ёсць остраў на возеры. Вот между Мнютам тым і Вяльцом возера большое, знаеце? Ну і гаворацць, што там і кірпічы нахадзілі, што там права-

ліўся нейкі касцёл, і вот стала возера. Там не было возера пакуль праваліўся касцёл. І вот там такі востраў ёсць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**456.** Я асоба ні чула. Чула, што уваліўся касцёл у возера і усё. Яшчэ і калясьніца там. Такая залатая. Ці штосьці ячшэ ў ней.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Стараннік Валянціны Іванаўны, 1964 г.н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на.**

### 457. Возера Вочка і Лысая гара

Вочка, гэта кала Пятніцкага, кала дарогі. Яно глубокае-глубокае, гаварылі, што дужа глубокае. Там ні купаіцца ніхто, ні разу нічога... Можа там рыба і ёсць,алі ніхто ня ловіць... Вот эта гаварылі, што эта вродзі бы ў Вочкі царква калі-та правалілася, алі гэта ніпраўда... А яшчо была Лысая Гара кала Вочка гэтая. Ёсць Лысая Гара. На ёй, гаворацъ, нічога ні разу ні радзілась, на той гарэ. Што ні пасеюць, нічога не расло. Вот яе і празвалі Лысая Гара.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Г. І., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

### 458. Возера Оталава

Вот каля Каз’янаў, там азяро такое – Оталава. І людзі гавораць, што яно кожны год, калі замярзае, абавязкова забірае да сябе чалавека. Хоць адзін да утопіцца.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Жарнасек Надзеі Іванаўны, 1929 г.н. у в. Каз’яны Ушацкага р-на.**

### 459. Даўжанскае (Доўгае) возера

А ты помніш Даўжанскае возера? Пака чалавек, ну вот я помню, не ўтопіцца, то яно не стане… Да. Кажуць ўсё роўна далжон ўтапіцца то рыбак, то яшчэ хто. Калі не утопіцца – не станіць яно, ці які мароз ці што… Але точна праўда, точна праўда, нада каб ўсё роўна нехта ўтапіўся…

**Зап. Сулімаў С. у 2009 г. ад Буёнак Мальвіны Уладзіславаўны, 1930 г.н. і Абрамовіч Веранікі Уладзіміраўны, 1944 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на.**

### 460. Возера Бобрыца

Яно раньшэ, гэта возера Бобрыца, яно ж было дужа гаючае. Есьлі прышчык які, ці болькі – ідзі, кажуць, пакупайся ў Бобрыцы і ні станіць. Было сьвятое, прама як сьвятое, а ціперака ў ім і топяцца, і ўсякае адусюль

плывець. Яно ўжо пачынаіць цвіцець, раньшэ ж не цвіцела. А перад вайной хлебапякарню паставілі і каплічку тую зняслі.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

## 461. Возера Сітна

Сітна – таму што ў возеры расцёт сіта, назвалі возера Сітна. Трава такая. Яна не візьдзе расцёт, сіта эта. Трыснёг расьцёт і сіта расьцёт. С нашэго возера какое-то свойства ёсьць лячэбнае. У мяне брат прыяжджаў з Новасібірску з жонкай. І ў яго быў маленькі грудны рабёнак. І он сам выйдзіць пілёнкі сьціраць у летняе ўрэмя на кладке. А хазяйка гаворыць: “Каця, ну неўдобна што б мужык сціраў пілёнкі”. А яна гаворыць: “У мяне экзэма ў руках, нільзя рукі мачыць”. А яна шуця гаворыць: “Ты ў нашай вадзе памачы, папалашчыся і ўся экзэма пройдзець”. Верна, на другой год прыехала, у нас с возера не вылазіла – экзэма прапала.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Макітава Л. Дз., 1924 г.н. у в. Вялікае Сітна.**

## 462. Возера Дзявічкі

Вот гэта Дзявічкі, возера. Казалі, што дзяўчаты кагда-та ўтапіліся.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Бадак В. І., у в. Малое Сітна Полацкага р-на.**

## 463. Возера Вянец

У бацькі аднаго была дачка. Ну, ён купіў хату і нечым было расплаціцца яму. Прышлося яму выдаць сваю дачку замуж за пана. А яна другога любіла. І калі яны ехалі ў царкву, яна ўбачыла свайго хлопца, якога любіла. Сказала тады пану: “Прабач мяне”, – і кінула вянок. І тады раптам прапала, а на тым месцы спачатку была лужына, а потым яна стала ў возера. Яго і назвалі Вянец.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Рубанік К. А., 1940 г.н. у в. Заазер’е Ушацкага р-на.**

**464.** А гэта ж у даўнія часы было. У Замошшы жыў мужык Карпа. У яго было тры дачкі, два сыны. А непадалёку ад Карпы жыў мужык Сяльвей. У Сяльвея была вялікая сям’я. І быў у яго сын Антон. Высокі, прыгожы. Закахаўся Антон у Зосю, дачку Карпа. Карп быў багаты і не хацеў аддаваць сваю дачку за беднага. Як пачуў пра гэта Антось, пайшоў да возера і з гора ўтапіўся. Знайшлі тады Антонава цела, выцягнулі з азяра. Ну, а недзе там і дзяўчына дачулася. А як дачулася, тады ў дзень вяселля ўтапілася

сьледам у гэтым возеры. Знайшлі і цела Зосі. Зрабілі людзі дзве аднолькавыя труны. Выкапалі магілу на двух, пахаранілі Зосю і Антося. А возера, у якім утапіліся хлопец з дзяўчынай назвалі “Вянец”. Возера павянчала тых няшчасных.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Бурдыкі Я. В., 1921 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 465. Крывое азяро

Гэтае азяро, што за Усаяй, і ёсьць Крывое. Былі прыязжалі нейкія, ісследавалі гэтае азяро. У азеры знайшлі ёд. А старыкі даўнія яшчэ гаварылі, што там горад нейкі, стаяў і уваліўся. І праўда ж, калі паглядзіш на гэтае азяро, то яно на самай справе сільна крывое. Гавораць, як прыглядзецца добра, то яно там выгінаецца, як вулачкі, завулачкі… Як горад. Вось і гаварылі старыя, што тут быў калісьці, даўным-даўно, горад А што там случылася? Наляцеў віхор, усё кругом загрымела, усё змяшалася. Змяшалася неба з зямлёй. Горад і праваліўся пад зямлю. А на месцы горада стала азяро, якое назвалі Крывым.

Ну, яшчэ гавораць, што перад святам, перад Вяліканьнем, з азяра чуваць царкоўны звон калакалоў. Рыбакі, якія лавілі невадам рыбу, чаплялі невадам за званіцу царквы і чулі калакольны звон. Гэта было раней. А яшчэ ёсьць такая прымета: калі восеньню возера становіцца льдом, то абавязкова ў адной лунцэ павінен праваліцца пад лёд чалавек. І так во, праз год, праз два і бывае.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Шапо І. С., 1938 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

**466.** Там быў горад. Алі там было многа бязбожнікаў, так іх раней звалі. Ну і вот сталі ў званы біць, Ісуса Хрыста памінаць на Пасху, і яно тады праваліласся, усё. Той горад. Там ужо дужа такіх было многа, што грашылі. Былі і добрыя, і бязбожнікі. Там возера абразавалась.

Раньшы ж цэрква была ў Хоціне, у Усаі, і наша была, як станіць званы, ну старыя людзі пракцікаваліся, як стануць званы званіць, і там ужо (у возеры) звоніць, Божа мой, Божа мой.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Буржынскай Надзеі Кузьмінішны, 1918 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

## 467. Возера Гагол

Там такая топ, што, сколькі не связывалі [вяроўкі], усё тоніць, і тоніць, і тоніць. Ніяк дно дастаць, апоры ніякай. Там была кагда-та цэрква і тады яна праваліласся. І на первы дзень Пасхі вродзе выхадзіла. Але ніхто не знае. Так гаварылі старыкі. Возера гэта паявілась, што вродзе там жыла

дзевушка-красавіца. І яе там нейкія віцелі зацягнулі ў нейкі будан, хацелі яе ізнасілаваць. Ну патом яна нейкае заклінаньне дала, як яна сказала, так яны і праваліліся. Дык вот, у каторае яны праваліліся, у тым рыба во бярэцца цяпер. А радам, цераз дарогу, другое [азяро], разам жа яны утварыліся. Там няма [рыбы], адны лягушкі. Вот.

**Зап. Андруковіч А., Кудраўцава Г. у 2010 г. ад Дзямко Мікалая Макаравіча, 1926 г.н. у в. Свядзіца Лепельскага р-на.**

### 468. Возера Лужэнец

Яшчэ старыя гаварылі, што ў час свайго адступленьня Напалеён у гэтым возеры ўтапіў нарабаванае золата. Возера топкае, зарасло мохам. Былі спрабавалі дастаць напалеёнаўскае золата, але поспеху ніхто не дабіўся. Можа і зараз пад ілам і мохам ляжыць тое золата.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Пухавай Ф. К., 1927 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

### 469. Мёртвае азяро

Мёртвае азяро, яно сотак 25. У лесе, между гор уваліўшыся. Ні травіны, сразу глубокае, ні рыбы, нікога не відаць. У лесе пропасць. Я падхадзіў, глядзеў каля – блізасць нічога нет. Ні травы, нічога нет, сразу чорна. І дна там няма, нічога. Ні вуткі туды не садзяцца, ніхто…

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

**470.** Пра Мёртвае возера кажуць, што цэрква правалілась. Напрыклад, еслі на Пасху ідзе абедня, як Ісус Хрыстос васкрэс, дык тады, кажуць, галаву паложаць, і там дзынкаюць званы ўнізу. Я каля гэнага возера была, ягады збірала. Гэта за Горнавам, як ехаць на Перасечына, на гару. Там нічога не расцець, толькі ягады. Толькі трава не расцець, і рыбы няма. Грэшнае нешта там было.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 471. Баламутнае азярко і бугарочкі

Вот як у Вушачу едзешь, гэта "Гаранскі мост" называецца. І вот як на левую сторану, лес у гэным лесе абычна, гаворaць, зводзюць. Там нейкае азёрка гаворaць ёсць і, як дайдзеш, да гэтага азёрка – і ўсё, памяць цераеш, і ўсё, будзеш хадзіць, і невядома, скольки будзешь хадзіць і дакуль. Гэта ўжо чэрці водзяць... І асобенна, гавораць, дайдзі да гэтага азёрка, і абалмуціць. Ну вот хадзілі гэныя па грыбы, па ягады, дзеравенцы заазерскія, і рассказвалі. Гавораць, толькі ткнешся да гэтага азера, так і баламуціць.

Там яшчэ калі якая вайна была. Яны шчэ расказвалі. Даўным-даўно. І там многа магілак, бугарочкі вот такія длінныя. І я была ў тым лесе. Я гавару: "Ну, а гэта тады што?". А гэта яны і казалі тады, якая вайна была. Гэта, гавораць, магілкі. Тут, гавораць, прыціснулі гэтых вайско гэта і, гаворань, усіх тут палажылі і пазакапвалі. Тут жа рака ёсць, і там вада была красная ад крові, гаворань.

**Зап. Аўсейчык У., Ключнікаў Б., Панцялей Д. у 2006 г. ад Крайновай Ядзвігі Арцёмаўны, 1927 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

## 472. Азярко Бяздонка

Здзесь вот ёсць у нас Бяздонка, то вот маленькое азярцо, Бяздонка. То говорат, когда-то на этом месце былі постройкі, но это было давно, ешчо до вайны, кагда была рэволюцыя. І вот эці постройкі, ані праваліліс туда, згнілі там, і образовалася балота на этом месце. Вот такое повер'е тожа сушчэствует, что ушлі ані, как бы туда на дно, это озерцо, і із этого азерца стало настоящее балота. Ані жэ гніют, выдзеляют запах, потом это всё откладываецца на дно, туда вот эта згніўшая дрэвісіна, і образовалось вот на это месце болотце. Вот такое ёсць повер'е, а как там было на самом дзеле, цех ужэ людзей, которые это відзелі, ужэ нет в жывых, это было давно, да вайны.

**Зап. Ляненка В. у 2010 г. ад Шавель Алены Паўлаўны, 1939 г.н. у п. Баравуха-1 Полацкага р-на.**

## 473. Чортава (Чорнае) азяро

Ёсць Чорнае болото, за Белым, Чорнае балото называется. Вот его называлі раньшэ Чортавым, а цепер яно Чорное. Ну вот говорат, там вродзе какая-та ведзьма жыла, і патом ана ноч'ю выхадзіла, і людзі баялісь рыбачыць там, на нём, хадзіць к нему туда, купацца в этам Чорнам озерэ. Ну ано не бальшое. Вот раньшэ называлі яго Чортавым, а потом, што бы людзі не пугаліся, сталі называць яго Чорным. Вот такое знают, што здзесь есць, все-все жыцелі.

**Зап. Ляненка В. у 2010 г. ад Шавель Алены Паўлаўны, 1939 г.н. у п. Баравуха-1 Полацкага р-на.**

## 474. Рака Дзіва

Рака Дзіва, гэта было нейкае сьвята. У царкве сабралася многа народа, свянцілі зёлкі там, усё. А тут французы запалілі куль саломы і пусцілі па рацэ. Людзі выбеглі з царквы і пачалі крычаць: "Дзіва! Дзіва!" Адгэтуль і назва ракі. А французы пабілі людзей, і на гэтым месцы з'явіліся валатоўкі.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Корабавай Марыі Ягораўны, 1930 г.н. у в. Вяркуды Ушацкага р-на.**

**475.** У Дубраўскім сельсавеце ёсьць рака Дзіва. Адкуль такая назва Дзіва? Што значыць "дзіва"? А гэта значыць, што рэчка некага здзівіла і чымсці здзівіла. Пра гэта старыкі расказвалі. Што ў Напаліёнаўскую вайну французы прышлі да гэтай рэчкі. Трэба ім было пераправіцца на другі бераг. Пакуль думалі-гадалі, на рэчцы з'явілася "дзіва". А гэта рускія салдаты зрабілі плыты, на іх з саломы паставілі кулі такія і падпалілі. Французы, як убачылі, што па рэчцы плывуць салдаты і гараць, вельмі здзівіліся. З той пары і завецца тая рэчка – Дзіва.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Шапо І. С., 1938 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

## 476. Крыніцы, азёры і Чортава балота

Крыніцы ёсць. Яны ніяк не называюцца, але там вада ніколі не высыхае. Вада крынічная заўжды чыстая, празрыстая і заўжды халодная. Нават калі вялікая спякота вада застаецца халоднай. Яна і памагае. Ваду пілі, абмываліся ёй. Гэта вада не шкодзіла – яна лячэбная. Ваду захоўваць доўгі час можна ў звычайнай бутэльцы альбо шклянцы. Яна не порціцца, не зелянее, німа ніякага асадку. Заўжды чыстая. Я і сама хадзіла. Ля крыніцы растуць лячэбныя зелкі, тады сабіралі і свянцілі. Гэтыя травы дапамагаюць ад усіх хвароб. Дзяцей акурвалі ці папіць давалі ім, і вельмі дапамагала ад іспугу. А зёлкі называюцца "*падвейчык*".

А балота тут завецца "Спрэчнае балота". Бо людзі купілі зямлю з адной стараны балота і з другой, а балота гэта, паміж, назвалі "Спрэчным". І людзі спрачаліся за зямлю, дзе чыя. Не маглі падзяліць. Рыба там водзіцца толькі вясной. Балота гэта не глыбокае. Выцякаюць падземныя рэкі ў Скрундаўскую рэчку, а потым у Саранчанскае возера.

Людзі ў азяры тонуць часта. У возера не можна лесці да "Зяленых свёнтак", бо вада яшчэ не свенчана, і да гэтага свята людзі часта тонуць, а пасля Сьвяты дух пасвенціць ваду, і людзі не так часта тонуць. У азяры не можна купацца на сьвяты.

Яшчэ ля Скрундаў балота, называюць "Чортава балота", бо там заўжды нешта здаецца. Есць такое балота у весцы Скрунды. Там і грукаюць, і звяры нейкія здаюцца. І гаваралі пра такія вокны. Іх канешне трэба апасацца, бо калі пападзеш у гэта акно адразу ўтопішся навекі і ніхто цябе не знойдзе і не выцягне.

Было аднойчы паехалі ў лес, дзе Каменскае возера, каля яго хадзілі-хадзілі кругом і вярталіся на тое месца, дзе і былі, і ні як не маглі знайсці дарогу. І пакуль пацеры не змовілі, не маглі выйсці. А вось як сьніш азяро – гэта да апаснасці. А умыванне у азяры – да радасці. Сьніць балота – гэта

значыць нешта нядобра, неблагапрыятнае становішча. А для закаханых – ізмена у каханьні. Але ж і балоты, і азёры стварыў Бог…

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Гарбінскай Леакадзіі Іванаўны, 1933 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

### 477. Чортава балота

Чортава балота патаму, што там людзі прападалі. Блудзілі, іх прыхадзілася іскаць. Па нескалька дней іх не было дома. Гэта балота, сколька я помню, сколька твая прабабушка помніць, яно ўсё ўрэмя і ёсць. Яно очэнь-очэнь даўно. Там былі раньшы такія дыры, што туды можна было праваліцца – і ўсё, і найці нельзя тады чалавека... Яно очэнь бальшое, таму там людзі блудзяць. Яшчэ ў нас ёсць тут балоты, но але яны не бальшыя. Адно толькі вот, хоць яно ўжо зарасло, но па ім кагда ідзеш, яно зыбаецца. Гэта кагда-та было тут озера, і там палотны ў старыну бялілі, туды насілі, замачывалі, адбелівалі...

**Зап. Лутава Г. у 2009 г. ад Шчарбаковай Ганны Філіпаўны, 1940 г.н. у в. Ткачова Полацкага р-на.**

### 478. Дзякова балота

Луг у нас за дзярэўняю туды. Каля Дзякова балота. Дык, бывала, чэрці вадзілі. Ну што, Хрысціна тут жыла на перакростку, каля магазіна. Пайшла ў Белаковіцы. Тады пяшком хадзілі. Пайшла пяшком у Белаковіцы, дык што ты думаеш, сталі вадзіць па гэтым лугу. Во ідзець сцежка, во там дарога, во там дзерава стаіць. А яна тры часы хадзіла. Світаць стала, тады апрадзялілася сваёй дзярэўні, і Белаковічы кінула, і ўсё. Замарылася. Рада, што дамоў вярнулася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

### 479. Чортава Балота

У Чортавым балоце – там увесь час блудзілі. Я сама хадзіла. Бывала, хадзілі ў Заслонава. Рана ўставала, каб рана зайсці ў Заслонава. І там да самага віднага хадзілі і блудзілі. І мы самі хадзілі кругом, здаецца там лес, а там чорт знае што. Як развіднелася, дык тады ўбачылі і прыйшлі дамоў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кастрыцкай Марыі Васільеўны, 1936 г.н. у в. Кастрыца Лепельскага р-на.**

**480.** Вот тут поле ёсць, дык кажуць, чэрці вадзілі. Водзяць с утра, еслі хто пойдзець, то кажуць чорт водзіць. Па полю. І Чортава балота ёсць,

сюды далей. Каля балота поле. Ну, вот там блудзілі, а калі на раніцу пятух запяець, тады ўжо ўсё. Чэрці з дарогі саб’юць і водзяць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Скамароха Пятра Іванавіча, 1928 г.н. у в. Кастрыца Лепельскага р-на.**

## 481. Чортава балота і гара Начоўкі

Начоўкі там, там ёсь. Гэта гара такая здаравенная. Чортава балота ёсь. Прама па дарозе, там яно заросшая. Там і гара Начоўкі, і Чортава балота – эта ў адным месці. Балота гібкая такоя, топкая, калі ўжо хто ў гэту трасіну ўлезіць, то ўжо ня вылезіць, вот яно і завецца чортава. У балота ўцягаваіць чорт нейкі, туды і ўсё. Выйці чалавек ня можаць. Во як на Баяршчыну іці і налева.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бярговінай Таццяны Карнееўны, 1926 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

## 482. Балота Карнічок і Рэвуцкія прарыткі

Гаворaць, ну я сама… не здавалася мне, а вот і мамке маёй здавалася, як на эту самую мельніцу хадзілі. І вот тут з леса выйдзеш, і там палянка на левую сторану, а на правую балотца – Карнячок. Ну там каля Карнячка – гарушка, там і косці бываюць выторкваюцца. Гаворaць, там каго-та хаpанілі.

Карнічок, так называецца балотца, а можа і гара Карнічок. Балотца так называлася, можа, і гара так. Там вот зданькі задаваліся. Гэта па правы бок дарогі, а на левы будзе палянка. Прайсці за ферму, з левай стараны лясок кончыцца, а з правай будзе лясок.

Мамаша ішла, гаворыць: “Іду, ай, загаварылі, загаварылі дзеўкі нейкія, ўродзе як в лесу, і песні запелі. Я, – гаворыць, – стала, прыслухалась, яшчэ пашла туды пагледзець. Ціха, нідзе нікога нет. Я спугалася, бегам пабегла ўцякаць”. І ацец мой гаварыў, што яго там з ног нешта збівала. Там, на дароге, насупраць. Многа там людзей расказвала, што здавалася.

Бацьку майму ў дванаццаць часоў ночы здалося, а вот мамка мая шла днем, гаворыць, у абед. Я хадзілі па грыбы, але мне самой нічога не здавалася. Там ячшэ ёсць акопы, немцы ў вайну абарону дзержалі, там яшчэ ёсць ямкі выкапаныя.

Ну во там яшчэ Рэвуцкія прарыткі – гара тожа. Як на едзем, мельніцу як праедзем, мельніца ж як на гару падымаешся, дарога пашла. Потым едзеш як па роўнаму, а потым пад Рэвуцкае поле гара ўжо ў ніз пашла. І вот эта гара – Рэвуцкія прарыткі, і там тожэ зданькі здаваліся.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Дзянісёнак Анастасіі Іванаўны, 1911 г.н. у в. Лісна Верхнядзвінскага р-на.**

## 483. Балотныя ўрочышчы Ксяндзоўка, Акуляры і Вокны

А во на астравах, во тут недалёчка, каля возера, каля Чорнага, завеца Ксяндзоўка. Там алешнік, амшарына, ну, бяздоннае, панімаеце. Так пашоў і ўсё. Места, дзе гэты чалавек, ксёндз, утапіўся. Месца, не азярко, а так. Калі эта было. У Будах там яшчэ ёсць два старажылы: Буда Пётра і Буда Канстанцін, так яны знаюць. А ў Буды Пётры, матка ехала ягоная ў Дзісну, от тут, напрамік, і ў яе конь. Гэта зімой было, а в'юга бальшая была, ён мне расказуваў, узяў ды ўтапіўся гэтат конь, праваліўся, толькі на аглыблях ён і астаўся. Тады, жыў там такі Аношка, шчэ на мху далёка, тады яна пашла туды, вот, з фунаром ён прышоў, і гэтага каня яны як-то выкацілі, і запрог ей, і паехала. Вот ён усё мне расказываець, гэты Буда Пётр.

А пра ксяндза…, ну вот ехаў і праваліўся, і пашоў, і ўсё. На санёх, і сані і ён, і ўсё. Так і завеца Ксяндзоўка цяпер: "Дзе вы былі?" Кажуць: "На Ксяндзоўцы". От. Ксяндзоўка. І ўсе знаюць. Возера і алешнік, і тут у гэтым алешніку такія, знаеш, кажуць крыніцы даўней былі, звалісі. Ну вот ён і пашоў туды, коні і ўсё.

Ну, ёсьць яшчэ балота эта, тут во, Акуляры. Акуляры завуца яны. Я хадзіла. А чаго Акуляры? Вот, во тут во такая во кругловіна, ну, бальшая такая, і тутака, а тут во (паміж імі – рэд.) можна было прахадзіць, ну вот назвалі Акуляры, яны спрыдвеку вечныя Акуляры завуцца.

Яшчэ Вокны ёсць. А вокны, чаго вокны: вот, туды, туды, туды і туды – гэта звалісі вокны. Усё кажуць: "Дзе ты быў у ягадах?" "А-а-а. Каля акон". Ну вот. "А дзе быў?" "У Акулярах… дзе Акуляры". Акуляры – там дужа балота бальшое, бальшое. А Вокны – эта чатыры такіх (балотных азярынкі – рэд.). Каб хто вас такі маладзейшы завёў і паказаў, каму нада, Вокны і Акуляры.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Мёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

## 484. Балота-царкавішча

Знаю, болото, которое находится вблизи деревни Дварище. Якобы давным-давно здесь была церковь, которая провалилась под землю. На ее месте появилось озеро, которое со временем заросло и стало болотом.

**Зап. Лабанаў Д. у 2010 г. ад Лабанавай Віліі Пятроўны, 1940 г.н. у г.п. Расоны.**

## КУЛЬТАВЫЯ КРЫНІЦЫ

### 485. Піруцінская крыніца

А, крыніца! Дык гэта некалі гаварылі, што там даўным-даўно ішла карэта звалілася. Ага! Карэта ці нехта з яе. І як бы золата туда ўпала ў тую крыніцу. І гэта даўно было і мяне яшчэ не было. І мая баба расказвала, што там з'езд быў, не так як зараз. І хто-та там ехаў ці каго-та вязьлі ў той карэце, і карэта туды ўвалілася. Ці з карэты, і золата туды ўсё засыпана. І усе туды хадзілі. Посьле, гаварылі, неікія капацелі капалі і іскалі тое золата. Як Еўфрасіньню вязлі, хадзілі піць у тую крыніцу і грошы кідалі туды.

Яна ніяк не называлася. Зараз яна бур'янам зарасла. Цяпер толькі ўспомнілі пра гэту крыніцу. Яе разумелі, як свянцоная вада. Калі Еўфрасіньню неслі, то ваду з яе бралі, маліліся там і кідалі (капейкі). Но ўжо тых людзей век нет. Ну хто хадзіў? Людзям бальным саветавалі, што вадзічка з крыніцы халодная. Піць трэба наташчах. Я і сам хадзіў, браў адзін раз. Гэта не пра нас было, але мы чулі. Гэта маёй бабушке расказвалі, што ехала карэта, і ўвалілася ў тую крыніцу.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Маліноўскіх Паўла Кузьміча, 1925 г.н. і Раісы Афанасьеўны 1928 г.н. у в. Піруціна Полацкага р-на.**

**486.** Да, ёсьць крынічка. Па шасэ, каля моста там. Мы, калі кароў па дарозе ганялі, так і яны пілі, і мы самі пілі, а вадзічка халодненькая-халодненькая была. Мужык казаў, а я сама не адсюль, казаў, што шла нейкая карэта і звалілася, і золата туда, у крынічку пасыпалася. Толькі даўно гэта было, там і калодзец зрублены быў, і кружка нейкая, каб піць удабней. Казаў, калі людзі ў царкву ішлі, так абязацельна грошы ў яе кідалі, і залатыя вешчы некаторыя кідалі… А ваду ніхто не пасвяшчаў, у савецкі час так не было гэтых папоў столькі.

**Зап. Азаранка А. у 2010 г. ад Волкавай Вольгі Канстанцінаўны, 1949 г.н. у в. Піруціна Полацкага р-на.**

### 487. Дзявіччы калодзесь

Гаварылі старыя людзі, бабушка была мая жыва, гаварыла, што дзевушку хацеў насілаваць малец. А яна бегла, уцікала ад яго і сказала Богу: "Праваліцца мне на гэтым месьці, толькі б каб ня дацца яму". І там сразу стаў калодзезь, дзе яна правалілася. І крыж стаяў, і грошы насілі, клалі. Там і палаценцы вешалі, і крыж быў. Ну, поўнасьцю калодзезь. Як бабушка, пакойніца, бывала просіць, як хто ідзець у лес: "Прынясіце мне. Як памыюся, – гаворыць, – зразу мне відней станець глядзець, зразу глазы мае лучшэ відзяць".

Хадзілі проста, як у лес ідуць. І (бабушка) тады просіць. Як толькі ідуць, так яна ужо просіць, банку даець, каб прынясьлі вады. Я і сама хадзіла, капеечкі кідала. Яшчэ посьле вайны людзі хадзілі. Усё ўрэмя хадзілі. Но, але ужо посьле вайны крыжа таго не было. Ён быў, але ён саўсім ужо… Палаценцаў ужо не было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

**488.** Ну, хадзілі туды ваду бралі, яна лячэбная, вада гэта, Дзявічы калодзеж… Гаварылі, што дзевачка ўтапілася, назвалі Дзевічы калодзеж. І там стаяў хрэст, і палаценца вісела, эта мне Ананьеўна гаварыла, расказывала пра гэты калодзеж. І там была такая, ну вот называлася, Танкавая дарога, яна й цяпер Танкавая дарога ёсьць, танкі там, салдаты… І з гэтай Танкавай дарогі трапінка была прыложана, к гэтаму калодзесю ездзілі за лячэбнай вадой. Яна і цяпер памагаіць. Лячэбная вада, яна ж не змянілася.

Танкавая дарога, калодзеж і бралі там ваду, мне тожа Славічак прынасіў. Дык када ён тут жыў, дык я гавару: “Славічак, прынясі мне вадзічкі!” Ён мне тожа каністру прынясець. У мяне ногі балелі, яны й цяпер баляць, дык я піла яе… Можа тады і памагала, цяпер жа эта ж дужа даўно было, хто ж мне прынясець этай вадзічкі, я б с удавольствіем… Мне прынёс адзін раз Славічак, пакінуў каністру, ну дык я яго выпіла, і ножкі мыла, і сама мылася. А ну дык гэта дужа даўно было, гадоў трыццаць назад.

Ну брасалі капейкі, брасалі. Тады былі 20 капеек, 5 капеек, 10 капеек. Тады ж не такія дзеньгі былі. І дзенюшкі туды брасалі…

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Курдзюковай Валянціны Сяргееўны, 1934 г.н. у в. Дразды Полацкага р-на.**

**489.** Пра калодзесь гаварылі людзі старыя, што ж бы дзеўка бегла, цякала ад салдат. Бабушка мая, яна ўжо як пяцьдзесят гадоў як памёрла, яна расказвала, што тая дзяўчына гаворыць: “Лучшы б зямля растварыся, штоб толька не дагнаў ён мяне”. Ад салдата яна ўцякала. І стаўся калодзезь. І яе не стала. А праўда гэта лі не праўда – ніхто не знае. А цяпер ужо, відзіш, там эта крэст стаяў, цяпер ужо нет яго там… А вада была чысценькая-чысценькая, цяпер ужо зарасло.

Глыбокі быў калодзезь… Ніколі не высыхаў. Вадзічка чысценькая-чысценькая, у мароз не замерзне. Бралі, бралі. Рабят малых купалі ў ёй. Ня спіць калі, тады прынясуць тый вады, падагрэюць дый купаюць. Ці хто чару якую напусціў, ці сурочыў. Бабушка пакойная мая, як той прынясець, памыець ліцо: “Зразу чышчэй віджу”.

Хадзілі, хадзілі. Усё ўрэмя ваду бралі. Грошы тады кідалі, як былі шчэ капейкі. І палаценцы вешалі. І ў празнік хадзілі, і па празніках хадзілі. Празнік Пасха была, усягды яічкі туды крашаныя насілі. Раней прыязджаў бацюшка на Крашчэнне…

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

## 490. Дзявочы калодзезь

Ой-ей-ей. Гэта вы цяпер і не найдзіця. Гэта нада іці кілометра можа два… там дзярэўня была, Янчыкі зваліся. Яна троху была такая, жэншчына…ну з галоўкай плоха ей, дык яна нікога туды не падпускала. Вады браць дажа, нічога… Там калодзесь, вадзічка харошая такая, і ўсе ўрэмя, як яна не пойдзець, так і сходзіць хто-небудзь туды. “Дзевочы калодзесь” называецца. Там і хрúсток стаяў, там і ўсе… там храсток стаяў, кожны год там убіралі, убіралі, хадзілі там. Тама знаеш, як савецкая ўласьць была, знаеш, як ганялі…О-го-го! Я яшчэ не хадзіла, маладая была, баялася. Старушкі хадзілі, мама мая хадзіла. Ну, гавораць, што сьвятая вада. Хадзілі, каму нада, можа памагала ад балезьняў…

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Грышановіч Вольгі Сяргееўны, 1923 г.н. у в. Званае Полацкага р-на.**

## 491. Божы ключ

А там ключ, ключ ад Госпада Бога з-пад сонца ідзе, яна лячэбная вада, бяруць як лякарства тую ваду, п’юць. Ад упуду памагаіць, і ад всякай хваробы памагаіць, людзі бяруць і пьюць. – *А можа хадзілі на якія празднікі болей. Можа свяцілі калі ваду?* – Яна тая вада ад Бога свянчоная. – *Ужо і свяціць не трэба, да?* – Да. У любы дзень можна браць. – Ну Бог іх знаіць, ад якіх балезняў яна памагаіць, да ад усякіх балезняў, ад упудаў памагала, і еслі ў цябе ўнутры, што баліць і тожэ памагала, і ўсё ўрэмя. Чыстая (вада), не затыхаеца нічаво, ключ такі, ключ. – *Вот вы казалі “ключ ад Госпада Бога з-пад сонца ідзе”. Як гэта з-пад сонца?* – З усхода сонца цячэ вада – гэта самая харошая вада.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Жамянёнак Надзеі Трафімаўны, 1926 г.н. у в. Труды Полацкага р-на.**

## 492. Святая вада

Там раньшэ быў касьцёл, стаяў касьцёл, і маліліся Богу. І ксёндз там жыўшы. І там калодцы два ёсьць, і яны пасьвенчаны ўсё ўрэмя, “Святая вада” завецца. А цяперака яны там адстроіўшы так, і з крышамі гэтымі. Яна і зімой і летам не замярзаіць. Дажа людзі прыязджалі з Масквы, гава-

рылі, прыязджалі браць, і так многа хто людзі езьдзююць. Там фэст быў на Прачыстую, мусіць, на Прачыстую. Мне самой 66 гадоў, але я яшчэ сама была малая і помню, што тата там сена касіў і я была, і касьцялок яшчэ стаяў, каплічка. І крыж стаяў, а тады людзі ўзялі тут во і аддалі, мусіць, у касьцёл яго. Вот казалі вочы дужа добра мыць гэтай вадой. Бралі ад упуду рабяткам, і купаць бралі.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Драб Аліны Антонаўны, 1942 г.н. у в. Забор'е Мёрскага р-на.**

**493.** Там кагда-та капліца стаяла, у нас тут называлі "касьцялок", што-та такое было. Там фундамент быў астаўся ў паследняе ўрэмя і ўсё. І быў калодзец вот этат. З Мёр едуць цяпер, у паследнія гады. Раньшэ, гаварылі, туды манеты брасалі. А ў нас быў сасед, пакойнік, старшэ мяне гады на 3, можа большы, ну вот яны лазілі туды з другім саседам. Эта яшчэ гадоў 30 назад. Ну, пыталісь эці манеты сабраць, но відна іх ужэ даўно не была. А разгавор такі быў, што брасалі туды (манеты). Хадзілі ж туды людзі, туды ксёндз прыязджаў па празьнікам маліцца. Эта кагда-та была. На маёй памяці там ужэ нічаго не была, там толькі фундамент быў.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Градзіль Ніны Альбінаўны,1958 г.н. у в. Забор'е Мёрскага р-на.**

**494.** Ёсьць такая крынічка: усе Міёры ходзяць за вадой. Калодзец паставілі. І мыюцца, і п'юць – ад усяго памагае. Мы ў лес хадзілі, я ў бутылку набрала. Як папілі, адразу добра стала. П'еш і чуеш, што ты здаровы. І прыязжаюць за вадой. Яна ўсім памагае.

А яшчэ, гэта пры князёх было, даўно дужа было. Пры князёх, ня помню як іх звалі, стаялацэрква. Дзеравушка малая, а храм бальшой. Каля гэтай цэрквы стаяў хрэст, каля яго раднік. Хадзілі людзі, маліліся, на калені станавіліся, кідалі туды манеты. А тады куды яна дзелася, ніхто не знае. А як станеш на каленькі і во так паслухаеш, то чуваць, як званы пад зямлёй званяць. А дзе яна дзелася, ніхто не знае.

**Зап. Кавалеўская Н. у 2010 г. ад Латышкевіч Алены Станіславаўны, 1923 г.н. у в. Касагоры Мёрскага р-на.**

### 495. Святая крыніца ля Перабродздзя

Там крынічка, тожа ўсё ґаварылі мая бабушка, і прабабушка мая расказавала, што там есць, вот як едзеш… Там быўшы хоць ў тэй старане? Вот як едзеш, кала дарогі туды, да Перабродздзя па левай старане, цепер там ґасударства зробіла… трубы і гэта там зробіла, такое аддыхаць там. Ну дак вот, я ездзіла, а там… ездзіла ж туды часта ж мы, а там… ездзілі, дак

там бабы ходзюць за вадой, але ў дванаццаць часоў ночы. Гэта ўжо свой прыду́м! (смяецца). У дванаццаць часоў, кажуць, очэнь тады вада памагаець. Мы там жылі і ў дзецтве глазы баляць каму, так ішлі за гэтай вадой і так вада, гэта яшчэ расказавала мая бабушка, ну, знаеце, гэта легенда…

У любы дзень бралі, а тыя гавораць: “У дванаццаць часоў нада!” Праўда ці не я не знаю, а мы ў любы дзень бралі. Ну, а глазы як баляць… Адзін стары ўсегда сваіх унукаў пасылаў, ідуць яны з бутылкай: “Куда йдзецё?” – “Пайдзём у крыніцу, пайдзём у крыніцу”. Вада там аж да нашай дзярэўні ідзе. Мы жылі, Лебедзева дзярэўня звалася і там кілометра. Дажа вот так ваду, гэту вот, хадзілі браць, а піць усё ўрэмя. Вада очэнь укусная. Чысценькая, як крыштал!

Там ніхто ня помніць, калі яна быўшы. Там гаварыўшы так ужо, старыя ўжо, мае старыя. Я тады яшчэ ў школу хадзіла. Ну так, што там па гэтай дарозе, быўшы дзярэўня, і там пагурачак такой… Яшчэ мой дзедушка гаворыт: “Вот тут быўшы карчма…” Ці там быўшы, ці не?! І там калодцаў па той дарозе было многа, з той стараны я не знаю, дажа патаемныя былі, гэты. Патом каторыя мужыкі раз, конюхам быў: “Што-та папробуваў, а там, – кажыць, вада сачылася чуць-чуць”. Ну дак тады з гэтай, ну дак ён давай капаць, а там фармальна там ніхто ня помніць, і зруб гэты і дзераўляны і цэлы быў.

Вада такая і зруб такі шырокі. Ну, панімаеце, як той зруб… ставяць гэты. А гэта крыніца, там заплыўшы ано была, хоць маразы якія, ўсегда такая лужайка стаяла і стаяла, дзеці перадзелалі. Лужайка стаіць і людзі ездзілі і бралі, бывала зімы такія сур’ёзныя, мароз быў, вада вымярзала, а туда тады на конях ездзілі і ваду гэту прывазілі. І піць, і мыцца – усё.

Так вот, гэта ўсё гаварылі, гэта ж легенда, хто там знаіць як было. Гаварылі, ну, гэта ж, канечне ж, легенда, хто знаіць як там было. Кажуць, што гэным пуцём шоў француз – Напале́он. Я болей з акцэнтам польскім, бо я школы польскія кончыўшы. Наполеон ішоў, ну там жа стаяў тожа касцёл і тады гаварылі тожа, што разбіўшы эта ўсё было і ўсё было разбіта, і тока вот крыніца гэта нашлася ішчо нашлася, а дамоў там не было. Ну бывала нахадзілі такія вот падмуроўкі, там усё. Ну, вада харошая, а тады ўжо ґасударства, ужо пры савецкай уласці зробілі цяпер, зробілі там, наверх зробілі і трубы там, работалі мальцы, гэта гасударства. І зробена такая як бяседка адыйсціся, пасядзець. Дажа з Даўгаўпілса прыязджалі і вады гэтай набіралі туды… Укусная, харошая вада!

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2004 г. ад Гайлевіч Ганны Янаўны, 1924 г.н. (пераехала ў 1970-х з в. Лебедзева Мёрскага р-на) у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

## 496. Крыніца Святога Яна

– У Чысты Чэцьвер нада ісці мыцца на *бягучую ваду*, дзе вада бягучая – і памыўся. Ці вот ногі баляць, ці там што баліць, нада памыць, што там у каго такое. Памыць нада…

– Вот вы ніяк не дайдзеце. Ад нас жа Ян недалёка! Вы б паглядзелі, як там вадзіца бяжыць. Там людзі бяруць там, мыюцца… Тут недалёка. Там вада пастаянна бяжыць, яна бяжыць і бяжыць. Капліца зроблена, а Ян такі, во фігура, як чалавек, ну вот як я ростам. Але яго забіраюць у Чарневічы ў цэркву за тое, што яго тут украдуць. А тут у бары красіва: такая пагурак, лагчынка і капліцу новую. У нас брыгадзір ня меў здароўя, і ён рашыў пастроіць новую.

– Дужа памоцная вада! Памыцца саму і з сабою ўзяць.

*– Усё што баліць можа памыць?*

– Усё-усё! І рукі і ногі можна памыць.

– У мяне хазяін быў трактарыст. На трактары паедзем, так мы флягамі прывазілі дамоў. І пілі, і мыліся. І цяпер у мяне вадзіца ёсць – сасед прывёз мне. Нада верыць этай вадзе, а не тое, што – так!

*– А, можа, што пра гэтую крыніцу (Св. Яна) расказывалі? Чаму там такая памоцная вада? Можа, што казалі старыя людзі?*

– Гэта ўсё ужо пры нас было зроблена. Мы нічога не знаем.

– Ну вот, гаворац, што ішоў чалавек у бор і будзець ён сеч бор. Сячэць ёлку, з гэтай ёлкі пашла кроў. Тады аказаўся чалавек. Кажыць: “Я Іян-крысьціцель. Я должан жыць на вадзе тут”. Гэта расказывалі даўнія, старыя дзяды-прадзеды. Так, стаіць чалавек. Стаіць чалавек: “Тут должан быць Ян-крысьціцель”. Ну, а тады на гэта месца прыхадзілі людзі. Там вада цякла, прыхадзілі. Тады граф Лужыцкі прыехаў, у яго нехта быў сьляпы там. Нехта там быў з дзяцей. Ну, і памог гэтай вадой. І вада гэта зразу памагла. І стаў відзець там бальны гэты. І ён пастроіў тады капліцу на гэтым месцы.

– І з вялікіх стран, далёкіх едуць – даехаць ня могуць – бяруць ваду.

– Эта вада крэпка памоцная!

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ В. Наважылава, Т. Ржэчыцкая у 2003 г. ад Жук Еўфрасінні Гаўрылаўны, 1925 г.н. і Шчарбіцкай Вольгі Сямёнаўны, 1923 г.н. у в. Пучкоўскія Мёрскага р-на.**

**497.** Раскажу, што знаю. А ці праўда ці не. Што найшлі на гэтым месцы ікону, дзе цяпер стаіць каплічка. Занясуць у цэркву ікону, а яна зноў тут паявіцца. І сколькі раз яны насілі, я не знаю. Тады рашылі паставіць каплічку тут. Ну дык яны і далі ёй тут імя – Яна.

Во, мне мая свякроў гаварыла, што гэта наш Ян. Ён быў у нас, а ўкралі праваслаўныя. А чаму не ўзялі назад – гэтага мы не знаем. І ён увесь час у нас, у каплічцы. Была плохенькая каплічка стала, паставілі новую, вада з-пад капліцы ідзець. А прыходзяць усе: і католікі, і праваслаўныя. І 11 сенцябра тут служба. А на 7 іюля служба і ў храме, і сюды прыходзяць. Вельмі многа сабіраецца. Аж уперад. Дужа тут за вадой гонюцца. Прыязджаюць, што после Яна едуць і едуць людзі за вадой. Там ёсць як бы басеін, абабіты збоку даскамі, і там мыюцца мужчыны здзетыя.

Даўней людзі клалі грошы, воўну. Але грошы найболей. Як уперад была каплічка, была небальшая шыбінка высока, і людзі падымаліся, можа там якая падстаўка была. І праз аконца кідалі ахвяру і ехалі не ў гэты дзень і кідалі туды. У посны Ян спавядаюць людзей і нада пасціцца. Усікнавеньне, гэта ў нас у дзераўнях, дзе болей склонны да гэтага пасьцяць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Шахоўскай Марыі Іванаўны,1924 г.н. у в. Варонкі Мёрскага р-на.**

**498.** Дзедушка расказваў гісторыю, што хто-та нешта шукаў. І быў зь ім сьляпы чалавек. Яны першыя знайшлі гэту ваду, яна ідзець дзе-та зверху. Яны дакапаліся да гэтай вады, стары абмыўся ею і пачаў відзець. Тады ўжо рашылі, што гэта сьвятая вада. І пачалі ўжо дзелаць усё тут. Яна ідзець чуць не зверху. Яе там і адкрылі. Расказвалі, што было гэта дзе-та 200 – 300 лет назад.

Палякі хацелі забраць Яна. Гэта было пазней. Есьлі беглі палякі, то праваслаўныя ў званы білі. Яны змагаліся паміж сабой. Яны хацелі забраць сабе фігуру Св. Яна. За гэтага Св. Яна біліся, зьбівалі адзін аднаго.

І пры савецкай власці сабіраліся людзі, хадзілі. Гэта ж каплічку тады разабралі. Разабралі, унічтожылі. Там хрэст стаяў. А даўней каплічка стаяла дзеравянная. Разабралі яе дзе-та ў 1955-м, толькі крыж стаяў. Потым крыж кінулі ў крапіву. А потым людзі, якія былі склоныя да веры, паднялі яго. Зрабілі падставачку і паставілі яго.

Болей хадзілі на Летняга Яна, але і на Поснага Яна сабіралася многа. Менш, калі супадала з рабочымі днямі, больш – на выхадныя. Старыкі болей хадзілі. Сабіраліся залёка! Я помню ў дзецтве, у нас там ішоў бальшак і мы гэта відзелі, так на закаце сонца, мама і бабушка казалі, што глядзіце, дзеткі, вон ужо да Сьвятога Яна пайшлі. Помню, мы хату новую купілі, да нас па двадцаць чалавек начаваць прыходзіла. Усё ідуць і ідуць. На палу аж клалі. А хадзіла гадоў дзесяць назад баба сляпая. Але ўсе старыя памерлі.

Усе гаварылі, што вада памагае. Тут на маёй памяці нядаўна прыехала адна з Віцебска – землеўстраіцель. Яе завуць Раіса. Очэнь красівая дзевачка. Яна брала ў нашым калхозе пробы зямлі. У яе былі такія бальныя ножкі – мокрая экзема была. Яе ўсюдых лячылі, і па санаторыям ездзіла. Але і там не вылечылі. А калі яна была ў нас, мужчына, які яе вазіў, сказаў: “Давайце, я завязу вас да Сьвятога Яна!” Яна не ведала, што гэта такое. Ён адказаў: “Гэта наша святая крыніца”. Павезьлі яе. Тут яна памыла ногі і назаўтра ейныя ногі сталі сухенькія. Яна тады папрасіла назаўтра яе падвесьці туды. Падвёз яе, зноў яна памылася і вады набрала з сабой. Яна піла гэту ваду і ногі яе ісцэліліся, раны засохлі. А тады яна паехала браць пробы ў Чарнеўскі калхоз. Але яе і адтуль прывозілі. І цяпер яна стала такой верующчай. А мая цёця пакойная, якая жыла ў Віцебску, і яна расказала ей, калі хадзіла ў царкву. Замуж яна не пашла і стала такой верующчай і кажа, што яе ісцэліла толькі святая крыніца. Бацюшка, адзін манах, калі мы прыйшлі на вячэру, сільна тут піяў. І ўсе так слухалі яго, і ён сказаў: “Людзі, маліцеся тут, бярыце ваду і мажце ўсе свае раны. Паглядзіце на мае ногі, яны ісцэліліся ад гэтай вады”. У яго раней ногі былі ў ранах і ісцэліўся, і потым ён стаў свяшчэннікам.

А ў нас, у Чарневічах жыла Бабіч Іра, яна доўгі час не магла радзіць. Бярэменеець – першы раз выкідыш, другі раз… Разоў дзесяць так было. Купалася яна ў гэтай вадзе, а зараз у яе дзевачка, якой 2 годзікі. Вось яшчэ прыязджалі з Барысава ка мне родственнікі далёкія. І я ім пасаветавала, што ў нас было такое чуда, няхай з’ездзе да сьвятой крынічкі. Так вот, яе матка званіла, казала, што дачка бярэменная. А яна ж не магла ўсё забярэменець. Як і наша, мучылася ўвесь час, пакуль не радзіла.

І ахвяры ж даўней насілі. Яна была адкрыта і, калі не прыйдзеш, былі капейкі: 20, 50 капеек. І ў вадзічку кідалі. А зараз у скарбоначку кідаем. І воўну Сьвятому Яну прынасілі і ручнікі. А потым бацюшка забіраў у царкву. Раньшэ былі людзі міласэрдныя і крэпкай веры.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хрол Марыі Віктараўны, 1940 г.н. (в. Чарневічы Глыбоцкага р-на) і Басянок Людзмілы Уладзіміраўны, 1943 г.н. (в. Гараўцы Мёрскага р-на) ля Чарневцкай крыніцы Св. Яна.**

**499.** Ад веку людзі надзеюцца і бяруць ваду. Казалі мае бацькі, што тут абраз Багародзіцы быў, а можа і Яна. Адкуль прыплыў, можа. Чула. Тут паставілі гэту капліцу. Вось гэтыя размовы я чула. Раней маленькая каплічка была, дзеравянная. А цяпер ужо абстроілі яе. Я чула, што абраз на гэта месца прыплыў. Маі бацькі так казалі. Яны гэтага не відзелі, але ім так казалі.

Мой бацька расказваў, было пры яго жыцці, што палякі хацелі атабраць Яна. Гэта як паўстанне было. Палякі хацелі атабраць, а нашыя, праваслаўныя, як кінуліся і атабралі Яна. Каб не ваенныя, праваслаўныя не ўзялі бы Яна. Але ваенныя былі, казалі, што калі палякі возьмуць Яна, салдаты будуць страляць. Гэта было яшчэ да вайны! Мабыць, пры Польшчы. Палякі ў касьцёл хацелі забраць. Мой папа – веруючы чалавек – казаў, каб не ваенныя дык і ўсё. Ваенны казаў: “Лажыцеся ўсе, нічога не аддадзім”. І каб не ён, дык атабралі б. А зараз едзінагласна: і праваслаўныя прыязджаюць, і католікі.

Даўней ахвяры клалі, воўну клалі. Бульбу тут наложаць, і яйкі. У каго што было, і масла. Час быў другі. Тады і воўны столькі мелі, і яйка прадавалі. Летам адбываўся фэст бальшы. Што было людзей – страх. І пры савецкай уласці сабіралася многа людзей, як былі выхадныя. Але забаранялася прыходзіць. Была маленькая дзеравянная каплічка. Уперад усё раўно хадзілі на гэтага Яна, і на Поснага. Была і вячэрня на Яна.

Гэтая вада сільна памагае. Гэта вада гадамі будзе стаяць, как свежа прынесеная. Памагае, калі рукі баляць, ногі. Ліцо абмывалі і вочы таксама. Мой зяць казаў, што акунуўся тут і год пазваночніка не чуў. І люськін Жэня казаў, што яму так сціснула спіна, і ён узяў пакупаўся. Дык ён казаў, што ўсё сышло, як рукамі зьняла. Расказвалі, што прывазілі маленькага з Полацка, яму так нага балела, раны адкрываліся, абмывалі нагу. І пчалам бяруць ваду. Гавораць, што на Хрышчэнне нада браць ваду з трох царквей, каб пчолы добра вяліся. Ну, дзеткам ад упуду, ад уроцы вадзічка памагіць. Тут жа і зёлкі свенцяць на летняе. Кураюць імі. Гэта, кажуць, добра ад упуду памагаіць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Муравей Антаніны Васільеўны, 1933 г.н. у в. Рослева Глыбоцкага р-на.**

**500.** У Чарневічах былі на Яна, былі цяпер на фэсце. Там вада з пагурка цячэць. Як купаюцца! І людзей многа было, і з Полацка манашкі былі, і бацюшка глаўны быў, і ў цэркве маліліся. Тады да вады 3 кіламетры ішлі. Крэсны ход. Таржэственна там кожны год. Гэта ў Чарневічах, 15 кіламетраў ад Лужкоў. Там сьвятая крыніца, пад Яна. Там і ўвосень свята ёсць – Посны Ян у сенцябрэ, ці акцябрэ, там толькі молюцца. Вада, а як купаюцца людзі. Там фантан б’ець з-пад зямлі. Там з пагурка, пагурак вялікі, а цячэць, цабравінай зроблена, цабравінай зроблена, і тады тры бутылкі гэтыя падстаўляй і вадзічка цячэць. А гэта выцякаець, як во гэта во як да сцяны, а

там во зроблена, абстаўлена вада, куды выцякаець вада, а вада глубокая і купаюцца, тры разы нада акунуцца. Ну, хто бальны, дык памагаець.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г., Радзюк А. у 2008 г. ад Крыўко Уладзіміра Уладзіміравіча, 1927 г.н. і Марфы Ігнацьеўны, 1934 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 501. Чарневіцкі Ян

Значыць, дзяцька Паўка расказываў. Значыць, фігура святога Яна была здзелана із золата, на сколькі гэта праўда. Вот, ну але ж былі людзі ўсякія – ўзялі і ўкралі гэту фігуру святога Яна. Ну, тады поп, ну паглядзеў – нет, а фігура та нада была. Ён здзелаў, заказаў фігуру із серабра. Здзелаў із серабра – павесіў, ну і хадзілі маліліся.

Ну, людзі агледзілі, што і эта дзела харошае. Ну і кто-та тожа увараваў. Значыць, апяць глядзіць (поп), што нет фігуры – нада дзелаць. Дзелаець, заказываець масцеру, і дзелаець фігуру із дзерава – дзеравяную. Ну, і красіў, алі не красіў, не ведаю. І вот, значыць, калі пайшли крэсцьяне. А ён выступаіць с пропаведдзю і гаварыць: “Дарагія крэсцьяне – парафіяне, вот была у меня, значыць, фігура залатая – уваравалі, паставіў я сэрэбранную фігуру – тожа уваравалі. Цепер – здзелаў дзеравянную – і еслі гэту уваруеце – то што-то другое цалаваць будзеце”. Я ўжо не гавару громка, ды гэта па-прастому.

**Зап. Лубчонак А. у 2010 г. ад Фурса Яна, 1931 г.н. (ур. в. Гаравыя-2 Мёрскага р-на) у г. Полацк.**

## 502. Крыніца Св. Яна ў Бабруйшчыне

Во ў Бабрушчыну мы хадзілі, там ёсць каплічка і вада ідзець з-пад гары. Вада бяжыць і там гэту ваду бралі, я сама там была нескалька разоў. Гаварылі, што свянцоная вада, памочная. Браць – бралі гэту ваду. Там каплічка Св. Яна? Да, я не знаю цяпер, ці ёсць яна.

Я помню, там фэст даўней быў, вот эта Ружанцова ў нас звалася перад усімі Святымі. Гэтат месц сенцябр – акцябр, гэта ружанцова звалася. І там тры дні падрад быў фэст .Там збіралася людзей дужа многа, ну і ксяндзы былі, адкуль прыязджалі. Гэтак было даўней, а цяпер ужэ...

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Атвалкі Соф’і Адольфаўны, 1925 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**503.** Тамака такая каплічка пастаўлена, там угоднік быў, і ён “Ян” называецца. Перад гэтым Янам, Купала спраўляюць. Ну і там ручаёк цячэць і крынічка... Вот у мяне суседка, яна гаварыла, што ёй глазы балелі сільна, і гаварыла, што, колькі мылася гэтай вадой, то памагала.

**Зап. Лобач У. і студэнт ПДУ Волкаў А. у 2001 г. ад Кулёнак Ніны Казіміраўны, 1930 г.н. у в. Бабруйшчына Глыбоцкага р-на.**

**504.** Яе (крыніцу) сьвенцяць, бабы, старухі прыйдуць, вочы памыюць, самі памыюцца.Тады на Крышчэньне бяруць ваду, мусіць і на Яна. Цяпер быў Ян, сядзьмога чысла. Асьвячалі ваду.

**Зап. Лобач У. і студэнт ПДУ Волкаў А. у 2001 г. ад Курылёнка Канстанціна Андрэевіча, 1919 г.н. у в. Перавоз Глыбоцкага р-на.**

## 505. Святыя крыніцы Глыбоччыны

Ёсць крыніца ў Задвор'і, мы ходзім адтуль ваду браць у Чысты Чэцвер, і мыліся там да ўсходу, хоць і не разрышалі нам так рабіць, но мы тайна ўсё рабілі гэдак. Хадзілі ў крыніцу да вады, прыдзем, памыемся да ўсходу сонца. Яна ідзець і ідзець, яе нічым не засыпіш. Нікагда. Яна дажа і не замярзаіць. Снегам завеіць, а там ўсё роўна вада не замярзаіць. Яна з-пад зямлі, яна чысценькая… Чыстая, прама крыштальная.

Ну, вот у Бабруйшчыне ёсць святы Ян. У Бабруйшчыне каля касцёла і каля цэрквы цэчэць такая рэчка – і тамака тожа такая крыніца ёсць. І ў Чарневічах тожа крыніца ёсць. І ў Бабруйшчыне тожа ёсць. У нас жа тры кілометры адгэтуль да Бабруйшчыны. З Псуі…

Там святы Ян пастаўлены. На Яна адтуль абязацельна нада вады ўзяць. Бальныя абязацельна ваду бяруць. Хай дажа балезьнь б'ець. Абязацельна нада. Дажа ляжачыя. Вязуць туды, каб яны самі памыліся той вадой. Там святы Ян пастаўлены, і вада цячэ, і таму яна святая.

Святая вада ад Яна, і з крыніцы хоць і 5 гадоў храні. Чысценькая, як свянцоная вада. Ніколі не памутнее нічога.

Ну, мы мыліся ў той вадзе, каб красівымі быць. Во нам дзедушка казаў: “Мыйціся, унучачкі, каб красівыя былі, святой вадой…”. А да Яна, як былі маладзейшыя, у Чарневічы хадзілі… А ўжо старыя – дык во дома сядзімі, калі нам толькі гэтай вады хто прынясець, тады памыемся.

Ходзяць толькі на Святога Яна. Толькі на яго… І у Чарневічах таксама, і ў Бабруйшчыне толькі на Святога Яна. Там ёсць скарбонка, куды кідаюць грошы. Туды кідаюць грошы часцей бальныя. Афяруваўся каля крыніцы – павінен пакласці грошы. Мы ж у Чарневічы хадзілі пяшком. Гэта цяпер усе ездзююць…

**Зап. Сулімаў С. у 2009 г. ад Буёнак Мальвіны Уладзіславаўны, 1930 г.н. і Абрамовіч Веранікі Уладзіміраўны, 1944 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на.**

## 506. Дабрыгорская святая крынічка

Крынічка была ў нас са святой вадой. Во рэчку пяройдзіце, первы дом налева. Во тут жа, дзе цяпер ізгарадзь з агарода праходзіць, во тут ў нізіначцы стаяла каплічка. І бралі ваду, і мыліся, і пілі. І на празьнікі.

Многа, многа людзей сабіралася. Во празьнік які: бралі, пілі, змываліся. Счыталася свянцоная вада. І гэту крынічку бацюшка асвяшчаў на Міколу. Людзі збіраліся, ён стаяў, маліўся над той вадой, над гэтай каплічкай. Людзям разрышаў, чэрпалі… Кірмаш ў нас на Міколу быў.

Каплічка тая прымерна была, вот, прымерна, як шкаф велічыні, і крышка пастаўлена над ёй і дзверцы. Над самай крынічкай. Крынічка ў сярэдзіне. Ікон не было, а крэст можа быў. У каплічку тую, мы ўжо ў школу хадзіць пачыналі, хаваліся у праткі. Патом яна развалілася. Ніхто яе не ламаў, а тады разагналі папоў…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

## 507. Святы ключ у Шэндзялах

Гэта, гаварылі, што каплічка была і правалілася. Вот яна там такая і высоканькая і падымішся. І жэншчына жыла і вадзічку вычышчала. Чысцінькая была, аттуда ключы... Гаворуць, што святая яна, гаворуць, што правалілася капліца, што святая яна... Ну гэта там усё врэмя бралі ваду, яна ўсягда чысценькая... Ну, капейкі то былі. А хто як можа і насіў, малыя ж мы там ня бегалі. Вот аттуда, з Салонцаў прыходзілі за вадзічкай, старыя такія людзі, іх ужо нет. Што гаворуць, гэта правалілася [капліца], гэта святая вада, ключыкі гэта білі ўсё ўрэмя. Так што вот тут казалі, што святая.

**Зап. Аўсейчык У., Батура Я., Лобач У., Філічкін А. у 2005 г. ад Сокалавай Валянціны Ігнаццеўны, 1934 г.нар. у в. Шэндзялы Полацкага р-на.**

**508.** Не мама дажа, бабушка расказвала, што гэта дажа яны ня знаюць, а ўжо ад сваіх старых чулі, ад сваіх мацярэй, што была каплічка і правалілася туда. Біў ключок адтуль і гэта, кажуць, сьвятая вада. Прыхадзілі, бралі – наверна ж памагала. Эта ж ад старых, бывала сабяруцца, разгаварываюць, а малыя слухаюць. Так, гаворацць, была [каплічка] і правалілася. Так гэта яшчэ бабушка і што ад сваіх бабушак чула. Правалілася, і святая вада стала, ўсягда бралі, хадзілі, капеечкі кідалі. І я кідала. І ключык біў адтуда ўжо, і вадзічка чысьценькая, чысьценькая!

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Сакаловай Валянціны Ігнаццеўны, 1934 г.н. у в. Шэндзялы Полацкага р-на.**

## 509. Святая крыніца, капліца і храм у Боркавічах

У нашай вёсцы ёсць крынічка і ёсць каплічка, і ёсць быўшая когда-то цэркаў там стаяла. Каплічка была красіва здзелана, і туда людзі хадзілі, очэнь много хадзіла людзей, і хадзілі людзі браць вадзічку каля этай каплічкі. Кагда надо было крэсціць дзетак – крэсцілі окала этай каплічкі

дзяцей, а дзетак умывалі этай вадзічкай і шчыталі, што эта вадзічка прыносіць многа харошэга дабра. Маленькіх дзетак умывалі, пілі эту вадзічку, яна прынасіла выздаравліваніе ад балезні жалудка і ад балезні лёгкіх. Далёка-далёка яна праслаўлялася.

Была раньшэ цэрква, эта цэркавь была очэнь архіцектурна і сцільна красіва, очэнь многа яе навешчала людзей. І ва врэмя Вялікай Ацечэственай вайны эту цэркву, значыт, разрушылі немцы, а астаткі её не было вазможнасці атрыманціраваць, потому што после вайны было всё разгроблена, і дажэ былі такія людзі, которые эту цэркву разнасілі по кірпічыне. Ну і яшчэ нашоўся такі малады чалавек, каторы зацэпіў эту цэркаў і разнёс, саўсем знёс з ліца зямлі. Ну і чэраз некаторае врэмя ён памёр, людзі былі ўвераны, што гэта яго за то наказаў Бог, што ён здзелаў такое нехарошае дзела. І мала таго, чэраз некатарае врэмя пагіб і яго сын, усе-усе былі ўвераны ў том, што эта яго Бог наказаў за яго грахі.

Ля крынічкі тожэ стала такое, што сталі крысціць, пакрысцілі дзевачку, а яна скора умерла, пакрысціла вторая жэншчына сваіх племяннікаў, тожа мальчык саўсем малады, тожэ умер. І рашылі, што эта ўсё нехарашо – крысціць окала этой капліцы, ну і ўнічтожылі эту капліцу, перасталі хадзіць туда людзі, перасталі навешчаць это святое месца.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Пацалуевай Соф'і Бенедзіктаўны, 1931 г.н. у в. Боркавічы Верхнядзвінскага р-на.**

### 510. Добрая Вада

Даўна яшчэ ж вось гэта, гэта мая бабушка расказывала. Не радзіцелі, а мая бабушка расказывала. У Латыгалі, у двары, там у двары раньша паны такія жылі… Жыла там паня такая, і яна не відзела – сляпая была. І ей прысніўся сон такі: ну, ў лясу гдзе-та срадзі лесу, на горке – вада. І вот еслі гэтай вадой памыць гла́зы, то яна стане сразу відзець.

Ну вот, хадзілі, хадзілі, хадзілі, нет, не маглі найсці. А патом былі ў іх парабкі, пахалі, на валах пахалі. Ну, адпраглі на абед, а гэтых валоў пусцілі. А гэтыя валы як пашлі, як пашлі, і нашлі гэту ваду, і там папілі гэтай вады, і там ляжалі. А ўжо іскала там ужо ўся дзярэўня, не адны яны іскалі, многа ўжо хто іскаў. Ну і найшлі тых валоў каля тэй вады. І тады набралі этай пані вады.

У самам дзеле, гаварат, што адкрыліся яе глазы. І вот адусюль прыязджаюць за той вадой. І многа ж яна гадоў. Там такі чы-ы-ысценькі ж быў ключ, харо-о-шы! Тады на гэтым месці паставілі капліцу… канон мы празнуем, каталічаская вера. Там паставілі такую капліцу. Красівую ўжо і прыязджаў ксёндз, там правілі і абедню, і здзелалі там кладбішча. С цех

пор славіцца тая Добрая Вада (назва крыніцы). Ну там хрэст здзелалі, хадзілі на Хрышчэнне. Ваду там бралі. Ну, і, ведама, на храсту там, хто палаценчыка, хто там якую скацерць, усё навязвалі, навязвалі. Гэта харашо я помню.

Добрай вады дак бéруць усе, і мае праўнукі прыехалі ў гэтыя… Гэта ж во было, празнік жа быў. Яны ўжо набралі. На Троіцу, ну празнікі там – святыя каноны, многа людзей было… З Масквы дажа прыязджаюць, дажа на машынах. Гэта столькі было людзей, што там недзе было пальца ўткнуць! Яна там, знаеце, заросшая, на гарэ… Ну, чыста стаіць. Нікагда каб яна заванялася, запахла чым-небудзь, не. Гаварацць, яна ж Святая! Уродзе гэта. У мяне прастаяла год, год у бутылачке за халадзільнікам. Якую ўзяла, такая і ё. Не затыхаецца.

**Зап. Глушко А. і Тухта В. у 2004 г. ад Скарупы Аліны Міхайлаўны, 1930 г.н. у в. Чорная Лаза Чашніцкага р-на.**

**511.** За восем кіламетраў за дзярэўняй ёсь Добрая вада, і кладбішча. Там када-та жыў пан, панскі маёнтак быў. Там праўда была такая вада, што куплялі, я не смяюся. Кідалі манеты. Прывязла банку, тры гады у мяне адстаяла, ніякай ні зелені, ні тухалі. Эта крыніца так і завецца – Добрая вада. Там шляхоцкая кладбішча. Туды людзі ездзіюць. Паможаць ад яе ні паможаць, алі хужы ня будзець. Там вёскі – Замошша, Адамаўка, Чорная лаза.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Шаблінскай Алены Паўлаўны, 1930 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

**512.** Добрая вада, крынічка такая, там і зімой вада не замярзаіць. А сколькі там капеечак нахадзілі! Там польская кладбішча. Туды ксёндз прыязджаў, туды ўсе каталікі збіраюцца, там хаваюць і сёння. Адусюль на эта кладбішча прыязджаюць, усе ходзюць. На Тройцу. Яны і цяпер ездзюць. Там такі кірмаш быў. У іх Тройца раней, як у нас. Ой, яны свае святы пачытаюць яшчэ болей, чым мы. Яны культурнейшыя, чым мы. Алі яны такія ганарыстыя, о-ё-ёй! Мама мая казала: “Дачушка, калі ты пойдзеш за шляхту, усё, ты не мая дачка”. Эта было даўно. А цяпер не глядзяць на гэта.

**Зап Валодзіна Т. у 2010 г. в. ад Крыцкай Еўдакіі Яфімаўны, 1927 г.н. (жыхаркі в. Окана) у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 513. Марозаў ключ

Капліцка была і яшчэ раньшэ лажылі туды вот перад Храшчэннем, і яйцы, і грошы там, там. Перад Хрышчэннем за вадой хадзілі. А капліцка стаяла. Да, ну эта даўно. Гэта да савецкай власці. Цяпер во сама, перад Храшчэннем кідаюць грошы, вешаюць туды, там небальшэнькія такія: хто дваццаць, хто дзесіць, хто сколькі. Раньшэ бацюшка прыязджаў, пасвя-

шчаў. Ну а цяпер вродзе хто-то браў воду ды ўваліўся туды, случайна, дык не сталі бацюшкі тады ездзіць, а ваду ўсе бяруць. Так яна ўкусная, харошая вада, вада харошая. Бацюшка прыязджаіць сюды кожны год, ну сюды, к ключу ня ездзеіць. Ваду бяруць усе. І носяць туды ў Забор’е, хрэст ёсць, каля хрэста асвячаюць.

А чаго Марозаў ключ называюць, тожэ не магу сказаць. Но ён не замірзаіць нікада. Вот зімой трыццаць, сорак градусаў, толькі тады пара стоўбам ідзе. Як не было, цяпер з будкай, дык цяпер жа марозы не такія бальшыя. Гавораць, што ад вачэй памагае, ну а ці праўда ці не. А вот ціпер дажа перад Хрышчэннем ідуць, бяруць ваду і скολькі-нібудзь там грошы вешаюць. А хто іх забіраіць, я і не знаю. Можа рабяты.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Пашкова Івана Васільевіча, 1932 г.н. у в. Азёрная (Папова Лука) Расонскага р-на.**

**514.** Людзі бяруць бывала ў Забор’і (у царкве свянчонай вады), хадзілі, пасвяшчалі яго (Марозаў ключ), бралі ваду вот так во маглі. Ну канешне ў якія дні, цяпер якія празнік, які бываець. Во так, напрымер, і Пасха, людзі ж хадзілі і бралі ваду. Адтуда дажа п’юць ваду усе врэмя. Вот дажа і сама схажу і прынясу вады. Вот. Там жа была здзелана, што людзі прыхадзілі дзеньгі лажылі. А алкаголікі прыхадзілі і забіралі. Там была, там была здзелана бесетачка, там вісела, і кружачка вісела, можна вады папіць і эта, і дзеньгі лажыць. Лажылі сначала.

Называецца Марозаў, ужо і Марозаў ключ, і Марозаў лужок. Тут жа быў луг кругом, гэта тады ж, цяпер зарасло ўжо ўсё. А то чыстата была. Тут жа ніаднаго кустка не было. Гаварылі, што памагае вадзічка, вочы змываюць.

Ну вот бываіць, гаворуць так людзі. Што памагала. Вот, а тут ужо канешне можа не памагала, як былі адкінуўшы ад Бога, і врэдзіцелі былі, калі там што і ў цэркву хто схадзіў, Богу маліўся. А цяпер жа можна ж усё дзелаць.

А ключок шчытаецца бажэственным. Вот возьмеш ваду, вада харошая, чыстая, яна такая празрачная, празрачная.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад ад Святловай Марыі Васільеўны, 1925 г.н. у в. Азёрная (Папова Лука) Расонскага р-на.**

### 515. Святы ключ у Бабарыгах

Нашы бацькі яшчэ хадзілі ў Бабарыгу, у Расію, там была тожа там царква. Царква была там. Хадзілі, там і харанілі. І там быў ключык, тожа хадзілі за вадой, дзеньгі брасалі туды. Была Бабарыга, а цяпер гэта ўжо не,

вот Башмакова, дзярэўня, і там яшчэ кое-хто і жывёт. А Бабарыга там блізка, радам, Башмакова, Расія. А граніца тут тры кілометры і шэсць. Мы на граніцы.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Кальнінай Любові Данілаўны, 1925 г.н. у в. Перавоз Расонскага раёна.**

### 516. Святы ключок ля Забор'я

Дажа і ў нас тут ёсць ключок. У нас за ракой, алі вы туды ня пройдзіця. Там мост у нас абярнуўся на раке. Туды мы толькі, як Храшчэнне, хадзілі і бралі ваду тую. А яна сколькі гадоў будзіць стаяць, і ўсё раўно яна, ні мох не расце, ні кісне. Абыкнавенная вада.

А ключок гэта во за ракой, у берагу так, ён жа нахадзіўся, алі туды ня пройдзіш. Там ён быў у нас такі абрыўшыся, правал такі, цэрква там правалілася, дык гэта правал такі. Гаворадь, там свянцоная вада. І людзі ездзяюць, і ўсягда набіраюць. Як Зарэцкія, Красецкія, там дарога ёсць з Красец. Яны туды ездзюють і набіраюць вады. Тут, ля Забор'я.

Найдзіш. Тожа загароджана ўсё. Там жа здзелана і кладка. Нізкае месца такое, а ён там, такая гарушка, такая. А там каля гэтай гарушкі правал, і во там гэты ключок абразаваўся. Дык нібыта, гаворуць, што там цэрква правалілася. І там гэтат ключок стаў.

Даўней капеечкі кідалі. Дык там во, як посля якога свята, і многа капеек. Яно пакуль гэта занясець ілам, многа там грошай стала ў гэтай вадзе. І посля вайны хадзілі, і да вайны. Болей на Храшчэнне, і ўсё! Як Храшчэнне, тады хадзілі, набіралі. Ні храста, нічога не было. Нічога, толькі што правал там арганізаваўся і вот так абразавалася там. І вада чыстая, чыстая, вкусная, абыкнавенная, як с калодзеся бярэш. Во, і дажа людзі хадзілі, калі глазы баляць, і мыліся. Во ў мяне сістра тожа хадзіла, глазы мыла – і папраўілася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Машарскай Лідзіі Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Забор'е Клясціцкага с/с Расонскага р-на.**

### 517. Святая крыніца і камяні

Святая крыніца пад Вішкавічамі. Чаму святая – не ведаю, але святыя людзі, ну каторыя верылі, хадзілі туды ўбіраць, у любы дзень. Вады набіралі. Людзі ходзяць, і я хадзіла. Вот такі быў з Вішкавіч старык. Вот ён всегда хадзіў да яе. Лажылі грошы ўсе. Над гэтай крыніцай стаіць альха. У ёй было дупло, невысока, дык туды лажылі грошы, вот калі нада было вады. Дык я сама туды грошы лажыла. Крыж там быў. І камяні тыя недалёка. Ай, на адным два сьляды: адзін быў взрослы, другі – дзецкі быў след. Яны

былі з правай стараны дарогі, як ісьці на крыніцу. Гаврылі, што як ляднік быў, то людзі хадзілі па камянях. Камяні тады мягкія былі. Але я ня відзела слядоў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Корбун Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага р-на.**

## 518. Святая крыніца і камень-следавік

Ёсць у нас тут такая крыніца, ну во гэтыя кусты, і завецца Пушча. І там ёсць у нас святая крыніца. Ляжыць камень, а на ім мужчынскі ці бабскі босы след, што ўродзе босы станавіўся на эты камень. Еслі чалавек балеець, ды верыць Богу, ды ці глазы, ці што, то тады прыходзяць, і бралі ваду з крыніцы са святой. Я сама была ля гэтага каменю, сена граблі. Дзьве жэншчыны хадзілі піць да гэтай крыніцы ваду. Гаворາць, нешта лечыць…

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Тацяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

## 519. Крыніца “Ізус”

Крыніца “Ізус” завецца. Ну, Ісус Хрыстос. Можа Ісус тую ваду асвяціў. Так гаварылі. Як раньшэ малыя былі, у школу хадзілі, дык там палаценцы віселі. Крэст такі стаяў, палаценца вісела і лажылі капейкі. Крэст і там полачка. І цяпер ложуць. Там з-пад зямлі б’е фантанчык і вада цераз балота і ў рэчку цячэ. Хадзілі ў Чысты чацверг. Нада да сонца схадзіць, вады набраць, памыцца, каб дзяўчына красівай была, што б харошы малец замуж узяў. Хадзілі і перад Калядамі. Перад Пасхай абязацельна. І я хадзіў, добрую дзяўчыну хацеў узяць. Вадой хату абпырсквалі, скаціну, і самі мыюцца. Яна стаіць доўга, не мутнеіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Пятрашкі Міхаіла Емельянавіча, 1935 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага раёна.**

**520.** Як на Баравыя ісці, там крынічка ёсьць. Сьвятая. Пойдзіш у ягады, памолісься. Нейкая яна і лячэбная. Вочы памыіш, вочы перастаюць балець. У нас увесь час да яе ходзяць. Я сама дажа езьдзіла за вадой. Як ваду пасвяшчаюць, на Хрышчэнне, мне сын прывозіў. Я помню мой сын поўныя бідоны прывазіў і раздаваў ваду па вёсцы. У Чысты чацвер. А завецца, можа, ад імені Ізуса. Там і іконка, там ёсць дзе і пасядзець, і ганачкі ёсць. Там нешта хочуць церкоўнае зрабіць.

Вадзічка памагаіць, канешне. Вот і ў цэркву ходзім на Хрышчэнне, вадзічку п’ём – і памагаіць. Як прыйду (да крыніцы), сама кладу капеечкі. Яна ж там ўсё ўрэмечка, не замерзаіць, цячэ. З вякоў у вякі гэта крынічка. Што-та ёсць царкоўнае. І Бог ёсць. Нада верыць ў Бога, ён тады памагаіць.

Як ваду набіраеш, нада малітву гаварыць “Ойча наш”. Вады набрала і грошы паклала, а тады: “Ангел наўстрэчу, Хрыстос на пуці. Нікалай Святіцель дарогу сваці. Божая маці ідзе ўперадзі, рабу Божую Кацю спасі і памажы”. Вот гэтак.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пятрашкі Кацярыны Сямёнаўны, 1929 г.н. у в. Вішкавічы Чашніцкага р-на.**

### 521. Святая крыніца ў Бароўцы

Помню у 27-м гаду мы Богу хадзілі маліцца у Бароўку. Стаяла цэркаўка і каплічка. Толькі ісключыцельна на Пятра, вот тут Пятра, ці заўтра Пятро. Ноччу там кірмаш, а ужо у 28-м гаду – усё. Цэркву разбурылі, у 29 – 30-м мы там пясок насілі, кірпіч дзяучаты насілі, ужо дамы строілі.

Там цэркаўка адна была, у лясу. Но такі кірмаш быу красівый, с абеда, с трох часоу людзі ідуць і ідуць туды, і з гармонямі, хто з чым. А дауней старцаў жа было, сядзяць старцы на пнях. Богу маліліся, больш такіх калекаў было, вот яны сядзяць і тады, і тады ідзець чалавек, астановіцца, ён яму памоліцца, а той пяць капеек яму. А не можа, пірагі якія ёсць – беруць с сабой едуць на кірмаш, і сабой берань тады раднёй садзяцца пьюць, ядуць. Тады пірага якога яму дадуць.

**Зап. Захарэвіч А. і Мілінцей А. ад Лідзіі Ларыёнаўны, 1912 г. н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

**522.** Крыніца была ў Бароўке, як ідзеш на Выселкі, там хрэст стаіць. Так вот эта была каплічка. Мама мая расказывала. Я яе так, не, ну відзіла, а так не было ўжо гэтай каплічкі. Была каплічка і туды з’іжджаліся на Пакрова, 14 чысла. І вот мама расказывала часта. Тады ўжо надзенуцца, не так жа як цяперака. Мама казала, на Пакрова надзяюцца белыя хустачкі, белыя куртачкі і фартухі. У гэтай Бароўцы прыяжджалі і з Полацка, і з Барысава сюды ехалі, з усей акружнасці. Гэта быў празьнік Пакрова ў Бароўцы. Вот там была вада дапамоцная.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

**523.** У Бароўке была святая крыніца. І вот пры празьніке Пятро туда ўсе з ваколіцы з’яжджаліс, з месных дзерэвень, адусюль з’яжджаліся туда, к этай крыніцы. Там і малілісь, там і гуляньне было, вот у ноч на Петро, эта самае, туда ездзілі.

Крыніца можа і ёсць. Да, крыніца ёсць. Там жа быў ваенны гарадок. Ну крыніца ёсць. Там стаяла тагда капліца, там маліліся. Ну вот дзе эта

крыніца была і святая вада была. Там, есьлі па шасе, то крыніца эта, тут с этай стараны ад лесу, рэчка там была, вот там крыніца.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 2007 г. ад Дварко Ядзвігі Феліксаўны, 1922 г.н. у в. Матырына Лепельскага р-на.**

**524.** Раднік цечот там, ён упадает у озеро Бароўскае. Там стаяла цэркаў. Я не ведаю, калхозы ўжо началісь, у 1935 годзе яна яшчэ была. Мы ў школе вучыліся. Дык у акошка лазілі сматрэць. Цэрква стаяла дзеравянная, тады называлі яе каплічка. Ісус Хрыстос быў, пярэднічак у яго, ён на распяцці быў. І вот этат раднік лячэбный. Я і сама дзяцей купала с таго раднічка. Гаварылі, што очэнь вада харошая. У мяне чацвёра дзяцей: ні прышчэй ні аднаго не было, ні залатухі, нічога не было. Як радзіліся, так я ўсягда с этага радніка купала. Служэнне было каля цэрквы на Пятроў дзень і Прачыстая ў іюле. Ноччу было служэнне. З Мінска пешшу прыхадзілі, ішлі, штоб толькі памаліцца, штоб вады набраць. Латок там быў здзелан, хто што, хто мацерыял, хто палатно, хто шэрсць, хто лён, хто дзеньгі туды клалі. Вот глаза амываць, дзяцей купаць. Хто што мог, і жанчыны мыліся, счыталі очэнь палезная вада. 28 аўгуста ішло служэнне, ад усіх дзеравень, з Віцебска прыязджалі, свяцілі маркоўку, рож сеяць. У каго што было. А потым пераварот, калі змянялася ўлада, сталі ламаць цэркаў, зламілі, разрушылі. Ісуса Хрыста па возеру плаваць пусцілі. А цяпер там толькі крэст паставілі, лявей цэркаў здзелалі, цяпер ужо аднаўляюць усё.

**Зап. Лукашэвіч А. у 2009 г. ад Докісь Улляны Фёдараўны, 1919 г.н. у в. Бароўка Лепельскага р-на.**

## 525. Крыніца ў Студзёнцы

Хадзілі ў 12 часоў. Там крынічка, там утанула цэркава з людзьмі. І з усім. Там гара і там крынічка. Каб адзін у 12 часоў пашоў і чуваць, як усяночная ідзець. Страшна аднаму, але б пачуў. Там капліца стаяла, і ікона там, хадзілі пасвіцалі людзі, і абракаліся, хто балеіць. Ідуць туды, на тоя места, дзе вада цячэць. Крыжык стаіць. Вешаюць, хто што абракаецца, хто платок, палаценца, хто фартушок. Крыжык зробюць, нясуць, паставюць, з дрэва.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Кавалёнак Ганны Адамаўны, 1922 г.н. у в. Студзёнка Лепельскага р-на.**

## 526. Красналуцкая крыніца

Там, пад Красналучкай, крынічка святая ёсць. Да. Там домік быў. За кілометр, ці паўкілометр. Адзін дзед той домік спаліў, каплічку. Я, як з работы ішла, ўсягда туды захадзіла. Я знаю тую каплічку. Туды многа адкуль прыязжалі, капеечкі кідалі, і я кідала.

А гэта каплічка, калі была, дык спаліў яе мужчына, нежанаты быў. Дык яму адняло ногі. Не стаў хадзіць. Тады ён пастроіў у відзе доміка. Маленькае такое. Яна ішла з зямлі, яна і цяпер гэта крыніца. Дык яму і памагло. І пашоў. Гэта ужо пасьля вайны было, можа ў канцы саракавых.

А людзі туды прыходзілі, з дзеравень, гарадоў прыязджалі ў каплічку. Каплічкі ўжо не было, толькі распяціе Хрыста асталося, столік там быў. Астаўся ад таго, як дзетдом апяць быў спаліў. Старыкі сабраліся, з досак збілі. Цяпер ці стаіць яна, ці не, не знаю.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Якубоўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на.**

**527.** Быў адзін стары – Надольскі фамілія – даглядаў тую крынічку. Там будачка стаяла, і скамейкі былі, і красты, і стол стаяў засланы. І як толькі спалілі гэты домік, крэст на гэтым месцы ляжаў. Тады ўжо яе доскамі аббілі, усё раўно вада гэта цякла. А хрэст так даўно стаіць, ужо мохам аброс, стары. І вада бяжыць са стораны гары. Многія да яе хадзілі. Адна сьляпая была і то хадзіла, яна ўжо ўмерла. Ну ей пасаветавалі, так яна і памёрла, ачкі не адзіваўшы.

Там і каплічка была, а дзетдомаўцы спалілі яе. Была туды спецыяльна дарога, цераз ніву. Ад сілы кілометр. Даўней старыя бабы рушнікі вешалі, а цяпер не знаю. Вочы тая вада добра лечыць. Адусюль прыязжалі, вадзічку бралі. А сам я ужо даўно ня быў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Нямірава Альберта Іосіфавіча, 1923 г.н. у в. Красналучка Лепельскага р-на.**

**528.** Да, хадзілі на крынічку, і на Тройцу, і на Пятра, і на ўсе, якія празьнікі ёсь. Знаеш, дзетка, я табе быль раскажу. Пашлі мы з сястрой у алешнічак, кругом рос, пашлі мы ў баляс, недалёка ад каплічкі. Сястра кажаць: “Давай сходзім у каплічку”. А я кажу: “Некалі, некалі”. І я як дзюбнула сабе ў нагу, і ўсё. Тады яна кажаць: “Ну што, час нашоўся?!” А тут залілося кроўю ўсё. Хустку з сябе, завязала і пашлі мы ў эту крынічку. Рукі памылі, і ўсё, і кроў стала. Вот так.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Каралёвай М. С., 1926 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

### 529. Шведскі калодзеж

Тут недалёка стаіць шведскі калодзеж. Гаварылі, што калі ішлі шведы, надта ім захацелася піць, а вады не было. Камандзір загадаў па адной шапцы кожнаму зачарпнуць, спусціцца з гары і будзе вада. І яны ўсе

па шапцы як зачарэпнулі, і пайшла рэчачка адтуль. Там гара высокая, а спусціцеся ў лажок – і там цячэ.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

### 530. Святы калодзеж ("Святая вада")

Да, ёсць святы калодзеж. Эта даўно-даўным, як цяпер у нас кірмаш называецца, на базары тут. А даўно-даўным гэта было яшчо нашых дзядоў-прадзедаў. Там было ўрочышча такое, што з'яжжаліся дзярэўні вакруг Бягомля, з'яжжаліся ў гэта ўрочышча на кірмаш. Як цяпер ён тут у нас у цэнтры, а то там быў. Ну і там свінні былі, там у аднаго эта хазяіна свіння вылезла і стала рыць нешта. Чуствуюець, што тут вада дзе-та далжна быць блізка. На пагорку сяло то было, яна чуствавала, што тут вада блізка, а свіння любіць, каб гразь была ім. Яна вырыла і паказалась вада на пагорку.

Ну, даўней старыкі ўсе сабіраюцца і вядуць сваю гэту навуку. Яны яшчо кажуць: "Тут блізка вада, добрая вада". Ну, ета самая, яны што, яны рашылі, старыкі, што на пагорку, значыць, добрая вада адкуда-та яна ідзець блізка. Яны прыгласілі бацюшку. Бацюшка асвянціў гэту ваду і здзелалі старыкі гэтыя калодзец. Ён быў да прошлага года. У прошлым гаду там ужо замянілі зруб. Дзеравянны быў, усё замянілі.

Ну шчас вада ўжо не та стала па ўкусу, там заменена ўжо даўней гэта ўсё. Ну, я не знаю чаму так. Там круглы год зімой пад верхам гэта вада там, палтара метра да вады. Да ета і не замерзала і летам не ўбіралася. Мы там былі вайной, хаваліся ад немцаў. Нада ж дзе-та каля вады, дык мы там хаваліся ад немцаў і пользувалісь гэтай вадой, пачці ўся дзярэўня. Да і цяпер бяруць. Кой-каму памагаець. Ну, значыт, там еслі асвянцоная вада, то яна ад усіх хвароб памагае, таму што вада бацюшкам асвенчана, і вот адкуль-то яна лячэбная вада. Сабіраліся на Спаса там. Хто грошы пакладзець там, хто рушнічок павяжэць. Во такое ўсё гэта.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Ставера Віктара Андрэевіча, 1929 г.н. у в. Маргавіца Докшыцкага р-на.**

**531.** Крынічка – гэта ў лесе там. Завецца "Святая вада". Як я яшчо малая была, запомніла, дык яна была тады гэта вада. За вадзічкай прыяззжалі людзі, бралі ваду, а цяперака ўжэ тамака ён ужэ запусціўся, ніхто яго не глядзіць.Там мы ў вайну былі.Там, лі гэтага калодзічка, мы вышлі гэта з дзярэўні, дык там сядзелі, дык ваду пілі, а там пол пасланы быў і пакручаны дзіркі. Пол быў пасланы дзеравянны з дошчак. І гэтак вада там набягала, там скрозь горы і вада там, лагчынка такая. Так во трошку ніжэй.

Адтуль гара, а тут ніжэй крынічка. Рушнічкі там вешалі. І там і крыжы стаялі, [цяпер] паставілі зноў крыж. Хадзілі, хто верыў, той і хадзіў, а хто не верыў, той не хадзіў. Ну хто захварэець ужо, дык ходзюць па ваду. Ці будзе помач, ці не, а вот вады прынясуць. Нейчы я во ляжала, дык мне прыносілі. Гэта брата дваюраднага хлопец хадзіў: "Баба прынёс во табе вады". Кажу: "Якой вады?" – "Святой". Ну дык я піла тую ваду…

Вада была ня порцілася, а цяпер порціцца. Я не знаю чаму, казалі, што нядобрая цяпер вада. Там, казалі, было яго чысцілі, а тады той пол ужо згніў, дык там выцягнулі залатыя, залатоя нешта. Дык і бацюшка там быў, дык забраў у царкву тое. Як выцягнулі, то стала нядобрая вада. Цяпер порціцца вада, а тады была не порцілась, вада была свежая. Там два крыжы стаяла. Тады згнілі тыя, паваліліся. Тады гэтый мой дзядзька і сын мой пашлі і зрэзалі сасонку там, і паставілі новы крыж, і ўсё. Хрыста таго прыбілі. А на празнік гэты, на Спаса, хадзілі бабы. А так прыяжджалі людзі на машынах, усё пыталіся, дзе той калодзеж. Дык хадзіў [сын], каб тамака нашлі ўсё, дык прыходзілі з цэрквы і людзі, і бацюшка, і тутака маліліс.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Пусташылы Кацярыны Мікалаеўны, 1916 г.н. у в. Маргавіца Докшыцкага р-на.**

**532.** Вось Макавей – празнік 14 аўгуста, тады і хадзілі к сьвятой вадзе. Там калодзеж, вада неяк прабілася. Бацюшка тады прыхадзіў. Як была дужэйшая, то сама хадзіла. Вот хадзілі і на Вадохрышча зімой к гэтай крынічке, к калодцу. І з чаго яна паявілася, з чаго яна прабілася, не знаю, але, кажуць, цалебная. Ну, як спужаецца дзіця, тады памагаець. Даўней многа сабіралася людзей. З Ваўчы, з Маргавіцы, Бягомля прыходзілі, і бацюшка прыходзіў.

Да, капеечку кінуць. І там хрэст стаіць – вешаюць нешта. Я дык за сваё здароўе магу там павесіць палаценца, а хто – касыначку, хто – лентачку. А хто ў ваду капейкі. Вот гэткая была атрада.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**533.** Даўней хадзілі к калодзежу людзі з усіх дзеравень: з Маргавіцы, Ваўчы, Брадок, Бягомля. Вот усе сабіраліся тут вокруг і былі, на Макавея. Прыйдуць, памоляцца, пахрысцяцца. І тады сабяруцца, гарэлку п'юць. Сабяруцца свае. Усе сваёй раднёй. І храстоў болей стаяла, і рушнікі вешалі, калі балеюць. Хоць што павешаюць. І капеечкі насілі. А капейкі ў калодзец кідалі.

Але раней вада не такая была, лепшая. Папорцілася неяк. Аддаець нечым. А тады возьмеш вады, і год стаяла, ня порцілася. І памагала ад уся-

кай… Я бывала прынясу, дам дзецям, калі тыя спужаюцца. Ад уроцы. Вазьміце яго адзяваньне, павесьце на крыж, каб здаровенькі быў. Так даўна робілі. І казалі: “Дай, Гасподзь Бог, майму здаровенька”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ставер Лідзіі Філіпаўны, 1928 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**534.** На Спас хадзілі. Насілі, хто капейку, як даўна, капейкі былі. Хто, кажуць, павяжаць хустачку такую, як яна завецца. І красты былі. Вот, кажуць, каб Гасподзь Бог, эта, памагаў, каб дабра даваў. А ці яно даецца, ці не даецца. Вадзічка тая, мусіць, памагала. Бралі, прыносілі ваду. Яна ня порцілася. І січас каля цэркавы ў нас даюць ваду, як яна завецца…Кшчэнская. Вот яна стаіць і год, і два, і тры, і ня порціцца. Там, ґаварылі, была дужа ўкусная вада, я пробавала, алі ні разабралася, ня буду казаць.

А цяпер як зробілі там і дно, і крышу, і абабілі. І стала вада ні тая. А цяпер зробілі саўраменную, цяпер яе ачысьцілі, там, і вада ні такая. Зробілі па-харошаму. Ай, німа нічога харошага, хто яго знаіць. Эта як я стала помніць, а то… Эта ж да вайны. Каждая сьвята, уся дзярэўня сабіралася, і нясуць хто што, хто якую закуску. А тады там ужо молюцца, молюцца, і на каленках тамака… А цяпер ужо гэтага німа. І бацюшка хадзіў. Эта ж было ціхая ўрэмя. А тады ж пасьля вайны, тады ж усё ізьмянілася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 535. Горнаўская крыніца

Ага, была крынічка ў Горне, дзярэўня такая. За Задоры. Мусіць, раз ці два схадзіла. Бяруць ваду і ідуць мыцца. У каго ногі баляць, кідаюць панчохі, у каго галава баліць – грэбень кідаюць. Ці яшчык там які ці што. Кідаюць. Кажуць, баляць ногі – здзень панчошкі. А цяпер я не знаю, даўно была. Там двор быў. Там бралі ваду мыцца. У крынічцы мыліся.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Сакалоўскай Марыі Аляксандраўны, 1924 г.н. у в. Грабяні Докшыцкага р-на.**

**536.** І цяпер крынічка ёсьцека. Сёлета дзевяць бацюшкаў было, і маліліся. Некалі пасля вайны ішоў сляпы і ў крыніцы той напіўся вадзіцы, і глаза адкрыліся. І з тых пор яна і балотам заплывала, а цяпер пачысцілі, і крэст там стаіць. Эта ў Горне, у канцы вёскі. Туды пад луг. Хто рушнічок кладзець, хто платочак, хто што. А цяпер грошы. Блізка ад Горна.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Аксючыц Ніны Нікіфараўны, 1936 г.н. у в. Сакавічы Докшыцкага р-на.**

## 537. Вілейская крыніца

Была, была крынічка. Яна і цяпер стаіць. Проціў цэркві ў нізіну. У Вілейцы. Цяпер закінулі. А так бацюшка пасвенціць, кідалі грошы, хто сколькі мог. Яна лячэбная была. Ад усяго. Вот і цяпер мы ў цэркві бяром вадзіцу, яна ад усяго. Як захварэеш, у мяне і цяпер стаіць, нада тады пырскаць. А ў цэркаўку туды так людзі ішлі, Божа, Божа. А так цэркві не стала, і ўсё.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Лукашэвіч Марыі Анісімаўны, 1926 г.н. у в. Грабяні Докшыцкага р-на.**

## 538. Святая крыніца ў Асецішчах

Тут у нас крыніца была, але яе закапалі, дарогу правялі па ёй. І там хадзілі, вадзічку бралі. Бяжыць тая вадзічка... Там жа была зроблена каплічка, над крыніцай гэтай. Такая ў рост чалавека. Іконкі там былі. Пол быў павышаны і тут жа ручаёк бег – вадзіца з крыніцы бегла пад гэты пол. Тады бяжыш, каб зачэрпнуць вадзіцы гэтай. Возьмеш гэту вадзічку, змываеш дзяцёнка гэтага (з упуду, сурокаў), пакупаеш, каб чыста было ўсё.

Кідалі [капейкі]. Вот я ахвяруюся, мне баліць нага, і я ахвяруюся, Богу памалюся што знаю, гэтую вадзічку вазьму, капейкі ўкіну ў крынічку гэтую. – *Можа рушнікі людзі насілі, лён?* Насілі, насілі... Болей на Спаса, на Яблачнага.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Гайдук Ганны Паўлаўны, 1905 г.н. і Гайдук (Аўтушкі) Надзеі Сямёнаўны, 1935 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на.**

## 539. Святыя крыніцы

Ёсьць крыніца. І гэткая, што была там ікона Ісуса Хрыста. Там нада памаліцца Богу і браць ваду гэту. Ну, і, памаліўшыся, упатрабляць. *Зямля ж – гэта нашая маці, а вада – гэта Божая Маці.* Вада – Божая Маці. І загаварывалі на вадзе. Вада ж усякі грэх абмывае. Яшчэ крыніца, казалі, “Замак” называецца ў Забаенні. Яна святая шчыталася. І пілі, і ў баню бралі мыцца. А ў нашу крыніцу, як я ішла замуж, ды мяне адпраўлялі да крыніцы вады. Казалі, што трэба на ізруб палажыць грошы – купляць ваду.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Антонаўны, 1936 г.н. у в. Слабада Докшыцкага р-на.**

## 540. Святая вада (Стражніца)

Была Стражніца, там звалі Святая вада. Гэта пры Польшчы была Стражніца і там такі глыбокі ручэй. Там з усіх бакоў цякла вада, звалі Святая вада. А цяпер жа ўсё пазарстала там. І ніхто нічога не найдзець.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Юшкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 541. Стайкаўская крыніца

Ну, што расказаць... Там была крынічка, там была гэта і ўсё здзелана... Каплічка была здзелана, домік такі над тэй крынічкай. Вадзічка там была агароджана. Усё было культурненька. І цяпер абнавілі яе нямножычка. Прыяжджалі... І посьле вайны прыяжджалі на гэтую крынічку маліцца госпаду Богу. Гэта я ўжо знаю. Мой швагра – ён ужо умер – сільна бажэственны быў... Гэта ў тую крынічку, у лесе. На Ільлю сьвятога... там і воўну вязуць – ахвяру вязуць – каб ужо авечачкі вяліся... Гэта туды, на тую крынічку, ўсё вязуць. Клалі каля крынічкі...

**Зап. Глушко А. і Скворада В. у 1994 г. ад Глінскай Ганны Антонаўны, 1918 г.н. у в. Сарочына Ушацкага р-на.**

**542.** Цячэць вада там, зробілі зруб, даўней цэрква была, цэркаўка гэта маленькая была, на ёй [крыніцы] стаяла. І вот калодзезь гэты быў у цэркву, а гэта толькі на вуліцу, як руку апусціць, каб бутылку зачэрпнуць. А гэта было ўсё ў цэркве. І стаяў там на гарэ, як ішлі вады, там масток, намошчана, усё добра зроблена. А стаяла цэрква бальшая, а стаяла ля цэрквы дзве маленькія яшчэ цэркаўкі. Як яны там называліся, Насвеншчана Матка і дзве гэты. І сабіраліся туды ад рання. На Ільлю втарога аўгуста, і ўсігда туды збіраліся.

Так было багата [людзей], так было багата, там застаўлена была плашчадка каля цэрквы чыста! Каля дарогі дзе як, так прайці неяк было. І прывазілі, яўрэі ж тады таргавалі. Там кірмаш быў, знаеце які быў! Там, Бог знаець, сколькі было. Старцы ідуць...

**Зап. Лобач У. і Халадкова А. у 2006 г. ад Аўтух Дар’і Цімафееўны, 1912 г.н. у в. Вашкова Ушацкага р-на.**

**543.** Я да крынічкі хажу с самага раждзеньня, я тут радзілася. Эта блізка, наша дзярэўня – Рагуцкія. І мама хадзіла, яны очань строга хадзілі. І пры савецкай власьці ўсё раўно хадзілі. Бацюшкаў не было адно ўрэмя, а людзі ўсё раўно прыхадзілі к этай крынічке. Храстоў не было, бацюшкаў не было, а людзі ішлі да крынічкі. Ну, гаворацъ, што вот яна очань памагае некаторым, панімаеце? Можа дажа вот чалавек ілі рабёнак іспугаецца – у гэта я веру, я ведзь тожа не ва ўсё веру, а цяпер убядзілась, што гэта вадзічка памагае. Аднажды зглазілі маю праўнучку. Яна крычыць, а я туды пабегла і сьвятой вадзічкі ўзяла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Івановай Яўгеніі Васільеўны, 1935 г.н. у в. Рагуцкія Ушацкага р-на.**

**544.** Вот раньшэ, як ездзілі старыя сюды ў лес, пакуль да гэтага леса даедуць, тут аваднёў, мух – неяк было ў лес ехаць, як толькі да гэтага месца, дзе во тут крыніца, даедуць, коні стаяць – ні аднаго: ні авадня ні камара. І сейчас – пайдзі ў лес і сколькі камароў – яны ж заядуць. А тут пастаянна, усё врэмя тут няма ні аваднёў, ні камароў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Жаваранак Клаўдзіі Сцяпанаўны, 1931 г.н. ур. в. Лука Полацкага р-на.**

**545.** Втарога аўгуста бывае Ілля. У лясу ёсць крыніца, там вада святая. Крыніца ў балоце знаходзіцца, а вадзічка там атлічная, дужа чыстая. Втарога аўгуста на Іллю тут усе збіраліся. Больш нідзе не было такога зборышча, уся акруга збіралася. Уся Ушача, Сарочына былі там. Там раньшэ была дзеравянная цэркаўка, небальшая. А хто агледзіў, што там вада была такая?

Прыязжалі сюды, маліліся, маладзёж збіралася з гармошкай. Танцы там былі ў лясу, знакомствы. Там стаіць крэст. У 1918 ці 1920 гаду цэркву гэту разбілі. Рэвалюцыя была. Вада там вельмі добрая. Вось стаіць яна ў бутылке год і не порціцца, другая затахаецца ці што, а яна – не.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Пугача Сяргея Фёдаравіча, 1931 г.н. у в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.**

**546.** Ой, я даўно ўжо хаджу, ужо 50 гадоў замужам, дык на каждую Ільлю, толькі раней жа бацюшкі не было. Усё роўна прыходзілі і бралі. Я з дзярэўні Царкавішча, там я замужам, а тут радзілася. Тут, гавораць, была каплічка пастроена. І то, як яе ўжо спалілі, пад ёй абразавалася крыніца. І людзі ўсё врэмя прыходзілі, кідалі капейкі ў вадзічку. Яна ж, кажуць, очэнь памагаець. Вот с глаза калі што-небудзь, скаціне, кароўку змываюць і дзецям. Узяў, пабрызгаў, яе ж у рот не нада браць. Калі ў рот узяў гэтай вады, то святое ж ужо з’еў. І змываліся, і пілі.

А Ільля, да, гэта очань сьвяты празнік. Робіць ня можна, а калі што срочнае, нада ў часоў 5 ці 7, тады ўжо Бог пращчаець. А ў гэта врэмя, барані Бог, – нельзя! Вот у нас на Благавешчаньне адзін рубіў хату, дык ён і сёньня ляжыць ужо чацвёрты ці пяты год. Ляжыць, нічым ня дзействаваець – паралізаваны.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад жанчыны (адмовілася назвацца), 1937 г.н. з в. Заазер’е Ушацкага р-на.**

### 547. Матырынская крыніца

Святая крыніца і ў нас када-та была. Яна ў тую сторану чэраз гару. Гэта кілометра пашці пад два, а можа два троху нет. Ну, там такое азярцо

було. Яно называлася тое азярцо Лiньня. I там када-та жылi, футар быў, i там жылi людзi. Лiньня. I там, у гэтым Лiньнi рыба была – лiны гэты, во там на балоце. I там стаяла каплiчка. Кругом балота такое, а там стаяла такая каплiчка. У гэтай капліцы там людзi малiлiсi Богу, на празьнiк. I там у гэтай капліцы, пад гэтай каплiчкай была крынiца. I там былi паложаны гэтыя, даўней жа так, гэта цяпер кольца ўстаўляюць, а даўней жа зрубы дзеравянныя ўстаўлялi. Ну дак вот, людзi малiлiся там i шчаталася гэтая крынiчка лячэбная. А тады разбурылi i тую каплiчку. А крынiчка тая, Бог знаець, сколькi гадоў яна стаяла. Ну вот нада была абязацельна ў Чысты чацверг, нада было бегаць па ваду ў тую крынiчку. Дык я i сама хадзiла. Ну, жэлацельна (да сонца). Ну, хто ўжо апаздаець, хоць калi. Там у нас i цэрква была, i iконы былi. Цi не на гэту, на Прачыстую [хадзiлi].

Ну i вот, эта яшчэ мой папа расказываў. Тут, у Матырыне, быў чалавек, хлопец. I то лi прыўраждзёны, ну ня вiдзеў, малады чалавек, i ня вiдзеў, сьляпы. А тады яму прысьнiўся сон, што дапаўзi да крынiцы, да Лiньня, i дастань вады, i напiйся, i памыйся – i будзеш вiдзець. Ну, i што вы думаеце, дык поўз чалавек гэты на каленьках, эта даўно дужа было, але гэта было дзесьвiцельна верна, чалавек гэты поўз на каленьках, дапоўз да гэтай [крынiцы]. Iшоў чалавек упярод ужо, а ён поўз за iм. Дапоўз да тый крынiцы, дастаў, папiў вады, памыўся i чалавеку адкрылiся вочы. Ну вот можа яе б i абнавiлi, ну вот так запусцiлi, запусцiлi. Даўней, кароў пасцiлi, а там балота. Ну толькi маленькая баравiначка, ну можа як на нашу хату, большая яна не была, дзе каплiчка гэтая стаяла. Дык тут балота, а тут крынiца ў гэтым калодзежы. Бываець жа i кароўка падойдзець, пап’ець.

Няма [цяпер]. Усё зарасло, нiчога няма. Ну, я, як во даўней ба, цяпер я ўжо не знаю, цi найду, а так бы я яе найшла. I вот я i вам скажу, як найцi. Дзе крынiца, там, дзецi, вада ўсегда лячэбная. Вада там жывая, вада там сьвятая, лячэбная. Дык вот, як толька ўжо вясна настаець, яшчэ чорна ўсюды, нiма нi травы зялёнай, нiчога. А вот iдзi iскаць туда, дзе тое месца, дзе вот була крынiца, абязацельна там вот будзець такая як зялёненькая травiчка пушчацца. Нiдзе нiчога, яшчэ чорна, а там яе найдзеш па гэтай. Тут я вам скажу: крынiчная вада – гэта жывая i святая, ад любых хвароб яе жэлацельна пiць яе, мыцца.

**Зап. Лобач У. i Фiлiпенка У. у 2006 г. ад Рудзёнак Зiнаiды Аляксееўны, 1932 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

**548.** Была святая крынiчка. Хадзiлi пад тую крынiчку, там поп прыяджаў, у нас жа ж во тут цэрква была, на кладбiшчы стаяла. Поп хадзiў, свяцiў ваду.

*– А вот тая крыніца, на які празнік да яе хадзілі?*

– Ну, вот там Мікола, там вот. Ну і ўчора быў празьнік, Рыбаловы вобшчэм зваліся. У тую крыніцу часта хадзілі.

*– А людзі насілі туды што-небудзь, можа капейкі кідалі?*

– Ну, насілі. Можа што і залатое там было, ў гэтай крыніцы.

*– А во тая вадзічка з крыніцы, яна можа памагала ад якіх хвароб?*

– Так вот бралі, усе ж пілі. Даўней жа не было лекарства, нічога. Ну вот ад усячыны. Ну вот, то жалудкі балелі. Тады ж таблеткі не пілі, пілі толька вадзічку, вот зёлкі, гэтых зёлак заварацъ, заварацъ. Да, і ад вачэй. Многа хто і ад вачэй бралі яе. Гаварылі, што еслі вот чалавек не асоба добра відзіць. Ну так ужо гаварылі старшыя. Ну, змывалі і пілі.

Там быў такі хутар, называўся Дзем'янаў хутар. І там стаяла гэта каплічка. Ну і цяпер яна там зарасла. Неяк адзін год на пасце я хадзіла, і вот іскала – іскала. Ну там ёсць камні, ляжаць, такія таўстыя, ну але я і сама не нашла.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Рудзёнак Надзеі Анухрэеўны, 1932 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

**549.** Гэта яшчэ мама мая гаварыла, баба мая гаварыла, я яшчэ малая была. Гаворацъ, ужо крынічка, як толькі, ужо на апрэдзелённае сьвята нада было. Ну вот у нас, напрымер, мама гаварыла: трэйці дзень Тройцы. Кірмаш быў. Называўся кірмаш. У Матырыне. У нас каплічка была на кладбішчы. Ну а тады яны хадзілі там, крынічка ужэ далей.

Гэта – Баравіна. Баравіна. У Баравіне гаворацъ… Там, гаворацъ, ля Баравіны Дзям'ян жыў. Проста эта самая Баравіна. Было што-та, пастройка какая-та іс крышай… Уход, выхад там. Так вот, мама гаварыла, ужо і крывыя, і сьляпыя, і такія увечлівыя такія, ўсякія цягнуліся!

Здалёк [прыхадзілі]! Здалёк! Пешкам, пешкам! Тады ж пешкам нада, есьлі ж ужэ у цэркву і да споведзі, ужо на якое прычашчэння. Эта ужо абавязкова нада пешкам! І наташчак жа ж, нееўшы нада! Ужо вечарам вады папіўшы, а утрам ужо і вады няльзя папіць.

Ну, памагала за тое, што яны ж не адзін раз там, ужо ж тады другія прыхадзілі усё і бралі гэную крыніцу. Ну дак мама мая не такая ўжо і веруюшчая была, но але, гаворыць, людзі, вот там, празрэлі. Там сьляпы прыйшоў, так, гаворацъ, ну што-та нейкая была, ну што-та… Нешта ж там хімічаскае што-та было.

Яны ўжо тут у цэркве [ахвярваліся]. Яны ж не йшлі так. А поп ішоў, тады асьвяшчаў гэтую крынічку, тады ўжо гэныя бралі. Гэта ўжо с папом. Ход, вот па дзярэўне, так я яшчэ помню яшчэ да вайны, мне гадоў шэсць

было. І я ішла, тожа. Так нам інцярэсна, рабяты ўжо. У хвасце там, гэта, строіліся. З зёлкамі, што-та. Ужо перад самай вайной. Відзіма ўжо старыя, ну, што-та знали пра вайну, што будзець вайна. А мы ж гэта ж не знали. Вот дзярэўня, там у нас пасёлак такі. Тут абыйшлі, прагонам там, абышлі…

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Рудзёнак Аляксандры Іванаўны, 1937 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

## 550. Крыніца Сьвятуха

Хадзілі, хадзілі на празьнікі. І калі бальны чалавек. Мая мама хадзіла, калі папа балеў. Старуха з Углоў яе вадзіла, капейкі кідала яны. Ай, сэрцам ён балеў. Тады троху ён паправіўся, а патом неяк раптоўна і памёр.

Ну, і ад упуду і ад ўсякіх хвароб [ваду бралі]. Мы нядаўна таксама езьдзілі туды на машыне. Ну, як каму нада, тады і хадзілі. Папа, як балеў, сасьніў сон, што яму нада гэтай вадзічкі. Тады вот і хадзілі.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Панцялей Д. у 2006 г. ад Гендрык Лілії Ананьеўны, 1928 г.н. у в. Бярэзінец Полацкага р-на.**

**551.** У нас там у бару крыніца ёсць – Сьвятуха называецца. І там вот як пойдуць у грыбы – у балоце вадзічка. Яна чыстая, нічым не пахнець. Гэта лес, вот там тожа святое было. У Ухвішчах была каплічка. Там крынічка, вадзічка чысценькая там. Гаварылі і хрэст там ёсць, і ікону хто-та павесіў, і палаценца вісіць. Туды на празьнік, на Макавея хадзілі. Туды, пры савецкай власці капейкі былі, капейкі кідалі, а цяпер рублі кідаюць туды.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Жаваранак Клаўдзіі Сцяпанаўны, 1931 г.н. ур. в. Лука Полацкага р-на.**

## 552. Святы дуб і святая крыніца

Ёсьць дуб за Царкавішчам, ёсь крынічка – там вада харошая. Хадзілі там к ней, хадзілі. Нешта там ёсь, у тым дубе. Я сама хадзіла, ваду брала ад усіх навязак. Вот у нас рэчка цячэ, дык я хажу 19 января, як у нас свята – Крышчэнне. Як Крышчэнне ў нас, у той дуб, у дупло кідалі капеечкі, нешта там кідалі. І цяпер стаіць.

**Зап. Халадкова А., Оськін З., Бойка А. у 2006 г. ад Саксон Анастасіі Уладзіміраўны, 1953 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**553.** Дуб той – сьвяты. Бацюшка туды езьдзіў, сьвянціў... Воўну складвалі ў дуплу. Хто па беднасці, хадзіў, браў адтуль у вайну. Кідалі капеечкі.

**Зап. Халадкова А. у 2006 г. ад Саксон Марыі Барысаўны, 1929 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**554.** У нас Сьвяты дуб быў. Быў дуб у канцы дзярэўні. І вочы лячыў, усё. Да яго прыязжала пані, яна асьлепла была. Гэта бацькі ўжо расказвалі. Ну, можа, ім дзяды расказвалі. Прывязлі яе сьляпую. Ну і сказаў ёй там, ужэ хто яе варожыў, едзьце ў такую і такую дзярэўню і тамака ёсць луг, там і дуб ёсьць. Ну, ужо пры нашай памяці не было, толькі пень быў і крыніца недалёка была, капейкі туды насілі. Ну вот, прыехала гэта пані, вот ей ужо найшлі такую ўжо травіну. Вот яна пакіпяціла, папіла і пабыла тут тры дні і паехала пані відушчая.

Там і крыніца святая была і цяпер е. Даўней поп, бацюшка прыязжаў. Дзесьці перад Троіцай, на Троіцу. Прыязжаў бацюшка, сьвянціў тую крыніцу. А цяпер я б зайшла, але там зайсці да яе дужа цяжка. Туды ўсё насілі. Капейкі, палаценцы, а сьляпыя бралі. Старцы, а цяпер жа няма.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Саксон Марыі Барысаўны, 1929 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**555.** У Царкавішчы быў Святы дуб. Цяпер жа старцаў нет, дзетка, цяпер пенсію палучаем, а даўней там накладуць воўны, насок, іспотачкі. Там дуплё было. А старцы ўжо ідуць – беруць. І крынічка там ішла. Ля дуба яна воддаль трохі. Алі ішла і каля дуба. У возера Царкавіськая. Ай, хадзілі Богу маліліся, тады ўжо ўсё. Алі пры маей памяці толькі пень быў.

У празьнікі хадзілі, анягож. І проста хадзілі. Мой бацька-нябожчык расказываў. Была асьлепла паня. Ей сасьніўся сон: Едзь у Царкавішча на луг, ёсь такая і такая трава. Вот яна прыехала, а ей прысьнілася, якую траву іскаць. Вот яна пабыла нядзелю, травіцу тую піла, мылася, і паехала са сьветам. Вот які там луг. На той луг ідзець эта крынічка і ў возера. І дуб там. Было дуплё, туды ўкладалі і грошы, каторы багацейшы. Прасілі аб здароўі. Як галоўка, бывае, забаліць, ня сплю, пабягу к таму дубу вады. Там красіва, і возера блізенька, і Святы дуб, і Святая крынічка.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Саксон Марыі Барысаўны, 1929 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**556.** Тут быў сьвяты дуб на Царкавішчы. Тамака з-пад таго дуба такая біла крынічка. Усе хадзілі глазы прамываць. А што вада, як будта вада там цэлебна. Гэта ўжо кідалі туды грошы, мелач гэту, капейкі. Ну, а тады ж гэтыя, такія людзі малаімушчыя, бальныя – старцы. Яны хадзілі, дзеньгі гэтыя ўсе выбіралі адтуль, з той крынічкі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 557. Сарочынская крыніца

Ну, я толькі знаю пра крыніцу, дзяцёнак, па расказах. Мама мая расказвала. Ну, вот тут, дзе кладбішча, была цэркаўка, дык я ўжо помню. Яна

гарэла. Што тут былі немцы, а гэта парцізаны ды запалілі. Дык мы відзелі…Я адгэтуль чатыры кілометры, сюды замуж вышла. Відзелі, як гарэла…Яна дзеравянная была. Ну а тут вот празнік такі быў, ну вот ён яшчэ будзіць летам гэты празнік – Узнясенне. Ну і вот збіралісь на гэта Узнясенне. Увесь свет з'ізджаўся. Так два дні з'яджаліся-раз'яджаліся. І сцежку тую выніжалі, леснікоў яшчэ не было. Гавораць, усё тут, і пасевы патопчуць – недзе людзям стаць. Столькі людзей збіралася. Клалі ахвяры, хто бальны.

Вот мама мая расказвала. Брацік яе быў забалеў, саўсім… А мама мая полька, ну і бабушка… А гэта праваслаўнае ўсё было. І яны ахвяруваліся, прышлі сюды, а тут у цэркві стаяла бальшая, гавораць, ікона. Дык дзе яна ў вайну дзелася… Нехта ж сабе забраў…І вот тады прышлі яны ў царкву, ахвярувалася бабушка мая. Ну дык бабушка мая ўжо не падлезіць пад ікону, а мама малая дык з брацікам тры разы падлезіць, абойдзіць і знова. Тры разы. Ну і паздаравеў гэтат, у бальніцу ж не вазілі. І паздаравеў гэтат, і выраслі дзеткі, у вайну немцы застрэлілі. Вот. Ну вот тады ахвяра тожэ была.

Ад гэтай цэркаўкі на каленях паўзлі ад тэй каплічкі. А цяпер тая каплічка, там дом на гарэ адзін. А яна ўнізу, дык ішчэ і зруб ёсць… І каменне такое ёсць ў гэтым (зрубе) на дне. Ну вот, як быў мой хазяін, дык усё гарыў: "Нада абнавіць, – бацюшку гаворыць – нада ўсё абнавіць. І зруб нада здзелаць".

Ну, чысцілі, я і сама чысціла. Вот бальшынство бярэменныя і труды гэткія… Дык каб лягчэй радзіць… Дык я, праўды, вот, пашла на сягоння, а назаўтра я радзіла. Так лёгка я радзіла… Вычысціла капліцу гэту, там дужа дрэнна чысціць, што гара, а тут балацявіна, места крынічнае, дык дужа вада набегаіць. Набегаіць, ды не абработана там нічога, ужо якіх гадоў за восемдзесят гэта ўсё было. Мяне на свеці не было, і то ўжо семдзесят пяты год… Ну і вот тады ўжо на каленях туды паўзуць, ахвяры, грошы ўжо былі, там кідалі…

Дажэ ўжо што з Полацка бабкі былі, так прыяджалі. Так мы вычысцім тут, вада чысценькая – дажа не відаць яе ў гэтай пасудзе сцеклянннай. І прыяджалі, бралі. І цяпер прыяджаюць, бяруць. Чысцюць. Як ўжо лета сухое, вада не так тады…Збіраемся, жэншчыны гэты, ну і чысцім. Вычысцім, а назаўтра ідзём гэту ваду браць – чысценькая, халодненькая, крынічная…

Хадзілі туды толькі на Узнясенне. Толькі на Узнясенне гэта ўсё было. Збіраліся на празнік гэты. Ай, усяго было! Збіраліся на празнік гэты, ахвяру на помач няслі. І палаценцы нясл, хто там рукадзельнічаў, і вышываныя, там ўсё…і іконы гэты… Многа хто ахвяраваў. Вот ад цэркві, цераз асфальт, на каленках; эта туды ўніз во кусты, туды ўніз у кустах. На кален-

ках. Ну тады ж не было… Цяпер ж насып такі, каб раўней было, там грошы кідалі сколькі, ну а тады ж вынімалі. На цэркву.Усё, ну цяпер жа царква у нас у Арэхаўне.

О, даўно, даўно тая крынічка. У маім пакаленні ўжо ж ніхто не знаіць, хто там ці што, дажэ…і пры маіх бацьках…Эта ўжо даўно, даўно крынічка гэта. Эта скажы, эта ўжо так броўны, так вянец здзелалі гэта такі, насыціўся вадой, ён ніколі не згніецъ. І зруб гэты як ёсць, залазаем, вычышчаем…Было тое, а цяпер… Былі троху заняліся разгаворы што нада яе абнавіць, гэтую каплічку. Людзі прыходзяць вады, прыязджаюць. Я й сама бяру… Возьмеш тады, гэта вада свянцоная, возьмеш, яна стаіць. Светлая-светлая, колькі не станець, яна ніякіх не асадак, нічога…

Вот яшчэ дзе я знаю крыніца была, дык гэта за Гомлем (в. Гомля Полацкага р-на – рэд.), дажэ мае ездзілі туды год вады, туды й бацюшка прыязджаіць. Людзей многа-многа збіраецца, на машынах прыязджаюць і ваду бяруць. І яна як бы з гары, там возера, і на гарэ…як яна там, мусіць, і ў возера гэта уцякаіць яна. Ну вот і гэты бацюшка асвянціць і тады бяруць…А тады ў нас яшчэ Стаечкі ёсць…Эта ездзяць у гэтыя Стаечкі на Іллю. Вот гаворацъ, дужа памагаў гэты святы Ілля, хто сляпы быў. Вот за вадой я прошлы год была. Людзей многа было, адтуль з Празарок, тожа бацюшка быў.

**Зап. Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Аўсёнак Валянціны Фёдараўны, 1932 г.н. у в. Сарочына Ушацкага р-на.**

**558.** Эта толька па славах я знаю. А так тады яшчэ малая была. Я толька гэта, болей жэнчшын было, ўжо паўмірала многа, мы хадзілі к Узнясенню яе чысцілі, а тады утрам пойдзем вадзіцы возьмем. А так ўсё я гаварыла бацюшку, штобы тут, так ён: “Нада, – гаворыць – зруб заказаць, нада зруб”. І там жа і зруб і ўсё. А тут ў прошлым гаду тожа маладыя чысцілі яе, прыхадзілі… Ну я гэта не знаю, бралі кала мяне дажа ў саседзяў, бралі лапатку, вядро, і там жа…А яны як чысцілі – узялі кала гэтага зруба кала нізу прыкапалі гэту траншэйку такую і вада яна адтуль сцякла ўніз. Ну а там вада яна ўсягда такая халодная, такая харошая, каб за ёй уход быў, дак харошая вада. Ключувая.

Бувала, пайдзём, зберымся, бабак пяць-шэсць, і тады ўжо вёдрамі ўзбаўтваем, і тады вёдрамі гэту бузу атносім, выліваем. Вот. Там тут так харашо вычысціць, дык сіла будзе бог знаець якая. Усё ж гаворам: “Ахвяруваліся, пачысцілі”. Вось якія дзела.

**Зап. Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Брыкун Антаніны Нікіфараўны, 1936 г.н. у в. Сарочына Ушацкага р-на.**

## 559. Святая крыніца

Вот ешчэ ў нашай меснасці, адкуда я родам, на Лоеўшчыне, у нас была капліца. Зразу кладбішча, а за кладбішчам каплічка. Раньшэ… Я ешчо была малая, з мамаю хадзіла. Там каруселі былі, бацюшка маліўся ўсё. І вот там, на гарэ, тры сасны і между іх ішла эта вада, струя. І ля этых соснаў, вот кагда ідзёш, када ў двенаццаць часоў ночы, – гараць свечкі. А днём нічыво нету, а вада ідзёт. Эта свянцоная вада была, святая вада… Там яе бралі… Каля Крупеек гэта. І там кладбішча. Вот кладбішча, толька вот паварот на каладбішча. І там у самую гору…эта места. Капліца была. Гэта каторая… шчас нет яе.

Ужэ мы падраслі, так хадзілі з рэбятамі, самі ж баяліся. Таму што там воўк ходзіць, так мы баяліся, так мы з рэбятамі. І вот прыйдзем у двенаццаць часоў. Толька адзевалі такія медальёнчыкі. Вот. У меня ён і сейчас ёсць. Я ўсегда яго з сабою нашу, куда ехаць ілі ідці. Так гэтыя… І вот прыйдзем мы туда і гараць этыя аганькі, свечкі натуральныя. Как толькі днём, усё – нічыво нет. Вот хто убірает? Не знаю. Вот. І там бацюшка всегда маліўся, і ўсё. І хадзілі за вадой туда.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рылькевіч Таісіі Сідараўны (нар. в. Крупейкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.), 1925 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 560. Крынічка Чапцы

Крынічка была. Чапцы. Ну тожа мы хадзілі. Праўда, пілі мы гэтую ваду тожа. На Лаеўшчыну тут дарога была, вот хадзілі ў ягады. Ну, малыя, колькі нам, па 9, па 10 лет была. Ну і даходзім – там стаяў пянёк такой, і на гэты пянёк лажылі капеечкі ці што там было… Вот ідзём, а там што-небудзь ёсьць там: дажэ шапачка красненькая хто-та вот палажыў там. Лажылі і пілі. Вот гаварапь, што там свянцоная вада. Ну праўда, ключ такой – такая халодная вада, што вабшчэ. Ну вот гаварылі, што свянцоная. Да, святая вада. І лажылі, ай, ну ўсё. Хлеб, як ішлі мы, і ягады лажылі – хто што. І мы тожэ ідзём, і капеечкі якія-та там, і 15 капеек, і пяць. Не, 10 ўжо многа было, што па 5, па 2, па 1 лажылі. Вот такая рачушачка, кладачка была, вот мы і пілі. Бралі, пілі. Ну не знаю вот, ну святая вот, мы бралі. І самі пап’ём, і памоемся. Ну такая халодненькая была. І такая ўкусная, без запаху, без нічаго. Такая вот укусная, як калодзежная. Да, пянёк там какой. Ну ўжо і нет таго пянька, і не знаю, рачушачка ці ёсьць. Ну тады ж меліярацыю там дзелалі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

**561.** Там Чапцы такія называліся – там крынічка была. Цёк ручаёк. Стаяў пянёк, зрэзанае дзераво. На пяньку стаяла кружачка. Хто ішоў, на этат пянёк там клаў што-небудзь.Там хадзілі ў ягады, за грыбамі, капейкі клалі – тады ж капейкі былі. Хто ў вадзічку кідаў, хто на пянёк клаў. Ягады – жменечку – сыпалі. Вот называлася яна ўжо святая нейкая. Пілі гэтую вадзічку. Я сама піла. Яна цякла светлая, як крыстал.

Раза 2 сама хадзіла ў ягады, маладыя калі былі, у балоце клюква расла. А цяпер мой хазяін адзін год, ён яшчэ крапчэйшы быў, хадзіў туды. Яна цячэ яшчэ. Толькі ўжо ён гаворыць, там ужо правялі – выразаны лес, кар'еры. Там ужэ вада не такая стала. А цячэць яна не з балот, з-пад гары. Там гара недзе бальшая. "Высокія горы" называліся.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 562. Святая крыніца ля гары Замак

Ну, вот, была цэркаўка ў гэтым Замаку, там нідзе ніхто не зойдзець, а тутака скрозь балота і вот яна там і праваліласяся. І маліліся, і іконы былі – усё. Прыйшлі людзі, а яна ўжо правалілася. А бог яе ведаець чаго, мая ты дзетка дарагая, ну хто гэта знаець – ноччы ж гэта было. Там крынічка была святая пад тым замкам. Там, каля берага была. Людзі хадзілі да яе, маліліся.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ляновіч Таісы Уладзіміраўны, 1938 г.н. (нар. у г. Глыбокае) у в. Мётлы Полацкага р-на.**

## 563. Крыніца ля Сафійскага сабора

Ну, нет у нас тут такіх крынічак святых. Мы хадзілі за вадзічкай аж у гэтат, у Полацак, дзе цэрква там стаіць, такая ж там стаіць, атусюды людзі прыязджаюць. Не дзе молюцца, а дзе там, дзе Сафія. Вот там возле рэчкі і цячот сама вада. І я ў бальніцэ ляжала, і я хадзіла іменна вот с бутылачкамі вады. Мы хадзілі тада за вадзічкай. Яна і сяйчас, наверна, цячэць. Яшчэ мама жывая была, гаварыла, што эта вадзічка была гаючая.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Піраговай Лідзіі Еўдакімаўны, 1928 г.н. у в. Коз'і Горкі Полацкага р-на.**

**564.** На Пасхальныя празьнікі ваду бралі, на Пасху, на Раждзяство, на царкоўныя, як у цэркву ходзім маліцца, тады вадзічку гэту… Памагае, дзяцей як крэсьцім у цэркві, дак эту вадзічку поп, цэрква берот…

Рэбяты, усегда дзеці абліваюцца, яна цякець, падставяць баначку, тады яе разбрызнуць. Усё ўрэмя, яна круглы год цякёць. Кідалі, да, серэбраныя: дзесяць капеяк там, дваццаць, такія… Як бы куплялі вадзічку (кідаючы капеечкі).

Ну, не́катарыя гаварылі, і мы дак калі бралі ету ваду. Можа дажа і ад глазу, мылі хрэст-нахрэст дзяцей. Мы шчытаем ета святой вадой, патаму што яна іс-пад Сафійскага сабора цечот. Стаіць. І такая чысценькая, ня мутная, нічэво. Мы, эта самае, мы пабрызгаем ёлачкай углы, во… Ну, гэта самае, на такія вот – Пасха, Раждзяство, Пакроу̌, эта самае там, якія бывают празьнікі, такія мы бяром этую ваду, кідаем дзеньгі, там, як бы плацім. Ну і эта, яна круглы год цякёць.

Ну для чаго, каб, штоб Бог спасаў. Што б эта самае… Ну, у нас такія Гасподнія павер'і. Эта, прычына хату брызгаць. Мы ж верым у Бога. Да, да, эта мы бралі! На празьнікі бажэсцьвенныя. Када крэсьцілі рэбят, дак спрашывалі у папа, адкуда вадзічку бяроце. Ну ён там, дак ён сказаў, што эта ў нас святая вада.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2004 г. ад Веліканец Зінаіды Прохараўны, 1925 г.н. у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

**565.** – Так усе гавораць, так усе называюць [святая]. Мы ж ня знаем.
– Ну как жа! Патаму што Сафійскі сабор радам жа, цэрква гэта. І тут жа крынічка, яна і зімой і летам цякла. Не замерзаець.

– Даўней, казалі, памагала. І цяпер, як унушыш сам сабе і паможаць.

– Ну ад чаго, ад таго, ад чаго баліць.

– Ад усяго памагала. Калі ў мяне сэрца забаліць, пап'ю гэтай вадзічкі, мне кажацца лучша. Калі печань баліць, пайду, вот, я часта хажу ў горад, набяру бутылачку вады. Ну, пап'ю, а Бог яго знаіць. Ад чаго мне лучша ад вады ці ад таблетак. Я вып'ю таблетку, вадзічкай зап'ю. (смяецца) А ад чаго мне лучша?!

– Да, вот ад дурнога вока, ад дурнога глаза, да. Дажа многія прыходзяць іздалека. Як вот, Грамы, напрымер, у нас тут, эты раён там, з (вуліцы) Марыненкі прыходзяць. Спугаецца вот рабёнчак, ці спугаешся сам другі раз, бальшы. Пап'еш этай вадзічкі, кажацца лучша. А Бог яе знаіць!

– Памыцца можна і так папіць. Вадзічкі можна набраць пабольша і так памыцца. Вочы баляць – памый вочкі. Стань раніцай – памый вочы. Ну вот раніцай ты ж устаеш рана. Ці да усходу…

– Ай, я, напрымер, беру. У мяне бутылачка літровая такая, я іду ў горад. Бутылачкі ў сумку набіраю і таблеткі тады запіваю. Ад чаго мне тады лучша?

– Хадзілі [даўней], ой! У 45-м нас прывязьлі з Латвіі, усе мы туды кідаліся, штоб у тое ўрэмя… З дзеравень прыходзяць.

– Ну, капейкі ўкіну, а яна возьмець! (паказвае на суседку і смяецца) Капейкі кідалі, да, было такое ўрэмя кідалі. Ну проста так. Вот плоціш за гэту за ваду… На Крышчэнне. Вот ідуць з пустымі (бутэлькамі). Тут дажа

очарадзь. На Крышчэнне. І цяпер і цяпер, я вот хажу кажды раз і цяпер стаіць очарадзь.

– Ну, даглядалі! А-ай, ну ёсць жа ўсякія, прыдуць такія… Там было харашо здзелана і заасфальціравана было – раскавыралі ўсё, раскідалі ўсё… Ну, там жалабок этат…

– Проста цякла з трубачкі вада і там нічаго ніхто там нічаго не ўбіраў у 45-м гаду, з трубачкі з гэтай вада цячэць і ўсё. Ідуць людзі – туды-адтуль, туды-адтуль. Ну, дзе ж ты ўсіх там увідзіш.

– Ай, і так ідут людзі, вот бывае на ўсякія празнікі ідут людзі, народу сабіраецца, ідут сюда піць, хто з сабой набраць.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2004 г. ад Ганны Васілеўны (прозвішча назваць адмовілася), 1930 г.н. і Смарчковай Надзеі Лявонцеўны, 1927 г.н. у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

**566.** Хадзілі людзі яшчэ пасля вайны, вадзічку бралі. І я брала, хадзіла. Яна счыталася нейкая святая. Да, да, да. Там вродзе асвяшчалі ее, бацюшка асвяшчаў. А яна ўсё врэмя, тая крынічка. Людзі хадзілі, капейкі кідалі. Кідалі абязацельна.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае тут з 1947 г.).**

### 567. Святая крыніца “Пяцінка”

Ёсьць сьвятая крыніца у нас, у Пяцінке – эта дзярэўня Слабада. Вот там, тады далей за дзярэўняй. Там стаяла раньшэ цэрква, ну эта не пры мне была, рассказывалі, а я работала на комплексе ў этым самым, у Слабадзе, і эта сама, там кіламетра не было, як да этай крыніцы. Ну знаеце, што запусьцілі там яе, ўсё. Каровы там так, усё. Ну патом там аблагародзілі былі і так баначку там павешалі, а сечас не знаю. І людзі схадзіліся за этай вадой схадзіліся, Бог ведае адкудава. Быў Пяцінка, быў кермаш такі. Я не знаю какой дзень. Вот я ня буду гаварыць. Нейкая пятніца.

Знаеце, што вот, прымерна, я тады работала. Даяркі доюць, а я была заведушчай і ездзіла адсюдава туды. Тут была ферма, тады там комплекс пастроілі, мяне туды забралі, кароў забралі, ну і я ездзіла. Вот доюць, я вазьму веласіпед і вазьму ну тых бутылак пласмасавых і паеду туда. Бо так вот пішу, а спаць хачу, што немагу, усё – такая слабасць. Прыязжаю ў 2 часы, падымаюся ў 4 прыдстаўляеце? І вот паеду і прывязу сваім бабам-даяркам, жанчынам і ўсе яны шчас памочацца. Гаворaць, як усё-раўно вот палегчыла. Яна ля самай ля дарогі вот, як у Пруднікі ідзем, у лес, па права яна, тая крыніца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Таранавай Ганны Ерамееўны, 1926 г.н. у в. Вялікая Любшчына Віцебскага р-на.**

**568.** Хадзілі ў цэркаў, дык гэта, я сама хадзіла. За вадой, там крынічка, ужо заплыла, только во, гэдак ямінка, гэтак ужо гадоу пяць. У мяне ужо шчас ножкі ня ходзяць. А дауней яшчэ цэрква была. Тая вада памагала ад усяго, ад усіх балезьняў, ад усяго на свеце. Я у Пяцінке была. Пяцінка – эта раднік.

Вот будзіць Купала, а перад Купаллем – Пяцінка, і тада ходзюць за вадой. І цяпер няма каму хадзіць, людзі ж памерлі ў нас, гляньце, ўсе памерлі. У Слабадзе так, мала, усе. А яшчэ пасьля вайны хадзілі, я хадзіла, ножкі мае хадзілі. Раньшэ там капеечкі кідалі. А мы ужо хадзілі – нічога не насілі. А там толькі капыток быў, ямінка. Ужо усё зарасло, дзеткі, зарасло. А вадзічка тая дужа палезна, яна для здароўя памагаець, яна ад усяго на свеце, гэта ж Божанька, там царква была. Мы хадзілі, на цэлы год вадзічкі набіралі. Толькі з бутылкі не нада піць дзетка. Нада наліваць так, у ва што-небудзь.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Галыновай Еўфрасінні Васільеўны, 1923 г.н. у в. Вялікая Любшчына Віцебскага р-на.**

**569.** Крынічка святая ёсць – у Пяцінку, туда. Там калісьці цэрква ў нас была, Пяцінка. Там ключ. Driving Ключавая вада і цяпер там. Здзелалі ход к ей, здзелалі крышачку такую. Іконачку павешалі. Ну, не знаю, ці доўга яна павісіць, іконачка тая. Усё бывала вот, празнік такі бываіць – Пяцінка. Эта па восені. Даўней хадзілі і маліліся. Цэрква очань харошая была і людзей многа туда хадзіла. У мяне мама якраз тады жыла там на гарушачкі, як у лес падымаешся, там у іх дом стаяў. І яны там і гатовілі тады ўжо этым прыхажанам, што да крынічкі прыходзілі. Вадзічка харошая, ключавая вада, чысценькая. А як во Хрышчэнне бываіць, эта 19 января, дык у нас ёсць такая святая, яна саўсем пайшла... Мароз быў, галалёдзіца, а яна пайшла, разьдзелася, як маць радзіла. А ў мяне дачка тожа перад хрышчэннем езьдзіла туда за вадой. Ну і я пайду ў царкву, вось і асвяшчаем эту ваду. А гаворыць: “Штой-та такое, ці мне эта паказалася? Нехта голый. Падхажу, а яна памылася, надзелася”. Гавару: “А Госпадзі, а васпаленне яна ці адхваціць?” Нічаво. А вот Люся гэтая, яна рэдка дажа дома бываіць. Яна ездзіць ў Полацк і ў Брэст. Такая царкоўная ўся. Усё яна ўжо стала святая ў нас. Бог ведаіць, якая. А не была такая. Яна радзіла двайню, хацела аднаго на тот свет паслаць. А спас тока, ну мужык ейны. Так што яна адмаліваець цяпер ета ўсё Хрысту. Яна бываіць, як паедзіць, дык нядзелямі яе няма. І хазяйства няма.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

**570.** І вось наша маці заўседы на гэты празьнік, на Пяцінку, брала нас, мы ехалі да святой крынічкі. На яе лажылі ікону, каб вада знізу, пад ёй была. А гэта Пяцінка – гэта да Ільлі яна была.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Фёдаравай Ніны Мікалаеўны, 1939 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**571.** І мамка мая хадзіла туды к Пяцінке. Ну нашы хадзілі туды, у Слабаду. Хадзілі ў цэркву, маліліся Богу, пакланяліся іконе Пяцінінай. Там і крынічка – ключ такі. Вадзічку бралі тыя людзі. Бывала і карову збрызгівалі, калі што-небудзь не пагадзілась, і дзіцё малое, калі што-небудзь балела, гэтай вадзічкай.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

## 572. Пяцінка

Я вам раскажу пра “Пяцінку”. Ёсь такое места лі Гавенькава, вы ж знаіце, дзірэўня такая была. Бачуць людзі: прышла ікона сьвятая Божай Мацеры і села лі бяроскі. Людзі ўзялі яе акуратна і занясьлі ў царкву ў Росіцы. Глідзяць – ікона апяць прышла і села лі бяроскі. Дагадаліся людзі, што знак гэна Божы. Выкапалі на том месьці калодзіц. А лі яго тапарамі зрубілі цэркву малінькую. Зьдзелалі хрэст. Гаварылі, вада там была сьвітая – памый той вадой, хто балеў, то ці памрэць зразу, калі ні на жысь, ці жыць будзіць доўга. А чаго “Пяцінка”? Малілісі у той цэркві толькі ў пятніцу. Дужа многа з’ізджалася людзей маліцца. Далёка пра ваду зналі. І дзірэўня Гавенткава, можа (называлася), што гаілісі людзі. Я ўжо быў малы, (калі) цэркву і хрэст разабралі і зь іх канюшню лі масьцярской пры калхозі пастроілі. Ці ня ў ёй і людзі згарэлі (маецца на ўвазе росіцкая трагедыя, калі 16.02.1943 акупанты спалілі больш за 1500 чалавек – рэд.). Вот і думай.

**Зап. Картэнка А. у 2004 г. ад Усялёнка Аляксандра Андрэевіча, 1935 г.н. у в. Росіца Верхнядзвінскага р-на.**

## 573. Сьвяты ключок ля могілак

Там ключок гэты быў, каля кладбішча. Я помню, там воду бралі, пілі, а цяпер яго забросілі. Раньшэ сруб быў, ваду там сьвяцілі на Крышчэньне, цэрквачка раньшэ там была.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Бізуновай Веры Філіпаўны, 1933 г.н. у в. Лісна Верхнядзвінскага р-на.**

## 574. Сьвяты ключок “На Макавея”

Там ляшчыньнік такі паросшы, і там ключок той – “На Макавея”. Яшчэ да вайны туды бабкі старыя хадзілі, маліліся там. І з Лісна тожа ха-

дзілі.Там і каплічка была дзеравянная. Яе, мабыць, камсамольцы спалілі яшчэ да вайны.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Чарнавок Валянціны Пятроўны, 1916 г.н. у в. Чарнавокі Верхнядзвінскага р-на.**

## 575. Святая крыніца Паморніца

Паморніца. Не знаю чаго, Паморніца завецца. Там жылі людзі раньшы, жылі людзі. Ну алі яны павыязжалі тады адтуль. Там ходзяць людзі, бяруць ваду і глаза прамываюць. Ад усяго, і п'юць тады яе. Ходзім на Кшчэнне, і я колькі разоў хадзіла. Да, ну і капейкі кідалі, ну цяпер жа гэтак ня ходзім – няма каму хадзіць. І хрэст стаяў добры, але ўжо абваліўся, згніў. Да, вешалі на хрэст і хвартушкі, і так якое палаценца ці што вешалі. Гэта раньшэ былі людзі, а цяпер…

На здароўе. Абнясуць вот, еслі хто бальны, абнясуць, і тады туды нясуць. Там павесюць на крыж. Вот абнясуць цябе там палаценцам, абнясуць і Богу памолюцца, і абнясуць, абцеруць цябе гэтым палаценцам. І тады панясуць і павесюць, і дажа мая мама яшчэ гэдак рабіла. На Кшчэнне ходзяць ваду браць, нікагда не замярзаіць. Толькі на Хрышчэнне. Да, толькі на Хрышчэнне ідуць ваду браць. І есьлі так, хто бальны, тады ідуць, ілі глаза баляць, тады ідуць вады, прамываць. І ад упуду бяруць там ваду, перакрысцяць і бяруць. Ад усяго. Ну болей на Хрышчэнне бяруць. І вада, сколька стаіць яна – год, два – чыстая. У бутылкі стаіць чыстая вада, нікагда не порціцца.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

## 576. Караічаўская крыніца

За Караічавам крыніца ёсь. Там і мыюцца і купаюцца, людзі туды ездзюць. Эта туды пад Межыцу. Здалёку прыязджаюць. Там і каплічку пастроілі. Вада там чыстая, святая, што туды прыязджаюць. І бяседачкі пападзелалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галая Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

## 577. Лаўшанская крыніца

Даўней там маліліся. Там была здзелана каплічка. І дзе там маліліся, і там была, ваду эту бралі. І вада лячэбная. Гэта ад усіх балезней памагала. І цяпер бяруць і бяруць. І гаворадь, што памагаіць. Дажа спіцыяльна прыяжджаюць. Яна была запушчана. Дзеці хадзілі, школа была. Раскапалі, здзе-

лалі ўсё. Навёў Валерык, даў трубы, уставіў. І здзелалі эту каплічку. І цяпер абгарадзілі. Во ціпер бацюшка хацеў, но прыехаў позна. А с цэрквы хросным ходам хадзілі туды, і там молюцца, і пасвіцаюць ваду эту на Хрышчэнне.Хадзілі іна другія празьнікі. Во, тут Церахаў (бацюшка) хадзіў на Багародзіцу туды тожа, там маліўся. На бальшыя празнікі Церахаў усягда хадзіў. А ціперака бацюшкі ў нас нет. На Крышчэніе, на такія празнікі гадавыя хадзіў Церахаў. Вот, хрэсным ходам і туды хадзілі.

Я там быў, када броўна даставалі, памагаў. Броўны размер такой, 5 на 6, броўны крэпкія. Дык там жа манет, старынныя, тысяча пятсот можа семдзесят шостага ці шэсдзесят сядзьмога. Вот як чысцілі каплічку ацец Аляксандр іх паказываў. Ён апяць укінуў туды. І іх было ці ня трыццаць сем штук. А броўны вот, як сёння паложаны.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Грузневіч Валянціны Іванаўны, 1923 г.н. і Грузневіча Валерыя Аляксеевіча, 1943 г.н. у в. Пабеда Шумілінскага р-на**

**578.** Дык ён (бацюшка) мне гаварыў, што кагда-та на гэтым месце, ягоный бацька ішчо гаварыў, што тут нашлі былі ікону. Багародзіцу з рыбёнкам. І бацюшка эта ішчо гаварыў, што эта можа гадоў двесце, трыста лет, а можа чатырыста лет прайшло, эта даўна. Ягоны яшчэ бацька, тоісць бацька гаварыў, бацьке бацька. Вобшчэм эта очэнь даўно было. І тады яны пастроілі каплічку. І вот эты, кагда эты Церах (бацюшка) у нас быў, ён эты, сын яго ійшоў і как-та наткнуўся на эты зруб. Тада ані вычысцілі эты зруб. Дзеці ўсе, яны чысцілі. І матушка, і бацюшка, усе яны там чысцілі. І дажа нахадзілі ані манеты. Ні знаю якія, но яні нахадзілі манеты. Ну тада во ўжо адкрылі былі. Мы хадзілі, мыліся і нам легчы казалася. І, эты самай, пілі воду і вада была такая харошая. Ну ды вот, эты самае, а ў гэтым гаду ўжо ні асвішчала ваду, а ў запрошлым гаду кажыцца асвішчалі. Но после таго чысцілі, і людзі п'юць ваду.

Дажа ў мяне раз плімяннік быў прыехаўшы, а ў ей сахарны дзіабет, у жэны быў. І ей стала плоха вот здзесь, у саду. А я ж ні знала што с ей дзелаць. Ну савершэнна плоха было. Я гавару што с ей? А я гавару, давай, жара такая была, давай, гавару, завязём (на крыніцу). І вы знаіця, ён дажа сам удзівіўся. Удзівіўся. Удзівіўся, што сразу на глазах ёй стала лучшэ. А патом, эта самае, какія тут, хто ім гаварыл, ужо майму плімянніку. Яны сталі ездзіць за гэтай вадзічкай. І прыедуць, і плімянніца мая брала.

Сюды толькі ходзіць увесь край, ходзюць і бяруць ваду. Там крэсцік, вы відзялі? Былі там? Ну вот, ані беруць і п'юць эту вадзічку. Ён здзелал і адцёк адседава. Там была эта старая-старая, я ня помню дажа. Я ня помню, а помніць Дарафей і брат ягоный. Яны гаварылі, тут была каплічка. Вот на

этым месце, дзе калодзесь, маліліся, дзяцей крысцілі. І вот эта каплічка, хадзілі і маліліся. Вот такія дзяла.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Якушавай Ганны Іванаўны, 1938 г.н. у в. Лоўша Шумілінскага р-на.**

### 579. Святы калодзеж

Была ж капліца там, калодзеж быў. Харошы, выліты цыментам, каплічка стаяла во так. Во так сдзеланы такі во яшчык. Гэта ўжо вада тут, і закрываўся крышкай. Ну, бывала, ваду берым, адкрыім. Ну а тады ўжо, знаіш, як сталі эці камсамольцы, пачалі там ламаць, крышыць.

А так во ідзі, ваду бяры, яна год будзіць стаяць, не замуціцца. Вот хадзілі у нас, як Дзесятуха, кірмаш быў у нас. Свяцілі цэркву на дзісятай нідзелі ад Пасхі, называлася Дзесятуха. Дык тады с хрэсным ходам хадзілі туды да крыніцы. Поп маліўся, насілі іконы туды, усё. А тады адтуль прыхадзілі і тады ўжо кірмаш быў.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Дзягілевай А. М., 1912 г.н. у в. Пятніцкае Шумілінскага р-на.**

**580.** Там была каплічка, крыніца, і цяпер ішчо камянямі вылажана во так, крынічка маленькая. І камянямі вылажана і вычашчана і сцежка там з лесу прабіта, нескалька трапінак. І ціпер людзі ходзяць. Неяк у ягады я хадзіла ў лес туды, дык заходзілі мы ваду там бралі. Ой, харошая вада! Дажа на Крышчэнія Коля Хуценка езьдзіць на кані. З Пятніцкага там адзін, і прывозіць, і мне сколькі раз прывозіў ваду. І дзеўкі мае, бывала, як пойдуць у ягады, тады набяруць бутылак, начарэпаюць там вады. Яна настолькі чыстая, празрачная. Завецца Святы Калодзеж, як калодцы такі здзеланы.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Г. І., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

### 581. Святы калодзеж Русалім

На гэтай гарэ, дзе харонюцца, стаяла цэрква. Я помню, як яна стаяла. Я хадзіла ў первы клас і мы пашлі на фізкультуру, дзевачкі. Былі разбітыя окны і лёталі голубы. Яна ўжо не работала. Дзеравянная была. Мы лёталі голубей. І такія сталы былі і мы туды голубей заганялі. І з гэтай гары была сцежачка. Дарожка спускалася з крутой горкі ў гэта балота. На адну старану дарожкі і на другую гэта балота было, а дальшы ў лес, углыб быў калодзезь.

Он быў небальшы, дзеравянны зруб. Я ў бацькі свайго спрашывала, чаго тут калодзесь. А ён гаворыць: эта калодзеж святой. Русалім называецца, на Русалім. Калі служэнне было ў цэркві, я ня помню гэтага, гаво-

раць, там плашчаніцу свяцілі бажэсцьвенную. Асвяшчалі там. І этат калодзец очань долга стаял. І не зарастал, і вада была светлая. Ідзём мы ў клюкву ілі апенкі там раслі, хадзілі мы і з дочкай на Русалім, хадзілі. А патом... Ніхто ж яго не даглядаў. А тады стаяла меліарацыя, усё скруцілі, перакруцілі. Відзіма, калодзец папаў пад каляіну. Гаварылі, што святы калодзеж. Ішлі з цэркві кросным ходам, па этай цежкі ішлі к калодзежу. У бажэсцвенныя празнікі, нашчот Багародзіцы што-та. Ад цэрквы метраў пяцьсот было.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Краўчанка Наталлі Андрэеўны, 1930 г.н. у в.Пустынкі Сенненскага р-на.**

**582.** Святы калодзеж Русалім – эта ў Пустынках за кладбішчам. Я там не была, а матка расказывала, што свяцілі ваду там, там цэркава была. На горкі. Там быў калодзец, ваду свяцілі, людзі бралі. Наверна памагала, раз бралі. А свяцілі ваду перад Пасхай і ў Каляды, да. Два разы знаю, што свяцілі. На Русаліме. А сама цэркава там была на горкі, яе пабурылі ў вайну.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мялешка Лідзія Мартынаўна, 1935 г.н. у в. Пушкары Сенненскага р-на.**

**583.** Быў Русалім, кароў ганялі туды паіць, на Царкоўную гару, як на фермі адно ўрэмя вады не было. Ён Русалім, што святая там вада, шчыталася. Казалі, што святая вада там. Там жа цэрква была, перад гэтым Русалімам, там жа цэрква была. Людзі ж былі ўсякія, як жа і ў цэркві расходуюць, дык і на Русаліме бралі ваду. Дык смяяліся, што не нада нікуды хадзіць, валшэбніка ніякага ждаць, схадзіць на Русалім зачарэпнуць – і будзець валшэбная вада. Ага. Эта я і з дзецтва помню. Зруба там было ня відна, а так, акуратная такая. А так там яшчэ балотца было, хадзілі туды, журавіны бралі. А вада добрая была, яна ж і называлася свянцоная. Ад гары, можа, метраў сто ад гары ад той была. А цяпер не знаю, ці ёсь ці німа.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Берашэвіч Наталлі Трафімаўны, 1924 г.н.у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 584. Святая крыніца ў Галавачове

Крыніца была, эта ў канцы дзярэўні, пад Нямойту. Там і цяпер ідзеш, калоціцца ўсё. Гаворуць, цэрква стаяла і пашла на дно. Правалілася. Там як крыніца ўсераўно. Мы, як малыя былі, жардзіну метраў пяць торкалі туды ў дзірку, а ўсёрна дна німа. Лезіць, лезіць, канца няможна найці. Каплічка стаяла. Там ваду свяцілі, давалі людзям. Фундамент, наверна, пашоў, і яна правалілася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ермашкевіча Барыса Мікалаевіча, 1936 г.н. у в. Галавачова Сенненскага р-на.**

**585.** Крынічка была, была. Вродзе бы праваліласяа там цэрква і званы адтуль ішлі. Знаю толькі, вада там была чыстая. Цяпер усё пазарасло. Тут такоя дрыгвястая места, ідзеш, бывала, рукой троху разгарнуў і вадзічка, чысценькая, светленькая, Папіў і пашоў, у жару. Бралі ваду…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ермашкевіч Антаніны Аляксандраўны, 1939 г.н. у в. Галавачова Сенненскага р-на.**

### 586. Святая крыніца і царква ў Нямойце

Была святая крынічка, дык яе ж засунулі. Цяпер яе няма. Кала той крынічкі, бывала, бацюшка адпраўляў празьнікі і там бралі з яе ваду. У нас жа цэркаў была. Праваслаўная. Дзе магазін цяпер. А крынічка недалёка ад цэркавы была, каля рэчкі. Бацюшка хадзіў, хадзілі людзі, ваду бралі. Цяпер толькі скасувалі. Цяпер усё зруйнувалі. Цяпер ачысная тут стаіць. Пасля вайны цэркава была ў Буі, у нас ужо не было…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

### 587. Святая крынічка

Крынічка ёсць на Казаршчыне. Кажарскі там жыў, там жа такія хутары былі, мама казала, усадзьба там была, і яблына. “Крынічка ля Кажарскага” казалі. Казалі, цэркава праваліласяа. Там, дзе крынічка. А ці праўда ці не. Шчыталі, што святая вада, а Бог яе знаець ці памагаець. Мы хадзілі туды, вады набяром сабе ў баначку. У Кшчэння-разрашэння. Кшчэння і разрашэння і сход Каляд. Эта паследні дзень.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

### 588. Сенненскія крыніцы

Крынічка харошая была. І там, што нанізу была крынічка. Яйцом пахла, тухлю, цекла, серная, а цяпер як паставілі там эту вышку, што яны там здзелалі, пазасралі этыя крыніцы. Яны ж святыя, святыя. Ёсь яшчэ там, што на бугру цячэць. Яе яшчэ ніхто ня трогаў.

Там очань жалеза многа. І яшчэ ёсь крыніца, жалеза многа. У нас пяць крыніц, усе памагаюць. Жалеза многа. А бацюшка ходзіць на Каплічку і на Пясчанку. На Крышчэнне, асвяшчаець эты крыніцы. А кала дарогі там ня ходзіць, толькі на эты дзве. Даўней кідалі капеечкі бабы старыя. Очань харошая там вада была.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Хадыкі Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у г. Сянно.**

### 589. Святое месца

Янава, а дальшы манастыр. Калі-та манахі жылі. А цэркаву разабралі па кірпічыку. Туды і зярно злажавалі, і ўдабрэнія сыпалі. Якая ўлась, такія і людзі. Там была цэркаў. Празнік Барыс, эта 15 мая, і называецца там... Радніковая вада там, і мосцік здзелалі, і мосцік. Святоя места шчытаецца. І бацюшка прошлы год асвяшчаў красты на манастыры. Адстраіваецца. На гэты Барыс-Глеб туды ходзюць. Там дубы. Такі дуб, што яго ўсе грызлі зубамі. Эта каб не балелі зубы. Там было многа дубоў, а грызлі наверна адзін.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Казакевіч Антаніны Дзмітрыеўны, 1936 г.н. у в. Серкавіцы Талочынскага р-на.**

### 590. Культавыя крыніцы і вясковая брама.

А крыніцы ў нас усё ўжо пазарасталі, нічога няма. Была крыніца во тут, куды ідзеш, так там была крыніца такая чыстая-чыстая вада. Эта асобенна жэншчыны, вот када спугаецца рэбёнак, бралі ваду і тады хадзілі к шаптухам, ле́чылі эту ваду з крыніцы. Там цяпер канава. Як пракапалі канаву – яна зарытая, і не нойдзеце.

А маліцца ездзілі ў Любчу. Любча – дзярэўня. І там была святая крыніца і туды ездзілі маліцца, туды, у Любчу. На Івана Купала туда ездзілі маліцца. Аброк, які эта дзень. Не знаю, чаму туды ездзілі ўсе на Івана Купала, на Івана. Ян. На Яна туды ездзілі…

У нас не было крэстоў (прыдарожных – рэд.). У нас толькі я помню, і то як чуць-чуць помню, як там, вот кагда падымаесся на горку і трошкі, там такі дом стаіць галубы на эту сторану. І там стаялі вароты. Дзерэўня закрывалася на вароты. Папярок дарогі і на две палавіны, і закрывалася. Вароты стаялі і ўсё А болей нічэво. Проста з жардзей вот так вот загарожана. Раньшэ гаварылі, што хадзілі, дужа воры хадзілі. Так вот хадзілі пілнавалі, а тут жа скрозь у нас балота была.

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2009 г. ад Лазукі Надзеі Рыгораўны, 1932 г.н. у в. Малое Стахава Барысаўскага р-на.**

### 591. Святая крыніца і капліца на могілках

Святая крынічка была, да вайны, на ятым пасёлку. А каплічка, дык яна і зараз тут ёсць. Капліца на кладбішчы стаіць, крыніца ж тут, на бугрэ, дзе Пасюшкава баня, там калодзеш ёсць… На кладбішчы каплічка стаіць. А крыніца метраў 100 – 150 ад каплічкі, як ісці ад кладбішча, метраў 500, можа мені.

Крынічка, тутака таргавалі. Алі дарога была тут вязкая ідці да кладбішча, а людзі, якія бальныя, нага баліць, вока, дзелалі такія макеткі, дош-

чачкі клалі, ішлі туды. Абракаліся. Гэта ісцаленне было. Дошчачкі клалі, каб ісці да кладбішча, ад крынічкі да кладбішча. І ім памагла і крынічка, памагла. А там на кладбішчы і царква стаяла, а доскі што гразка было ісці. Напрымер, еслі мне баліць галава, я выражу з дошчачкі гэту галаву, і будзе ісці ісцаленне. Гэта як аброк. І памагала. Алі гэта было да вайны, не цяперака.

Да, там быў кірмаш. Там усё: і самапрадкі, і прасніцы, і лён… Гэта звалі Намастыр, намастырок. Мастыр. Там не жылі манахі, алі пачыму-та звалі так. Саму цэркаў. І каплічка была, алі і цэркаў была радам. А каплічка тая і стаіць, гэта даваенная. А там камення столькі… Ну калі ўжо ганенні на цэрквы былі, яе разбурылі. Але тыя, хто бурыў, усе пазгібалі, усе памёрлі. Быстра. Камсамольскія акцівісты. Вот, як ужо калакала знімалі, пазабалевалі, і скора памёрлі.

Людзі ж усякія былі: і крывыя, і сляпыя, і хворыя, і ўсе ішлі туды. І маліліся на гэтым кладбішчы. Цэркаў была, да вайны. А цэркаў ужо пасля вайны разбурылі. Там балота, дужа топка было вясной. Ішлі, раньшэ снега дужа многа было, і пакойнікаў на лодках перавазілі. І там рэчка недалёка разлівалася, і на лодках вязлі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Чарняўчык Вольгі Макараўны, 1926 г.н. і Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

## 592. Крыніца Шчапаны камень

Ёсць крыніца, завецца Шчапаны камень. Зверху над крыніцай невялікі камень.Так завецца, бо камень расчапаны, а з яго цячэ крыніца. Крынічная вада цячэ фантанам, а памагае таму, хто верыць.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Дзісько Ірыны Нікадзімаўны, 1946 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

## 593. Царкавішчанская крынічка

Крынічка во, дзе бальшак і мост чэраз Дрысу. Усё ўрэмя бралі ваду. Як ідзеш на Дзёрнавічы, направа. Усё ўрэмя ваду там бяруць. Там вада – крыштал – там яна з-пад зямлі ідзець. Яна памагала! Вот машына, з танцаў ехалі людзі, абярнулася і ніхто, ніхто не пагіб, усе жывыя асталіся. Вот ля той крыніцы. Нейкае ж святое месца, што машына абярнулася і людзі ўсе жывыя асталіся.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Іллюшэнка Людмілы Андрэеўны, 1935 г.н. у в. Кульнёва (Царкавішча) Расонскага р-на.**

## 594. Крыніца ў Баравухе

Это за школой, которая распаложэна на церыторыі нашэй Баравухі. За ней есць святая крыніца, цепер это роднік, оттуда б’ёт вода родні-

ковая. Когда-то, в дрэвносці, там был храм, потом храм снеслі, он стал старый, і на его месце появілся роднік. Вот этой водой, эту воду освешчают перэд Пасхой, прывозяць её ў храм, кто не можэць туда дойці, у кого больные ногі, старыя очэнь людзі. А молодые ходзяць туда самі, к родніку, і берут эту водзічку.

Считаюць, што она лечэбная, што она помогает людзям от болезній жэлудка, кішэчніка, печонкі, поджэлудочной жэлезы, она очыщает сосуды, выводзіт халесцерын і разные мікробы с арганізма. У неё можно добавляць настой травкі лечэбной, вот такая как травка есць зверобой, бесьмертнік, подарожнік, настаивают на ней ромашку.

Людзі туда ходзюць на Пасху, на Троіцу, ходзюць туда на Благовешчэнье, на Рождзество і на Вознесеніе  Господнее. Вот на эці ўсе празнікі. Там іногда монетку оставляют, іногда, когда былі вот монеткі металічэскіе, то оставлялі монеткі. Цепер на Пасху могуць положыць крышчонае яйцо. Вот так вот у нас дзелаецца.

**Зап. Ляненка В. у 2010 г. ад Шавель Алены Паўлаўны, 1939 г.н. у п. Баравуха-1 Полацкага р-на.**

## 595. Крыніцы Серабранка і Дзмітраўка

Знаю, родников в нашем районе очень много. Особенными, пожалуй, можно назвать Серебрянку и источник вблизи Дмитровского кладбища. Теперь в этих местах нет деревень, кругом лес, а раньше были деревни Серебрянка и Дмитровка. “Серебрянка” теперь освященный источник с купелью, а Дмитровский источник – малоизвестный, да и добраться до него можно только в хорошую погоду.

Про Серебрянку рассказывают, что пан, который проживал в деревне Клястицы, считал эту воду лечебной и возил ее из этого источника за много километров на лошадях, для чего имел мужиков, в чьи обязанности это входило. В наше время источник очень известен и популярен. Люди набирают воду, считая ее целебной, в крещенскую ночь жители района приезжают, что бы окунуться в купель.

Про Дмитровку люди рассказывали, что в этом селе был костел и капличка. Когда костел и капличку разрушили, то на месте каплички появился источник. В него бросали монеты, ползали вокруг на коленях, молились. Особенно часто к нему обращались после войны. Женщины ждали чуда: что их мужья вернуться.

**Зап. Лабанаў Д. у 2010 г. ад Лабанавай Віліі Пятроўны, 1940 г.н. у г.п. Расоны.**

## ДРЭВЫ

### 596. Святы дуб

Толькі ў Тадуліна дуб вялікі рос, дужа. Дужа бальшы рос. К тому дубу хадзілі, ну, Богу маліліся. Хадзілі з дзеравень, ай, адусюль. Што плоха – тады  к гэтаму дубу. Можа і зараз ён расце.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Якубоўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на.**

### 597. Культавы (лекавы) дуб

І стаяў, значыць, во там во на полі дуб такі здаровы: чалавек пяць, наверна, яго абхваціць. А пасрэдзіне, метра два на два з палавінай, серэдзіна была выпалена. І вот так мы с табой удваіх будзем ну так радам іці і не зачэпімся ні тут за сценку, ні там за сценку. Такі дуб быў здаровы.

А я ж не знаю, як яго выпалілі. І вот дзяцей, значыць, прывозят, у каго значыць балезнь... І эта как-та праз гэты дуб прыймалі гэтак кругом два ці тры разы, я паняція не імею. Ну ў гэтат, у абпалены кругом тры, ці два разы, ці раз абвадзілі. І патом гэтага малога разьдзяют там і кідаюць гэта, і палілі, ну адзёжу, каторую з яго скінут, там і палілі на месце, возле дуба кала гэтага. А цяпер во сталі тут калхозы, усе саўхозы. Всё. Гэта было гэтат пры савецкай власці, генератар этат. Трактара ўсё пассоўвалі, згарнулі, і дуб гэты – усё ўнічтожылі, кусты… Ні пень, нічога. Усё. Поле во чыстае. Больш нічога няма, а раньшэ было! Насілі і ўсё. Я ж табе гавару, у каго жывот сільна, значыць.

А я дажэ не знаю, як яго называлі. Дуб і ё дуб. І ўсе так звалі – Дуб. Былі там дзве іконы маленькіх. Вісела адна там на дубу. І рушнікі былі, два ці тры. А крыж стаяў аддзельна, там, кала дарогі…

**Зап. Скварчэўскі Дз. і Казачонак К. у 2009 г. ад Касьянава Уладзіміра Сцяпанавіча, 1928 г.н. у в. Упірэвічы Барысаўскага р-на.**

### 598. Святая ліпа

Ліпа сьвятая – гэта на кладбішчы, молюцца на Пятра. На кладбішча прыезджаюць і молюцца. Вон, на полі, за хлевам. Яна была вялікая, а тады звалілася, вецер яе паваліў. Пасадзілі маладую, маладая там, іконы былі, ну, там дзежурылі і нехта запаліў, і гэта… у кукурузе гэта, Святая ліпка… Када на Юр’е хадзілі да яе. Спачатку молюцца ў Лужках, а тады крэсны ход ідзе са свячамі да Святой ліпкі…6 мая. Крэсны ход ідзець тады з цэрквы. Ну, гэта пры польскай уладзе, пры савецкай ужо перасталі. А там

ахвяру аддавалі, грошы насілі – там скарбёначка такая. Там і шэрсць ад авечак, хто што.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г., Радзюк А. у 2008 г. ад Крыўко Уладзіміра Уладзіміравіча, 1927 г.н. і Крыўко Марфы Ігнацьеўны, 1934 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

**599.** Да Сьвятой ліпкі і малыя, і бацькі хадзілі з цэркві і крэстным ходам ішлі на Юр'е. Юр'е – свята даволі пышнае. Всегда і крэсны ход, і іконы няслі, і вянкі нясли. Ішлі, і маладзёж уся ішла. Была капнічка маленькая, але і бацюшка тут хадзіў, маліўся, кругом людзі стаялі, маліліся. Драўляная была капнічка, маленькая саўсем. І іконкі былі. Жанчына адна, у Вялікую пятніцу ў цэркву ішла, зайшла і свечку паставіла. Тая свечка павалілася і загарэлася тая каплічка. Каплічка была не закрытая, усе, хто ішоў, зайдзець, памоліцца і пайшоў. Ахвяру клалі, а хто яе збіраў, Бог яго ведаець. А тады после, хрэст былі паставіўшы, цяпер можа стаіць жалезны такі, а там і іконкі хто вешаў. Я і сама занесла, павешала, і рушнікі насіла – ахвяравала… Як захварэе чалавек, гэта ж і ў цэркву ходзюць, просяць Бога, і да ліпкі, да святога дрэва…

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г., Радзюк А. у 2008 г. ад Катушонак Таццяны Іванаўны, 1931 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

**600.** А ліпа во, между Лужкамі і Падліпкай. Вот Крыўкі, паварот, а тады между Крыўкамі і Падліпкай Святая ліпа находзіцца. І знаеце што, дажэ камуністы яе не зрэзалі. Там ікона стаіць, хрэст стаіць, ікона святой Багародзіцы, і ручнік такі прасты. І вот адна ліпа, а кругом яе, атросце як вяночкам стаіць. Гэта, як даўней гаварылі крэсны ход хадзіў, я не знаю на якое свята, з Лужак – сюды, да Святой ліпы.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Крыўко Інны Іванаўны, 1971 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## КАМЯНІ

### 601. Сцёп-камень

Гэта быў мужык, з жонкай жыў. Ён там араў. Яна яму есьці панісла. Ён быкамі араў. І пракліла яго. Ну, нешта ўзлувалася і сказала: “Каб ты стаў, як гэты камень!” І вот на тым месьце стаў камень. І там стаялі і быкі тыя, там і якія бельчыкі, што яна есьці насіла. І Сьцёп-камень – там стаіць камень вялікі. І вот чалавек абраціўся у камень. Усё – і плечы тамака былі, і ўсё. І цяпер стаіць. Цяпер урос – ня гэтак што тамака ужо вялікі... І

“Сьцёп-камень”, “Сьцёп-камень”, зваўся Сьцяпан чалавек... А гэта вада, што ў нас артэзіянская – гэта з таго месца, што Сьцёп-камень. Начала вады харошай самай – гэта з Засьцеб’я. Там ключы ёсьць.

**Зап. Лобач У. у 1993 г. ад Камінскай Соф’і Сцяпанаўны, 1906 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

**602.** А пра Сьцёп камень ужо гэтак баюць, што даўна… быў Вялікдзень, Вяліканьня. Ну нада ж паехаць...[араць]. Вялікдзень, вялікі дзень. А тая жонка не пускала. І я ж бы не пусьціла. Сьвята! А та патом есьці яму панясла. І там і завяліся ужо спорыць. Жонка, яна каэць: “Каб ты каменем стаў”. А ён каэць: “Каб ты вадой разьлілася”. А праўда гэта ці не – ні знаю. Ну толькі што там камень той. Вот, во гэтка во спераду крыжык там жа выбіты. А у нас адзін стары [быў] да кажэць: “Ужо ён [Сцёп-камень] быў такі вялікі, што празь яго, праз ногі, дажа і с канём можна было праехаць”.

А во гэтак вот адзін старык расказаваў, што ён [Сцяпан] быў харошы партный. І вот панясуць – гэта дажы Іванька расказываў – панясуць яму, паложуць [на камень]: “Вот, сшый мне тое і тое”. Ужо скажуць як, і гэта ён і робіў. Ну, а другі ужо глядзеў, што ўжо, - ну гэтак жа ж ні нада ўжо робіць ! – проста, як тый каэць, і занёс мацяр’ял і сказаў: “Сшый мне ні то, ні сё!” І вот тады ўжо ён як сшыў гэта, і не стаў шыць. Вот гэтак старыкі расказывалі.

**Зап. Лобач У. і Міхалевіч А. у 1993 г. ад Ставер Домны, 1911 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

### 603. Сцёп-камень і сасна Куліна

Там сасна стаіць такая і называецца сасна Куліна. Пробавалі яе рэзаць, как стануць рэзаць пілой – кроў ліецца зь яе. А праўда гэта ці не – я ня бачыў, людзі гавораць. Ён [Сьцяпан] прыехаў на Вялікадня араць – там у лесе ж жылі, – араць быкамі. Йіна прышла нешта, скліла яга: “Каб ты каменем стаў!” Ну, ён можа стаў крычэць, што позна прынясла есьці. А [што прынесла] у дзежаццы, пасуды ж ні было жалезнай – дзеравянны кубе`льчык, так там і ліжаць камяні. І там і быкамі ён араў – і камені тыя, быкі акамянеўшыя. Ёсьць там і малыя камянькі, і гэтых два гарбатых, як быкі. Эта і прадзяды і дзяды [ведалі]. [Расказваў] мне бацька, а бацьку яга бацька, вот так і ідзець: Сьцёп-камень і Сьцёп-камень. А праўда гэта ці няпраўда, хто [ведае]. А жонка яга Кулінай была... [звалі Кулінай] А яга – Сьцяпан. І там недзе ў іх быў хутар. Ну, хата, там дзе ён араў. А можа за гэнай вадой там, дзе Засьцеб’е – эта рэчачка цякла, а ператварылася во ў балота.

**АСЭТ: зап. Міхно І. у 1993 г. ад Добыша Паўла Сцяпанавіча, 1928 г.н. у в. Краснікі Докшыцкага р-на.**

## 604. Белы конь і камень

Ну вот папа гаварыў, што вот сусед ноччы ішоў, і гаворыць (ці ён выпіты быў?), што ідзець, глядзіць – конь ідзець. Бяжыць белы конь. Гаворыць, ён сеў, ну і вродзе едзет. Ну і аказаўся дзе-та на зямлі, дзе-та на камні. А дзе той камень і ня спрашывала я.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Лілії Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 605. Заклятыя камяні

Даўней, як будзецце ісьці ў Матырына, будуць камяні такія. Дык вот там тры мужыкі разуваліся і спалі зімой. Прыходзіць ён, як дадому, бываець і спіць. Вялікія камяні здаўна там ляжалі, собственнасць іх там. А тады сыпалі туды дробныя. Я не знаю, гэта не іследавана.

У нас паехаў туды мужык, у Матырана, і ўз'ехаў на гарожку, газавая калонка стаіць там, і як яго там кабыла вывернула, адскоча і калёсы накрылі і памёр чалавек там, пад калёсамі. А ягоная пляменьніца работае там, у Матырына, у школе дзяцей вучыць. Казала, што не магла перайсці каля гэтых камянёў. Так там усё гудзела, трашчэла, што ў яе валасы дыбам усталі. Я ні разу не хадзіла там, но чула што, тры мужыкі спалі там, разуваліся і як на камяні спалі. Зімой і парцянкі клалі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Протас М. у 2007 г. ад Чачэтка Веры Грыгор'еўны, 1932 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

## 606. Пяруноў камень

Гара Гараватка. Там Перуноў камень быў. Перуноў ён называецца патаму, што ў яго ўдарала молнія. Эта не пры маей памяці. Можа, эта мой дзед чуў, што ў яго Пярун ударыў. Казалі – дзе быў? – возле Перуновага каменя. Проста такія разгаворы.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Волкава Фёдара Пятровіча, 1934 г.н. у в. Суша Лепельскага р-на.**

## 607. Святы камень

Там, дзе Падрэзы, на полі недалёка і быў той "Сьвяты камень". Зваўся так, што на ім сьлядочкі былі такія: кругловінка, як ад каленкі, і маленькая пятачка дзецкая. Гэта гаварылі, што даўным-даўно ішла па гэтым полі Багародзіца з сынам, і спатыкнуліся аб гэты камень. І сьлядочкі тыя засталіся: Багародзіцы і маленькага Ісуса Хрыста. Тая вадзічка (што заставалася ў сьлядках), гаварылі, дужа памагае ад усякіх хваробаў. А яшчэ гаварылі,што каля тога камяня, каля Сьвятога, ніколі зьмеі ня поўзалі.

**Зап. у 1996 г. Балай С. і Бартунскі А. ад Гапко Марыі Фёдараўны, 1936 г.н. у в. Папкі Бешанковіцкага р-на.**

### 608. Камень-следавік ля Сітнік і крыніца ля Бясед

Каля Сітнік быў камень. На камені былі сляды авечыя, каровія, усякія. Бальшы камень увесь у слядах. Ні як яго не называлі. Ні адчога ён не дапамагаў, толькі старыя бабы казалі, што трэба адарваць ад хусткі нітку і пакласці яе на камень. Для чаго гэта нада была робіць не знаю. А вот каля Бясед была крыніца. Туды ўсе хадзілі за вадой, казалі, што памагае ад хвароб. Стаяў каля той крыніцы крэст з абразамі, а пад сасной была каробка, куды грошы кідалі. Потым гэтыя грошы насілі ў царкву.

**Зап. Тухта В. у 2008 г. ад Скорба Ксеніі Ільінічны, 1928 г.н. у в. Сітнікі Лепельскага р-на.**

### 609. Святы (Богавы) камень

Ну, яшчэ старыя прымерна так гаварылі, што Бога сляды. Даўно Бог ішоў, ступіў, ну во і слядкі. А тыя малыя (слядкі) – дык то, ці кот з ім (Богам) ішоў ці сабака. Слядкі там гэтыя чысцілі. Старыя людзі хадзілі і зерне туды, у слядкі, сыпалі, каб добры ураджай быў. – *Як сеялі, сыпалі туды?* – Ага, як сеялі. Ну, яшчэ хадзілі на Вялічка, яйкі свянцілі. Яшчэ на Троіцу хадзілі. – *Як свянцілі?* – Яйкі пакладуць у слядкі – во так свянцілі. – *А на Тройцу?* – Не, на Тройцу не свянцілі. Хадзілі, чысцілі тыя слядкі, ну прыбіралі там старыя бабкі.

**Зап. Лобач У. у 2004 г. ад Міхно Івана Фёдаравіча, 1936 г.н. у в. Вял. Поўсвіж Лепельскага р-на.**

### 610. Камень Богаў след

Той камень, даўней людзі гаварылі, што эта Божы след. Такі як чалавеччы, як ступня, і пальчыкі, усё. Камень вялікі, да паўчалавека, метр. Гаварылі толькі, што эта Божы след. Еты камень я знаю харашо, мы там сена гатовілі. Там селішча было, і кусцікі былі, і там камянёк. Хадзілі глядзелі. Адсюль з кілометр, яма дзе сенажная, і туды. Вы не найдзецця, дажа не затрудняйцеся. Я і сама забыла. Зарасло ўсё.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мялешка Лідзія Мартынаўна, 1935 г.н. у в. Пушкары Сенненскага р-на.**

### 611. Камень следавік

*– Можа, бабушка, чулі Вы ад даўніх людзей гісторыі, як Бог па зямлі хадзіў?*

– Ай, гэтае гаварылі, але гэта не праўда – Бог не пайшоў па зямлі.

– Баба, праўда, хадзіў! Ісус Хрыстос хадзіў. Я ж сама з Улесься (Бярэзінскі с/с), у нас там на выгане ёсьць камень і точны сьлед чалавека, і пальцы і ўсё... Вот дажа я сама... Некалі была ў мяне дзічка пад носам

вырасла. Не прыродная, а сама вырасла. Я яшчэ дзяўчынай была. І я пайшла (да каменя), там з дожжа вадзічка была і я змыла. І дзе дзелася, не знаю, тая дзічка!

Казалі, што гэта Ісус Хрыстос хадзіў, і застаўся сьлед. Ну, точны, дзетачкі, точны сьлед! Чалавечы! І пальчыкі так, і пятка, і ўсё. Я сама вадзічку са сьляда брала.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Гайдук Ганны Паўлаўны, 1905 г.н. і Гайдук (Аўтушкі) Надзеі Сямёнаўны, 1935 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на.**

### 612. Рабінавы камень

Цяпер ён троху паменьшаў, а ў дзецтві высачэйшы быў. Бегалі туды за грыбамі, там лес красівы. Дзіцям казалі, як бы ён святы, дык як пацалуіш дык грыб найдзеш. Эта ж дзеці... Тады бегаем кругом, хто найдзець баравік, а хто не найдзець. А чаго ён паявіўся?

Называецца ён Рабінавы. А чаго яго назвалі Рабінавы? Ці там рабінка на ім расла. Такая рабінка небальшая. Чаго яго так назвалі, дык я не магу вам сказаць.

А пятно на ім – гэта... Прошлы год сын прыехаў, у грыбы хадзіў, прышоў і кажаць: “Мама, на камні йконка высечаная. І пад нізом такая падставачка, і свечачка, відна, гарэла”. А посьлі ўвосень, прыехаў яшчэ чалавек, я якраз карову даіла, прышоў: “ Вы знаеце, дзе? – Знаю. – А хто гэта іконку? – Я не знаю, малец мой гаварыў, што з Мінска нехта прыізджаў. Наверна, ён і выбіў іконку”.

А послі мой малец прыходзіць і кажаць: “Мама, там ужо ўсё ўністожана. А ці эта той чалавек уністожыў? Такі высокі, на валасапедзі. А чаго ён... Ён яшчэ: “А што яно, святоя?” А я: “А я не знаю”. А первы раз прыхадзіў, пытаў, і валасапед тут кідаў, дык гаварыў: “Я абыйду, – кажаць, – там калі святоя, калі яму пакланяліся раньшы ці што, дык, – гаворыць, – там далжна канаўка абнесена. Абнасілі гэтыя святыя мясты”. Тады ён з валасапедам прыхадзіў, як ехаў назад, і гаворацьь: “Я нашоў, абнесена”. А тады ці гэта той рысаваў, хто прыязджаў, ці другі які... Сыну гаварылі, што з Мінска.

А канаўка ёсць небальшэнечкая. Эта ён гаворацьь, што і кладбішчы, і святыя мясты – канаўкі дзелалі. А там гара такая на камені, з таго боку, на яго ўжо свабодна залазь. Яго ўжо занясло. А як у дзецтві мы былі, дык высокі быў. Уздзіраліся на яго.

Цяпер дык, як іконку нарысавалі, дык з Грыгаравіч, я ня відзела. А казалі, дык з Грыгаравіч, каторыя прыбаліваюць, прыхадзілі, можа, і падумалі што-небудзь, раз іконка нарысована. А цяпер усё замазана. Хай бы

была, яна не мешала. А той гаварыў другі, што не нада, яна да святога не адносіцца.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Булынавай Аляксандры Віктараўны, 1938 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

**613.** – Там жа ў грыбы хадзілі, і ў ягады. Казалі, во Рабінавы камень.

– Мама, ёсьць легенда. Там раньшэ людзі малых дзецей собіралі і на Рабінов камень вадзілі, і там Рабінаў камень – унічтажалі. Там кровь бралі с людзей. Там есць такая выемка. По ей кровь... Моя бабуля-покойніца рассказывала. По этой выемочке, в об’ем, там бралі ў младзенцев кроў. Чтоб этой кровью... Легенда была такая, повесць. І с эціх дзеток, дзевчат малых, дзевчат малых, бралі кроў. І там выемочка, і по этой выемочке. Это другіе какіе-то людзі рабілі так. Бабуля моя так расказывала. Леаніда Іпалітаўна Клемяцінская. Мы с ней ходзілі в лес туда. Собіралі дзеток местных. Это жыды. Собіралі дзеток. Да, жыды. Эта легенда.

– Яны тады мацу пяклі. Перад Паскай. Такія сухія блінчыкі пяклі. І рускім тады давалі есці. Закон у іх такі быў. Тут во іх кладбішча. Былі пасеялі зярно. А з Мінска прыехаў... Вот я помню, што быў Бэрка ў Лепелі і Левітан. Яны сюды прывазілі кароў на адкормку, і коз.

– Эта даўно. Звалі Рабінавы лес, і камень. Ну што там дрэвы растуць кала яго. Там рабінка расла. І дрэвы раслі ўсё.

– А што там за пятно цяпер чорная?

– Это был бацюшка тут, бацюшка, он разыскал, что его прэдкі тута, что у ніх бралі кроў, эта он поставіл памятнічэк. Дзеткам этым, ахвярам. Да, да. Этат камень. Бацюшка этот камень свянціў, да. З Мінска прыязджалі. Ён і іконку там здзелаў. Вы відзілі туую іконку? Да, да, я ходзіла с бабулькой, і она мне рассказала. Как туда водзілі, там дажа сцёк есць. С какой-то стороны дажэ сцёчэк есць. Дзеток там. Ахвяры... Камень – эта іхная правосудзіе такое было. Жыдоўскае. Дзяцей...

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Ясюк Ніны Сцяпанаўны, 1933 г.н. і Ясюк Валянціны Васільеўны, 1971 г.н. у в. Двор Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 614. Чортавы камяні

Пра чарцей такое казалі, што вось ператварыцца ў ягнёнка, а равець як бык. Было, што вадзілі. Было, калі прывялі на камяні – чалавек ня знаў, дзе ён. І той чалавек заснуў там, і аж разуўся – так цёпла яму было. Разуўся і спаў, аж праснуўся, а стаіць на камні яго абуваньне. Гэта пад Слабодкай тыя камяні.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кастрыцкай Тамары Аляксееўны, 1936 г.н. в. Кастрыца Лепельскага раёна.**

## 615. Чортаў камень

Ёсць каля Лынтуп камень, які называюць "Чортаў". Аднайчы, калі дадому вяртаўся адзін музыка, ён убачыў на камяні чарта, і чорт прымусіў, каб музыка іграў яму цэлую ноч. А калі настала раніца, чорт знік, а музыка без сіл пайшоў дахаты. З той пары і пачалі называць камень "Чортаў".

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Дзісько Ірыны Нікадзімаўны, 1946 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

## 616. Чортаў камень

Ну, уперад жа выпівалі, карчма была. Не ў нас, а там – за Дзвіной. Ну, і ў гэтай карчме напіўся старык. Ну, не старык яшчэ быў, але ўжо пажылы. Ішоў дамоў, ішоў-ішоў, заблудзіўся. І нашоў камень. Ён на гэты камень залез, раздзеўся, разуўся, і лёг спаць. Думаў, што прышоў дамоў, на печ залез, і спаць улёгся. Але не змёрз ён. Знайшлі яго жывога. А гэта зімой было. Чэрці завялі на камень.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 617. Чортаў камень

Хадзіў я ў Сураж. Тут дарога была, гэта мне матка расказвала. Ішоў дзед падпіўшы. Ішоў, ішоў, аслабеў. Тады увідзеў камень бальшы. Лёг на камень, раздзеўся. Устаў, калі замёрз. Тады, што яму здалося? Дзержыць румку гэту, з водкай у руках. А тады праспаўся – ляжыць на камні, а ў руках палка. Хмель прайшоў, ён падняўся і пайшоў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

## 618. Камень, на якім чэрці скакалі

Недзе тут быў камень. Яго ўсе абыходзілі, аганькі каля яго блішчэлі, там чэрці скакалі, потым высечкі на ім знаходзілі.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Краўцовай Валянціны Рыгораўны, 1925 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 619. Чортаў (змяёў) камень

Чортаў камень – эта ня тут, а ў Чашніцкім раёне. Дзярэўня Змяёўка. Эта мама мая гаварыла такоя прэдання. Здаравенны ляжаў камень. Было ў ім акно і жыў у ім чорт. У той дзярэўне Змяёўке жыла красівая дзевушка. І вот чорт украў дзевушку і перанёс у эты камень, і там аны жылі. Ну а бацькі ж іскалі. Хацелі адняць у чорта, усей акругай падняліся. Ён забраў яе і ўцякалі яны ў другоя места. Чэраз озера ляцелі і якраз граза была. Такоя

прэданія было. Ударыла ў іх молнія і аны ўтанулі. Я сам адтуль. Я там жыў. Лепельскі раён. Валосавіцкі сельсавет, дзярэўня Ліпкі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Скумса Фёдара Цімафеевіча, 1935 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

## 620. Чортаў камень

Нам Бычкоу Уладзімір расказваў, вадзіў нас, гаварыу: "Глядзіце, дзеці, якія выймачкі – гэта чорт танцаваў". Пужаў нас, дык мы і баяліся, что можа праўда чэрці ёсьць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Стараннік Валянціны Іванаўны, 1964 г.н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на.**

**621.** Вось там каля могілак камень. Чорны увесь. Яго яшчэ называюць чортаў. Мне яшчэ бацька рассказваў, што чорт нёс гэты камень і ён упаў у яго. Ён не смог яго падняць. А сляды – гэта ягоныя сляды.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мікалая Іванавіча, 1934 г.н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на.**

## 622. Чортаў камень

Гэту гісторыю я чула ад своёй маці, я тады была зусім маленькая. Ужо шмат часу прайшло і многа чаго ужо і не ўпомню. Маці расказвала, што на беразе возера ля вёскі Ласіца ляжыць вялікі камень, на якім чэрці гулялі ў карты. Таму яго і завуць Чортавым камянём. Адкель ён там узяўся ніхто не ведае. Можа з неба упаў, а можа і з зямлі вырас. Гаварылі, што ноччу ля камяня можна бачыць агеньчыкі.

Казалі, што неяк увечары ішоў адзін хлопец ля возера. Раптам перад ім з'явіўся незнаёмы чалавек, які быў вельмі добра апрануты. Гэты незнаёмы прапанаваў хлопцу пагуляць ў карты з ягонымі сябрамі. Хлопец адмаўлялся, бо ў яго не было грошай. Але незнаёмец насыпаў яму цэлую жменю золата. Падыйшлі да каменя, а там ужо сядзелі яшчэ два незнаёмыя хлопцы. Яны таксама былі багата апранутыя. Напачатку наш хлопец выйграў вялікую гару золата. Але яна нябачна знікла. А гульня працягвалася. Вось ужо і апошнюю кашулю хлопец зняў і раптам чуе: "А цяпер закладай сваю душу". Хацеў хлопец згадзіцца, бо вельмі вялікі азарт яго ўзяў. Але ў вёсцы заспяваў певень. І заўважыў хлопец, што сядзіць ён на беразе возера без адзення, адзін, толькі крыжык на шыі застаўся. Пачаў ён хрысціцца. Зніклі незнаёмыя. З таго часу стаў наш хлапец маўклівым і задумчывым. Больш ён ніколі не хадзіў той сцежкай.

Старыя казалі, што пад тым камянём пахаваны зачарованы скарб і ахоўвае яго нячыстая сіла. Вось чаму ноччу ля яго можна бачыць агеньчыкі. І тады і зараз людзі абыходзілі яго, ад ліха далей.

**Зап. студ. ПДУ у 2009 г. ад Казловіч Гертруды Нікадзімаўны, 1928 г.н. у в. Дунілавічы Пастаўскага р-на.**

### 623. Камяні ў ваколіцах Лынтупоў

Камяні стварыў Бог. Камяні могуць расці. Ёсць такі у вёсцы Радута. Там хацелі звярнуць камень, але не звярнулі, бо ўросшы быў у зямлю. І гэты камень расце па сёняшні дзень. Нельга мачыцца на камень, бо гэта прынясе няшчасце. Быў такі выпадак, калі чалавек з-за гэтага зламаў нагу…

Вось у католікаў заўжды ставілі крыж. А татары ставяць камень, у іх гэта як крыж. Малому – невялікі каменьчык, а стараму – вялікі. Татары і цяпер ставяць камень. Каля Янавішкаў ёсць магільнік татар.

Клясьці камянём нельга, быў выпадак, калі маці на дачку сказала: “Каб ты каменьнем стала”, і тая стала п’яніцай…

Ёсць у Бялянішках камень, які вырасшы крыжом, яго называюць “Святы камень”. Яшчэ ёсць каля вескі Койры вялікі камень, які называецца “Адосеў”. З гэтым камнем звязаны адзін выпадак. Гэта бало у весцы Радута. Тады людзі жылі бедна, мелі, можа, гектар зямлі. А было у іх па 5 дзяцей. Жылі толькі на ягадах, грыбах, хадзілі да багатых на заробкі. Адна дзяўчына паехала на заробкі ў Амерыку. Год там пражыла і прывезла многа-многа грошаў. Купіла 15 гектараў зямлі, каня, карову… А разам у вёсцы жыў хлопец які кахаў яе. І яна яго кахала, і вечарамі сустракаліся разам каля гэтага камяня. Аднойчы хлопец папрасіў яе, каб яна выйшла за яго замуж, але дзяўчына сказала: “Калі пройдзеш балота, якое цянецца 3 кіламетры, выйду за цябе”. І ад гэтага камяня, Адось, так звалі гэтага хлопца, пайшоў праз балота, але так і не вярнуўся, бо загінуў у балоце. А дзеўка замуж так і не выйшла, а камень назвалі “Адосеў камень”.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Гарбінскай Леакадзіі Іванаўны, 1933 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

### 624. Чэрці кладуць спаць на камяні

Ай, гэта, мая дзетка, помню расказвалі. Вот адзін старык ішоў у горад, выпіўшы быў. Завялі яго чэрці на камень, раздзелі, разулі. Толькі ў адных падштаніках быў. Цёпла яму было, як на печы. Прасыпаецца, зуб на зуб не трапіць, – сядзіць на печы. І тое было, што разувалі. Завядуць, раздзенуць, пасодзюць. Ай-ай, таго чэрці ноч вадзілі, раздзелі, разулі. Чуць дамоў прышоў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

## 625. Чортаў камень

У нас у дзярэўні прыехаў хлопец работаць урачом, ветурачом, і за ім дужа не замечалі, каб ён любіў выпіць. А ў нейкі дзень настолькі выпіў, што ён зайшоў на поля, там дзе быў камень, раздзеўся, разуўся і лёг там спаць кала таго камня. Дык усе там гаварылі, во цябе вадзіў чорт.

Проста камень, мхом абросшы. Эта дзе Казадоі, Студзёнкаўскі сельсавет. На полі камень. Там цяпер хмызняком усё зарасло. Там часць толькі таго камня відаць. Хто яго найдзець. Уросшы ў зямлю. А адзін край такі гладкі. Дык людзі дзівіліся, што чалавек прыезджы, ён ня мог знаць таго камня, эта яго чорт туды завёў. Ну гаварылі ж, што ён на Чортаў камень папаў. Гаварылі, што Чортаў камень. Гаворуць, што на ім сама луччы, сама мякчэй спаць. Дык вот гэты чалавек тады раздзеўся, спаў на тым камні, хто яго ведаець, праснуўся і не знаў куды іці. Што прыезджы, і зайшоў к таму камню.

Я ішла раз з работы, а ў нас яшчэ дарогі тады не было, адны ямкі, гразь, думаю, абыйду полем, дзе той камень. І тожа, як пашла, пашла, аж заблудзілася, Госпадзі. Аж к лесу падыйшла. Боле ні разу там не хадзіла. Дзе та ў той бок пашла, к таму камню.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

## 626. Чортаў камень

Быў у нас на Гарах такі камень. Гаварылі, што на тым камні... А там раньшы ішоў чалавек і к камню гэтаму, як падыйшоў, і ўсё. І разуўся, і раздзеўся, зімой. І замёрз. Эта праўда было. Проста камень. І ляжаў ён кала возера. Вот з Чарсцвят як ідзеш на Горы, Горы – такая дзярэўня, там. Ляжаў на пуці кала дарогі. Бальшы. Тым берагом кала возера, не бальшаком.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шуманскай Соф'і Дзянісаўны, 1932 г.н. у в. Вяркуды Ушацкага р-на.**

## 627. Камень Халадоўская печ і Гарадзішча

У нас тут бальшы-бальшы камень ляжаў. І звалі яго Халадоўская печ. Бальшы-бальшы, там дзе балота. Хадзілі рвалі каменьня. А там быў бальшы-бальшы камень. А яны нешта заложуць і як бахнуць. Мужыкі заложуць нешта, а тады як бахнуць і ўцікаюць. А ён – пох! І на кускі разляціцца. Халадоўская печ. Эта ўсё звалі, што зданькі там былі. З гарадзішча хадзілі.

Эта здасца ўсё. Хадзіў-хадзіў, зблудзіўся чалавек, ужо ня ведаець куды йці. А чорт гаворыць: “Лезь на печ!” А ён узьлез на той камень і

зьмёрз там. Ён жа камень, ён жа мёрзлы. Вот і выдамаюць: зданькі вадзілі, на печ уссадзілі, а ён і зьмёрз.

Вродзе казалі, нейкі тут быў горад і праваліўся. І празвалі гэта места Гарадзішча. А ў нас тут за дзярэўняй. Гарадзішча тама. Там стаіць маяк гэты. Высокая там гара. Ці эта праўда ці не, а кажуць: горад праваліўся. Я ня помню, алі расказавалі так.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Галай Ганны Пятроўны, 1916 г.н. у в. Заручаўе Бешанкавіцкага р-на**

### 628. Змяіны (сівы) камень

Нахадзіўся ў тым камені чорт, нячыстая сіла. Паднасілі яму шыць. Як скажуць: "Пашый харашо", – то ён якую штуку ўклеіць. А як: "Пашый, пажаласта, як сам знаеш", – адчаканіць харашо. Ці кажух ці што. Сівы камень. Там змей нахадзіўся у камні. Врэд ня дзелаў. Падыдзі, скажы, вот забылася, як звалі, каб пашыў. Адкрываецца акно… і бярэць, і закрываецца. Ад прэдка свету такі. Там дзярэўня Есяноўка. Змяіны камень. Як кінеш камянём у той камень, ён забарабаніць.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Лепельскага р-на.**

### 628а. Сівы камень

Возера Крывоя і Сівы камень. Там лука такая, кала дзярэўні Падліпкі. Ішла жэншчына, нешта сказала на Бога, атвярнулася, сказала і ў камень прэўраціласся. І камень там ляжыць бальшой.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 ад Даніленка Пятра Васільевіча, 1928 г.н. у в. Турасполле Ушацкага р-на.**

### 629. Камень каля в. Адамаўка

Гаварыла адна старуха, вечарам к яму не падхадзіць, а то з яго выходзіць мядзведзь. Усё пугала малых рабят. На вазвышанасці стаіць. Каля таго каменя, старуха казала, белыя лебедзі ляталі, ці гусі. Будзеш іці вечарам позна, а тут гусь з вады. Той камень быў меншы, а тады ўсё рос, рос...

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Лепельскага р-на**

### 630. Камень ля Вадапоева

Быў камень. Я знаю, што дзе гэта, Андрэй яго звалі, у нас там пад Вадапоева, і ён ўсё блуждаў каля таго камня, ён ужо даўно памёр. Гаварылі, што там водзіць, дык і цяпер гэта бываець, адзін залез на печку, і не знае як

злеці з печкі, было такое, другі казаў, што хадзіў-хадзіў, а дамоў не папаў. Усякія случаі былі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г. н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

### 631. Камень Напалеона

Ёсць камень за Казаковым, возле Целяшонкаў. Там камень і камень, але гавораць, што когда-та там, кагда ў 812-м гаду Напалеон шол на Маскву, вродзе бы атдыхаў на гэтым камні. Но гэта такія легенды ціпа ходзяць.

**Зап. Гардзель І. у 2010 г. ад Крупко Ганны Іванаўны, 1925 г. н. у в. Урбанава Мёрскага р-на.**

### 632. Янаў камень і французскі крыж

Ну ў нас ляжаў камень, гаварылі Янаў камень. Там і выдрана нешта было на гэтым камяні "Ян", там нешта па-польску. Ну яго ўжо нет. Яго, як убіралі гэтыя камні вялікія трактары, яго недзе звязлі. Тут на гумне ў нас ляжаў. А тады яшчэ крыж каля вёскі з камяня. Пра яго кажуць, што гэта французы там пахаронены, і гэты крыж пастаўлены. Ён у начале вёскі стаіць.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Каросцік Леаніды Уладзіміраўны, 1950 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

### 633. Камень Хоўра

У Дзьвіне, каля Шашоў камень ляжыць. Камень, каторы называеца Хоўра. Прычыну названія я не знаю, но Хоўра – імя жэнскае. Цяпер там очань глыбока, як вада спадзёт, тады Хоўра тая відна. Можа яна ата дна і да верху метры паўтары і будзець.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядуры Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 634. Камень са знакамі

У Клінках быў такі камень. Дык мы, як у ягады ідзём, глядзім. На тым камені быў хрэст выбіты і малаточак і ножні. Я помню.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Падабед Раісы Іванаўны, 1923 г.н. у в. Трасцянка Талочынскага р-на.**

### 635. Зачараваны крыж

Тры мужыкі паднімалі камень, наверна хацелі знайсці пад крыжом золата. І ўсе сразу палучылі разрыў серца. Была гэта сразу после рэвалю-

цыі. Мне пра гэта расказваў бацька, Пшонка Велерый Іванавіч, калі я яшчэ вучыўся ў школе. Паказваў бацька гэты камень і казаў, каб я ня лез к яму.

**Зап. вучні Велеўшчынскай базавай школы у 2006 г. ад Пшонка Віктара Валер'евіча, 1972 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 636. Сраны (Біты) камень

Сраны камень звалі. Мужчына думаў, што на печку – лег каля дарогі. Ну і спаў на ім. І празвалі камень так. Дзед спаў, як на печы. Камень на сонцы нагрэўся і таму здалося, што печка.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Дразда Паўла Францавіча, 1935 г.н. у в. Звонь Ушацкага р-на.**

### 637. Камень-скарбавік на могілках в. Зацяклясьсе

Пра той камень у Зацяклясьсе гаварылі, што там нібыта золата схавана. Ну, гэта думалі так, а там нічога не найшлі, а там найшлі, ну нейкую бумажку, што лі. У гэтым камяні. Можа яны там і золата знайшлі, а што яны там прызналіся? Ай, хто там камень адкрываў гэты, распячатваў, дык што ён там скажа?

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Мацкевічаў Міхаіла Пятровіча, 1930 г.н. і Ганны Еўдакімаўны, 1936 г.н. у в. Мядзведзеўка Лепельскага р-на.**

### 638. Скарбавы камень

Гэта мне паказала баба Мар'я. Вот яна мне сказала, што там находзіцца камень. Пад гэтым камнем валова шкура і з кладам. Ну яго, эты клад, можаць узяць толькі ў поўнач, ну ў 12 часоў ночы, чалавек, еслі ў эта ўрэмя ў іх немаўля радзілася. То рукой узяўшы ручку немаўля, эты чалавек можаць забраць увесь клад. А еслі ён будзець тут навярху.

А еслі ў другія часы эта нарушаць, то клад пойдзець у зямлю. Яго невазможна будзець узяць. Каб успець да петухоў. Як пятух запаёць – усё зазвініць, зазвініць, загручыць і ўсё. Там графінчык на ім выбіты і стакан.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Волкава Фёдара Пятровіча, 1934 г.н. у в. Суша Лепельскага р-на.**

### 639. Камень-скарбавік

Старыкі гаварылі, што Напалеон адступаў, ямку выкапаў, крэст схуваў і камень ускаціў. Там той камень, тры трактары яго не брала. Над зямлёй быў роўны са мной, а пад зямлёй – трактары Эссы не бралі. Кругом ездзілі. Ямку капалі, капалі. А тады яго ўпіхнулі, укапалі. Ужо няма, цяпер ня найдзеш.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ермашкевіча Барыса Мікалаевіча, 1936 г.н. у в. Галавачова Сенненскага р-на.**

### 640. Лекавы камень на могілках

Ну камень, там пліта была бальшая, дык там яміна ў камяні была. І, бывала, дождж найдзець у гэтую яміну, і заўсягда хадзілі гэтыя, у каго былі гэтыя, дзічы на руках. І хадзілі, дзе вада была гэта, і лячыліся. Гэты камень быў на магіле і пакрыты такой бальшой плітой, і там яміна была ў гэтым камяні.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 641. Камень на могілках

Ад дзічоў, вот на могілках гэты камень быў. Там з ямкі вадзічку жывую бралі. Эта з дожджу, дождж што найдзе. Цяпер ужо няма дзічоў даўно, у мяне ўся рука чыстая.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Юшкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## ГОРЫ

### 642. Святая гара і крыніца

А Купалу спраўлялі тут недалёка, на Святой гары. Зараз яе няма. Гару зрылі. А завецца таму, што раней пад гарой была капліца каля крыніцы. З яе бралі ваду і свянцілі пад капліцай, а потым неслі ў царкву, якая была на другім канцы вескі.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Татарынавай Любові Іванаўны ў в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

**643.** На Святой гарэ Купалу празнавалі, палілі мазьніцу, туда свазілі калёсы і палілі. Там расла сасна старая. На гарэ капліца была, к якой насілі кветкі, і коны. Пад ікону клалі грошы, воўну як жэртву: у каго баліць галава, у каго што.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Мацулевіч Лідзіі Міхайлаўны, 1913 г.н. у в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

### 644. Залатыя горы

І яшчэ вот. Не дахадзя Навіння, па асфальту, там называюцца Залатыя горы. Вот тожа легенда – Залатыя горы. Там пагоркі небальшыя, да нет, можа з хату не будзець. Там ёсць пагорак адзін, а чаму ён залаты называецца… Залатыя горы. Там нескалькі пагоркаў. Гавораць, што там закапана французамі золата.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны, 1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

### 645. Варганская гара

Варганская гара, там вёска Варганы. Яе знасілі шапкамі, прыгоршнямі. Кажуць, што вот гэта як ляжыш на яе, услухаісься, то вродзе бы, вот як пяюць там, як што. Нехта казаў, што можа там цэркаў якая была, і засыпалі яе. Ну вот што та там, многа гадоў таму назад, гэтак. А неяк кажуць, што салдаты, што ў нейкую ў вайну, гадоў дзвесце таму назад ці болей, насілі шапкамі, нанасілі, дык вот гэткія легенды. Ну, што засыпалі, што там была царква і засыпалі там, старынькая цэркаўка якая там, дык і засыпалі. Чуім вот такія легенды.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

### 646. Гара Коска

Гэта адзін стары расказваў. Ен расказваў, што была на гэтае гары гарушка, такая небальшая. Яна цяпер зарасла ўсялякаю драньню. І, гаворадь, цэрква там стаяла. Там ідзець каля гэтай гарушкі такая, ну старая рака, тады была яна новая. Ага, цяпер яна ўжо высахла і мы завем “Старэчча” тое. Ну, гаворадь, падмыла пад гэту гару і цэрква абярнулася ў ваду, у раку. Ну, дык гэта ж няпраўда, можа. Хто верыць, хто ня верыць.

Ага, гаворадь, лавілі рыбу тады па той раке і тады шасты такія длінныя былі і кажа, што ў тую цэркву тым шастом упіралі і там бубны білі. Гэта, можа, няпраўда, мы ж не знаем. Гэта так адзін аднаму расказваюць”.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Ганчаронка Архіпа Федаравіча, 1926 г.н. у в. Дабраплёсы Верхнядзвінскага р-на.**

### 647. Гара Княгіння

У якую-та вайну там, на гары, ваявала княгіня Вольга, а яе салдаты на гару [зямлю] шапкамі нанасілі.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1923 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

### 648. Дароціна гара

На той гары Дарота жыўшы. Кажуць, што на той гары жыла Дарота – жанчына, можа там быў яе участак зямлі. Казалі, што быў гарадок на востраве. І жыхары гарадку шапкамі перакідваліся з Даротай. Дарота перабрасвала сvae шапкі аж на востраў.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Міхно Вольгі Антонаўны, 1921 г.н. у в. Канчаны Верхнядзвінскага р-на.**

**649.** Некалі на востраве на гары Гарадзец жыла княгіня-чараўніца, а на Дароцінай гары – чараўніца Дарота. У Іванаву ноч яны перакідваліся палкамі, ігралі так.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Зайцавай Марфы Васільеўны, 1922 г.н. у в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на.**

**650.** Ну, як во я ад старых чула: што была такая Дарота – ваявала з гэтай гары. А такія разгаворы ішлі. З кім-та там яна ваявала, Дарота тая. Ёсьць у нас места – завецца “Чапураўка”. Гара такая вялікая. І вобшчэм, страляла яна з гэтай Дароцінай гары на гэту Чапураўку. Ну вобшчэм, бітва якая-та ішоўшы... А Чапураўка – гэта аж там, за возерам. І тая Дарота, ну, не то што кідала, страляла, можа з лукаў яшчэ тады. Ну, наверна сільная жэншчына была, раз ваявала. Ну, гэта даўно. Да і мы ўжо ж старыя...

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Лазаравай Лідзіі Дзмітрыеўны, 1928 г. н. у в. Канчаны Верхнядзвінскага р-на.**

## 651. Гара Літоўка

Я чула, што старыя расказывалі, што калісь даўно, гавораць, былі прыйшоўшы літоўцы сюды, за тое назвалі Літоўкай гэту гару. Дык гавораць, што літоўцы тыя – бальшыя людзі очэнь былі, асілкі. Яны ж, як тут ваявалі, дык з гэтай гары кідаліся каменнымі малаткамі. А мы малыя яшчэ сьмяяліся, што малатком ваявалі. І тыя малаткі, а яны ж цяжкія, гэтыя даўнія людзі закідвалі аж на Заточынскую гару. А гара тая ў Дабраплёсе, за ракой, за Свольнай.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Чарнавок Валянціны Пятроўны, 1916 г.н. у в. Чарнавокі Верхнядзвінскага р-на.**

## 652. Латышкіна гара

А вы знаеце, во тут, дзе Латышкіна гара была? Латышкіна. Там латышы жылі. Эта там, за Пазнякова, во тут во. І там абязацельна ты заблудзіш. А еслі ўжо чуць цямнеіць – эта ўжо ня то, што сказка, – ні за што ня выйдзеш. І будзеш хадзіць, і хадзіць, і хадзіць – і на тое самае месца прыйдзеш. Ну, чэрці водзюць, чэрці водзюць.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

## 653. Французская гара

Вот у Шалцінах, возле озера, гара называецца Французская, патаму шта там захараненіе французскіх салдат 812-га года. І па сей час іх можна там адкапаць, косці яшчо сахраніўшыся.

**Зап. Гардзель І. у 2010 г. ад Крупко Ганны Іванаўны, 1925 г.н. у в. Урбанава Мёрскага р-на.**

## 654. Шведская гара

Ну я гавару, наступленне было шведаў на Расію, гэта ж даўным даўно легенда ідзець. Ну дзета тут ўбілі іхняга палкаводца, ну яго палажылі, пахаранілі вунь тут во, сколька войска было – каждый у шапкі наняслі. Каскамі чэрпалі пясок няслі і сыпалі. І во ў чэсць гэтага палкаводца насыпана гара і называюць таму швецкая.

А вось гэтая лагчынка, каля гары, называюць Крушыннік. Гэтую ж лагчынку выбралі на гару, я ж і гаварыў, што шапкамі… Гэтак дзяды кАжуць, што вычарпалі лагчынку шапкамі, насыпалі гару. Там жа прыязжалі геолагі, казалі, што там карэта залатая, што палкаводзец быў пахаронены ў карэце залатой.

**Зап. Аўсейчык У. у 2009 г. ад Патэза Івана Фёдаравіча, 1934 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

**655.** У нас Купалу вон там на гары палілі. На Швецкай гары. Гэта шведы кагда наступалі, расказвалі. І вот, кагда жалезную дарогу вялі Крулеўшчызна-Лепель, і вот паехалі сюды гэтыя інжэнера. У нашым доме распалажыліся, я яшчэ вазіў усе іхныя прыборы. А брат мой Хрыстыян, а яшчэ з Дзедзіна адзін, так яны буравалі, хацелі гэтую гару знясці, на жалезную дарогу насып здзелаць. А яны як сталі бураваць – чорная зямля насып, чорная, жоўтая. Так яны там месяц, ці болей буравалі, нічога там. А вакруг мы капалі і косці нахадзілі, і кінжалы, і ўсё нахадзілі. І людзі бальшыя былі – такія косці. Гэта швэды ваявалі. А ў якую гэта вайну? А Бог яе ведае.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Карніловіча І. М., 1928 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

**656.** А во Шведава гара! Шведамі яна насыпана. Када ішла вайна, ішоў швед, і кажды, гаварацъ, ну шлём, па шапцы насыпалі – і гару насыпалі. Тут убіты глаўны іхны. І ён умураваны сярод гары гэтай. І тут жа дзето ёсць і вароты. Дзверы, да. Ёсць. Але ніхто не знаіць. Дзверы на васток. Тут какая-та пасловіца дзедава: бочку золата (дастанеш), еслі на бычку, на трэцячку з’едзеш у Вільна за тры часы, і прыедзеш. Золата тады. І каму-та дажа прыснілася. Відзеў, як гэта каціласяа, шар какой-та. Якое-та зданне. Са Шведскай гары на Крушыну… Гэта цяперака разаралі, а вот як раз проці гары вот так во нізіна была, Крушыннік. Я шчэ на пасту ганяла, дак там лужына цэлае лета стаяла. І там бралі зямлю, насыпалі. Яна насыпаная.

**Зап. Аўсейчык У. і студ. ПДУ Высоцкі С. у 2009 г. ад Апанасевіча Фёдара Андрэевіча, 1922 г. н. і Малашонак Аляксандры Якаўлеўны, 1919 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

## 657. Гара Букатка

Гаворат на этай гарэ вот ёсць места, вон туда, над возерам. Гаворат, цэрква была кагда-та. Там заметна, раўніна такая. А гаворат, з ночы прапала – правалілася скрозь зямлі. Гэта Букатка. Я ня памню, што б яна была, а разгавор такой быў старыкоў.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Макітава Л. Дз., 1924 г.н. у в. Вялікае Сітна Полацкага р-на.**

## 658. Крукава гара

Гаварылі, што цэрква ўвалілася там, дзе гара. У нас звалася Крукава гара. Гэта недалёка. Дык гэта і я помню, як папа мне расказваў. Пасцілі даўней коней, а там кладбішча было ў нас. А каля кладбішча ніва. Дык на вялікі празнік, ляжыш на зямлю, і некаторыя чулі званы званілі. А праўда гэта ці не?

Я не знаю, гэтага не знаю, чаго цэрква правалілася. Ну толькі помню, папа казаў, што, калі малым быў, так людзі старыя, самастаяцельныя робілі жэрдзі, абчэсвалі звівалі іх і апускалі. І не асталі дна там. Ў яму апускалі на гарэ. І калі я хадзіла ў грыбы, дык там нахадзілі афальт і ступенькі. Ну а цяпер ні хто і не ведае.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Якубоўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на.**

## 659. Гара Гарадзец

Кладбішча старыннае ёсь между двух азёр Заслаўскім і Урадай. Каля кладбішча ёсь гара Гарадзец. Стаяла царква – правалілася пад возера. Пасярод гары выемка ўглыб.

**Зап. Тухта В. у 2003 г. ад Шатыронка Генадзя Сцяпанавіча, 1928 г.н. у в. Заслаўкі Лепельскага р-на.**

## 660. Гара, дзе прапала царква

У Людчыцах была некалі цэрква. Стаяла яна злева ад дарогі, што вядзе да кладбішча. Аднажды цэрква прапала саўсім. Гаварылі, што цэркву праіграў у карты поп, а ўтрам яе ўжо не было. Цяпер на гэтай гарэ робяць Купалле.

**Зап. Тухта В. у 2004 г. ад Карагі Мікалая, 1967 г.н. у в. Людчыцы Лепельскага р-на.**

## 661. Царкавішча ў Галбеі

Адзін такі выпадак быў у Галбеі.Там ёсць адзін вялізны роўненькі пагорак. Казалі, быў у царкве адзін бацюшка, які быў вельмі хітры і імкнуўся да скарбаў, грошаў, нават пра Слова Божае забыўся.І аднойчы, калі

бацюшка яшчэ адзін скарб прынес, то затраслася зямля і царква правалілася пад зямлю. Кажуць, да гэтай пары чуваць, як па начам звіняць званы.

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Дзісько Ірыны Нікадзімаўны, 1946 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

## 662. Вялікая гара

А патом у нас ёсць во вялікая гара во тут. Завуць яе Вялікая гара. Дак эта мой хазяін расказываў, мой хазяін быў двацццаць чацвёртага года. Ну, пажаніліся мы. Я прыйшла сюды, ён мяне павёў на гэтую Вялікую гару паказаваць. Дак тады яшчэ была дырка такая. А ён казаў, яму было гадоў пятнаццаць, такія мальчуганы, дак яны звязвалі тры жэрдзіны і ў гэту дырку пускалі. Дак нідзе не задзержыцца загудзіць толькі і ўсё. Эта собсцьвенная праўда. Дак эта ўсе знаюць пра гэту Вялікую гару. І дзірка на самым вярху была. Гэта гара сама тут недалёка за дзярэўняй… Цяпер там ужо зарасло ўсё і гэтай дыркі няма.

Кала дзярэўні вы шлі, недалёка саўсім недалека ад дзярэўні. Завуць яе Вялікая Гара і ўсё. “Куды пайшоў па ягады?” – “К Вяліка гарэ.” І так яна называецца – Вялікая гара. Яна круглая са ўсіх старон такая. Дак там ужо заросшая даўно. Ну, такая была легенда. Стаяла там кагда-та цэркава і патанула эта цэркава. І вот ад гэтага асталася гара. Патанула эта цэркава. Дак гара гэта была бальшая, а патом яна са ўрэменем зарасла. Я кагда сюды прыйшла да майго хазяіна, брат там старэйшы быў – гэта ён расказаваў.

Чаго яна патанула, Бог яго ведае там, ніхто ж ня знае. Адна едзіньсцвенная царква, срадзі ночы. Срадзі ночы. Ну там расказаваў ён, былі там конюхі, на начлег жа там прыхадзілі, кажаць, толькі пачулі, зашумела што-та ў тэй сторане, дзе стаяла гара. А як развіднела, яны недалёка там пасвілі коней, пайшлі к гэтай гарэ – ўжо няма (царквы). Не было нічога. Цэркавы гэтай не было. Ну, после гаварылі хадзілі – званілі там (у гары). Старыя, старыя людзі (гаварылі). Гэта майго хазяіна бацька, а яго ўжо ішчэ бацька, дак гаварылі, шумела там, гаварылі, званіла там, нескалькі ўрэмя. Патом усё заціхла. І прыязджалі, і з горада прыязджалі, інцерэсаваліся і хадзілі. Нічога не было. А, і дажа сам хазяін расказаваў: можа, гадоў пятнаццаць яму было, тры жардзіны звяжаць і пусціць туды і гудзіць, кажаць, нідзе не задзержыцца.

**Зап. Глушко А. і Тухта В. у 2002 г. ад Скарупы Аліны Міхайлаўны, 1930 г.н. у в. Чорная Лаза Чашніцкага р-на.**

## 663. Гара Царкавішча

Старыя людзі гаварылі, што цэрква там правалілася. Малыя бегалі слухаць, ці шуміць там што. Было чуваць, як званы там звонюць. Абычна ў

нас там людзі пагібаюць, каля таго Царкавішча. Як едуць, бываець машына абярнулася, пагіб. Адзін на матацыкле разбіўся. У царкве пыталіся, дык сказалі, што нада прывязці бацюшку і ахрысціць, паставіць хрэст каля дарогі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кастрыцкай Тамары Аляксееўны, 1936 г.н. в. Кастрыца Лепельскага р-на.**

**664.** Свякроў мая казала, што там была цэркаў. І як ішла адправа, праваліласа пад зямлю. І туды цэрква ўвайшла ў зямлю. Яе не разрышалі раскапваць. Быў разгавор, што нешта шуміць там, пад зямлёй, так казалі. Там, каля Царкавішча, многа людзей разбілася насмерць. Я падымала вапрос пра гэта, што людзей столькі гібніць. І сказалі, што нада бацюшку прывезці, каб той службу адслужыў, крэст нада паставіць. А бацюшка сказаў, што сколькі людзей у зямлю ўвайшло ў той царкве, столькі далжно і пагібнуць. Так віцебскі поп сказаў. У нас многа ўжо людзей пагібла.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кастрыцкай Марыі Васільеўны, 1936 г.н. в. Кастрыца Лепельскага р-на.**

### 665. Мануха, Царкоўна і Гарадзец

Недалёка ад вёскі ёсць горачка Мануха. Яна называецца так, бо даўным на ёй была карчма. На гэтай горачке перапляталіся 2 дарогі. Карчма як бы маніла праезжых зайсці туды. Таму горка – Мануха. Радам з Манухай было Чорнае балота. Ёсць гара Царкоўна. Гавораць, што там была царква. На нейкае свята там сабралася шмат грэшнікаў, і гэта царква правалілася пад зямлю. Каля Перапечак ёсць Гарадзец. Гавораць, што яго французы шапкамі нанасілі.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Марынскай Надзеі Фёдараўны, 1964 г.н. у в. Сенькава Верхнядзвінскага р-на.**

**666.** Вот гара Мануха. Там стаяла карчма, чатыры дарогі разыходзілісь. Дык казалі, што чэрці вадзілі там п'яных мужыкоў, каб сваю дарогу не маглі найці. А Царкоўна – гэта горка, каля Чорнага балота там, недалёка. Раней, гаварылі, там была царква, і яна з людзьмі пайшла пад зямлю.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Бялей Марыі Андрэеўны, 1926 г.н. у в. Сенькава Верхнядзвінскага р-на.**

### 667. Царкавішча (Рагнедзіна гара)

Там царковачка была. Ну, яна, ну а хто яе знаіць. Па разгаворам, сначала как салдаты нанасілі гэту гару каскамі. А Бог іх знаіць, хто такія,

многа наверна. Пры нашай памяці ўжо толькі падмуровачак астаўся. А так нічэво такова і нет заметнова. А Рагнедзіна гара не называлі, не. Такога названня не было. Царкавішча і ўсё. Што гэта Рагнедзіна гара, не, не, ніхто не гаварыў. Царкоўка і ўсё, царкоўка. Царква эта, царква ўжэ на маём вяку ўжо разабралі, гэта, а там я яшчэ малая была. Ужэ не помню тую царкву. Так толькі што, ну знаю, што ні так ужо звалася. Тут дажа ікона была, сахранілася, с этай цэркві. У саседкі, алі іна памірла сама цяпер, а дзеці яны не знаюць нічаво. А там дзеравушка, Красевічы, бліжэ к граніцэ. Ну і ікону там у яе і ўкралі.

Гару салдаты каскамі насілі. Гэта історыя першабытная. А царкоўка там вродзе как пространства такое, ім панравілася, усё такое была. Патом пашлі воды ўжо ў разныя стораны, аблюбавалі гэта места. І там царковачка была, служба, када людзі хадзілі. Эта была. На самай горке была. Там толькі цяпер камушкі, кое-как заметна.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Кальнінай Любові Данілаўны, 1925 г.н. у в. Перавоз Расонскага раёна.**

## УРОЧЫШЧЫ

### 668. Чортаў мост

Ацец мой ілі дзед расказваў. Ішоў ён і нёс нам гасцінца за пазухай. А там – “Чортаў мост” – балоціна. Там кладачкі ляжалі і ўсегда мокра было. Дык ён толькі к утру дамоў прышоў. Прынес адну булачку, астальное чэрці расцягалі. А што там было не знаю. Калі заблудзіўся чалавек – точна чэрці вадзілі, ніяк не мог знайсці дарогу.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Кутковай Надзеі Паўлаўны, 1932 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

**669.** Чортаў мост – гэта тут, як праходзішь на ніз. Як пачынаецца лес, трошкі ў сторану пройдзешь. Калі гэтага балотца Чортаў мост быў. Там чорт вадзіў людзей. Там топь быў і, бывець, чалавека круціць, круціць. Ён дажэ майго брата п’янага вадзіў, той аж раздзеўся, разуўся. Ці на камні, ці на пліце. Прахмелеў – прыйшоў дамоў. Таго чарта ніхто ня відзіў. Вось малацянка круціца, а нікога нету. Гаварылі, што гэта чорт круціць малацілку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

### 670. Чорны мост і чортаў камень

Ехаў з ярмаркі мужык дадому. Ну і расказавае: “Еду я, еду, ды й прыснуў нямножка!” А там у нас такое месца – называецца Чорны мост. А там ручэй, і ў руччы – камень здаровы такі ляжаў.

Гаворыць, пад’язджаем мы. У ноч, цямно ужо, выпіў скока там, ехаўшы з ярмаркі, са сьвята. Ну і гаворыць: “Как я там, то лі сваліўся, то лі слезшы там” – ачуціўся мужык на гэтым камні.

Хто-та мне: “Хадзі, хадзі, пагрэйся, ты замёрз, ехаўшы з ярмаркі. Хадзі пагрэйся на печке!” Тут і мокра, па вадзе паброў, на камень сеў, пасядзеў на гэтым камні. Ну ад холада то ён ачнуўся. А што гэта такое – я на камні – лашадка стаіць.

Гаворыць, мяне чэрці зьвялі на камень. Хто ж мяне вёў: “Хадзі, хадзі на печку?” – гэта вот чэрці вадзілі. Вот это вот расказывалі, я помню. Вот такое было.

**Зап. Пракоф’ева Ю. у 2007 г. ад Еўдакімавай Варвары Маркаўны, 1935 г.н. у в. Запольле Віцебскага р-на.**

## 671. Ляхаў мост

Ляхаў мост – гэта ў лесе ёсьць, там нізінка і … Ну, места такое ў лесе. Там, гавораць, з французамі ваяваў рускі ваявода Лях. І там іх пабіў, там іх тады і закапалі ў гэтыя валатоўкі.

**Зап. Казлоўскі П. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Таргавіц Ганны Андрэеўны, 1935 г.н. у в. Славені Ушацкага р-на.**

## 672. Чортаў памёт

Ну, вот мая бабушка старая расказывала. Раньшэ хадзілі на прыгон, у Лужкі хадзілі. Тут гэтыя Царкавішча, Старына – хадзілі ў Дольцы, а ў нас – там. Тая Глінішча, Ахвераўшчына, ну якія пан Далецкі дзержаў зямлю, – усе гэтыя дзярэўні хадзілі ў Лужкі на прыгон, тры дні ў нядзелю. Ну, як ідуць старыя, Богу молюцца, дык вот чорт карчамі кідаўся. Там гэта звалі “Чортаў памёт”. Ну, места, паляна была такая ў лесе. Гэта паміж Тухаціна і Ахвераўшчынай. Дык вот карчамі кідаўся, дразьніў. Маладыя ідуць, пяюць – тады нармальна, а старыя ідуць – тады кідаў, дражніў.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугай Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 673. Чортава ляда

У нас тут хутар Язэпіха ёсь, і Кабыллі лог тожа. А яшчэ ўрочышча Чортава ляда. Чорт яго, кажуць, капаў.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Якубоўскага А.С., 1936 г.н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

## 674. Войтава дарога

У нас ёсць дарога – Войтава. Гэта таго, што там Войт пахаваны. Чараўнік у нас жыў такі – Войт. Як памёр, яго пахавалі, а ён устаў і ходзіць –

ніяк убіць яго не маглі. Тады яго ўлавілі, галаву адсеклі, паміж ног уклалі і на крыжавіне пахавалі. Во і Войтава дарога.

**Зап. Валодзіна Т. у 1993 г. ад Цялятка Е. А., 1912 г.н. у в. Катоўшчына Лепельскага р-на.**

## 675. Бабіна сасна

А во, ціха, Бабіна сасна, во. Лес. Лес во, за намі. Бабіна сасна, баба ўзяла павешалася, павешалася даўней. Ну і вот і назвалі Бабіна сасна. Лес, цэлы. Кажуць: "Дзе пайдзём?" "На Бабіну сасну". Ну дык і ўсё. На Бабіну сасну. Там баба жыла, баба павешалася. Ну дык, з прыдвеку вечныя – Бабіна сасна.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Мёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

## 676. Заклятае поле

Зьмеі ёсь. Яны дажа па гароду прыйдуць у Залужэні. А вот у нас, у Навасёлках – там нет. А ўжо Баранава дальшэ і Бор – ёсь. Мы хадзілі бувала з Навасёлак у чарніцы ў Бор. У гэтым Бару ёсь зьмеі. А ў Навасёлках нет. Гавараць, Заклятае поле. Жыў нейкі ўжо багаты, ці як пан калі-то жыў, і ён загаварыў поле, каб зьмеі не жылі. У нас і балота, і наш лес быў, адзін лясок, другі, трэці тут кала Навасёлак, і так беразьняк адзін. Ага. І там нікада не было. Дык гавораць, пранасілі спеціяльна на навасёлскае поле і пушчалі: ці будзець жыць? Здохнець! Заклятае. Гаворань, пан той закляў, што яны не жывуць у нас. Так нам добра было, што ў нас не было зьмеяў.

**Зап. Бабіч А. у 2008 г. ад Смай Аляксандры Міхайлаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Навасёлкі ) у в. Залужэнне Ушацкага р-на.**

## 677. Царкавішча

А урочышчаў тут многа. Старожка. Назва эта таму, што там, ну, раньшэ ляснік жыў, ну вот эта вот, як скажам, хата стаяла адна, ляснік жыў і дом там стаяў, вот і празвалі Старожка. А яшчо Шастакі. Эта дзярэўня раньшэ была Шастакі, а цяпер лес там такі – Шастакі. Зялёнка. Вот. Эта тожа там Зялёнка жыў, ну, багатый чалавек, як пан раньшэ быў, ну, я ж яго не знаю, но так тожа вот людзі гаварылі. Ну, трудзіўся чалавек сваім трудам, фамілія Зялёнка была, вот і празвалі Зялёнка. Ну там, Палавіннік. Эта палавіна, вот ад нас палавіна да Улы, вот Палавіннікам там называецца. Там дальшэ... а там… цэркаў правалілась там, за Палавіннікам, раньшэ была. Як на Улу ідзеш. Гэта ўсё ў гэтым лясу. Там крынічка асталась. Крынічка і такая бальшая-бальшая ўпадзіна. Вот. Там раньшэ… эта вот ґава-

рылі раньшэ, цэркаў там была, эта вот цэркаў правалілася і ушла пад зямлю. Вот. І ціпер гаворат, дажа там вот людзі вот, ну, другія, заблудзяцца, так, у гэтым лесу, но мне гэта не случалось, я гэта не знаю, ня чула, і вот гаворać, дажа чутна як… калакала, гэты вот званы, уродзе бы. Так вот так…

**Зап. Бабіч А. у 2009 г. ад Крыцкай Тамары, 1940 г.н. (нар. у в. Уласава Каменскага с/с Лепельскага р-на) у в. Цянюгі Ушацкага р-на.**

## 678. Царкавішча ля Брыгітполля

У Брыгітполлі ёсць месца і сейчас называюць "Царкавішча". Когда там цэрква ўвалілася… Ніхто яе не помніць, ні старажылы, ніхто. А называюць Царкавішча. І там такі абрыў каля рэчкі ёсць. Кірпіч вываліуся з абрыва гэтага. Гэта не праезжая маста, метраў 150.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**679.** Эта некалі дужа даўно, эта мая бабушка расказывала, што там, гаворać, некалі церкаў правалілася скрозь зямлю. А тады, як у бальшыя празднікі, так і, гаворać, ляжаш на зямлю і чутна, як паюць у цэркві. А это знаеце, гдзе Іван Галееў жывець, вот там такая гарушачка, ну это так мая бабушка казала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**680.** Царкавішча патаму, што там у старае ўрэмя харанілі царэй, ці каго… Расказала мне бабушка мая, каторая ўжо ўмерла даўно і мама, і мне ўжо 80 гадоў… Там горка была, як памятнік, такая круглая. Небальшая такая, як на магілу. Круглая такая, прадалгаватая.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Палячэнка Марыі Іванаўны, 1928 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

## 681. Царкавішча ў Турасах

Як яшчэ я ў Турасе жыла, там я ўсе месцы добра знаю, інцярэсныя дужа ёсць месцы, там кругом жылі паны. І вот адно месца такое ёсць, пан Самішча там жыў, алеі там былі такія і сад быў стары, а сярод поля гара такая высокая, цяпер яна ўжо зарасла алешнікам і бярэзнікам. Звадася гэта месца Царкавішча і цяпер яно так завецца. На вярху каменне, гэта фундамент, даўнае-даўнае. У Чарцвядах даваенная цаква, а там дажа жыхары гэтага няпомняць. Гэта даўнае Царкавішча, ад Новага Тураса за рэчкай, ад кладбішча саўсім не далёка. Усе хто там жыве, знаюць тое Царкавішча.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

## 682. Царкаўшчына

Царкаўшчына ў нас завуць каля возера. Когда-то там цэрква стаяла. Даўным-даўно, а цяпер толькі завуць Цэркавішчына, а як яна тамака была не знаю.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Юшкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 683. Царкоўе

Як на Гліннае ехаць, на леваю сторану, зямля завецца Царкоўе. А на правую – кладбішча. Царкоўе – там зямля распахана. Ну мама расказывала мая, што правалілася цэркаў там. "І вот, як толькі нядзеля, абедня, мы малыя, – кажыць, – як пабяжым туды, ляжам на зямлю, там многа іх збіраецца, і чуем што вот звон, там што-та ў зямлі".

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ліцвін Анастасіі Маркаўны, 1932 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

**684.** Ай там такое, як вы ішлі па праваю старану ад дарогі, вот там Царкоўе. Кагда цэрква ушла ў зямлю, вот і называецца так. Я яшчэ быў маленькі і, кагда там пахалі, і ў гэтым месцы нашлі ложачку царкоўнаю. І адтуль завуць Царковішча. Старыя людзі гаварылі, што кагда-та там цэркаў ушла ў зямлю.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Клопава С. у 2009 г. ад Гамановіч Фёдара Іванавіча, 1935 г.н. і Гамановіч Таццяны Андрэеўны, 1935 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

**685.** Царкоўе. Гэта завуць, як ідзеш у Туроўшчыну. Як там завецца ў нас направа магільнік – стары-прэстары, там і мама ня помніць. І мама прышла пры Мікалаю, і свякроўка ня помніць, там ніхто не хаваў. А камні, і цяпер сасон нескалька ёсць – ўсё стаіць. А напроціў – Царкоўе. Гэты бок – Замагільнішча, а гэты бок – Царкоўе звалі. Ну і казалі, што даўна там была цэрква, і ўродзі яна патопла. Правалілася ў зямлю. Вродзі ўжо сталі пахаць поле, дык і красты выворвалі, і чашы вродзі выворвалі царкоўныя. Ну ўсё ж кажуць, гэты патоп як быў. А точна гэта неізвесна, як яно было.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіч Алены Аляксееўны, 1936 г.н. (нар. у в. Старына) у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 686. Зніклы горад

У Гарадцах раней стаяў горад. Але з возера з аднаго і другога боку паднялася вална, збіла горад, выбіла ямы і цяпер там гара.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Хахловай Любові Філіпаўны, 1924 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 687. Горад Саколіна

Вот эта дорога была к нам, называлась Сакалянка, гаварылі раньшы, што тут кагда-та быў горад Саколіна і он праваліўся, даўным-даўно. На полі там жа. Там поля стала. Эта поля срэдзі Буяў і Парэчча ў нас. Горад калі-та быў Саколіна.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашкі Соф'і Цімафееўны, 1922 г.н. у в. Парэчча Сенненскага р-на.**

## 688. Асвейскі востраў

Ну, такая пра остраў ёсьць легенда. Што Кацярына первая саслала трох людзей на остраў: Бірулю, Ваську і Лася. Их пераправілі на плоце. Яны пастроілі хату і разрабатывалі тры часьці острава. А между работай насыпалі шапкамі курган – Гарадзец. Во, па іх іменах і названія: Бірулін рог, Васькава, Лоськава. У Васькавым рагу быў вялікі камень, можа з хату, але яго разбілі.

Да вайны на остраве было 62 двара, і зямля была падзелена между людзьмі. А кажды двор імеў свій падход к возеру.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Міхно Васілія Фірсавіча, 1930 г.н. у г.п. Асвея Верхнядзвінскага р-на.**

## 689. Урочышча Карагодзішча (Пагулянка)

Карагодзішча было. Вада была. Утапіла дзіця маці. Пракляла тады гэта Карагодзішча, і стала сухапуць ужо, ня стала вады ўжо. Як дзяцёнка таго ўтапіла, ці пераносіла, Бог яго ведае, то-ж даўна было ўсё. Баялі, я ж гэтага сама ўжо ня помню. Цяпер там толькі лагчына, а вады ж нямашака там. Мох там такі, тамка падаеш у яго, дак кажацца, што праваліўся.

**Зап. Лобач У. у 1993 г. ад Камінскай Соф'і Сцяпанаўны, 1906 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

**690.** Пагулянка – гэта сюды вот. Там у нас маяк ёсьць. За гэтым [лесам]. І тамака, за тым, маяком... Урочышча ёсьць такое. На Пасху пайшлі маладыя гуляць туды. Ну, і гулялі яны тамака на Пасху, пілі гарэлку. Ну, а быў абычай такі, што на первы дзень нікуды не хадзілі. І вот, быў такі бацька, што чатыры сыны ў яго было. Значыць, пабег дамоў, што нільзя, запрышчаў ім. Нільзя, такі дзень, што пцічка гняздо ня ўець. Пасха, первы дзень. А яны пайшлі тамака гуляць, там, тое-другое, ўсё. Значыць, не паслухалі яны, і ён сказаў: "Каб вы праваліліся!" І вот тамака такая лажбіна. Можа, каб зьмерыў, метраў пяць-шэсьць, упадзіна такая. У ёй стояла вада. Там правал здзелаўся, і ўвобшчэм, яны праваліліся ўсе, што гулялі...

**АСЭТ: зап. Глушко А. і Малышава В. у 1993 г. ад Коваля Міхаіла, 1927 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

### 691. Стары могільнік і Каралёў Рог

Вот у нас там дзета каля Селішч ёсць такія могілкі. Называлася гэта месца ў лесе "Стары магільнік". Там, гаворуць, што пахаронены былі, як было яшчэ шведы ішлі на Палтаву. Вось там яны, як адступалі, як іх гналі назад, там, гавораць, былі, наверна былі вялікія баі, і захараненні вот гэтых шведскіх воінаў там было.

Ну там былі камяні. Цяпер там ужо і назвы пасціралася ж на іх ўсё. Ну там былі такія камяні. І вот гаварылі, гэта могілкі шведаў. Шведы пахаваныя, там былі баі, дажа гэта месца называлася "Каралёў рог". Чаму так называлі? Гавораць, там адпачываў кароль шведскі гэты, Карл двенаццаты, каторы ішоў на Палтаву. Вот гаварылі, гэта "Каралёў рог". І там вот, ґаварылі, раньшэ гаварылі, што там напалеонаўскія вродзе салдаты пахаронены. Патом гавораць…

Не, гэта гавораць, былі яшчэ раней шведы. У тысяча семсот дзевятым гаду, як во наступалі шведы туды на Палтаву, на Украіну. І вот яны, наверна, адступаюць, раз могілкі. Былі баі жорсткія, іх там захараненні, гэтых шведаў. Ну гэта даўно гэта тысяча семсот, гэта сколькі ўжо прайшло… Там ужо, канешне, не магілак гэтых, нічога. Ну, камяні якіясьці валяліся, ну вот назва засталася "Стары магільнік". Ну там нашых не харанілі людзей, гэта толькі там былі захараненні шведаў.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Ліліі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

### 692. Урочышчы Чартоўка і Пескурова

А Чартоўка, так эта чорт, када ідзець на дароге такім вот вінтом круціцца. Там на Чартоўкі вот эту лазу, аж невядома што, аж бурліць у вадзе. На гэтай на Чартоўке. Ну і там уродзі бы пахаранілі каго-та нехарошага. А вот эта зданіе, дзе сельсавет, када пастроена – ніхто не знаець. Патаму што вот усе старажылы, каторыя жылі, ніхто не помніць. Дажэ іхныя радзіцелі не помняць, хто строіў гэта зданіе. А была там, у гэтым зданіі лаўка яўрэйская. І там Пэрла, звалі яе. Эта Пэрла там таргавала ў гэтым зданіі. Ані куда-та ездзілі, прывазілі прадукты ўсякія, тавары, і вот там ані таргавалі. І тут до этага, пака відзіма пастроіць шчэ эта зданіе, тут кладбішча была. І быў калодзец, туда чуць дальшэ вот с левай стараны, як іці. І прэдстаўце, што ўсе там бралі ваду. І магазіны нашы, і мы тожа бралі, ўсе. І аднажды хто-та пашоў, зачарпнуў вады і костку выцягнуў чалавечую. Ўсё. Эты калодзец забросілі. Ну эта было яўрэйскае зданіе. Эты калодзец неізвестна хто строіў. А на Чартоўкі там зданкі здаюцца.

Дажэ ў нас вот тут, Пескурова называецца, дык там тожэ зданкі здаваліся, а там утопленіка пахаранілі. А раньшэ ж на кладбішчы не харанілі,

хто павесіўся, хто ўтапіўся. І нехрышчоных дзяцей не харанілі. За кладбішча. Гдзе-та кала кладбішча. Так там утопленіка пахаранілі. Вот. І када мы жылі шчэ ў Бутоках, з Грынкіным строілі дом. Када хадзілі ў школу, цераз Пескурова хадзілі, а дарога была тада к нам, у Бутокі. Гаворыць: "Ашчушчаю, што хто-та за мной ідзець. Аглянуўся – буцян ідзець за мной. Інцерэсна, халодна, – я думаў, – уляцелі ўжо ўсе. Ужо мароз, а ён ідзець. Думаю, вазьму, злаўлю. І толька стаў падхадзіць, как іскры рассыпаліся, і не стала нічога". Вот такое вот здавалася. А патом ішчо ліса. Гаворыць: "Іду, гляджу, ліса качаецца. Ну, – гаворыць, – я за ёй прыпусціўся. Рассыпаецца – нічога нету". Вот эта ў гэтым Пескурове такія зданкі здаваліся.

**Зап. Шаўчэнка Я. у 2008 г. ад Сарокінай Наталлі Захараўны, 1930 г.н. у в. Варонічы Полацкага р-на.**

## 693. Урочышча Палавінкі

А тыя "Палавінкі" – па сярэдзіне дарогі, што з Чарнавок на Мілавіды ідзець. Дык даўно былі два мальцы. Адзін з тут, з Чарнавок, а другі – з Мілавідаў. Дык тыя мальцы спалюбілі адну дзеўку і кажды хацеў жаніцца зь ёй. Ну, дзеўка тая і гаворыць: "Стану сярод дарогі, і, хто першы прыбяжыць, за таго і зайду". Ага, адзін з нашай дзярэўні, а другі з Мілавідаў, а там тая дзеўка стаяла. Як разам мальцы зьбегліся, ну, узялі гэту дзеўку і разарвалі там яе. Кажды сабе пацягнуў за руку. Так бабы казалі. Разарвалі яе на палавінкі. Во і называецца тое места "Палавінкі". Яшчэ там сопка такая ёсьць, круглая, каля дарогі. Гавораць, там яе і пахавалі".

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Ганебнай Марыі Аляксееўны, 1934 г.н. у в. Чарнавокі Верхнядзвінскага р-на.**

## 694. Урочышчы ў ваколіцах в. Шастова

Каля Заборыцы, бацька мой гаварыў, а яму дзед расказваў, гэна там *Царкавішча* завецца. Там цэрква, гавораць, утапілася. Утапілася ў балоце... Даўно, даўно! Яно там, балота, і было. Ну тады, еслі ў лесе, то гэта *Каралёў стол* і *Каралёў калодзец*, *Муравінец*. А чаго Муравінец? Можа там мураўёў многа было? *Змяёўка*. Можа там бальшога змея хто калі ўбіў... *Лысая гара* ў нас ёсць. Ну, цяпер яна ня лысая – на ей сасоннік, а кагда-та яна была, можна сказаць, голая. А там, дзе *Лучэнскія табары*, там завецца *Марціна гара*. Там Марта задавілася. А во тут, во *Маланнін соснік* – тут Малання задавілася. Дзеўка маладая, ці там яе не ўзяў хто, ці што там палучылася... Вот гэта, *Драздоў роў* завецца і вот там ёсьці *Калбан*. Гавораць, што там французы схаронены... Гэта было русла. Дык вот там відаць, што такія закабаіны, закабаіны. І вот у первай ад Дзвіны закабаіне гэнан стаіць курган. Мы там часценька гулялі.

Яшчэ вот *Ліцьвякоў роў*, тут я не знаю, фамілія, верна, Ліцьвяк, ну і ён быў з Літвы. І тут ён жыў, па-відзімаму, купіў зямлю. Ён тут і жыў злева, тут і сірэнь стаяла ягонава, дом тут быў. Ну ён быў зажытачны такій, не сказаць, што там ужо сільный памешчык. А тады, як рэвалюцыя стала, ён паняў, што тут яму ня ўжыцца, ён, а тут у яго і матка памёрла, схараніў, тады драла даў і матку выкапаў, забраў.

Тады ў нас ёсць *Муравініцкае балота*, *Трыпіцкае балота*. А як вот с Абалоння старая дарога была с Полацка, туды на Туроўлю, там было балота *Вялікія масты*. Там вабшчэ такая гразь... Па-відзімаму, як вот даўней насцілалі там алешнікам, тым-сім, дык вот як доўга, дык можа з-за гэтага Вялікія масты... Мы так шчыталі.

А вот як ат нас Каралёў стол, дзе кароль абедаў, як Напалеона гнаў і Каралёў калодзец, там тры бярозы расцець. Маленькія былі после вайны, мы дажа ваду з яго пілі, там леснікі яго трошку саблюдалі. Дужа дажа спрытна: у лесе прыйдзеш, зачэрпнеш, і вада харошая была. Ну а цяпер яна ўжо толькі ямка такая небальшая. І вот чэраз гэту гару гэта звалася *Бандзітка*. Таму што тут ездзілі, харошая ж была дарога, купцы ўсякія, ну і банда была. А па Дзвіне тут быў “пуць з вараг у грэкі”, дык яны тут і шарудзілі. Ну вот тая Бандзітка і завецца...

**Зап. Лутава Г. у 2009 г. ад Шчарбаковай Алімпіяды Міхайлаўны, 1937 г.н. у в. Шастова Полацкага р-на.**

### 695. Урочышча Панская Палянка

Панская Палянка, там, за кладбішчам. Называецца Панская Палянка. А чго яна так называецца. Кагда-та, як гэта яшчо было крэпасное права, у Трудах жыў пан. І лучшыя землі, “палянкі”, гэта пан пользаваў. Мужыкі абрабатывалі, а ён ураджай здымаў, усё гэта пану. Ну і назвалі Панская Палянка.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Макітава Л. Дз., 1924 г.н. у в. Вялікае Сітна Полацкага р-на.**

### 696. Поле Жалезная барана

Недалёка ад Мосара ёсць поле, завецца Жалезная барана. А назвалі яго, што поле гэта не маглі распахаць і давесці да ладу. Не адну саху і драўляную барану зламалі людзі на гэтым полі. Тады панскі аканом прывёз жалезную барану, якой і запахалі поле, а назва за полем так і засталася – Жалезная барана.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Аўтух Г. Ц., 1942 г.н. у в. Заазер’е Ушацкага р-на.**

### 697. Урочышча Глінка

Гэта калі паны зямлю аддавалі, то ім жа шкада было зямлі. Вот сеў тады гэты пан ён на каня і паехаў са сваім аканомам землі глядзець, каб

самому выбраць і сялянам аддаць. Едуць лугам – добры луг, шкадуе пан зямлю, сабе пакідае, едуць лесам – і лесу шкада, едуць полем – не дае пан урадлівыя землі сялянам. Да балоцістай зямлі пад'ехалі: "Хай будзе мужыкам", – гавора пан. Чуць вывезлі коні пана з балота на сухое, а за балотам ўзвышша было, гліністая зямля была там. "І глінка гэта хай людзям застаецца", – гавора пан.

"Пан нам глінку аддаў, гаршкі хіба ляпіць, бо тамака і ня вырасьцець нічога" – гэта так ужо мужыкі тады сталі. А тады і праўда. Барысёнак Касьцюк з Занавіньня адкрыў ганчарню, а матар'ял браў з Глінкі. А за ім і ягоны сын Ерамей, а затым унук – Яхвім. У іх было шмат вучняў, а матэрыял бралі з Глінкі. Ну, дык, дзе гліну бралі, так там і празвалася – "Глінка".

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Віннік Н. М., 1930 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 698. Урочышча Ржаўка

А Ржаўка – гэта за Мосарам. Гэта поле, там ніякіх пабудоў няма. Даўней там кузьня стаяла. Там дарога недалёка, ну і людзі ж заязджалі падкаваць коней. З дзярэўні ішлі: каму серп зрабіць, каму сякеру ці саху акаваць. Каваль робіў спрытна, а каля кузьні кідаў непатрэбныя жалязякі. Ад дажджу і сырасці на жалезьзі з'явілася ржа. Ну і з вадой ці сьнегам там мяшалася. Дык уся трава і зямля там была такая ржавая. Ну, во і назвалі тое месца "Ржаўка". Дык і цяпер там, дзе калюжыны з вадой, дык такія пятны плаваюць ржавыя. Кажуць, каваль шмат жалеза закапаў, і не сказаў нікому дзе. Дык тое жалеза ўсплываець па-ціху.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Амбрасёнак Н. М., 1933 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 699. Цыганская пожня

Раней жа людзі хацелі свой кавалак зямлі мець і вельмі ім даражылі. Уся зямля тады была падзелена: што за панам, дзе сыцейшая, а што горшая – за простымі людзмі. Іншыя землі, што за Мосарам, пад Кісялёва, таксама належнымі былі.

А на краі Мосара жыў адзінокі чалавек, звалі яго Лаўрэн. Выйшла так, што радня яго – бацькі і браты – памерлі, а ён пару сабе не знайшоў яшчэ. А па дзераўнях жа даўней езьдзілі цыгане. Едуць, у дзярэўні势 стануць і пайшлі – хто варажыць, хто і забраць, дзе што дрэнна ляжыць. А тады вечарам саберуцца каля агня і песьні свае пяюць.

І вось неяк веў Лаўрэн на начлег свайго каня і заслухаўся цыганскіх песень. Бліжэй падышоў і спадабалася яму маладая прыгожая цыганка, палюбіў ён яе. Цыгане паехалі далей, а ён не мог забыцца пра цыганку. Ну

і цяпер ужо, калі цыгане прыедуць, ён ім дазваляў на сваёй пожні стаць. Так і павялося, што пожню сталі зваць не Лаўрэнавай, а Цыганскай.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Амбрасёнак Н. М., 1933 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 700. Пракопаў вір

Ну ка там, вродзі, казалі такая была рака, і называўся Пракопаў вір, такое месца… Што сільна глыбокая была яма, і казалі, тады як швэд быў, была ўся гэта рака высахшы, дык толька ў гэтай яме была вада, дык коней шведы паілі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіча Міхаіла Іванавіча, 1925 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 701. Карчомішча

Карчомішча во – за лесам. Можа, калі і была карчма. Карчомішча. Вот гэта, гэта Наталля, і старык ейны. Тамака яны жылі, ўсё за гэта Карчомішча. Яны кажды дзень хадзілі цераз гэта Карчомішча. Ну там казалі, што уродзі бы цэлую лодку хто-та золата закапаў, прыхадзілі ноччы такія знахары, капалі, іскалі. Уродзі бы дасталі. Як толька дакапаліся, яна ішчо на столькі пайшла ў зямлю пайшла. Яе ніхто не ўзяў. Ну гэта можа легенды. Ну даўней жа былі, кажуць, заклятыя людзі, закляў: “Чыя рука палажыла, таго і далжна ўзяць”. Хто-та найшоў, но ўзяць ня возьмеш. Яно ідзець глыбжэ ў землю.

**Зап. У. Ф. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіча Уладзіміра Прохаравіча, 1929 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 702. Карчмішча

На балоце места называецца Карчмішча. Даўно, можа пры панах стаяла карчма. Пра гэта мне мужыкі казалі старыя. У карчме сядзеў яўрэй – прадаваў гарэлку мужыкам, якія вазілі з балота лес.

**Зап. Тухта В. у 2006 г. ад Кунчэўскага Фёдара Пятровіча, 1933 г.н. у в. Стайск Лепельскага р-на.**

## АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ

### 703. Валатоўка

У нас там, дзе мы жылі, у Мазуліна валатоўка была. Дык казалі, што там людзей убівалі і там іх закапвалі. Ну, гэта па цілівізару паказывалі, што гэтыя войны былі, старынныя яшчо. І вот, гэта самае, када чалавека уб'юць, тады кажды ідзець і з ім прашчацца і зямлю туды сыпець. Вот насыпалі такія валатоўкі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. і Анастасіі Якаўлеўны, 1935 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 704. Вілатоўка

Вілатоўка адна была. Вілатоўка, такая рэзкая, крутая. Есьлі адтуль злезьці рэзка, дык галаву скруціш. Была вот, как з хату вышыні. Гэта кагда-то вайна нейкая была, туркі какіе-то ваявалі, даўно-даўно. Так ужо разгаворы гэтыя былі.

**Зап. Лобач У. у 1993 г. ад Камінскага Аляксея, 1912 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

### 705. Вілатоўкі

Вілатоўкі звалі, вілатоўкі. Вот цяпер жа скапалі яе, пясок бралі на дарогу, а цяпер во асфальт. Гара была, і на гарэ на гэтай было такіх тры курганы накапаных. Ну дык і я ўжо раз схадзіла паглядзела. І вот. Гэта ўсё казалі, баілі, што даўна тут адзін старык араў і выворваў каску. Вот бралі пясок – даставалі косьці, выносілі… Шкілет чалавека і чэрап. Калі ж то вайна ў каторым веку была. Тут была тайга, казалі, непрахадзімая. І там было тры насыпы, адзін дык і я паглядзела. І там во гэткі слой быў зямлі, такой вот, як попел сівой.

Ну, а гэта вот адзін казаў [трактарыст]: "Я не вазіў, а другі трактарыст". Я кажу: "Не нада было іх і чапаць". Дык вот: сколькі тут [на дарозе] – і ўсе вот тут во, каля Сьцюдзёнкі – усё тут аварыі палучаюцца.

**Зап. Лобач У. і Міхалевіч А. у 1993 г. ад Ставер Домны, 1911 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

### 706. Сушанскія валатоўкі і Перакоп

Як французы ішлі, іх тут убівалі, закапавалі іх тут убітых – эта Валатоўкі. Да нас дайшлі. Ішлі і тут, ішлі на Смаленск. А тут жа возера схадзілася. Вада схадзілася, возера тут было. Вот нада было французам прайці. Яны ўзялі па галянішчыні зямлі і прыняслі, і засыпалі. Вот і абра-

заваўся Перакоп. Яны там бралі зямлю, няслі і засыпалі. Эта якая была сіла, сколькі іх тут ішло, што ўзялі па гялянішчы зямлі і засыпалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Волкава Фёдара Пятровіча, 1934 г.н. у в. Суша Лепельскага р-на.**

## 707. Валатоўкі і Мар'ін уцёс

У нас поле было панскае. Названіе было Валатоўкі. І там быў лес, сасновы лес. А тады ў самую вайну лес гэты выразалі, асталіся адны пні. Пасля вайны сталі іх пахаць, гэтыя валатоўкі. А цяпер гэтыя валатоўкі не пашуць.Там толькі шчавель расцець. І там ёсць куст бяроз, на самай вышыні горкі. Празвалі цяпер, нашы дзеці яго "Мар'ін уцёс".

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Маскаленка Нэлі Іванаўны, 1937 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага раёна.**

## 708. Французскія валатоўкі

Гэта ў межах нашай, дажа можна сказаць і дзярэўні. Ёсць такія валатоўкі, і ў іх пахаронены, нібы, французы.Так і гавораць, французскія валатоўкі. Бальшая гара, а там узгорачкі. Вось яны і называюцца валатоўкамі.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Касьмін Валянціны Іванаўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

## 709. Валатоўкі ля Чарсцьвядаў

Тут ёсць і валатоўкі, у лесе за возерам, наша возера бальшое. Каля карачынскага леса, дык там гавораць ёсць валатойкі накапаныя. А дома, як я жыла ў Лепельскім раёне, дык у нас многа-многа было валатовак. Там дажа прабавалі раскапваць гэтыя валатоўкі, але нічога там ніхто не панахадзіў.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

## 710. Французскія магілы

Французскія магілы ёсьць, ёсьць. Тут у лесе і кілометру ня будзе. А ісьці – во, па дарозе на Галяшы, як хаты скончацца, на пагорку дуб будзе, вось ад яго дарога ўправа, а там сьцежка. Ай, не, ня знойдзеця.

Старыя расказвалі. Як адступалі французы, а нашыя, беларусы, мост папалілі. Мост тады не тута быў, а далей туды, дзе рака шырэйшая. Ну, нашы мост папалілі, французы і сталі прасіцца, каб ім мост зрабілі. А яны ўжо за гэта абяшчалі нікога ня трогаць. А нашы не сагласіліся. А тады у плен іх многа сталі браць. А растрэльваць не было як – патронаў не было.

Ну тады і прыдумалі. Заводзілі гэтых французаў у ток і там душылі, а потым палілі іх і вазілі ў лес закапвалі. А праўда гэта ці не? Старыя расказвалі.

Там нашыя капалі да вайны. Во, і Іван Белавус, трэцця хата адсюль па той старане, капаў тады. А нічога ж путнага не знайшлі. Сякеру нейкую, косткі, а больш і не капаліся там.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Сасноўскай Ганны Іванаўны, 1922 г.н. у в. Юхавічы Расонскага р-на.**

## 711. Французскія магілы і золата

Ай, гэтыя французскія магілы, сто раз іх правяралі. Во тут, за Буём. Ну як нейкія ж французы пабітыя тут былі, пабітыя. Французскія. Гэта расказвалі як жа вот. Там нейкая ж куча гэтага, ссуваная каменю, капаліся там, казалі, там французамі золата пахаванае, не нашлі там нічога.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Бароўскай Надзеі Філіпаўны, 1922 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 712. Валатоўкі і Напалеонаўскі скарб

Старая смаленская дарога шла ад Сушы і да Ульскай шашы. Па гэтай дарозе адступаў Напелеон. Ён захараняў у валатоўках скарб. Дзецьмі мы находзілі скалкі з камня, разнацветныя – галубыя, палоскамі, камні с ладошку і меншыя. Дык вот када Напалеон адступаў праз валатоўкі, а потым там жылі чатыра браты. Напалеон не успяваў вывазіць дабро. З места, дзе ён закапаў дабро, павінна было відаць сем азёр. Места этае недалёка ад Загорцаў.

**Зап. Тухта В. у 2003 г. ад Пятухова Яўгена Аляксандравіча, 1928 г.н. у г. Лепель.**

## 713. Валатоўка

Нейкая царыца яўрэйская была і вайну вяла, вот людзей і закапвалі. Пра гэта расказвала бабушка, а ей – ацец Сьцяпан. Там была валатоўка – нахадзілі і пацеркі і хрэсцікі ля хаты, што напроціў фермы. Тады раскапалі і паставілі хату.

**Зап. Тухта В. у 2007 г. ад Шамшур Надзеі Міхееўны, 1914 г.н. у в. Свядзіца Лепельскага р-на.**

## 714. Французскія магілы

А гэта, наверна, мучэньне было для салдат, як яны капалі эты, ну этыя магілы. Мы во раз ішлі, там тады бугаркі такія былі, цяпер ужо заросшыя, я ўжо цяпер тожа не знаю. А я там пасьціла з бабкай, што во тут во жыла. Я з ёй пасьціла кароў, ну вот, як Навіньне праедзеш, і вот дарога гэта пачынаецца. Ну тут вот, як адсюда налева, бугаркі вот такія вот. І я

гавару: “А што гэта за бугаркі?” А яна гаварыт: “Вот тут французы пахаронены”. Я гавару:” А чаго тут?” – “Ну, вот кагда-та вайна была, і вот тут пахавалі”. І праўда вот – нескалька бугаркоў. Гаварыт: “Тут французы”.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Лілії Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 715. Французскія бугры

У Навінні нейкія бугры ў лесе. Ай, балталі, што французы пушкі сваі станавілі дык накапвалі, нанасілі бугры гэтыя, французы. І ці праўда, ці не? Іх там не сільна багата, там штукі тры іх было. Ага. Гэта называецца “Барок”.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны,1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 716. Французская магіла

Вот у нас кладбішча там ёсць. Ну вот я помню, цяпер толькі краі ўжо вот так, культурна, а срадзіна зарасла. Ну там проста бугарок дзе толька відна. Гаварылі, што там, на гэтым кладбішчы, французы пахаронены. Во, французы тут ішлі ў нас. Вот, што дажэ французы есць пахаронены.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Пілюшэнка Маі Ануфрыеўны,1935 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 717. Французскія халмы

А ў нашай меснасці былі французы. Там, пад Заазер’е, ёсць нескалька халмоў. Дык гэта насыпалі, як начальніка ўб’юць. Яго паложуць тут, дык усе салдаты жменькамі гэты холм насыпаюць. У Заазер’і многа халмоў. І гара гэта, што цэркава стаяла, яе цяпер засялілі, дык тожа кажуць, што начальніка пахаранілі, а тады салдаты насыпавалі жменькамі гару гэту, што царква была. Гэта так гаворуць, а як было…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Берашэвіч Наталлі Трафімаўны, 1924 г.н. у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

## 718. Французскія кладбішчы

Былі курганы. Яны тады яшчэ былі намнога вышы, толькі два былі з канцоў, а ніз, па відзімаму, такая як выемка ў іхбыла – абселі, і ў выемку былі паставілі стоўп той, такі металічны стоўп прама на верху, нечага на ім напісана, но я нікада не абрашчала вніманія. Вот у Шашы, на правай старане Дзвіны, і на этай жа старане, па дароге з Слудашоў у Шашы, былі курганы. Ну колькі іх там, тры было, прама каля дарогі. У нас іх называлі “Французскія магілы”. Ну зараз там абваліваеца бераг Дзвіны, і альхі каля самых курганоў тады яшчэ не было.

І каля Обалі. Эта гаварыў дзед, што там тожа французскія кладбішчы, но іх раскапалі даўно чорныя капацелі – не археолагі, а месныя. Там нахадзілі нейкія жалязякі, нейкае такое.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 719. Французскія могілкі і курган Гарадзец

Атсюдава можа кіламетры паўтары, у лесе, ёсць сопкі – гавораць, што гэта французкія могілкі А далей ў лесе – курган Гарадзец. Гавораць, што раней ў дванаццаць часоў з кургана выходзіў французскі салдат і ўсе, хто ў гэты час пахаў, беглі адтуль.

**Зап. Лобач У. у 1995 г. ад Самусёнка Мікалая Васільевіча, 1920 г.н. у в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на.**

### 720. Французская гара

Ёсць Француская гара, на гэтай гарэ пахаронена многа французаў у вайну 1812-га года. Далей, па правую старану жалезнай дарогі, у Боркавічах. Людзі ходзяць, успамінаюць тых пакойнікаў.

**Зап. студ. ПДУ у 2009 г. ад Пацалуевай Соф'і Бенедзіктаўны, 1931 г.н. у в. Боркавічы Верхнядзвінскага р-на.**

### 721. Курганы ля Цярэшак

Як не было яшчэ дзеравень, то французы ваявалі. Называлі курганы "валатоўкі". Дзве было большыя, астальныя меньшыя, абкопаныя былі. Пра тое гаварылі людзі – кучамі людзей пабіла, ссоўвалі, хавалі людзей у валатоўках. Валатовак была многа, ціпа груды такія, а дзве дужа бальшых.

**Зап. Тухта В. у 2007 г. ад Босай Марыі Іванаўны, 1941 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 722. Сугробы

З Сямёніхі відаць і з Аляксеіхі – Амянёк (назва вострава у Домжарыцкіх балотах – В.Т.). На Амяньку сугробы высокія. Мой бацька Агей Рыкун, а бацьку дзед – Сямён Рыгоравіч – расказваў, калі была Мікалаеўская вайна, то хавалі бітых у тых сугробах. Кругом Амянька балота, на сугробах на тых стаяць ёлкі. На Амяньку людзі не жылі.

**Зап. Тухта В. у 2007 г. ад Садоўскай Наталлі Агееўны, 1929 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 723. Горкі

Ёсць жа вон там горкі. А, ну во дзе за імі лес, горкі, дык яны, як во гэты куст парэчкі, во такія горкі. Но, казалі, што ішоў жа гэты турак, швэд,

Напалеон гэты, ну і дужа людзей пабілі многа, водзека і сыпалі. Ну як мы завем, во, гэта яны надзявалі такія блішчаныя шапкі, вот ціпа як у вас капялюш, тады жалезныя. І ўсе людзей складвалі і шапкамі засыпалі. Аддаўна гэта было, але і цяпер тыя горкі. Водзека, во ў нас. І цяпер у лесе, як пойдзем, бывае, што хто-небудзь і разрые. А хто, што, чаго ішчуць у той гарэ?

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Пецько Галінны Сцяпанаўны, 1931 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

### 724. Урочышча Роў і французскія курганы

У Ціміразьеве там курганаў многа было, у нас няма. Там роў ідзець, между Буем і Ціміразьевым. Там рэчка была бальшая, паўнаводная, дажа баржы хадзілі, сена вазілі. І места такоя точна, як на Барадзінскім полі, дзе Напалеён біўся з рускімі. І тут такоя самая – рэчка, топкая места, лясы непрыступныя, і тут сільны бой быў. Там было паложана галоў... Там курганаў 15 – 20... Пасля вайны іх разорвалі, а тады запрацілі. Места тое звалі Роў і ўсё. Там бой бальшы быў. Точна Барадзінская поля. Я ў Маскве быў, відзеў, точна такоя і ў нас.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ермашкевіча Барыса Мікалаевіча, 1936 г.н. у в. Галавачова Сенненскага р-на.**

### 725. Шведскія горы

Тамака горы ёсць, вунь туды. Тамака, за Маставухай, там горка ёсць. Ну і там горка, як ішлі гэтыя войны, дык іх тамака харанілі, такія горы. Лес, тамака горы. У ягады хадзіў, за Маставухай туды. І туды за Рачныя, у Буцілоўшчыне. Шведы, мусіць, ваявалі тут. Наверна. Вот яны сваіх байцоў харанілі, такія горы дзелалі. Ну нейкіх две гары, я чуў, раскапалі былі, кАторыя хадзілі там, значыць. Кольца, мусіць, ілі што панахадзілі, валосы там.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Сініцы Анатоля Васільевіча, 1936 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 726. Галодны могільнік

Я хадзіла з бабуляй у грыбы. Бабуля мне расказвала... І Богу там малілася, каля камянёў у лесе. Казала, што гэта – нехрышчоныя душы. І вот яна іх тады перахрышчвала, і казала па польску: “Пан, нех бэндзе Ян, паня, нех бэндзе Яня”.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Бурэц Люцыі Адольфаўны, 1937 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

**727.** Гэта кладбішча звалася “Галодны могільнік”. Ну гэта яшчэ тата расказваў, што даўней паўміралі там людзі з голаду, многа гадоў таму. Быў

там такі крыж , выбіты з камня. Дык адна бабка, Царства ёй нябеснае, хадзіла да яго і клалася крыжам. Гэта яна малілася, каб зяць ейны пагіб. Праклінала і малілася, каб памёр. Гэта вот пры памяці. Мы пайшлі ў зямлянiку, і тады я падыйшла, я была большая, і гляджу: “Ой, – крыкнула, – нехта ляжыць!” Яна і пачула... Ну і ўсё-такі ён, зяць ейны, вайной пагіб”.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Тоўсцік Валянціны Іосіфаўны, 1922 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

### 728. Галодны могільнік

Гэта, можа, як шведы ці Напалеон ішоў. Была галадоўка і людзі ад голаду ўміралі. Вот і назвалі так – “Галодны могільнік”. Дык ён такі не адзін. Тут ёсць дарога такая, як ідзеш цераз Нізы, і там Галодны могільнік. І там ляжыць камены крэст, пахабны такі, ну груба абработаны, дык там тожа Галодны могільнік. Гэта, як ідзеш у лес і ветка ўправа, гэта нада пераходзіць раку, гэту Сошу, і тады пад дзярэўню Ліпляні і, не даходзя Ліплянь, могільнік там і крэст, ён і сягоння там ляжыць.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Рудака Міхаіла Міхайлавіча, 1925 г.н. у в. Востраў Глыбоцкага р-на.**

### 729. Галодныя могілкі

Места тое, дзе курган, завуць “Галодныя могілкі”. Старыя казалі, што хавалі тых, хто ўміраў з голаду. Было там курганоў больш, а цяпер толькі адзін.

**Зап. вучні Слабадской сш. у 2007 г. ад Пырко Марыі Маркаўны, 1920 г.н. у в. Чарніца Лепельскага р-на.**

### 730. Старыя могілкі

Ёсць бальшая гара. Называецца яна Старае кладбішча. Мая прабабка расказывала, што была нейкая балезнь, чума. І калі чалавек забалеў – то усё. Дажа жывых закапывалі туды. І там у гару такое накапалі старае кладбішча. Калі мая бабушка прышла ў гэту дзярэўню замуж, то на гэтым месцы быў адзін крэст. Гара гэта бальшая…

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Маскаленка Нэлі Іванаўны, 1937 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага раёна.**

### 731. Галубовіцкія могілкі

На кладбішчы даўней была драўляная царкоўка, толькі яе камсамольцы разабралі. Казалі, што гэтае кладбішча насыпана салдатамі.Зямля там чорная-чорная. Каменныя красты там, а на аднім нейкі надпіс.

Адзін раз каля кладбішча ехаў чалавек і вёз авечку. Перад кладбішчам перад ім стала як сцяна нейкая і не мог праехаць. І авечка стаіць. А

авечка як кінулася на яго, што ён павярнуў ды пагнаў назад. А тая авечка – гэта нячыстая сіла была.

Яшчэ была сям'я адна. Нявестка далжна была радзіць. А ў іх не вяліся каровы. І незадоўга да родаў папрасіўся да іх начаваць старычок. Сказаў, што нявестка родзіць добра. Так і было. Ну, і расказалі яму, што здыхаюць каровы. Ён сказаў, што з кладбішча прынесена косць і закапана пад парогам. І на гэтай косцы было зроблена іх карове. Доўга капалі і нашлі, занеслі на кладбішча і закапалі. І тады сталі вясціся у іх каровы.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Клішыс Паліны Казіміраўны, 1921 г.н. у в. Галубова Расонскага р-на.**

### 732. Камяні і курганы

Быў камень са сьлядамі. Там як чалавек паслізнуўся, другі - як баран ці казёл капыты аставіў. Там дарога старая была, і там камень ляжаў гэты. Дыяметр можа метр, можа 80 на 70 см. Трохі някруглы. Сантыметраў 45 – 60 на высату. Там і другі камень. Людзі яго падкапалі, бо слухі былі, што немцы награбленае закапалі там золата, ілі французы. Там жа ёсць, за сто метраў да гары, тры курганы. Мне стары чалавек, старавер, маскаль, Карага фамілія, дык сын яго расказваў, што гэта французы ў адзін закапалі жывотных, у другі – людзей, а ў трэці – не знаю каго. А пра той са сьлядамі старыя казалі, што апостал, святой нейкі ішоў, і на камні след аставіў. Камень Сьвяты зваўся. Пасля вайны камень яшчэ быў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Корбуна Івана Дзмітрыевіча, 1938 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага р-на.**

### 733. Калатоўкі ля Святога азяра

Ну, гэта, дзе Святое возера, там такое ўрочышча, называецца Дубы. Там далей гэта Лукамскае возера, дык там *калатоўкі* зваліся. Дык там з гэту хату такія горы, ну і мы інцерасаваліся. Калі яшчэ малыя былі, бегалі. Гаварылі, што гэта была вайна нейкая і там пахароненыя гэтыя людзі.

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Тацяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

### 734. Валатоўкі

А вот у нас тут кар'ер ёсьць і кладбішча даўнее-прыдаўнее. І дзе яны, не знаю, пры Польшчы адкапвалі. Дзе бальшая гара, мой тата адкапваў і казаў: "Там бальшыя людзі – па два метры, і чарапы і зубы – усе большае за нашае. І зубы цэленькія, і колькі гадоў прайшло і не адзін зуб не падпорціўся, і беленькія ўсе. І мы выкапвалі, складвалі ў яшчычак, абмя-

талі мяцёлачкай. Дзе бальшая гара – там багатыя, а дзе маленькая – бедныя. Валатоўкі гэтыя проста так празваліся. А можа і лес так празвалі, дзе яны былі. І гэта, хто прыдумаў, гаварылі, што здані здаваліся. Як будта хто-та відзеў, што жанчына шла і венікі нясла на плячах.

А валатовак ужо не стала. Была адна ў барку во тут во. Была, але сталі пясок брацьь, а там пясчара харошая была – на стройку бралі. Валатоўкі – гэта француз які памер, Яны [французы] іх шапкамі сколькі іх есць насілі. Во тут на Рабчонкі дарога есць на асфальт і зробілі кар'ер, разабралі… Так там нахадзілі [косткі]. І гэта места настолькі выбралі, што вада стаіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Юшкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 735. Валатоўкі ва ўрочышчы Вадацеча

Могільнік, там жа аўстрыйцы пахаронены, і там з XIII века могільнік. Там, каторыя ідуць, п'яныя асобенна, там называецца эта "Вадацеча" і там рэчка ўпадаіць у гэта возера. Там кладбішча і пачаму-та там многа, каторыя ідуць п'яныя, начынаюць сразу разувацца там, раздзевацца і лажыцца там спаць і там, гаворацць, ужо чорт там водзіць, там каменныя крыжы, курганкі. Вадацеча – гэта такое званіе, што там рэчка ўпадае ў возера.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Юшкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 736. Валатоўка ля Велеўшчыны

На Калавурскай гарэ была бальшая валатоўка. Калі іці на Замошша, то па правай старане. Казала пра гэта маці, ці мацін брат, што валатоўку гэту насыпалі даўным даўно салдаты. На гарэ яны сталі аддахнуць. Генерал іхні загадаў насыпаць валатоўку аб сабе на памяць. Разбурылі валатоўку яшчэ да вайны, калі строілі дарогу.

**Зап. удзельнікі гуртка "Нашчадкі" Слабадской сш. у 2007 г. ад Галоўка Уладзіміра Аляксандравіча, 1930 г.н. у в. Замошша Чашніцкага р-на.**

### 737. Старасельскія валатоўкі

У Старасельлі ёсць такія, як гэта, нейкія завуцца, як сугробы такія. Дзе-то, кагда-та была вайна, французаў там пабіла, а іх згарнулі салдат тых, французаў, у кучу і абкапалі зямлёй і сягоння гара тая называецца. Як гэта яны завуцца гэныя, ай, там многа. Валатоўкі, во, вот і ўспомнілі. Там валатоўкі, там дажа камні, храсты там. Там тарфянікі расчысцілі, поле, там сеюць, ураджай харошы, лён.

Тады ўвесь калхоз туды, мы ходзім па тых валатоўках, кажам, дзейсцьвіцельна тут людзі пахаваны дзе-нібудзь, столькі гадоў і ляжаць гэтыя

гарушкі, а дзе-нібудзь так абрывы, норы такія, як хаты там. Я ўжо цяпер не знаю, было парадашна. Ну так гарушка такая, можа сотак 15, такая парадашная. Ну але ж троху ўжо спахавалі,цяпер не ізвесна ці ёсць там, ну але ёсь Валатоўкі, яны не ісчэзнуць ніколі. І на камнях красты. Многа пападаецца, вот яны векавечныя. Кажу, не нада ніякая аграда,тут ужэ векавечныя храсты на камнях, як яны выдзелаюць. Думаю, а чаго-та людзі вумныя камні і так пісалі, іх жа ўзрываюць мінамі камні гэтыя, унічтажаюць, а то нада напісаць дажа на камні, канаўкамі такімі, вот былі ўмныя людзі.

**Зап. Жолудзева П. і Шыпіла У. у 2007 г. ад Рублеўскай Ірыны Усьцінаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Кісялёва Ушацкага р-на) у в. Бабча Лепельскага р-на.**

## 738. Пра валатоўкі

Эта ў нас кала Старых Валосавічаў валатоўкі, там бугры такія. Гэта гаварылі, там вайна была з французамі, там французы пахароненыя. Такія высокія халмы. Там, старыя гаварылі, дык здавалася, бытта і свечачка гарыць, можа, эта толькі так баілі. Алі мы дзяцьмі баяліся там хадзіць. Гаворуць, французы там пахаваныя. Мой брат старшы на два гады, на валасапедзі там ехаў, дык, гаварыў, уцякаў як мог, там яму здалося. А ці гэта толькі так баілі...

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Булынавай Аляксандры Віктараўны, 1938 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 739. Валатоўкі

Валатоўкі кала Несіна ў двух местах. Як курганы, бугры бальшыя. Там нейкія людзі пахаронены. Там дажа таблічка – “памятнік”. К раскопкам не падлежыць. Гавараць, там французы.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галая Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

## 740. Бугры ля рэчкі Чэрнаўкі

Ня то, што каля рэчкі тыя бугры. Так у тым месцы. Там калісьці была вайна, бальшая вайна. І людзей у гэта скідвалі і закапвалі. Там пааставаліся толькі кочкі. А, ты, думаеш я знаю, якая вайна. Дауно. Гэта не пры мне, не пры мне. Там кроў па тэй Чэрнаўке, лілася кроў. Тут стока, стока было…

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Лысовай Вольгі Пракопаўны, 1929 г.н. (нар. у в. Забалоцце Ушацкага р-на) у в. Вуглы Ухвішчанскія Полацкага р-на.**

## 741. Сопкі

Каля Крумплева, калі ідзеш туды к Дзвіне, сопкі там. Як капна, такія круглыя. Можа тры, можа сколькі… Я там дваццаць гадоў ужо ня быў,

халера яе знаіць. Гэта, як укрыцьце, вродзі бы, старай мікалаеўскай вайны. Васемсот двенаццаты, а можа, Бог яе знаіць, якога года. Ідзеш да Дзвіны з вудачкай і чуецца сьвіст. Там да вайны, а можа посьле вайны, мальцы сопкі капалі, пулі алавянныя нахадзілі. Чорны нехта паяўляецца, калі ідзеш, як зданка.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Красько Аляксандра Сямёнавіча, 1931 г.н. у в. Райкова Полацкага р-на.**

### 742. Валатоўкі і французскае золата

На полі валатоўкі французскія. Гэта з французскай вайны. Там рабяты дзелалі раскопкі. Ну, капаюць, капаюць, а там нічога нету. Канешне, яны там нічога не знойдуць, але капаць нельга. Но гэта ж дзетвара, ніхто ж. Яшчэ гаварылі, што французы ўтапілі бочку золата. Старыя людзі ґаварылі, между астравоў. Тут на Несінскім возеры.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Протас М. у 2007 г. ад Чачэтка Веры Грыгор'еўны, 1932 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

### 743. Курганы і вясковыя могілкі

Старае-старае-прэстарае (кладбішча). Калі там харанілісь, і ўсе хароняцца, і ўжо чалавек на чалавеку хароніцца. Пагоркі. Гэта мая мама расказывала. Гаварылі, што кагда Напалеон ухадзіў, вот эта там захараняліся людзі, і вродзе бы такія курганы там. І возле гэтых курганаў наша кладбішчэ. Ну вот, у самай рэчкі, і вот окала рэчкі тут вродзе бы пераправа была, ілі што там. Вобшчэм, курганы там бальшыя. Ну тут прыязджалі, дзелалі раскопкі, нічо там не найшлі[3].

Маці мая гаварыла, там і рускія… ну маці мая с 1896 года, дык яна гаварыла, што бацька расказваў, што там тады і рускія, і ўсякія там астальныя, усе. А так большэ нічога, хто іх знае… Яны ж не, кладбішча адгароджанае ад іх. Яны на ту сторану кладбішча, а тут кладбішча, і там курганы. Я тады свайго мужа там пахараніла. Вот курган быў как раз на кладбішчы, і раскапалі, і сдзелалі яму магілку, і там пахаранілі.

Адна там дзевачка ў меня ўмерла, маленькая. Я там пахараніла, ну не на курганах, а радам з курганом. Так я каждый дзень счытай хадзіла туда плакала ўсё. А патом мяне спугала наверна сава. Сасна тоўстая стаяла, і як закрычала (сава), і я бягом з кладбішча, і больша я не пашла.

А тады за кладбішчам там такія курганы-курганы бальшыя. Ну там лес бальшы-тоўсты парос.

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2009 г. ад Лазукі Надзеі Рыгораўны, 1932 г.н. у в. Малое Стахава Барысаўскага р-на.**

[3] У 1931 г. раскопкі праводзіў А. М. Ляўданскі. Курганы з трупаспаленнем, кераміка датуецца VIII – IX стст. У 1971 г. адзін курган даследваў Г. В. Штыхаў, але пахаванне не было выяўлена (заўв. збіральніка).

### 744. Курганы

Курганы – гэта там шоў Напалеон. Напалеон там, эта самае, гавораць, там вродзе бы тут вот, дзе-та во тут вот перахадзіў, дык там, гаворат, каляску з золатам пацяраў, завалілася там каляска. У возеры. А курганы эта тожа тамсама Напалеон шоў, там ваеваў. Там тожа, гавора, золата многа астаўлялі ў курганах гэтых. Прыязжалі, раскопкі там дзелалі, прыязжалі. Не знаю, нашлі ані што, ці не нашлі. Не знаю.

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2009 г. ад Каралёнак Ніны Фёдараўны, 1945 г.н. у в. Дубяні Барысаўскага р-на.**

### 745. Гарадзішча ў Камені

У Камені правалілася царква. Там у Камені бальшая гара, каля возера. Гаварылі, на гэтай гары царква стаяла. Туды ўсе хадзілі маліцца і яна правалілася. Там, на гары знадзіцца ўпадзіна.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Протас М. у 2007 г. ад Чачэтка Веры Грыгор'еўны, 1932 г.н. у в. Залессе Бобраўскага с/с Лепельскага р-на.**

### 746. Гарадзец

Ёсць, ёсць, гэта казалі даўней, была цэрква там стаяла, ну гэта нашы дзеці там раскопку дзелалі, там палачкі дзеравянныя, там нахадзілі, вот такое ўсё, гэта самае там гэта. Мы малыя зьбягалі з яе. Вродзе была цэрква правалілася яна, так. Ну старыя яны помнюць, вродзе бы знаюць, гэта самае, ну што абвалілася і людзі там загінулі. Ну можа землятрасеньне было, Бог яго ведае, што там было. Ну дык во, мы малыя тожа хадзілі, зьбягалі і нашы дзеці, схадзілі, зьбягалі туды. Там прыязджалі дажа раскопкі рабіць, там жа напісана, там жа і дашчэчка стаіць. Вы ж ішлі, вот схадзіці, там жа напісана – “Асецішча”. Там жа вучоныя былі тожа, раскопкі рабілі.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Гайдук Анюты Анісімаўны, 1941 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

### 747. Гарадзец

Гарадзец там, што эта мама гаварыла, што там эта цэркаў стаяла. Да, гаварылі, што цэркаў стаяла і, как гаворaць, пратонула, ілі што-та такое. З гэтай горкі, яна такая крутая-крутая. Горка дажа там стаіць такой чыгунный, на столбіках, і дажа там напісана “Гарадзец”, памятнік ахраняецца, эта самае.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Юрасавай Зоі Мікалаеўны, 1950 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

### 748. Урагаўскі гарадок

Кажуць, была Японская вайна, ваявалі вялікія людзі. Яны накінулі гару ботамі. Былі раскопкі, косткі выкапалі і паставілі ў хаце, дык яны

стагналі. Аднойчы на Гарадку да мужыка падышла жанчына і папрасіла выцерці ёй нос. А мужчына адказаўся. Калі б сагласіўся, пасыпалася б золата. Бывае, што перунамі б'е ў той Гарадок.

**Зап. Лобач У. і Мішын П. у 1995 г. ад Калеснік Агаф'і Паўлаўны, 1911 г.н. у в. Урагава Верхнядзвінскага р-на.**

## 749. Царкавішча

Дарожка ідзець, а там горка. На горцы яма квадратная, выкапаная. Гаварылі – царква там была і праваліласся. Царкавішча называецца.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 ад Даніленка Пятра Васільевіча, 1928 г.н. в. Тураполле Ушацкага р-на.**

Калі та там была цэрква, з броўнышак, з досачак. Як мы хадзілі, не было. Яна праваліласся. Пасярод такая яма. Цяпер зарасла. Вазілі адтуль пясок. Царкавішча. Ці яны там што нашлі. Паставілі таблічку, каб ня трогалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 ад Бурак Ефрасінні Андрэеўны, 1937 г.н. у в. Новае Тураса Ушацкага р-на.**

## 750. Цэркаўшчына

Гэта гаварылі, гэта гаварылі, але я нізнаю, але эта той ужо памёр чалавек, відзіў іх там, эты храсты, але ж яны у канцы возера. Яны ў вадзе. Вот тутака у нас, вот тутака туды, на нашам возеры Цэркаўшчына завецца. Казалі, цэрква была. Ну, як быў патоп, цэрква тутака, затапіла тую цэркву. Дык тутака, гэта места тамака дажа відаць, вот відаць, што пагорак тамака у возеры... Гаварылі, званы зьвіняць, ну я не чула.

**Зап. Траццякова А. і Філіпенка У. у 2010 г. ад Хрол Чэславы Браніславаўны, 1926 г. у в. Хралы Глыбоцкага р-на.**

## 751. Янчыкаўскі гарадок

Гаварылі, што як царква там праваліласся, праклялі, кажуць. Ішоў старык, да гаворыць: "Каб ты праваліласся скарэй!" Расказвалі, ага, я яшчэ мАлая, гадоў 9 – 8 было. Цяжка ісьці яму стала, не мог туды дайсьці, – гара такая тамака. Адтуль з Янчыкава, з тэй стараны, дарожка была ўсё ўрэмя, а цяпер зарасло ўсе. Там дарожка была харошая. Туды ўязжалі… Ішоў стары і ня мог узыйсці на гару, к цэркві не мог ужо ўзайсці, дык можа так і пракляў. Ага. Кажаць: "Каб яна праваліласся, сколькі сюды нада хадзіць". Ці праўда, ці не, але гаворац, што цэрква была. Аралі там нескулькі гадоў, ну што там нахадзілі, мелач нейкую, хрэсьцікі, ці што там. Ну, я гэта ня буду лгаць, ня буду гаварыць.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Грышановіч Вольгі Сяргееўны, 1923 г.н. у в. Званае Полацкага р-на.**

## 752. Пра цэркву, што ўвалілася

У Гарадцах, дзе находзіцца гарадзішча, на адным з астравоў (возера Оталава) стаяла цэркаў. Даўно тое было, казалі, што кум і кума вязлі туды рабёнка хрысціць і саграшылі, за гэта і цэркаў правалілася.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Ягадкі Марыі Мікалаеўны, 1939 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 753. Гарадзішча ля Святога азяра

Пра Святое азяро нічога не казалі, а вот там, дзе гарадзішча, вродзе даўно-даўно, на ім цэркава была і ўвалілася. Была. І былі разгаворы, даўно, былі-былі разгаворы, што чуваць там, як званы звоняць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лейчанка Марыі Андрэеўны, 1922 г.н. у в. Замошша Сенненскага р-на.**

## 754. Гара Гарадзішча

Во, дзе Мазурына, там гара ёсьць гара, “Гарадзішча” завецца. Так на Купальскую ноч заўсёды бачныя там аганькі. А людзі баяліся туды хадзіць, бо казалі, што будзе нешта благое. Дык адзін мужык пайшоў і ўбачыў, што на зямлі свеціцца куча золата. Ён набраў поўну торбу і павярнуў назад. Ішоў, не аглядаючыся. А тут нехта гаворыць яму:”Іван, у цябе з торбы золата прасыпаецца”. Той азірнуўся, глядзіць, а з торбы сыпецца вугольле.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Высоцкага Віктара Іванавіча, 1924 г.н. у в. Цвеціна Мёрскага р-на.**

## 755. Гарадзішча

Пра тое гарадзішча, што пад Нізгалава, старыя яшчэ расказвалі. Гаворацъ, жыў адзін мужык, ён заўседы хадзіў сыты, але ніхто не ведаў, дзе ён еў. Калі яго спыталі, дзе ён есьць, то ён сказаў, што ходзіць на гарадзішча. Гаворыць, там ёсьць нейкі дом з дзвярамі. Як ён прыйдзе, яны аткрываюцца, а там ужо стол стаіць, поўны яды і піцьця. Але, после таго як ен расказау гэта людзям, яго больш туды не дапускалі.

Ніхто ж ня помніць, адкуль тое гарадзішча. Гаварылі, што дужа даўно, калі – ужо ніхто не помніць, там стаяў горад. А тады землятрус случыўся і ён праваліўся пад землю.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Грышука Уладзіміра Герасімавіча, 1928 г.н. у в. Заручаўе Бешанковіцкага р-на.**

## ВЁСКІ

### 756. Адкуль назва Асвея

Эта яшчэ можа ў якім 1556 гаду тут таргоўля шла. І ехалі купцы, а старшы купец, немец, астанавіўся на халме і сказаў: “Ост вее”. Гэта значыць, што вецер с востока дул. С тых пор і завецца Освея ці Асвея.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Пузанскага Мікалая Іванавіча, 1920 г.н. у г.п. Асвея Верхнядзвінскага р-на.**

### 757. Як прапалі змеі ў Апанаскавічах

Казалі, што раней тут поўна было вужак. І вот хадзілі скрозь іх папы і кадзіламі сваімі махалі. Датуль, куды яны хадзілі, і змеі, і вужакі прапалі. Прыйшоў поп абедню служыць у цэркаў і відзіць – у яго на стале змяя ляжыць. І поп пачаў у званы званіць. Датуль, дакуль чуцен быў звон, вужакі і змеі прапалі.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Маскаленка Алены Васільеўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

### 758. Вёска Белая

А гэта яшчэ за даўнімі часамі было. Тады ж вёсак многа было тут параскідана, а назвы сваёй пэўнай ня мелі. За якім панам былі людзі, так вёска і называлася. Ну, прымерна, сустракаюцца дзе ў дарозе два чалавека і пытаюцца: “Ты за кім?” – “За тым і за тым-та”, – гавораць.

Ну во і тут, жылі людзі за графам Забелам. Так тады і гаварылі, што жывуць за Забелам. Забелам, забелам – тады і стала проста Белае.

**Зап. Шабанава І. у 2003 г. ад Дамканінай Н. З., 1929 г.н. у в. Белае Ушацкага р-на.**

### 759. Адкуль у Белым слімакі

Сотні гадоў таму жыў граф. Яго звалі Забела. Граф быў вельмі-вельмі багаты. У яго было дужа многа слуг. Яму належалі ўсе землі Бельскай акругі. У графа быў свой спірт-завод, свая пральня. Зараз, дзе стаіць наш магазін, раней стаяў графскі палац. Ен быў вельмі доўгі і шырокі, таму ён займаў вялікую тэрэторыю.

Але самае дарагое багацце, якое ў яго было, была яго дачка-прыгажуня, якая была прыгажэй кветкі, святлей сонейка і чысцей вадзіцы. Вось аднойчы захварэла яго залатое багацце. Граф і не ведаў, што рабіць, а Ізабела ляжала белая-белая, як быццам сьнег. Гэта была самая страшная хвароба на той час. Граф, не думаючы, рашыў пазваць вопытную знахарку. Але па ўсёй акрузе была вядома толькі адна знахарка, якая ўсё ведала і

рабіла. І яна сказала графу, што трэба сьлімакі, але па ўсей Бельскай акрузе не было такіх жывых арганізмаў. Іх трэба было прывесці з-за мяжы. Граф паклікаў сваіх самых верных слуг і прыказаў ім ехаць за мяжу і прывезьці гэтыя арганізмы. Не прайшло і некалькі дзён, як да графа ўсе было дастаўлена. Знахарка прыказала зварыць полову сьлімакоў і даць дачцэ. Граф так і зрабіў, і як толькі ён даў з'есці маладой графіне, ей адразу стала лепей. Вось так і вылечалась маладая графіня. Забэла добра адзякаваў знахарцы. Другую частку слімакоў Забэла прыказаў вынесці за агароджу палаца. З той пары і з'явіліся у Белым слімакі.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Ерашовай К. М., 1935 г.н. у в. Белае Ушацкага р-на.**

## 760. Чаму ў весцы Белае няма змей

Даўно-даўно ў суседняй вёсцы жыў граф Забела. У яго была прыгажуня дачка. Пайшлі яны са служанкай у лес. А там зьмяя ўкусіла дачку графа, якая адразу ж ад укуса і памерла. Служанка пабегла да графа, расказала ўсё.

Граф дужа гараваў, а пасля прыказаў пазваць знахарку. І прыказаў ёй, каб ты зрабіла так, каб ніколі не было змей. І зробіла яна нешта. І цяпер нідзе тут, каля Белага, няма зьмей.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Пузаткі С. Л., 1946 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 761. Пра назву вёсак Бяседы і Сітнікі

Шоў Ісус Хрыстос па балоце, астанавіўся ў Бяседах, там вёў бяседу так і назвалі дзярэўню. У Сітніках далі яму сітнага хлеба, так і стала дзярэўня называцца. Гарадзец ён мінуў, бо шоў па балоту.

**Зап. Тухта В. у 2008 г. ад Скорба Ксеніі Ільінічны, 1928 г.н. у в. Сітнікі Лепельскага р-на.**

## 762. Валова Гара

Гаварылі, у нашым возеры дно, а ў Лепелі хрэст [на царкве] і раўняюцца… Выходзіць, што наша возера высока. Затое гара. А чаго Валова гара? Мусіць, на валах канаву капалі. Тут жа Кацярына капала. Ці первая, ці втарая, дык на валах вазілі зямлю.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Надзеі Рыгораўны, 1924 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

**763.** Тут дзе кладбішча, гара была настаяшчая, цяпер яе пассовалі, хадзілі даўней Богу маліцца на гэту гару. І асталася Валова гара. Там жа

возера было. Тут ля кладбішча. Во рака і разам возера. Вродзе хадзілі туды маліцца. Як капалі гэту канаву, саедзінялі гэту раку. Капалі катаржнікі, што правінаваціліся, як цяпер судзілі. Яны тут капалі і тут іх і харанілі. Тут і робілі, і пахаранілі. Тут капалі, адна жэншчына дык выкапала чэрап. Алі здаровая-здаровая галава. Толькі дзе глаза былі – ямкі, дзе нос быў.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кульба Яўгеніі Васілеўны, 1913 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

### 764. Пра назву вёскі Вострава

Ішоў цераз балоты рыцар са сваім атрадам. Выйшаў на сухое места пасярод леса, ну як бы на востраў і астаўся там жыць. Так і стала наша дзярэўня Вострава.

**Зап. Тухта В. у 2004 г. ад Садоўскага Леаніда Мікалаевіча, 1963 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 765. Гарбаціца

А Гарбаціца – гэта, што вайна тая, даўняя была, і французы адступалі. А рускія ішоўшы за імі. Прахадзілі балота, а там ужо гара, і адзін салдат сказаў генералу: “Гара, баценька”. Вось адгэтуль і назва вескі.

**Зап. Лобач У. у 1999 г. ад Ясюк Ганны Лаўрэнцеўны, 1936 г.н. у в. Горы Ушацкага р-на.**

### 766. Адкуль назва вёскі Гліншчына

Гліна тут, адна зямля гэдакая, гліняная такая. Тутака як дождж пойдзіць, дык гліна адна. Гэта цяперака зрабілі, а так у вёску ўехаць ня можна было, гэтакая гліна была.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Шыдлоўскай Л. І., 1924 г.н. у в. Гліншчына Пастаўскага р-на.**

### 767. Зачысце

Была да нядаўнега часу ў нашым раёне веска Зачысце, гэта недалека ад Мосара, за Белым. Яшчэ раней гэтай вёскі не было, цёк толькі недалёка у нізіне ручай. А вада дужа чыстая была – на дне ўсе камянькі палічыш, называлі Чыстым. Зямля за гэтым ручаем належала пану. Быў у пана добры служка Герасім. За гэту добрую службу і адпісаў пан яму гэту частку зямлі за Чыстым ручаем, дзе гэты чалавек і стаў сяліцца са сваей сям’ёй і раднёй. Ну,і пытающца людзі ў яго: “Дзе ты жывешь?” А ён: “За Чыстым”, – адказваў. За Чыстым, або ў Зачысці, як сталі гаварыць пасля.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Ткачонак Н. Я., 1931 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

### 768. Вёска Каўшаватыя

Ат таго места была дзярэўня, дзе пан жыў. Там Сяргеева, во на ту сторану, адсюль – Каўшэватыя. Назвалі, што людзі жылі багатыя, там дзед, жыў дзед Мікіта, дзед Захар, дзед Якуб. Там вот такія дзяды жылі сільна багатыя, зямля добрая. І назвалі дзярэўню Каўшэватыя, што хлеб давалі людзям бедным каўшом такім, бальшым. Вот і назвалі гэту дзярэўню Каўшэватыя.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Лісічонак Ксеніі Мікалаеўны, 1928 г.н. у в. Забор'е Клясціцкага с/с Расонскага р-на.**

### 769. Хутар Кіяўчыха

Сярод хутароў быў хутар Кіяўчыха. Была ў жыцельніцы такая фамілія. А хадзіла жанчына на аброк у Кіеў. Аброк гэта калі, што небудзь стала ў які небудзь дзень, значыць абраклася.

**Зап. вучні Велеўшчынскай школы у 2000 г. ад Аношка Ганны Іванаўны, 1914 г.н. у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 770. Пра назву вёскі Людчыцы

У Двары жыў пан. Было многа дачок у яго. Дзяўчата сабіралі цвяты люцікі. Вот таму і назвалі дзярэўнё Людчыцы. Было гэта яшчэ за прыгонам. Мне гэта расказвала мая бабуля.

**Зап. Тухта В. у 2004 г. ад Вячэрскай Зінаіды Пальтаянаўны, 1920 г.н. у в. Людчыцы Лепельскага р-на.**

### 771. Матырынскія ражкі

Гэта завуць так матырынскіх. А вот таго, што матырынцы былі умельнікі. Узялі, а даўней жа з ражкоў гарэлку пілі, вот узялі, пілі гарэлку другія людзі, з якой там можа дзярэўні, а матырынцы ўзялі ды рог укралі, а як укралі так навек асталося: "Матырынцы рог укралі", "матырынскія ражкі", "рог укралі". І мы па жызні – "матырынскія ражкі" – з патомства ў патомства.

**Зап. Лобач У. у 1997 г. ад Рудзёнак Зінаіды Аляксееўны, 1931 г.н. у в. Матырына Ушацкага р-на.**

### 772. Мосар

Раней на месцы нашай вёскі былі панскія палі, на якія прыходзілі робіць людзі з навакольных весак. А на ўзгорку стаяў дом упраўляючага, панскага наглядчыка Моцара, – гэта па-польску так. А хажзіць было далёка, ну і задумалі, каб пасяліцца там, дзе робілі. Сталі прасіць тады: "Паночку, дазвольце паставіць свае хаты каля вас, каля вашай хаты". Моцар да-

зволіў, але землі аддаў людзям самыя благія, гліністыя. І сталі сяліцца людзі каля Моцара, каля ўпраўляючага, а мясцовасць стала называцца Моцарам, затым – Мосарам.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Плігаўкі М. В., 1931 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

### 773. Нядружнае

Два браты і яны не падзялілі, зямлю ету не падзялілі. Завіліся біцца между самі сабой, і вот назвалі дзярэўню “Нядружнае”. Значыць, яны не падружыліся, два хахлы. Вот і мы, Сіманенкі, асталіся ад гэтага пакаленія хахлоўскага.

**Зап. Аўсейчык У. Я., Шэршань А. А. у 2005 г. ад Сіманенка А. М. у в. Нядружнае Полацкага р-на.**

### 774. Окана

Было сярод балота акно. Аднажды гэта акно разлілося навокал і стала возера. Потым каля гэтага возера пасяліліся людзі, і сваю дзярэўню назвалі Окана. Назвалі так ад тога балотнага акна, з якога возера стала.

**Зап. удзельнікі гуртка “Нашчадкі” Велеўшчынскай школы ў 2000 г. ад жыхароў в. Окана Лепельскага р-на.**

### 775. Окана

Окана празвалі патаму што ў нас азёры кругом як вока. Эта старыя людзі гаворуць, што там такія глыбокія азёры. І калі ўжо ўтопіцца цялёнак, неяк найці.

**Зап Валодзіна Т. у 2010 г. в. ад Крыцкай Еўдакіі Яфімаўны, 1927 г.н. (жыхаркі в. Окана) у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

### 776. Стралкі

Казалі, што даўно ці то стаялі тут, ці то праходзілі праз вёску стралкі, салдаты такія. Таму так і назвалі.

**Зап. эксп. ПДУ у 1995 г. ад Татарынавай Любві Іванаўны ў в. Стралкі Верхнядзвінскага р-на.**

### 777. Чаму ў Сушы змей няма

У Сушы цэркава была, яе спалілі немцы ў 42-м гаду. Яна стаяла там, дзе цяпер магазін. Расказаваюць, кагда яшчэ цэркава работала, там кала паперці, тут дзе поп стаіць, стаяў стоўб. І туды узыйшла, запаўзла змяя і абкруцілася кала гэтага стаўба. Бацюшка гэты памаліўся на яе і яна ўшла чэраз дзверы, і ўшла на уліцу. І ён сказаў: “На вашай церыторыі змей цяпер нікагда ня будзець”. Вот на Сушанскай церыторыі змей нету – ні ў балоці,

ні на сушы, нідзе нету”. Эта на самым дзелі. Я як быў малы, расказывалі, но змей на Сушанскай церыторыі німа.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Волкава Фёдара Пятровіча, 1934 г.н. у в. Суша Лепельскага р-на.**

## 778. Як у Турасах змеі прапалі

Мая баба расказавала. Там раньшы школа была, а тады там раньшы быў пан, дубы стаяць, было очань многа змей. Столькі змей было, што невазможна было выйці. І кусалі людзей і людзі дужа паміралі. А пан жыў з жонкай. І ягоную бярэменную жонку ўкусіла змія. І ён з’ездзіў некуды за граніцу і прывёз старушку-знахарку. Яна тут хадзіла, ваду загаваравала. І тут не стала змей. Раз жонка ўмерла, ён выехаў. Пан быў зажытачны. А баба акрапіла. Разам во змеі, там у кустах ёсь, а тут ні аднэе змеі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 ад Бурак Ефрасінні Андрэеўны, 1937 г.н. у в. Новае Тураса Ушацкага р-на.**

## 779. Усая

Гавораць, што недалека ад лесу было памесьце, у якім жыў памешчык па прозьвішчу Усайка. Паблізу памесьця была вёсачка, якую і сталі звацъ Усая. А возера, каля якога размяшчалася веска, назвалі Усайкай. Сядзібы, дзе жыў памешчык, даўно няма. Няма вялікага сада, што там быў.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Пухавай Ф. К., 1927 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

## 780. Вёска Царкавішча і гара Гарадзец

Царкавішча звалася, што кругом тут цэрквы былі. І царква правалілася ў нас, дзе гара, там на Гарадцы. Гэта мне свякрова расказвала. І гаварыла свякрова, што ёсць пад зямлёй ход дажа ў Сакалішча, у сад.

А гэты пагурак, Гарадзец, гаворуць, нанасілі ўручную людзі. Уручную нанасілі зямлю. Тут жа адно гасударства было, а там, за рэчкай – другое. Вайна нейкая даўняя была. Гэта дужа даўно было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Селязнёвай Лідзіі Аляксандраўны, 1929 г.н. у в. Кульнёва (Царкавішча) Расонскага р-на.**

## 781. Адкуль назва Чаросава

І крыніца Чаросава, і дзярэўня Чаросава. Раньшэ нашу дзярэўню звалі Шакуці. Гэта даўным-даўно, тут праз фаміліі: я Шакуто – тут праз адзін Шакуто. Шакуці звалі, а патом прыехаў пан Губін. Ён у Губіне і тожа жыў там. І там сыноў сваіх прывёз. Гэта мне расказваў мужчына, ён ужо ўмер. Я ў Губіне работала, там на кварціры ў старага мужчыны і жэншчыны. Ён

расказваў, што гэтым дзецям так панравілася Чаросава, акруга гэта ўся і ён ілі па-польскі напісаў, што такое возера, “чаруюшчэе глаз”. Ну а людзі ў дзярэўні, раз “чаруюшчы глаз”, значыць і празвалі Чаросава. Вот ад возера. Гэта мальчык напісаў, а другі сказаў папу, ну гэта быў польскі пан. Ну, тут красата. Асобенна вясной, кагда расцвітаіць. Кругом возера грушы дзікія, чаромуха, яблыні. Тут очэнь, ну прама ваабшчэ, выйдзеш на вуліцу аж ня хочацца ў дом захадзіць.

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Анастасіі Прохараўны, 1924 г.н. у в. Чаросава Лепельскага р-на.**

## 782. Вёска Шашы і вакольныя ўрочышчы

Чаго называеца дзярэўня Шашы, я не знаю, мне ніхто нікада не ґаварыў. Я чытала у кніжке, што Шашы, как будта бы па індыйскі “луна”. Можна сказаць, што яно так і будзе, таму, што Шашы находзяцца между лесам с адной стараны, а з другой стараны – Западная Дзьвіна. І палучаецца палумесяц бальшы, як полумесяц – круглае.

А лес, ён называеца часцямі, дзе-та па імені лесніка, каторый яго садзіў: “Восіпава дзялянка” – эта садзіў ляснік Восіп. Вот ёсьць старыннае імя, названія участка леса – “Запечанскія”. Што эта такое я не знаю, но думаю, што можа дзе-та былі якія печы, і можа варылі дзёгаць ілі гналі смалу. І за этымі “печамі” быў лес і такая сенакосная паляна, вот яна ад таго і называлась. Часць леса называеца і па сягоняшні дзень “Клінок”, патаму, што палучаеца, як бы клін этага лесу. Ёсць “Доўгая Лужа”. Я точна знаю, што яна называеца із-за длінай лужы, якая абразуеца у восень, асобенна вясной, што там не прайці, не праехаць яна сільна длінная і глубокая. Ну многа якіх учаскаў лесу, усіх я не буду перачысляць.

Балота, ёсць балота Панскае. А патаму, што там недалёка ад этага балота была панская усадзьба. Цяпер там нет нічога. І вот эта Панскае балота названае, патаму што ў эта панскае балота нельзя было без разрашэньня пана ні ў ягады хадзіць, патаму што там клюква. І па сённяшні дзень – “Панскае балота” так яно і ёсць. І ёсць яшчэ “Бальшы Мох”. Эта тожа балота, но балота хадзімае. Ёсьць балота, каторые не прахадзімые, а эта і балота, і мох, і калі ходзіш і утапіца можаш, ёсць і “окны”, як мне гаварылі дзяды, што бяздонныя окны, навродзе было, што, хто не знаіць, мог праваліцца і не вылезьці, есьлі адзін быў.

А Кацярыненскі тракт ішоў, насколькі я панімаю, з самага Ленінграда. Тады шлі не такімі прамымі дарогамі. Ішоў ён чэраз Обаль, на Лявонава, там быў паварот і чэраз Шашы – дальшэ, чэраз другія дзярэўні. У Шашах праходзіў Кацярыненскі тракт чэраз лес. Дарога была харошая.

Прымячацельнасць этай дарогі была у тым, што яна была абсажана з абоіх старон бярозамі. І бярозы этыя, сягоння я не ўверана, можа адна ці дзве і асталіся – Кацярыненскія бярозы. Ніхто іх не зразаў, яны як рэлiквii жылі – дажывалі. Ну красівая дарога! Чэраз Шашы шла дарога на Немаразі, там дальшы дарога эта ішла да Полацка, а там дальшы – я не знаю куды. Можа яна, тая Кацярына, у Полацкае княжаства ехала па этай дароге.

А ў самай дзярэўне, у Шашах, ёсьць месца, каторае і сейчас называецца Лейбаўскім. А чаму яго так называюць? Патаму, што там… Я не знаю, ці да рэвалюцыі было ілі можа раньшэ, но мой ацец этага ня помніць. Можа яго прадзед помніў. Там жыў яўрэй, каторы імеў карчму. Ну, раз карчма, значыць у яго там і дом, і эта карчма, як у нас зараз магазін са сталовай – і купіць можна было і выпіць, і участак быў. І сягоньні той самы участак, толькі ён ужо ў запусценьні. Не распахіваецца, а так ён завецца па імені этага яўрэя.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 783. Шо

Ехалі салдаты, а ідзець жанчына. Яны: “Як эта дзярэўня завецца?” Кажыць: “Шо”. Яны зноў спрасілі. А яна кажыць: “Шо”. А другі кажыць: “Што ты ня чуіш? Ты што, глухая? Паутараіш усё”. Ён думаў што яна гаворыць “шо?” Што перапытвае. Дык яна усё сьмяялася, што з мяне зробілі глухой, што дзярэўня Шо.

**Зап. Траццякова А. і Філіпенка У. у 2010 г. ад Хрол Чэславы Браніславаўны, 1926 г. у в. Хралы Глыбоцкага р-на.**

## ХРАМЫ

### 784. Царква ў Порплішчах

Старая, сколькі яе там рэманціруюць ужо, ужо ей 377 гадоў, гэтай цэркаўке. Алі ўжо быў купал павярнуўся. Стаяла, наша цэрква всігда стаяла, всігда маліліся, яна не закрылася ні на дзень. Ну адно толькі, што ў нашай цэркві ёсць Спасіцель. Ну як жа старыя расказываюць, што там нашы бабулі расказывалі, што Спасіцеля не ў нашу цэркву вязлі – вязлі ў касцёл яго. Вязлі, ну, а тут астанавіліся коні, і коні нікуды не пашлі. Тады ўжо тут і аставілі. Каней там і выпрагалі, другіх упрагалі, а яны не з места, коні. Аж там шэсць каней запраглі і сколька, і ніяк, і тады ўняслі яга сюды, Спасіцеля. І ў нас тут астаўся. Наша цэрква сахранялася ва векі. Вот, сколькі яна была. Казаў той бацюшка, намолена тут.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

### 785. Вароніцкія царква і замкі

Пра цэркаў я толькі вот што магу вам сказаць. Я помню толька, што яна была такая – броўнашкі такія саўсем дробненькія, серанькія. Вот эта мне помніцца. А вот када яе разабралі… У мяне брат 26-га года нараджэньня, і яны яе, ну тады ж многа маладзёжы было, і яны, значыць тады сабіралісь, і вот цэрквы вугал, каторы к рэчкі быў, там была роўная дыра пад ніз, калі цэркаў зверху ўсё паскідвалі. Толька сама стаяла яна яшчэ. Значыць, хлопцы саберуцца, насыпяць мяшок цэлы пяска. І закрыюць гэту дыру. А на утра прыходзяць – эты пясок ужо высыпаны і мяшок разрублены весь. Так нескалька раз дзелалі, какой туда ход быў – неізвестна. Вот гаварылі, што этат ход з этага замка, і патом пад рэчку, быў адзін і тот жа туда ў цэркаў. Хто эта там пракладваў – неізвестна. А патом вайна началась. Жыць жа была цяжало. Так сдзелалі, што не ў агарод не выйці, ні па хляўку не хадзі. Хоць ты на Луну паднімісь. А цяпер апяць начынаецца тожа нейкае непанятнае ўсё. Вот такія вот пірагі.

Людзі самі (царкву) і разбуралі. І каторыя разбуралі, вот хто калакала паскідваў, хто кірпічы браў, ніхто жыць не астаўся. Смерць абы-якая была. Абы-што з гэтымі людзямі праісхадзіла. Ведзь гэта, как гаварыцца, божы закон, яго трогаць нельзя. А людзі азьвярэлі, када началась рэвалюцыя, веруюшчым было очэнь цяжало.

А вот тут вот замак, када ехаць, іці з маста, вот гдзе памятнік лётчыку стаіць, вот тут такая роўная, і там дажэ сеялі ўжо ў паследняе ўрэмя. А раньшэ там нічэво ня сеялі. Чалавек навязваў каня. Вот ён, значыць, на-

вязаў і прышоў перавязаць яго. І глядзіць, што бальшая такая круглая дыра. Не было нічаго і ўдруг. А сам конь праваліўся туды нагой. Ну, ён тады пашоў, сабралі мужыкоў многа, ўзялі жардзіну длінную, вяроўку. Прывязалі гэту жардзіну і пускалі туда, у гэтую дыру. Нігдзе канца не была. Яны ішчо вяроўку прыняслі, і ішчо вяроўку эту, і так нічыво і не дабіліся, дна яны не дасталі.

А патом такія прэдсказанія былі, што вот эты вот замак первы, тольκа вышэ туда. Значыць там жыў какой-та цар. Ну, а дажэ і цяпер калдуны ёсць, а раньшэ вабшчэ многа калдуноў было. Так вот хто-та яго пракляў этат замак, і ён праваліўся. І царыца на пары коней с'ехала в рэчку. Да й вот тада расказвалі, бабушка мая расказвала, што када яны маладыя былі яшчо. Гаворацъ, када вот такое сонцастаянне, летам нет рабі на вадзе, відна былі калёса, калясніца гэта. Усё гэта была праўда. І када хацелі выраўнаць дарогу, прыехалі з Масквы, не знаю, хто там прыязджаў, і папробавалі раскопкі дзелаць, і вот на гэтым жа замкі нашлі гліняныя кувшынчыкі, і дажа разбітая пасуда.

А вот втары замак, што там дальшэ, вот там гавараць, што када была прыгоннае права, то людзі, жэншчыны падаламі насілі, мужыкі іх шапкамі застаўлялі насіць пясок і насыпаць вот эту гору. І так многа (нанасілі), патаму што не адно пакаленне там усё гэта падзелала. Ну а када немцы прышлі, то яны дзоты падзелалі, на гэтым первым замке падзелалі дзот, ну а партызаны выбілі іх і без аружыя. Там і аружые было. Ну недоўга яны нахадзілісь у гэтым дзоце.

**Зап. Шаўчэнка Я. у 2008 г. ад Сарокінай Наталлі Захараўны, 1930 г.н. у в. Варонічы Полацкага р-на.**

### 786. Экіманская царква

Бліжняя царква стаяла вот, дзе гэты яшчык цяпер стаіць. Яна, можа, была ў чэсьць Якіма і Анны. Гэта ж і дзярэўня так называецца – Экіманія. Тут цэрква была дзеравянная. Калі яе пабурылі, я тада работала сакратаром сельсавета. Ну вот, гэта после вайны, ужэ вайна закончылася. Як асвабадзілі, я работала бухгалцерам калхоза, там калхоз "Ільіч" быў – гэта дзярэўня Серадама. Гэта ў 46 гаду было.

Тады Мінін быў, такі камуніст, і Бадзёрка – сакратар парційнай арганізацыі, і тады яны рашылі гэту царкву разбурыць. Яна ж стаяла, яна ж нармальная была. Яна дзеравянная была, но дзела ў том, што яны рашылі яе разабраць.

Ну вот, прышлі яны, а я на абед шла, я у бабушкі была на кварцірэ. І гляжу – яны зачапілі за купал вяроўкай і, гэта, цянуць, царкву разбураюць.

Я тады не пашла тут па дароге, а вон там, па сцежке і туда, на абед. І гэтат Мінін гаворыць:“Што ты, Ніна Сяргееўна, баішся царквы?” Я гавару: “Сягоння баюся”. І толька я дашла да дому і слышу крык – і ён гэта, папаў пад цэркву. Но дзело в том, што яму яшчэ павязло. Вот так вот крыльцо, яно ж высокае было, і ён папаў пад крыльцо, толька рука папала. Руку паламаў той Мінін. Ну расташчылі на драва гэта ўсё. Ну ўсё расташчылі да капелькі. Вот так.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Волкавай (Цябут) Ніны Сяргееўны, 1923 г.н. у в. Экімань Полацкага р-на.**

## 787. Скарбы Сафійскага сабора

Гаварыў дзед, свёкар мой расказваў, што када то сторож старажаваў гэту цэркаў да вайны. І, гаворыць, прыйшлі ўдваіх у масках. Гэтаму глаза завязалі, сторажу і дзе-та ў гэтай цэркви, у Сафійскім саборы націснулі дзе-та кнопку і адкрылася двер. І ў падвал спусціліся і яго, гэтага стоража, ўзялі. Узялі, і гаворыць ён: “Госпадзі, што там творыцца – ёсць там і золата і ўсё!” А яны толька старынныя две кнігі ўзялі, а дзеду сказалі: “Вазьмі, што хочаш”. І ён набраў сабе золата, і пастроіў дом і так зажыў добра. Расказваў гэта свёкар, Балтрукоў Андрэй Міхайлавіч, а праўда гэта ці не?

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае тут з 1947 г.).**

## 788. Экіманская царква

У Экімані была царква. А тады, знаеце, як гэту царкву уністажалі. Вот быў прэдсядацель сельсавету Мінін такой. Палезлі, палезлі броўна ўсе скідываць. І сам зляцеў, і ногі паламаў. Гэта Бог так пакараў.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае тут з 1947 г.).**

## 789. Царква ў Чарсцвядах

Во мы прыйшлі на тое месца, дзе была праваслаўныя цэркаўка. Цэрква была бальшая, з рознымі падстройкамі. Фундамент бальшы, дужа красівая была, уся акруга, увесь прыход сюды прыязджаў. Вядома ж, тут было мястэчка, імянітае места было. А тады ж, як цэрквы разбуралі, колакалы паскідалі, паскідалі. Узарваць яе не ўзарвалі, яна стаяла, тут разнае хазяйства вялося.

А тут вайна гранула, як бамбілі, часць цэркви разарылі, крыло цэрквы. А тады ў пасляваенныя гады строіліся ж, і пліты і чосаныя камяні, гэ-

та ўсё забіралі з парога, пазней і з фундамента. А часць цэрквы яшчэ стаяла. І вот чалавек, помняць яго – Міхаіл Сцяпанаў, фамілія Грак. Палез скідваць кірпічча, а тады слез далоў, сеў, а глыба звалілася і насмерць яго забіла. А тады разняслі ўжо ўсё да кірпіча, толькі фундамент астаўся. Пастроілі водаль башню (ваданапорную) і буслы пасяліліся, каждую вясну прылятаюць.

Во мы зайшлі з другой стараны, места тут красівае, відаць усё на горке. У такім красівым месце была цэрква. Кладбішча цераз дарогу відаць, возера Чарсцвяцкае. Дзярэўня некалі была воласцю, Чарсцвяцкая воласць, звалася мястэчкам. Былі тут і лаўкі, яўрэяў тут дужа было многа. Жыхароў тут жыло за дзвесці, цяпер каля дваццаці, дажываем сваё ўжо. А гэта во месца, дзевяць гіктар да кустоў, да ракі Выдрыца, завецца гэта ўрочышча Папоўка. Тут землі харошыя, сад пры пане быў. А гара завецца “Баб’я гара”. Яна вядзець аж да Воталава, а на гэтай старане Чарсцвяды.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

**790.** Во, на гарэ царква была, красавіца. Была такая – над усім красавіца, Бог ведаіць! А як разбіралі – валіліся, грэх было яе чапаць. Валіліся з яе, забіваліся. Ой, якая была красацішча! На Крэшчэння прыязджалі людзі. Хадзілі на возера…

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шэўчанка Аліны Захараўны, 1935 г.н. у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

### 791. Серкавіцкая царква

Царква ў нас была. Да вайны я з бацькам ездзіў у тую цэркву Богу маліцца. А тады вот якая выскачыла мода, што тыя парцейцы ўзялі яе, паламалі, пабілі. Як той, што ламаў, парторг, і памёр. Дык людзі так і гаворуць: “О, ён заслужыў, цэркаў ламаў, а сам і падох! А гэта яму Бог так пасуліў”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ермаловіча Васіля Аляксеевіча, 1919 г.н. у в. Серкавіцы Талочынскага р-на.**

ЗМЕСТ

*Вучэбнае выданне*

ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Выпуск 2

НАРОДНАЯ ПРОЗА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У дзвюх частках

Частка 1

Укладальнік *ЛОБАЧ Уладзімір Аляксандравіч*

Рэдактар *В. В. Рудак*

Дызайн вокладкі *В. А. Вінаградавай*

---

Падпісана да друку 29.03.11. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная.
Рызаграфія. Ум. друк. арк. 16,94. Ул.-выд. арк. 16,26. Тыраж 110 экз. Заказ 542.

---

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі “Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт”.

ЛИ № 02330/0548568 ад 26.06.2009 ЛП № 02330/0494256 ад 27.05.09

Вул. Блахіна, 29, 211440, г. Наваполацк.